Скакалі ўдзень і ўначы, змоклыя, галодныя, заляпаныя праснакамі расталага снегу. На дарозе адзічэлыя сабакі, ды зрэдку панскія раз'езды, ды па начах глухія і безнадзейныя пажары вёсак.

А ў гаспадыні твар як маска, як крэйдай набелены, і непаслухмяныя вусны толькі і могуць вымавіць:

— Хутчэй! Хутчэй!

І я ўжо не называў гэтых людзей вар'ятамі. Прывык. Гэта добра — загнаць каня, калі душа патрабуе.

Пад Дарамі Лыкаўскімі сталі трапляцца слупы з павешанымі людзьмі. А потым, яшчэ здалёк, заўважылі мы натоўп народу наўсцяж дарогі. Вялі палонных, і кожны з натоўпу хацеў даведацца, ці няма сярод іх свайго чалавека. Тыя ішлі моўчкі, суровыя, з непакрытымі льнянымі галовамі. І зусім іх было мала. Амаль ніхто не здаваўся, а астатнюю, большую, частку Раман выкупіў сваім целам: паставіў умову, што здасца, калі іх адпусцяць.

І здаўся. Пасля гэтага кінуліся лавіць адпушчаных уцекачоў, ды куды там. Ад людзей мы і даведаліся, што Рамана правезлі яшчэ ўчора. У гнойных драбінах. Прыкутага за нагу да градкі. Сядзеў быццам маўклівы і зусім не хмурны, з светлым абліччам, быццам усё зрабіў на зямлі і замкнуў свой круг.

Вельмі шляхта над ім здзекавалася. Самога яго баяліся зачапіць, нават скутага, дык яны меч ягоны двухручны ззаду на вяроўцы прывязалі, і валачыўся ён усю дарогу за возам па снезе ў разбоўтанай гразі. Народ плакаў, гледзячы на ганьбу.

Шляхта плявала на меч.

А ён быццам сказаў толькі:

— Нічога, вашы пляўкі зямля сатрэ.

І яшчэ мы даведаліся, што Лаўр, хлопчык-архангел, прабаваў адбіць Ракутовіча і паў падчас стычкі, забіты ўдарам чакана ў залатую галаву.

Пані занурылася крыху — і толькі.

А народ валіў за палоннымі, і над натоўпам стаяў ціхі, амаль нячутны стогн.

Лепей бы ўжо крычалі.

Пані яшчэ мацней загадала гнаць коней. І мы прыскакалі ў горад і спыніліся на Лупалаўскім прадмесці, у парафіі святой тройцы.

І адразу, не адпачыўшы, ілба не перахрысціўшы,

удваіх з паняй памчаліся ў крэпасць — яна ў вазку, я — вярхом.

Здзівіла нас мноства п'яных у прадмесці, а потым і ў самым горадзе. Выявілася, што пакуль звестка пра злоў яшчэ не прыйшла — з ганцом прыбыло дазваленне лішнія дні чатыры супраць Магдэбургскага права, і не ў тэрмін, варыць піва, і гарэлку, і мёд.

Горад увесь праваслаўны, багаты і ганарлівы, муры каменныя, купалы залатыя, валы, равы, вежы. А людзі — хоць у сані запрагай, такія біцюгі. І ўсе п'яныя.

Пачалі шукаць спосаб, як трапіць у горад. Праехалі праз каменную Быхаўскую браму ў вале, а потым памучыліся. Торкнуліся да Каралеўскай брамы — нельга, паехалі да другой — нельга. Праз Малую Пешаходную, да ракі Дубровенкі,— нельга. Баяліся, што ўварвецца мужыччо ў горад і будуць разня і смута.

Нарэшце трапілі праз Алейную, ля якой яўрэйская школа. Пад брамаю парахавыя склады, а на браме ікона божай маці. Няправільна магілёўцаў дражняць, што яны яе прадалі, а грошы прапілі разам з войтам. Непарушна сцеражэцца ікона!

І толькі тут пані загадала спыніць вазок, выйшла з яго і па костачкі ў расталай жыжцы, змешанай з гноем, пайшла да брамы. Я таксама злез з каня і глядзеў.

А яна падышла бліжэй і проста ў футры, у вішнёвай фалендышавай[1] сукні павалілася на калені ў снег, прынікла галавой да зямлі.

— Маці божая, заступніца, святыя вочы, чыстыя. Ты хоць даруй грахі нашы. Прайдзі стапою лёгкай, пачуй нашы мукі.

А зверху глядзіць на яе цёмны валавокі лік. І па ім цені: мітусіцца знічка. І здалося мне, быццам з болем, са спагадай глядзіць лік на зрынутага чалавека, а нічога не можа зрабіць. І рука, тонкая, вузкая, блакітная, толькі запясцем сына лёгка трымае: «Вазьміце, людзі, калі лягчэй вам будзе. А я нічога зрабіць не магу. Цяжкі ён, крыжовы шлях».

А ў пані ўжо голас здзічэў:

— Маці божая, кахання не дала, шчасця не дала — яго ж хаця пашкадуй. Сама бачыш, крыж з народа твайго здзіраюць, каб ярмо нацягнуць. За яго, за

---

[1] Галандскае сукно.

люд твой пакутаваць чалавек будзе... Не давай выгаляцца... Не папусці агнявой пакуты, не папусці сякеры. Уратуй, злітуйся міласэрным сэрцам сваім.

Ледзь я яе падняў, адчайную, з голаю галавой. Каб яе ў гэты час нажом рэзаў — не адчула б. І пайшлі мы па горадзе, таму што хутка з вазком праехаць нельга было: столькі народу набілася ў галоўныя вуліцы.

Каля драўлянай Спасапрэабражэнскай царквы, распісной, лядаштай, цэлы натоўп мяшчан, больш цвярозых, раіўся, як быць. Крычалі, хапалі адзін аднаго загрудкі; адразу было відаць — нічога талковага не атрымаецца.

Ландвойта[1], што прыехаў сунімаць крык і агіднасць, закідалі расталым конскім гноем і наўздагон свісталі ў два пальцы і ўлюлюкалі. А на Замкавай вуліцы і таго горай. Цяжкае гарадское пахмелле.

Ды толькі позна ўжо: за два дні паспелі сцягнуць у Магілёў такое войска, што кожны трэці чалавек на вуліцы — латнік або ўзброены дваранін.

Даведаліся мы толькі, што Ірына жывая. Сядзіць у склепе, у клетцы, на Ветранай вуліцы, каля драўлянай брамы. І нават на пробу вогненную яе яшчэ не ставілі і наўрад ці паставяць — усім ясна, невінаватая.

Гамарня, носяць на каромыслах цэбры з яблыкамі, мяшчане журавіны марожаныя з рук ірвуць — на пахмелку, штурхаюцца разносчыкі, непатрэбныя дзеўкі.

І раптам зараўлі дуды, расступіўся народ, і — як паміж сцен — прайшла гарадская варта, а за ёю шэсць чалавек у дарагім сукне, з пальцамі, унізанымі золатам і каменнямі.

— Магістрат ідзе. Войт,— зашапталіся ў натоўпе.

Ішлі яны, апусціўшы вочы. Толькі што самі аддалі Ракутовіча ў рукі замкаваму правасуддзю. Ды і нічога нельга было зрабіць — дваране замкавай юрысдыкцыі падпадаюць. Вытаргавалі толькі, каб судзілі ў ратушы і каб у складзе судзілішча быць войту і двум радцам, і на тым дзякуй.

Некалькі дзён кідалася пані Любка па горадзе. Усе яе прынялі, і ласкава аднесліся, і шкадавалі за ўдовіна гора і сіроцтва сына. Сказалі, што быць ёй галоў-

---

[1] Намеснік войта, адзін з упраўляючых горадам.

най сведкай і пры вынясенні выраку дадзены ёй «цяжкі голас» права выказаць сваю думку. Яна ўздыхнула. Ясна было, куды вядзе справу каптуровы[1] суддзя.

А на Аляксея, божага чалавека, да Замкавай столькі народу збеглася — не прапхнуцца праз натоўп. Ледзь нам удалося ўзабрацца на ганак у доме былога войта Славенскага. Сам ён ужо год трыццаць як у зямлі спачываў, а ў доме жыла яго звар'яцелая жонка-дваранка ды дачка-пярэстарак.

Стаім, ціскаемся. Сырасць такая золкая.

І раптам зашумеў, неахвотна даў дарогу магілёўскі люд. Убачыў я перш за ўсё коннага чалавека ў чорным, насатага, са шчокамі, якія быццам да зубоў прыліпалі. Галава непакрытая — яшчэ б, скруха: нобіля, што зганьбіў саслоўе, судзіць давядзецца.

А за насатым яшчэ і яшчэ коннікі, у парчы, сабалях, утэрфіне[2]. Шаблі рознакаляровымі агеньчыкамі ззяюць.

Прыехалі Дэспат-Зяновіч, Загорскі, Сапега, князь Друцкі — судзіць у ратушу. І павезлі з сабою універсал караля, згоду рэляцыйнага суда на любое рашэнне дваран аб нобілю Ракутовічу.

І не паспелі праехаць — завыў, загаласіў юродзівы, прабег за імі, закрываючы пальцамі — у засохлай крыві — вочы.

— Дэманаў бачу, чорныя ўсе... лятуць! Светленькага агнца хочуць зарэзаць, кішкі ягоныя зубамі валачыць.

Народ шарахнуўся ўбок. А тыя праехалі да ратушы, і дзверы зачынілі.

Да вечара яны там прэлі. І наступнага дня. А мы абодва дні стаялі ля дзвярэй ратушы і на ганку. Пані Любку выклікалі сведкай, але яна сказала, што Раман мужа ў баі забіў і езуітаў павесіў за атруту, усяму ж астатняму даў літасць. І пад канец самлела.

Суд застаўся ёю вельмі незадаволены.

А народ усё больш шумеў ля дзвярэй ратушы і на плошчах. Я сам чуў, як багаты хлопец з мяшчан, абуты ў саф'янавыя кабці, у лісіным кітліку наапашкі, крычаў нема:

---

[1] Суддзя, якога выбіраюць з дваран на час смуты або міжцарства.

[2] Тонкае, вельмі дарагое сукно.

— Не даць ім Рамана на разарванне. Ён веру правую ўратаваць хацеў, як продак ягоны ратаваў ад татар. Усім вядома, што не Міндоўг іх біў ля Крутагор'я. Ён і граматы дагары нагамі трымаў, кажух смярдзючы. Хто конніцу татарскую апракінуў? Ракута, Раманаў продак!.. Таму мы і белыя, што татар не нюхалі!

Людзі рваліся і да дзвярэй ратушы, крычалі:

— Няправедная гэта справа, нобіля судзіць.

І ім паказалі ўдаву Кізгайлы, жывое абвінавачанне, і немаўлятка Якуба паказвалі з гульбішча, лаялі Ракутовіча:

— Немаўля нявіннае яшчэ ў чэраве асіраціў. Ірад! Вораг усіх беларусаў з існымі!

А спрэчкі ў ратушы ўсё цягнуліся. Сапега з Друцкім стаялі за смерць. Але магістрат быў супраць. І на яго бок схіліліся Дэспат-Зяновіч і Загорскі. Апасаліся, не было б спакусы для малых.

Крычалі да хрыпаты, лаялі адзін аднаго псамі і па-іншаму. І, можа, нічога б не вырашылі, каб не прыйшлі людзі з Лупалава і Падуспення. У натоўпе адразу засмярдзела скурамі і рогам, і крычаць пачаў натоўп зусім іначай:

— Заб'яце яго — смута будзе! Забылі, як пры магілёўскім бунце ў порткі клалі, будзеце і цяпер. Стаха Мітковіча ды Гаўрылкі Іванова[1] на вас няма. Памяць кацiная! Забылі, як дзверы судовай залы адбілі? Набату не чулі даўно?! Будзе і вам тое ж!

І тады Загорскі сказаў апошняе слова:

— Добра. Нобіляў на пласе не забіваюць. Няхай быдла верыць.

Мы з ганка, а пасля з акна вазка бачылі, як рухаліся на гару, пад аховай крылатай варты, драбіны. І ў драбінах той, хто загадаў мне трымаць замак. Пасівелы на скронях, бледны, але спакойны.

Толькі на імгненне кароткае ён спакой свой згубіў. Падвезлі яго ўжо да самых дзвярэй ратушы і спынілі воз. А тут з акна дома Славенскага ашалелая войтава жонка закрычала і стала яму пальцамі вілы рабіць:

— Антыхрыст! Дваран пабіў, прымучыў. Судзіце яго, людзі добрыя, ды не патурайце. Калі ягоная

---

[1] Стахор Міткoвіч і Гаўрыла Іваноў — верхаводы паўстання горада Магілёва супраць караля (1606—1610 гг.).

дзеўка гэтага ірада яшчэ хоць раз пабачыць — канец панству на зямлі, а славуты горад у смутах зняможацца.

Я заўважыў — шмат хто сумеўся ад гэтых слоў. Нават сам Друцкі, што стаяў на высокім ганку з граматай у руцэ, апусціў вочы.

А Раман справіўся і нават з усмешкай і са светлымі вачыма слухаў прысуд. Мы далёка стаялі і толькі-толькі да сэнсу дайшлі па асобных словах:

— Маетнасці пазбавіць... адсячы рукі, дабы падступнага мяча не ўздымалі... шчыт ганьбаванню падвергнуць і адусюль, акрамя Гарадзельскага прывілею і статута, самае імя вытравіць на застрашэнне другім іншым.

І яшчэ зразумелі: баніцыя[1] за межы Мсціслаўскага ваяводства: вечная ссылка ў малую весь.

Ударыў бізун па конскіх спінах. І давялося Раману праехаць увесь шлях. Правезлі яго ад вазніцы да замка, да насыпной гары, міма храма Сарака Пакутнікаў да Спаскай царквы. Па ўсім горадзе, дабы бачылі, як караецца ліхадзейства.

Прывезлі на плошчу ўжо ўвечары, змяркацца пачало. Там паклалі на насілы, прыкруцілі і, накрыўшы саванам, панеслі ў храм — жывога адпяваць.

На ўсё жыццё я гэта запомню. Снягі лілавеюць, з акон на снег — цёплыя жоўтыя агеньчыкі. І спевы — ох, якія страшныя спевы!

Юрод на паперці заскакаў:

— За гарэлку бога прадалі! Возьмуць вас за гэта чорт Савул і чорт Калдун! Брамы вашы паваляцца, магілы мышакоўскія ўвесь Мікалеўскі спуск зоймуць. Косткамі ён заваліцца. Быць крумкаччу сытым! Костку быдлячую знойдзеце ў зямлі — і ад той пойдзе паморак і пошасць.

Стала нельга слухаць — так страшна завыў народ.

А Рамана ўжо вывелі — ён і сапраўды быў бялейшы за труп, хоць ішоў цвёрда,— узвялі на памост, на якім стаяў містр, а па-простаму кат у чырвонай доўгай сарочцы. Так яны і стаялі, чырвоны і белы на Рамане быў саван.

І сталі падаць на натоўп цяжкія словы:

— Меч яго зламай, кат... Вось нарог ад ніў яго — аддай яго другому, кат.

---

[1] Выгнанне.

І пад канец узяў містр шчыт і ўцяў сякераю яго вострьі канец, а верхняе поле замазаў дзёгцем і сажаю.

Жонкі дваранскія так загаласілі — хоць затыкай вушы: няма кары страшнейшай за гэту для двараніна.

А Ракутовіч паглядзеў на іх вялікімі незразумелымі вачыма і толькі ўсміхнуўся:

— Нічога, затое шчыт цяпер на вашы непадобны, на чысценькія.

А сам сеў, абняў плаху нагамі, каб на калені не станавіцца.

Твар ката, барадаты да самых вачэй, пацямнеў, і рукі дрыжаць.

— А ты смялей,— кажа яму Раман, і голас такі просты.

Кат узяў сякеру.

— Пачакай,— кажа Раман,— дай апошні раз на пальцы паглядзець.

Сагнуў іх некалькі разоў. І раптам шырока перахрысціў народ. Крыкнуў:

— Ударыць за цябе яшчэ раз не магу, дык прымі хоць апошняе маё благаслаўленне.

Плач узняўся, стогн. А Раман паклаў ужо рукі на цурбан:

— Сячы.

Занеслася сякера. І мы толькі ўчулі глухі ўдар.

Ж-жак!

Задрыжаў лядашчы памост.

А Раман устаў, стаіць і рукі ўздымае. Правая рука вышэй кісці адсечана, левая — наўскос, засталіся на вузкім абрэзку мезены і безыменны палец. Ці то пашкадаваў кат, ці не разлічыў.

І тут лекар з яўрэйскага кагалу замітусіўся: толькі жоўтая галаўная павязка мільгае. Памазаў чымсьці абрэзкі, і кроў свістаць перастала. Ледзь капае.

А Раман быў такі моцны, што нават прытомнасці не страціў і застаўся стаяць на нагах.

Так і скончылася ўсё гэта. Не атрымалася ўстрашэння.

Цяпер трэба было толькі лёс «дзеўкі» вырашыць. І прымеркавалі гэтае рашэнне да таго дня, калі везці належала Рамана ў выгнанне.

Напярэдадні гэтага пані Любка дабілася спаткання з Ірынай.

Суправаджаў яе і я. Спусціліся мы ў сутарэнне ля драўлянай брамы, і зноў я ўбачыў аленевыя вочы ды надламаныя бровы. Праз краты.

Любка расказала ёй аб усім. А тая ўсміхалася:

— З-за мяне... А я праз горшае прайшла б, толькі б ён маё каханне ўбачыў.

Ох, якія гэта вочы былі! Шэрыя, прамяністыя, такія зіхатлівыя!

У пані Любкі нават ярасць на твары выступіла.

— Загубіла нобіля сваім чараўніцтвам. У ссылцы цяпер будзе. Аддай яго другім. Здымі чары.

— Не, пані, гэтых чараў не знімеш. А калі нават магла б — не зняла б. Ён — сонца маё. Хіба што з сэрцам толькі гэтае святло ў мяне ўзяць можна.

Любка ўстала, пайшла да дзвярэй.

— Дык не аддасі?

— Не, гаспадыня. Загубіла ты нам жыццё, а шкада мне цябе. Дзеля дзіцяці свайго — не цкуй, не ўцiскай да канца Рамана. А мяне хоць і забі. Усё адно я цябе шкадую, я ж мацнейшая.

Наступнага дня мы зноў прыехалі ў вазку да Замкавай плошчы. Вырашаўся лёс Ірыны, а лёс халопкі без гаспадыні не вырашаецца.

І ледзь паспелі мы праехаць праз гурты народныя — узняўся на вуліцах плач:

— Дзяўчынанька, бедная!

— Не быць вам разам!

— Не ўбачаць яго твае вачаняткі.

Ад Сарака Пакутнікаў ехаў просты воз, і ў яго толькі ледзь саломкі падкінута. А на возе скутая Ірына ў белай сукенцы і казнатцы[1] з каразеі — белага сукна. Прыбралі. Учора ж у рыззі была.

Едзе, глядзіць на людзей ззяючымі вачыма, вялікаваты рот усміхаецца. Рада, даўно ж не бачыла нікога. Такое яшчэ дзяўчо, таненькая — двума пальцамі зламаць можна.

А плач коціцца хвалямі:

— Ясачка ты наша, заступніца. Даруй табе бог А і ты нам даруй.

І яна кланяецца і радасным голасам — усё адно канцу нейкаму быць — кажа:

— Даруй, люд праваслаўны, даруй.

Спынілі воз ля вузкага высокага дома: замкавага

[1] Жаночая верхняя вопратка.

суда. А Ірыну знялі з воза, павялі пераходамі ўгору.

У зале доўгі стол, крэслы без спінак, смярдзіць атрамантам са скураных чарніліц. І з акон так мала святла, што запалены тры свечкі. Ад адной струмень куродыму на нізкую скляпенчатую столь.

Больш нічога. Хіба што цяжкія дзверы ў правай сцяне. У катавальню. За сталом Друцкі, Дэспат-Зяновіч ды два пісцы. І яшчэ радца з магістрата.

Гаспадыня села і сядзіць, бледная, нерухомая, як ідал. І павекі `самкнёныя. А на высокай прычосцы футраная шапачка з заморскімі пер'ямі.

Разбор быў кароткі. Іспісалі правіны, якіх не аказалася, акрамя цягі да мужыцкага цара. Ніякіх пошчакаў — падстаў для падазрэння, ніякіх рахаваняў — нарад з мяцежнікамі. І ніякіх падстаў меркаваць аб зламысным, хіба што толькі паспрабуе пабачыцца з Раманам.

Што рабіць?

У Друцкага яшчэ больш сухая скура да зубоў прыліпла.

— На прэнг[1] павесіць — няма чаго. Катаваць дарэмна не трэба. Але і пусціць небяспечна... У замкавае сутарэнне, на вечнае зняволенне. Або — лепей — на агнявую страту. Прываражыла былога нобіля.

— Чаму? — пытае Дэспат-Зяновіч.

— Не абышлося тут без чараўніцтва,— з'едліва кажа Друцкі.— Не такое каханне ўсявышні ў Кане галілейскай бласлаўляў.

А Дэспат усміхаецца:

— Каханне... А што ты ў ім разумееш? Яно ўсякае, каханне. Ці богам, ці чортам дадзенае, а ўсё адно лепшага за яго нічога няма.— І звяртаецца да радцы: — А твая думка якая?

— Пусціць,— уздыхнуў той,— аддаць гэтаму іраду. На Рамане Ракутовічаву роду канец. Нядобра.

— Ясна,— кажа Дэспат.

І тут ускочыў князь Друцкі — замітусіўся цень па столі.

— Пусціць? Аддаць? А Кізгайла-пакутнік у чым перад смерцю кляўся? А апантаная надоечы што прарочыла? Хочаш смуты вечнай, хочаш канца панству? Страціць вядзьмарку!

---

[1] Дыба.

А Ірына стаіць перад ім, глядзіць прамяністымі вачыма:

— Не кахаў ты, відаць, князь. Свечачны агарак у цябе замест сэрца. Якое ж тут чараўніцтва? — І да Дэспата: — Не чаравала я. Калі і чаравала, дык вачыма, голасам, словам.

Пані Любка глянула на яе і апусціла вочы. А Дэспат-Зяновіч глядзіць на падсудную. Твар у яго здаровы, нязграбны. А вочы разумныя, як у сабакі.

— Ну скажы, пан, чым я яго чаравала? Крыж на мне.

Той усміхаецца сумна:

— Бачу, чым ты яго чаравала. Бачу, дачушка.

І вочы прыкрыў. Я амаль ведаў, аб чым ён думае. Ведаў, як ён у Варшаве жыў маладым, у каго па дурасці закахаўся. І чым гэта скончылася.

Але ён нядоўга думаў. Заміргаў раптам вачыма і, жорстка так, кажа Друцкаму:

— Яно не пытае, калі прыходзіць і куды. Можа і сатыр закахацца ў Геру. Ды і яна яго можа пажадаць. Бліскавіц не баючыся.

— Табе лепей ведаць,— з'едліва кажа той.

Але Дэспат ужо ўзняў павекі:

— Тваё слова якое, пані Любка?

— У Кісцяні Ракутовіча нельга саслаць?

Дэспат прыжмурыў вочы. Глянуў на паню спадылба. І быццам адрэзаў:

— Не.

Любка ўзняла вочы, уважліва паглядзела на Ірыну. І выдыхнула:

— Аддайце тады яму... Чаго ўжо...

— А прарочыцы словы? — узвіўся Друцкі.

— Усё адно аддайце.

Друцкі фаліянт на падлогу змахнуў. Потым устаў. Галава пад самаю столлю.

— Што ж, аддайце, калі ўсе на аднаго. Але вось вам і мой голас: чарадзейству ў Магілёве не бываць, мяжы панству нашаму — не быць. І таму няхай кат раней аслепіць яе.

— Ах, Друцкі, Друцкі,— паківаў галавою Дэспат-Зяновіч.

І паглядзеў на Ірыну:

— Бачыш, дзяўчынка, у што ўперліся. А ты як мысліш?

Тая ўся так і падалася да яго:

— Пане літасцівы, абы з ім.

— Падумай,— ціха кажа той,— можам проста адпусціць. Ідзі ў свет. Мужыкоў многа.

А ў той вочы раптам светлымі сталі больш ранейшага. Такія вочы, шэрыя, мяккія, невыказныя.

— Няхай сляпая. Няма свету без яго.

— Ну глядзі,— адвярнуўся Дэспат.— Няхай будзе па-твойму... Ідзі.

Кат у дзвярах з'явіўся. І яна пайшла да яго, пайшла спяшаючыся, лёгкай ступою. Быццам у паветры плыла. І ўсё паскарала, паскарала крок.

А на парозе павярнулася, паглядзела на нас:

— Дзякуй усім. Зараз-то я ўжо з ім. З ім.

Ах, вочы, вочы! Шэрыя, пушыстыя ад веек. З блакітнымі іскрачкамі.

І я чамусьці старую нямецкую песню ўспомніў. Адвыкнуў зусім, а тут успомніў:

Жыццё сказала:
«Свет гэты — мой.
З праха вырасце кветка вясной.
Каласамі ўзыдзе пад дажджом перагной».
Жыццё сказала:
«Свет гэты — мой».

А потым цяжка бухнулі за ёю дзверы. І зараўло там, за дзвярыма, полымя.

Я не мог гэтага вытрымаць. Я выйшаў на крыты ганак і стаў за калону. А народ ужо даведаўся аднекуль. Стогн каціўся над усімі, хто быў на двары і па-за ім.

І ўсе глядзелі на высокі ганак, на дзверы суда.

І яшчэ адны вочы глядзелі, доўгія, светлыя, незразумелыя.

Ля самага ганка, абкружаны вартай, стаяў воз, услані саломай. Вялізны воз, падобны на труну, запрэжаную шасцю шкапамі.

На дне каша быў умацаваны слуп, а ля яго стаяў чалавек, прыкуты да слупа доўгім ланцугом за пояс. Грыва валасоў, круты лоб, жорсткі і горкі рот. Нават на Рамана не глядзеў зараз натоўп.

Я спусціўся з ганка і стаў каля варот. З заснежаных стрэх капала, віселі ледзяшы, раз'езджаны, зярністы, жоўты ад гною, шоргаў пад нагамі снег. І на ўсё гэта з неба лілося такое шэрае і такое ўсё ж па-вясенняму яркае святло, што балелі вочы.

Заснежаныя дахі, заснежаныя, падталыя з поўдня купалы, шэрыя драніцы, што адлівалі зялёным.

І над усім такая ціша, што страшна. Змоўклі раптам усе. Ніхто нават з нагі на нагу не пераступіў. Чакалі.

І вось зарыпелі дзверы. Павольна адчыніліся. І ў дзвярах паказаўся Дэспат-Зяновіч. А за ім — Ірына. Адной рукой трымаецца за Дэспатаву руку, а другая ў паветры працягнута. За імі кат вываліўся. Стаіць.

Кат пашкадаваў яе. Толькі зроку пазбавіў, а вочы не вырваў. Ідзе яна і проста быццам спіць на хаду, закрыты вочы, пушыстыя веі апушчаны.

І Дэспат — першы яе павадыр.

Яны зусім былі падышлі да сходаў, калі кат раптам зрабіў следам некалькі крокаў і стаў на калені.

— Даруй мне, даруй,— варушыць тоўстымі губамі.

І яна папрасіла, каб стаў ён ёй пад руку. І паклала далонь на шорсткую, як поўсць, грыву.

— Даруй табе неба. Ты нас зноўку звёў.

Выйшаў з дзвярэй на балюстраду Друцкі-князь. Стаіць, глядзіць на гэта, усміхаецца. Гурма, пабачыўшы ўсмешку гэтую, натапырылася ўся. Такія ўжо мы людзі: лепей галаву сячы, чым плюнь з усмешачкай. Будзь катам, толькі ў душы катаўство не трымай.

А гэтыя два ўсё яшчэ спускаліся з ганка.

Ах, доўгі, доўгі гэта быў шлях! Не карацей усяго жыцця, што яшчэ заставалася.

А ў спіну тым, што спускаліся, Друцкі крыкнуў:

— Бяры яе, Раман. Вядзі па дарогах няпраўды, па якіх пайшоў. Радзі дзяцей, напалову халопаў, напалову ізгояў.

А Раман у адказ усміхнуўся. І была гэта такая ўсмешка, што Друцкі зразумеў: не абразіў, не зняважыў ён скутага, а пасяліў у ім цвёрдасць. І ён не вытрымаў, пайшоў, грукнуў дзвярыма.

Прыступка. Прыступка. Яшчэ прыступка.

Спускаюцца белыя, футрай аблямаваныя кабцікі. Дзеўка з нагамі лебедзя. Што? У лебедзя чорныя ногі? Я сам ведаю. А ногі ўсё ж былі лебядзіныя.

Ударыў недзе першы далёкі ўдар звана. Упаў у цішыню, як камень у ваду. І адразу закружляла, закаркала вараннё, быццам камякі сажы ўзляталі і асядалі на стрэхі. Яна магла толькі чуць іхні крык. Але за-

тое яна адчувала: пругкі і цяжкі мокры вецер быццам далонню штурхаў у твар. І яна ішла насустрач гэтаму ветру.

Дэспат падвёў яе да воза:

— Бяры. Не табе б, ворагу роду чалавечага, такую дзеўку.

— Добра,— сказаў Раман,— час нас з табою рассудзіць. І шмат грахоў табе даруецца, Зяновіч, за тое, што ты яе вёў. Дай табе бог на тым свеце жаданай сустрэчы, калі на гэтым не атрымалася.

— А за гэта табе дзякуй,— сказаў Дэспат і змоўк.

Зноў упаў чорны ўдар звана. А ў Рамана валасы амаль што сталі дыбам, і ён цягнуўся да яе, а твар плакаў без слёз такой тугою, такой пяшчотай, якую і адшукаць цяжка на зямлі.

Звон ударыў.

І яна працягнула да чалавека на возе рукі, быццам да святла нябачнага.

— Раман, вазьмі мяне.

Чыясьці рука падхапіла яе, дапамагла падняцца. І там, наверсе, яе з трапяткой прагнасцю, пяшчотна і асцярожна схапілі яго абрубкі, прыцягнулі да грудзей.

Ён стаяў, абапіраючыся спіною на слуп, стаяў з перакошанымі бровамі. Стаяў, прыпаўшы вялікім ротам да яе валасоў. І ў вялізных вачах было такое, чаго лепей не бачыць на гэтай богам праклятай, лютай, грэшнай зямлі.

А яна прынікла попельна-залацістай ускалмачанай галоўкай да яго грудзей, там, дзе білася сэрца.

Бледны твар, пушыстыя веі апушчаны. І ўсмешка — быццам бачыць шчаслівы сон.

І твар ваяўніка плакаў без слёз.

Я здзівіўся, такая яна была таненькая ў яго руках...

І ўсе людзі маўчалі.

...Таненькая, таненькая.

І поруч са мною нейкі шляхцюк, пакрыты шрамамі, чалавек з тых, што смяецца на хаўтурах, груба сказаў:

— Куды яму яе. Пад гэтай сволаччу коні падаюць. Сам бачыў.

Я маўчаў усе апошнія дні, таму што ведаў: разяў я рот, і я пачну крычаць, і гэты крык ніколі не скончыцца. Але больш я ўжо не мог.

Я павярнуўся да яго і прашыпеў горлам:

— Паважай ланцугі, сволач. Пакінь, іначай...

— Іначай? — нахабна спытаў ён.

— Іначай дрэнна будзе. Ты што, не бачыш, што поруч таксама дваранін? Я табе заткну горла.

Ён змоўк. І гэта было добра. Іначай скончылася б забойствам.

Марудны ўдар звона заглушыў ляскание бізуна.

Шкапы, напружваючыся, зрабілі першыя крокі. Паплыў над галовамі слуп з двума людзьмі. Ракутовіч падняў галаву, і раптам у велічэзных яго вачах загарэлася нейкая цяжкая іскра.

Я зразумеў: гэта была іскра крыўды. На каго? Не гневаўся ж ён нават на ката.

Я паглядзеў туды, куды глядзеў ён. Над галерэяй, у акне на рагу палаца, я ўбачыў змяты страшны твар чалавека, які ўчапіўся пальцамі ва ўзорныя краты акна. У вузкіх вачах гэтага чалавека нават дурань заўважыў бы розум, іскру божую, жвавасць. Але я заўважыў у іх яшчэ нешта. Гэта была зайздрасць, страшная чалавечая зайздрасць да таго, хто ехаў на ганебным, падобным на труну возе.

Гэта быў Сапега.

І раптоўна па ўсім замкавым двары, па ўсіх пераходах раскаціўся дзікі, страшны па сіле голас, якога палохаліся ў бітвах ворагі.

— Леў! Леў! — роў голас.

І ў таго, хто роў, грыва, якую развейваў вецер, падала на лоб. А на падзёртых голых грудзях ляжала прыгожая сляпая галава.

— Леў, ты стаў лісіцай! Калі будзеш ваўком — памрэш, як сабака.

Кінуўся твар у акне. Яму засталося толькі кідацца і зайздросціць. Ён жа не мог так.

Заляскатаў воз. Моўчкі паваліліпа абодва яго бакі людскія гурты.

І на непакрытыя галовы падалі нясцерпна рэдкія ўдары звана. Расхлябаныя колы воза па самыя восі гразнулі ў вязкім, набрынялым вадою сакавіцкім снезе.

Юрод, што стаяў амаль на дарозе, працягнуў рукі і дрыжачымі пальцамі гладзіў, лашчыў паветра, кранаў яго, як сляпы.

— Сынок... Сынок...

Страшны твар і сляпая галава плылі над натоўпам, усё аддаляючыся і аддаляючыся.

Шалёныя, незразумелага колеру вочы затрымаліся на маім твары.

Зноў упаў удар звана.

І аддаляўся, аддаляўся воз. І вецер гуляў грывай валасоў, гладзіў твар чалавека і сляпыя вочы той, што прыпала да яго.

Я плакаў. Я не саромлюся прызнацца ў гэтым і не саромлюся сваіх слёз.

— Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей.

# ЦЫГАНСКІ КАРОЛЬ

*Аповесць*



## I

Палявыя гваздзікі пахлі ваніллю, як святочны пірог. Міхал Яноўскі ўздыхнуў, зрабіўшы такое адкрыццё, бо любіў хатнія пірагі, а ўжо два дні, як еў хлеб з халодным мясам і не ведаў, ці давядзецца яму яшчэ калі-небудзь пакаштаваць цудоўных праглаў і перапечак. Нават печка, дзе іх звычайна пяклі, больш не належала яму. Яноўшчыну разрабавалі, загонавая шляхта Ваўчанецкага зжэрла ўсё, аж да зялёных, цвёрдых, як палка, груш, а сам ён, Яноўскі,— злачынец, якога, напэўна, шукаюць. Трэба хутчэй ехаць да незнаёмага дзядзькі па маці Якуба Знамяроўскага. Ён, кажуць, моцны чалавек, не пабаіцца Ваўчанецкага, ён абароніць. Дзядзька павінен сустрэць яго ветліва, паспачуваць, а там — хто ведае — можа, адбярэ ў Ваўчанецкага запаскуджаную Яноўшчыну і зганьбаваныя магілы продкаў. Ён гэта зробіць! Ён сіла, а сіла — усё на зямлі.

Цікава толькі, чаму сустрэчныя ў адказ на запытанні Міхала стрымана ўсміхаюцца (Ого! Паспрабавалі б яны ўсміхнуцца нахабна!) і кажуць:

— А-а, цыганскі кароль. Вам трэба па гэтай дарозе, пане.

Па маладосці год і легкадумнасці Міхал не звяртаў увагі на «важлівыя дробязі», і ўсё яму было хоць бы што. У сіле ён звыкнуў бачыць дабрадзейнасць, хоць скончыў школу пры калегіуме і павінен быў ведаць на прыкладах з Катула, што не заўжды дабрачынны Цэ-

зар і што курульнае[1] крэсла часта займае вадзянка. Бацька, чалавек, настроены па-старасвецку, таксама выбіваў з яго такія думкі цытатамі з Сымона Буднага. Гэта не дапамагала. Свет быў няўстойлівы, моцныя пагражалі адусюль, кароль не мог абараніць, схізматаў не крыўдзіў толькі лянотны. Катул быў паганец, а Буднага яшчэ дзвесце год назад абвінавацілі ў амярзіцельнай швейцарскай ерасі, і таму ён не меў рацыі. Сіла, і толькі сіла!

Ён не ведаў яшчэ, чым канчае кожная грубая сіла, і таму амаль весела падганяў каня ў напрамку да Знамяроўшчыны. Надзея калыхала яго.

Як добра, як прамудра ўсё на божым свеце!

Каля самай дарогі стаяў нацэлены кудысьці аглоблямі воз без каня. Абады колаў былі збітыя, і воз стаяў як быццам на чатырох сонцах, бо спіцы нагадвалі праменні.

Каля воза хадзіў, скрабучы патыліцу, чорны кучаравы чалавек. Срэбная, паўмесяцам, завушніца. Вопратка, як з сабачага вяселля. Цыган.

— Што гэта ты робіш, чалавеча?

— Рапарую воз. Да заўтра пасяджу.

— А потым?

— А потым павязу на сабе дадому.— Цыган павярнуў да Яноўскага нядобры чарнабровы твар.

— Што ж гэта ты так... забаўляешся? — іранічна спытаў Яноўскі.

Цыган пакалупаў пальцам у цыбуку і раптам выбухнуў:

— Конь, бачыце, яму спадабаўся. Даём яму ад кожнага здабытага дзесятка аднаго каня. Ад катлоў таксама... Па закону... Мала. Я спрачаўся. Ну і вось. Гэта ж ганьба цыгану так цяжка працаваць за сваю ж маетнасць. Абады з колаў пазбівалі... Каб яго везлі на такіх колах, калі ён атрымае па заслугах рану ў жывот: са спіцы на спіцу, з байрака на байрак.

— Хто гэта? — спытаў непаразумела Міхал.

— Хто?! Знамяроўскі! Кароль наш, каб яму кадук... Я казаў: жывіце вольна, роме. Не, пасадзілі на сваю галаву шляхцюка. Ён быў голы як бізун, а цяпер ён кароль. Дзівуйцеся на цыганскую дурасць: першы раз такое дзіва бачыце... Каровін праснак!

[1] Сенацкае.

Яноўскі слухаў, здзіўляючыся з бясконцых перыядаў, аж пакуль не абрыдла. Уласна кажучы, варта было правучыць нахабніка за непачцівыя словы пра шляхту, але цыган так гаротна і тужліва стагнаў, што Міхалу стала шкада яго.

І ён паехаў далей на сваёй шкапе, якая бразгала напалову адарванай падковай.

Шлях збочыў ад пушчы. Ля рачулкі, пад дубамі, паказаліся шатры — нешта каля сотні,— агні каля іх, зграбныя постаці цыганак і куцапыя — цыганоў. Чуліся крыкі дзяцей, стук молата па кавадле, брэх сабак.

Дзесяткі два гэтых сабак, жоўтых, са стаячымі вушамі, абкружылі конніка з відавочным намерам зжэрці. Гледзячы на іх рэбры і чырвоныя зяпы, Яноўскі падумаў, што гэта можа здарыцца, але ад вогнішча наблізілася чацвёра цыганоў. Сабак адагналі. Чорныя, як д'яблы, худыя, у калматых кажушках, з чырвонымі павязкамі вакол галавы, з ражнамі ў руках, цыганы вельмі нагадвалі разбойнікаў.

— Куды едзеш, бацю? — спытаў паважны, прыкметна сівы цыган.

— Прапусці,— замест адказу з гонарам сказаў Яноўскі.— Я беларускі шляхціц.

Гэта гучала, як «не руш мяне, я рымскі грамадзянін».

Цыган павольна агледзеў Яноўскага ад высокіх кабцяў, пацёртых ля стрэмяў, ад скураных нагавіц, пацямнелых ад конскага поту, і аж да звычайнай, зусім не панскай магеркі з абламаным пяром. Пасля плюнуў на зямлю і спаважна паказаў Міхалу на слуп, ля якога яны стаялі. Слуп быў упрыгожаны дошкай з сілуэтам каня з надпісам:

---

Знамяроўскае каралеўства, бог хай літуе яго. Душ русінскіх два ста, егіпецкага племя — ад зямлі ўсёй весі. Халупы. Жыдзішкі, Чэрнеў брод. Пры іх зямля ворная і пасавіска. Урочышчы Альховы востраў і Княгініна, а таксама тэж балота Недабыліха. Не торкайся з табунамі, калі гонар беражэш і не хочаш на смерць прыправіцца.

---

Яноўскі прачытаў варварскі надпіс, і ў яго пачала пацепвацца шчака.

— Я не з табунамі? — спытаў ён з жудасным спакоем.

Цыган у адказ пачухаў грудзі пад кажухом.

— Вяртайся, бацю, або давай грошы за пераезд крэса. Тут табе не задрыпанца якога зямля, а яго кругаў Якуба Знамяроўскага з Ліды. Налеўскае мосці пана Якуба Знамяроўскага з Ліды. Наша, цыганскае, царства! Калі грошай няма, дык прызнавай яго за караля, злазь са сваёй спірэпы і шыбуй пешака да палаца. Не — атрымай дубцы і гэн хоць да д'ябла! Дзевяць год мы тут гаспадары, прывілею зацвердзіў кароль польскі, хоць мы ім платы падпіраць можам, калі захочам.

— Я табе паразмаўляю, цыганская храпа! — Яноўскі выцягнуў шаблю, хоць добра бачыў, што ражны ў цыганоў даўжэйшыя.

Цыган у адказ флегматычна сунуў амаль пад нос конніку кулак, падобны на валасаты гарбуз, і... атрымаў плазам удар па галаве.

— На калені, хлопы!!!

У той самы момант яго атакавалі. Ён закруціўся, адмахваючыся шабляй і атрымліваючы адчувальныя штуршкі ражноў. Адзін з нападаючых спрытным ударам ражна па падкаленных жылах каню прымусіў жывёліну спатыкнуцца. Яноўскі прыпомніў, што цыганы мастакі адным такім ударам зваліць быка, які імчыць «на поўны намёт», і таму, не чакаючы ганебнага фіналу, сцёбнуў каня карбачом пад пах і так пусціўся дарогаю, што толькі пыл закурэў.

Каня ўдалося стрымаць толькі тады, калі за павароткаю дарогі ўстаў ва ўсёй прыгажосці «стальны град» цыганскага каралеўства. Злева была рэчка, справа, з-за далёкіх узгоркаў, выглядалі стрэхі вёскі, а паміж ракою і вёскай, бліжэй да ракі, размясціўся «град». З трох бакоў абкружаў яго ці то вельмі запаскуджаны і запушчаны сад, ці то ліставы лес, сярод якога сям-там узнімаліся ў неба чорна-зялёныя конусы ялін. З чацвёртага боку быў выган з атрутна-зялёнай травой і мноствам каровіных праснакоў. Дарога, па якой ехаў Яноўскі, ішла выганам і пераходзіла бліжэй да «града» ў змрочную і вільготную, як нара, алею з пакручаных, хворых ад вільгаці, нізкарослых ялін, алешніку, абламаных кустоў туі, карычкі і хмелю, які буйна абкручваў усё гэта багацце. Нізкія берагі, мярзота пустэчы вакол, глухая крапіва, няўцешны выган.

Ды і палац стаў перад Міхалам ва ўсёй сваёй несамавітай галізне. У той сваёй часціне, што была бліжэй да рэчкі, гэта былі астанкі нейкага храма. Без званіцы, падобны на княжацкі старадаўні саркафаг, храм гэты быў пабудаваны з плоскіх каменных плітак, і на франтоне ледзь выступалі збітыя літары «Anno Domini 1550». І тут была пустэча, толькі вітражы ў вокнах блішчалі ўмыта і радасна пад праменнямі нізкага вячэрняга сонца. Будынак, як бачна, адыгрываў ролю камяніцы («Што гэта за магнат, калі поруч з новым замкам няма старой вежы? Яны-то, праўда, не дапамагаюць, але ж гонар»).

З камяніцы цягнулася над пушчай з лопухаў і здзічэлых жоўтых вяргінь «галдарэя» да астатняй часткі палаца.

Гэта была вялізная драўляная хата, складзеная не з бярвенняў, а з чатырохгранных дубовых брусоў. Шалёўка зберагласся толькі сям-там, але магутна падтрымлівалі сцены бэлькі, пакладзеныя крыж-накрыж. Дах з пачарнелага дору, галерэя вакол хаты на драўляных слупках. Акенцы малюсенькія, затое ганак на каменных калонах раскошны, хоць і самому каралю сядзець. Ад камяніцы падаў шэры адбітак на хату, сад, на ўсё вакол.

Каля ганка, поруч з пазелянелай гарматай, спаў вартаўнік, адклаўшы ўбок павязку з пер'ямі, голым жыватом да зямлі. У валасах вартаўніка была салома.

Яноўскі спешыўся і крануў яго нагою пад рэбры. Пасля трэцяй спробы вартаўнік ачмурэла ўскочыў, схапіў тлеўшы ў збане фіціль... і як пярун гахнуў над палацам. Грукаючы, пакацілася кудысьці рэха, чорнай хмарай зляцелі з дрэў вароны. У доме пачаўся сапраўдны «аларм» — мітусяніна, крыкі.

І тут адбылося такое, што ў Яноўскага вочы палезлі на лоб.

Зарыпелі дзверы, і на ганак выплыў, як павіч, чалавек у звычайным, але празмерна яркім уборы паюка: залатым цюрбанам з пяром, шаўковым жупане — на голае цела, з яркім шалем замест пояса.

Чалавек узнёс жазло і абвясціў:

— Літасцю бога кароль Якуб Першы. Кароль цыганскі, вялікі намеснік Ліды, уладар Мацыевіцкі і Беларускі, гаспадар усіх мясцін, дзе ступаў капыт цыганскага каня, гаспадар егіпцян беларускіх, пад-

ляшскіх, абедзвюх Украін і Егіпта, Якуб — кароль. На калені!

За спіною ў Яноўскага заспявала труба. Трубіў надоешні сонны вартаўнік.

А цырымоніймайстар цягнуў далей:

— Сіла і моц, апора бога, уладар вандроўных сцежак і аброці, за ўсё вышэй — шляхціц!

Зноў заспявала труба. У трубача вісела пад носам вялізная кропля і вочы былі чырвоныя, як у трусіка.

Не паспеў ён скончыць, як у дзвярах з'явіўся чалавек, які аніяк не мог быць уладаром вандроўных сцежак, бо насіў манашую расу. У чалавека была голая галава, патройны падбародак і валасатыя рукі. Яго не паспелі затрымаць, і ён, хістаючыся на нагах, раўнуў:

— Пудзіла першы, гарлачагаловы, рызмананосны, цар белай рэпы, вялікіх і малых гуркоў, вераб'інае пасмешышча і вышэй за ўсё — дурань.

І з размаху, як дзіця сеў задам на падлогу.

— Дзень добры!

Гайдукі схапілі яго за рукі, але ён, упіраючыся, крычаў на ўсё горла:

— Ізыдзіце, грэшнікі! Пакаянне накладу. Блукаеце самі, акі сабакі, шлях свой згубіўшы, пастыраў ганьбіце. Акі Елісей, мядзведзіц на вас напушчу, патрушчу вас аслінай сківіцай!

Елісея гайдукі спалохаліся. А чалавек шчасна спяваў, седзячы на ганку:

Як была я малада,
Як была я нежна...

І адразу з гэтым, цалкам лагічна:

Хоць з мядзведзем у бярлог,
Абы не ў бацькі.

За гэтым відовішчам Міхал не заўважыў, што ў дзвярах ужо стаяў сам кароль, заспаны, азызлы, і моцна соп носам. На ім была кашуля да пупа, і на галаве срэбны абруч. Якуб нагадваў Апалона, калі богу было пад сорак год і ён густа зарос дрымучымі валасамі.

Ніводнай сівінкі ў патлах, нізкі лоб, шырокія грудзі, доўгія магутныя рукі, караткаватыя для тулава ногі, што моцна стаялі на зямлі. І твар гэты быў вельмі азызлы ў шчоках.

— Ты хто такі?

— Ізыдзі, сатана! — раптам залямантаваў манах.— Няўдобанасімы ты кураед, мясаед, яйкаед!

— Замаўчы, мітрапаліт,— сказаў кароль.— Адцягніце яго куды ў адпаведнае сану месца.

Гайдукі падхапілі манаха і пацягнулі, але ён яшчэ некаторы час упіраўся, напінаўся і пры гэтым роў, пляваўся і вытвараў усякія іншыя дзеянні.

— Ты хто такі? — уладна спытаў Знямяроўскі.

І тут Яноўскі, нечакана для сябе, нізка пакланіўся і сказаў:

— Паслом да цябе, вялікі кароль.

Знамяроўскі ані словам не выявіў здзіўлення.

— Ад каго?

— Ад роду Яноўскіх... Дзядзечка, гэта я, ваш пляменнік, сын вашай траюраднай сястры.

— Гм... яе звалі, здаецца, Ганнай?

— Алёнай, вялікі кароль.

— Так-так, ну да, ну да. Каралі павінны мець добрую памяць, гэта іх дабрачыннасць. Ганна, Алёна — усё адзіна. Чаго ты тут?

— Здарылася жахлівае, вялікі гаспадар. Падступны замах на маетнасць і шляхецкі гонар вашай сястры. Ведаю, што кароль дапаможа, і звяртаюся да вашай літасці.

Знамяроўскаму такая сітуацыя, здаецца, спадабалася.

— Што ж здарылася?.. Э-э... мой малады і неабазнаны друг.

Яноўскі ўпаў на адно калена. З гарачым благаннем у голасе кінуў:

— Сусед наш, Ваўчанецкі, нечакана напаў на наш маёнтак. Мы спалі, у нас было толькі тры гайдукі, не як у вашай літасці. Ён выгнаў нас.

Знамяроўскі пагардліва ўсміхнуўся:

— Чаго ж вы пайшлі?

— У нас не было сілы. Ён спаіў сяброў нашых, і яны не абаранілі нас. Калі нас выгналі, я ўдарыў нахабнага драпежніка нажом.

— Ого,— пажвавеў Знамяроўскі,— мая кроў! Пазнаю! Тыгра! Добра, што нажом, а не сумленнай шабляй. Чаго ж ты просіш?

Яноўскі вырашыў прасіць больш. Тады, можа, дадуць хоць частку.

— Да ног прыпадаю сваяку, якім ганарымся! Да ног каралеўскай крыві! Прашу пакараць захопніка, вярнуць Яноўшчыну. Пасля мы ў братнім падначаленні вашым хочам быць.

Знамяроўскі пачухаў патыліцу, паглядзеў на прыгожага юнака з падвітымі валасамі і буркнуў:

— Добра. Каралі павінны дапамагаць сваякам. Клікну цыганскае рушэнне, і калі будзе маё жаданне, магчыма, і ашчаслівлю цябе, мой бедны, але мужны сваяк. Толькі маёнтак твой... Прыпішаш яго назву да маіх тытулаў. Пажыві, пакуль тое, месяц-другі.

— Дзядзечка, вялікі кароль,— пачаў маліць «пасол»,— мае бедныя бацькі памруць з гора.

— Ну! — раптам грозна, але ціха сказаў Знамяроўскі.— Ты робак[1] ля ног маіх. Жыві і прасякайся ўсведамленнем маёй велічы. А пасля паглядзім. І не лямантуй, падобна як шакал і стравус... Ад майго настрою залежыць свет, а ты хто?.. Адпачывай. Пазнаёмся з маім мітрапалітам. Ён годны чалавек і калісьці ахрысціць усіх тваіх язычнікаў. Уласна кажучы, маім дбаннем гэтыя карычневыя д'яблы ўжо ахрышчаны, але сапраўднае схіленне да веры дзядоў закладваецца, бо мітрапаліт мае частыя спатканні з зялёным зміем.

— Добра,— дрыжачым ад крыўды голасам сказаў Яноўскі.

Яму хацелася секануць шабляй гэтага вар'ята, але куды пойдзеш потым, што рабіць самотнаму і слабаму на гэтай грэшнай апалячанай беларускай зямлі?

А Знамяроўскі ўжо дабрадушна ўсміхнуўся:

— Ну-ну. Можа, заўтра ў паход пойдзем, можа, годам пазней, а можа, і ўсё жыццё тут праседзіш, і я табе ў спадчыну каралеўства пакіну, бо я яшчэ ў дзяўкох. Мая свентая воля. Я — кароль. Хачу — плюю, хачу — голым шпацырую, вось, як цяпер.

— Дзякуй вам, ваша вялікасць,— ціха адказаў Яноўскі,— Хай будзе так.

І тады кароль яшчэ раз павысіў голас, звярнуўшыся да слуг:

— Бачыце, як далёка дайшла слава мая, вялікага караля цыганскага. Дастаўныя мы на свеце ўсім, адусюль прыбягаюць пад нашу руку, бо моцныя мы

[1] Чарвяк.

больш, ніж кароль, і бог за нас. І хто памышленне займее парушыць святую манархію нашу, таго сакрушу, знішчу, на каленях прымушу маліць літасці. Вось яна, шыбеніца!

І кароткі палец караля торкнуў у бок гэтай няхітрай прылады ля камяніцы.

— Ідзі пакуль што з маім лейб-медыкусам,— сказаў кароль Яноўскаму.— А пасля мой сейм (бо мы кароль добры і памяркоўны) адобрыць мой вырак.

Ён затупаў быў валасатымі нагамі да дзвярэй, пасля павярнуўся да медыка:

— Паглядзі яго каня, ці не завёз ён у маю дзяржаву з мэтай падрыву яе дабрабыту конскай хваробы.

Гайдукі ўзнялі ў неба стрэльбы і, калі кароль знік за парогам, далі залп. Вароны зноў сарваліся з камяніцы і, непаразумела каркаючы, памчаліся кудысь.

Лейб-медыкус павёў Яноўскага ў маленькі флігель за домам, які тануў у лопухах. Амаль адразу ля стаўка прагучаў стрэл.

— Што гэта? — тарганууся Яноўскі.

— Пужаюць жаб, каб ліхадзейскім кумканнем сваім не перашкаджалі спаць іх каралеўскай мосці,— з'едліва сказаў медык.

Яноўскаму здавалася, што ён трызніць. І таму ён толькі тады разгледзеў медыкуса, калі яны апынуліся ў маленькім пакоі флігеля, дзе сцены былі амаль заслонены кнігамі на паліцах і вісеў вялікі аркуш пергаменту, выдраны, відаць, з кнігі «Здароўя шлях верны». На аркушы намалёваны чалавек, які стаіць спіною да гледача. На яго голым целе былі намечаны тыя пункты, на якія трэба ставіць банькі.

Медыкус меў год пад пяцьдзесят, быў худы і жоўты. Вочы, якія надта блізка сядзелі адно ад другога, глядзелі разумна і іранічна з-пад калматай чупрыны; нос быў аж празрысты ад бледнасці; на кашчавых плячах вісела чорная мантыя, а на ёй, ля пляча, быў вытканы герб Знамяроўскага і ніжэй, як знак прафесіі, гіпакратаў змей, што абвіў клісцірную трубку.

Выпілі па чарцы данцыгскай залацістай гарэлкі, селі закусіць, і толькі тут Яноўскага прарвала:

— Слухайце, пан медыкус, гэта ж вар'яцтва нейкае. Мне няма куды падзецца, але нашто вы тут, чаму носіце гэты ганебны шыфр?

Медыкус сумна паглядзеў на Яноўскага разумнымі шэрымі вачыма:

— А ў мяне, пан думае, ёсць выхад? На нашай зямлі дрэнна жывецца вучоным, асабліва калі яны беларусы. І яшчэ... калі яны занадта цікаўныя і хочуць ведаць пра чалавечы трыбух значна больш, чым іншыя. Мяне засудзілі на баніцыю, бо я даставаў з магіл трупы і рабіў забароненае анатаміраванне іх.

Яноўскага перасмыкнула.

— І як вы маглі рабіць такое? Вы што, хацелі б, каб і з вамі так зрабілі пасля смерці?

Медыкус усміхнуўся:

— Калі ласка. Што я буду тады? Тло і смурод.

— Але ж бессмяротная душа... Яна пакутуе...

Субяседнік Міхала выпіў яшчэ чарку гарэлкі і раптам спакойна сказаў:

— А вы ўпэўнены, што... душа ёсць?

— Ну вас,— спалохаўся Яноўскі,— гэтак і да кастра нядоўга.

— Нічога, у нас цяпер цывілізацыя, зацны пане. Не паляць, а вешаюць... Зразумейце, што нават пачуцці не сведчаць пра бессмяротнасць душы. Пачуццяў няма, усё ад току крыві. Кінецца яна ў галаву — чалавек адчувае гнеў, кінецца яшчэ куды — іншы вынік. Так што глупства ўсё! Чалавек менавіта такая самая худоба, як свіння, і адрозніваецца ад яе толькі здатнасцю размаўляць, складаць вершы ды яшчэ тым, што ён бывае горшы за самую горшую свінню.

Ён адклаў убок двухзубы відэлец.

— Вось і засудзілі мяне. А я не магу жыць без маёй зямлі, яна мне дарагая (яшчэ адно глупства чалавечай натуры). Тут я ў бяспецы, тут іншая дзяржава. Пакіну яе межы — застаецца шыбеніца. А тут мяне абароняць.

— Знамяроўскі моцны чалавек?

— Чалавек не можа быць моцным. Але ён можа выставіць шэсцьсот коннікаў цыганскага рушэння, ды яшчэ ён лідскі шляхціц, у яго сябры. Тут ракою льецца гарэлка, і ўсе гэтыя п'янічкі за яго хоць у агонь. Ды яшчэ сяляне. Так што, калі хто ў гэтай мясцовасці кароль, дык гэта ён... Пракляты богам край вар'ятаў і ёлупаў.

Яноўскі быў згодны з медыкусам: свет звар'яцеў менавіта ў той самы дзень, калі загонавая шляхта

Ваўчанецкага адабрала ў Міхала маёнтак. Таму ён адсунуў ад сябе місу, наліў у кубак піва і зручна сеў у глыбокае мяккае крэсла. Медыкус сеў у другое крэсла, побач, і закурыў люльку.

— Дарэчы, як прозвішча пана? — спытаў распешчаны Міхал.— Я быў такі непачцівы... Як вас завуць?

— Ніхто,— раўнадушна сказаў эскулап.— Мяне завуць «Ніхто».

Яноўскі, як выявілася, яшчэ не перастаў здзіўляцца:

— То бок...

— А нашто вам трэба ведаць гэта? Хіба не я сам поруч з вамі, хіба нельга мяне называць проста медыкус? Або, можа, вы лічыце, што імёны адпавядаюць сутнасці рэчы або чалавека, што іх носіць? Я ведаў магната Кішку, і ён зусім не быў падобны на кішку. Нават для прамой кішкі ён быў занадта тоўсты і брудны. Паўстанец Дубіна быў адзіным на свеце разумным беларусам у свой час. Леў Сапега хутчэй падобны на лісіцу, і я ніколі не бачыў ніводнага Язэпа, які мог бы насіць тытул «прыўкраснага». Называйце мяне проста медыкусам.

Ён ахутаўся хмарамі тытунёвага дыму, і нечакана з-пад цяжкіх павек бліснулі яго вочы. Сказаў нечакана проста і сумна:

— І нашто гэта каму ведаць, хто абараніў мяне, слабага ў свой час. Людзям не было справы да таго, як памерлі два самыя дарагія мне чалавекі, памерлі з голаду. А я стаяў тады ў клетцы ля муроў нясвіжскага палаца... Дзень, другі, трэці... І няхай яны здыхаюць цяпер, бо гэта я, чалавек, пра імя якога ніхто ніколі не даведаецца, першы на свеце ачысціў аднаму чалавеку мозг ад кавалкаў раструшчанай чарапной косці і наклаў на дзірку ў чэрапе лапік з залатой пласцінкі. І гэты чалавек застаўся жыць.

Яноўскі толькі тут пабачыў, што пляшка з гарэлкай амаль пустая. Медыкус быў відавочна п'яны: зрэнкі яго вачэй зрабіліся чорныя, вялікія і трапяталі, як у атручанага. І аднак Яноўскі не спудзіўся: медыкус валодаў сваім мозгам, і мова яго рабілася ўсё больш рэзкай.

— Не думайце, што я рабіў гэта і многае іншае для людзей. Я не шкадаваў іх, не адчуваў іхняга болю, і,

відаць, таму мне ўсё ўдавалася, за што шкадаваць чалавека? Вось ён набудаваў дзівосных палацаў, насаджаў дрэў, вырасціў паэтаў і дойлідаў. А заўтра знойдзецца вар'ят і пачне перапальваць на вапну статуі, разбураць палацы, паліць гарады. І паэта, якога абвясціў ерэтыкам, спальваюць, і з яго праху робяць клісцір сабаку заваёўніка, бо сабака нячыстая жывёліна, і ёй дапамагае клісцір з праху ерэтыка, як хрысціяніну — клісцір з мошчаў святога. Дзікуны і варвары заўжды такімі будуць па прычыне натуры сваёй... Мёртвае дрэва дае прытулак кузуркам, мёртвыя кветкі салодка вянуць, мёртвы чалавек — смярдзіць Смярдзіць ён, праўда, і жывы...

— Даволі,— сказаў Яноўскі.— Я шляхціц, мне непрыстойна такое слухаць. Але ж вы таксама чалавек І тыя, што будавалі, былі таксама людзі...

Абодва маўчалі. Потым, калі гэта стала нясцерпна, Міхал спытаў:

— Лепей скажыце мне, як гэта мой дзядзька стаў каралём цыганоў беларускай зямлі?

— Не толькі беларускай,— сказаў медыкус.— І Польшчы, і Літвы, і нават Украіны.

— Як жа ж гэта атрымалася?

— Вельмі проста.— Медыкус як быццам ачуняў ад ап'янення, бо выраз жаху знік у яго вачах і змяніўся галантнай і трошкі з'едлівай усмешачкай.— Прыблізна ў 1779 годзе Знамяроўскі быў звычайным дробным лідскім шляхціцам. Вы ведаеце, цяпер шляхціцу стаць багатым — гэта ўсё адно што дачакацца справядлівасці ад пана. Але са Знамяроўскім атрымалася так... У яго вёсачцы было не больш як сорак халуп, а на стайні стаялі дзве кабылы-свірэпы ды дрыкгант каралеўскі, якога вясной ражнамі на ногі ставілі. За лета коні трохі сыцелі, і, відаць, гэта было прычынай, што на іх пакваліўся нейкі цыганскі табар. Коней укралі. Тут Якуб выявіў сапраўдную адвагу. І не дзіва, іначай давялося б здыхаць з голаду, макам сесці і на месяц брахаць. Ён узяў двух сяброў, сеў на сялянскіх коней і пагнаўся за табарам. Дагналі яго ўночы. Іншы, можа, падумаў бы, а яны ўтрох напалі на цэлы табар, і пачалася бойка. Змялі мужчын, адсцябалі тых, хто супраціўляўся, адабралі ўсіх коней з табара і адлупцавалі ўсіх цыганоў, што ў гэты час там былі. З багатай здабычай рушылі яны дадому, а іх суправаджаў

лямант абрабаваных. Нават пярыны цыганскія ўзялі для слуг. Паб'еш чалавека — ён пачынае цябе паважаць. Праз некалькі дзён з'яўляецца да Знамяроўскага дэлегацыя цыганоў Лідскага павета і просіць прыняць іх пад сваю высокую руку — за мужнасць. Пасля з'явіліся з Гародні, Трок, Вільні. Ён усіх літасціва прыняў. Нашто ім было патрэбна галаву торкаць у хамут? Яны не мелі права голасу ў сейме і палічылі, што такі моцны чалавек будзе іх там добра абараняць падчас сеймавых спрэчак. Словам, 17 жніўня 1780 года кароль Станіслаў-Аўгуст зацвердзіў шляхціца Якуба Знамяроўскага каралём над усімі цыганамі яго зямлі і даў яму адпаведны прывілей. Загадана мець цыганскую сталіцу ў Эйшышках, але Знамяроўскі не любіць там жыць. Да таго ж, загадай яму мець сталіцу ў раі, ён пабудуе яе ў пекле, бо не хоча падначальвацца нікому, нават каралю. І вось дзевяць год ён трымае пад моцнай уладай усіх цыганоў. Ён стаў багаты: кожны дзесяты конь, кацёл, талер, усё, што належыць цыганам, усё яго. Ён адбірае і больш, калі захоча. За гэта ён абараняе правы сваіх васалаў у сейме, чыніць там знешнюю палітыку сваёй вялікай дзяржавы.

— Якую? Што ён, войны вядзе, ці што? — здзівіўся Яноўскі.

— А чаму не. Збіраецца ж ён памагчы вам. Чым гэта не вайна? Мы цяпер, літасцю нашай шляхты і добранькага пана бога, зрабіліся такім народам, што ў нас цыганскае каралеўства — вялікая дзяржава, а бойка на палявой мяжы — знешняя палітыка...

— Не абражайце беларускай шляхты,— сказаў Яноўскі.— Яна — соль зямлі.

— Любы мой юнача,— мякка сказаў медыкус.— Я сам быў калісьці шляхціцам і дзякую богу, што я цяпер стаў проста чалавекам. Я добра бачу, вы сніце пра згубленую веліч, якой у шляхты нашай ніколі не было. Быў вялікім наш народ. Ён быў такім пад Крутагор'ем, Піленамі, Грунвальдам, падчас вялікай мужыцкай вайны семнаццатага стагоддзя. І што шляхта зрабіла для яго? Мы спудзіліся яго сілы, калі ён разбіў татар. У той час мы прадалі нашы вольныя княствы Літве: яна, маўляў, падтрымае нас супраць нашых сярмяжных братоў. Добра, мы асімілявалі Літву, мы пачалі набірацца сілы дзякуючы народу.

І тады мы пайшлі на другую здраду: прадалі свой край палякам, адракліся ад веры, мовы, самастойнасці, шчасця, першародства дзеля чачавічнай поліўкі, дзеля ўлады, дзеля ганебных грошай. Злоснаму ворагу прадалі. Soaequdtio iurium — ураўнаванне правоў Літвы і Беларусі з каронаю — гэта было ўраўнаванне ўсіх перад тварам галоднай смерці.

Яноўскі спалохаўся — такі злосны твар стаў у медыкуса. Вочы наліліся крывёй, вусны крывіліся. З невымоўна з'едлівым, гідлівым выразам на твары ён сказаў:

— A pisarz ziemskiego sądy po polsku, a nie po rusku pisać powinien lędzie. Мова наша мілая, паўнагучная, плаўная, дарагая. Як поплаў блакітны! Куды мы яе кінулі, пад чые ногі мы яе затаўклі?

Яноўскі не знайшоў што сказаць.

А медыкус раптам як абмякнуў. Стомлена апусціў плечы:

— Я нічога не маю супраць палякаў. Нягоднікаў там не больш і не менш, як у іншых народаў. Але я нідзе не ведаю горшых паноў, чым там. З такой пагардай да мужыка, з такой насякомай зласлівасцю, з такім адчуваннем сваёй вышэйшасці. Яны і нас заразілі гэтым. І, галоўнае, ніхто не бачыць, што дзяржава коціцца да прорвы. Гандлююць ёй напрапалую, п'юць, гуляюць, як перад гібеллю, раздзіраюць, катуюць народ. І загінуць хутка. Ужо смярдзяць нават. Што ж, нам не будзе лепей ні пад цяжкім нямецкім задам, ні пад уладай дзяржаўнай шлюхі. Там дазволілі ссылаць сялян на катаргу і забаранілі ім скардзіцца на памешчыкаў. Там адсеклі галаву адзінаму сапраўднаму чалавеку нашага стагоддзя — Пугачову. Яму трэба было пасылаць людзей да нас і прасіць дапамогі. І я першы ўзяў бы вілы.

— Слухайце,— перабіў яго Яноўскі,— калі вы будзеце так абражаць шляхту, я вас шабляю ўдару. Я паскарджуся каралю.

— А чаго ад вас і чакаць,— спакойна і вельмі ціха сказаў стары, гледзячы на юнака дапытлівымі вачыма.— Ударыць старога, забыць рыцарства і сумленне, выдаць... Але я скажу вам, што гэта не атрымаецца. Бачыце?

І ён спакойна сагнуў кашчавай рукою срэбны талер, які дастаў з кішэні.

— Да таго ж, Знамяроўскі не памірае кожны месяц ад абжорства і гарэлкі толькі таму, што я мастак сваёй справы. Улічыце. Ён не аддаў мяне Радзівілу, а Яноўскаму не аддасць і пагатоў.

І раптам ласкава паклаў руку на Міхалава плячо:

— Хлопчык вы мой, мне, магчыма, нават радасна бачыць ваш запал і свежую кроў у жылах. Але вы, даруйце мне, вельмі яшчэ дурненькі. Вы сутыкнуліся з нашым правам сілы, вас выкінулі з уласнай хаты. Вось вы сутыкнецеся з уладай, з дэспатызмам паноў — і тады вы зразумееце мяне, калі сэрца ваша баліць за радзіму. Зразумейце, аснова ўсяму — мужык. А мы, як кажа Вальтэр, даём яму выбар: або тры тысячы палак, або тры кулі ў галаву.

— Хто гэта, Вальтэр? — змрочна спытаў Яноўскі.

— Адзін вельмі разумны француз. І няхай мне бог заб'е ў зад самы тоўсты малітоўнік з бібліятэкі Радзівіла, калі Вальтэраў пасеў не зарунее калісьці на зямлі. Можа, нават хутка. І тады нашы дурныя, як слуп, паны пойдуць на кажамякін шасток. Хрэнам ім сядзе ў горле сённяшняя гарэлка... Я вам дам пачытаць ягонага «Кандыда». Сам пераклаў.

І тут яны раптам заўсміхаліся. Лядок растаў. Яноўскі вырашыў нічога больш не казаць медыкусу. Непрыемна, вядома, што ён так лае ўсё дарагое яму, Яноўскаму, але рота яму не замажаш. Прынамсі, лае цікава...

Увечары іх паклікалі на гулянку ў «палац» Знамяроўскага. Адмовіцца было нельга, хоць Міхал вельмі стаміўся: па іх прыйшоў узброены гайдук, апрануты на польскі манер, у чыкчыры з вялікімі вызалачанымі гаплікамі і ў жоўтых паўбоціках. Доўгія валасы гайдука былі сабраны ў касу, а дзве невялічкія коскі звісалі на скронях, як яўрэйскія пэйсы.

— Бачыце,— іранічна сказаў медыкус,— вопратка нязручная, шыць яе цяжка. Таму выбіраюць ёлупа з добрай фігурай. І вось здаровы мужык, якому зямлю араць трэба, ходзіць скрозь, як індык, смярдзючка такая.

— Загадана адвесці паноў,— сказала «смярдзючка» густым басам.

— Ну, пакажы ж ты мне свой шчыры беларускі нос,— ласкава сказаў медыкус.— Бачыце, Яноўскі, якая кірпа: за тры сажні курнай хатай тхне, а спытайце яго, што ён павінен рабіць.

Гайдук радасна выцягнуўся і затарабаніў:

— За ксяндзом Геронімам Капуцынам сачыць, каб мёд, што пану варыў, не атруціў; хлопаў брудных кар-бачамі сцябаць за падступныя, значыцца, намеры; трымаць шаблю панскую. А таксама жыдоў, калі арэнды не заплацяць, біць і бахуроў іхніх браць на па-на-караля, прымушаючы ў веру хрысціянскую пе-ра-ходзіць.

— А дзеці твае дзе?

— Па літасці панскай у школцы вучацца.

— На каго?

— На па-ны!!! — гаркнуў гайдук, вырачыўшы вочы.

— А да маткі ў вёску ходзіш?

Гайдук засаромеўся:

— А чорт яе ведае, і дзе яна там жыве.

Медыкуса перасмыкнула:

— Г... ты, братка.

## II

«Палац» ззяў агнямі і плошкамі. У зале было амаль пуста, стаялі толькі сталы, якія аж ламаліся ад страў, і простыя лавы. Больш тонкай мэблі тут не было ніколі. За сталамі сядзела ўжо дзесяткі два гасцей, а на канцы стала, бліжэй пад дзверы, загонавая шлях-та. Сам Знамяроўскі сядзеў на ўзвышшы на крэсле з высокаю спінкай. Выглядаў па-ранейшаму, толькі на-цягнуў на тоўстыя ногі аксамітныя порткі.

— Спазніліся,— раўнуў кароль.— Час пачынаць.

Два гайдукі ўцягнулі з суседніх дзвярэй «мітрапа-літа» з сенам у валасах і коса насунулі яму на галаву штосьці падобнае на мітру. Мітрапаліт звесіў галаву і ціха мыкаў, парываючыся нешта сказаць. Паюк, што стаяў за крэслам караля, паклаў перад святым айцом на пюпітр тоўстую біблію.

— Пачынай набажэнства,— сказаў кароль.

Адказам было мычанне.

— Вы што, не маглі працверазіць чалавека?

— Цэбар вады вылілі, не дапамагло,— спуджана замармытаў гайдук.

— Раскрыйце кнігу і торкніце пальцам дзе-не-будзь. Ён прывычны, не першы раз так,— параіў медыкус.

І сапраўды дапамагло. Мітрапаліт механічна пачаў чытаць, водзячы асавелымі вачыма за тоўстым, як капыт, пазногцем гайдука.

— Другазаконне, раздзел дваццаць пяты. «Калі б'юцца між сабой мужчыны і жонка аднаго падыдзе, каб адбіць мужа свайго з рук тых, хто б'е яго, і, працягнуўшы руку сваю, схопіць яго за сорамны вуд, то адсякі руку яе...»

— Не тое, здаецца,— закруціў галавою кароль.

Старонку перагарнулі. Шляхта, якая ўстала, і нацягнуўшы шапкі і выцягнуўшы з похваў шаблі на доказ таго, што яна гатова абараняць веру аж да самага скону, таксама пачала круціць галовамі. Мітрапаліт зноў пачаў мармытаць:

— «Каханы мой прасунуў руку сваю праз шчыліну, і нутро маё хвалявалася ад яго».

— М-м-м,— замыкаў Знамяроўскі,— гартайце далей, д'яблы.

— «Бо адкрыецца сын мой Ісус з тымі, хто з ім, і тыя, хто застанецца, будуць цешыцца чатырыста год. А пасля гэтага памрэ сын мой Хрыстос і ўсе людзі, што маюць дыханне».

Мітрапаліт часта залыпаў вачыма, нешта ўзважваючы п'янай галавой. Пасля пачаў дробна жагнацца.

— Дык... дык гэта мы 1400 год таму ўсе памерлі... Божа мой!.. Бо-ожа мой!.. А бо-го-го-го-жа мой!.. І яшчэ мала нам за грахі нашы... Гэта атрымліваецца, браткі мае, пекла... І агні... А ты — на ўзвышшы — Люцыпар.

Знамяроўскі пачаў пацепвацца. Гаркнуў, наліваючыся крывёй:

— А ідзі ты ведаеш куды з тваёй бібліяй?

І кінуў:

— Канчай рытуал. Халера на вас, папоўскія храпы.

Госці шумна пачалі рассаджвацца. Мітрапаліт таксама сеў, і яму ў нерухомыя рукі ўсунулі кубак.

— Слухайце, гэта ж кашчунства,— прашаптаў медыкусу Яноўскі.

— Нічога, сынок, вучыся,— таксама шэптам адказаў медыкус.— Яны не паважаюць нават апоры сваёй. А зараз пабачыш, як яны паважаюць сябе.

Пачалі піць і закусваць. Падавалі піва чорнае і бе-

лае, настойку «тройчы дзевяць», кюмель і мёд. Госці, што сядзелі ля Знамяроўскага, елі мядзведжыя шынкі, хрыбтавіну асятровую, смажанага лебедзя і іншыя далікатэсы. Загонавая шляхта — боршч з сасіскамі, разварную ялавічыну, палаткі, гарох са свінінай; сотнямі знішчалі гарачыя, як агонь, наперчаныя біткі. Нягледзячы на тлустую ежу, усе хутка ап'янелі, бо пілі так, як нават Яноўскаму не даводзілася бачыць. Ён звык да штодзённай нормы ўжывання віна шляхецкай вялікай сям'ёй — дванаццаць бутэлек. Першыя чатыры амаль паўсюль выпівалі за першым абедам, у дванаццаць гадзін дня. Другія чатыры — за другім, у чатыры гадзіны. За вячэраю, якая бывала, звычайна, у 10—11 гадзін вечара, канчалі норму і больш не пілі. Дванаццаць апосталаў — дванаццаць бутэлек. А тут на стол усё цягнулі і цягнулі бутэлькі «мядзведзікі», «удовы», маленькія бочачкі. Бутэлькі былі розныя: пузатыя, доўгія, пляскатыя з «таліяй» (каб зручна было трымаць у п'янай руцэ). «Мядзведзікі» былі ў выглядзе мядзведзяў, бараноў, ільвоў — гарэлка біла ў іх з ратоў. Але цікавей за ўсё былі «ўдовы», бутэлькі ў выглядзе абаранка. Удовамі іх звалі таму, што такія бутэлькі і сапраўды часцей за ўсё ўжываліся ўдовамі. Прычапурыцца жанчына, налье ў такую бутэльку гарэлкі, насуне на носік абаранак, надзене бутэльку на руку, бліжэй да локця, і ідзе да аўдавелага кума развеяць тугу.

Напіліся да таго, што нейкі шляхцюк пачаў рагатаць, гледзячы на ўласны палец, а другі засяроджана браў з талеркі пірагі, выграбаў з іх пальцам начынку, а астатняе кідаў пад стол, дзе круціліся дацкія сабакі — п'яўкі.

Але стрыжнем вячэры была вялікая чаша, у якую ўваходзіла пяць бутэлек віна і яшчэ тры ў накрыўку. Сапраўдны пітун павінен быў піць не глытаючы, каб віно проста пералівалася ў горла. Таму з накрыўкі дазволена было піць толькі адным глытком, а самы келіх — у два прыёмы. І нікога не мінала горкая чаша сія.

Пасля яе зала нагадвала поле пабоішча, і гайдукі пачалі ўжо сцягваць некаторых гасцей, што абражалі апетыт параўнальна цвярозых, у «мярцвецкую». Дзіва, але мітрапаліт стаў амаль цвярозы, і толькі збытак вінных пароў выходзіў праз яго голую галаву, якая курылася, як вулкан.

Знамяроўскі сядзеў арлом. Азызлыя шчокі падабраліся, у карых вачах з'явіўся агеньчык, нос, падобны на піпку, міла чырванеў.

Усё было добра. Дзяржава яго была вялікая, сам ён быў цар цароў, эканоміка была ў парадку, пілі і елі дасхочу. Нават эмігранты з іншых краін (у асобе Яноўскага) прыпадалі да яго ступакоў. Велічны жывот караля ляжаў на каленях, доўгія рукі былі падкладзены пад зад, на твары блукала шырокая ўсмешка, і нават вочы замасліліся ад асалоды. І самыя думкі былі прыемнымі.

Ён мацнейшы за ўсіх, цыганы дрыжаць пад яго позіркам, улада над акругай поўная. Што можа зрабіць яму кароль? Праўда, царыца дабіраецца да яго зямлі, дзеліць Польшчу, але чорт яе бяры. Яму, Знамяроўскаму, і пры царыцы будзе не горш. А калі надта ўжо не спадабаюцца новыя парадачкі — можна разам з падданымі адкачаваць туды, дзе яшчэ будуць залатыя шляхецкія вольнасці. Ды не, не папусціць бог. Гэта ж такая сіла, шляхта! Хоць бы і ён нават?! А добры мой народ заўсёды дапаможа. Ён сваё панства любіць, шануе, ледзь не вышэй за пана бога ставіць. За дзевяць год улады ніхто сур'ёзна нават і не думаў абурацца. А надумаецца — скручу.

— Келіх сюды, свінтухайлы!

А медыкус, седзячы ля Яноўскага, раптам спытаў:

— Ведаеце, чаму тут так п'юць... не на жыццё, а на смерць?

— Людзі тут такія,— разгубіўся Яноўскі,— тут ужо нічога не зробіш.

Медыкус непрыемна скасавурыўся:

— Глупства! Мы любім піць не больш і не менш, як усе іншыя людзі на зямлі. Але мы — гной пад нагамі чужынцаў. Нават у жыцці сваім ніхто ў гэтым праклятым каралеўстве не ўпэўнены. А гарэлка — гэта сябры, гэта — пяць — дваццаць — тысяча шабляў такіх сабутэльнікаў, узнятых на тваю абарону, калі нападзе мацнейшы сусед. Няма цвёрдай улады — пануе моцны, мы п'ём. Простая механіка? П'янствуюць людзі — значыцца каралеўства гіне. Верная прыкмета. П'юць, каб забыць, каб заліць гора і знішчыць няўпэўненасць. Але галоўным чынам, каб прыдбаць сяброў.

І ён спапяляючым позіркам паглядзеў на шляхцю-

ка, які «скакаў», адрываючы на які-небудзь дзюйм ногі ад падлогі, круціў галавою і вывяргаў брыдкую лаянку.

— Дурныя людзі. Усё не па-людску. З самага пачатку толькі і робяць, што гандлююць радзімай. Маргутная цыганская дзяржава... П'юць, як свінні. Дзеці нараджаюцца ідыётамі: яны яшчэ ў чэраве маці атручаныя гарэлкай. Ёлупы і юродзівыя! І за ўсё гэта заплацяць нашчадкі. Ім яшчэ рыгнецца за кожную нашу чарку, за кожную ноч распусты. Яны будуць кашчавыя, слабыя на цела і мозг.

Яноўскі хацеў адказаць яму, але пабачыў, што кароль заве яго пальцам. Ён падышоў да яго. Знамяроўскі глядзеў на яго вар'яцкімі вясёлымі вачыма.

— Што, пасол, нудзьгуеш?

— Наадварот, мне весела, вялікі кароль.

— А мне нудна. Насмяшы ты мяне, пляменнічак. Насмяшыш — шкадаваць не будзеш, шчыра кажу. Загаўкай, ці што...

Яноўскі маўчаў. У гэтую хвіліну ён лепей даў бы сябе разрэзаць на кавалкі, абы не смяшыць гэтага тлустага кабана. Ён упарта сціснуў зубы.

Знамяроўскі пазяхнуў.

— Нудна мне з вамі. Адракуся я хутка ад трона і пайду... у манастыр. Буду там сабе бога маліць, бо з дурнямі жыць не хачу. Вас, дурняў, і да Масквы не перавешаеш... Жыць буду ціха, пад званы. Дам ігумену куку ў руку, каб пахаваў мяне ў царкве. Бога, дурня барадатага, модламі падману. Сядзіш вось тут у мяне, гарэлку маю жарэш...

Яноўскі не вытрымаў. З ім ніхто яшчэ так не размаўляў:

— Маўчыце, пан кароль. Як бы не давялося вам казе пад хвост глядзець... Задзярэш зараз пяты, чорт гладкі!

Знамяроўскі зацікавіўся гэтай перспектывай:

— Ану... ану, давай. Паспрабуем. Бач ты, нахаба якая! Прыйшлі ў маю хатку ды б'юць майго татку... Ах ты, падла. Давай... паспрабуем, хто пяты задзярэ.

І крыкнуў гайдукам ля дзвярэй:

— Ану, паршыўцы, цягніце сюды палкі. Рыцарскі турнір!

Праз якую хвіліну абодвум далі тонкія доўгія палкі, і Знамяроўскі з нечаканым спрытам падвёўся і стаў

у пазіцыю. Абодва стаялі адзін супраць другога, як баявыя пеўні, і нават чупрынка на галаве караля вельмі нагадвала грабеньчык.

Кароль зрабіў выпад — Яноўскі адбіў ягоную палку. Некалькі хвілін яны скакалі адзін вакол другога, саплі. Толькі і было чуваць:

— Я табе, булавешка дурная, ногі ў спіну пазаганяю.

— Я табе, дзядзечка, дам на пазвон.

— Мазгавешку расквашу, галадранец.

— Бач ты, кароль... (Трах-тах!) А ў самога бажок на нітачцы! (Бах!)

— Свіння не нашага бога! (Грук-грук!)

— У мазгаўні вычаўрыла.

У наступны момант ляпнула, як палкай па гарлачу. Вакол зарагаталі, загігікалі. Яноўскі, адчуваючы, як на галаве наліваецца вялізны гуз, утрапёна замахаў палкай, шмякнуў па нечым.

Кароль мякка схіліўся і заараў носам падлогу. На адзін момант прыўзняў галаву, памацаў далонню размяжулены нос і сказаў ціха:

— Наша ўзяла... і рыла ў крыві.

І лёг на спіну, паказаўшы небу круглы пукаты жывот.

Да яго кінуліся, пачалі завіхацца, але толькі праз некалькі хвілін ён прыўзняўся, сеў за стол і, гледзячы на пляменніка, сказаў:

— Заўтра надвячоркам ідзём у наезд.

Праз гадзіну кароль абдымаў пляменніка, ціскаў яго, лез мокрымі вусамі да яго вуснаў:

— Братка ты мой! Хоць ты і тамцюр цара нябеснага, а я цябе люблю, дальбог, люблю... Даю сваё каралеўскае слова — адаб'ём твой маёнтак... Чуеце, чэрці, кароль слова дае!.. Заўтра ж паедзем. Вось толькі судны дзень учыню.

Яноўскі і медыкус пайшлі з залы, не дачакаўшыся канца гулянкі.

Цёмнае-цёмнае неба ляжала над палацам. З адчыненых вокан далятаў да іх шум неўтаймаванай папойкі.

## III

Наступнага дня, ранічкай, ля каралеўскага дома, пад шыбеніцай, сабралася вялікае цыганскае судзілішча. Паставілі высокае крэсла, ля яго сталі два шляхцюкі і два цыганы ў кажухах з доўгімі пугамі на плячы. Сабраўся натоўп, пераважна з егіпецкага племя.

Кісла смярдзела конскім потам, кажухамі, іржавым жалезам. Цыганкі курылі люлькі, часам даючы пасмактаць цыбук мурзатым дзецям. Пасля ўсе прыціхлі. Набліжалася ўрачыстая хвіліна.

Пад спеў труб і грукат старога барабана паважна выйшаў з дзвярэй кароль Якуб. Сеў, сціскаючы ў правай руцэ нейкі пацямнелы, апраўлены ў золата прадмет.

— Што гэта? — зацікаўлена спытаў Яноўскі ў медыкуса.

Левы кут медыкусавага рота паехаў угару:

— Рэліквія. Дзяржанне той самай пугі, якой ён у дастаслаўны вечар, якім пачалося яго цараванне, лупцаваў канакрадаў. Чым не меч святога Стэфана?

Паюк агласіў высокім хрыпатым голасам:

— Слава. Сіла. Моц. Мы, кароль Якуб Першы... (зноў пацягнуліся тытулы, якія Яноўскі ўжо чуў), добрай воляй нашай пастанавілі імем цыганскай дзяржавы, дабрабыту і славы яе, склікаць сёння вялікае судзілішча, пасля якога, ачысціўшы добры наш народ ад зланамерных людзей, вялікі сейм дзяржавы цыганскай учыніць!

Заспявала труба. На тварах некаторых цыганоў Яноўскі заўважыў іранічныя ўхмылкі. Але ўсе маўчалі.

Першая справа была нецікавай. Нейкі цыган падбіў другога на крадзеж, загадзя ведаючы, што нічога добрага з гэтага не атрымаецца: коней вартуюць добра. Сам падбухторшчык шчасліва ўцёк, а яго няшчаснага саўдзельніка спаймалі і, усклаўшы яму на шыю вуздэчкі, білі, водзячы па вёсцы. Добра хоць, што не забілі да смерці.

Прысуд быў кароткі. Падбухторшчыку заплаціць штраф, трэцяя частка якога пойдзе пацярпеўшаму, і атрымаць дваццаць лоз, каб не быў напярод зламысным. Саўдзельніку — пяць лоз, каб не быў дурнем. Калі стан здароўя не дазваляе яму перанесці

экзекуцыю, ён павінен выплаціць палову сваёй часткі ў каралеўскую казну.

— Колькі гэта будзе? — спытаў няшчасны, у якога была абвязана галава.

— Два бітыя талеры.

Саўдзельнік, крэкчучы, пачаў спускаць нагавіцы. Атрымаўшы тое, што належала, ён, абапіраючыся на плечы дзяцей, адышоў убок і лёг жыватом на траву. Яноўскі не заўважыў на твары караля Якуба пакут сумлення. Знамяроўскі глядзеў пыхліва і паблажліва на стракаты зброд, які віраваў ля яго трона.

Разабралі яшчэ некалькі спраў, і прысуд быў амаль той самы: лозы і штраф у каралеўскую казну. Фінансавыя справы караля відавочна паляпшаліся, і відавочна падаў настрой натоўпу.

Сям-там плакалі, скуголіла нейкая жанчына. Яноўскі заўважыў у вачах некаторых цыганоў і многіх мужыкоў падазроныя агеньчыкі. Але суд ішоў сваёй чаргой.

Новая справа прыцягнула яго ўвагу. З радоў выштурхнулі маладую дзяўчыну год семнаццаці і засмаглага, вельмі чыста, надзіва чыста апранутага цыгана, які быў, можа, гады на два старэйшы за яе. Рукі яго былі чорныя, скручаныя працай.

— Гэта яшчэ што? — з пагрозай спытаў Знамяроўскі.— Я вам што казаў? Колькі гэта можа цягнуцца? Я забараніў вам жаніцца год таму назад.

— Зваляліся,— каротка кінуў «каронны суддзя», загонавы шляхцюк Знамяроўскага.

Мітрапаліт узвёў вочы да яснага неба.

— Божа,— велягурыста загадаў ён,— даруй ім, гэтым неразумным агнцам тваім, усе іхнія грахі. Не бо, што робяць. У цемры, у граху душы іхнія... цёмныя вашы душы эфіопскія, каб вы здохлі, паскуднікі!

— Я вам што казаў? — страшна спакойна спытаў Якуб.

— Чаму? — выгукнуў цыган.— Чаму нам няможна? Я хрысціянін, поп ахрысціў мяне. Я сышоў з дарогі майго народа, я не хачу гандляваць коньмі. Я меднік, добры меднік. Я хачу чыніць замкі, а не ламаць іх. Вось яны, мае рукі.

Ён гаварыў горача, скажаючы ад хвалявання словы, патрасаючы чорнымі рукамі ў паветры:

— Я хачу асесці ў хаце Яна, яе татулі. Я буду

многа працаваць за яе. Я буду аддаваць пану ўвесь заробак. Чаму?

Натоўп глуха зароў. Абражанымі здаваліся не толькі цыганы. Але тут Яноўскі ўбачыў, што Знямяроўскі ўстаў. Кароль быў амаль велічны ў гэту хвіліну. Трапяталі ноздры, вочы кідалі бліскавіцы.

— Маўчаць. Вы...

І адразу стала цішыня.

— Я забараніў. Хто ведае, можа, я і дазволіў бы. Але яны абышліся без дазволу. А хто наважыцца ламаць мой наказ? Ты? Ты? Ты?

Палец яго торкаў у асобных людзей, і тыя хаваліся ў натоўп.

— Ніхто. Я забараніў. Я!.. І гэтага досыць. Паюк!

Рука яго зрабіла жэст у паветры. У той самы час паюк прывычным рухам рукі раздзёр на дзяўчыне летнік і рубок і адкінуў іх на траву. Яноўскі чакаў, што натоўп выбухне крыкамі абурэння, але натоўп маўчаў. Бацьку дзяўчыны яшчэ раніцою заперлі ў пуню.

Яноўскі, здзіўлены маўчаннем, перавёў вочы на людзей і заўважыў дзіўнае: усе, нават хлопец-меднік, якому ў гэтым, здавалася б, не было патрэбы, стаялі, шчыльна заплюшчыўшы вочы, быццам баяліся абразіць галізну. Глядзелі толькі людзі з акружэння Знямяроўскага.

Дзяўчына, не разумеючы яшчэ, што здарылася, глядзела вакол вялізнымі сінімі вачыма. Пасля глуха, з такім болем, што ў Яноўскага абарвалася сэрца, войкнула і закрыла далонямі чырвоны твар. Худыя локцікі дарэмна намагаліся прыкрыць яшчэ слабыя неразвітыя грудзі.

Не маючы змогі апусціць вочы, Міхал глядзеў на тонкую, не аформленую яшчэ постаць, на мяккую акругласць жывата, на плаўную лінію, што падзяляла сціснутыя ногі. Ён хацеў крыкнуць, хацеў спыніць гэту агіднасць, але не мог.

— ...і таму, за непаслушэнства загадам каралеўскім і парушэнне законаў чалавечых пра цнатлівасць дзявочую, прысудзіць Алёну Свеціловіч да пакарання лазой.

Дзяўчыну павялі. І тут Міхал сілай сваёй ранняй вопытнасці заўважыў дзіўны выгіб паясніцы і нейкія звязаныя, ненатуральныя рухі клубоў. Голас, якім ён крыкнуў наступнае, быў хрыпаты і рэзкі:

— Пакіньце гэта!.. Вы што ж, не бачыце, што яна цяжарная?!

Знамяроўскі, які ўжо паспеў астынуць, паглядзеў на яго заплыўшымі вачыма і нерашуча сказаў:

— Ну што ж, можна і так. Прынясіце лесвіцу. Мы адлічым лозы, прывязаўшы гэтую распусніцу да прыступак жыватом... каб не скінула.

— Позна, я вам кажу. Яна на трэцім месяцы.

Знамяроўскі, здаецца, нават узрадаваўся гэтаму:

— Добра. Я адмяняю загад.

Мітрапаліт пасунуўся да яго і зашаптаў нешта на вуха. Кароль залыпаў вачыма:

— І сапраўды... а як жа слова караля? Не, так не пойдзе...

Ён павагаўся:

— А вось што... Калі лозы ёй пашкодзяць, дык не пашкодзяць шляхецкія абоймы. Хто хоча ўзяць гэтую распусніцу ў наложніцы?

— Ёй спачатку трэба паразмаўляць з духоўнай асобай аб сваіх грахах,— сказаў мітрапаліт.

— Гм,— хмыкнуў кароль.— Ну што ж...

Але ў гэты момант медыкус раптам выпаліў:

— Я... я бяру яе. І хай паспрабуе нехта крануць яе пальцам.

І ён рэзкім рухам накінуў на плечы жанчыне сваю мантыю.

Адказам на гэты жэст быў рогат. Забыўшыся на аўтарытэт, кароль захлынуўся смехам, трымаючыся за бакі. Ён пасінеў, у горле яго нешта сіпела і клахтала.

Празрысты нос медыкуса стаў малінавым: гэта быў яго манер чырванець. Ён узяў за плячо знясіленую сорамам, аслупянелую жанчыну і павёў яе.

Здавалася, што на гэтым справа і скончыцца, тым больш дзіўным было з'яўленне перад каралём тоўстага цыгана ў кажусе.

— Кепска робіш ты. Чым перашкодзіў табе мой сын?

Кароль глядзеў на яго з лютым гумарком у вачах.

— Ён хоча жаніцца. Кепска скончыцца ўсё, калі роме будуць так крыўдзіць.

У адказ на гэта ў паветры пралунаў гучны пляск.

— Дурань ты, бацька,— прагаварыў цыган, трымаючыся за шчаку.

Але Якуб не звяртаў ужо на яго ўвагі. Ён стаяў над прыціхлым натоўпам, узнімаючы ў паветра свой залаты скіпетр.

— Улюбёныя цыганы! Добры мой народ! Скончыўся суд, і мы, ачышчаныя ад брыдоты, моцныя як ніколі, можам сабраць наш вольны сейм.

Міхалу абрыдла слухаць гэтыя словы. З цяжкім сэрцам выбраўся ён з гамарні і сутыкнуўся з медыкусам, які вяртаўся на сваё месца.

— Навошта вы зрабілі гэта? — з дакорам спытаў Яноўскі.— Разбілі, сапсавалі жыццё людзям.

— Ого,— здзіўлена працягнуў стары цынік,— не пазнаю доблеснай шляхецкай крыві.

І, перш чым юнак паспеў ускіпець, працягнуў:

— Каб я быў бугаём, мяне, на жаль, даўно прадалі б на мяса. Каб нехта сказаў мне: «Пане, зганьбіце гэтую дзяўчыну, а іначай мы вас павесім»,—я адказаў бы яму: «Бярыце мяне, менш буду пакутаваць. Адным ганебным успамінам будзе ў мяне менш на зямлі».

І дадаў:

— Гэта, вядома, жарты. Людзі не варты спагады, але... я сёння проста не мог. Гэтыя слабыя плечыкі, гэты рух, якім яна закрывала твар, менавіта твар. Што зробіш, я непаслядоўны чалавек. Якуб, уласна кажучы, вельмі добры для шляхціца, мы ўломім яго пасля. Прыйдзе і на яго часіна з добрым гуморам. І няхай дзяўчына чакае гэтай хвіліны ў маёй хаце, а не ў хаце гэтага юрлівага папа.

Роў натоўпу перарваў яго словы. Абодва паспяшаліся праціснуцца да трона. Адбылася нейкая змена. Людзей, якія толькі што стаялі ў пахмурным, пагрозлівым маўчанні, нельга было пазнаць. Палаючыя нянавісцю вочы, ашчэраныя зубы.

І сярод іх стаяў, узвышаючыся над галовамі, Знамяроўскі і крычаў, патрасаючы рукамі:

— Вы бачыце яго (рух у бок Яноўскага), вы бачыце гэтага гожага чалавека, уладара братняй, але маленькай і слабай дзяржавы? Вы бачыце яго сумленныя вочы? Чым ён вінен, што хоча жыць самастойна і шчасліва? Але яму не даюць так жыць.— Голас караля дрыжаў: — Злосны і падступны сусед, адроддзе пекла... як бо яго завуць, гэтае адроддзе пекла, а, Міхал? Вось-вось... Ваўчанецкі яго завуць... падступна напаў на яго, парушыў ягоныя межы. Яго маленькі,

даверлівы, добры народ пакутуе пад пятой чужынца, які ломіць яго веру, звычаі, волю. Няўжо вялікая дзяржава цыганская, абаронца справядлівасці і законнай улады, спусціць гэтаму аспіду і васіліску? Не, не будзе гэтага.

Ён прыкрыў рукой вочы і хіснуўся (у паветры моцна запахла гарэлкаю і вайной). Баба, што стаяла непадалёку, раптам загаласіла:

— А-а, божа мой, а што ж гэта з ім, галубчыкам нашым, робіцца? А як жа ж ён жаласна гаворыць!

— Да таго ж,— працягваў кароль,— мы, магчыма, і змаўчалі б, каб гэты Ваўчанецкі не рыхтаваў замаху на нашу волю і незалежнасць. Гэты аспід і васіліск пырскае чорнай жоўцю. Ён сабраў зброю, паставіў пад ружжо сваіх гайдукоў. Ён збіраецца вераломна напасці на нас. Няўжо мы будзем цярпець гэта, мужны народ цыганскі і русінскі? Яны захопяць нашу зямлю, згвалцяць нашых жонак, забяруць нашых коней, цудоўных коней. І не застанецца нават следу цыганскага на зямлі, бо вы будзеце рабамі.

У натоўпе сям-там галасілі бабы. Апакаліптычны жах лунаў над галовамі людзей. Жах і свяшчэнная нянавісць. Чуліся выкрыкі:

— Смерць ім! Бач ты, коней!!! Ражна з'ядуць!

І грымеў голас Знамяроўскага:

— Не, мы самі нападзём на іх. Мы ступім ім на шыю. Мы забяром іхніх коней, мы згвалцім іхніх жонак, мы спалім іхнія хаты. І заззяе ў славе каралеўства цыганскае на векі вякоў. У славе і свабодзе! Нас пакрыўдзілі! З намі бог!

Натоўп роў, стагнаў, задыхаўся. Трэслі кулакамі ў паветры, махалі дубцамі.

— Коні! Коні! Коні!

— Я пайду! І я... І я...

Нехта разважліва бубніў:

— Я не люблю біцца. Але калі яны на нас так, дык мы ім усыплем.

— Бі іх! Смерць драпежнікам!

— Выступаем сёння ўночы!—крычаў Знамяроўскі.

— У-ра! Коні! Коні! Бацька ты наш, літасцівец, уладар!

— Вядзі нас! Вядзі!

Узрушаны натоўп паваліў з плошчы.

## IV

Па пыльнай дарозе яны пад'ехалі да пушчы. Ад узлесся да Яноўшчыны заставалася не больш трох гадзін язды. Першая зорка пераліваласся ў вышыні кропляю крынічнай вады. Стаялі і марылі паабапал дарогі замглёныя раннім туманам стагі.

Ехалі конна, людна і збройна цэлыя суткі, зрабіўшы два невялікія прывалы. Наперадзе ехала дзесяткаў пяць конных цыганоў у кажухах з рацішчамі, пугамі і фузіямі. Пасля цягнуўся воз з каралеўскай кухняй, шатны воз, воз з трыма хартамі і паляўнічымі сокаламі. Пасля — воз караля, вышынёю ў два сажні, упрыгожаны кілімамі.

За ім—трыццаць вазоў са шляхецкай пяхотай. Гэта былі бясконныя загонавыя шляхцюкі, узброеныя шаблямі і пулгакамі, у чыкчырах і чугах, расшытых пазументамі, але сям-там зацыраваных і нават проста дзіравых. Шляхцюкі ўзмоцнена паядалі вайсковы запас.

Замыкалі шэсце семдзесят мужыкоў на калматых і пузатых коніках.

Усяго сабралася больш за трыста чалавек, якія гарэлі жаданнем адпомсціць за няшчасную, знявечаную краіну каралеўскага пляменніка. Сам Яноўскі ехаў начальнікам галаўнога атрада.

На каралеўскім возе, вышэй за ўсіх, як ідал, сядзеў кароль і глядзеў на дарогу ў падзорную трубу.

Раз-пораз ад яго воза скакаў да Яноўскага коннік:

— Выклікае вялікі кароль і гетман.

Яноўскі ехаў да Якуба.

— А што, каханку мой, ці не бачна дзе на дарозе ворага?

— Не бачна, вялікі кароль.

— Ну глядзі ж. А ці не пад'язджаем мы, маршал, да межаў варожай дзяржавы?

— Не.

— То-то ж бо. Ну, ідзі сабе да авангарда.

Яноўскі ехаў, добра ведаючы, што праз дваццаць хвілін яго паклічуць і зададуць тыя самыя пытанні.

Пасля другога прывалу коннікі чамусьці ўсё намагаліся, седзячы ў сёдлах, зрываць кветкі, што раслі паабапал дарогі. Шлях ззаду быў густа засеяны цы-

ганскімі шапкамі і мужыцкімі магеркамі. Коней пачалі гнаць без літасці.

Ляскаталі колы, грукалі капыты, доўгі шлейф пылу і дыму ад люлек стаяў за атрадам. Сям-там шляхта пачынала скакаць у вазах. Некаторыя вывальваліся ў пыл, іх на хаду ўсцягвалі на салому. Рогат, крыкі. У такт стуку капытоў гучала шалёная песня:

Чым жа ж цябе частаваць,
Ты ж мой міленькі?
Чым жа цябе частаваць,
Голубе сівенькі?
Бізуном, мілая,
Бізуном, мілая,
Бізуном, ух-ха-ха,
Мая чарнабровая.

Трэцяя частка воінаў нерухома ляжала ў вазах. Здавалася, што гэта не на вайну едуць, а вяртаюцца пасля піравай перамогі.

Пушча пачала радзець, калі ноч агарнула зямлю цемрывам і вільготным пахам далёкіх балот. Загрукаталі колы па невялічкім мосце. У таямнічай начной вадзе адбіўся рознакаляровы агеньчык Капелы. Кумкалі палка і дружна жабы ў сітнягах.

Толькі за паўгадзіны да гэтага кароль даў загад маўчаць. Нейкі шляхцюк плакаў на возе.

— Бож-жа ж ты мой? А як жа ж гэта маўчаць? А дзе ж вольнасці нашыя? А хто ж гэта асмеліўся нам рот замазаць? Загінула наша краіна...

Яму ўлілі ў горла кубак віна, і ён змоўк.

Вялізныя начныя дрэвы дыхалі водарам сухога летняга дня, які заблудзіўся ў шатах: шкіпінарам, мятай, яшчэ чымсьці, нявінным, чыстым, беклапотным.

Заміргаў за павароткаю дарогі жоўты мірны агеньчык. Пасля другі, трэці. У былым доме Яноўскага не спалі. Дом гэты, аднапавярховы, з мезанінам і галерэяй, з дворнымі будовамі, размешчанымі квадратам, быў абгароджаны высокім частаколам з завостраных бярвенняў.

Пад'ехалі да брамы. Яноўскі заляпаў цяжкім чыгунным кальцом. У адказ сабачы брэх і голас:

— Хто там?

— Госці да пана Ваўчанецкага.

У гэты час цыганы зрабілі нешта накшталт дзвюх

жывых лесвіц у баку ад брамы. Па спінах залезлі наверх два здаровыя мужыкі.

Яноўскі зусім забыўся на тое, што ў браме ёсць ваўчок. Пыхнула губка, асвяціла ягоны твар.

— А-а, вось якія госці!—прахрыпеў голас.—Стары гаспадар... Гэй, варта! Во-ох!.. Што гэта.

Пачуліся прыдушаныя гукі барацьбы. Форткі брамы расчыніліся, і шэры натоўп рынуў на вялізны двор. Пабеглі да дома. І раптам на галерэі нехта пачаў біць у звон. У хаце заварушыліся, забегалі. Пасля жахлівы залп у дзвярэй ірвануў паветра.

Усё закруцілася, як віхура. Аглушаны, збіты з панталыку, Яноўскі, думаючы, што ўсе ўжо забіты, глянуў на атакуючых і не пабачыў страт.

Пасля выявілася, што абаронцы, і ў тым ліку сам Ваўчанецкі, былі п'яныя, як сукіны каты. Іх заспелі проста за позняй вячэраю.

На ганку дома Міхал убачыў дзесяткі тры гайдукоў, якія палілі ў белы свет, і сярод іх самога Ваўчанецкага ў ружовых портках і з шабляю ў руцэ.

— На злом! На злом!—раўлі нападаючыя.—За радзіму! За каралеўства цыганскае! За караля!

Абаронцаў змялі і ўціснулі ў дзверы, дзе яны, устаткаваўшыся на сходах, атрымалі нейкую раўнавагу з нападаючымі. Абодва бакі палілі з фузій так, што атынкоўка са столі ляцела вялізнымі кавалкамі, агаляючы драніцы. У абодвух станах ужо меліся кантужаныя і аглушаныя. Палюбоўніца Ваўчанецкага, падтрымліваючы гонар ваяўнічай беларускай матроны, выліла начнік проста на галаву шляхцюку, што ўзначальваў авангард.

— Бі іх! Душы! З намі бог!

— Святы Юры і Русь!

Сілы ўсё ж былі няроўныя. Праз дваццаць хвілін барацьбы ўсе пачулі дзікі звон шкла: атрад «каронная суддзі» выбіваў шыбы разам з рамамі, пранікаючы ў тыл ворага. Сярод мужных абаронцаў узнікла паніка.

— Нам здрадзілі!—зароў нехта.

Адны абаранялі нарабаванае, другія змагаліся за высокія ідэалы дабра і таму, натхнёныя відовішчам панікі, як ільвы, рынулі на агідных і вераломных ворагаў. Праз хвіліну іх схапілі, скруцілі і, кінуўшы ляжаць на падлозе ў кутку залы, рассыпаліся па пакоях.

Звон шкла, падаючы посуд, трэск фіранак на вокнах. Частка доблесных пераможцаў занялася рэквізіцыяй трафеяў, другая—сыпанула шукаць вінны склеп. Запалалі паходні, загарэлася наводшыбе падпаленая кімсьці адрына, надаючы феерверку яшчэ большую ўрачыстасць.

Бочкі выцягнулі на лужок, выліўшы палову на сходах. Выбівалі днішчы, прыпадалі да чырвоных каскадаў прагна, як атручаныя. У бутэлек адбівалі рыльцы. Запалалі вогнішчы, з хлявоў даляцеў роспачны лямант авечак і неўразумелае, здзіўленае кудахтанне курэй.

Праз гадзіну на вогнішчах смажыліся вялізныя кавалкі ялавічыны, круціліся на ражнах цэлыя авечкі. Разліўное мора віна.

Дзікімі вачыма глядзеў на гэтае спусташэнне Яноўскі. Гэта была галеча. Уварваліся, як дзікія гуны, і знішчылі ўвесь дабрабыт.

А на ганку, асветлены зарывам, стаяў кароль Якуб і, абапіраючыся на шаблю, глядзеў на агонь, як Нерон на пажар вечнага горада.

Паплавец перад ім нагадваў поле бітвы: у карцінных позах ляжалі людзі, збіўшыся ў кучу; блукалі, хістаючыся, параненыя ў бітве з Бахусам.

Шляхта піла ў зале. Елі, пілі, зноў елі і зноў пілі. Ялавічына, бараніна, смажаныя гусі, кюмель, мёд, гарэлка — усё знікала ў бяздонных жыватах, і Яноўскі ледзь не плакаў. Яноўшчына была спустошана да канца. Нарэшце і ён сам пачаў есці і піць. Што ж зробіш?

Стогны з кутка спынілі на хвіліну піраванне. Гэта нагадвала скаргі грэшных душ у пекле, але гэта стагналі пераможаныя:

— Развяжыце, развяжыце нас. Есці хочацца, есці. Разарацца, дык весела.

Кароль Якуб, якога падтрымлівалі пад рукі, падышоў да павержаных.

— Ага, аману просіце. А маёнтак аддасі?

— Аддам, годны рыцар, аддам.

— Кажы — кароль.

— Кароль, каханенькі, кароль.

— Дык вось, з маёнтка — прэч. Паспрабуеш зноў захапіць — галаву скручу. Аддасі пану Яноўскаму дваццаць кароў, трыццаць авечак, шэсцьдзесят гусей

і іншае — па ліку з'едзенага і выпітага. Іначай — канец табе.

— Добра ўжо, аддам, аддам.

— А дараваць табе — справа гаспадара. Зараз дашлеш аднаго гайдука па бацькоў майго высакароднага пляменніка і другога — па кантрыбуцыю. Каб раніцою ўсё гэта было тут. А зараз — развязаць.

І кароль пацягнуў Ваўчанецкага віцаю ніжэй спіны на знак падначалення, а пасля пацалаваў у вусны.

— Ён вялікі, ён мудры! — зацягнулі старую песню прыдворныя Знамяроўскага.— Ён умее пакараць і ўмее літаваць.

П'янка цягнулася далей. Кароль і Ваўчанецкі брахалі пра старыя подзвігі, цалаваліся, ляпалі адзін аднаго па спіне.

Калі змрок знадворку стаў асабліва густым перад світаннем, двор і дом нагадвалі суцэльнае пабоішча. Героі ляжалі паўсюль, як трупы, смурод цягнуўся ад дагараючай адрыны.

Свіння, што нейкім дзівам не трапіла ў кацёл, хадзіла па двары і, задуменна рохкаючы, цалавала рыцараў у твары.

За сталом засталося не больш дзесяці чалавек. Кароль і Ваўчанецкі кудысьці зніклі. Медыкус дзяўбаў носам.

Яноўскі, якога амаль не трымалі ногі, даплёўся да дзвярэй і, чапляючыся рукамі за сценкі (моц бо дзіжая: я ад плота, а яна да плота), пацягнуўся калідорам.

І тут ён натрапіў на нешта такое жахлівае, што хмель адразу выскачыў з галавы.

Упоперак калідора ляжалі два гайдукі і сам пан Ваўчанецкі, а на іх, з голаю шабляю,— Знамяроўскі. Ляжалі ў лужыне крыві.

— Здрада! — нема закрычаў Міхал.— Ваўчанецкі завабіў караля і здрадліва забіў яго. О подлыя!

Прыбеглі людзі. Аслупянелыя, стаялі яны над трупамі, з-пад якіх негустая чырвоная лужына распаўзалася далей і далей.

— Гора нам! — залямантаваў нехта.— Забілі караля! Упаў ты, паражоны рукою здрадніка! Змагаўся, як леў! Трох забіў!

Медыкус расштурхаў людзей і схіліўся над трупамі. Памацаў пульс. Пасля прыўзняўся і махнуў рукой.

— Што з ім? — трывожна спытаў Міхал.

Медыкус плюнуў:

— Свіння. Выбраў месца, каб апрастацца. Вось што бывае, калі п'юць без меры і не закусваюць. Насмактаўся чырвонага віна, лайдак.

— Можа, дапамагчы чым? — спытаў Міхал, усё яшчэ не разумеючы.

— Нашто?! Ён зрабіў самае лепшае, што можна было. Ну, калі вам так хочацца, дык засуньце яму яшчэ два пальцы ў рот.

У адказ «забіты» кароль моцна захроп, і яму адказаў пяшчотным насавым свістам «здраднік» Ваўчанецкі.

Так скончылася вялікая цыганская вайна, адна з самых славутых войнаў, якія вёў кароль Якуб Першы. Вялікую славу здабылі ў ёй усе мужныя змагары. Але і страты былі вялікія: адзін шляхцюк адбіў пячонкі, упаўшы з воза; два захлынуліся віном у склепе; пяць чалавек абпіліся да смерці. Яны загінулі за радзіму. Забітых агнястрэльнай і халоднай зброяй не было. Параненых было шэсць. Кантужаных атынкоўкаю — тры. Акрамя таго, «кароннаму суддзі» вышэйпамянёная свіння ад'ела вуха. Свінню за гэта раніцаю прысудзілі да страты і з'елі пад чорнай падліваю. Нарабілі брыдкасцей і насваволілі — у ахвоту.

А калі раніцаю Яноўскі, перадаўшы спустошаны маёнтак бацькам, паехаў паўночнай дарогаю разам з Ваўчанецкім (іх памірылі) да караля Якуба, які яго не адпускаў, на паўдзённай дарозе да Яноўшчыны можна было пабачыць павучальны малюнак: цягнуліся шляхам каровы, бэкалі авечкі, везлі на вазах гусей і бочкі віна. Каля вазоў крочылі пахмурныя хлопы Ваўчанецкага.

Пераможаны, згодна з рыцарскім гонарам, сумленна плаціў кантрыбуцыю сялянскай худобаю. Сам ён аддаў толькі віно.

Дзядзькі ішлі панурыўшыся, пахмурна гледзячы пад ногі. З хат уцякаў пах малака, уцякала няпэўная сялянская сытасць.

Курыўся дарогаю пыл.

## V

Два дні цягнулася святкаванне перамогі ў палацы Якуба Першага. Гарэлі плошкі, палалі бочкі са смалою. Ляцелі крык, смех, тупанне аб падлогу. У кароткія хвіліны прасвятлення два разы ездзілі на шлях лавіць падарожных людзей у госці. Спаймаўшы мужыка, аддавалі яго гайдукам, каб тыя зацягнулі ў людскую і напаілі там да зялёнага змія.

Калі трапляўся панскі вазок — пераразалі яму конна дарогу, вылятлі з-за дрэў, гікалі, хапалі за морды коней, устаўлялі ў колы вялізныя латы, бралі гаспадара ў палон і з пашанаю везлі ў палац, каб не было за сталом пустых крэслаў. А пустых крэслаў ставала ўсё больш і больш. Некаторыя госці захварэлі і не маглі нават рукою варухнуць. Тры загонавыя шляхцюкі ціха сканалі ў задніх пакоях. Адмучыліся.

Яноўскаму ўсё гэта так абрыдла, што ён знікаў з палаца і накіроўваўся куды вочы глядзяць, часцей за ўсё да медыкуса. Той таксама піў, але хоць разумнейшым рабіўся ад гэтага. Сядзеў, мачаючы агурок у соль, хрумстаў ім і, утаропіўшы ў сабутэльніка ярасныя вочы, злосна казаў:

— Бязглуздзіца! Не краіна, а плод шалёнай фантазіі бога. Вось мінуў чэрвень 1789 года, ліпень стаіць. Мужыкі пуп падарвалі, а тут гуляюць, як быццам заўтра сканчэнне свету. Не грамада, а авечы статак. Вось прыпомні мае словы: яшчэ і новае стагоддзе не настане, а гэтая гнілая дзяржава знікне з зямлі. Не будзе яе, духу не застанецца. І моцны воўк зжарэ слабага. І хоць бы дзе агеньчык! Па ўсёй зямлі маўчыць хлоп. Жонку яго цяжарную сцёбаюць — ён пану ручкі цалуе, галаву яму прабілі — ён крычыць: «Бацька наш, каралеўская кроў, вядзі!» Душна мне, браце, душна мне. Зусім здохнем, калі хоць дзе-небудзь не запалае.

Яноўскі слухаў яго з дзіўным спакоем. Нібы не яго любую, моцную, вольную дзяржаву лаялі. Нібы зусім не шляхціц ён, а самы звычайны лапаць. Словы медыкуса былі як павольна дзеючая атрута. Міхал па-ранейшаму пагарджаў мужыкамі, але і шляхту не мог любіць — наглядзеўся за гэтыя дні. І гэта было рыцарства, надзея Беларусі, яе блакітная кроў. Паганцы!

К канцу другога дня гулянкі адбылося адразу тры няшчасці: абпіліся да смерці два цыганы і памёр, таксама пасля выпіўкі, той цыган, якому прабілі галаву. Ён быў цыганскі старэйшына і піў ад ганьбы.

У дзень пахавання старэйшыны Яноўскі пайшоў да табара. Дзень быў спакойны, ён дагараў за лясамі чырвонаю стужкай зары, і таямніча вымалёўваліся на гэтым фоне спічастыя цыганскія буданы. Міхал прапусціў момант, калі нябожчыка панясуць у апошні шлях. Ён інстынктыўна не любіў чужой смерці, як кожны малады. Проста хацелася хоць хвіліну пабыць сярод людзей, якія не п'юць і не сваволяць.

Ён здзівіўся, убачыўшы, што трохі зводдаль ад шатра нябожчыка стаіць невялікі маўклівы натоўп, чарнеючы ў цемры.

Каб не перашкаджаць ім, Яноўскі адышоў у супрацьлеглы бок і сеў у хмызах, ля вялікага дуба. Тут ён бачыў усё, а яго не бачылі.

Хвілін пяць стаяла цішыня. Пасля няпэўны, ледзь чутны голас заспяваў дзіўную гартанную мелодыю. Праспяваў дзве-тры ноты і змоўкнуў. Падхапіў другі жаночы голас і павёў яе, скардзячыся, і зноў змоўк... Трэці, чацвёрты голас... Песня мацнела, але да самага канца заставалася нягучнай. І раптам зноў цішыня.

Толькі тут пабачыў Міхал, што ад пушчы цягнецца дзіўная працэсія. Людзі, што праводзілі старэйшыну на месца апошняга заспакаення, ішлі гуськом, па адным. Спачатку — цыганы, пасля — цыганкі.

Ля шатра паступова пачало разгарацца вогнішча, людзі кідалі ў яго сухія палкі. Доўгая маўклівая змяя павольна набліжалася ад пушчы.

Калі яна прайшла палову дарогі, нехта выліў на вогнішча цэбар вады. Засіпелі галавешкі. І адразу запалала вогнішча ля суседняга шатра. У яго няпэўным святле Яноўскі ўбачыў постаць проставалосай кабеты, якая крочыла насустрач працэсіі, трымаючы ў руках галавешку са згаслага вогнішча. Хустка на плячах кабеты развявалася ад хуткай хады.

Вось яна падышла да першага, падала яму галавешку. Той узяў яе, не аглядаючыся, перадаў цераз плячо наступнаму, а сам вымыў рукі і твар вадою, якую зліла яму з гарлача тая самая кабета. Усе перадавалі галавешку цераз плячо, усе мылі рукі.

Астатняя бабуля, таксама не аглядаючыся, кінула

яе на дарогу. Зноў скардзячыся, заспяваў хор. Яноўскі не разумеў слоў, але хваляванне сціснула яму горла.

— Ідзі, ідзі ў свой далёкі шлях,— здавалася яму, спяваў хор.— Галавешка апошняга вогнішча, забытая на дарозе... Круцяцца, круцяцца колы... Няма спакою, няма адпачынку... Мы едзем, мы едзем, спаўняючы даўні запавет... Далёкая дарога... Ідзі ў той край, дзе скончацца бадзянні, дзе цябе не пакрыўдзяць... Круцяцца, круцяцца колы... Бясконцы, вечны наш шлях.

Кабета, размахнуўшыся, кінула палаючую галавешку ў шацёр памёршага, і ён адразу ўзяўся зыркім жоўтым агнём.

— Вось палае твой шацёр, апошні твой шацёр,— здавалася, спяваў хор.— Хутка нічога не застанецца ад цябе на зямлі... Застанецца галавешка на пыльнай дарозе, дым забытых кастроў, і колы твайго племя прарыпяць у цемры далей. Круцяцца, круцяцца колы... Далёкі шлях.

Яноўскі не заўважыў нават, што ўсё скончылася. Абудзілі яго ад задуменнасці крокі і галасы непадалёк. Пад дубам стаяла некалькі цёмных постацяў. Дзіўна, але размаўлялі яны па-беларуску.

— Вось і канец.

— Ад ганьбы памёр чалавек. Ой, роме.

Яноўскаму здалося, што першы голас — голас таго цыгана, якому кароль даў аплявуху тады на ганку, а другі — голас таго няшчаснага, у якога гайдукі Знамяроўскага збілі абады на дарозе.

— Хопіць,— азваўся густы бас.— Плачам справе не паможаш. Але заўтра ён нам адкажа, бізун голы.

— За другімі табарамі паслалі?

— Паслалі. Матыс Аўгусціновіч накіраваў чатырох.

— Добра. Толькі трымайцеся, браты. Так трымайцеся, як толькі можна.

Загаварылі па-цыганску, і Міхал павольна пачаў адыходзіць ад таямнічага зборышча. Толькі па дарозе дамоў ён зразумеў, што супраць Якуба рыхтуюць нешта нядобрае, і, хоць матыў цыганскага плачу стаяў яшчэ ў яго вушах, хоць дом Знамяроўскага і вечныя гулянкі яму астабрыдлі, вырашыў папярэдзіць караля. Проста на знак удзячнасці.

Але ў палацы зноў спявалі, зноў далятал і з акон крыкі, брынчанне струн, бразгатанне шкла.

З-пад стала тырчалі ногі мітрапаліта. Кароль Якуб сядзеў на сваім месцы, учапіўшыся ладонню ў нячэсаныя валасы. Карыя вочы былі ўтароплены ў нешта, што бачыў ён адзін. Міхал тарганyў яго за плячо.

— Ты хто такоў? — цяжка, як воўк, павярнуўся да яго Знамяроўскі.

— Гэта я, ваша вялікасць, Яноўскі.

— А-а. Ян-ноўскі. А чаго ж гэта ты такі храноўскі? Ты хто такоў?

— Я пасол.

— А-а, пасол. Пасол замежнага каралеўства. Дык чаго ты лезеш сюды, калі кароль ад-п-пачывае ад д-д-дзяржаўных спраў. Ведай этыкет. Пасля прыму, праз тры дні. І не раней... Ведай маю дабрату. Пшоў прэч!

Яноўскі ледзь стрымаўся, махнуў рукою і на папярэджанні і на размову. Д'ябал яго бяры, раз так. Ён зусім сабраўся пакінуць залу, калі раптам галасы амаль усіх гасцей зараўлі нешта адзінае:

— Дзевак! Дзевак!

Гэты раптоўны псіхоз ахапіў усіх. Нават мітрапаліт выкаціўся з месца свайго адпачынку і пачаў крычаць:

— Вачыма намізаюшчых, тонкашчыкалатных, барвянадзясных, палка лабазаючых!!!

Якуб, як заўважыў Яноўскі, быў амаль раўнадушны да жанчын. Таму ён абыякава паклікаў гайдука:

— Адшукай гэтым бабздырам... І сумленных не бяры, гэтыя свінні ўсё адно нічога не разумеюць. Колькі іх тут? Дваццаць цвярозых? Вось столькі гуляшчых і знайдзі ва ўсіх вёсках.

І зноў сеў. Баль працягваўся, а Знамяроўскі ўсё ніжэй апускаў галаву. Яноўскі даўно заўважыў, што хмель налятаў на яго хвалямі.

— Дзевак! Дзевак! — зноў зараўлі госці.

І раптам Якуб устаў. Яноўскі жахнуўся, гледзячы на яго твар. Наліты крывёй, з ашклянелымі вачыма, страшны. Вялізнай, як цэбар, лапай грукнуў па стале:

— Маўчаць, падлы!

Знямелая цішыня запанавала ў пакоі. Толькі чут на было, як крывая свечка капала воскам на плеш нейкаму п'янаму і той мыкаў у сне.

На твары Якуба краплінамі высыпаў пот.

— Вы — падлы, вы — шчанюкі, п'янюгі, нахабнікі. Дзевак ім, віна! Дзе слава, дзе моц, дзе воля, дзе веліч?! Сны ўсё!!! Сны!!! Сны аб загубленым! З вамі, ці што, царствы пакараць? Вы, можа, воіны, вы, можа, людзі? Лярвы вы, еўнухі, чарвякі! Хто вам дасць больш — таму вы нявесту, маці, зямлю сваю... пад хвост!

Ён заскроб пяцярнёю па абрусе. Вочы сталі дзікімі і вартымі жалю.

— Мерцвякі вы! Людзей вы толькі распінаеце! І я распінаю, і я б'ю. Дзярмо — людзі! Руку, што б'е, ліжуць! Хоць бы хто, хоць бы хто мне па мордзе даў у адказ. Гной прымушу вас есці — будзеце жэрці. Харкну ў твар — зад пацалуеце. Шляхта! Соль зямлі!

Ён павольна пачаў спаўзаць набок, вывяргаючы самую чорную лаянку, упаў на падлогу, забіўся ў п'яных сутаргах, рыдаў:

— Мне б... мне б хоць у зубы тады... можа, чалавекам быў бы... Чалавекам.

Яму прышчіснулі ногі, трымалі за галаву. Пасля панеслі ў спальню. Запанавала маўчанне, такое цяжкае, што, здавалася, грымні пярун — будзе лягчэй.

І раптам «каронны суддзя» выскаліўся, і з горла яго вырвалася:

— Гі-гі-гі-гі!

І адразу загігікалі, ашчэрыліся ўсе. Нясмелы спачатку, смех узмацнеў, пакаціўся хвалямі. Смяяліся доўга, са смакам.

— Дзевак прывёў! — абвясціў гайдук, з'яўляючыся ў дзвярах.— Недабраў толькі гуляшчых, таму з вёскі адну прыхапіў.

І сапраўды, у дзвярах стаялі нарумяненыя дзеўкі. Амаль кожная — капа капою. Вочы падведзеныя, бровы падмазаныя, зубы нахабна выскаленыя.

Усё завіравала. Тыя, што трымаліся на нагах, кінуліся на стракатую юбу. Віск, прытворныя ўскрыкі, смех. Сям-там пачыналі скакаць, сёй-той знікаў з залы. Нейкая таўстуха кінулася на Яноўскага:

— Прыгарні ж ты мяне, красунчык.

Ён з прыкрасцю адмахнууся, выйшаў у калідор і пайшоў да выхаду. Слабы крык прагучаў за павароткаю калідора. Яноўскі ўбачыў постаць «кароннага

суддзі», які паспешліва цягнуў кудысьці за руку дзяўчыну ў белым уборы. Танюткая, сінявокая, яна вельмі нагадала Міхалу тую, што схаваў у сябе медыкус. Тая? Не, не тая. Але падобная. Яна слаба чаплялася за сценку, ён штуршкамі адрываў яе, цягнуў далей. Спуджаная налётам гайдукоў, напалоханая карцінай оргіі, яна толькі паўтарала перарывістым, дзікім голасам:

— Пане! Пане! Пашкадуйце мяне. Я баюся.

«Зараз папросіць ляльку ўзяць з сабою»,— сумна падумаў Яноўскі.

Месяц назад ён прайшоў бы міма. Бацькі яго не заахвочвалі распусты, але гэта ж былі прыгонныя, быдла, створанае для лепшых людзей зямлі. Ды яшчэ і чужое быдла.

— Пане! Пашкадуйце! Памажыце!

І тут Яноўскі прыпомніў постаць той дзяўчыны, прыпомніў медыкуса, што накідваў на яе мантыю, прыпомніў п'яныя яго словы над талеркай з гуркамі, разгром Яноўшчыны, страшны, звярыны крык Якуба сёння ў зале, ногі яго, што біліся на зямлі.

Адзіным скачком ён дагнаў аднавухага, які ўцягваў ужо дзяўчыну ў пакой, і рвануў яго за плячо.

— Пусці. Чуеш, пусці яе.

— А-а, шчанюк... Адчапіся! Мая! — І суддзя пацягнуўся за шабляй. Замест таго каб выцягнуць сваю, Яноўскі сказаў зняважліва:

— Эх ты, соль зямлі...

І разлічана, страшна ўдарыў яго між вачэй. Вораг быў п'яны, толькі гэта і дапамагло Міхалу, калі яны пакаціліся па падлозе, месячы адзін аднаго кулакамі. Міхал хутка высвабадзіўся і, схапіўшы яго за скроні, ударыў галавою аб сцяну, а пасля яшчэ доўга біў яго, біў раз'юшана, глытаючы слёзы ад абурэння на самога сябе, на тое, што на іх амаль аднолькавая вопратка.

У калідоры пачуліся крыкі, тупат ног. Тады Яноўскі хутка выцягнуў ашаломленую дзяўчыну з кутка, штурхнуў у пакой і замкнуў за сабою дзверы. У дзверы адразу пачалі ламацца, пасля пакінулі, пайшлі кудысьці, і стала ціха.

Дзяўчына не плакала, яна проста глядзела на яго з цемры бліскучымі вачыма.

Яноўскі адсмактаў кроў і, каб не было саромна за раптоўны парыў, амаль суха спытаў:

— Як цябе завуць?

— Аглая,— прашаптала яна.

— Які чорт цябе сюды панёс,— сказаў Міхал і пачырванеў.

— Прывялі, пане,— уздыхнула яна.— Адну мяне ўзялі з вёскі. Я ведаю вас. Вы сястру маю абаранілі тады, калі яе хацелі караць... Яна сястра мая.

— Глупства,— разважліва буркнуў Яноўскі.

І таму, што з гэтай дзяўчынай нельга было размаўляць пра мову кветак і прыгоды Дафніса, прыбавіў:

— Кладзіся. Спі. Пойдзеш перад світаннем, калі ўсе заснуць. Зараз небяспечна. Могуць спаймаць за дзвярыма. Спі.

— А вы, васпане?

— Спі. Спі.

— Вы добры, вы вельмі харошы чалавек. Як быццам зусім не пан. Як брат старэйшы. Бог вам заплаціць за гэта, вы будзеце з намі ў раі.

І прыбавіла з глыбокім сумам:

— Я толькі думаю часам, ці ёсць ён, бог,— так мы пакутуем.

— Но! — па прывычцы прыкрыкнуў на яе Яноўскі і спалохаўся, бо яна раптам горка, узахлёб заплакала:

— Божа, як страшна! Як страшна!

«Раскапусцілася, Хадора»,— назнарок груба падумаў Міхал і раптам убачыў яе мокры ад слёз мізэрны тварык, вочы, у якіх стаяў сапраўдны жах.

Тады ён, сам не ведаючы, што прымушае яго так абыходзіцца з гэтай мужычкай, сеў поруч з ёю і пацалаваў яе ў лоб.

— Ну што ты, што ты? Нашто плакаць? Усё мінула. Ну, супакойся! У-у, румза. Ну ціха, ціха. Усё будзе добра. Пойдзеш адсюль перад світаннем. Усё абышлося, будзеш сабе жыць. Мужа табе знойдзем добрага, будзеце жыць, гадаваць дзетак.

Ён бачыў, што яна супакойваецца, але бачыў таксама, што ідылія, намаляваная ім, не даходзіць да яе. І раптам яна сказала горка, але амаль спакойна:

— Не, пане. Не абыдзецца. Другі раз не абыдзецца. Усе гэтым канчаюць, хто раней, хто пазней. Няма выйсця.

І таму, што ён усё яшчэ гладзіў яе галаву, адхіснулася ад яго і, прынікшы да сцяны, сказала:

— Я хацела б толькі, каб наступны раз, калі гэта будзе... мне хацелася б, каб гэта былі вы. Бо калі нейкі разлезнік або проста пан... я ўтаплюся тады.

Яноўскаму стала пякуча сорамна. П'янка, наезд, суд — і гэтыя словы, першыя словы, у якіх быў чалавек. За ўсе дні.

Ён сядзеў невядома колькі, сціснуўшы скроні, а пасля ўбачыў, што яна спіць, стомленая перажытым жахам.

І тады ён ціха, як злодзей, чырванеючы ад сораму, паклаў яе на падушкі, нячутна накрыў коўдраю, а сам доўга яшчэ глядзеў ёй у твар.

Пасля ўздыхнуў, сцягнуў з сябе чугу і, разаслаўшы яе ля дзвярэй, расцягнуўся на ёй.

У гэтым была і ганьба, і помслівая асалода, і нейкае светлае, чыстае, трохі сумнае і зусім новае пачуццё.

## VI

— Пане, уставайце. Ой, пане, уставайце!

— Што, што такое?

— Ой, пане, дрэннае нешта робіцца за агароджаю.

Яноўскі ўсхапіўся на ногі. Перад ім стаяў адзін з гайдукоў караля, спуджаны ледзь не да смерці. Міхал, здзіўлены, чаму ён спіць на падлозе, нарэшце ўсё ўспомніў і спытаў:

— А дзяўчына дзе?

— Якая дзяўчына? А, гэтая, што тут? — І гайдук ашчэрыўся.— Мы іх раніцою не трымаем. Пайшла дахаты.

— Ну і добра.

З дзённым святлом, хоць і вельмі саслабелыя, вярнуліся забабоны і правілы маралі дзён былых. Яноўскаму было пякельна сорамна за падзеі гэтай ночы. Так, гэтая Аглая цудоўная дзеўка, так, суддзя не чалавек, а брудная свіння, і ён не шкадуе, што ўчора набіў яго. Але суцяшаць, як быццам поруч з табою нясчасная княгіня, але спаць ля дзвярэй, як быццам ты ў спальні каралевы. Бязглуздзіца!

Ён хутка апрануўся, прычапіў шаблю і пабег да дзвярэй. У замку было пуста. На ганку Міхал убачыў натоўп гайдукоў, якія завіхаліся ля гарматы, наводзячы яе на зачыненую браму. Бязладныя крыкі. Нехта

сыпле ў жарала порах з картузоў. Мітусяцца, крычаць.

Яноўскі расштурхаў людзей, выбег на двор.

— Што такое?

— Паглядзі сам,— змрочна кінуў нейкі шляхцюк, жоўты з перапою.

Яго вачам адкрыўся жахлівы малюнак: выган перад частаколам быў чорны ад цыганоў. Задзёртыя засмаглыя твары, разяўленыя зяпы. Суцэльны крык. У паветры калы, сякеры, пугі.

Кажухі расхрысталіся на грудзях. У вачах лютасць.

Медыкус стаў поруч з Міхалам. Вочы яго ззялі незразумелым захапленнем.

— Сёння мы, здаецца, загінем.

Міхал кінуў на яго бліскавічны злосны позірк:

— Яны загінуць. Забыліся, на каго ўзнялі меч. Мы п'янюгі, але мы ўмеем ваяваць.

І скінуў шапку.

— Дзякуй табе, божа. Ты яшчэ раз дасі мне перад смерцю пабачыць, як замест віна льецца блакітная кроў.

Медыкус іранічна глядзеў на яго:

— Божа, якія героі!

— Дзе кароль? Дзе госці? — замест адказу спытаў Міхал.

— Дрыхнуць.

— Ну што ж, тым лепей.

І ён спусціўся ўніз. Яму ўдалося згуртаваць атрад з дваццацёх цвярозых шляхцюкоў. Ён паставіў іх трохі воддаль ад гарматы, злева ад брамы, каб ударыць, калі пачнуць прабірацца на двор.

«Каронны суддзя» выбег з дзвярэй, пабачыў, што шляхту ўзначальвае Міхал, і пачаў аддаваць загады гайдукам:

— Смялей, дзецюкі. Радзіма глядзіць на нас. Яна дарагая, яна вялікая. Хто памрэ, таго бог адзясную сябе пасадзіць. За радзіму, за караля!

— На злом! На злом! — раўлі тыя, што асаджалі.— Смерць уладарам!

У браму пачалі біць чымсьці цяжкім. Паляцелі гнілыя трэскі. І тут Яноўскі ўбачыў караля. Апрануты, як на баль, ён махаў у паветры шабляй, стоячы сярод захмялелых гасцей.

— Неба! Радзіма! Кароль! Валі, браткі! Сякерай іх! Друком!

Сэрца Яноўскага палала нябесным ярасным захапленнем. Не, жывая была адвага сотні пакаленняў, жывая была слава! Вось яна, сонная, ля віннай бочкі, убачыла небяспеку, разгарнула крылы і ляціць над галовамі людзей.

Форткі брамы разляцеліся. На двор рынуў натоўп інсургентаў.

— Святы Юры і Русь! Памром! — дзікім голасам закрычаў Яноўскі і кінуўся з шабляю насустрач. Адначасова ён пачуў крык Якуба і ўбачыў яго ўзнесеную шаблю. Не памятаючы сябе, у дзікім захапленні бою, ён урэзаўся ў натоўп, скрыжаваў з кімсьці шаблю, чакаючы, што зараз поруч стануць яшчэ і яшчэ людзі, Гарацыі, героі Плутарха.

Штосьці ўразіла яго. Ён азірнуўся. На пляцоўцы нікога не было, акрамя Якуба і яго. Дзе падзеліся астатнія, цяжка было сказаць. Міхалу здалося толькі, што пад ганкам, у лебядзе, варушыліся чыесьці ногі. Аднак ён біўся.

— Зараз ахне гармата. Вы заскачыце яшчэ.

Страшэнны пярун прагучаў над сечай. Калі дым разышоўся, Міхал убачыў ствол гарматы, амаль раздзёрты на закручаныя палосы, падобны на жоўтую лілею. Поруч з гарматай ляжаў, задзёршы дагары зад, «каронны суддзя».

У тую ж хвіліну шалёны натоўп закруціў Міхала і караля і панёс ад ганка. Іх схапілі, абяззброілі, паставілі воддаль адзін ад другога, скруцілі рукі.

Цыган, што атрымаў тады поўху, узлез на ганак:

— Роме, мы скінулі ярмо, што давіла нас. Цыганская рэспубліка, жыві! Прэч дэспатаў!

Натоўп адказаў крыкамі. Шапкі ўзляталі над галовамі людзей.

— Мы будзем судзіць караля. А ўсіх, што лютавалі, баронячы яго, аддаю ў твае рукі, народ цыганскі. Скончыліся паборы, скончыўся прыгнёт.

— Ура, Ян! Жыві! На шчасце цыганам!

Караля павялі ў палац. На ганку ён крыкнуў:

— Кароль у кайданах — усё роўна кароль!

Яноўскі кусаў вусны ад ганьбы. І гэта былі людзі, гэта былі героі! Лепей было памерці... Адны беглі на гармату — і гэта была быдлячая чарада з пугамі. Дру-

гія — узброеныя, магутныя, моцныя! Божа, божа! Засталася смерць. Толькі яна.

Ян падышоў да Міхала:

— Гэты вёў супраць нас шляхту. Ён адзін кінуўся на нас. Войска яго знікла. Праўда гэта, былы пан?

Яноўскі ўскінуў галаву:

— Праўда. І я пагарджаю вамі. Забіце мяне.

Натоўп зароў, замільгалі ў паветры рукі.

— Смерць яму, смерць!

Яноўскі глянуў на неба, якое было сведкам яго смяротнай ганьбы.

— Забівайце. Я хачу смерці. Мне нельга жыць.

Ён узвысіў голас:

— Калі тут не было сёння шляхты, калі тут былі адны свінні, хай хоць адзін памрэ за ўсіх.— І дадаў хрыпла: — Гонар, жыві!

Лаючыся, расштурхаў натоўп нехта калматы і вялізны. Узнёс самаробную дзіду. Яшчэ! Яшчэ! Ударылі злёгку па галаве.

І раптам нешта адбылося. Яноўскі, што закрыў вочы, адчуў, як нешта цёплае прынікла да яго.

— Не дам яго! Чуеце, не дам! Забівайце разам!

Ён зірнуў. Прыціснуўшыся да яго спіною, распасцёршы рукі, стаяла і глядзела проста ў вочы натоўпу Аглая. Глядзела белымі ад ярасці вачыма.

— Вы што, здурэлі?! Тых, што мучылі вас, тых, што здзекаваліся, не чапаць толькі таму, што сёння яны ўцяклі. А гэтага, які нікога не чапаў, які сястру і мяне абараніў,— забіць толькі таму, што смелы, што не спалохаўся адзін на ўсіх кінуцца? Вы баязліўцы, вы, вы, вы...

— Адыдзі, дзяўчына,— пагрозліва сказаў калматы.— Гэты — наш...

І тут Аглая ляснула яго па шчацэ.

— Твой! Хто гэта твой? Ён, можа? Твае толькі блохі ў кажусе ды крадзеныя коні. Ах ты, халера, казалуп чорны, страшны, рыбак па чужых стайнях. Твой ён? Не! Мой ён, мой! Я тут кожнаму з вас за яго... за яго... за яго...

Цыган з апаскаю адступаў.

— Ён і не пан зусім. Пан не абараняе ад бізуноў прыгонную, пан не будзе біцца з другім панам за дзявочую цноту, не абароніць яе ад усіх, не ляжа на парозе, каб абараніць спакой прыгоннай.

— І ўсё ж я шляхціц,— з гонарам сказаў Яноўскі.— Няма жыцця. Дзякуй табе, харошая, але сёння мне хочацца смерці.

— Сёння яму хочацца... Можа, заўтра табе яе зусім не захочацца, ды позна будзе. Цыганы, родненькія вы мае, не чапайце вы яго, гэтага дурня! Гэта не ён, гэта гонар дурны гаворыць.

І раптам яна, расплакаўшыся, села ля яго ног, абхапіла іх рукамі.

— Не дам... Разам са мною...

Яноўскі адчуў, як вяроўкі ўпалі з яго рук.

— Але,— разважліва сказаў нехта.— Трошачкі маленькай памылкі не зрабілі. Бач ты, як яе разбірае.

— Ды бяры ты яго хоць да д'ябла,— буркнуў другі.

І раптам натоўп цыганоў і мужыкоў зарагатаў такім нутраным гучным здаровым смехам, што стала ясна: нікога пасля яго нельга забіваць. Рагаталі да слёз, рагаталі, узяўшыся за бокі, рагаталі да болю ў грудзях.

І Аглая, баючыся, як бы не перадумалі, цягнула саслабелага Міхала праз натоўп, усміхалася, выцірала слёзы:

— Дзякуй вам, дзякуй вам, родныя.

Пад рогат яна адвяла Міхала да брамы і пасадзіла на траву.

Толькі тут, відаць, нехта заўважыў ля гарматы цела суддзі.

— А гэты мёртвы ці жывы? — спытаў нейкі мужык.

Стары цыган падышоў блізка, схіліўся:

— Нават пратухнуць паспеў.

Ян стаў над нерухомым целам, падміргнуў людзям:

— Мёртвы ён ці жывы, чорт яго ведае. Нума, хлопцы, сцягніце з яго жупан. Не можа гэтага быць, каб шляхціц, калі ён жывы і цвярозы, голым ляжаў. Калі жывы — суд, калі мёртвы — выкінем на бераг, хай ляжыць.

Гульню падхапілі.

— Ну вядома ж, не можа. Куды там! — чуліся галасы.

Ян паглядзеў на голага суддзю:

— Мёртвы-такі, напэўна. Ану, хлопцы, прынясіце з той пушчы чаго-небудзь.

Прынеслі некалькі вязак вялізнай старой крапівы.

— Не можа ж, людзі, шляхціц згадзіцца, каб яго без посцілкі, на голай зямлі, лупцавалі. Як вы думаеце?

— Не можа. Не можа,— разважліва загулі галасы.

Пачалі шмагаць. Мёртвае цела пачало ад шыі да пятак узнімацца белымі пухірамі.

Яноўскі закрыў вочы. Яго пачало трэсці. Спуджаная Аглая пацягнула яго за браму. Але Міхал раптам выпрастаўся. Белы як смерць, ён расштурхаў людзей, ненатуральна прама падышоў да суддзі і плюнуў у яго бок:

— Здраднік ты. Праклён на цябе.

І таксама цвёрда пакрочыў да частаколу.

— Мёртвы, напэўна,— збянтэжана сказаў Ян.— Выцягніце яго, хлопцы, на бераг. Не варта аб яго рукі пэцкаць. Стой... Яшчэ слова. Калі ты, падла, паспрабуеш яшчэ хоць пальцам дзевак зачапіць, як ты гэта сёння паспрабаваў,— з пекла дастанем. Цягніце.

Міхал не чуў усяго гэтага. Ледзь дыхаючы, ён дацягнуўся да рэчкі і там, за хмызамі, упаў на гарачы пясок. Аглая села ля яго.

Не бачыць. Не чуць. Памерці тут і не бачыць, як зламалася ўсё жыццё, вера, смеласць, шчасце.

— Свінні! Ах, якія паршывыя свінні! — стагнаў ён, упіваючыся кіпцямі ў далоні.

А Аглая сядзела поруч і гладзіла яго па галаве, як малога:

— Ну не трэба, не трэба. Гаротны ты мой, няшчасны.

— Цяжка мне, цяжка мне, Аглаечка. Што мне рабіць? З кім жыць зараз?

— З людзьмі,— сказала яна.

— Нашто ты ратавала мяне?

Яна змаўчала, і тут Міхал усхапіўся на калені.

— А сапраўды, чаму? — спытаў ён.— Я ж пан, я вораг ваш...

І ўбачыў яе вочы. Сум трапятаў у іх, радасць, яшчэ нешта незразумелае, але, галоўнае,— гонар. Такі сціплы, але цвёрды гонар, якога яму яшчэ не даво-

дзілася бачыць. Зломлены, з раздаўленай душою, ён не мог больш.

Ён здаўся. Ён пацягнуўся да яе, упаў перад ёю, абхапіў рукамі стан, прыпаў галавою да ўлоння:

— Ратуй мяне, родная. Ратуй мяне ад мяне самога, ад іх. Яны страшныя, яны агідныя.

Яна схілілася над ім, прыціснула буяную галаву бліжэй да ўлоння.

— Суцешся, суцешся. Засні. Засні.

## VII

Ён прачнуўся, калі месяц пачаў спускацца ў рачныя воды. Сітнягі ледзь шапацелі пад напорам плыні, крычаў вадзяны бугай.

Ад палаца слаба даляталі спевы, не парушаючыя цішыні. Ён прачнуўся, адчуў, што галава яго ўсё яшчэ ляжыць на каленях дзяўчыны, якія слаба пагойдваюцца, бы ў такт нячутнай калыханцы. Значыць, яна так і не зварухнулася ўвесь гэты час. І ён ляжаў, выпрастаўшыся, жадаючы, каб гэта цягнулася яшчэ і яшчэ. Месяц залівае люстра ракі. Блакіт.

Дзе ён? Што з ім? Дзіўныя сілы ў душы. Быццам зніклі разам са сном цені дзён былых. Усё проста на зямлі, усё ясна.

Месяц — гэта так, зямля — гэта так, людзі, каханне. А што такое ўсё, што было, усе прывілеі, усе подзвігі, вайна, шляхта? Крык п'янага Якуба? Або, можа, зад кароннага суддзі?

Дзе яны, куды яны зніклі? Чаму ён такі вольны і спакойны? Кахаць — гэта так. Жыць, толькі жыць. Вось яна, сіла зямлі, улілася ў яго праз гэтую, якую ён не ведаў яшчэ некалькі дзён назад. Зноў ад яе? Зноў піць, біцца на шаблях, зноў... Ах, толькі не гэта!

Ён прыўзняў твар, глянуў на яе. Распусціла косы, прыкрыла твар ягоны ад сонца яшчэ ўдзень. Так і сядзіць. Твар блакітны, у вачніцах сінія цені. Глядзіць на яго так, быццам сама нарадзіла.

Прамаці Ева. Толькі яны ўдваіх існуюць на гэтай грэшнай, самай лепшай зямлі.

Яна зразумела, відаць, што заснуў на яе каленях адзін — і ён быў слабы і бездапаможны,— а прачнуўся зусім другі — і ў ім моц моцных. Зноў адчула сябе

слабай, аддаўшы сілу, якая не належала ёй, зноў вярнулася да думак іхняй першай ночы.

— Уставайце. Месяц плыве. Цяпер я ўжо не патрэбна вам. Я пайду, мяне шукаюць.

Замест таго каб устаць, ён узяў яе руку, прыцягнуў да сябе і пацалаваў у жорсткую далонь.

— Рука,— сказаў ён.— Пальцы.

Яна пацягнула руку:

— Не трэба гэтага, не трэба. Яны не такія, не для вас. Гэта адно гора. І мне не трэба падзякі.

— Яны для мяне,— проста сказаў ён.— Толькі для мяне. Хай паспрабуе хто-небудзь забараніць мне цалаваць іх... усё жыццё. Няўжо ты думаеш, што я змяняю гэтыя рукі на іншыя, што я адпушчу цябе. Не будзе такога, як мінулую ноч, але я застануся. Гэта маё месца тут, мне тут зручна...

— Пане...— пачала яна, спуджаная пяшчотнай уладнасцю гэтага голасу.

— Пан памёр у сне. Тут ляжыць просты чалавек. Адам. Яму добра са сваёй Евай.

І ён прыцягнуў яе да сябе, пабачыў у вачах адбіткі зор. Яна прасунула далонь між сваёй шчакой і яго вуснамі, але ён адсунуў яе ротам...

А раніцаю ўзышло сонца.

## VIII

— Устаць, суд ідзе!

Пад вялізным дубам, на лавах, сядзелі шэсць цыганскіх старэйшын. Высокая рада. Яны адклеілі на хвіліну зады ад лавы, калі з'явіўся выбраны цыганскі суддзя — той самы Ян, што выдумаў забаву з крапівою, пракурор — нейкі захожы шкаляр, і «аблакат» — саладкамоўны малады цыган з хітрымі і чорнымі вачыма.

Вакол судзілішча расселіся проста на траве цыганы з навакольных табараў і нешматлікія мужыкі. За гэтую ноч цыганскія масы паспелі раскалоцца на памяркоўных і шалёных. У памяркоўных балела галава пасля ўзліванняў Бахусу, і хацелася пахмяліцца. Шалёныя спазніліся і таму палалі свяшчэнным гневам. Сядзелі няўважныя. Размаўлялі.

Устаў суддзя:

— Народ цыганскі. Сёння мы, упаўнаважаныя на

гэта, судзім былога караля цыганоў Беларусі, Літвы і Падляшша Якуба Знамяроўскага, аспіда нячыстага, ваўка і змея.

— Чаму былога? — ляніва спытаў адзін высокі радца.

— А таму, што сёння на тайным пасяджэнні суд цыганскі вырашыў прымусіць караля падпісаць абдыкацыю, сірэч адрачэнне. Хай будзе існаваць зныня і да веку рэспубліка цыганская.

— А што, гэта нядрэнна,— абазваўся ўсхваляваны малады голас.

— Хвіга табе, а не нядрэнна,— ускіпеў другі высокі радца, чалавек з жахлівым шрамам, які перасек вока і левую палову аблічча.— Нам тут за рэспубліку ўсе навакольныя паны скуру здзяруць. Дзе мець прытулак? Дзе коней хаваць, каб улада не дацягнулася? Дзе самому схавацца? Пад крыламі моцнага караля... Ты, можа, рэспубліку тую ў капусту пакладзеш? Ці ў дождж на плечы накінеш? Смаркач ты! Пасняшаліся тут з вашай мужыцкай рэспублікай. Палац штурмавалі, гармату сапсавалі, караля скруцілі, пабілі яго людзей. А зараз збірайся тут, думай, як выпраўляць становішча. А ў сейме хто будзе?

Ускочыў на камень і непачціва перабіў радцу галава партыі шалёных, той меднік, якому Якуб забараніў жаніцца.

— А што? Усім галовы прэч. Тут, на плошчы. Дарогі ў белы стан цыганскага шчасця па крыві вядуць. Сячы галовы! І шчасце, і мір тады будуць. Воля!

— Сапраўды добра,— расчулена сказаў хтось.— Воля. Ідзі і бяры каня. Захацеў — едзеш, захацеў — на месцы сядзіш. Коні свабодна сабе перамяшчаюцца з рук у рукі.

— Цю-у! Захлусіўся! Хіба хто на такую волю пойдзе,— загулі галасы.

Суд не атрымліваўся. Ледзь-ледзь удалося прымусіць усіх замаўчаць.

Узяў слова пракурор у доўгай шкалярскай світцы:

— Людцы! Вялікі натоўп цыганскі! Я абвінавачваю караля Якуба ў злоўжываннях уладаю, несправядлівых прысудах і празмерных паборах.

— Я кароль,— годна сказаў Якуб, што сядзеў пад вартаю на зэдліку.

— Ён не кароль, ён рабаўнік. Quousque tandem

abutere, Знамяроўскі, patientia nostre?[1] Ён шмагаў нашых людзей, біў іх, хоць мы вольны народ... э-э... вы вольны народ. Несправядліва, жорстка каралі наш сумленны, абраны народ. Dura lex! Ён зрабіў нас жабракамі. Як мы жылі? Semper гарох, raro каша, miseria наша[2]. Ён узяў у нас нашы звонкія катлы, нашы вазы, нашых цудоўных коней, вараных, пісаных, сiловацісаных, буланых, белых. У іх былі такія цвёрдыя, непарэпаныя, неабрэзаныя капыты, такія роўныя свае непадпілаваныя зубы, такія мяккія насы з чуллівымі валосікамі. Гарачыя без гарэлкі, моцныя... Ім не трэба было штурхаць кулаком пад пахвіну, калі пакупец крадзецца з саломінкаю да бяльма.

Народ пачаў усхліпваць, сям-там нават рыдалі мужчыны. Пасля пачаліся нясмелыя, але ўсё больш моцныя крыкі:

— Смерць яму! Смерць! Галаву прэч! Разумнік ты наш! Вучоная галава! Смерць каралю!

— Тыран! Забойца! Манарх! — крычаў шкаляр.

Пасля выступіў «аблакат». Хітра прыжмурыўшы чорныя, як вугаль, вочы, ён сказаў ціха:

— Так, кароль нас абражаў, ён браў з нас дзесяціну і больш. Мы пакутавалі пад яго ігам. Але хіба можа хто-небудзь папікнуць наш народ у тым, што ён жорсткі, што ён крыважэрны? Не, наш народ самы добры, самы мяккі, самы рахманы на зямлі. Я прашу пра літасць. Вось ён сядзіць, гэты няшчасны. Няўжо вы не бачыце, як ён схіліў галаву, як слёзы накіпаюць на гэтах добрых вачах, як ён стрымлівае ўздыханні сардэчныя? Майце жаль у сэрцах сваіх. А вось яго слаўны бацю глядзіць з нябёс на няшчаснага сына і плача. І няўжо вы забудзеце яго дабрату? Ён браў у нас коней, але непараўнальна больш ён даваў нам. У вялікіх паходах і войнах пад яго началам мы прыдбалі ўтрая больш коней, мы хавалі іх тут, і ніхто не асмельваўся іх зачапіць. А якія гэта былі коні! Божа мой, іх грывы былі, як хмары, вочы, як чорныя зоры! А якой славы дастала пры іх дзяржава цыганская! Як баяліся яе ворагі, як слухаў яе голас у сейме сам кароль!

---

[1] Дакуль будзеш ты, Знамяроўскі, злоўжываць цярпеннем нашым.

[2] Жорсткі закон!.. Заўсёды... рэдка... беднасць...

Народ плакаў наўзрыд. Нават радцы, падобныя адзін на аднаго, шырока раскрыўшы зяпы, раўлі густымі галасамі:

— Ы-ы-ы!

— Ну што ж,— перапыніў роў аднавокі радца.— Адвядзіце арыштаванага караля прэч.

І кінуў уладна:

— Я думаю, хопіць. Падурэлі. Нарабілі агіднасцей, напіліся, нажартаваліся. Трэба канчаць. І я старажытнаю ўладай старэйшын даю загад. Гэты канчатковы прысуд.

Натоўп змоўк, і проста на галовы людзей упала кароткае слова:

— Чупна́!

— А што ж, нічога. Часам дапамагае,— загаварылі з розных бакоў.

— Дурні вы! Свінні! Вольнасць сваю прадалі, ёлупы! — крычаў Ян і яшчэ некалькі чалавек.— Хоць бы ён і не чапаў вас пасля, якія вы роме? Блюдалізы вы! Адкачоўваю ад вас!

І ён рушыў разам з часткай людзей да шатроў.

Аднавокі махнуў рукою, і шкаляр стаў чытаць вырак:

— Таго цыганскага круля Якуба Першага за злоўжыванні, морд, падступныя намеры... не складваючы з яго каралеўскага высокага сану, калі дараванне ўсім дасць, хто судзіў яго, не адбіраючы маетнасці дзедзіч ягоных, чупной, сірэч пугай, ад-сцябаць.

Калі ўвесь натоўп рынуў да палаца, дзе павінна было адбыцца пакаранне, калі прыцягнулі ў вялікую залу Якуба, нехта раптам крыкнуў:

— Вы хочаце, каб ён быў вашым каралём, а не думаеце, ці зможа ён быць ім пасля такога. Неба не павінна бачыць каралеўскай ганьбы і крыві, ёлупы вы.

— І праўда,— спуджана сказаў шкаляр.— Што ж рабіць?

Збянтэжанасць пагражала перайсці ў анархію. Сапраўды, нельга пакараць, нельга выканаць прысуд. Сабаку пад хвост аўтарытэт старэйшых. І зноў выратаваў аднавокі:

— Роме, небу нельга бачыць каралеўскай крыві. Таму мы сёння адсцябаем арыштаванага так, каб ганьбы і крыві не бачыў ніхто.

На Знамяроўскага кінуліся і скруцілі яму рукі і

ногі. Паставілі. Ён быў бляклы і жоўты, але позірк па-ранейшаму гарэў гардыняй.

— Скручаны кароль — усё ж кароль.

І калі нехта штурхнуў яго, загрымеў:

— Што, над пешым арлом і варона з калом? На калені, хлопы.

Ён думаў, што яму збіраюцца сячы галаву. І толькі калі пабачыў прынесеныя пугі і доўгі вузкі мех, зразумеў, стаў адбівацца галавой і плячыма:

— А, падлы, а, цыганскае адроддзе! Ну чакайце...

Яго схапілі, засунулі нагамі ў мех, выцягнуўшы рукі над галавою. Пасля ў тую самую торбу палезла нагамі старая цыганка, вельмі падобная на ведзьму: сівыя пасмы, глыбока праваленыя вочы, кручкаваты нос. Яна лягла на Знамяроўскага, і ледзь пачалі завязваць мех...

— Ав-вой! А як жа ён, нячысцік, кусаецца!

Пачалі сцягваць з галавы мех і краем алавянай талеркі расціскаць зубы Знамяроўскага, якімі ён ухапіў цыганку за жывот. Трымаўся ён моцна, як бульдог. Ледзь расціснулі, падвязалі яму сківіцы хусткай, каб не мог кусацца, цыганку прапхнулі глыбей. Пасля завязалі рукі ў вусці меха, прапусцілі вяроўку і падцягнулі яе пад столь на вялізны гачок.

Кароль павіснуў у паветры. Пад ногі яму падсунулі лаву, каб ён толькі-толькі стаяў на ёй вялікімі пальцамі ног і не мог пручацца.

— Нацягвай! — крыкнуў кат, які стаяў ужо поруч з вялікай пугай у руцэ.

Размаўляў ён назнарок басам, каб пасля не пазналі. Стаяў моцны, каржакаваты, густа аброслы смалянымі кучарамі. Толькі зубы блішчалі на засмаглым твары.

Цыганка нацягнула мех — рэльефна выступіла з-пад яго спіна і два гладкія паўшар'і.

— Ваша вялікасць, вялікі, літасцівы, мудры кароль,— звярнуўся да іх аднавокі.— Вось твой народ, даведзены да адчаю паборамі, рашыўся на такое. Найніжэйша, пакорліва, усепаддана просіць ён не злавацца на гэта, явіць сваю літасць няшчасным. Мы зрабілі ўсё, каб ганьба не дакранулася да твайго чала, каб ні неба, ні людзі не бачылі святых членаў цела твайго, каб ніводны ўдар не трапіў нікуды, акрамя таго месца, якім ты сам пагарджаеш.

Малады цыган прыклаў вялізную мядзяную патэльню да спіны Знямароўскага; на волі засталося толькі тое, што ніжэй.

— Даруй нам за ўсё. Мы будзем вернымі табе, мы зрабілі гэта толькі таму, каб ты не забыў: нельга занадта крыўдзіць рабоў сваіх. Запомні гэта. Не адбірай нашых коней, акрамя дзесятага, не крыўдзі дзевак, не бі мужыкоў, не трымай вакол сябе людзей прагных. І даруй нам, вялікі.

— Пачынай!

Глуха, як з бочкі, забубнеў голас Якуба:

— Ну я ж вас... Я ж вас... Пачакайце толькі, пачакайце.

Свіснула ў паветры пуга і абвіла ўсё, што ніжэй патэльні. Мех захістаўся ў паветры.

Адлічылі ні многа ні мала сто бізуноў. Лічыла цыганка, што сядзела ў мяху. Пасля няшчаснага пакутніка, вытурыўшы з залы амаль усіх, выцягнулі на волю і паклалі на ложак. Ён адразу скаціўся на падлогу і пачаў качацца па ёй, імкнучыся вызваліцца.

— Хай будзе гэта ўрокам тыранам!

Знямароўскі лаяўся, пырскаў слінаю, роў так, што звінелі шыбы.

Але варта і тры радцы сядзелі так спакойна, не звяртаючы на яго ўвагі, што ён перастаў вырывацца. Праз дзве гадзіны ён проста ляжаў на жываце і сыпаў вытанчанымі праклёнамі:

— Храпы вы цыганскія, фараоны вы егіпецкія, нячысцікі! Каб вы хадзіць ціха не маглі, каб вас на першым крадзяжы спаймалі, кажухі смярдзючыя, каб вас кол з асіны не мінуў. Што, думаеце, не загоняць яго вам, канакрадам? Во-ой, паганцы вы, хрыстапрадаўцы. Каб на вас вечны дождж.

— Бач ты як... лаецца,— флегматычна пакруціў галавой адзін вартаўнік.

У чатыры гадзіны, пасля працяглага ляжання, Знямароўскі толькі глядзеў на ўсіх злоснымі, як у тхара, вачыма ды часам прарываўся кароткай лаянкай. Яго хацелі накарміць, але ён выплюнуў кашу ў твар аднавокаму і лаяўся без перапынку гадзіну.

Пасля праклёны пачалі на вачах радзець.

У шэсць гадзін ён упарта маўчаў.

— Даруйце сваймy народу. Мы развяжам вас,— пачціва звярнулася да яго дэлегацыя.

У адказ выбух лаянкі да сямі гадзін, аднак нейкі стомлены і зусім не красамоўны. Нават таму, хто крyціў галавою, яна не спадабалася.

У восем гадзін трыццаць хвілін вечара Знямяроўскі раптам зарагатаў. Занепакоеныя падданыя кінуліся да яго.

— Развязвай, халуйскія храпы,— крычаў, рагочучы, Знамяроўскі.— Даю вам усім амністыю. Не такая, відаць, свіння — чалавек.

Радцы сталі трымаць кароткую раду, пасля аднавокі звярнуўся да ляжачага:

— І нічога не будзе? Даруеце ўсім нам, ваша вялікасць?

— Развязвайце, д'ябал вас дзяры. Нічога не будзе. Дарую.

— І помсціць, прыгнятаць не будзеце? — асцярожна пыталі ўсе.

— Не буду. Хай вас кадук.

— І дазволіце хлопцу-медніку ажаніцца? І ваяваць не будзеце больш?

— Будзеце вы мяне нарэшце развязваць ці не? Не буду, калі кажу.

— Так, ну яшчэ апошняе, каб нічога такога, як раней, не было. І зусім апошняе — адпусціць на волю сваю прыгонную Аглаю Сваціловічаву.

— Гэта чаму яшчэ? — усклікнуў Знамяроўскі.

— З ёй хоча жаніцца ваш пляменнік, Міхал Яноўскі.

Кароль павесіў галаву:

— Хворы чалавек. Безнадзейна хворы. Ды чорт яго бяры, што мне, шкада дзеўку? Хай бярэ. Спакусы ў дзяржаве менш будзе. Толькі дрэнна гэта. Куды падзенецца яго рыцарскі дух? Эх, было нас два на свеце, зараз адзін я застануся. Загінула радзіма! Ну, развязвайце. Клянуся вачыма маці божай, удзелам святога Юрыя — зямлёй сваёю — я буду ціхім каралём, калі вы хочаце.

Салют з фузій раздзёр паветра за вокнамі, калі вяроўкі ўпалі на падлогу.

— Слухайце, людзі. Кароль Якуб у літасці сваёй згадзіўся даравацъ вам! Ён хоча правіць ціха і літасціва!

Дружны крык прагучаў паўсюль:

— Кароль! Хай жыве кароль!..

...Вечарам наступнага дня, калі Яноўскі, паразмаўляўшы з Якубам, збіраўся ехаць са Знамяроўшчыны, медыкус зайшоў развітацца з ім. Твар ягоны ззяў небывалым радасным натхненнем.

— Значыцца, едзеш?

— Еду.

— І яна з табою?

Яноўскі зірнуў на Аглаю, якая стаяла поруч, чырвоная ад шчасця і сораму, засмяяўся, прыціснуў яе да сябе.

— А куды мне без яе? Для мяне зараз адна дарога — з ёю.

Медыкус сеў за стол.

— Сумна мне будзе без цябе, вельмі сумна. Я цябе палюбіў, хлопчык. Бачыш, як атрымалася: ты прыехаў сюды няшчасным шляхціцам, а ад'язджаеш шчаслівым чалавекам... Не баішся, што бацькі яе не прымуць?

— Прымуць,— упэўнена сказаў Міхал.— Дый што мне ў іх? Я еду толькі абвянчацца. Нагі маёй не будзе ў Яноўшчыне. Пасля бацькоў... я вызвалю сваіх людзей. Я не жадаю быць панам. Гэта смерць, гэта жах...

— І я таксама больш не буду тут,— цвёрда сказаў медыкус.— Я еду. Еду вельмі далёка. Мне было сорамна ўчора. Пасля такога запалу скончылася лупцоўкай. Яны далі Знамяроўскаму багатыя падарункі, з пашанаю адвялі ў палац. Хай ён выправіўся, хай будзе выдатна правіць народам — што гэта за народ, калі над ім стаіць адзін? Хіба можна такі народ назваць вялікім? Я добра бачыў, як яны падалі ніцма, як крычалі: «Хай жыве кароль!» Я думаў, што кожны народ мае такі ўрад, якога сам варты, і няма добрых народаў на зямлі. Учора я цвёрда вырашыў атруціцца. Але я цягнуў, невядома чаму. Ці ад недарэчнай прывычкі жыць, ці аб боязі вялікага «нічога»? І я ўзнагароджаны. Шчасце ёсць на зямлі.

— А што такое? — спытаў Міхал насцярожана.

Медыкус схапіў яго далонямі за скроні:

— Любы мой, любы. Пачынаецца новы дзень. Не ўсё яшчэ загублена. Два тыдні назад народ у Парыжы ўзяў і разбурыў Бастылію. Я ўпэўнены: пажар пачаў-

ся надоўга. І хутка паўсюль захістаюцца троны, павее свежы, бурхлівы, магутны вецер. Я шчаслівы. Чалавек не ліжа руку, што б'е яго. Я пайду туды, праскочу неяк да Рыгі. А пасля — морам. Я з'яўлюся да іх, і папрашу, і скажу: «Вазьміце мяне. Я прыйшоў да вас ад народа, які не менш вас любіць святую волю, які абараняў яе не горш за вас усё жыццё і які зараз не мае волі нават на тое, каб памерці. Гэта недарэчны, любімы мною народ. Сячыце галаву свайму каралю, а пасля пойдзем рабіць тое самае на ўсёй зямлі. І, магчыма, чарга дойдзе і да майго маленькага народа. Ён устане, ён выпрастаецца. І ён пакажа ўсім, якая ён сіла, як ён умее працаваць, ствараць, спяваць... Я іду да іх... Але я хутка вярнуся, пабачыш. І не адзін. І тут сустрэне мяне армія волі... А цяпер бывай... Уцякайце адсюль хутчэй, дзеці. Тут нельга дыхаць. Ідзіце на дарогі, на святло, да людзей».

І ён расчыніў акно.

— Бачыце, сонца сядае. Вялікае сонца нашай зямлі. Яно будзе новым...

— Калі ўзыдзе заўтра,— цвёрда дакончыў Яноўскі, і абняўшы Аглаю за плечы, глянуў ёй у вочы. Пасля яны глянулі на захад, дзе дагараў дымны чырвоны дыск.

## ЭПІЛОГ

Нам давядзецца сказаць толькі некалькі слоў пра лёс нашых герояў.

Кароль Якуб Першы выправіўся і, не прыгнятаючы цыганоў, літасціва правіў імі да самай сваёй смерці, якая наступіла ў 1795 годзе.

Паколькі Яноўскі, нягледзячы на ўсю сваю ўдзячнасць, адмовіўся атрымаць у спадчыну цыганскую карону, са смерцю Якуба скончылася і дынастыя. Цыганы выбралі каралём, і даволі няўдала, таксама лідскага шляхцюка Міласніцкага.

Польшча, дзякуючы гнілому панству, пала. Пачаўся новы перыяд гісторыі Белай Русі. Новыя парадкі не спадабаліся Міласніцкаму, і ён з большасцю заможных цыганоў перакачаваў у 1799 годзе ў Турцыю.

На Беларусі засталася нязначная колькасць цыганоў без дзяржавы, без урадавай арганізацыі.

Яноўскі стрымаў сваё слова, адпусціў на волю па-

сля смерці бацькоў сваіх сялян. Сам ён жыў працаю рук сваіх разам з жонкаю доўга, шчасліва і небагата. Да канца жыцця ён франдзіраваў перад шляхтай і нават прозвішча сваё змяніў, узяўшы «прыдомкам» да яго прозвішча прыгоннай жонкі. Так прайшлі па зямлі беларускай Свеціловічы-Яноўскія.

Праўда, дзеці яго зноў прыдбалі невялікі маёнтак, адзін з маёнткаў дзядоў, але прыгонных у іх ніколі не было. Рошчына бацькі-вальтэр'янца дала свае плады.

Што ж датычыцца слаўнага медыкуса караля Якуба, то звесткі аб ім, няпэўныя і нешматлікія, кажуць вось што.

У славутым Канвенце адным з дэпутатаў, выбраных за заслугі перад рэвалюцыяй, быў чужак, грамадзянін з невядомай краіны, што звалася па-лацыні Alba Russia. Некаторыя сцвярджалі, што па прафесіі ён лекар, як Марат. Ён гэта быў ці не ён — невядома. Але ён адным з першых падаў голас за смерць караля, быў некаторы час урадавым камісарам адной з армій на Рэйне і ў Вандэі.

У страшны дзень, калі Рабесп'ер раздрабіў сабе сківіцу стрэлам з пулгака, гэты чалавек — адзін з нямногіх — да канца абараняў яго і склаў галаву на славутай машыне доктара Гільятэна, якая, як прадажная дзеўка, служыла спачатку рэвалюцыі, а пасля яе ворагам.

Калі гэта быў наш добры знаёмы — шкада. Ён так і не мог вярнуцца на сваю радзіму з воляй на сцягах. Але суцешымся тым, што ён зрабіў усё, што магчыма, што жыццё ягонае было адзіным акордам, у якім не было фальшывых нот.

# ЛАДДЗЯ РОСПАЧЫ

*Аповесць*



*Рыгору Барадуліну*

Жыў сабе год чатырыста назад у беларускім горадзе Рагачове небагаты, але добрага роду дваранін па прозвішчу Гервасій Выліваха[1].

Быў ён з калена Давойнаў, з клана — Мячоў, а якога герба — за даўнасцю год забылася. Усёй маёмасці яго было — замак-развалюха, некалькі коней веку мафусаілава, латы ды меч, ды яшчэ шахматная дошка, але затое быў ён багаты сябрамі і неабдзелены жаночай увагай.

Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін — самых заганных. Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць — «завалідро́га», а мы, людзі роду крывіцкага, «адарвірог», бо некалі, кажуць, такі ў самога Люцыпара рог сілком аддзерлі і зрабілі з яго келіх для пітва. Вады нальеш, і, сілаю самога рога, робіцца гарэлка. Я думаю — байкі гэта.

І сябры ў яго былі адпаведныя. Андрэй Гарбаты з Брачыславічаў, Кірык Балабан з Гультаёў, Галляш Вясна са Свінчуковічаў ды яшчэ Іра Францічак, за пераплёт на служэнне надзелены вёскай Мазурыкі, родам багемец, але п'янюга і бабскі ліслівец — на трох беларусаў.

Толькі ўсёй і працы ў іх было, што цягацца па

[1] Белая чапля.

корчмах і шынкарках ды па навакольных замках, калі гаспадара няма дома, піць віно, як Дняпро п'е Друць, ды дзярбаніць на лютнях і кімвалах багамерзкія песні.

Неяк жылі. Ставілі і бераглі дзяды і прадзеды мёд і віно — і выпіць яго за адно жыццё было цяжкавата нават Выліваху. У лясах была жывая закуска, касулі ды туры. На балотах свіязі, кражныя чагронкі, гразавікі, сярухі, шылахвосці. У рэках судакі, калекі, або балабы[1], самы, сіклы ды міроны, падусты, выразубы, язі ды галаўні, ляшчы ды бялёзны[2], страдалы[3], гусцёркі, свінні вадзяныя, сцярлядкі ды шчупакі.

І з іншым неяк абыходзіліся. У той час Магілёў з Рагачовам нават у Маскву пастаўлялі гатовае адзенне. Краўцоў было — грэблю масці. Так што порты, чугі ды плашчы абыходзіліся танна.

Набяруць гарэлкі, паедуць у лугі, дзіка заб'юць, ды на лаўцах пякуць дзічыну, ды песні гарлаюць — от і ўсё іхняе набажэнства пану богу за тое, што даў ім жыццё.

Нораў у гэтай грамады быў Дняпровы — на вярсту пяцьсот сажаняў звіву,— так што ніколі не ведаеш, чаго ад іх чакаць.

Нап'юцца ды, конныя, з кручы ў Дняпро скачуць. Або купяць за тры шэлегі плыт, усцягнуць на яго майно ды бочкі з божай слязою, захопяць усіх дзяўчат з Вясёлай Слабады дый сплывуць так аж да Лоева. А мужам гарадскім у гэты час хоць ваўком вый.

З Лоева вяртаюцца на конях, мечаных гетманскай клейнай. І кажуць па-рознаму. То — «падарылі», а то «купілі, плыт спрадаўшы». Ды яшчэ смяюцца бессаромна, зубы нахабныя прадаюць.

Два разы стараста накладаў непарушную пячатку на іхняе дабро, за нясплату пазычанага. Думаў — сыдуць і ціха стане ў месце. То адзін раз яны — з нявыкруткі — загналі бацьку Палавуса, што дзесяць год са сваёй гайнёю па наваколлі блукаў і якога стараста з войскам спаймаць не мог.

Загналі і забралі ў яго ўвесь скарб.

А другі раз яшчэ мудрэй прыдумалі. Біскуп Сма-

---

[1] Мень.
[2] Жэрах.
[3] Рыбец.

рагд хадзіў па наваколлі, зачыняючы грэцкага абраду цэрквы, а дабро іхняе рабуючы. Ездзіў, пёс касароты, як Мамай: наперадзе сам з войскам, а за ім абоз нарабаваны.

То яны два разы з футрамі, вaздухамі, залатымі дараносіцамі, ахвярнікамі, крыжамі святымі, дзе пацірамі і дзіскасамі ў яго адбілі ды павялі. Божую зрабілі справу, але не для славы божай, а для мамоны.

Так і не выкурылі іх з гнёздаў.

У багатых, але пацёртых уборах, светлавокія, заўсёды на падпітку. Вакол лірны гуд і дудны роў. На сёдлах — жанчыны. На плячах — сокалы. У сэрцах — няма божага страху.

Рагачоўская грамада, усе мужы статэчныя і радцы, дзякуючы ім страцілі чалавечае падабенства. Ужо нібы не чалавечая зборня сядзела ў радзе і на капе, а статак галінастых аленяў. І не глядзелі гэтыя алені адзін аднаму ў вочы ад вялікага сораму.

Адабралі яны жонак у пана земскага пісара, і ў пана лоўчага, і ў пана старасты, і ў пана кашталяна, і ў пана наглядчыка за бабровымі гонамі. А сам Гервасій Выліваха звёў і паіў вельмі многіх, і нават каханку палкоўніка Чыжа. Палкоўнік спаймаў іх з ліцом і кінуўся быў біць, то яны палкоўніка напаілі пад прымусам і, п’янага, павезлі ў госці да рагачоўскага пробашча, дзе палкоўнік з пробашчавай аканомкай аскароміўся, учыніўшы свальны блуд. Пробашч раніцою, з гарачкі ды болем у галаве пакутваючы, закаціў імшу і на той імшы пана Чыжа пракляў у імя рымскай царквы да дзевятага калена.

А потым здарылася дзіва. Знайшлі на замкавым падвор’і срэбную скрынку, якая ўпала з неба. Так нядаўна ўпала, што яшчэ цёплая была. А ў скрынцы — каштоўнасці. А на скрынцы — надпіс, што ўсё гэта дасылае святы Юры таму з горада, хто не парушыў ніводнага з божых запаветаў.

Над гэтай скрынкай счапіліся ўсе. І замкавыя вялікія людзі, і касцельныя, і людзі царквы. Кожны хацеў давесці, што гэта яму, а таму іншых усіх паплюжыў і выкрываў. І выявілася, што толькі садомскага граху ў горадзе і не было. І так гэта было брыдка, што сяляне пасля таго цэлы год баяліся ездзіць на торг — калі ўжо там такія начальныя людзі. Ледзь не захірэў горад.

А скрынку тую, як выявілася потым, аб чым і дакумент быў завераны і схаваны ў ларніка[1], зрабіў магілёўскі залатар Мацюшка. А каштоўнасці ўсе чыста былі непраўдзівыя, фальшывыя. Вось табе і Юр'еў тэстамент!

Каменні тыя замовіў Андрэй Гарбаты, а скрынку — сам Выліваха. Дзіўны быў іхні хаўрус. Коней любілі — як татары ці угры, сабакары былі — горш за ангельцаў, а ўжо што да жаночага• полу — ратуй нас, пане божа, і злітуйся, гэткія антыхрысты.

Вербенай валасы намосцяць ды пад камяніцы, да паняў. У вочы глядзяць, як анёлы, у саміх ніжэй спіны хвост д'яблаў. І словы ж аднекуль бралі — «сонца ты маё астатняе, лада мая, ветразь мой на шляху да вечнага спасення». А ноздры ў саміх — як у коней трапечуць.

Калі б перад каралём Цыкмунам пала столькі замкаў, колькі перад імі жонак — кароль бы ўладарыў паловаю свету.

Але каралю шанцавала не так.

Нічога ім не маглі ўчыніць, нават калі Гервасій Выліваха зрабіў замах на жонку магілёўскага войта. Войт быў па ўзросту скупаваты.

А жонка ў яго была баба добрая: чаго ні папрасі — не адмовіць... Няшчасны быў горад. Зусім нядаўна яго крымчакі абрабавалі і спалілі, за дваццаць сем год перад гэтым тое самае зрабіла маскоўская рацьь.

Досыць, здавалася б, дык не: свой, унутраны, знайшоўся татарын, брыдкі богу Гервасій.

На духоўным судзе ўсю кампанію сарамаціў біскуп. Казаў, што смушчаюць яны народ самым сваім існаваннем, бо прымушаюць сумнявацца ў бясхібнасці бога. Усё ж, маўляў, і яны божыя стварэнні, дык палучаецца, што Усяведны накшталт дрэннага ганчара.

Яны, аднак, не спалохаліся, і дагмат бясхібнасці бога падсеклі пад корань, кажучы, што нават ён робіць шмат непатрэбнага на гэтай зямлі. Напрыклад, цыцкі ў мужчын. Не было яшчэ на свеце мужчыны, якому б яны хоць раз спатрэбіліся. А калі Творца задумаў упрыгожыць імі мужчыну — то чаму пры-

[1] Архівіст, натарыус.

ляпіў іх на месцы, што заўсёды прыкрытае вопраткай?

Біскуп толькі ротам зяваў, а потым, пасаромлены, напіўся і стаў думаць над гэтай прычынай. І чым больш думаў, тым больш піў, аж пакуль не папсаваўся ў розуме.

У той час аб'язджала свае землі літасцівая каралева Бона з роду Сфорца, жонка яго каралеўскае мосці Цыкмуна. Завітала яна і ў свой рагачоўскі замак, якому столькі прывілеяў давала і фундатарам касцёла ў якім была. І ўладары места кінуліся да яе як да апошняй надзеі:

— Маці літасцівая, ратуй! У богу пачынаем сумнявацца. Унь Гервасій нават ігуменню Азяранскага манастыра звёў, і нічога яму з той прычыны не было, акрамя радасці.

Каралева была літасцівая, але і строгая, і вялікі Цыкмун нездарма казаў, што пакуль яна над дзяржавай — аб маральнасці можна не непакоіцца.

Выклікала яна да сябе Выліваху, і шмат плакалі ўсе ягоныя сябры, а асабліва Іра Францічак, што не вернецца ўжо да іх такі слаўны сябра і сабутэльнік, з якім так прыемна было заўсёды бавіць час.

А Выліваха прыйшоў проста ў залатую палату, убачыў велікавокую жанчыну са строгім ротам, манаха-пісара і ката, усміхнуўся і сказаў:

— Сонца табе заўсёды на шляхах, пані матка.

— Сонца спальвае.

— Ведаю.

— То як ты насмеліўся, робак, самусціць спакой цэлай зямлі? І мне сонца жадаць.

Яна была з Італіі, і Выліваха ведаў гэта.

— Бо, думаю, мала табе яго ў нас.

— Затое ў мяне іх тут два.

— І абое далёка,— сказаў Выліваха.

Стаяў і ўсміхаўся вішнёвым нахабным ротам. А валасы былі залатыя, і вочы светлыя. І зразумела Бона, што ён не просты курацап.

— То што ж гэта ты робіш, Гервасій?

— Нічога. Аднойчы я ўбачыў у палях Верасовую Жанчыну. Тую, што крыкамі палохае людзей, і потым абавязкова нехта памрэ.

— То ж бо ўсе кажуць, што ты важдаешся з д'яблам.

— Гэта нястрашна пасля некаторых жанчын... Дык вось, у яе былі распатланыя валасы, і крычала яна так, што ў людзей дрыжалі сэрцы.

Гервасій усміхаўся.

— А ты?— спытала Бона.

Галава Вылівахі пяшчотна схілілася.

— А я... пашкадаваў яе, пані матка. Яна была, відаць, прыгожая жанчына. І вось праблукала ўвесь век па верасовых пустках, палохаючы ўсіх жудаснымі воклічамі. Так і не зведала, якія паплавы за Дняпром, якое цёплае сена, як п'яніць віно, як не зразумееш, шэпт гэта ці шолах вярбы пад ветрам. Так і не зведала, як цвіце ружовы глог ля маёй камяніцы... Мне стала шкада яе. Мне шкада ўсіх — такое ўжо ў мяне сэрца.

Бона апусціла веі.

— Тлумач.

— Добра. Толькі загадай выйсці... гэтым.

— Чаму?

— Яны не зразумеюць.

Каралева загадала ім выйсці.

— Чаму не зразумеюць?

— Яны не ведаюць, што такое жыццё. Чорны таму, што ён манах. Чырвоны — бо ён варагуе з жыццём, выкручвае і выломвае тое, што бог падарыў цэлым — на радасць чалавеку. І таму яны ворагі жыцця, ворагі бога.

— Але ты крыўдзіш людзей.

— Я крыўджу мёртвых людзей. Жывога — не пакрыўдзіш.

— А біскуп?

— Ніхто яшчэ не піў, не еў, не спаў і не цалаваўся ў касцёле. А яны хочуць зрабіць касцёл з усяго свету. Як быццам бог, пажадаўшы такога, не зрабіў бы гэтага сам... Даў жа нам для чагосьці лясы, і рэкі, і нават такую бескарысную рэч, як святло месяца.

Усміхнуўся.

— Цікава, якія валасы ў літасцівага пана караля, калі ў іх заблытаецца месяц?

— Не ведаю,— суха сказала яна.— У мяне ёсць апачывальня.

— Тады судзі мяне, каралева. Толькі памятай — гэта будзе суд хатняга лебедзя над дзікім.

— Чаму ты так робіш?— з цікаўнасцю падалася да яго яна.

— Жыццё кароткае, як захад. Вось сонца над вадою, а вось — у Дняпры.

— Ты не верыш у рай?

— Так не бывае, каб і тут і там было добра. А мне добра тут.

— А мне — не.

Веі Вылівахі задрыжалі.

— Гэта не твая віна, гаспадыня. Людзі не ўмеюць жыць і таму кажуць пра заўтра, якога не будзе. Сёння мы верым і мучым сваё беднае цела, а заўтра затое будзем жыць. Сёння мы адмаўляемся ад сэрца ў імя велічы, але заўтра нам дадуць узнагароду. Сёння вырываем з сэрца любых, бо нам трэба ўзвялічыць каралеўства, але заўтра мы будзем кахаць.

Голас у яго быў як скрыпка:

— І ты... не думаеш, што аб той самай велічы, напэўна, думаў і Канстанцін Вялікі, а зараз яго Візантыя, нарабіўшы крывавых брыдкасцяў, ляжыць у тле і праху. І нічога не засталося. Ні велічы, ні нават кахання першага кесара. Бо яго не было... То каму ад гэтага лягчэй?.. Я не хачу гэтага, пані.

— Царква патрабуе для цябе вогнішча.

Выліваха пацiснуў плячыма:

— Што ж. У апошнюю ноч у мяне будзе больш успамінаў, чым у Канстанціна Вялікага. І я не пакіну пасля сябе другой Візантыі, акрамя любові. А яна не падуладная туркам... А табе парада — жыві. Апачывальня — гэта як забойства.

— Позна.

— Позна бывае, як кажуць, толькі ў труне. Але я не веру. Я так люблю жыццё — бо проста жыву!— што не магу верыць нават гэтаму.

— Раніцай я клікну варту. Чаго б ты хацеў у гэтую апошнюю ноч?

— Любові.

— Гэта немагчыма,— амаль варожа і жорстка сказала яна.

— Тады — зрабіць табе апошнюю паслугу. Паказаць гэты свет... Толькі не трэба іншых.

І, кажуць, яна згадзілася. А ён павёз яе адхонамі на бераг Дняпра да сваёй камяніцы. Камяніца была старая, з абваленымі зубцамі і без брамы. Але затое

вакол белымі ў цемры аблокамі цвіў глог, святлела брызгліна і ўгадваліся па водару шыпшына і бружмель.

Месяц узышоў над ракою. І нарадзілася два светы. Адзін распасцёрся вакол, а другі перапоўніў Дняпро. Глыбока-глыбока, аж да апошняй зоркі.

Бона паглядзела на мужчыну і ўпершыню ўбачыла месячнае святло ў яго валасах.

...Яна гаварыла з ім пра бога і яго запаветы, кажуць, аж шэсць тыдняў, да дня святога і апосталам роўнага князя Уладзіміра.

Усе бачылі, як стараецца яна вярнуць гэтую аблудную душу на верны шлях, і нават кароль быў бы задаволены, убачыўшы яе намаганні ў доўгіх дыспутах. Яна ведала, што адзін схілены варты сотні верных, і таму была вынаходлівая і няўтомная, не шкадуючы для справы веры ні дня, ні ночы.

А потым паехала, так і не пахіснуўшы Вылівахy ў яго абрыдлівай і закаранелай ерасі і, галоўнае, не пакараўшы яго. Дзіўна, на вуснах яе не было горкай усмешкі, што спадарожнічае паражэнню, а вочы былі прасветленыя, нібы яна ўдастоілася сузіраць святы Грааль, які, як вядома, ёсць вышэйшая ісціна.

Ніхто не ведаў, што яна нават узнагарадзіла пана Вылівахy: за стойкасць, з якой трымаўся ерасі. Падарыла яму залаты з партрэтам вялікага Цыкмуна, каб заўсёды памятаў розніцу між сабою і ім. Гервасій прасвідраваў у ім дзірку і стаў насіць на шыі замест святога агнусека. І як іншыя супакойваюцца, пазіраючы на божага агнца, так Вывіваха, калі ў яго быў дрэнны настрой, выцягваў залаты ланцужок, назіраў знаёмыя рысы, чытаў надпіс «Sigis-rex-polo»[1] — і яму рабілася лягчэй.

Бона не была б жанчынай, каб не прыдумала яшчэ і такога. ...Усе спадзяванні начальных людзей пайшлі марна. Радцы дзерлі на сабе валасы. Ніхто ў свеце больш не мог вызваліць іх ад нечасцівага Гервасія. Ніхто, бо вышэй каралевы нікога не было.

Яны, аднак, памыляліся. У той час, калі Гервасій з сябрамі паляваў на звера і птушку, граў з Ірай у шахматы, калі за вокнамі ліў восеньскі дождж, і ўзімку ляжаў на шкурах з каханай (а ля галоў іхніх ска-

[1] «Сігіз.— кар.— польск.».

каў у каміне цёплы агонь)— другая жанчына рыхталася прыйсці да Выліваxі, каб пазбавіць яго — асалод, а горад — пазбавіць ад яго.

І вышэй за гэтую жанчыну не было нікога на зямлі. Нават Бона была ніжэй за яе.

Яна прыйшла ў самы салодкі час, калі вакол камяніцы толькі-толькі збіраліся зацвісці расны ружовы глог, раскошны бружмель і жаданая, як жыццё, шыпшына. Прыцягнулася па звілістай сцежцы, цяжка пераставуляючы ногі, якія дрэнна згіналіся, закінуўшы на тулаве чорны плашч, нібы ёй было холадна, і ўсміхаючыся вечнай і нязменнай усмешкай, ад якой кідала ў жудасць.

А за спіною ў яе была каса, бліскучая, нібы ў апошні дзень сенакосу.

— Дзень добры, Выліваха,— сказала яна.

Выліваха сядзеў пад кустом глогу і папіваў салодкую раманею. Свяціла цёплае сонца, і пчолы таўкліся ля шпунта бочкі, з якой ён напаўняў свой келіх. Убачыўшы госцю, Гервасій адторкнуў шпунт, і, пакуль напаўняў яшчэ адзін кубак, пчолы віліся над тугім чырвоным струменем.

— Пі,— сказаў ён,— яшчэ зусім нядаўна і я думаў, што дзень гэты — добры.— Смерць узяла шклянку і, прысёрбваючы, села на каменную лаву. Пчолы шкодзілі ёй, і таму яна адламала галінку барбарысу з бутонам і пачала абмахвацца ёю... Гервасій глядзеў на галінку.

— Нешта ты рана,— сказаў ён.

— Дарма. Не ты, а я вызначаю час. Хадзем. Тут занадта пахне жывым.

— Чакай хвіліну.

Ён наліў яшчэ келіх і, прыплюшчыўшы вочы, з уздыхам насалоды выпіў яго. А потым — адкінуў убок.

— Хадзем.

— Ты не хочаш ні аб чым папрасіць?— спытала яна.

— Ты ж не пусціш мяне зрабіць яшчэ адзін пасеў?— усміхнуўся ён.— Ты — варожая руні.

— Не пушчу.

Выліваха нахабна глядзеў у яе вачніцы.

— То пайшлі.

Ён пашукаў чагосьці вачыма і знайшоў гэта: першую кветку шыпшыны. Адламаў яе і прышпіліў да грудзей.

— Бачыш,— сказаў ён,— мы з табою як на вяселле ідзём. З кветкамі.

— Нашто ты яе зламаў?

— Гэта — мая зямля. І яна застанецца са мною, пакуль ты не адсячэш у апраметнай маёй галавы.

Ён прычыніў за сабою фортку, зірнуў на раскошныя глогавыя агароджы і гатовы быў ісці за госцяй.

Дзяўчына-сялянка ішла паўздоўж зялёных платоў.

— Чакай,— сказаў ён Смерці.

Падбег да белай танюткай постаці і моцна пацалаваў дзяўчыну ў прыадкрыты рот.

— Во-ох,— ціха сказала яна, пазіраючы на яго шырокімі прамяністымі вачыма.

— Бывай, мая прыгожая,— сказаў ён.

І пайшоў за Смерцю. Дзяўчына з жахам і пакутай глядзела яму ў спіну. Госця касілася на легкадумнага Выліваху і ўсміхалася вечнай усмешкай.

— Я прыйду за ёю праз сорак год,— з'едліва сказала яна.

Выліваха паціснуў плячыма:

— Нічога. Зараз я даў ёй неблагі ўрок. Апошні ў жыцці. А колькіх яна яшчэ навучыць. Ты кажаш лухту, кума.

Ён паправіў на спіне лютню і рушыў поплеч са Смерцю. Ішоў, здольны кожную хвіліну паваліцца і разбіць нос, бо зусім не глядзеў пад ногі, задзёршы твар у гарачае неба, пад якім нястомна звінелі несмяротныя беларускія жаўрукі.

Курносая маўчала.

— Больш за ўсё я не люблю прыходзіць па такіх, як ты,— урэшце сказала яна.— Яны такія прагныя да жыцця, што я пачынаю думаць: ці не памылілася я са сваёй работай. І яны так любяць гэтую зямлю, што я ў сваіх пячорах пачынаю на хвіліну зайздросціць ім.

Гервасій не адказаў. Галава ў яго была закінутая, нібы ў сляпога, грудзі шырыліся, ноздры трапяталі.

А над ім былі неба і гарачае святло.

...Бліжэйшыя ад іх уваходы ў пекла знаходзяцца, як вядома, даволі далёка ад Рагачова.

— Бывай, брат Палачанін.

— Бывай, лыцар, бывай, дзяўчына.

Трэці пайшоў на поўнач і скора знік у гарачым святле. А яны пайшлі сваёй дарогай і скора ўбачылі замчышча і Дняпро, а ўбаку — старую камяніцу Выліваxі.

Цвіла каля яе брызгліна; белыя аблокі глогавых агароджаў дурманілі зайца, што салодка спаў у іхніх нетрах, каліна выкінула свае пяшчотныя парасоны. А Выліваха ішоў, і рука ягоная ляжала на дзявочым плячы.

Жыццё вярнула яму адзіную. І дзякаваць богу, што не пакінула з ім той, а дало яму лепшую, чыстую і адданую, сапраўднае дзіця гэтай зямлі.

На паваротцы сцежкі, дзе шалеў сіні бэз, перад ім вывернулася шэсце. Наперадзе ішлі сумныя сябры на чале з Ірай Францічкам, а за імі подбегам неслі пустую труну людзі з прытча, спрачаліся аб нечым поп і пробашч, і крочылі з удавана-поснымі лычамі радцы і замкавыя людзі.

Выліваха чуў адны галасы:

— Гора, хлопцы.

— Памянём бедалагу.

— Такое ўпартае, такое моцнае жыццё. Прыдушанае — а жыццё.

Але чуў ён і іншае:

— Ці даруе яму вышэйшая сіла?

— Скажу я вам, чысцец наўрад ці адпусціць такую закаранелую душу.

— Які чысцец?! Усё гэта вашы рымскія выдыганні.

— А пан схізмат!

— Супакойцеся. Пагадзіцеся на тым, што гэта вы — добрыя людзі, а ён...

— І не месца яму сярод лепшых людзей.

— Вяд-дома. Ні грошай у яго не было, ні глыбокай пашаны да ўлад, ні надзейнасці. Ані дабрабыту. Ані маралі.

І тады Выліваха выйшаў на сцежку і адрэзаў сваёй постаццю адны галасы ад другіх.

— Вы можаце вярнуцца,— сказаў ён.— Вас ніхто не прасіў сюды.

У кашталяна адвісла ніжняя сківаца:

— Т-ты... ж-жывы?

— Вядома. І стану жыць я ёю. Пакуль не памру ў адзін з ёю час... Можаце ўзяць гэтую труну для кашталяна: па-мойму, ён ужо смярдзіць.

— Як жа...

— А вы што, думаеце, мы смяротныя і лёгка паміраем?.. Ідзіце, ідзіце. Пакіньце віно нам. Хлябчыце воцат і жоўць, перавозчыкі. У нас — свой эдэм. Не для вас.

І ён узяў дзяўчыну за руку, а сябры абнялі іх. І ўсе яны, кінуўшы на сцежцы людзей над пустою трунай, пайшлі ў зарасці глогу і адвечнай, як гэтая зямля, шыпшыны.

І заяц з глогавых нетраў не кінуўся ўцякаць ад іх, а павараціўся задам да пакінутых і пачаў так рагатаць, што ў яго трэснула верхняя губа.

А глог цвіў над зямлёю, і гэта было сапраўды як эдэм, у якім гучаў ціхі і пяшчотны смех, ці то зайцаў, ці, можа, самога жыцця.

# АПАВЯДАННІ



## ПАЛЯШУК

> Виновники мятежа и вообще лица, содействующие ниспровержению правительственной власти в крае, должны быть, для примера другим, судимы и наказаны немедленно по всей строгости полевого уложения; собирание излишних фактов... лишь усложняет и замедляет делопроизводство.
>
> *З загаду графа Мураўёва*

### I

— Ты ведаеш, што ты падлягаеш расстрэлу? — спытаў стаяўшага перад ім чалавека капітан Румянцаў.

Той змаўчаў. Стаяў прама, неяк дзіўна выцягнуўшыся, і толькі вочы яго з затоеным сумам сачылі за пушчай, куды яму ўжо не было шляхоў.

Увосень 1863 года частка коннага загона Чэнгірэя, моцна патрапаная ў безупынных сутычках з інсургентамі, была, па спецыяльнаму загаду штабканцэлярыі, размешчана на адпачынак у глухім палескім сяле. Толькі-толькі адгрымелі раскаты паўстання, і хоць сам «дыктатар» яшчэ не быў схоплены і нават ніхто не ведаў, ці ў Вільне ён, але ўсё ўжо суціхала, дабіваліся апошнія чырвоныя загоны, няшчасныя, зацкаваныя людзі хаваліся па лясах.

Край дагараў, і разам з тым выпаўзала на свет тое, што раней старанна хавалі: здрада, падлога і мярзотны жах. Усе падонкі людства пачалі сваю мышыную вазню ля гожага нават зараз трупа Паўстання. Махровымі кветкамі ўзраслі лжывыя даносы, шантаж, правакацыя. Спуджаныя бюргеры выкладвалі з кішэняў столькі грошай, сколькі жадаў агаворшчык, абы толькі потым, пры вобшуку, не знайшлі дзесьці ў доме альбо сараі падкінутай зброі.

Усю мярзоту, што звычайна хаваецца па самым дне людское душы, саромячыся падняць галаву, вы-

цягнулі зараз стуль і выставілі для агульнага агляду і прыпадабнення, і капітан Румянцаў, які заўсёды быў сумленным ваякам, пачаў казаць за гарэлкаю:

— Дзярмо. І палячочкі, і гэтыя вашы, паручык Ратч, палескія вылюдкі. Ды, калі праўду казаць, дык і мы такія ж, калі яшчэ не горшыя. «Душыцелі» Няма чаго казаць, гожая для вялікай Расіі справа.

У адзін з апошніх дзён «баб'яй восені», калі лясы пачалі, пасля працяглага бязветрыя, страхаць на зямлю залаты дождж лісця, а ночы былі асабліва цёмнымі — нехта падпаліў стайню і склад з амуніцыяй і зброяю. Надвор'е стаяла ветранае і сухое, і таму ўсё пагарэла датла. Пасілілі каравул, але праз дзве ночы нехта падкінуў у пакой Румянцаву і паручыку Барзіловічу па змяі. Румянцаў «выкруціўся толькі цудам», а паручык памёр, хоць лекар, якога прывезлі з горада, прыпальваў яму ўкус нейкім белым камянём.

І вось тагды салдаты, абшукваючы ваколіцы сяла, выпаралі з нейкай нары пад карэннямі старога дрэва палешука. Ён быў данельга брудны, з амаль бязвусым тварам, і таму цяжка было станоўча сказаць, стары ён ці малады. Нізенькі, у нязменных поршнях і кажуху, з голаю галавою, ён стаяў перад афіцэрамі, шчыльна сціснуўшы сківіцы. Выцягнутая з-за паяса сякера і старая стрэльба, а таксама вагніва і крамень у скуранай торбачцы былі ўлікамі.

— Ты хто такі — спытаў яго Румянцаў.

— Паляўнічы.

— А хто цябе ведае ў акрузе?

— Ведаюць звяры маю кулю.

Румянцаў пасміхнуўся нервова. Гэты дзікун раздражаў яго.

— Ну а можа, ты ведаеш, хто падпаліў на сяле будынкі і кідаў да нас, у вокны, змей.

— Не, не ведаю.

— А хто ж ведае?

— Ведае цёмная пушча, неба, хмары, а той, што зрабіў — усё адно не скажа.

— Чаму?

Паляшук змаўчаў. Ён па-ранейшаму глядзеў на неба, і губы яго слаба рухаліся. Румянцаў паглядзеў на яго і сказаў паручыку Ратчу:

— Вось вам, прыхільнікамісторыі, добры абраз-

чык. Першабытны жыхар лясоў. Ух, фанатычная морда, каб была ахвота паскудзіцца...

Ратч з сваімі жаноцкі прыгожымі вачыма адказаў:

— Гэта не фанатызм, гэта — звычайная абмежаванасць і жывёльная тупасць. У гэтых маіх імшарах патрыятызм і нянавісць да нас пакуль што з'явіцца не могуць. Можа, гэта й не ён падпаліў наогул.

Румянцаў раззлаваўся:

— Ну, ён ці не ён, патрыятызм гэта ці звычайны бандытызм, а я яго расстраляю. У наступны раз не будзе павадна іншым бадзяцца са зброяю ў недазволеных месцах. Шабаш!

І ён разануў далонню па паветры, быццам паказваючы, што няма чаго далей валаводзіцца. Палешука адвялі ў пуню, пакуль паны-афіцэры пераапрануцца і нап'юцца чаю з ромам. Гэта цягнулася амаль што цэлую гадзіну, і ўвесь гэты час паляшук спяваў нейкія, зусім не жаласныя спевы хрыплым голасам, падобным да лаю сабакі. Першым прыйшоў за ім Ратч і пабачыў: паляшук сядзеў, забіўшыся ў кут, і з цемры блішчэлі яго вочы. Ратч спытаў:

— Чаму гэта ў цябе песні такія гнеўныя?

— Мужчынскія,— адказаў паляшук і зноў заціх.

Ратчу падабаўся гэты дзікун, нягледзячы на тое, што гэта была жывёла, тупая і выраджаючаяся з кожным пакаленнем. Бачная была ў гэтай жывёле нязломнасць. Калі паляшук глядзеў на пушчу — Ратчу здавалася, што гэта арол, пасаджаны ў клетку, пазірае на высокія, залітыя сонцам горы. Там шмат часу трымаецца святло, а тут, па лагчынах, ужо ляжыць цемра і імгла, і ніколі ўжо не прашумець яму на верхавінах магутнымі сваімі скрыдламі. Ратч любіў селяніна сваіх беларускіх абшараў, пакорнага, рэлігійнага, набітага забабонамі да мазга касцей і, разам з тым, моцнага, вытрымлівага. Вось зараз ён, вядома, сумуе, што загіне без сабаравання.

— Ты ў якога бога верыш? У уніяцкага альбо праваслаўнага?

— Чаго?

— Ну дзе твой бог: у касцёле ці ў царкве?

Паляшук зітхнуў і адказаў упэўнена:

– А нашто бога саджаць у каменную будку? Бог у кожнай былцы, і ў лясах, і ў багне — паўсюль.

«Нейкі палітэізм»,— падумаў паручык.

Ззаду Ратча затрашчаў барабан: падыходзілі салдаты.

Справа ўжо йшла к вечару. Стаяў шэры кастрычніцкі дзянёк, і хоць раннія маразы ўжо скончыліся – яны падтачылі лісце, і яно валілася зверху чырвонымі варахамі, і лес безупынна шалахцеў, прыгавароны да страты.

Чорныя галіны дрэў асабліва ярка вымалёўваліся на гэтай чырвонай казцы, а ліст ляцеў наўскасок, ляцеў, ляцеў.

Паляшук ішоў, аточаны чатырма салдатамі, і нешта мармытаў сабе пад нос. Твар яго часам уздрыгваў і на ім з'яўляўся нейкі дзіўны празрысты выраз, амаль дзіцячы па яснасці. Калі ўжо амаль падышлі да месца расстрэлу — ён ненарокам пакінуў у калюжы адзін поршань, але не заўважыў гэтага і пайшоў далей. Нага хутка пачырванела ад холаду, і Ратчу было непрыемна глядзець на гэта. Зусім скалелы ад холаду Румянцаў сказаў палешуку, калі яго паставілі да дуба:

— Ты б памаліўся хоць.

Паляшук паслухмяна пачаў казаць наступнае:

— Матка боска заступніца... І свенты Осіп і свенты Мікола, станьце маім ворагам у глотцы колам. Заступіцеся за мяне і зямлю маю... Усіх сумуючых..

Відаць, ён нават не ведаў малітваў і паўтараў тое, што чуў калісь без усялякага сэнсу. Ратч зарагатаў:

— Што гэта ён такое вярзе?

— Не бачыш — дурань,— адказаў Румянцаў.

А маленькі брудны чалавек усё казаў:

— Зассі іх у багну, не дай ім сонейка пабачыць... Дай хлеба астаўленым. Свенты Осіп і свенты Мікола... Калі не будзеце, як дзеці...

На гэтым месцы ён запнуўся, паўтарыў «як дзеці», і як быццам толькі тут дайшло да яго тое, жудаснае, што з ім збіраюцца рабіць, бо ён раптам паў на калені і заплакаў:

— Не забівайце!.. Паночкі, не забівайце! Я вам грошай дам, шмат грошай!..

Румянцаў наліўся чырванню і закрычаў:

— Падыміся! Трус! Нічтожаства!

Палешука сілком паставілі да дрэва, але раптам Ратч сказаў задумліва:

— Скуль у яго могуць быці грошы? Можа, гэта іхні жонд прыхаваў тут частку свайго скарба?

— Мажліва,— ажывіўся Румянцаў.— Што ж, паспрабуем.

І зноў пакрочыў перад імі паляшук. Ісці давялося ўсяго хвілін пяць. Ля сухой асіны з развілкаю ён торкнуў пальцам у зямлю:

— Тут.

Салдаты пачалі рыць зямлю, Румянцаў з Ратчам пільна сачылі за імі, і вось урэшце салдацкі штык стукнуў аб нешта. Гэтае нешта ўбачыла святло божае ў выглядзе невялічкай драўлянай скрынкі.

— Не, жондаўскім гэта быці не можа. Мала. Відаць, яго асабістае,— сказаў Ратч.

А Румянцаў прыбавіў:

— Вось падлы. А кажуць: галеча. Галеча галечаю, а грошы хаваюць.

Скрынку расчынілі, і адтуль пасыпалася на жоўтую кастрычніцкую траву палешукоўскае «багацце». Асноўную частку скарбу складалі нейкія чатырохкутныя чорныя раменьчыкі.

— Пятроўскія раменныя грошы,— сказаў Ратч і плюнуў.

Былі тут шчарбатыя, ззелянеўшыя грашы, а найболей таго палушкі, збітыя капейкі з лішаямі, адна «Янава галоўка».

— Дык што ж ты мне кажаш, трасца тваёй матары,— падступаў да палешука Румянцаў.

— Грошы, шмат грошай... Можна купіць... Не трэба.

— Э, ды чаго з ім размаўляць,— твар Румянцава зморшчыўся.— Стаў яго да дрэва і канчай размову.

Тагды паляшук зразумеў, што ўсё адно яго не адпусцяць і кончаць тут, ля гэтай сваёй скарбніцы і выцягнуўся, нават здаўся вышэйшым па росту.

— Гэта я падпаліў,— сказаў ён.— Вы мяне заб'еце, але я свае імя перадаў іншаму, і ён вас таксама падпаліць і заб'е, бо кроў бедных людзей... І вы прыйшлі ў гэты лес, не паклаўшы хлеба на пень, і ён вас не выпусціць адсюль. Вы тут памрэце, бо вы кепскія людзі, і я вас сапсаваў.

І чым больш ён гаварыў, тым больш Ратч станаў упэўненым чамусьці, што паляшук ні ў чым не павінны. А Румянцаву прыйшло ў галаву, што асуджаны

саскнарнічаў у апошнюю хвіліну і не паказаў ім сапраўднай скарбніцы. Ён падумаў трохі (паляшук стаяў ля дрэва і маўчаў, толькі вочы яго з-пад брудных, навісшых на вочы касмылёў глядзелі з нянавісцю) і сказаў палешуку:

— Купі сабе жыццё.

— Мне не трэба жыцця,— адказаў жорстка і холадна паляшук.

Грымнуў залп.

## II

Калі паны-афіцэры пакрочылі ўпярод, а знявечанае пякельнай пакутай цела палешука зарылі — адзін з салдат сказаў каротка:

— Эх, паны, на такога бядака грошы пакваліліся.

А другі прадоўжыў:

— А я ўпэўнены, што, калі б там хоць дваццаць сапраўдных рублёў было — яго б выпусцілі жывым. Вось чаго грошы варты... Кажуць, палячышкі, палешукі, а мне здаецца, што калі паны на такое здатны, дык нам з гэтых палешукоў прыклад браць трэба, а не біць іх.

Абярнуўся да ямкі і нагою асцярожна ссыпаў туды грошы:

— Можа, хто падбярэ.

Ратч і Румянцаў ледзь адышлі ад месца страты, як у гушчары нехта варухнуўся. Абодва прыглядзеліся: ля самай дарогі стаяла нейкая жанчына ў лахманах, з змрочным тварам, падобным на твар заморанай разумнай жывёліны. Двое дробных дзяцей трымаліся за яе падол, трэці вісеў у нейкім лянтуху за плячыма. У яе былі сурова нахмураныя брові і глыбока праваліўшыеся вочы, якія глядзелі некуды ў бок паляны. Пачуўшы трэск галіны пад нагою капітана, яна знікла, як быццам праваліўшыся праз зямлю.

— Гэтай што яшчэ патрэбна? — спытаў Ратч.

— Не ведаю.

Адышлі далей, ззаду паказаліся салдаты, і раптам Ратч, які напружана думаў аб гэтым, стаў.

— Стойце! — закрычаў ён.— Бож-жа ж мой! Здаецца, я пачынаю разумець... Вось чаму ён так прасіўся.

Быццам у падмацаванне яго слоў ззаду, з паляны, пачуўся пранэзлівы крык. Ён быў падобны адначасова і на вой, і на лямант смяротна пакутуючага чалавека.

— Што гэта? — спытаў Румянцаў, усё яшчэ не разумеючы.

— А то,— адказаў Ратч з крывою пасмешачкай.— Жанчына, ваўчыха ці, можа, яшчэ што.

Румянцаў зразумеў, уцягнуў галаву ў плечы і амаль пабег да сяла.

На сцежцы, на шляху ляжаў поршань палешука, вада яшчэ не паліла яго з контурам, і ўнутры плаваў жоўты асінавы лісток.

І толькі тут Ратч зразумеў усю непавяртальнасць зробленага.

А на паляне лямантавала жанчына, і ў голасе яе адчуваўся такі адчай, такая безнадзейнасць, што здавалася, уся зямля напоўнена ім і болей нічога не засталося на яе абдзёртых, жабрацкіх абшарах.

Вечарам яны смяротна перапіліся. Ратч узняўся і кінуў Румянцаву ў твар абвінавачванне.

— Вы гэта зрабілі ад злосці. Ганарыцеся сваёй сумленнасцю, а самі жадалі абакрасці гэтага бядака.

— А чым вы за мяне лепшы? — адпарыраваў Румянцаў.

Ратч зваліўся на лаву і зарыдаў п'янымі слязьмі. Румянцаў ірвануў каўнер мундзіра:

— І гэтак паўсюль. У мяне пад Калугаю тое ж бачу ў вачах хамскіх. Хутка яны схопяцца за сякеру, і тады... Мы тут апошнія госці, няпрошаныя на ўсёй зямлі, ненавісныя, прадрачоныя.

А Ратч рыдаў, і праз рыданні чулася:

— О, як яны нас ненавідзяць!.. О, як яны нас ненавідзяць!.. Як жахліва, як холадна нам жыць на зямлі!

Над хатамі раўла навальніца, сыпала дажджом на загубленае ў лясах сяло, чорнай сажай крыла ўсё навакол, і ў яе плачы чуўся і перадсмяротны стогн, і лямант кабеты, і грамавы рык народнай крыўды і помсты.

## ЯК ЗВЯРГАЮЦЦА ІДАЛЫ

Алёнцы год і дзевяць месяцаў.

Але яна ўжо зусім вялікая дзяўчынка. Лічыць жа ж трэба не па ўзросту, а па тым, што ты паспееў зрабіць. А яна ўжо чалавек, таму што даўно навучылася прама хадзіць. І яшчэ навучылася так-сяк выказвацца, і сваякі, ва ўсякім разе, яе разумеюць.

І яшчэ адно, самае галоўнае: варта каму-небудзь зрабіць выгляд, што ён замахваецца на ката, сабаку альбо чалавека,— і адразу гучыць адчайдушна-ўмольны віск:

— І цеба.

Гэта азначае «не трэба». Значыць, галоўнае, з чаго складаецца чалавек, ужо ёсць.

У Алёнкі вялізныя, як сподкі, сінія вочы, ніжняя губка чапялою (адразу бачна, што характар будзе злёгку фанабэрысты і самастойны), тугое, як мячык, цельца і ножкі, якія цэлы дзень тупаюць па доме, садзе і гародзе.

Гэта тып дзіцёнка-шкодніка. І гэта вельмі добра, таму што менавіта з такіх атрымліваюцца потым вартыя чагосьці людзі.

У Алёны ёсць мама, прыгожая распаўнелая жанчына, бацька, які застаўся ў іх горадзе, каб лётаць на «малётах», дзед і бабуля, якія душы ў ёй не чуюць.

Акрамя таго, у яе ёсць яшчэ дзядзька, які зашмат думае над светавымі праблемамі.

Гэты дзядзька больш за ўсё любіцьваждацца і няньчыцца з ёю і, адчуваючы на каленях яе цеплыню, шмат успамінае.

І тады твар яго робіцца змарнелым і пяшчотна-сумным. А бабуля, пабачыўшы гэта, спяшаецца прайсці паўз яго, быццам не бачыць, і аб нечым размаўляе з дачкою, маткай Алёнкі. Часам маці Алёнкі не вытрымлівае і адбірае ў дзядзькі дачку.

— Чаго ты тут век з ёй сядзіш?

— Бо сваіх няма.

Дзед, дзядзькаў бацька, сядзіць пад бэзам у крэсле, і па яго абліччы прабягае цень. На яго тонкіх вуснах з'яўляецца гумарыстычная складка:

— А ты б зрабіў, як адзін сялянскі Рамэа: «Я за ёю ўпадаў, а яна на мяне і пляваць не хацела. Дык

я ў царкву прыйшоў і ёй у кішэнь мёрзлых конскіх каўцюшкоў наклаў». Вы ж, цяперашнія, усе такія.

У Алёнкі ўжо ёсць усе задаткі будучай жанчыны.

Вось яна сядзіць на руках у мамы, а дзядзька цягне да яе рукі і варушыць пальцамі. Яна нерашуча адрывае ад мамы цельца і, выгнуўшы спіну, цягнецца да яго. І раптам — шырокая ўсмешка на твары, і дзіця зноў кідаецца на шыю маці, хаваецца. З-за пляча вызырае толькі гарэзлівае, круцельскае сіняе вока. Яно з радасцю назірае за выцягнутым аблiччам дзядзькі.

І так без канца.

О божа літасцівы, пакутаваць вам, мужчыны, ныня і прысна і давеку!..

Тупае яна па кветніку, а дзядзька сядзіць і думае. Шмат што прыпамінаецца яму. І галоўнае, вайна.

Дзядзька не без падставы лічыць, што людзі зямнога шара пакутуюць толькі з-за страху. З-за страху бяжыць у атаку каланіяльны салдат, з-за страху адрываюць з рота ў галоднага дзіцяці хлеб і нясуць яго на алтар бога, які ў гэтым зусім не жадзён.

Дзеля страху кленчаць, дзеля страху тысячы такіх вось дзяцей па ўсёй зямлі ператвараюцца ў ваўкоў і гадзюк.

Над светам стаіць «Нешта». І палова людства баіцца яго, хоць варта было б толькі ўсім людзям як адзін сказаць «не хачу», і гэтае ідалішча развеялася б дымам.

У дзядзькі ад гэтых думак баліць галава, нараджаецца нявер'е ў сябе і ў род чалавечы.

У Алёнкі таксама ёсць свае страхі. Яны, праўда,— маленькія, але хіба для такога кураняці шмат трэба?

Гэты страх — Пыласос!

Даўно, да прыезду ў гэты дом на адпачынак, ім на кватэру прынеслі падобнае на чарапаху страшыдла. І з таго часу яно напаўняла сваім трэскам пакоі.

Яно бурчала і паўзло, як жывое.

І дзікі, нечалавечы жах апаноўваў Алёнку. Яна нават не крычала, яна глядзела ў адну кропку і дрыжала ўсёй скурай.

Нарэшце дарослыя заўважылі гэта і сталі выносіць малое на вуліцу падчас работы страхоцця, але адразу, з усёй жорсткасцю дарослых, выкарысталі гэты страх.

Прывід Пыласоса вісеў над Алёнкай і тут.

Захочацца пайсці ў кусты і надзерці там поўныя жмені зялёных парэчак — і адразу ж гучыць грозны голас:

— Нельга. Пыласос!!!

Вочы яе адразу акругляюцца і застываюць. Рукі з ружовымі танюсенькімі пальцамі закладваюцца за спіну і там шаруюцца адна аб адну. Яна павaрочваецца і непаслухмянымі губамі паўтарае:

— Там... пасёсь.

І глядзіць на маці вялізнымі вачыма.

Гэтыя вочы так нагадваюць дзядзьку другія вочы, што ён увесь уздрыгвае ад глыбокага і цёплага прыліву пяшчоты.

Потым адбываецца размова з сястрой:

— Не смей яе палохаць.

— А ты сам тады глядзі за ёю ўвесь дзень. На ёй скура гарыць.

— Ну і дзякуй богу. Можа, я гэтых парэчак не еў у дзяцінстве? Або ты? Усе гэтыя твае стрэптакокі — у стэрыльных бальніцах. А там, дзе бабы на полі бульбу капаюць,— аб іх і не чулі.

— Не ты ёй маці, а я. Мне і меркаваць.

Дзядзька маўкліва згаджаецца з бясспрэчнай ісцінай.

І зноў цэлымі днямі гучыць над дзіцёнкам імя страхоцця.

— Не хадзі туды, не рабі гэтага, не рві таго!

— Пыласос! Пыласос!! Пыласос!!!

Проста невыносна. Дарослы — і той бы з'ехаў з глузду ад такога, а тут жа маляўка.

Дзядзька сядзіць і думае. У кожнага ёсць свой Пыласос. І гэты Пыласос робіць з разумнай, гордай, прыгожай істоты, створанай для радасці і мастацтва,— пакорлівую жывёліну.

А сад такі гожы, столькі ў ім нябачных пладоў, столькі хмызнякоў і травяных зараснікаў. Ідзі па ім, тупай пакуль яшчэ слабымі нагамі. А ягады такія празрыстыя, такія сагрэтыя сонцам. Сонца пранізвае іх навылёт, нараджаючы ў каламутнай глыбіні невыразныя контуры семачак. Куст кліча да сябе, як дрэва пазнання. Ідзі ж, ідзі!

— Пыласос!!!

І закладваюцца назад рукі. А родныя вочы, сінія —

як у той — застываюць. Напэўна, і тую, іншую, многа палохалі. Якіх жа намаганняў каштавала ёй вырасці такой, як яна ёсць!

І вось аднойчы, калі брат і сястра сядзяць поруч і брат выказвае свае невясёлыя думкі, з-за вугла дома выплывае касалапым упэўненым крокам круглая Алёнка.

Жывот — наперад, рукі за спіною, на тварыку стрыманы і прытворна раўнадушны выраз.

Яна тупае гаспадарскім, паважным крокам.

Вось падышла зусім блізка да маці, паклала ёй на калені кулачкі, расшчапіла іх.

На яе далонях ляжыць дзесятак зялёных парэчак.

Адразу яе мордачка робіцца круцельская, хітрая.

— Мама. Пасёсь.

І тут дзядзька не вытрымлівае. Ён хапае яе на рукі і шалёна цалуе ў брудныя лапкі, у шчокі, у хітрыя вочы.

— Дачушка ты мая! Дзіця ты маё чалавечае!

## У ШАЛАШЫ

Міхал ледзь паспеў дабегчы да шалаша, калі неба раскалолася папалам і ў рваную расколіну лінула такое сляпучае святло, што захацелася сесці на зямлю. Разам са святлом з расколіны вырваўся сухі кароткі трэск, быццам нехта зламаў над галавою дрэва.

Хлопец кінуўся ў чорны створ шалаша, зачапіўся аб нешта і сеў на салому.

— А каб цябе, каб,— плюнуў ён.

Бліскавіцы секлі неба так часта, што можна было разгледзець усё ў шалашы: саламяны ложак, зэдлік, кошык з бульбаю, кацялок на падлозе, вязку цыбулі і старую ватоўку, што вісела каля ўваходу.

Вартаўніка не было: можа, абходзіў сад, а мо сядзеў у другім месцы.

Міхал высунуў галаву і, калі чарнільны змрок зноў успыхнуў святлом, пабачыў злева нешта падобнае на невялічкую пуньку: сцены з жэрдзя, саламяная, грыбам, страха.

«Яблыкі восенню насыпаць, ці што?» — падумаў ён.

І адразу адчуў далёкі, упэўнены, усё нарастаючы шолах дажджу. Пры свяtле кароткай маланкі вырасла на фоне недалёкага лесу серабрыстая сцяна, насунулася, наляцела, прыціснула ўсё вакол.

Міхал раззлаваўся на самога сябе.

«Вось і трапіў на станцыю. А казалі ж, каб начаваў. Яно і праўда — пасля дваццаці вёрст трэба было. Але ж да станцыі заставалася толькі пяць кіламетраў. Ну вось і начуй — не ў сваякоў, а ў невядомым шалашы».

Дождж, відаць, распачаўся на ўсю ноч.

А салома між тым размаўляла з дажджом. Над самай галавою чулася лёгкае булькаценне і сухое патрэскванне звяшкі — мышынага гарошку.

Свежы вільготны вецер уварваўся ў шалаш, і дыхаць стала так лёгка, быццам ты толькі што нарадзіўся на свет.

Салома размаўляла з дажджом.

Не, гэта ўжо не салома, гэта сапраўдная ціхая размова далятала аднекуль: відаць, з суседняй пунькі. Мяркуючы па галасах, размаўлялі дзве жанчыны: адна ў гадах, другая мо маладзейшая.

Міхал не зварухнуўся. Хай балбочуць пра свае сакрэты. Ён усё адно не пабачыць іх, і яны назаўсёды застануцца для яго незнаёмкамі, ціхімі галасамі, якія прыйшлі з цемры і ў цемры знікнуць.

— Што ж мне рабіць, цётачка? Я ж так кахаю яго...

— А ён і глядзець на цябе не хоча. Учора зноў біўся. Адзін трох хлопцаў пабіў.

— Самі вінаваты. Чапляліся да яго сябра, а той слабы хлопец.

— Што казаць,— голас пажылой раптам памякчэў,— удалы юнак, бацькавіч, але...

— Але, ваша праўда, не хоча ён на мяне глядзець. Як мне цяжка! Гляджу на яго вочы, нахабныя, сінія, дзёрзкія. Чуб — салома такая бывае, трошкі ржавая. І рот вечна смяецца. Такі ён мне прыемны.

Міхал скінуў пінжак, лёг на спіну і закурыў. А маладая вяла далей.

— Ніколі я не думала пра гэта. Але не хачу саступаць. Хачу для яго быць... Абняў ён мяне аднойчы, выпадкова, проста так...

— Глядзі, дзеўка,— сказала пажылая,— так вось наша сястра і гіне.

— А я і рада б загінуць, ды ён, як вецер...

Міхал ціха паўтарыў яе апошнія словы... І тут было няладнае каханне. Ды што да гэтага яму?

«Вось цякуць кроплі,— думаў ён.— І я такая самая кропля. Яны, зліваючыся, утвараюць крыніцу, раку, мора. Ім усё адно, з кім зліцца. Але мне патрэбна толькі тая кропля, адзіная, з якой мы разам нарадзіліся ў зямной глыбіні».

Галасы сціхлі — можа, таму, што вецер налятаў парывамі, хапаў, нёс, кідаў у розныя бакі завесы дажджу. Рабілася халаднавата.

А тады, паўтара месяца назад, быў такі цёплы летні дзень! І Кіеў са сваімі будынкамі, каланадамі, залатымі купаламі, здавалася, плыў кудысьці насустрач поўным, як вымя, аблокам, насустрач сонцу і цеплыні.

Каштаны разгарнулі зялёныя ветразі. На ўскраінах горада сходкі вялі ад хаты да хаты, варыўся на цаглінах абед, надуваліся ветрам, як рыбацкі сак, кашулі на вяроўках, чулася паўдзённая бойкая гаворка.

І вецер гнаў і гнаў вулкамі таполевы пух, высцілаў ім, як сівай коўдраю, зямлю. Хлапчукі кідалі ў пух запалку, і ён выбухаў, як порах, на метр у кожны бок. І адразу, за хвіліну, гэта месца зацягвалася зноў сівой покрыўкай.

Ён быў у Кіеве на экскурсіі і выпадкова забрыў у лаўру, дзе грэцкі арэшнік гладзіў твары прахожых лапчастым лісцем. У зяляніне стаяў старажытны, маленькі, як лялька, храм Спаса на Берастове. Міхал паглядзеў на яго паласатыя сцены (вузенькія, на два пальцы цагліны і слой цамянкі шырынёю ў далонь) і зайшоў у сярэдзіну, спусціўся ўніз па прыступках. Храм не вытрымаў цяжару год і, як Святагор, улез па калені ў зямлю.

У сярэдзіне храма было пуста і халаднавата, бы ў склепе. А праз акенцы віднелася гарачая, напоеная сонцам лістота. Там быў поўдзень, спякота, лянівыя крыкі пеўняў...

Было так ціха, што не хацелася ісці, і Міхал стаяў каля вельмі непрыгожага надмагільніка Юрыя Даўгарукага і думаў, што князю не пашанцавала. І помнік

няважны, а тут яшчэ і саркафаг зрабілі такі, што толькі пужаць дзяцей.

— Вось дзядзька са скрыцкі ўстане — ён табе!..

Ох, лепей бы не Юрый заснаваў Маскву, а хто-небудзь іншы! Тады не ставілі б гэтага надмагільніка-саркафага.

Усе няшчасці для Міхала пачаліся з яго.

Таму што непадалёк стаялі тры хлопцы і дзяўчына. У дзяўчыны былі моцныя, як у хлопца, ногі, а рухі такія, быццам яна гуляла ў лапту: рэзкія, спрытныя, гожыя. І галава пасаджана на шыі так, што валасы заўсёды адкінуты назад. Тварык шчыры, жвавы, як у дзіцяці, і вельмі разумны. А вочы, ох, якія вочы!

Міхала толькі здзівіла, што хлопцы яе нейкія цельпукаватыя, з чорнымі, нячышчанымі пазногцямі. І глядзяць яны на яе без усялякай пачцівасці і папросту клічуць Мар'яшай.

А сам ён толькі зірнуў і адчуў, што прапаў.

Мар'яна між тым злёгку штурхнула аднаго з хлапцоў далонню ў лоб.

— Лёвачка, Лёвачка, гэта ж трэба такі кабак на плячах мець? Шукаць трэба было.

— Ну а каб нават і адшукалі касцяк, што тады? — апраўдваўся ён.— Як даведаліся б?

— А як Яраслава пазналі? — спытала замест адказу яна.

— «Яраслаў бысць хром»,— прабасіў другі юнак, у акулярах.

— Ды яшчэ па белай пляме на чэрапе,— жвава падхапіла яна.— След мяча. Неяк і гэтага пазналі б.

І тут Міхал не вытрымаў. Страшна было нават падумаць, што дзяўчына знікне некуды — і канец. Таму ён падышоў і глухім, бы ў бочку, ненатуральным голасам спытаў:

— Прабачце, хіба дакладна невядома, дзе пахаваны князь?

— Ну так, так,— загарэлася яна.— А хіба вы не ведаеце?

У Міхала быў выгляд чалавека, які праглынуў лом.

— Не ведаю,— сказаў ён,— я толькі паляўніцтвазнавец.

— А мы археолагі,— усміхнулася яна,— зараз тут, з украінцамі разам, працуем.

— Цікавая ў вас праца,— шчыра сказаў Міхал.

— А ў вас?

— Таксама. Але ў вас яна асаблівая: скарбы шукаць, закінутыя гарады.

Усе пырснулі. Толькі яна надзвычай уважліва глядзела на яго:

— Гэта не так прыгожа. Вы што, ніколі не бачылі раскопак?

— Не. Але вельмі хацеў бы.

— Хлопцы,— рашуча сказала яна,— бяром яго з сабой. Хочаце з намі?

— Вельмі,— загарэўся ён.

— Тады едзем. На Борычавым Узвозе пракладалі траншэю і натрапілі на цікавыя рэчы. Нас там чакаюць.

— Горача,— заныў Лёвачка,— піва хачу. Паспеем.

— Леў Пятровіч,— яна заклала рукі за спіну, тонкія рукі з залацістым пушком каля локцяў,— я думаю, з вас ніколі не выйдзе акадэмік. І не толькі акадэмік, а нават чалавек. Наш знаёмы імкнецца павысіць свой узровень, а вы... Фу, якая негасцінасць!

І ўсе паехалі. Відаць, Мар'яна была добрым завадатарам.

У трамваі Міхал сядзеў поруч з ёю і расказаў, па яе патрабаванню, аб тым, хто ён такі, ці надоўга тут (на два дні) і як палююць на лісіцу ў нары (з факстэр'ерам).

А ветрык гуляў яе валасамі, лашчыў твары ўсіх, сваволіў у лістоце каштанаў, прыгаршчамі кідаў на рукі дзяўчыны залатыя плямы.

Так Міхал, нечакана для самога сябе, папаў ад саркафага на раскопкі.

Э-ех, князь, князь, што ты са мною зрабіў!

На раскопцы было вельмі пыльна і горача. Усе хлопцы працавалі ў адных трусах, і Міхала таксама прымусілі распрануцца.

Булыжнік на ўзроўні вачэй блішчаў так, што вачам было балюча. І дзівосным караблём плыў над галавою блакітны, белы і залаты Андрэеўскі сабор.

Але Міхал больш глядзеў на дзяўчыну, якая

пэндзлем і гнутаю голкай вельмі старанна ачышчала ад глеістай зямлі нейкую рэч.

Усе людзі падабаліся Міхалу. І адзін тоўсты чалавек, відаць, вялікая шышка, але таксама ў трусіках, ляпаў Міхала па плячы.

Такія слаўныя хлопцы былі гэтыя археолагі!

І раптам Міхал заўважыў, яе сінія халаднаватыя вочы, узнятыя на яго.

— Бачыце, Міхал, ёсць такія знаходкі, пра якія ніхто і дагэтуль не ведае, што гэта. Дорага дала б я, напрыклад, каб даведацца, што гэта такое. Але мне ніхто не скажа.

Лёвачка ў папяровай касцы (ён стаяў над траншэяй, як Банапарт) з'едліва сказаў:

— Мар'яша, абяцанне помніш?

І ўсе загулі:

— Абяцанне... Абяцанне...

— А што,— сур'ёзна сказала яна,— і сапраўды пацалавала б таго, хто б растлумачыў.

— Не спадзявайся, родненькая,— прытворна ўздыхнуў Лёвачка,— калі будзеш чакаць тлумачэння, так і памерці табе нецалаванай.

— Пакажыце мне,— сказаў Міхал і працягнуў руку.

Пальцы яго, калі ён браў рэч, сутыкнуліся з пальцамі Мар'яны, і ён адчуў сябе так, быццам нейкая стрэмка мякка ўвайшла ў яго сэрца, напоўніўшы хваляваннем.

У Міхала ў руках была невялічкая штучка з рога: круг, перасечаны, перпендыкулярна да плоскасці, квадратам. І ў тым і ў другім былі прабітыя невялічкія дзірачкі. Мала таго, было прасвідравана нават месца перасячэння плоскасцяў, на ўсю даўжыню.

Міхал сядзеў на кукішках і моршчыў лоб. Усе глядзелі на яго, большасць з усмешкаю.

— Кінь, Міша,— сказаў Лёвачка,— гэта галава яшчэ спатрэбіцца для вырашэння праблемы аб месцы, дзе паміраюць сланы.

Кругом відны былі ўсмешкі. Белазубыя, шырокія. І яшчэ панавала цішыня.

- Ведаю,— вельмі проста адказаў Міхал.

Нехта войкнуў.

— Што? — уся падаўшыся ўперад, спытала Мар'яна.

— Жыццё дрэнна ведаеце, археолагі,— зларадна сказаў Міхал,— каб ведалі добра, дык не давялося б вам думаць, ад якой бочкі гэты шпунт.

— Не здзекуйцеся,— сказала яна.— Для нас вельмі важна. Што гэта?

— Я ж і кажу: «шпунт». Праўдзівей, дзіцячая цацка. Дзеці і цяпер ёю гуляюць. У некаторых вельмі глухіх вёсках Палесся. Бяруцца тры бутэлькі з гарбуза. У адной дзірка круглая, у другой — квадратная, у трэцяй — крыжападобная. І трэба зрабіць для ўсіх адзін шпунт, каб праз яго можна было напіцца з бутэлькі. І тады робіцца такая вось фігура.

— Ну добра,— сказаў Лёвачка,— ну квадрат, ну круг. Але дзе ж тут крыж? Нешта я не разумею.

— Галава яшчэ спатрэбіцца, калі акадэмікам будзеш. Кінь, Лёва,— сказаў Міхал.

І павярнуў прадмет так, што відны былі толькі бакі плоскасцяў.

— Вось табе і крыж. І дзірка, праз якую напіцца можна.

— Ч-чорт, як гэта я не здагадаўся,— пачухаў патыліцу Лёва.

— А дзеці палескія здагадаюцца. Ды і ў старажытным Кіеве, відаць, здагадваліся. Прагрэс.

— Апошні ўдар,— адмеціў нехта і задаволена зарагатаў.

Лёвачка схіліў галаву да пляча.

— Ну хлопцы, ну хлопцы, ну Міхал! Гэта ўжо забаронена: ляжачага не б'юць.

Агульны рогат заглушыў яго словы.

А яна глядзела на Міхала здзіўленымі і сур'ёзнымі вачыма.

— Каб вы толькі ведалі, Міхал, якую вы важную справу зрабілі.

— Глупства,— сказаў ён,— проста гэтыя палескія вёскі дагэтуль не далі ніводнага археолага.

— Як ваша прозвішча?

— Дарскі.

— А што,— ціха сказала яна,— «цацка Дарскага». Нядрэнна гучыць.— І дадала: — Знойдзены дзве шыферныя прасніцы, каралі-«лімонкі» і адна «цацка Дарскага». Не, Міхал, вы ўсё ж малайчына. Гэта нас бог звёў.

Лёвачка зухавата стаяў на краі траншэі, абапі-

раючыся на рыдлёўку. Рот да вушэй, вочы хітрыя.

— Ты зубы не загаворвай,— прыжмурыў ён адно вока,— ты абяцанне выконвай.

— І сапраўды,— сказаў хлопец у акулярах.

— Абяцанне! Абяцанне! — загулі ўсе.

Зноў вакол блішчалі зубы, асабліва белыя на запыленых сонцам абліччах.

Потым ён перавёў вочы на дзяўчыну. Яна трохі зніякавела. Абое глядзелі адно на аднаго.

— Я думаю,— сказаў Міхал,— Мар'яну Юр'еўну не трэба прымушаць. І лавіць яе на слове не варта. Яна пацалуе сама — каго захоча і калі захоча. І гэта будзе цудоўны чалавек, лепшы на зямлі. Яна кепскага не абярэ.

— Брава! — сказаў таўстун.

У трусіках і чырвонай з чорным каўбойцы, ушчэнт спалены сонцам, ён нагадваў афрыканца.

— Брава! — паўтарыў ён.— У наш век заняпаду рыцарскіх адносін вельмі прыемна чуць такое. Хвалю, малады чалавек!

Урэшце, нікуды Міхал не паехаў. Ні праз два дні, ні праз тыдзень. Ён адстаў ад групы і ўвесь водпуск правёў з гэтымі людзьмі. Яны вельмі спадабаліся яму, а ён — ім. Таму што ён быў вельмі кампанейскі і просты хлопец...

Міхал павярнуўся на бок і сціснуў далонямі скроні.

«Ах, божа мой, божа мой»,— застагнаў ён.

Дождж усё шумеў і шумеў за саламянай страхою. Лёгкія подыхі ветру даносілі водар абмытай лістоты, горкі павеў палыну, востры пах мяты.

Дождж... Менавіта так дождж шумеў тады, калі яны ўдваіх хадзілі паркамі па беразе Дняпра.

Шырокія сходы царскага палаца, бела-блакітныя муры, мокрыя дрэвы, кручаны струмень фантана, агні ліхтароў у начных шатах.

Дождж мацнеў і мацнеў. Яны ледзь паспелі дабегчы да пустой ракавіны для сімфанічнага аркестра і схавацца туды.

Слабае святло падала на падлогу, блішчалі мокрыя рады пустых лавак. І ветрык, такі, як цяпер, патыхаў з мокрых клёнаў.

— Холадна...— здрыганулася яна.

Ён накінуў ёй на плечы свой пінжак. Пінжак

спаўзаў, і яму давялося прытрымаць яго рукою. Адчуваў пад далонню яе худыя моцныя плечы. І, неспадзявана для сябе, прыгарнуў яе да грудзей.

Аднойчы Міхал бачыў дзікую казу, якая папалася ў пастку. І вочы ў той казулі былі такія, як цяпер у гэтай дзяўчыны.

Яны прасілі яго, малілі — не чапаць, пусціць яе. І ён не вытрымаў, пусціў...

Пасля яны пачалі дурэць, разыгрываць перад пустымі лаўкамі, перад мокрым паркам, у якім не было ніводнага чалавека, сцэну з нейкай пышнай трагедыі.

— Вазьміце меч,— замагільным голасам стагнаў Міхал,— і мне прабіце грудзі. Клянуся пасівелай барадой і ўсёй гарэлкай у скляпах — вы любая і ясная...

— Прытым,— смеючыся падказвала яна,— я вам не веру. У рыцараў палескіх ёсць у вачах жахлівая спакуса, каварства нізкае, падступнасць слоў. Яны хітруюць, і яны чаруюць. Яны даверлівых дзяўчатак крадуць і ў Турцыю султанам прадаюць.

— Ну, гэта паклёп,— не вытрымаў Міхал.— Мы такія людзі, што ў нас сабакі з-пад носа хлеб крадуць. Нас саміх у Турцыю прадаць можна.

І яны зарагаталі. Дождж перастаў. Толькі дрэвы ўсё яшчэ скідалі на жвір буйныя кроплі.

Яны выйшлі ў парк. І тут, ля агароджы стадыёна, яна выпадкова дакранулася плячом да яго пляча. Пастка замкнулася зноў. Ён абняў яе і пацалаваў у дзіцячыя прыпухлыя вусны.

— Успомніў усё ж пра маё абяцанне,— прашаптала яна.— Злапамятны ты.

Пацяклі дні. Праца, дзе яго ўжо лічылі сваім, кпіны Лёвачкі, добры і трошкі зайздросны позірк патаўстуна, дняпроўскі пляж, звон тугога мяча ў паветры. І яна, то задыханая і ружовая, з занесенай для ўдару па мячы рукой, то ціхая і пяшчотная, з адбіткам начных ліхтароў у вачах...

Аднойчы яны правялі ноч на вадзе. Проста так, селі і паехалі начным параходам.

З берагоў далятаў рэзкі голас драча, які недарэчна пераймаў цвыркуна, даносіла пахі водарасцяў і нагрэтых за дзень кіёўнікаў. Калі параход набліжаўся да берага, ясна чуліся ўсплёскі хваль аб бераг, журботныя і сонныя галасы начных птушак.

Недзе далёка, па курсу парахода, гарэла нізкая сіняя зорка. Стоячы на носе парахода, яны плылі проста на яе.

— Не ведаю,— сказаў Міхал,— што ў тваім сэрцы. Але маё поўнае. Мне больш нічога не трэба. Ёсць зямля, спрацаваныя мускулы, зорка і ты.

Яны ўжо ведалі, што былі першыя адно ў аднаго.

— Ты доўга будзеш кахаць мяне? — яна прынікла да яго плячом.

— Не ведаю,— проста адказаў ён.

— Чаму?

Ён маўчаў, потым сказаў не то жартам, не то сур'ёзна:

— Час смерці невядомы кожнаму з нас. Таму я і не ведаю, колькі год кахання дадзена мне...

Яны плылі і плылі... І бясконцы быў шлях да сіняй зоркі.

А потым быў світанак. Сонца выплывала з-за пяскоў і лазы левабярэжжа. І хвалі былі зеленавата-блакітныя. І на адзін кароткі момант самыя грабянцы іх успыхнулі крывавым, трывожным, а потым апельсінавым агнём, быццам там вось-вось павінен быў вынырнуць нехта прыгожы, праніклівa-пяшчотны, той, што прыносіць на зямлю вечную цеплыню і радасць...

— З пены народжаная,— ціха шапнуў Міхал, і яна зразумела.

Ах, дождж, дождж!.. Як магло здарыцца, што Міхал адзін тут, у шалашы? Як забыць тую размову ў начным скверыку каля Залатой Брамы?

— Ты сам разумееш, Міхал, я не магу з табою ехаць.

Яна сказала гэта жаласна і ціха, і плечы яе задрыжалі.

— Я ж кахаю цябе.

— Я кахаю больш. І я не еду не таму, што тваё месца заўсёды ў глушы. Я з табою і ў пустыню паехала б. Але ў мяне таксама праца. А ў пушчах раскопак не вядуць, хіба што выпадкова. Абое мы з табою цыганы, але вандруем рознымі дарогамі. І бадай што нам цяжка сысціся. Я гнала ад сябе гэтыя думкі, я суцяшала сябе тым, што вось яшчэ застаецца ўвесь твой водпуск за два гады. Вось сорак дзён... Трыццаць... Сем... Цяпер хлусіць больш нельга, засталіся тры дні.

Вялізны рыжы кот пераходзіў непадалёк алею, замачыў лапы і грэбліва атрапаў ваду з лайкавых пятак. Гледзячы на ката, Міхал ціха сказаў:

— Як жа нам звесці дарогі?

— Пераходзь да нас. Ты ж так зацікавіўся працай. Будзеш пакуль што рабочым, брыгадзірам... Потым скончыш завочна інстытут. Табе ж толькі дваццаць тры гады.

— А ты ўжо скончыла. Практыкуеш. Быць мне вечна тваім падначаленым.

Ён падумаў, што яна і зарабляць будзе больш, але ўголас сказаў:

— Мне будзе няўручна...

— Фу, дамастрой які! — сказала яна.— Пакінь, мы ж сучасныя людзі.

— Не кахаеш ты мяне...

— Міхалка, дарагі. Я вельмі люблю свой шлях, мне нельга без яго, я без яго памру. Водар зямлі... Сонца... Аліўкавыя старыя камяні. Знаходкі. Боль у плячах. І вечная думка, што вось адкапаеш, ускрыеш нейкі склеп, а адтуль выпырхне песня, старая, забытая на зямлі...

Яна глядзела на пабітыя вякамі камяні Залатой Брамы, на шыльды «Гастранома» і «Марожанага» за імі, але Міхалу здавалася, што яе вочы бачаць далёкі, неабсяжны стэп, стэп і імклівыя цені палавецкіх коннікаў.

— Я таксама люблю сваю працу. Мяне таксама вучылі, трацілі грошы.

— Ты не вельмі любіш яе, калі ўспомніў пра грошы. Тут жа ты не будзеш гуляць. Усё адробіш...

— Я не магу. Я таксама прырос сэрцам...

— Ну, будзеш займацца як аматар, кнігі пісаць. Натураліст паўсюль на месцы. Пабачыш фауну Азіі, Крыма, пустынь, гор, а не толькі Беларусі. А жыццё дажываць будзем там, дзе ты хочаш, дзе-небудзь на Бярэзіне. Ты напішаш вялікую кнігу пра свае вандраванні. Ну, пашкадуй ты мяне. Не магу я іначай.

Дождж. Кроплі навесілі на дзверы шалаша бісерную фіранку.

Чаму ён не згадзіўся? Правільна не згадзіўся. Ён мужчына. А яна, відаць, мала кахала яго, калі не захацела ехаць з ім разам.

I помняцца толькі заламаныя рукі, трывожныя вочы ў змроку і голас:

— Міхал, любы мой. Аднаго толькі хачу: каб ты хоць у дзіцёнку, у сыне, быў поруч са мной. Каб падобны... Каб заўсёды... Што ж мне рабіць, калі я кахаю цябе?

Яны вырашылі расстацца. Якія цяжкія былі апошнія дні! Утрапёная пяшчота, рукі, якія абдымаюць так, што, здаецца, можна вырваць з іх чалавека толькі з жыццём...

Яны яшчэ казалі, што ўсё не скончана, што яны ў кожную вольную хвіліну будуць ляцець адно да аднаго, што будуць пісаць, але кожны ў глыбіні душы ведаў — гэта канец. Таму што яны не даруюць адзін аднаму гэтага нежадання ахвяраваць у імя друга сваёю дарогай.

Горкія дзіцячыя вусны, пасмачка валасоў, рух цела, як быццам дзяўчына гуляе ў лапту.

Што вам трэба? Чаго вы кожную ноч плывяце з цемры?

Міхал не змог вярнуцца на старое месца працы, адкуль ён ехаў насустрач шчасцю толькі два месяцы назад, а ўзяў разлік і раздаў рэчы, вырашыўшы перабрацца ў другі запаведнік.

І вось у дарозе дождж. Да станцыі пяць кіламетраў. І дзве дарогі. Адна з іх на ўсход: там Мар'яна раскопвае гарадзішча...

Але ён паедзе на захад. У пушчу.

Дождж шалеў. Ён паласаваў зямлю, як градам, біў па лісцях, бушаваў у лужынах. І з гэтых лужын, з паветра, з лісцяў — адусюль даносіўся нізкі, нібы ўсхліпы, несамавіты гук. Бледныя далёкія маланкі распаўзаліся па дрэвах чырвоным агнём.

І зноў стаў чуваць голас з пунькі. Міхал лёг на жывот, нацягнуў пінжак на галаву. Яму не хацелася слухаць. Усё адно канец, усё адно нічога не патрэбна, усё адно не будзе шчасця ні заўтра, ні паслязаўтра.

Ніколі! Дарогі ляжаць у розныя бакі. Яна не кахае...

Але недалёкі голас пажылой не так лёгка было заглушыць:

— Кажаш, не кахае. А ты чакай. Глупства... Ты вось паслухай, што ў мяне было з маім Алесем. У Паволжы голад быў — елі траву. А нам, бежан-

цам, і таго горш. І тады Алесевы бацькі і мае пасхалі на радзіму. А тут такая завіруха пайшла, ніхто нічога не разумее. Апынілася я ў сваёй вёсцы, у Літве, а ён у сваёй, у Польшчы. Паміж намі — мяжа. Толькі і можна глядзець, як ён каровы ганяе па ржэўніку. Зусім блізка.

Ён мне не падабаўся з дзяцінства. Вечна такі, быццам яго сабакі шкамуталі, вечна зубы выскаляе. Яршысты нейкі, злы. Аднойчы, ну зусім так, як твой, біўся адзін з чатырма... Гады праходзілі. І часта бывала: ён на адным баку рачулкі пасе, а я на другім. Прабіла аднойчы нагу на ржэўніку, сяджу, плачу. Чую, гукае ён: «Гэй, трыпутніку прыкладзі». Праз некалькі дзён прыйшла на пашу — матляецца на лазовай галіне белая анучка. Я падышла — пад кустом лапцікі ляжаць, акуратненькія такія. А ён з таго боку зубы выскаляе. Пераплываў, чортаў сын. А маглі ж падстрэліць... І так добра сплёў, хоць ты квас імі пі.

Я тым часам добрая дзеўка выгадавалася, хоць снапы вазі. І ўвесь час заўважаю: вылуплівае ён на мяне вочы. Так і пайшло.

Калі ведаем, што нікога няма блізка — часам словам перакінемся.

Потым ён стаў гаварыць, што я вельмі яму падабаюся. А я ў адказ толькі пасмейваюся:

— Што ж з таго? Хіба з табою на гулянку пойдзеш?

У вас паны, у нас «понасы». І вось яна — мяжа.

Узімку аднойчы сабраліся на папрадухі, спяваем. І раптам ён — шусь у хату.

Хлопцы хацелі былі яго набіць. Няма чаго нам, маўляў, «палякаў» гэтых літаваць. Ды я ім так сказала, што яны адразу змоўклі.

— Дурань,— кажу Алесю,— цябе ж заб'юць.

— А я назнарок такую ноч выбраў,— і смяецца. Зубы прадае.— Дуйка мяце. Дулю яны сляды заўважаць.

Танцавалі. Я яму шчыра сказала, што ён мне не патрэбен, што мне такімі хоць платы падпірай. Не верыць.

— Ты,— кажа,— усё маніш. Не можа гэтага быць, каб я не падабаўся.

І сказаў, што прыйдзе за мною, што няма яму ад мяне дарогі. Прызначыў ноч.

І толькі пайшоў, узнялася страляніна.

Так мы і згубілі адно аднаго. Потым — вайна. Я сувязной была.

Ну і закруцілася карусель. Немцы ганяюцца за партызанамі, партызаны за немцамі. І вось аднойчы прыходзіць перад світаннем чалавек. Глядзіць, усміхаецца.

— Не пазнаеш? — кажа.

Я глянула — божа мой, Алесь. Зараслы, жорсткі ўвесь нейкі. Але глядзіць з-пад калматых броваў весела. Выявілася, што ён таксама сувязны. І даведалася я, што нічога ён не забыў, што па-ранейшаму ажаніўся б, калі я не супроць.

А мяне як чорт які за язык торгае. Не хачу, і ўсё. І так цягнулася ўсё з год. Як ён ні прасіў мяне, якіх слоў ні казаў — не хачу. Кошчыны гульні — мышчыны слёзкі.

І вось аднойчы з'явіўся ён да мяне позна і не паспеў да раніцы пайсці. Вырашыла я схаваць яго ў старой бульбяной яме на гародзе. Там не знойдуць.

Я пажартавала яшчэ:

— Не крыўдна табе будзе цэлы дзень хату і мяне бачыць?

— Самы смак,— кажа.

І нанёс чорт у гэты дзень немцаў. Пачалі лавіць людзей для адпраўкі ў Германію.

Мяне ўжо і ў калону былі загналі, ды я неяк вырвалася і канавай, канавай, а потым ля платоў да сваёй хаты. Але заўважылі мяне здалёк — і за мной. Я скочыла на двор — і на гару.

А ён з ямы ўсё гэта бачыць.

На гары ў нас салома ляжала. Зашылася я ў салому за комінам і сяджу.

Чую — шукаюць. Ператраслі ўсё ў хаце. Рыпяць прыступкі,— лезе нехта па лесвіцы. Стаў, дыхае цяжка.

— Вайбе,— кажа,— выходзь.

Я сяджу як мыш пад венікам. І раптам аўтаматная чарга проста па саломе. Каб не комін...

А тут нехта на двары заліўся, як ганчак на зайца.

— Ай-я-я-яй, ай-я-яй. Вось ён! Вось ён!..

І чую, той, хто страляў, скаціўся з лесвіцы. Ушчалася страляніна. Раздаўся выбух.

Я зірнула ў шчыліну. А гэта мой Алесь выскачыў з ямы — і бегчы, як ліс, каб адцягнуць паляўнічага ад нары. Ён і гранату кінуў.

Бяжыць, бяжыць па роўным полі, а яны па ім страляюць.

Ён у хмызах знік, а пра мяне яны забыліся. Загэркалі нешта па-свойму і пайшлі.

Потым я кінулася па следу і знайшла яго ў раўчуку. Вочы пяском зацярушаны, кісць левая на жылачках вісіць.

Дацягнулі яго бабы да хаты. Ён руку памацаў і кажа:

— Рэжце...

Далі мы яму самагону і адрэзалі мускулы, на якіх рука вісела. Потым, калі апрытомнеў, я схілілася над ім:

— Алеська, добры мой, дарагі.

— Нічога не бачу,— кажа ён глуха.

— Алесь, любы ты мой. Будзеш бачыць.

А ён павярнуўся да сцяны і глуха так адказаў:

— Не хачу я цябе бачыць. Ідзі...

Вядома, ён лічыў, што калі з ім такая бяда, дык не яму пра мяне думаць. Куды, маўляў...

А я толькі вуснамі яму да шчакі:

— Даруй ты мне... Я ж вельмі цябе кахаю. Ты такі мой добры, такі жаданы.

І вось з таго часу мы разам. Выхадзіла я яго ў атрадзе. Праз некаторы час пачаў ён бачыць. І такое мне было шчасце — нічога, здаецца, не трэба больш.

— Як жа так, цётка, — спытала маладая,— і дагэтуль добра пражылі? У вас жа небагата? І дзяцей многа?

— Глупства,— паблажліва адказала старэйшая,— жывём. Ён са мною — і досыць.

Міхал уздыхнуў. Гэтыя людзі разважалі інакш. Ён закурыў другую папяросу. Жанчыны змоўклі. Відаць, пакладаліся спаць.

Дождж усё шамацеў над самай галавою, спорны, роўны. І пад шум дажджу Міхал непрыкметна заснуў.

Сніўся яму стэп, астравок таго стэпу, што трапляецца ўжо на поўдні Беларусі. Шырокая пыльная дарога, колкія промні сонца. На ўзвышшы, усе ў чырвоным марыве і самі чырвоныя, стаяць людзі з рыдлёўкамі. І раптам ён чуе здзіўлены воклiч. Нехта бяжыць да яго з узгорка.

— Вярнуўся! Вярнуўся,— задыхаецца яна.

Яе рукі бяруць чамадан...

— Хлопцы! — крычыць яна.— Ён вярнуўся! Ён з намі!

А сама прыціскаецца да яго.

— Не,— кажа ён,— я толькі паглядзець. Я мужчына. У мяне гонар.

І вось гасне, робіцца сумным яе аблічча. Ён разумее, што гэта яна, але не пазнае яе рысаў. Чужая, зусім чужая,— а калісь свая,— яна стаіць каля яго. Знікае...

Міхал застагнаў у сне, хапаючы пальцамі паветра.

А яна ўсё знікае. Знікла. І стэп быў той самы, але трывожны, як перад навальніцай. А людзі на ўзвышшы расплываліся ў чырвоным марыве.

Гэта было так жахліва, без яе, так жахліва, як ніколі не было наяве. Ён прачнуўся ад жаху і сеў, увесь дрыжучы.

— Мар'яна! — крыкнуў ён, як толькі сон адпусціў яго горла.

Была ціша. У шалаш свяціла сонца. Кожная зёлка, упрыгожаная нізкай кропель, красавалася, зіхацела.

Міхал не помніў, як ён схапіў чамаданчык, як выкаціўся з шалаша.

Дымела мокрая чорная зямля, праменні купаліся ў лужынах, яблыні стаялі ў мокрай знямозе, раскашавалі. А на ліпы і хмызы было балюча глядзець.

І пырхала, пералятала з галіны на галіну, з дрэва ў хмызы і зноў на дрэва ўзбуджаная да вар'яцтва малінаўка. Спявала, ажно сад звінеў:

— Разумееце, разумееце, разумееце?! Разумееце, сонца ёсць. Яго зусім не зжэрлі! Яно ёсць! Ёсць!!!

Далёка, садам, ішлі дзяўчына і мажная кабета, якую схілілі не гады, а праца. Яны аб нечым размаўлялі.

А малінаўка звінела і звінела:

— Сонца ёсць!.. Ёсць!..

І пад гэты спеў Міхал шпарка пакрочыў да дарогі. Ён плюхаў па лужынах, слізгаўся і ўсё паскараў крок.

Дарога звярнула да ракі, пайшла берагам. А свет увесь ператварыўся ў сімфонію гукаў, іскраў, пахаў.

«Я абавязкова ўсё раскажу,— думаў Міхал.— Усё будзе добра. Каханне не адступае, яно не адступае ніколі. Я пераканаю яе ці яна мяне — хіба не ўсё роўна? Хіба дрэнна стаць рабочым на раскопках? Паліцца пад промнямі, глядзець у яе вочы, цалаваць яе, гарачую ад сонца, калі за курганам згасае заранка і цені ад узгоркаў імчаць полем, як скіфскія коннікі?»

Рака ўся млела пад сонцам, прымаючы ва ўлонне сонечную цеплыню.

Каля берага плыў у чаўне дзед, самы лепшы з усіх дзядоў на свеце, сівы, лысы. Такі добры дзед.

І Міхал махнуў яму рукою і крыкнуў голасам, які сарваўся ад радасці:

— Лавіць табе не пералавіць, дзед!

І гэты дзед адказаў праз зубы, не таму, што быў мо не ў гуморы, а таму, што трымаў у роце шнур:

— Хадзі шчасліва, сынок.

Гэта быў такі добры дзед, проста незвычайны!

Міхал засмяяўся ад радасці і пакрочыў дарогай. Свет, сонечны, іскрысты, як хвост паўліна, ляжаў перад ім.

З-за далёкага, зіхатлівага лесу паказаўся дымок, бы там хто піпчыў люльку, а потым далягцеў прызыўны гудок цягніка.

## БЛАКІТ І ЗОЛАТА ДНЯ

Вясною палескія рэкі пачынаюць цячы назад, да вытокаў. Толькі адна Прыпяць з цяжкасцю гоніць да Дняпра талыя воды, заліваючы на дзесяткі кіламетраў палі і лясы.

Застаюцца толькі вёскі на выспах ды рэдкія барліны са стагамі сена ці шумлівым вяселлем. Часам — кірмаш на чаўнах, з'яднаных масткамі, плывучы кірмаш, што павольна набліжаецца да далёкага сяла.

Пахнуць добрым малаком каровы, коні баязліва касавурацца за борт фіялетавым, напружана-разумным вокам.

— Ну вас да д'ябла. Яшчэ патонеш тут з вамі.

Адзін такі кірмаш, па-палеску стрыманы, жар-

таўлівы і трохі п'яны, спазняўся з прыбыццём у сяло на цэлыя два дні.

Бяда была ў тым, што па дарозе, у вёсцы Разбіты Рог, старшы загуляў і зманіў з сабою на бераг усіх мужчын, усіх стырнавых.

Бабы паспрабавалі плысці далей адны, але мужыкі, раззлаваўшыся, дагналі іх і зноў паставілі ўвесь кірмаш — сто пяць чаўноў — на прыкол да сыпучай выспы, на якой стаяла вёска.

— Падумаеш, вельмі ім трэба спяшацца. На вялікдзень яны, бачыце, у Карпілавічы не паспеюць. А нам і тут добра.

Бабы хацелі былі пратэставаць, але з чаўноў узнялі такую катавасію, што яны толькі плюнулі.

— Няма на вас, нячысцікаў, управы.

— А што ўправа? Можа, на тое, каб вы фарбаванкі свянцілі?

Цяпер мужыкі і самі разумелі, што ўчынілі дрэннае, але гонар перашкаджаў ім прызнацца ў гэтым. І таму яны, даволі пахмурныя, налягалі на шасты і вёслы, спяшаліся, хоць усім было зразумела: спазніліся.

Усе былі не ў гуморы: мужчыны — з пахмелу, жанчыны — ад крыўды. Толькі адной дзяўчыне — а было ёй год васемнаццаць — усё было хоць бы што. Яна сядзела на носе аднаго з пярэдніх чаўноў і ўсміхалася такой светлай усмешкай, што і сляпы ўсміхнуўся б ёй у адказ.

Празрыстыя славянскія вочы,— быццам майскае неба ў ранішнім тумане,— тупы носік, румяны рот з мяккімі ямачкамі ў куточках вуснаў. І лепей за ўсё была каса. Таўшчынёю з руку, залацістая, як сухі ліст каштана.

Хустку дзяўчына скінула і разаслала на каленях, бо сонца ў гэты дзень нечакана прыгрэла, і па вадзе скакалі залатыя іскры, ад якіх моршчыўся нос і хацелася чхаць.

З-пад хусткі была відаць клятчастая спадніца, пад ёю другая — белая. І ўсё на гэтым дзеўчаняці ляжала так ладна. І так забаўна жмурыліся ад сонца і ленай млявасці яе вочы, што кожны сказаў бы:

— Вось каму жыць добра.

А жыць было на самай справе добра! Наперадзе далёкая дарога сярод затопленых лясоў; верхавіны

дрэў, што плаваюць у блакітнай смузе; дрымотныя крыкі пеўняў над вадою.

Куды было спяшацца? Наперадзе — жыццё. Аднаго не хапала: каб падышоў нехта ззаду, вялікі, цёплы, як сон, абняў за плечы і прынік шчакою да скроні.

Раней і думаць аб гэтым было страшна. І мужа яна ўяўляла сабе не іначай, як чужога хлопца, з якім трэба сядзець на покуце і, немаведама чаму, цалавацца.

А вакол зялёныя шклянкі і чырвоныя твары.

Але адышло насланнё, прыгрэлі промні, заказыталі ў носе. Захацелася скруціцца ў іх цеплыні, як котка.

І каб нехта гладзіў.

Вясна ўсё ж прыйшла, першая і апошняя такая. А можа, і не апошняя. А дарога па разводдзі, сена, што плыве поруч з вялікімі чаўнамі, вячэрнія песні дапамаглі вясне.

І ніхто, нават маці, не разумела, што здарылася за гэтыя дні дзіва: узышла на бацькоўскую байду калючы і рэзкі падлетак, а цяпер плыве дарослая дзяўчына, што ўсё зразумела нейкімі глыбінямі душы.

Быццам зямля.

Драмала яна пад расталай вадой, была вязкая і спакойная. І раптам, сагрэтая сонцам, стала мяккай і цёплай, разварушыла ў сабе парасткі і толькі таго і чакае, каб прайшоў нехта, са свістам шпурнуў з сявенькі васковыя зярняты,— і песня жаўрука прывітае яго прыход.

І цеплыня. І знямога. І крыкі пеўняў.

— Прыйдзі, сейбіт!

Нічога такога яна не магла б расказаць. Яна магла толькі ўсміхацца, склаўшы рукі на каленях.

Нават маці не зразумела б гэтага. Як поле, якое ўсё аддало, не можа зразумець поля, якое чакае.

Яна і не разумела, а толькі бурчала на жаўтавусага мужа, лічыла грошы ў хусцінцы, пераклікалася з суседкамі на другіх чаўнах. І, як заўсёды вядзецца ў вельмі занятых жанчын, першай прыкмячала, што трэба і што не трэба.

Яна першая заўважыла лёгкі доўблены човен, вельмі вялікі і вёрткі. Човен выслізнуў з гаю, што стаяў па пояс у вадзе, і лёгка стаў даганяць непаваротлівую флатылію.

На карме сядзеў чалавек у шэрай ваўчынай шапцы і спрытна арудаваў адным вяслом.

— Хто ж гэта такі? Наталька! Наталька! Ну, зірні сваімі вачыма...

Дзяўчына павярнулася і з усмешкай, што ўсё яшчэ гуляла на яе вуснах, нездаволена сказала:

— Юрка з Выселкаў вяслуе.

І зноў адвярнулася. Таму што гэты Юрка зусім ёй не падабаўся. Увесь нейкі тугі, як спружына, вочы гарэзлівыя. І заўсёды скаромныя жарты на языку. І заўжды на бойку лезе. Без дай прычыны, проста так: пабачыць, што дзве кампаніі б'юцца, абярэ тую, у якой аднаго чалавека не хапае,— і давай.

Ды і не гэта ў ім самае дрэннае. Вочы ў яго трывогу наводзяць. Няладныя яны, не такія, як у астатніх.

Гэтай зімой ён паспрабаваў быў у сенцах абняць яе. Ёй было смешна, што ў яго дрыжаць рукі, што ён так няроўна дыхае.

І ўсё ж яна ўзвілася на дыбкі, як неаб'езджаны конь.

Людзі ў хаце чулі толькі, як грымнулі вёдры і ўпаў каромысел.

Калі яна ўвайшла ў хату, дзе сустрэлі яе песні скрыпкі, пералівы гармоніка і ўздыхі бубна, нехта спытаў яе:

— Што гэта там упала?

— Юрка вёдры зваліў. П'яны прыцягнуўся.— І прыбавіла: — Угаварыла, каб дадому ішоў.

Яе твар быў такі непранікнёна спакойны, што ўсе паверылі.

І вось цяпер яна злавала, што новы чалавек парушыць гэты сонны, гэты бяздумны і лянівы спакой.

А Юрка тым часам стаў на ногі і ўхапіўся за борт бліжэйшай байды карычневай ад загару рукою.

Човен глуха стукнуўся аб байду. Яго прывязалі. І тады Юрка нахіліўся і лянівым рыўком ускінуў на плечы двухгадовага секача, ашчаціненага, брудна-бурага, са злосна ашчэранай мордай.

Гуляючы, кінуў яго на байду.

— Ану, наваліся, таечкі. Разабраць адразу ж. Мужыкоў накарміць. Усё адно да горада сапсавацца можа.

Бабы з захапленнем загалёкалі над тушай. А Юрка глядзеў на іх падазрона-спакойнымі вачыма.

— Нашто ж квахтаць? — сказаў ён нарэшце.— Добра каб япрук, а то ж так, нядаўна з галавасцікаў выйшаў.

Галавасцікамі ён называў галавастых дзікіх парсюкоў.

— Ну, гэта ты не кажы,— сказаў Наталін бацька,— добры дзік. Бач, іклы ўжо якія!

— Добра, давайце, бабы. Тады ўжо і мне адваліце смажанага. Бо ў мяне ўвесь хлеб скончыўся, паміраю з голаду.

Ён нагнуўся ў чаўне. І раптам бабы з віскам кінуліся ў бакі. Над бортам байды з'явілася круглая галава рысі з грэбліва адкрытай пашчай, белазубай і крывава-чырвонай.

Вушы на галаве былі шчыльна прыціснуты, вочы — прымружаныя. У тую ж хвіліну паказаліся грудзі, моцныя лапы.

Рысь, здавалася, упаўзала ў байду.

І адразу ж над ёй вырасла галава Юркі. Ён рагатаў. У шэрых вачах хітрыкі, рудаватыя валасы хвалямі падаюць на лоб.

— Спужаліся? — спытаў ён.— Добра, кабеткі, не буду.

Ён шпурнуў забітую рысь на дно байды і сам пералез цераз борт.

— А гэта ўжо мне,— сказаў ён, падымаючы звера за карак.— Можа, будзе ў мяне жонка, дык буду класці ёй на ногі, каб са мною не мерзла.

— З табою змерзнеш,— іранічна сказаў Натальчын бацька.

— Дзень добры, людзі,— голасна сказаў Юрка і потым дадаў выразна: — Дзень добры, Наталечка.

Тая не адказала.

Ані не збянтэжаны такой акалічнасцю, ён палез у човен, дзе сядзела дзяўчына.

— Вы разбірайце,— растлумачыў ён бабам,— а я буду тут. Не каля мяса быць кацінаму паху... Ач ты, д'ябал, пра нож забыўся.

І зноў палез у човен. Наталя краем вока бачыла яго худую, налітую рухомай сілай постаць, шэрыя адчайныя вочы.

Юрка ўжо сядзеў на кукішках каля гарадскога хлопца, які другі год швэндаўся па Палессі з блакнотам.

Хлопец амаль любоўна казаў яму:
— Шыцікі цябе ведаюць, што ты за чалавек. Такі ўжо беларус тыповы — далей няма куды.
Губы Юркі скláліся ў іранічную ўсмешку.
— А што, гэта добра ці дрэнна?
— Па-мойму, нядрэнна... Здольны народ.
— У-у,— працягнуў Юрка,— выключна здольны народ...
Пакінуў хлопца, пералез у човен Наталі і кінуў перад ёй на лаўку серабрыстую вільготную рыбу.
— На вось, Наталечка.
— Нашто мне гэта?
— Кляпец. Няхай пакуль што ў вадзе паляжыць. А пад вечар ён абсохне, і мы тады з табою дзіва пабачым.
— Ты што, думаеш, я так і буду з табою да вечара сядзець?
— Не з дзедам жа ж Бяскішкіным табе сядзець. Са мною весялей.
І зрабіў першыя надрэзы на лапах рысі.
Абое маўчалі. У вадзе нараджаліся, скакалі па зыбу і згасалі, каб зноў успыхнуць, залацістыя іскрачкі.
— Вы куды? — ціха спытаў ён.
— У Карпілавічы,— неахвотна адказала яна,— ды вось спазняемся.
— Ну так,— сказаў Юрка,— сёння ж вялікдзень. Не даплывеце раней, чым за суткі.
Памаўчаў трошкі:
— А табе нашто?
— Мне не трэба. Гэта старыя бабы так захацелі. Іх тут палова. Шкада, няхай бы пацешыліся на старасці год...
— Так,— сказаў Юрка і раптам зажмурыўся, нешта абдумваючы. Праз хвіліну ён паклікаў ужо да сябе дзеда Бяскішкіна і Натальчынага бацьку.
— У Карпілавічы не даберацеся, бацькі. Спазніліся.
— Ну дык што,— раззлаваўся Бяскішкін,— ты што, таксама мяне гарэліцай папікаць хочаш?
— Позна,— сказаў Юрка,— ды я не пра тое. Чаму б вам замест Карпілавічаў не падацца ў Пагост?
— Сяла няма,— сказаў дзед,— адна царква на востраве.

— Старым бабам гэта і трэба,— сказаў Юрка.— А вы ў сяло раніцай паспееце.

— Не ў тым справа,— сказаў Наталін бацька,— туды не праплывеш. Каса пясчаная па дарозе.

Размова ішла пра паласу выспаў, што цягнуліся паміж пратокай, дзе яны плылі, і Пагостам.

— Цю-цю твая каса, бацька,— сказаў Юрка,— вада верхам ідзе. Глыбіні палова сажня. Сам сёння мераў.

— Байды не пройдуць.

— А байды мы на касе пакінем. Самім да Пагоста і на чаўнах дабрацца можна. Падумайце, мужчыны... Старыя вунь як узрадуюцца.

Напамін аб старых вырашыў усё. Наталін бацька тут жа аддаў каманду і сам наваліўся на стырно, заварочваючы стырнавую байду, а з ёю і ўсю нехлямяжую флатылію ўлева.

Ударылі па вадзе вёслы, і хутка плынь панесла плывучы кірмаш яшчэ хутчэй, чым дагэтуль.

Юрка зноў сядзеў ля ног дзяўчыны. Рукі яго спрытна арудавалі нажом.

— Ну-вось, паглядзіш сёння, як на Пагосце даўгагрывыя арудуюць. Нічога не скажаш, прыгожа.

Яго плячо раз-пораз дакраналася да яе ног. Яна бачыла буры загар на яго шыі, смуглату пад носам і на шчоках.

Гэтыя дотыкі, моцныя і лёгкія, чамусьці не турбавалі яе — ён жа ж працаваў, а не назнарок.

— Можа, і пахрыстосуемся,— сказаў Юрка, узнімаючы вочы.

— Са зверам сваім пахрыстосуйся,— спакойна адказала яна.

— Ды ён і так мяне сёння... пахрыстосаваў,— і агаліў руку.

Яна ўбачыла тры падоўжныя раны на яго прадплеччы. Адразу недзе ў глыбіні, пад лыжачкай, нарадзілася трывога.

— Ты чаго ж не сказаў нікому, дурны?

— Нічога, я порахам засыпаў.

— У-ух-х ты,— яна, спяшаючыся, выхапіла з-пад лаўкі свой хатулёк, выцягнула адтуль белую анучку,— дай сюды...

Юрка паклаў ёй на калені тонкую і моцную руку. Яна нават не заўважыла гэтага. Хіба што цеплыню, якая ішла ад яго рукі праз тканіну.

Гэтыя неглыбокія, але доўгія драпіны раптам абудзілі ў яе сэрцы нейкі амаль мацярынскі жаль да гэтага адчайнага хлопца.

— Ну вось,— сказала яна, не заўважаючы цяжару яго рукі,— парадак.

— Ясачка ты ў мяне,— сказаў Юрка.

— Ясачка, ды не твая,— сказала яна, таму што зноў з'явілася ў ёй ранейшая млявасць, чаканне чагосьці і дрымота.

— Крыўдуеш усё,— ціха сказаў ён,— а я як той алень увосень. Нават жывот яму падвяло, так ён кліча.

— З галаду ў цябе жывот падвяло. Хлеб, пэўна, з'еў увесь... паляўнічы.

Ад агнёў, раскладзеных на цаглінах, ужо даносіла пахам смажанага мяса.

— Правільна,— згадзіўся Юрка з ценем крыўды ў голасе,— трэба падсілкавацца.

Устаў і пайшоў да агню. Вярнуўся ён адтуль з бацькам Наталі.

Абодва прынеслі ежу. У руках у Юркі былі дзве лусты хлеба з заціснутым паміж імі кавалкам смажанай япручыны.

Румянае мяса раставала, прасякаючы тлушчам свежы наздраваты хлеб.

— На, еж,— сказаў Юрка да Наталі.

Стары Даніла сеў поруч з Юркам ля ног дачкі і выцягнуў біклагу.

— Вазьмі глыні, сынок.

— Забарыстае віно,— сказаў Юрка, адпіўшы глыток,— як выпіў, так за забор хапаешся.

І ўзяўся за мяса. Наталька амаль не ела, а глядзела на хлопца.

Юрка еў без прагнасці, хоць бачна было, што ён вельмі згаладаўся: у вачах насалода, рукі спрытна падмінаюць хлеб.

І раптоўна яна спаймала сябе на нечаканай і цёплай думцы: «З гэтым і з адной місы есці прыемна».

І засаромелася.

Ежу прыкончылі. Даніла пайшоў. Юрка кончыў са шкурай, скруціў яе і панёс у свой човен.

«І чаго пайшоў? — падумала яна.— Спакайней на месцы сядзець». І яшчэ падумала: «Нічога, зараз прыйдзе».

Потым адразу спахапілася.

«Чаго гэта я? Нашла аб чым шкадаваць! Прыйдзе — не прыйдзе».

Ён прыйшоў і зноў сеў ля яе ног. Зноў лётаў над плынямі пяшчотны і волкі ветрык, гуляў яго валасамі і махрамі яе хусткі.

Часам ён сціхаў і зноў вяртаўся слабымі ўздыхамі. І ў такт гэтым уздыхам нараджаліся ў вачах залатыя іскры. Мірыяды іскраў.

Блакітнае было ўверсе. Блакітнае было ўнізе.

Юрка прыхіліўся грудзьмі да яе нагі, і яна адчула, як моцна і пругка калоціцца ягонае сэрца. І зноў нешта перашкодзіла ёй адштурхнуць яго, не чуць гэтых удараў. Яна толькі варухнулася.

— Ты сядзі,— папрасіў ён, і ёй спадабалася, што ён быццам просіць у яе літасці — здаровы, смелы, а перад ёю такі слабы, што яна можа рабіць з ім што захоча.

Гэта ўсведамленне сваёй раптоўнай улады было небяспечным, але яна не ведала пра гэта. Бадай што гэта было і лепш.

Яна адчувала ўдары яго сэрца цэлы дзень. Гэты трывожны і пяшчотны стук пакрысе перапаўняў цеплынёй яе калені і рукі. А ён адчуваў, як мякка казычуць яго шыю махры квятчастай хусткі.

Урэшце яна пацягнула хустку вышэй, але адразу ёй стала шкада гэтых махроў, што сталі варушыцца дарэмна, і яна зноў апусціла хустку ніжэй. І ён усміхнуўся, зноў адчуўшы ласкавы дотык.

Чаўны плылі і плылі ў блакітным і залатым. Гэта лазурнае толькі часам перарывалася празрыстай сцяной затопленага лесу,— і зноў загаралася іскрамі. Сплюшчылі павекі, глыбокая цеплыня перапаўняла цела. Блакітнае і залатое, залатое і блакітнае.

Без канца. Без краю. Без мяжы.

Зрэдку ён мармытаў пад нос нейкія песні, таксама нябывалыя, таксама сонна-трывожныя.

Дзень быў бязмежны. І бязмежным было падарожжа.

А калі пачаў спускацца лянівы надвячорак, стала яшчэ лепш.

Падсохла луска ў вынятага з вады кляпца.

Яны глядзелі і чакалі. І раптам у паўзмроку вочы кляпца загарэліся фіялетавым агнём. Гэта было так

нечакана, што яна падалася наперад, і грудзі яе дакрануліся да галавы хлопца. Так усё і засталося.

А рыба сохнула. Луска на яе спіне стала цёмна-фіялетавай, збягаючы па баках да пяшчотна-сініх адценняў.

Здавалася нават, быццам водбліск гэтага слабага ззяння кладзецца на іхнія твары.

Яна ўздыхнула і падумала, што гэта ёй, толькі ёй, прынёс ён і паказаў гэткае дзіва.

А ён раптам амаль прашаптаў:

— Высахну вось па табе, як гэты кляпец. А каб ты са мною была — я ад хлеба толькі скарынку гарэлую браў бы, а астатняе табе.

— Не трэба, Юрка,— таксама шэптам сказала яна.

І на повень лягла ноч. І паходня запалала на носе галаўной байды. Чырванаватае ззянне выхватвала з цемры дрыжачыя галіны дрэў з цэлымі шапкамі пены, што круціліся ў іх. А вакол была вада.

Дзяўчына накінула нарэшце хустку, як быццам для таго толькі, каб ён мог грэць пад ёю рукі. Абое маўчалі.

Юрка пакінуў яе толькі тады, калі трэба было ставіць на прыкол увесь караван. Града вырасла перад імі цёмнай смугою дрэў.

І раптам востры жаль пранізаў яе. Няхай бы бясконца сядзець вось так з ім, адчуваючы цеплыню яго рук.

А голас яго ўжо гучаў па ўсіх байдах.

— Пятрусь, ты чаго сядзіш? Заводзь нос, заводзь нос, табе кажу. Спрацаваўся мне, пад носам мух лавіўшы... Ану, узялі... І куды ты лявей тычкі прэш? Ану, яшчэ раз!

Нарэшце караван трывала стаў на водмелі. Людзі пачалі адвязваць чаўны. Але як толькі яна паспрабавала прабрацца да бацькавага чаўна, яго рука лягла ёй на далонь. Лёгка сціснула і адразу адпусціла пальцы.

— Не трэба. Сядай у мой човен. У вас будзе цесна.

Яна сказала сабе, што не хоча гэтага, але ногі самі па сабе пераступілі цераз борт. У яго човен.

Юрка марудзіў, адвязваючы канец. Апошнім сеў у чыйсьці човен дзед Бяскішкін.

І толькі потым, калі астатнія чаўны аддзяліліся сажняў на сорак, пачала цурчаць вада за кармою іх чаўна.

Ноч адразу ахапіла іх, пагладзіла халаднаватай лапаю твары, заміргала ў вочы касматымі зоркамі.

Выразная — па вадзе — размова далятала ад чаўноў. А гэтыя двое маўчалі, і калені іхнія сутыкаліся. Яна адчувала, як ад кожнага руху вясла мерна скарачаюцца мускулы яго ног.

— Не паварочвайся,— шэптам сказаў ён,— пацярпі трошкі. Я табе сам скажу, калі трэба... Абагнём гай.

— Ды я і не хачу паварочвацца.

Ён быў вельмі ціхі. І чамусьці толькі адзін раз кінуў на хвіліну вясло і паклаў ёй руку на плячо. Якраз у гэтую хвіліну на ваду, маслiста-чорную і густую, на дрэвы, на іхні згублены човен упаў першы ўдар звана. Яна здрыганулася, і ён адчуў гэтае дрыжанне.

Ёй здалося, што па яго твары слізгоча нейкі дзіўны ружаваты водбліск. Гэты водбліск наліваўся святлом, гусцеў. І нарэшце ўвесь яго твар — з глыбокімі ценямі ў вачніцах, і таму асабліва дарагі і страшны,— абліўся глыбокім, трапяткім барвянцам.

— Глядзі,— сказаў ён.

Яна лягла на бок, на сена, і ўбачыла астравок, што ўзнімаўся з вады. Трохі ўбаку быў другі астравок, большы. На ім бялелі ствалы голых бяроз. Гэта былі клады.

А на маленькім астраўку ўздымалася да неба нешта як шацёр, белае, азоранае агнямі. Менавіта адтуль далятаць ўдары звана, а потым — спевы.

Востраў нягуста абляпілі чаўны.

Гарэлі паходні. Гарэла смаллё на невялічкіх плытах. Залаты водбліск клаўся на цяжкую, як ртуць, чорную ваду.

Юрка ўстаў і стаяў на карме, абапіраючыся на вясло. І ёй ужо не хацелася глядзець на маўклівы рэдкі натоўп, на агні па вадзе.

Толькі на яго.

Худы, з вузкімі клубамі, ён высіўся над ёю, медначырвоны, як індзеец. Валасы яго сталі зусім бурштынавымі. Цені і святло на твары. Зменлівы, добры, суровы.

Ёй стала страшна, што хутка ўсё скончыцца і зноў будзе плывучы кірмаш.

— Не трэба чакаць канца,— сказала яна,— лепш дамой.

І ён паслухмяна павярнуў човен і стаў веславаць у цемру.

Азораная ззяннем паходняў, абкружаная шматкаляровымі карагодамі чаўноў згасала і танула ў водах адразу за імі імгненная праява. Дрэвы закрылі яе, паглынулі воды і цемру, і адразу стала ясна, што тая праява чужая, што на шмат кіламетраў няма нічога, акрамя воднай роўнядзі, вычварнай вязі плыняў, пены ў вірах, пагружаных у ваду лясоў і цішыні.

І па гэтых водах, па залітай вадою зямлі імчаў толькі адзін іхні човен, іхні каўчэг. Недзе, напэўна, былі іншыя чаўны, але для гэтых двух нікога не існавала.

Наталя зноў падумала, што зноў давядзецца вярнуцца да сноў мінулага дня, што давядзецца расстацца з гэтым чалавекам, які цэлы дзень дакранаўся плячом да яе калень.

Яна ўзрадавалася і адначасна да дрыжыкаў спужалася, калі ён паклаў у човен вясло і іх пачало плаўна праносіць паўз караван, што стаяў на якары. Яна яшчэ знайшла сілы спытаць:

— Нашто гэта?

— Ты хочаш туды? Я давязу...

Яна не адказала яму нічога. Ён пачакаў трохі і падсеў да яе, абняў за моцныя і тонкія плечы. Лёг поруч у сена, што пахла ліпеньскім сонцам. Моцна і пяшчотна прытуліў да сябе.

Яе скура яшчэ не аддала цеплыні дня. І хлопец, заблытаўшыся пальцамі ў яе валасах, пачаў пакрываць яе твар незлічонымі пацалункамі. Яна адчувала шыяй цёплую футру рысі, вуснамі — цёплыя вусны хлопца, целам — усё яго напружанае гарачае цела.

Але яна дрыжала, як ад холаду, яму стала так шкада яе, што ён прыўстаў, выцягнуў з-пад ног тонкае і калючае навобмацак, вельмі цёплае пакрывала і старанна накрыў яе, падторкнуўшы краі пад гнуткую спіну.

Літасці ў яго хапіла толькі на гэта, таму што ён бачыў у змроку яе твар з вялізнымі вачніцамі. І ён ведаў: іншай дарогі няма ні яму, ні ёй. Усё вяло да гэтага:

блакіт і золата дня, іскры на вадзе, фіялетавае свячэнне рыбы ў паўзмроку.

І гэтыя плечы, што дрыжалі пад яго рукой.

— Юрка, любы, родны мой, не трэба,— казала яна, усё шчыльней прыціскаючыся да яго. І ён ведаў, і шкадаваў, і не мог злітавацца.

Таму што ўсё гэта была мана.

Каўчэг гнала, злёгку пагойдваючы на хвалях, і зверху глядзелі на яго зоры, якія тысячы разоў бачылі гэта і ўсё ж не стамляліся зайздросціць зямной цеплыні.

На хвіліну яму здалося, што ён памыліўся, што маны няма,— і ён адхіліўся. Але яна адчувала яго дыханне, ёй больш за ўсё на свеце было шкада яго. І яна, нясмела ўзяўшы яго руку, пацалавала павязку на яго прадплеччы. І ўжо нічога не засталося, акрамя дрыготкіх адбіткаў зор у яе вачах.

Яны не пачулі, што іх лодка стала, што плынь надзейна пасадзіла яе на схіл кургана, які ўздымаў над вадою сваю макаўку.

Ды гэта было між іншым. Галоўным быў дзень, ноч, што наступіла, жорсткія мужчынскія далоні на плячах і кароткія пацалункі.

А потым ён заснуў, прыціснуўшыся да яе.

«І гэта ўсё? — спытала ў сябе яна. І сама сабе адказала: — Так, усё. І што яшчэ трэба? Ён са мною, я з ім».

І нячутна, баючыся разбудзіць, дакранулася вуснамі да яго рукі.

Яны вельмі моцна спалі, калі вада, прыбываючы ўсё вышэй, зняла каўчэг і зноў панесла яго па цячэнні.

Мужчына спаў мёртвым сном. Жанчына прачнулася толькі на хвіліну і яшчэ шчыльней прынікла да соннага. На верхавіне нейкага дрэва крычалі вароны.

— Хіба з такім можна загінуць? — шапнула яна.

І апошнім сонным урыўкам думкі падумала:

«Дурныя вароны... Тут не канец. Тут пачатак».

Яны спалі, а лодку несла і несла над затопленай зямлёй.

# КАРНЕЙ — МЫШЫНАЯ СМЕРЦЬ

Мы, дзеці, гатовыя былі бегчы за ім хоць за самы свет. Калі на нашай вуліцы з'яўлялася нечалавечадоўгая постаць і гучаў прарэзлівы крык: «М-мышы! Шчурры! Пацукі!», мы былі проста на сёмым небе ад асалоды. Гэта было нават цікавей, чым тачыльшчык.

Чалавек гэты быў худы, з сухім і доўгім тварам, на тонкіх вуснах якога заўжды сядзела з'едлівая і таемная ўсмешка. І пахла ад яго неяк дзіўна: так пахнуць камяністыя мясціны, што зараслі пустазеллем. За спіною торба, у руках доўгі і моцны кій, куртка і нагавіцы ўсе ў рознакаляровых лапіках.

Ён падыходзіў да першай — лепшай хаты, крычаў і, калі з'яўляўся ў акне твар гаспадыні, пытаўся:

— А ці верыш ты, гаспадынька, у святую тройцу?

Гаспадынька, ашаломленая нечаканым нападам, ківала ў знак згоды.

— Ну дык вось,— казаў пацукалоў.— Тады, напэўна, ведаеш, што бог па літасці сваёй наслаў на чалавека, каб нудна яму не было, пацукоў і шчуроў.

Гаспадыня нарэшце прытомнела пасля нечаканай атакі:

— Не веру я ў святую тройцу, адчапіся ад мяне, рапуха драпястая!

І чалавек, не спрачаючыся, крочыў далей. Толькі калі ўжо занадта лаяліся, адказваў:

— Бач ты, якая жабіца-скурапея. Напэўна, трэцяга мужа доношваеш, каб цябе так у апраметнай д'яблы насілі.

А калі запрашалі ў хату — пачыналася цікавае. Чалавек аглядаў пацуковыя дзіркі, усміхаўся, выцягваў з торбы гнуткі пруток і клаў яго на далонь рукі. Пасля мармытаў нешта доўга, і пруток, павярнуўшыся, паказваў канцом у бок адной з дзірак:

— Бачыш, баба, унь дзе іхняя хата.

І, стаўшы на калені, мармытаў:

— Ёсць на моры выспа, на той выспе ляжыць залаты пранік, на тым праніку пацукі вяселле гуляюць. Цар пацучыны перамог цароў шчурыных, а я, раб божы, і тых і другіх. Цар пацучыны, ветахавы, няхрышчаны, цёмны, выходзь з залатога гнязда на імхі, на балоты, на топкія патопы, на цвілёвыя па-

душкі. Там качайся, валяйся, на пясок рассыпайся, а гэтага дома не чапай. Ключ замыкаю. Аман!

Пасля ён звычайна прасіў гаспадыню пакінуць яго аднаго, сядзеў трохі, выходзіў з хаты і, калі лічыў патрэбным, капаў ля прадушыны ў падмурку глыбокую яму і наліваў яе вадою. Дзіўна, але пацукі сапраўды ўцякалі з хаты, і раніцою ў яме можна было пабачыць да дзесятка вялізных шэрых пацукоў або рудых шчуроў.

Нам ён здаваўся ўсемагутным. У той час бацька купіў мне вядомую кнігу пра клятчастага флейтыста з горада Хэмліна, які знішчыў у горадзе пацукоў сваёй цудоўнай жалейкай, а пасля, калі яму не далі за гэта грошай, зачараваў спевам гэтай жалейкі ўсіх гарадскіх дзяцей і завёў іх у нетры гары ля горада. Наш пацукалоў здаваўся мне менавіта такім: і пацукоў знішчае, і куртка на ім клятчастая ад лапікаў, і дзеці за ім натоўпам ходзяць.

А наогул гэта быў варты жалю чалавек, які, акрамя гэтай сваёй няпэўнай работы, нічога не ведаў і не ўмеў. З яго смяяліся. І нічога дзіўнага тут не было. І толькі дзеці любілі яго, як яны заўсёды любяць тое, што непадобна на звычайнае жыццё.

Мне, памятаю, вельмі хацелася насіць стракатую куртку і мармытаць прыгожыя і незразумелыя словы, зусім непадобныя на будзённыя і нудныя словы, як «хлеб», «боты».

Бацька мой, якому я гэта сказаў і які з трывогай глядзеў на маю схільнасць да нябесных мігдалаў, аднойчы не на жарт здзівіў мяне.

Калі пацукалоў, зайшоўшы да нас, прамармытаў, як заўсёды, сваю дзіўную замову і папрасіў каб яго пакінулі на хвіліну сам-насам, бацька раптам усміхнуўся і сказаў ляніва:

— І не сорамна табе, Карней, людзей дурыць? Я ж ведаю, што ты будзеш рабіць, ведаю нават, што сам ты ў свае замовы не верыш.

Вочы пацукалова апусціліся.

— Што вы, гаспадар, замовы — рэч карысная. І я, калі буду адзін, яшчэ мацней прачытаю.

— Не дуры, кажу,— пераканальна сказаў бацька.— Ты проста ў пацуковыя дзіркі касталом-травы напхаеш.

— Якой травы? — разгубіўся чалавек.

— А той, што ў нас яшчэ сабачнікам завуць, кветкі такія ў яе... цёмна-барвяныя, а лісты як шэрым лямцам абцягнутыя. На засмечаных пустках ля дарог і па ўзгорках расце. Мяккая такая, пушыстая.

І тут пацукалоў часта залыпаў вачыма.

— Пашкадуйце мяне, не выдавайце беднага чалавека... Усе самі... пачнуць. Што я тады есці буду?!.

Бацька, які чула ставіўся да чалавечага гора, замахаў рукой:

— Што ты, Карней, вядома не скажу. Жыві сабе... Хіба я што...

Фарба з'явілася на твары пацукалова.

— Хай вас благаславіць бог.

Да гэтага не хапала яшчэ звароту «гаспадар».

А бацька пасля паказаў мне гэтую расліну з ланцэтападобнымі пушыстымі лісцямі і мяцельчатай верхавінай сцябла.

— Cinoglossum officinale. Я чуў і раней, што гэта моцны рацыфіцыд. А ты кажаш «таямніцы», «мармытанне». Эх ты!

Пацукалоў, аднак, з таго часу паглядаў на бацьку заўсёды са страхам.

Так ён і хадзіў па нашым ціхім гарадку: непрыкметны, непрыстасаваны да жыцця чалавечак, жорсткі вораг пацукоў, які, аднак, не мог бы пакрыўдзіць і мухі.

У маленькіх гарадках, напэўна, да другога прышэсця будуць вадзіцца плёткі. Адна такая плётка звязвала пацукалова з імем удавы Стучэўскай, што жыла наводшыбе, ля Старых Валоў, і з яе сынам, высокім, худзенькім юнаком.

Ці была тут праўда? Я думаю, не, хоць хлопчык меў, як казалі вулічныя «бабы багамерзкія», нейкае падабенства з Карнеем. Рэдка бывае так, каб з плётак атрымлівалася што-небудзь вартае. Гэты выпадак быў шчаслівым выключэннем. Бала́чкі баб ля студні дайшлі да вушэй клятчастага чалавека, і той стаў пазіраць на хлопца з пяшчотай, якая ўсё ўзрастала. Такія чуткі, што ні кажы, прыемная рэч для самотнага мужчыны, у якога не за гарамі старасць і якому прафесія прынесла незайздросную славу дзівака.

Хлопец якраз скончыў школу. Жыццё ў хаце ўдавы было не такое і лёгкае. Усе думалі, што Янку Стучэўскаму давядзецца працаваць. Але тут здарылася неча-

канае: хлопец паступіў у інстытут, а пацукалоў пасяліўся ва ўдавы. Як выявілася пазней, пацукалоў некалькі дзён хадзіў паўз яе вялікую запушчаную хату з зарослым садам, пры сустрэчах намагаўся нешта сказаць і нарэшце з'явіўся да гаспадыні ўвечары і са звычайнай сваёй прыдуркавата-хітрай усмешкай сказаў:

— Прабачце мне за тое, што я скажу. Але, мне здаецца, хлопчык павінен вучыцца. У яго светлая галоўка. Вы ведаеце, ходзяць плёткі, у якія я, вядома, ні сном ні духам не вінен. Жанчыны — гэта глупства, прабачце. Але рота людзям не замажаш. І я неяк палюбіў хлопца. Няхай здае экзамены, мне хочацца, каб ён быў інжынерам... Стыпендыя ж, кажуць, невялікая, дык няхай ён вучыцца і клопату не мае. Вы пытаеце, чаму я так хачу? Эх, пані, у мяне не было дзяцей, трэба думаць, што і не будзе. А ў хлопца, бачыце, мае вочы... І нос таксама. Так усе кажуць. Мог бы ён быць і сапраўды маім. І потым, калі гавораць, дык няхай ужо гавораць недарэмна. У мяне ёсць такія-сякія грошы. Толькі я хітры. І мне гэта будзе зручна, бо калі вы дазволіце я пасялюся ў вашай садовай лазні.

Не ведаю, як ён угаварыў яе. Але ён сапраўды пасяліўся ў лазні, што схавалася ля яра ў бузіне і крушыне, а пасля, з восенню, перайшоў у дом. Жаночае сэрца схільна шкадаваць, іншым нават здаецца, што менавіта гэта галоўнае ў ім.

Яна прала на яго, карміла, цыравала яго шкарпэткі. Купіла нават аднойчы яму гарнітур, але ён паслаў яго хлопцу, «сыну», і з упартасцю вала хадзіў у тым самым клятчастым строі, на якім жывога месца не было ад лапікаў. Калі ў яго пыталіся, нашто ён, маючы грошы, так ходзіць, ён адмоўчваўся, але бацьку майму аднойчы сказаў:

— Не той цяпер час, як тады, калі я быў хлапчуком. Але я не хачу, каб Янка хоць на волас зазнаў таго, што зазнаў я. Мы жылі бедна, маці мая была таксама ўдава. Таму, напэўна, я і атрымаўся такі: сухі, кашчавы, п'янею ад першай чаркі. Таму я і стаў такі слабы і, што казаць, дурнаваты, няздатны ні на што. Мазгі ў мяне не працуюць як трэба. Самыя простыя рэчы я не разумею. А ў мяне ж ёсць сэрца, я таксама хачу быць чалавекам. Гэта, напэўна, вельмі добра — сядзець з жонкаю дзе-небудзь пад грушаю і

піць чай... А ў нас, дзяцей, нават портак даўжэй, чым у каго на вёсцы, не было. Аднойчы маці са свае старой спадніцы зрабіла нам, чацвярым, порткі. Мне, малодшаму, яны атрымаліся вельмі вузенькія. Але ж затое сапраўдныя крамныя порткі! Быў вялікдзень. І вось пайшлі мы, дзеці, гуляць. Прыдумалі гульню: хто скокне цераз агароджу, таму фарбаванку. У нас і курэй не было, а скакаў я добра. Хочацца мне фарбаванку. Вось я разагнаўся і — цыб! Пераскочыў і з разгону аж прысеў. Глянуў на порткі, а яны на каленях луснулі і між нагамі луснулі, так што атрымалася двое портак, па адной калошыне на кожнай назе,— і ззаду луснулі.

А зашываць няможна, свята. Так я і прасядзеў увесь вялікдзень у хаце ды горка плакаў. Не дай божа, калі дзецям чаго-небудзь не стае.

Ён зноў усміхнуўся прыдуркаватай усмешкаю:

— Так, атрымаў фарбаванку. Карычневая... Ад цыбульнага лушпіння.

Карней усе апошнія гады перад вайною працаваў, як пчала. Удзень — па хатах, увечары — з рыдлёўкаю ў садзе ўдавы. Ён абшаляваў дом і перакрыў яго новымі гонтамі, пабудаваў уласнымі рукамі веранду, зрабіў у гушчары альтанку і нават «упрыгожыў» яе слупкі вельмі непрыгожай разьбой. Разжыўся недзе саджанцамі добрых яблынь. І калі яго пыталі, нашто гэта, ён адказваў кожнаму адно:

— Тут ён можа спаць улетку... А тут чай піць... Ведаеце, маладому вельмі карысна піць чай, ды яшчэ калі вакол такі вольны дух... А белы наліў, думаеце, не карысны маладому? У-га!

У яго бедных мазгах шчасце атаясамлівалася менавіта з тым, каб сесці пад дрэвам і піць смачны чай. Ды яшчэ калі з варэннем — ого-го!

Гэта былі гады яго залатога шчасця. Карміўся ён добра, нават папаўнеў. Янка, прыязджаючы на канікулы, часта хадзіў з Карнеем у кіно (ісці ўтраіх пацукалоў не згаджаўся, і сын пасля ішоў у кіно з маткай). Мне асабліва падабалася, што юнак не саромеецца гэтага чалавека, што яны пасля кіно разам п'юць па куфлю піва і адукаваны хлопец пачціва слухае блытаныя фразы Карнея.

— Бач ты, як ён яго... закруціў. А той яму на бульбе, значыцца, паказваў, як яно там... ваююць... А гэ-

ты, значыцца, вельмі прасіўся. А што ты думаеш, кожнаму стварэнню жыць хочацца. Вось яно, значыцца, і так. Але...

Аднойчы я разрагатаўся, пачуўшы яго тлумачэнні, і тата ўпершыню ў жыцці даў мне па карку. Мне было ўжо дзесяць год, і гэта было вельмі крыўдна.

А бацька сказаў:

— Пабачу я, колькі ты на сваім шляху знойдзеш людзей накшталт гэтага прыдуркаватага Карнея, ёлуп хвашчоўскі!

Але я не зусім паверыў яму. Не толькі я лічыў, што гэта глупства. Сапраўды, якія вялікія пачуцці маглі жыць у гэтых грудзях? Ніякія.

Вось на полюс ісці, у нетрах цэнтральнай Афрыкі гінуць у балотах, дзе архідэі і недзе далёка дзікуны б'юць у там-тамы — гэта так.

А тут... пацукоў выганяе чалавек.

Усе былі так упэўнены ў гэтым, што не здзівіліся, калі ён з'явіўся і пры немцах з той самай торбай і ў той самай вопратцы. «Сын» быў адрэзаны фронтам, удаву Карней адправіў кудысьці на вёску і застаўся ў доме адзін.

— Гэта мой дом,— пяшчотна казаў ён, пагладжваючы абсаду акна.— Бачыш, як я адгабляваў!.. І сад пачаў цвісці. Сын ужо інжынер, разумны хлопчык. Іх хутка прагоняць, а ў яго — дом. Прыедзе ён з жонкаю, будзе піць чай пад дрэвам. А калі я кіну дом — яго ж парасцягаюць... Якія ж гэта людзі, яны нічога не пабудавалі. І пацукоў усюды развялося... Хіба гэта гаспадары? Яны дрэнныя людзі, яны нічога не будуюць. А чалавек павінен быць, як пчала... Іначай, што ж застанецца дзецям?

Але хутка «дрэнныя людзі» пачалі і будаваць. Надта ўжо выгаднае, наводшыбе, месца было ля хаты Карнея. Тут табе густы сад, далей — яр, які падыходзіў да рэчкі і густа зарос дрэвамі і хмызняком. Поруч толькі адзін будынак, былы рыбны склад з каменнымі сутарэннямі.

Склад абгарадзілі, накруцілі шмат дроту. Пасля з'явілася ля самага саду Карнея незразумелая рэч, падобная на літару «П». Гаспадар установы, што пасяліўся ў Карнеевай хаце, быў пажылы, змучаны бяссонніцаю чалавек у акулярах, які сяк-так размаўляў

па-руску. Прыязджалі сюды і другія, часцей за ўсё па начах.

Карнея выгналі. Ён суцяшаў сябе тым, што цяпер хаты ніхто ўжо не кране. Будзе стаяць цалюткая, як рэпка. Але ён кожны дзень хадзіў туды, пакуль яго не ўзяў нейкі падазроны вартавы. Афіцэр, даведаўшыся, у чым справа, доўга рагатаў і дазволіў Карнею жыць у старой лазні. Яму нават выдалі «аўсвайс».

Жылося яму галадна: было не да пацукоў. Але ён быў задаволены, што жыве ля сваёй хаты, што пан не псуе яе, што яна застанецца цэлай. Аднойчы яго паклікалі да ганка, і там новы гаспадар паказаў яго гасцям.

— Бачыце, тубылец. Галава, як стаўбун. Рад, што я тут — бо хату не запаскудзяць. Сказаў, што цяпер горш, бо пацукоў не ловяць. Разбіраецца, бачыце, у палітыцы. Што ў гэтых пячорных мазгах можа быць?! І гэта называецца чалавек. Дэгенерат! Добра што хоць не шкодны... Ну ідзі, ідзі...

Карней пайшоў. Ён не пакрыўдзіўся. Ён не ведаў, што такое «дэгенерат». Так ён хадзіў па горадзе. Бачыў надпіс «Зараза!» вакол лагера. Бачыў, што ў горадзе мала людзей, што з яўрэйскіх кладоў часам нясе тлустым дымам. Але ўсё гэта праходзіла паўз яго. Мазгі Карнея здатныя былі рэагаваць толькі на тое, што адбываецца вось тут, на яго вачах.

Пачынаўся зазімак. У лазні рабілася холадна.

Аднойчы на світанні нешта штурхнула яго ў сэрца. Сам не ведаючы чаму, ён занепакоіўся. Потым гэта невядомае прымусіла яго апрануцца і выйсці з лазні. Ніхто чамусьці не затрымаў яго, і ён дайшоў да самай ускраіны саду і ўбачыў там вялізную літару «П», а ля яе людзей. Людзі рабілі нейкую звычайную сваю работу. Гаспадар хаты стаяў, пазяхаючы, непадалёку ад другога афіцэра, які чытаў з маленькага лістка. Было яшчэ некалькі людзей у зялёным і жанчына, якой толькі што абрэзалі косы ў вялікі папяровы пакет. Жанчына стаяла і нібы нешта глытала, хоць ежы ў яе не было відаць.

Афіцэр павярнуўся і заўважыў Карнея.

— А-а, аўтахтон. Ну-ну, падыходзь. Бачыце, панове, вось і паняты з'явіўся.

Ён амаль любіў гэтага недапечанага чалавека

(дрэнныя людзі любяць таго, хто ніжэй за іх) і размаўляў з ім заўсёды паблажліва і ласкава. Але другі афіцэр, той, што чытаў, сказаў яму нешта, і гаспадар занепакоіўся.

— І сапраўды, хадзем адсюль. Давай, давай.

Яму, відаць, вельмі хацелася дадому. Ён хранічна недасыпаў, гэты чалавек. Таму ён з радасцю пакінуў свой пост і павёў Карнея прэч.

— Што гэта тут робяць гэтыя людзі? — спытаў пацукалоў.

— Вешаць будуць. Злачынцаў,— ляніва адказаў афіцэр.

— Як вешаць? — здзівіўся Карней.

— А так, за шыю.

— Вешаць? За што? — Карней занепакоіўся.— І дыхаць нельга?

— Чаму нельга? Льга. Толькі не ротам.

І раптам пацукалоў загаварыў разважліва і павучальна:

— Няможна вешаць людзей за шыю, пан. Шыя дадзена, каб дыхаць. Іначай нельга дыхаць... Хіба можна так, за шыю? Няможна вешаць людзей. Яны людзі. Яны хочуць есці, піць ваду і піва, плаціць мне грошы, што я выганяю пацукоў. Нашто ж, замест таго каб шкадаваць людзей, раптам — за шыю? Шыя чалавеку не дзеля гэтага дадзена.

Афіцэр з цікавасцю паглядзеў на яго.

— Што гэта ты вярзеш, дурань? Марш адсюль!

Але Карней не пайшоў. Ён стаў ля афіцэра і пранікнёным, вельмі цвёрдым тонам сказаў:

— Яна ж памрэ, праўда? Пане, злітуйцеся над ёю, пашкадуйце яе. Яна ж чалавек, як і вы...

Афіцэр маўчаў. Напэўна, думкі яго былі ў гэты момант далёкімі ад устава. Вялізная вайсковая машына — і тут прыдурак. Урэшце ён паўтарыў яшчэ раз:

— Марш, дурань!

Пацукалоў глянуў назад. Жанчына ўжо вісела, а адзін салдат, абхапіўшы яе ногі, цягнуў уніз.

Карней жаласна застагнаў і пайшоў прэч. Сэрца яго аблілося крывёй.

У тую ноч абурыўся ўвесь яго маленькі свет, дзе людзі жывуць, смяюцца над ім, плацяць яму грошы, дзе дзеці любяць яго, дзе пацукі баяцца касталомтравы.

Ён пачаў унікаць афіцэра, але хутка яго паклікалі ва ўласны дом.

Справа была ў тым, што пацукі з разбуранага бровара, дзе яны раней жывіліся, кінуліся ў суседнія дамы, асабліва ў тыя, дзе была ежа. Атрута не памагла. Тады звярнуліся да яго, і «тубылец» нечакана згадзіўся, толькі папрасіў тры дні, да суботы.

— У суботу пан будзе гуляць у карты спакойна, пад падлогай ніхто не будзе шарудзець. А што доўгі тэрмін, дык шаптаць такому пану — не простая справа... У простага мужыка і пацук, значыцца, просты і выгнаць яго проста... А тут пацук адгадаваны і шкодны. Але пасля майго слова яму тут не будзе чаго рабіць.

Пасля многа гутарылі пра тое, што нехта бачыў пацукалова за горадам, на дарозе, у кампаніі з нейкай кабетай, якая вельмі нагадвала ўдаву Стучэўскую. Яна штосьці гаварыла, а пацукалоў адказаў толькі раз:

— Не ведаю. Галава ў мяне такая... Самыя простыя рэчы не разумее.

Пасля яны пастукалі ў нейкі домік на ўскраіне і доўгі час сядзелі там. Пацукалоў пабываў там яшчэ раз і выйшаў адтуль, моршчачы лоб.

Таго самага дня ён пабываў ва ўласнай хаце, стаяў там на каленях і шаптаў тое, што шаптаў тысячу разоў: «Цар пацучыны, ветахавы, цёмны, выходзь... на балаты... там... на пясок рассыпайся...»

Ён папрасіў дазволу прыйсці ў суботу ў шэсць гадзін для канчатковай замовы.

У той дзень выпаў першы сталы снег. Дом і сад выглядалі такімі прыгожымі пад белымі, мяккімі падушкамі.

І калі пацукалоў у суботу прыйшоў другі раз, ён доўга стаяў ля хаты, гледзячы на яе прагнымі вачыма. Торба вісела ў яго цераз плячо, стуль выглядалі сцяблінs травы. А вусны ўсё шапталі нешта.

Пасля ён выцер кулаком сухія вочы і хутка пайшоў да ганка. Салдат і паліцай з мясцовых адвялі яго ў сталовую.

— Зараз папросіць пакінуць аднаго,— сказаў паліцай.— Гэта ўжо заўсёды так.

Ён, сапраўды, папрасіў і, калі яго пакінулі, стаў на калені ў кут, да вялікай пацучынай нары. Вусны яго шапталі. Ён дастаў з торбы вялізны пучок касталом-травы, залез у яго пальцамі і, да болю моршчачы лоб,

на невялічкім металічным прадмеце перавёў невялічкую стрэлку на лічбу дзевяць. Пасля апусціў усё гэта ў знарок пашыраную дзірку і забіў яе дошчачкай. Перайшоў да наступнай дзіркі — і там паклаў пучок травы. Затым паклаў яшчэ ва ўсе норы. Ён прабавіўся так з гадзіну.

Пасля, ля выхаду, яго затрымалі і павялі ў кухню. Ён павагаўся, але пайшоў. Тут яго не пакінулі аднаго, бо так патрабаваў парадак. Усе з цікавасцю глядзелі, як ён піхаў траву ў норкі і шаптаў свае дзікунскія замовы.

Кухар нават панюхаў траву, і пацукалоў спытаў, ці добра яна пахне.

Спяшацца было нельга.

Ля дзвярэй яго зноў затрымалі, бо ён павінен быў адчытацца перад самім гаспадаром, а той яшчэ не прыехаў. Пасля ён прыехаў, а з ім яшчэ шэсць чалавек, сярод іх дзве дзяўчыны.

— Я ўсё зрабіў, пане ласкавы,— сказаў пацукалоў.— Вы будзеце вельмі спакойна спаць... І вашы цнатлівыя паненкі таксама.

Яны засмяяліся, а новы гаспадар даў яму каляровую паперку. Пацукалоў узяў яе і скамячыў у далоні. Толькі выходзячы, ён зірнуў на насценны гадзіннік. Маленькая стрэлка прайшла палову дарогі ад лічбы, падобнай да парсюковага хвосціка.

Ён выйшаў і пабрыў па снезе, не аглядаючыся назад. Ён ведаў, калі азірнецца і пабачыць веранду, дзе хлопчык піў чай, і акно таго пакоя, дзе хлопчык спаў, то можа вярнуцца. Каб разам... У хлопчыка быў такі неспакойны сон.

Пацукалоў пайшоў напрасткі. Ён спусціўся на лёд рачулкі паўз сваю лазню, пасля выбраўся на стромы супрацьлеглы бераг, чапляючыся за голы хмызняк. Там ён спыніўся на ўзгорку і стаў чакаць пад халоднымі зорамі. За спіною ў яго чарнеў недалёкі лес, куды цяпер ляжаў яго шлях.

Час цягнуўся надта-надта доўга.

І раптам за рачулкай нешта грымнула, ірвануліся ў паветра языкі полымя. Дом яго, лепшы на свеце, свой дом, палаў як свечка. Зарыва клалася на снягі. Яны сталі ружовымі. Ад складаў беглі маленькія чорныя фігуркі, але трапіць у дом яны не маглі. Мітусіліся вакол, сутыкаліся, беглі назад.

Чалавек на высокім беразе ўпаў на калені ў снег, заплакаў, выціраючы вочы лапленым рукавом, пасля засмяяўся:

— Пацукі! Дальбог, пацукі. Я яшчэ ніколі не бачыў такіх тлустых.

## ЛЯТУЧЫ ГАЛАНДЗЕЦ

### I

Паэт Лявон Касачэўскі даведаўся, што яму здрадзіла нявеста.

Месца, у якое ён уцёк гаіць сардэчную рану, было рыбацкім латвійскім гарадком, маленькім, як цацка. Уранку Касачэўскі прачнуўся, пачуў, як дождж шапаціць па лісцях, і засмяяўся, што няма больш нявесты, усё засталося ззаду, што прыйшла, магчыма, другая маладосць.

Але такое пачуццё было толькі ў першы дзень, пасля вярнулася туга. Ён сумаваў па Анэлі, па яе бязвольных далонях, па нахабных прыжмураных вачах. Пасля адышло і гэта, і толькі травяністы пах першых астраў нагадваў яму часам мінулую восень, шчасце.

Гарадок быў увесь заплецены мокрымі сецямі, прапахнуў рыбай і ёдам. Гэта была спрадвечная Балтыка, не захватаная да агіды рукамі цікаўна-абыякавых турыстаў. Пасівераныя рыбакі, бабулі з вялікімі чорнымі рукамі, бялявыя дзяўчаты.

І, вядома, дзюны — прыбалтыйскія пірамідь з іхнім халодным пяском, спічастымі верхавінамі і жоўтай, таксама халоднай істужкай вячэрняй зары, што гарыць над імі.

Лявон атрымаў якраз ганарар за кнігу і вырашыў жыць тут, сціпла і бедна, да таго часу, пакуль хопіць грошай. Яму абрыдлі камяніцы горада, брудная рэчка, спрэчкі ў рэдакцыях. Абрыдла і вёска, дзе жыла яго адзіная сястра і дзе ён стаў амаль такім самым паважаным чалавекам, як Аўтух Купа, сын цёткі Юхіміхі, сяржант мінскай міліцыі.

Ён не хацеў сустрэч з людзьмі, і людзі не ведалі, што гэты непрыгожы чалавек год трыццаці — вядомы

паэт. Яны проста бачылі яго нязграбную моцную постаць, шырокія крокі, якімі ён мераў чысцюткія вуліцы гарадка. А ён любіў толькі кампанію дзяцей і вельмі старых рыбакоў, ды і то рэдка.

Звычайна ён браў з сабою сабаку гаспадыні, істоту рухавую і дрэнна выхаваную, і забрыдаў на цэлы дзень куды-небудзь далёка ў поле або на дзюны. Надыбаўшыся да таго, што ставала млосна ў нагах, ён сядаў на пясок і сумленна дзяліў хлеб з сабакам, пасля клаўся на зямлю дагары тварам і сачыў за хмарамі, а сабака, атрымаўшы ўсё, што трэба, здрадліва кідаў яго і бег кудысьці па сваіх сабачых справах.

Лявону было цяжка... Да дваццаці васьмі год ён жыў жыццём чыстым і халодным, не разумеючы сяброў, якія проста так хадзілі «на вечарок» сёння да адной, праз тыдзень да другой і казалі, што гэта натуральна, што ўсім кабетам толькі таго і трэба. Ён быў па-пурытанску, насуперак усяму, упэўнены, што каханне — гэта зусім не тое, што рабілі сябры. Ён не папікаў сяброў, ён ведаў, што большасць людзей гэтага проста не ведае,— але для сябе выбраў другі шлях: або ўсё, або нічога.

І тут прарвалася тое, жахлівае, што аж дагэтуль мучыла ўсю яго істоту.

Яшчэ і яшчэ раз ставіў ён перад сабою пытанне, якое з пачатку дзён ставяць усе вельмі разумныя, але вельмі дурныя мужчыны: «Што я ў ёй знайшоў?» Гожая, з наўскос прарэзанымі вачыма, падобная на егіпцянку — людзі на вуліцах азіраліся на яе. Хіба што толькі гэта?

Аднак цэлы год ён гарнуўся да Анэлі, думаў толькі пра яе, не мог без яе.

І сяброўкі ў яе былі такія самыя. Флірт без цэню дасціпнасці, размовы пра тое, што нейкі французскі артыст накупляў у Маскве бялізны і пасля адкрыў у Парыжы выстаўку, на смех розным сытым ранцье. З захапленнем перадавалі словы нейкай этуалі: «Як у іх пры такой бялізне нараджаюцца дзеці?!»

Касачэўскі ніколі не быў артадоксам, але яго так абурыла іх слепата, што яго ўзарвала.

Некалькі дзён пасля таго ён не размаўляў з Анэляй, але яна прыйшла да яго сама і так міла шчабятала, рабіла такія нявінныя вочы, што ён не вытрымаў.

Ён памятаў, як аднойчы, калі яны ўжо былі жані-

хом і нявестай, ім давялося сустракаць дзень нараджэння ў адной Анэлінай сяброўкі. Вечар скончыўся позна, дача была далёка за горадам.

Ім паслалі ў адным пакоі, перагарадзіўшы яго шырмаю. Пры гэтым гаспадыня дачы (Касачэўскі мог бы пабажыцца) з выразнасцю паглядзела на сяброўку, і ў вачах яе Лявон заўважыў прытоеную ўсмешку. Лявон, вядома, не думаў адмаўляцца, выглядаць у яе вачах смешным. Але гэта было так непрыкрыта і так бессаромна, што ён пайшоў на веранду і курыў там, пакуль усе не заснулі.

У пакоі ён доўга глядзеў на спячую. Напружаны нават у сне твар, раскрыты рот (паліпы ў носе, ці што?). Нічога ад яе дзённага зачаравання не было ў гэтым вобліку, толькі ніколі раней Лявона так не цягнула да яе, не быў ён такі блізкі з ёю — да апошняй мяжы. Насланнё нейкае!

Але ён шкадаваў нявесту і памятаў выразны позірк гаспадыні. Шырма засталася стаяць.

Што ж гэта было? Толькі не каханне, бо разлягцелася ў трэскі ад першага позірку хлюста, што стаў на іхняй дарозе за месяц да вяселля. Ён выпадкова ўбачыў іх разам, але яна пры апошнім спатканні хлусіла яму, выкручвалася, як вужака пад віламі. І самае дрэннае было тое, што ён ведаў, ведаў усё, пагарджаў ёю, не паважаў ані на шэлег,— і ўсё ж гарнуўся да яе, так гарнуўся, што ўсё мог дараваць.

А пасля было так цяжка, што ён уцёк сюды і толькі тут трошкі супакоіўся. Усё па-даўнейшаму. Сустрэне сапраўдную, адзіную сярод усіх,— адаб'е нават ад дзесяцёх. Не сустрэне — не трэба ніякай.

Паступова Лявон уцягваўся ў жыццё гарадка. Яно было простым, як чаргаванне дзён і начэй, працы і адпачынку.

Уночы ён звычайна браў у гаспадыні човен і, карыстаючыся брызам, адплываў далёка ад берага. Уздыхала мора, курылася лёгкім туманам. Галава рабілася мокрай ад расы. Ён спакойна засынаў на дне чоўна, ведаючы, што мора будзе спакойнае аж да самых асенніх бур падчас раўнадзенства. Сон быў чуйны: праз кожныя дзесяць хвілін ён знікаў, пасля зноў ахутваў вочы. Човен пагойдвала.

А калі сон не прыходзіў, Лявон ціха чытаў любімыя вершы:

У моры імчыць карабель-невідзімка,
Згас за марамі Альдэбаран.
З зорнага сяйва, расы і дымкі
Шлях пралягае за акіян.
Ванты спяваюць! Ванты спяваюць!

Ціша панавала над морам, плыў блакітны, празрысты туман.

Асабліва баяўся цяпер Лявон сустрэчы з якім-небудзь земляком-інтэлігентам. І ўсё ж лёс не ўбярог яго ад такога шчасця.

Часам Касачэўскі заходзіў у бар выпіць шклянку моцнага мясцовага піва. Часцей за ўсё ён рабіў гэта тады, калі ў бары было мала народу. Ды і садзіўся ён у кутку, ля самага ўваходу, за вялікай філадэндрай, мясістае лісце якой добра хавала яго.

Такія меры былі дарэчы, таму што ў гарадку з'явілася некалькі Лявонавых суайчыннікаў. Жылі яны не тут, а ў невялічкай гавані, базе маторных ботаў, даволі далёка ад пасёлка, на поўнач ад яго, і з'яўляліся ў гарадку, а значыць і ў бары, толькі часамі. Лявон у твар ведаў некаторых з іх і не вельмі любіў.

Адзін з іх быў высокі, вельмі спешчаны мужчына з маладой сівізною — вядомы рэжысёр. Другі — маленькі, са смешным памятым тварам — яго сябра, крытык Моршч (а для ўсіх проста Вінцук). Астатнія былі, напэўна, артысты: падкрэсленая выразнасць жэстаў, што па-за сцэнай здаецца ненатуральнай, тэмбрыстыя галасы. Чаго яны тут, Лявон не ведаў. Ён чуў, праўда, што рэжысёр Грабоўскі заўзяты яхтсмен, таму і не здзіўляўся, што бачыў іх тут. Яго больш хвалявала тое, што хтосьці, напэўна, рэжысёр, заходзіў у адсутнасць Лявона да яго на кватэру. Гэта было непрыемна.

І трэба ж было так здарыцца, што ў той вечар Касачэўскі зайшоў у бар і не паспеў агледзецца, як пачуў размову гэтай вясёлай кампаніі амаль поруч з сабою, за вялікай філадэндрай.

Размаўлялі аб ім.

— Што, уласна кажучы, такое з гэтым Касачэўскім? — спытаў адзін з артыстаў.

Рэжысёр прыгожым жэстам (ён трымаў папяросу ў выцягнутых і паўсагнутых пальцах, агнём да далоні) збіў попел:

— Уласна кажучы, звычайная гісторыя. Прафан у адносінах да жанчын. Звычайная дзяўчына была, я нават ведаў яе. Прыгожая. Абрыдла ёй занадта вялікая сумленнасць жаніха, і яна вырашыла ў чаканні шлюбных радасцей зрабіць размінку.

Малады чалавек з занадта калматай «канадкай» рагатнуў.

Яшчэ адзін сабутэльнік, чалавек з пароды тых, якіх завуць «грыбазвонамі», усміхнуўся:

— Кіньце жартаваць, хлопчыкі. Гэта хоць і смешна, а чалавеку няшчасце... І ўсё ж, які шчанюк! «Ненавидя человечество, от него бежит спеша».

Крытык Моршч усміхнуўся аднымі вачыма.

— Самае дзіўнае, што з усяго Бальманта нашы крытыкі ведаюць адзін толькі гэты радок. І жывуць гэтым капіталам да сівых валасоў.

— Не пра гэта справа ідзе, любы,— з паблажлівай пагардай сказаў Грабоўскі.— Можа, гэта і смешна, а я інстынктам не люблю гэтага чалавека. Ведаю — добры хлопец, ведаю — неблагі паэт, ведаю — не ханжа. А не люблю таму, што ён у адносінах, скажам, да мяне,— белая варона. Мне ён быў патрэбен — вы ведаеце па якой справе,— канча патрэбен. Песні мне патрэбны ў яго духу. Заходжу да яго — няма, пайшоў кудысьці. А на стале — я не цікавіўся, але адразу трапляе ў вочы — чаго толькі няма: «Сагі пра вікінгаў», «Гісторыя конунгаў Нарвегіі», раманы Канрада. І на самай сярэдзіне стала — «Легенды паўночных мораў». Я па запрашэнню гаспадыні чакаў хвілін дваццаць і цікнуў у гэту кнігу. Адкрыта на гісторыі Лятучага Галандца. Ну нашто гэта патрэбна, каму? Разумее ж ён гэта. А ў асабістым жыцці... ах, дамы і трубадуры, ах, Гаральд Вілабароды! Чалавек-рамантык, сцвярджаю гэта, у наш век тое самае, што жывы мамант.

Моршч рэзкім рухам адсунуў разам з сурвэткаю шклянку з віном. З грымасай гідлівасці ўзяў чужую папяросу.

— Глупства кажаш, стары. Чалавек — гэта ўсё. Гэта метад кесоннай адліўкі і язычаскія абрадавыя песні, сучасная філасофія і лятучы галандзец, атамная фізіка і вершы галіярдаў. Усё патрэбна на зямлі, усё — чалавек. А ты кажаш звычайную пошласць. Што ж, адабраць у дзяцей беларускія легенды, ада-

брацъ Пакацілу, вужыную каралеву, Яна Прыгожага. Хто з іх вырасце? Голыя практыкі без фантазіі. Я не ведаю, але я ўпэўнены, што Эйнштэйн чытаў казкі Андэрсена.

— Увага,— з сумам азваўся рэжысёр,— прысутнічаем пры нараджэнні серыі новых артыкулаў.

— Так, новых артыкулаў,— выбухнуў чырвоны Моршч.— Чыгунныя мазгі ў вас, вось што. Я таксама лепей пайшоў бы на дзюны і слухаў там мора замест таго, каб слухаць твае жарты. Што ж, прымусьце чалавека пісаць тэхнічныя раманы ў духу «Рэльсаў» П'ера Ампа. Будзе ў літаратуры яшчэ адной нудотай больш.

— Пайшла, паехала,— махнуў рукою рэжысёр.— Любчык, не перабівай ты чалавека, які аж на тыдзень старэйшы за цябе. Зразумей, няхай сабе ён піша, што хоча, але няхай жыве, як кожны чалавек. Глядзі ты, не спадабалася яму звычайная дзяўчына.

— Не звычайная дзяўчына, а... сказаў бы, але баюся цябе пакрыўдзіць, такія ў тваім гусце.

— Ну няхай, няхай, супакойся, мая дзетухна. Не трэба чакаць ад жанчын надзвычайнага: казачнай прынцэсы, бога з машыны, трасцы з хваробай. А сам звычайнага асабістага жыцця не здолееў наладзіць.

— І гэта не твая справа,— адрэзаў Моршч.— Ведаеш, я малю бога, каб яму дасталася сапраўдная прынцэса. Так абрыдлі шлюбы толькі з-за таго, што мужчыне апрыкралі сталоўкі.

— Перабольшваеш,— сказаў «грыбазвон».

— Ну добра, падвяду базіс. Жанчыне жахліва, калі пустэча ў ёй самой, а мужчына баіцца пустэчы вакол сябе. Сумна, цяжка, хочацца, каб пашкадаваў нехта. Ну і з'яўляецца дзяўчына, добрая, простая. Каханне. Пажаніліся. Пасля каханне або ломіцца — тады развод,— або пераходзіць у прывычку.

Моршч паклаў далонь на вочы і скалануў галавой. Пасля сказаў нейкім незвычайным, цёплым голасам:

— Магчыма, яно і лепей, што чалавек адзін з нямногіх не жадае задавальняцца проста жонкаю, а чакае сапраўднага кахання, што як удар бліскавіцы. Прыходзіць яно — чалавек шчаслівейшы за ўсіх на зямлі, а калі няма, дык лепей ужо нічога не трэба.

Рэжысёр, відаць, не адразу пазбавіўся ўражання

ад гэтых слоў і таму сказаў ненатуральна фатаўскім тонам:

— Ты сёння, бачу я, проста п'яны... А я не магу так разважаць. Няма казачных прынцэс. Дзікае сцвярджэнне, але я асабіста ўпэўнены ў гэтым: няма на свеце кахання. Фізіялогія — гэта так, сям'я — гэта так. І дурань твой Касачэўскі, што шукае феі там, дзе іх няма. Вымерлі феі.

Мімаволі ў яго словах за п'янай зухаватасцю прагучаў сум, і Моршч гэта зразумеў. Сказаў упрашальным, душэўным голасам:

— А можа, яны ёсць, не зніклі, толькі ты іх не заўважаеш, бо каратказоры, бо не ўмееш шукаць?

— Не ведаю,— змрочна сказаў Грабоўскі.

— Што ж, напэўна ў яго асаблівы зрок, калі ён бачыць прыгажосць нават там, дзе мы нічога не заўважылі б, акрамя гною. Памятаеш яго «Ветракі»? Крыжы над раўнінаю, стаяў снег, асабліва суха ля пачатага стога саломы, сустракае вясну ля стога стары конь. Добра! І, ведаеш, мы, напэўна, самі вінаваты ў тым, што рамантызм вымірае: не прызвычаіліся бачыць прыгажосць нават у бочцы з зялёнай вадою ля плота, нават у зламанай вярбе. У нас даўно ўжо не дзіцячы зрок, мы не чакаем ад жыцця незвычайнага. А такія, як ён, заўсёды трошкі дзеці. Ён чакае, ён верыць — і жыццё пойдзе яму насустрач. Я ведаю, ён ва ўсім убачыць надзвычайны бок. Выпадак, які для нас проста смешны, для яго паўстае ў такім павароце, што ён бачыць: гэта казка, гэта паэзія. А мы, суровыя практыкі, застанёмся ў дурнях нават і з практычнага боку. Таму што ён жыве і не міне сапраўды рэдкага і прыгожага.

Грабоўскі скрывіўся, як ад зубнога болю:

— О-ох, з якою ахвотаю я даў бы яму андэрсенаўскія чароўныя галёшы! У якіх дурнях апынуліся б гэтыя толькі што спечаныя рамантыкі, каб іх паставіць тварам у твар перад дзейснасцю, дзейснасцю будзённай, толькі звонку афарбаванай у колер казкі. З ахвотаю паглядзеў бы на гэта!

— Ну і дурань.

Касачэўскі знік, не дачакаўшыся канца размовы. Абрыдла. Пустыя, п'яныя пабрахенькі, і больш нічога. Чуў яшчэ толькі, што сярод кампаніі выбухнула нейкая спрэчка.

Ён пайшоў з горада і накіраваўся ў дзюны. Глупства, усё гэта глупства! Ніколі ён не быў рамантыкам, хіба што шукаў незвычайнага, без якога нельга, цяжка, нудна жыць. Асабліва брыдка было, што Грабоўскі перагортваў кнігу, выпадкова забытую на стале.

Ноч плыла над халодным морам, цягнуліся рэдкія пёрыстыя аблокі. Мора шырокае, як душа чалавечая, каціла на пясок лянівыя хвалі. Ах, мора, мора! Хіба не на гэтых бедных берагах, на якія і дагэтуль выкідваюць хвалі абломкі бурштынавага палаца, хіба не на гэтых берагах зарадзілася казка, хіба не тут ёй жыць? На гэтыя берагі выходзілі калісь легіёны паўдзённых воінаў у медных шаломах. Адкуль з'явіліся ў муміях фараонаў вочы з бурштынаў, тваіх бурштынаў, мора? Ты ляжала спакойнае, бутэлечна-зялёнае, шапацела лёгкімі хвалямі. Плылі па іх у тумане ганзейскія караблі; плылі на Готланд і Руген, дзе яшчэ не астыў попел ля храма Святавіта, галеры беларускага князя Вячка.

Гатландцы пудамі жэмчуг грабуць.
Самацветы ламаюць там спіны каней.
Іх жонкі на пралках прадуць залатых,
З сярэбраных чопаў кормяць свіней.

Бягуць быстраногія коні марэй, плывуць па іх незвычайныя караблі. Мора, мора! Ранкам, калі туман укрывае твае воды, можа, сам лятучы галандзец, карабель, асуджаны вечна вандраваць, імчыць у тваім тумане. Вецер надзімае ружовыя ветразі, падобныя на дзявочыя грудзі. Капітан стаіць пад мачтай, стаяць на пастах нерухомыя маракі. Раз у год, калі ад зямлі павее вецер, з карабля спускаюць шлюпку. Капітан аддае самотнаму рыбаку сумку з лістамі, якіх нельга даставіць па адрасу, бо гэтыя людзі даўно памерлі. Але над прывідамі не імчыць час. І зноў яны, раз у год, сумуючы па цёплай зямлі, перадаюць лісты да бацькоў, якія не дачакаліся з мора разудалых сыноў, да сёстраў, якія выплакалі ўсе вочы, да залатакосых нявест.

II

Мора, як люстра. Зноў то прыходзіць, то знікае нячутны сон. Ноч толькі-толькі пачала святлець, і лёгкі перадранішні туман вісіць смугою над морам. Ён

адлівае шэрым, попельна-жамчужным, слаба блакітным. Плыве кудысь над чоўнам, хістаецца, звіваецца ў пасмы і ляціць у неба.

І човен пагойдваецца. І галава мокрая ад расы. Сон схіляе галаву на банку чоўна. У такі час прыходзяць сны і здані.

І таму Касачэўскі ў першую хвіліну амаль не здзівіўся, калі непадалёку ад яго, але амаль зусім нябачны за туманам, праплыў сілуэт карабля. Стройны, выцягнуты, з прыгожымі абводамі, з трыма мачтамі, на якіх былі слаба напятыя ветразі, ён плыў павольна-павольна. Ён здаваўся б сном, калі б не лёгкія вусы пены, што беглі ад яго ў бакі, ледзь бачныя ў тумане.

Касачэўскі, як большасць сучасных людзей, быў поўным прафанам, што датычыцца старажытных караблёў, але тут нават ён, праціраючы заспаныя вочы, войкнуў ад здзіўлення: карабель семнаццатага стагоддзя, прывідны ў тумане, ходкі, як мара, праплываў перад ім. Лявон быў вельмі сучасным чалавекам і, вядома, нікому не паверыў бы, каб яму сказалі такое. Але не верыць уласным вачам было немагчыма. Карабель быў тут, такі прыгожы, такі імпэтны.

Яму здалося, што ён спіць. Але не. Адчынены порты, ля парэнчаў з пузатымі балясамі стаяць невыразныя ў тумане, нерухомыя постаці.

Што ж гэта такое? Звар'яцеў ён або, можа, сапраўды ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя плаваюць па морах караблі-прывіды? Не, гэта сон.

І толькі ён паспеў падумаць пра гэта, як роўны, мёртвы голас пачаў аддаваць словы каманды.

Касачэўскі чуў, што галандскай мове ўласціва падаўжэнне галосных. Да таго ж, ён чытаў «Уленшпігеля», дзе таксама трапляюцца галандскія словы. Але ў тую хвіліну ён не думаў пра гэта. Ён арганічна адчуваў, што гэта менавіта галандскія словы.

Што за д'ябал?! Але які голас, які мёртвы голас!

У тую самую хвіліну ён пачуў, як другі голас, малады і жаласны, пачаў прасіць аб нечым. Гэты раз мова здалася яму нямецкай, якую ён трохі ведаў. Ён нават разабраў паасобныя словы:

— Нявеста... нявеста... Яна чакае... Злітуйцеся... Гэта тут, блізка.

У адказ зноў той самы мёртвы голас і незразумелыя словы.

— Марыя! Марыя! — зноў пачаў жаласна стагнаць малады голас.— Марыя!

Касачэўскі адчуў, што ў яго пачало падазрона паколваць у каранях валасоў. Гэты голас гучаў такой непрыхаванай прагай, такой адвечнай тугой, што мурашкі прабеглі ў яго па спіне.

— Пусціце яго,— сіпата крыкнуў Касачэўскі.

Але ў тую самую хвіліну нешта пераляцела цераз борт і пляснулася ў ваду, а карабель, змяніўшы трохі курс, пачаў аддаляцца і канчаткова растаў у тумане.

Толькі голас яшчэ маліў недзе з такім жарам і безнадзейнасцю, што, здавалася, памеркне святло. Але гэта была ўжо невядомая мова:

— Марыя! Марыя! Тамуз! Панмегас тэфнеке!

Касачэўскі ўзяўся за вёслы і пачаў падграбаць да таго месца, дзе, ён бачыў, нешта ўпала ў ваду. Ён падплыў бліжэй і раптам убачыў пузатую, дзіўнай формы бутэльку, што плыла, пабліскваючы мокрым шклом.

Ён працягнуў да яе руку, спадзеючыся, што яна зурастане ў паветры. Але бутэлька лягла ў яго руку зусім адчувальным цяжарам. Ён паклаў яе ў човен і некаторы час сядзеў з закрытымі вачыма. Пасля расплюшчыў іх — бутэлька была на месцы, і ў ёй жаўцеў скрутачак паперы. Сэрца тахкала. Лявон акунуў галаву ў ваду. Парныя кроплі падалі яму за каўнер. Пасля пачаў машынальна выграбаць да берага.

Толькі калі сталі бачны дзюны на беразе і туман пачаў звівацца і знікаць, Касачэўскі ўзяў бутэльку і абчысціў яе рыльца. Шматок жоўтай паперы ўпаў яму на далонь. Востры гатычны шрыфт, які з цяжкасцю разбіраеш.

« Anno 1657. Божа, злітуйся над душамі маракоў. Я, Хрысціян Рабе, марак з праклятага карабля, невядома колькі год блукаю тут. Нашто я не слухаўся бацькоў, нашто я ўцёк у любімае, страшнае мора? Мяне чакаюць дома. Дні цякуць над намі, як хвіліны, годы — як дні. Я не ведаю, ці жывыя яны, усе, каго я любіў. Калі хто вылавіць гэтае маё апошняе прывітанне, хай занясе яго ў горад на вуліцу Літасцівых Юзафітаў у дом ля самай Старой Вежы на другі паверх. Даруй мне, сівая маці. Даруй мне, Марыя. Ты дарэмна гадавала свой вясельны мірт. Мы будзем імчацца,

пакуль нас не праглыне мора, бо «Лятучы Галандзец» — імя нашага карабля».

Лявон выйшаў на бераг у поўным неўразуменні. Што гэта можа быць? Міраж! Але вось у руках бутэлька. Жарт! Але хто можа цяпер разыгрываць такія дарагія жарты? Адкуль гэты стары, хуткі, як песня, карабель? Не, гэта немагчыма. Застаецца адно: можа, я пачынаю вар'яцець і ўсё гэта напісаў сам, у трансе? Таксама неверагодна. Божа мой, што ж гэта такое робіцца?

Але ён ведае адно. Гісторыя гэтая цалкам незразумелая, дзіўная, небывалая ніколі на зямлі. Калі ён сапраўды не хоча звар'яцець, ён павінен пайсці па гэтаму старажытнаму адрасу, паглядзець, ці не захаваўся той дом. Яму, нарэшце, проста цікава.

Але што гэта, што гэта такое, што?

III

Ён пакутліва думаў пра гэта ўвесь час, пакуль ехаў цалкам сучасным аўтобусам да горада. Не пераставаў думаць і тады, калі ў старым горадзе сапраўды адшукаў вуліцу Літасцівых Юзафітаў.

Гэта быў старажытны заімшэлы горад, пабудаваны, вядома, яшчэ ў часы нямецкага панавання. Круглыя і квадратныя вежы, муры, вулачкі такія блытаныя, што можна было, пакруціўшыся па іх, самога сябе пабачыць у спіну. Аўтамабілі тут не з'яўляліся, бо нават два чалавекі ледзь маглі тут размінуцца.

«Чорт пабяры, а раптам і праўда?» — варухнулася ў галаве Касачэўскага неспадзяваная думка.

Адагнаўшы яе, ён блытаў вулкай Юзафітаў яшчэ з паўгадзіны, пакуль не натрапіў на Старую Вежу, або Вежу Германа, як як называлі.

Сапраўды, вуліца тут канчалася, і да самай вежы прыляпіўся домік, ад якога так і веяла старасветчынай. Маленькі, шэры другі паверх выступае над першым, дах стромы. І спічастая вежа прыляпілася на ім — проста хоць малюй.

Напэўна, выгляд у Касачэўскага быў такі дзіўны, што нейкі малады чалавек у стракатым гальштуку паглядзеў на яго і ўсміхнуўся на поўны рот. Але Лявону было не да яго. Ён хутка перасек вуліцу і, нырнуўшы

ў дзверы, пачаў павольна лезці кудысь па вінтавых сходах. Было цёмна. Пахла цвіллю.

Вось і другі паверх, а на ім адзіныя, абабітыя самай празаічнай цыратаю дзверы. Званка няма. «Добра хоць гэта»,— падумаў Касачэўскі.

Ён стукнуў у дзверы раз, пасля другі — ніхто не адказвае. Злёгку штурхануў іх — падаліся. Уціснуўся ў цёмную прыхожую і адразу пабачыў прамень дзённага святла, што падаў з прачыненых дзвярэй. Ён сабраўся ўжо крыкнуць, ці ёсць хтонебудзь, калі раптам пачуў жаночы голас і аслупянеў.

Кара́лі гэтыя мне сціснуць шыю,
Вянец вясельны галаву прыгне.
Нашто ён мне? Іх косці мора мые.
Іх карабель даўно ляжыць на дне.

Голас зазвінеў тугою. Такая маладая, моцная горыч была ў ім, такі боль, што ў Касачэўскага зашчымела ў горле.

І дна марскога нежывыя цені
Схавалі ад мяне і ад бацькоў
Адвагу іх, іх ярасць і сумленне,
І да радзімы верную любоў.

А голас пытаў, клікаў. Слёзы чуліся ў ім. А пасля ярасць:

Дзе ён, каханы? О, як сэрца ные.
Зірнуць бы ў вочы родныя яго,
Арлінья, халодныя, стальныя,
Жахлівыя для лютых варагоў.
Хто памятае іх? О божа, божа!
Палае ўсё, і гіне наш народ.

Такой задушэўнасцю гучаў гэты невядомы голас, што ў Касачэўскага слёзы прасіліся на вочы. Што гэта было? Казка?

Я не аддам яму кахання руту.
О дарагі мой, мой няшчасны край,
Я паміраю. Вось яна, атрута.
Бывай, зямля. Каханы мой, бывай.

Голас сарваўся ад хвалявання, ад крыўды, ад відавочнага болю.

О, як пячэ! Каханы мой, мой любы.
Хутчэй сюды праз хвалі ўсіх марэй.
Цалуй мяне ў мярцвеючыя губы.
Канец... канец...

Голас заміраў. Адначасова пачулася шапаценне і стук ад падзення цела. Не памятаючы сябе, Касачэўскі кінуўся ў пакой:

— Што вы робіце?! Супыніцеся!

І асекся, разумеючы, што зрабіў вялікае глупства і недалікатнасць.

У пакоі на падлозе ляжала дзяўчына. Касачэўскі не паспеў заўважыць, прыгожая яна ці не. Ён заўважыў толькі яе ўбор, аксамітную вішнёвую сукню старажытнага крою і сярэбраны, тканы «караблік» на доўгіх косах.

Дзяўчына павольна ўстала з падлогі.

— Што гэта такое?

Ніхто не мог бы сказаць гэта больш годным тонам, і Касачэўскі мармытнуў:

— Прабачце, я стукаў. Але вы не адказалі. Пасля я пачуў... і кінуўся...

— Я зусім яшчэ не збіраюся паміраць.

Касачэўскі быў гатовы праваліцца праз зямлю. Ён стаяў нязграбны, вялікі, пераступаў з нагі на нагу. Бялявыя валасы, як страха, падалі ў яго на сінія, як неба, вочы.

— Даруйце, я проста не ведаю, у якое стагоддзе я трапіў.

Яна замест адказу сказала горка, наступаючы на яго:

Пакіньце гэты дом, шаноўны пане.
Чакаюць коні вас. Грыміць труба.
А тут жалоба, слёзы на світанні.
І па забітых вечная журба.

Лявон не заўважыў дзіўнага агеньчыка ў яе вачах і збянтэжана пакланіўся. Пасля падаўся задам да дзвярэй.

— Д-добра. Я... пайду. Прабачце. Я перашкодзіў з гэтай атрутай...

І тут яна разрагаталася.

— Чакайце, куды вы? Раз вы зайшлі, дык растлумачце хоць, нашто я вам.

І тут Касачэўскі выпаліў:

— Слухайце, калі вы пакінеце дурыць мне галаву? Што тут, уласна кажучы, адбываецца? Ці, можа, усе людзі звар'яцелі, ці я адзін вар'ят? Дзе я, нарэшце?

Яна зноў стала сур'ёзнай.

— Вядома, у... наццатым стагоддзі. Чуеце, коні

грукаюць капытамі. Бачыце, у гэтым пакоі адна толькі люстра, а там, за сцяной, зала і зброя на сценах... І мой жаніх загінуў у моры.

Касачэўскі зажмурыў вочы і скалануў галавою:

— Хто ж вы, нарэшце? Марыя?

— Так. Нашто завітаў сюды вандроўны рыцар? Я сапраўды Марыя.

— Тады гэта вам,— сказаў Лявон, канчаткова адмаўляючыся зразумець што-небудзь у гэтай фантасмагорыі.

Яна ўзяла ліст і пачала чытаць. Вочы яе сталі вялікімі.

— Прабачце, я дрэнна ведаю нямецкую мову. Адкуль у вас гэта? Можа, я не так зразумела?

Касачэўскі пераклаў.

— Адкуль? Што гэта такое?

— Я сёння атрымаў гэты ліст непасрэдна з «Лятучага Галандца», у моры.

Настала яе чарга аслупянець.

— Што гэта, жарты? Хіба гэта магчыма?

— Нічуць не больш, чым у цэнтры сучаснага горада сустрэць здань, якой амаль трыста год, жывую здань.

Яна задумалася, пасля ціха сказала:

— Так, гэта не менш дзіўна. Гэта... як лёс. І ўсё ж гэта толькі непаразуменне.

Касачэўскі толькі тут разгледзеў яе твар. Добры прамы нос, рот цвёрды, з гумарыстычнай складкаю, у агромністых шэрых вачах скачуць вясёлыя чорцікі. Вейкі доўгія, загнутыя бровы стрэламі, свае, нявышчыпаныя. І гордая пасадка галавы. Відаць, што дзяўчына з характарам. Дзіўна толькі, чаму такі знаёмы-знаёмы твар, такія да апошняга знаёмыя прыгожыя рухі.

— Недзе я вас бачыў... І ведаю, што не знаёмы.

— Напэўна, у мінулым жыцці.

Касачэўскі пакрыўдзіўся. У яго таксама быў характар, хоць сам ён выгляд меў вельмі вясковы, немудрагелісты,— як рубель для сена.

Магчыма, гэта і прывяло да наступнага. Адчуваючы, што жарты завялі надта далёка, яна сказала:

— Там вы біліся за мяне на турніры.

— Які ў мяне тады быў, аднак, дрэнны густ,— злосна сказаў Касачэўскі.

— Ого! Гэта пачынае мяне цікавіць.— Яна нахіліла набок галаву. І раптам дадала вельмі проста і шчыра: — Ведаеце што, раз ужо так атрымалася, дык пасядзіце тут. Мне хочацца выявіць усё да канца. Я зараз згатую чай.

Касачэўскі зняможана сеў на крэсла ля стала. Яна выйшла. Чортава асоба! Штохвілінна новы характар, новы чалавек. Глупства, вядома, сядзець тут і пасля такой прэлюдыі папіваць чаёк, але ж цікава ведаць, чым гэта скончыцца.

За чаем яна тым самым спакойным і даверлівым тонам спытала:

— Што ж гэта такое было? Раскажыце мне падрабязна.

Лявон нічога не ўтаіў.

— І вы адразу пайшлі сюды? — Яна глянула на яго з цікавасцю, як быццам упершыню пабачыла.

— А вы што зрабілі б на маім месцы?

Яна задумалася, паціраючы пальцамі скроні:

— Таксама пайшла б. Адразу ж. Такое бывае раз у жыцці... Але напэўна ніхто больш не пайшоў бы. Гэта рэдкасць. Для гэтага трэба вельмі верыць у жыццё, у тое, што яно не падманіць.

Яна ўсё больш цікавіла Лявона.

— Хто ж вы такая?

— Я Марыя,— сказала яна, глянуўшы на яго глыбокімі вачыма.— Я сапраўды Марыя. Шкода толькі, што не тая. Я артыстка Марыя Якубовіч. Вы рэдка бываеце ў тэатры?

— Дык вось дзе я мог вас бачыць! Я толькі ніяк не думаў, што вы тут.

— О, справа простая. Няўжо вы не чулі, што Чарада напісаў новую гістарычную п'есу?

— Баюся, што я апошні год быў надта заняты сваімі справамі. Чуў нешта такое. Назва, здаецца, «Краіна палае»?

— Так, з часоў пасля паўстання Вашчылы. Цудоўная рэч! Вы колькі тут ужо?

— Амаль тры месяцы.

— Ну дык вы тады і ведаць не можаце. Вырашылі круціць па п'есе фільм. А там палова сцэн тут, ля балтыйскіх берагоў, куды ўцякае герой. Ён вязе морам зброю... Простыя людзі дапамагаюць яму. Пасля ён знікае на доўгі час. Нявесту яго прымушаюць выйсці

за другога, і яна выпівае атруту. Вось гэтую сцэну вы і чулі выпадкова.

— Чакайце, няўжо сцэнарый у вершах?

— Што вы. П'есу пакуль што не ўзяліся ставіць. Але я маю звычай чытаць усё, што датычыцца героя. Дакументы, успаміны, іншыя творы пра яго. Ну і ролю гэтую цалкам вывучыла. Так мне лягчэй. Да таго ж, я думаю, што пасля таго як фільм выйдзе на экраны, п'есу будзе ставіць наш тэатр. Спахопіцца...

— Я думаю, што гэта будзе здорава,— шчыра сказаў Касачэўскі.— Роля ў вашых магчымасцях. Добрая будзе штука.

І калі яна раптам глянула на яго падазрона, ён шчыра разрагатаўся.

— А я... а я, дурань, ледзь не паверыў немажліваму. Чорт яго ведае, думаю, калі лісты перадаюць з «Лятучага Галандца», калі захаваўся гэты дом ля старой вежы,— чаму, думаю, не жыць у ім ценю былога, які пражыў тры стагоддзі і якраз збіраецца атруціцца.

Яна глянула на яго сур'ёзна:

— Не трэба смяяцца з гэтага. Каб я не бачыла, што вы на хвіліну ўсур'ёз паверылі, я адразу выгнала б вас за дзверы. Можа, вы і не такі чалавек, але за гэтую хвіліну вам многае даруецца.

— Ваша праўда,— пасур'ёзнеў Лявон.— Але ж гэты карабель...

— І гэта проста, вельмі проста. Калі ехалі сюды, многа гаварылі пра тое, што патрэбен карабель. Напэўна адшукалі недзе старую пасудзіну, адраманціравалі, падгрыміравалі пад старажытнасць — і вось яно ўсё і адбылося.

Лявон пасуравеў:

— Дык, значыцца, гэта ўсё нечы жарт. Дурны жарт, няварты сапраўднага чалавека. Я, вядома, не верыў, але ўсё ж...

— Але ўсё ж у глыбіні душы вашай жыла вера. І гэта добра.

— Гэта мне пакаранне,— сказаў Лявон.— Я занадта замкнуўся. Дзюны, мора, захад сонца, кнігі. У бойцы з рэалізмам я адхіснуўся ад апошняга і атрымаў па галаве... Дрэнна мне, крыўдна...

Яна раззлавалася:

— Прабачце, але гэта лухта. Усё адбылося як трэ-

ба. На хвіліну мы паверылі, што казкі будуюцца не на пяску. Як вам не сорамна крыўдаваць на жыццё? Мне бывае больш цяжка: няма на свеце людзей больш празаічных, чым артысты. Яны рэалісты да самага нутра, бо палац прынцэсы для іх — проста палаценца з груба наляпанай фарбай. Яны добрыя людзі, і ўсё ж з імі вельмі цяжка,— даводзіцца хаваць душу і выглядаць дзікай коткай.

Лявону стала сорамна. Ён паказаў сябе слабейшым за гэтую дзяўчыну. Таму ён проста сказаў:

— Я начытаўся старых балад. Яны чароўныя. І раптам атрымалася ўсё, як у іх:

Карабель плыве ў чароўным сне.
Трыста год не прыходзіць спакой.
Хай нявеста больш не чакае мяне,
Хай засушыць мірт, што чакае мяне,—
Мы не вернемся болей дамоў.

Я іду за гэтай жывой легендай і вось...

Марыя ўсміхнулася:

— І дзякуй богу, што так. Лёгкі налёт легенды — гэта добра. А ўся легенда ў нашыя дні — гэта смешна. Ну ўявіце сабе, што вы адшукалі б тут чатырохсотгадовую дзяўчыну, а я пабачыла б марака ў панцыры, пабітым іржою. У яго, вядома, была б нежыць, бо нельга трыста год правесці ў тумане на палубе і не захварэць абрыдлівай, хранічнай нежыццю. Напэўна, ён звярнуўся б да мяне так: «Адчыдзіце бде, гэта я, дяшчасды жадіх».

Памаўчала хвіліну:

— Не, голай легенды ў нашы дні не можа быць. Але каб мы не зачарсцвелі душой, каб не сталі людзьмі, у якіх толькі і ёсць за душою, што зарплата, яна павінна быць патроху ва ўсім: у кавалку хлеба, у таўстуне, які сядзіць, гледзячы на паплавок, у метале пад молатам, нават у тым, што чалавек часам бяжыць на бераг лясной пратокі і запальвае вогнішча, як тады, калі легенд было многа, а хлеба мала.

— І нават у тым чалавеку, які ўрываецца ў чужы пакой і пудзіць яго жыхароў, якія зусім не думаюць піць атруту.

— Нават у тым,— проста сказала яна.

— І гэта вельмі-вельмі добра,— зусім ужо суцешыўся Касачэўскі.

Абаім стала лёгка і весела, калі ўсё цяжкае засталося ў мінулым.

— Піце чай,— сказала яна.— Ахалоне. І ўсё ж гэта вельмі дрэнны жарт. Так можна і забіць у чалавеку добрае.

— Гэта не так лёгка зрабіць,— цвёрда сказаў Касачэўскі.

— Жарт задуманы грунтоўна, разважліва і... злосна. На гэта некаторыя нашы сябры вялікія мастакі. І за гэта я іх вельмі не люблю. Не люблю пшутаў і нахабнікаў. Вонкавы лоск, вытанчаная прыгажосць — фу!

— Пакіньце, Марыя Сяргееўна,— мірна сказаў Лявон.— Я не крыўдую. Ну іх! Я нават рад. Горш было б, каб яны накіравалі мяне на вялікую кухню і я там аддаў ліст першай-лепшай Марыі, а пасля мяне адвезлі б у дом для вар'ятаў.

— Вы не разумееце,— сказала яна.— Гэты жарт задуманы як палка на два канцы. Яны далі не першы — лепшы адрас, а менавіта мой, бо ведалі яго. Хацелі стукнуць не толькі па вас, а і па мне, бо я заўжды смяюся над сантыментамі, мяне лічаць за асобу рэзкую і жорсткую, якая не належыць да пароды коцікаў, якіх гладзяць, а яны зажмурваюць вочы ад асалоды.

— Праўдзівей кажучы, вы проста не жадаеце з імі быць такой,— зазначыў Касачэўскі.

Яна не стала прыкідвацца:

— Так, мне проста брыдка. Гэтыя рукі даб'юцца ўсяго самастойна.

— І гэтым рукам будзе вельмі цяжка,— дадаў Лявон.

— Затое сэрцу гэтаму будзе лёгка. А рукі, што ж? У мяне яны здаровыя, мужыцкія. Смешна мне было б прыжмурваць вочы. Вось чаму я і трымаю сябе так: няхай будзе артыстка і вельмі непрыемная асоба. Рэжысёр Грабоўскі наогул лічыць мяне мужычкай і памялом у сукенцы... пасля аднаго выпадку.

І дадала з выразным націскам:

— Прывабны, пераканаўчы такі кавалер.

Касачэўскі чамусьці заўсёды абараняў нават несімпатычных яму людзей.

— Пакіньце. Ён не такі ўжо благі хлопец, як я чуў.

— І гэта праўда. Я яго не за тое не люблю, што

ён дрэнны, а за тое, што ён прыкідваецца такім. Гэта кепска, калі чалавек бравіруе разбэшчанасцю, якої у яго няма. Значыцца, ён слабы ў душы і не хоча быць мужным насуперак асяроддзю.

— Адкуль вы родам? — з усмешкаю спытаў Лявон.

— Мсціслаўская.

— О, мсціслаўцы — недасекі. Зразумела, адкуль у вас такі язычок. Гэта народ, што на сваёй лаве не памірае.

— А вы адкуль?

— З Магілёва.

— О,— у тон яму сказала Якубовіч,— тады зразумела, адкуль у вас такая даверлівасць. Гэта вы, здаецца, студні салілі?

— Я асабіста — не. Мне чамусьці здавалася, што капуста проста са студні будзе нясмачнай.

— А-а, тады гэта вы, напэўна, у Вільні сваю варону пазналі і кулагу на локці мералі. Вельмі прыемна.

— Пашкадуйце,— узмаліўся Касачэўскі.— Не буду больш.

— То-та ж бо,— важна сказала яна.— Ведайце, як мсціслаўцаў чапаць.

І зноў яны разрагаталіся.

— Між іншым, не такія ўжо мсціслаўцы злыя на язык,— сказала яна.— Я нідзе не бачыла такіх добрых людзей, як у нас.

Раптам пасур'ёзнела:

— Часам вельмі хочацца туды. Абрыдне бойка, абрыдне быць больш злой, чым на самай справе. Хочацца цішыні, мяшчанскай бальзаміны на вокнах.

— Я ведаю,— проста адказаў Лявон.— Толькі чаму такая назва «бальзаміна»? Яе ў нас лепей завуць: «Слёзы Алёнчыны». Яна плача перад дажджом, бо яе калісьці, калі была яна дзяўчынай, выганялі ў зрэб'і на асенні дождж пасвіць каровы. Бог злітаваўся над ёю, ператварыў яе ў кветку.

— Добрая літасць,— іранічна і смутна сказала яна.— Хочацца туды. Напэўна ва мне ў глыбіне сядзіць звычайная вясковая баба, якой бы грады палівацць або сена варушыць. Гэта добра ці не?

— Гэта вельмі добра. Я часам думаю, што таму мы такі моцны, трывалы народ, што праз усё наноснае

ва ўсіх нас сядзіць звычайны мужык альбо баба. І культура, здаецца, і вытанчанасць, і размова пра Сомерсета Моэма, а павеяла сенам — і хочацца бабе басанож на траву; павеяла небяспекай — і празмерна культурны мужык лаецца беларускімі праклёнамі. Гэта сапраўднае, гэта, як у ляльцы-матрунцы: самая сярэдняя — самая **наша** лялька. Так што не трэба непакоіцца.

Якубовіч раптам звяла бровы.

— Прабачце, я такая нецікаўлівая... А магчыма, і проста не хацела запытаць... З кім, уласна кажучы, я размаўляю?

Лявон нахмурыўся.

— Гэта, магчыма, было і лепш. Як у вагоне: асабліва лёгка размаўляецца, бо не ведаеш, з кім.

— Але ж гэта не таямніца?

— Не, вядома. Маё прозвішча Лявон Касачэўскі.

Звычайна за гэтым ішло трохі здзіўленае «о-о» і пасля пусценькі шчэбет. Менавіта так было з Анэляй, і таму Лявон не любіў і баяўся свайго прозвішча. Ён лічыў, што яго трэба прымаць такім, які ён ёсць, а вершы — гэта другараднае.

Але ён памыліўся, яна не глянула на яго з большай цікаўнасцю, чым дагэтуль. Сказала проста:

— Я чытала. І «Ветракі», і «Ignis nocturnis», і іншыя. Але партрэта ва ўсіх вашых кнігах чамусьці не было.

— А-а,— ён махнуў рукой,— каму гэта цікава? — І заварушыў пальцамі ля галавы, зрабіўшы задумены твар.— Паэт павінен быць вось такі... А такога, як я, і чытаць не будуць. Таму і хітрую. Не люблю сябе.

— Вам не трэба скардзіцца на аблічча. У вас звычайны твар бялявага вясковага хлопца. М-м... не вельмі прыгожы, але харошы.

— Сказалі б хоць «мілы»,— засмяяўся Лявон.

— А вам што, вельмі хочацца? Не, ён у вас нават не мілы, проста добры.

Калі ён выходзіў, яна вывела яго на сходы. Раптам сказала:

— А хто вам падстроіў гэты жарт, я бадай што ведаю... Які ён з'едлівы чалавек! Гэта ён і са мною думаў. Ну, няхай чакае.

— Ліха яго бяры, Марыя Сяргееўна.

— Мне не за сябе крыўдна, мне крыўдна за вас.—

І сур'ёзна дадала: — Над вамі нельга жартаваць. Вы для гэтага занадта сапраўдны.

Лявон спусціўся на дзве прыступкі, так што твар яго апынуўся на адным узроўні з яе тварам, павагаўся трошкі і, адчуваючы, што не можа пайсці адсюль проста так, сказаў:

— Мы не павінны цяпер выпусціць з-пад увагі адно аднаго. Гэта будзе... проста жахліва.

Яна глядзела ўбок:

— Заходзьце, я буду рада.

Лявон выйшаў на вузкую ціхую вуліцу крыху прыгаломшаны. Вецер адразу растрапаў яго валасы, паімчаў далей, салёны, марскі.

— Чалавек думаў, што досыць з яго, што ён апёкся. Чалавек — дурань.

Малады чалавек са стракатым гальштукам, што зноў аціраўся вулкаю, паглядзеў на яго засяроджаны твар і хіхікнуў яму ў спіну. Лявон не заўважыў.

## IV

Бурштынавае мора стала цёмна-бутэлечным, і першыя агні загарэліся ў гавані, калі Лявон падагнаў шлюпку да прычала і дапамог Марыі Сяргееўне выйсці з яе. Іх пахіствала, твары сталі зусім бронзавымі. Ад солі і цяжкіх вёслаў у Лявона гарэла скура на руках.

Гэта было праз два дні пасля іх першай сустрэчы. Цэлы гэты дзень яны правялі на беразе, а пасля ў моры. Цяпер быў толькі позні вечар, шапацелі дрэвы. Жахліва хацелася есці.

Калі праходзілі паўз рэстаран, з веранды якога лілося на пясок няяркае святло, Касачэўскі прапанаваў:

— Зойдзем?

— Мне прапаноўвалі,— сказала яна.— Я ніколі не хадзіла. Не люблю. Але...

Яна паглядзела на яго твар, што раптам зрабіўся няшчасным.

— Добра, зойдзем. Толькі сядзем убаку, ціха.

Стары афіцыянт-латыш правёў іх на веранду і пасадзіў за столік, у куток. Грала ціхая музыка, вецер шапацеў накрухмаленымі абрусамі. Праз шкло келіха клаўся на твар Марыі блакітны адбітак. Яна сядзела, закрыўшы вочы. Напэўна стамілася. А ён сядзеў і гля-

дзеў на яе і нечакана падумаў, што вось век бы так сядзець і глядзець на гэты зусім просты твар.

— Пра што вы думаеце? — спытаў ён.

Яна расплюшчыла вочы, усміхнулася:

— Я думала пра тое, што гэтыя дні — добрыя дні. Я стала вельмі моцнай. Я ведаю цяпер, што ёсць на зямлі мары і добрыя прывіды. А пра што думалі вы?

— Я думаю, што жыццё маё было бедным да гэтых дзён, што я быў ёлуп і хлапчук, пакуль не атрымаў гэтага ліста з казачнага карабля.

— Не трэба,— ледзь чутна сказала яна.— Гэта проста выдумка, нас выдумаў другі чалавек.

— І добра,— рашуча адказаў ён.

У гэты час пачуліся громкія галасы ля дзвярэй: у рэстаран уваходзіла новая кампанія, ужо злёгку падпіўшы.

Яны селі непадалёку ад іх, за сцяной кветак: Грабоўскі, даўні малады чалавек з занадта калматай кабадкаю, «грыбазвон» і... той самы хлопец са стракатым гальштукам, якога Лявон сустрэў тады на вуліцы, ля Марыіных дзвярэй. Яны смяяліся, размаўлялі, але іхняя весялосць здавалася Касачэўскаму такой ненатуральнай, што ён скрывіўся, як ад болю. Марыя ўзяла яго за плячо.

— Не трэба так.

Галасы выбухнулі смехам: ад дзвярэй ішоў Моршч, маленькі, смешны, з памятым тварам. Кінарэжысёр махнуў яму рукою, запрашаючы за стол. Моршч усміхнуўся, сеў.

— Дзе ты быў, стары? — спытаўся Грабоўскі.

— У Мінск ездзіў на тры дні, справы былі.

— Хо, душа цёмная, дык, значыцца, ты нічога не ведаеш? Мы тут добра пазабаўляліся, напэўна ўвесь Мінск смяяцца будзе.

— Вось Вінцук яшчэ не чуў, раскажы яму,— папрасіў «грыбазвон».— Смяяцца будзеш, сэрца маё.

Грабоўскага не трэба было прасіць. Ён зручна сеў, паглядзеў на памяты твар Моршча і закурыў:

— М-ну, сынок, ты памятаеш нашу спрэчку наконт Лявона. Мы тады вельмі раззлаваліся на цябе. Памятаеш, як ты казаў пра каханне, што як удар бліскавіцы, пра казачных прынцэс і пра тое, што ў Касачэўскага асаблівы зрок на казку ў жыцці, а мы з табою

караткаэорыя, бо не бачым гэтага, незвычайнага, у кожнай рэчы.

— Так,— сказаў Моршч.— Магу напомніць: «Выпадак, які для нас проста смешны, для яго паўстае ў такім павароце, што ён бачыць: гэта казка, гэта паэзія... Таму што ён жыве. А мы...»

— Ну хопіць, хопіць. Скажы яшчэ, што мы толькі жывацеем. Вось мы і вырашылі разыграць яго, каб стаў твар у твар з жорсткай рэчаіснасцю, афарбаванай пад казку. Я ж кажу: мара заўжды разаб'ецца аб жыццё, як шклянка аб чыгун.

— Ну,— непрыхільна прабурчаў Моршч.

— Ну і вырашылі стварыць яму такія ўмовы і паглядзець, што з гэтага будзе. Ты ведаеш, мы з гэтай старой пасудзіны зрабілі цудоўнае судна, сапраўдны даўні брыг. Для кіназдымак проста ідэальны: прыгожы, рухлівы, імпэтны. Аж у маім сэрцы нешта варухнулася, як пабачыў... А ідэю я ўзяў з той кнігі, што ляжала ў яго на стале: «Лятучы Галандзец» часам перадае на бераг лісты да людзей, якія даўно памерлі. Мы ведалі, дзе паддоследны бывае па начах.

Касачэўскі спуджана паглядзеў на Марыю. Вось нечакана нарваліся.

Яна сядзела ў белай сукенцы і жакеце, у белых туфліках, сядзела вельмі спакойна. Слухала. Лявон падумаў, што пайсці зараз адсюль нядобра, атрымаецца, што ён спудзіўся размоў аб сабе. Таму змаўчаў.

А Грабоўскі вёў размову далей. Кіўнуў на «грыбазвона».

— Валодзя вось звярнуўся да бутафора, і яму адбухалі геніяльную пісульку, цалкам натуральную. І бутэльку далі старую. Вырашылі мы падпільнаваць нашага хлопца ў моры і паглядзець, што будзе.

І ён прачытаў крытыку тэкст ліста. Моршч пажаваў вуснамі. Пасля каротка спытаў:

— Да каго быў ліст?

Грабоўскі ўсміхнуўся, юнак з канадкай пырснуў:

— Да Марыйкі Якубовіч. У дом ля вежы.

— Чаму да яе?

— Ну-у так, бо гэта чалавек рэзкі. Вось у кім я ўжо рамантыкі ані на шэлег не бачу. Цікава было іх звесці.

— А я ведаю, хлопча, чаму ты да яе яго направіў,— падазрона спакойна сказаў Моршч.— Аскан-

даліўся ты тады з ёю, непераможны кавалер, як, дарэчы і яшчэ той-сёй. І вось за адсцябаную годнасць помсціш. Эх ты, не ў гэтым мужчынскае самалюбства, не ў тым яно.

— Ідзі ты...— кіўнуў Грабоўскі.— Многа ты разумееш. Проста гонару залішне, уяўляе сябе прынцэсай. А я ўпэўнены, каб захацеў — была б яна маёй жонкай. Толькі не такі я дурань, каб столькі сіл на гэта траціць. Ну ты падумай: ніякай жаночай прывабнасці, рэзкая, пырхае на ўсіх, як дзікая кошка. Твар каменны. У рэстаран пайсці, на чаўне паехаць — ані-ні! Ды яшчэ і адчытае, абрэжа.

Касачэўскі вельмі спакойна сказаў:

— Зараз я пайду, наб'ю яму морду.

Хацеў устаць — яна ўладна паклала яму далонь на руку.

— Не трэба, мілы вы чалавек. Такую насалоду вы можаце дазволіць сабе другім разам, калі захочаце. Слухайце, яны ж нічога дрэннага пра мяне не скажуць, нічога рэальнага. Няхай лаюцца. А адносна таго, ці падобна я на «дзікую кошку», калі бываю з сапраўднымі людзьмі, мяркуйце самі. Слухайце. Гэта цікава.

— Не падабаецца яна мне,— гуляў голасам Грабоўскі.— Дасціпная жанчына — гэта нядрэнна, але дасціпная дзяўчына — жахлівая рэч. Словам, не падступіся. Вырашылі мы, значыцца, звесці рэзкую, незразумелую і ганарлівую асобу з нашым «пуэтам». А тут якраз пробны рэйс нашых начовак. І якраз раніцай. Легендарны туман вісіць. На другім заходзе налезлі проста на яго, ляжыць у чаўне. Я пачынаю вярзці розную лухту, абы было падобна на галандскую мову. Мёртвым такім голасам.

Малады чалавек з канадкай засмяяўся:

— А я таксама падрыхтаваў ролю. Чуў, што нямецкую ён ведае...

Грабоўскі падхапіў:

— І вось Васюк пачынае благаць і стагнаць: «нявеста», «пусціце», «яна тут». Я яму буркаю рознае глупства. Гляджу, чалавек у чаўне ўстаў і крычыць: «Пусціце яго». Зусім ашалеў хлопец.

— Не ад жаху ашалеў,— спакойна заўважыў Моршч.

— Усё адно. Тут Васюк шпурляе бутэльку — яна

падае ў ваду. Мы праплываем далей. Я ўжо бачу, што Васюк ад смеху курчыцца, але нічога, вытрымка ёсць, іграе ролю. Дурасць нейкая на яго найшла. Калісьці грэкі плылі ля берагоў Сірыі і пачулі на беразе крыкі: «Тамуз! Тамуз! Бог Пан вялікі памёр!» Не ведаю, што Васюку забрыло ў галаву, толькі і ён пачынае крычаць тое самае: «Тамуз! Тамуз! Панмегас тэфнеке!» Смяецца нутром, а крычыць так, што валасы дыбам устаюць.

— Добры акцёр, брат, і... вялікае быдла,— сказаў Моршч.

— Ну, у цябе гумару ніколі не было... Адплылі мы далей і ад смеху качацца па палубе пачалі. Паміраем проста. Васюк так скіснуў, што ўжо хрыпіць толькі.

— А далей? — спытаў крытык.

— Чакай, брат, чакай. Ля таго дома, дзе яна пакой часова наняла, у нас вось Пятро дзяжурыў. Вырашыў хоць тыдзень сядзець.— Грабоўскі засмяяўся.— Але чакаць яму доўга не давялося. Гадзіны з тры прайшло, аж бач, ідзе галубчык, даверлівы, як цялятка. Нырнуў у яе пад'езд — Пятро чакае. Гадзіна мінула — Пятро чакае. Цікава, у якім выглядзе ён пабачыў старадаўнюю фею. Дала яна яму там, напэўна, чосу, як мне калісьці, таму што выйшаў ён стуль разгублены, як мыла з'еўшы. Ну, ці не смех гэта? А яна ўчора была на месцы здымак такая сур'ёзная, што проста жах бярэ. Не жадаў бы я быць на месцы Лявона.

Кампанія зарагатала. Моршч паківаў галавою.

— Свінні вы,— пераканальна заявіў ён.— Паршывыя свінні! Разбілі мару чалавеку. Яшчэ адной добрай ілюзіяй менш на зямлі.

Музыка зайграла вальс. Марыя нясмела сказала Лявону:

— Мо патанцуем трохі?

Лявон кіўнуў галавою, згаджаючыся. Хваля захаплення гэтым маленькім, цвёрдым дзяўчом абліла ягонае сэрца. Якой трэба было ёй быць цвёрдай, каб усе гэтыя гады так стаяць на сваім.

Ён вывеў яе пад руку з-за фікусаў, і яна нясмела паклала яму руку на плячо. Яна нават не глянула ў той бок, дзе сядзела кампанія.

— Чорт пабяры,— сказаў у захапленні Лявон.— Сапраўдная рэдкасць вы, вось што.

Ён паглядаў скоса на кампанію і бачыў, як яны вырачылі вочы, калі ён, дачакаўшы такта, вывеў дзяўчыну на сярэдзіну пляцоўкі. Валасы Марыі на паваротках ледзь адчувальна датыкаліся да яго шчакі.

І глядзела яна на яго з кранаючым даверам, такімі дзіцячымі, зачараванымі вачыма, што ў Лявона сэрца зайшлося ад радасці і жаху: а раптам ён не варты гэтага, не апраўдае гэты давер.

Ён бачыў, што і тыя, за сталом, заўважылі гэта. Грабоўскі заскроб шчаку кончыкамі пальцаў, і ў голасе яго адчулася небывалае здзіўленне:

— М-да.

— М-да,— у тон яму, але з'едліва працягнуў Моршч.

— Пажартавалі,— сказаў Грабоўскі.

Запанавала маўчанне. Пасля Моршч рэзка кінуў:

— Так, пажартавалі. Бачыце цяпер ці не? Права на казку прадалі, а гэты чакаў — і дачакаўся. Я ж казаў, што вы застанецеся ў дурнях нават і з практычнага боку.

І з'едліва:

— Вялікі сэрцазнаўца, рэжысёр. Не мог душы гэтай дзяўчыны разгледзець. А гэты, паэцік даверлівы, ёлуп у сардэчных справах — гэты разгледзеў. Варта было, бо гэта... ах, якая дзяўчына! «Купілі» што называецца чалавека, зрабілі яму горш сваім неразумным жартам. Над кім, пытаюся я вас, будзе цяпер Мінск смяяцца, га?

Грабоўскі пачырванеў. Сядзеў, не зводзячы вачэй з танцуючай пары, на якую многія ў рэстаране пазіралі цяпер з адкрытым захапленнем.

— А глядзіць як,— сказаў ён,— вось каб на мяне...

— Рылам не выйшаў,— падкалоў крытык.— Не для цябе кармушку ставілі.

Калі яны адыходзілі з рэстарана, Грабоўскі спыніў Моршча і вельмі ціха сказаў яму:

— Даруй, Вінцук, я быў дурань і, шчыра кажу, свіння. Хочаш, я папрашу прабачэння ў Касачэўскага.

— Нашто? — прагудзеў Моршч.— Ты ж ім горш зрабіў. І не лезь ты да іх, ім зараз і без нашых храп добра.

Грабоўскі прамаўчаў і толькі пасля сказаў ціха і ўпэўнена:

— Трэба верыць.

А Марыя і Лявон даўно ўжо ішлі па беразе мора ўсё далей ад горада. Маўчалі. Ён проста трымаў яе пад руку і ішоў далей і далей ля гэтага мора, што слаба ўздыхала пад бледным паўночным небам.

Толькі пасля сказаў:

— Дзякуй яму, гэтаму дурню.

— Дзякуй гэтаму «Лятучаму Галандцу»,— сказала яна.— Такія вялікія гарады і так губляюцца ў іх людзі. І вось з карабля-прывіду прыйшоў ліст. Добрыя-добрыя старыя начоўкі.

— Вы зусім не такая сёння,— ціха сказаў ён.— Вы такая пакорлівая лёсу, і гэтаму небу, і мору.

— Так,— сказала яна.— Можна хоць тут апусціць рукі, адчуваць сябе звычайнай, слабай дзяўчынай.

Касачэўскі павярнуўся да яе, да любых стомленых вачэй у зорным сяйве небагатага неба.

— Марыя,— цвёрда і любоўна сказаў ён.— Мне не хочацца расставацца з вамі, Марыя. Мы ведаем адно аднаго не тры дні, а трыста год. Ісці другой вуліцай, не ведаць вас, забыць пра вас — гэта будзе няшчасцем.

Яна ў адказ апусціла веі і ледзь чутна абапёрлася на яго руку.

Непрыкметна ўздыхала спакойнае мора, коцячы з глыбінь на пясок ашчапкі янтарнага палаца, разбітага некалі з-за першага на зямлі моцнага кахання. У бірузовым тумане, у лёгкім вэлюме, што ўкрываў сонныя воды, імчаліся недзе ў моры караблі-прывіды.

## ІДЫЛІЯ Ў ДУХУ ВАТО

Прыгожы парк, які любіў Вато...

*М. Багдановіч*

Кіпяць жаданні. І няма жаданняў:
Як вогнішча пад восеньскім дажджом.

*М. Заранка*

Падала лісце.

Часам пад парывамі ветру лісты асыпаліся тысячамі, і тады нават у паветры чуўся іх шолах. А потым вецер сціхаў і лісты пачыналі падаць па адным.

А зямля паміж дрэвамі шапацела звонка і настойліва; раптам нехта нябачны пачынаў пятляць па апалай лістоце, уздымаючы ў паветра чырвоныя, жоўтыя, зялёныя з лімоннымі пражылкамі лісты.

У гэты празрысты кастрычніцкі дзень Архангельскае здавалася пакінутым, як дача з забітымі вокнамі.

Людзей не было. Была цішыня і закінутасць.

Маладая пара, якая сышла з аўтобуса, не спяшаючыся, увайшла ў парк.

— Што гэта ты з босай галавой? — быццам упершыню заўважыўшы, сказала дзяўчына.

Ён адмаўчаўся. Ішоў поруч з ёю вельмі прамы, глядзеў на свет халоднымі зеленаватымі вачыма. Светлыя бровы насуплены, вялікі рот сціснуты нават занадта характэрна.

Трохі пляскатым носам, жаўтавата-смуглай скурай, буйнай грывай каштанавых валасоў ён вельмі нагадваў льва. І не таго льва, абавязак якога гойсаць па пустыні, а таго, якога аблыталі цянётамі і вось-вось унясуць у клетку.

Таму што на гэтым разумным твары быў дзіўны выраз насцярожанасці, чакання і яшчэ чагосьці.

Добры сэрцазнаўца сказаў бы, што гэта выраз заўсёднай і закаранелай тугі. А яна была птушка-весялушка, маленькая, разумненькая. Скура малочна-белая, валасы занадта жорсткія і цяжкія. Затое вочы былі дзівосныя: вялізарныя, чорныя, з глыбокім бляскам.

Гэтыя двое трымаліся занадта цёпла для брата і сястры, занадта разважна для каханкаў, занадта ўважліва для мужа і жонкі.

Яны апынуліся на ўнутраным двары зачыненага музея, дзе мармуровы Ахіл з манерна-адчайным тварам трымаў паміраючага Патрокла.

Яны не заўважылі гэтай манернасці і прынялі яе сур'ёзна. Як усім людзям, занадта перапоўненым сабою, ім здавалася, што іншыя таксама адчуваюць глыбока і моцна. Нават самотная старая, што дрэмле ў шэзлонгу на тэрасе, нават гэты мармуровы Ахіл.

— Яго знявечылі. Ён зусім не Патрокл, а прыгонны,— сказала яна.

— Так,— згадзіўся ён,— гэты хлопец хацеў будаваць, а яго прымушалі аўсянку сабакам варыць.

— Што ты, ён музы́ка,— запярэчыла яна,— бачыш, якія пальцы. А наконт аўсянкі твая праўда.

Яны ішлі суцэльным тунелем, які спускаўся ўніз, да грота. І раптам яна з перарывістым уздыхам прыпала да яго.

— Любы,— сказала яна,— мы адны. Як добра!

І падалася да яго з закрытымі вачыма, уся пасур'ёзнеўшы тварам.

Ён цалаваў яе, спачатку стрымана, потым усё больш моцна, усё больш пяшчотна.

Прахожы з тоўстым партфелем у руках адарваў іх ад гэтага карыснага занятку. Прайшоў, пачырванеўшы патыліцай, пакруціў галавой.

— Ну і ну. Р-распусціўся народ.

Яна паглядзела яму ўслед і ціха сказала спадарожніку:

— У яго партфель з мамантавай скуры.

Спадарожнік засмяяўся. Абое пайшлі далей і хутка выйшлі на балюстраду. Безудзельна глядзелі на іх твары мармуровых багоў і герояў. Вільготна зеляне́ў пад нагамі партэр.

Вусны дзяўчыны раптам склаліся ў манерную ўсмешку:

— У мяне няма рэшпекту да такіх пагулянак. І супірант мой нешта маўклівы. Зусім, відаць, не кахае.

Ён, здавалася, не чуў. І яна зразумела: нешта не дазваляе яму жартаваць.

— Раскажы хаця, як твае справы. Шэсць... не, нават дзевяць год мы не бачыліся,— спытала яна.

— Так. З пяцьдзесят першага.

— І што ты робіш?

— Даганяю. Часу мала. Я і тады зрабіў памылку, што пайшоў ва універсітэт. Я ж любіў жывапіс больш за ўсё. А думаў, што будзе больш карысці.

— Чым займаўся гэтыя гады?

Ён усміхнуўся:

— Жыццё вывучаў. Усялякае было. Спачатку на шахтах працаваў, потым... Ды гэта цябе не павінна цікавіць.

Твар яго перасмыкнуўся, але дзяўчына, здавалася, не заўважыла.

— Мне дваццаць сем, а я амаль нічога не зрабіў. Зараз вось партрэт маці скончу, а потым ёсць у мяне задума. Гістарычная. Іван Вецер, здраджаны сябрам.

Яна ўважліва паглядзела на яго.

— Гэта ў паўстанні?

— Так. Разумееш, здорава павінна атрымацца. Пястрыцкі ў парчы і гэты, пасінелы на снягу. Ядловец такі, разумееш, дымчата-зялёны, неба цяжкае.

— Так,— сказала яна,— гэта было гістарычнае свінства: гарматы супраць бяззбройных...— правяла позіркам па голых мармуровых фігурах і неяк нават паспешліва сказала: — Бр-р, як ім холадна.

Абое збеглі па прыступках уніз, і тут, у алеі, каля грота Кацярыны, яна зноў прытулілася да яго.

— Пацалуй мяне.

— Не магу,— сказаў ён,— надта ўжо гэтая баба зайздросна глядзіць. Сурочыць, бадай што...

— Не жартуй.

— Ды я і не жартую. Проста небяспечна мне быць з табою. І табе... таксама.

Яна апусціла вочы ўніз. Лімонныя, барвяныя, іржава-чырвоныя лісты клёнаў стракатай мазаікай ляжалі на зямлі. Дзяўчына нагнулася і стала збіраць іх. Хлопец дапамагаў.

— Ты дзе спынілася?

— У сваякоў. Станцыя па Яраслаўскай дарозе.

— Ведала, што я тут?

— Нядаўна даведалася.

— Здзівілася?

— Не вельмі.

Хлопец працягнуў ёй велічэзны, зялёны, у пунсовых кропках ліст.

— Бачыш, прыгожы які... Ты развялася?

— З кім?

— З Барысам.

— Каб развесціся, трэба спачатку выйсці замуж,— сказала яна.

— Гэта праўда.

Зноў пачуўся звонкі шолах у паветры. Яна прыўзняла бліскучыя вочы.

— Мінулае не забываецца. А наша было цудоўным. Ты не пісаў, я разумею, ты не мог. Але потым...

— Што потым?

— Потым, калі... боль прайшоў. Я даведалася,

што яны ўзвялі на цябе паклёп, што гэта яны выжылі цябе з універсітэта, і не магла ім дараваць. Я так чакала, мне было так цяжка.

— Барыс не вінаваты,— сказаў ён,— гэта ўсё Толька, яго дружок. Падумаеш, вакцына супрацьчумная. Змагар. Дбайнік.

Дзяўчына здрыганулася:

— Гэта была вялізная подласць: наклеіць на цябе, такога добрага да людзей, той паршывы ярлык. Але ж ты памятаеш, які быў час? І я адхіснулася ад цябе, паверыла. Потым мне сказалі, што ты абразіў мяне, назваў дурніцай-энтузіясткай...

Хлопец сумна ўсміхнуўся:

— Потым бойка была. Борка стукнуў мяне. І зусім нечакана...

— Ведаеш... гэта ж я вінавата. Гэта я сказала яму, што раней мужчыны ведалі, як ім дзейнічаць у такіх выпадках. Ён пайшоў неахвотна, ён вельмі любіў цябе.

— Цябе ён любіў больш.

Яна не слухала яго:

— А потым Толька вырашыў зрабіць такое. А я не магла памагчы табе. Не знайшлося ў мяне сілы, каб памагчы табе, свайму ворагу, калі ўбачыла такую несправядлівасць.

— Добра,— сказаў ён.— Чаго там.

Насустрач сталі трапляцца хворыя з санаторыя на абрыве. І дзяўчына зноў — у які ўжо раз — заўважала, як спахмурнеў твар прыяцеля.

Ён заўважыў аднаго, высокага, натапыранага, сутулага. Высокі ішоў у самы канец алеі, да апошняга ўказальніка. Крокі даваліся яму цяжка, але, відаць, ён упарта хацеў узяць апошнюю, паўкіламетровую дыстанцыю, якая нібы адна толькі і аддзяляла яго ад выздараўлення. І хлопец раптам узяў дзяўчыну пад руку і хуткімі крокамі павёў яе па алеі.

Хутчэй. Хутчэй. Усё хутчэй.

Яна ішла за ім і не разумела, што здарылася, прыціскаючы да высокіх грудзей ахапак вільготных пярэстых лісцяў.

Чалавек з санаторыя застаўся ўжо далёка ззаду, яны збеглі ўніз па адхоне, па забрукаванай цаглінамі сцежцы, узрытай і ўспучанай карэннямі таполяў, якія прагна прабіваліся да паветра, да жыцця.

Гэта быў ужо не бег, а палёт сярод чырвоных, быццам крывёю аблітых хмызнякоў. Галіны хвасталі іх па руках; двума каметнымі хвастамі ўзлятталі за спіной у паветра жоўтыя і барвяныя лісты.

І перад позіркам маладога чалавека ўстаў прывід мінулага: гон двух маладых, здаровых аленяў у нетрах асенняй пушчы. Галінастыя, закінутыя рогі аленя, белая «сурвэтка» яго сяброўкі.

Трубны аленяў крык. Далёкае рэха кахання.

Тады і ён паляваў. Нашто? Гэта ж вельмі страшна зверу: адчуваць недзе, за кожным кустом, невядомага стралка.

І ўсё ж ён бег, спачатку ўніз, пасля міма спортпляцоўкі, заваленай бронзавымі лістамі, пасля ўгору, па адхоне. І паступова ўсё больш акрыленым рабіўся яго твар. І калі яны спыніліся зноў у алеі, яна, паглядзеўшы на гэтыя крылатыя бровы, на дрыжачыя ноздры, на моцныя, як кавальскі мех, грудзі, ціха сказала:

— Божа, каб жа ты і тады, на тых сходах, быў такі. Ты б іх усіх раскідаў. Ты б і мяне пераканаў...

— Я заўжды баяўся несправядлівасці, пасаваў перад ёю.

— Ведаю. Ты яршысты і злы. І вельмі добры і безабаронны. Я рада, што зноў з табою.

Яна павярнулася да маленькага бюста Пушкіна і кінула да падножжа калоны ахапак лапчастых лістоў, што адразу рассыпаліся веерам.

— Дзякуй табе.

Маленькая язычніца, яна быццам святкавала невядомы абрад. Ёй было ўсё адно, хто перад ёю. Ён даў ёй вочы спадарожніка, і яна была ўдзячна яму.

Мокрыя лісты пахнулі вінам.

Хлопец сеў на кукішкі перад помнікам і прачытаў глыбока ўрэзаныя літары:

Ты понял жизни цель, счастливый человек.
Для жизни ты живешь.

І раптам засмяяўся — так шырока і шчыра, што яна здзівілася.

— А Юсупаў так і не заўважыў, што яго абсмяялі. Гэтага часта не заўважаюць.

Дрэвы былі нейкія ненатуральныя. Вільгаць прасякала іхнюю кару, і яны здаваліся чорнымі. абвугленымі ў полымі ўласнай лістоты.

Тканы ў рознакаляровыя дробныя шашачкі андарак быў як трохі прыглушаны (бо так патрабаваў узрост) жар і дзівосны па спалучэнні колераў. Пасля я ўбачыў маладых. У тых на андараках пераліваліся чыстыя, нязмешаныя колеры. А тут былі хутчэй адценні двух-трох колераў, але адценняў гэтых было мноства. Відаць, і тыя і тыя ткаліся не менш як у дваццаць чатыры ніты.

Чабоцікі каляровай скуры давяршалі ўсё. Нічога не выбівалася з агульнага строю. І я зразумеў, што ў вобразе гэтай старой, сярод гэтых лясоў, пад гэтым беларускім небам, упершыню ў маім нябедным жыцці сустрэлася мне сама Гармонія.

Яе не магло быць ува мне. А ў гэтай старой, у адпаведнасці яе і яе ўбора гэтым ціхім прыглушаным лясам, гэтай забытай дарозе, гэтаму залацістаму вячэрняму небу — яна была. Поўная і дасканалая, пакуль што на адзін толькі вечар у маім жыцці. А можа, на адзін толькі вечар да самага майго скону.

Мы сяк-так размясцілі іх на рэчах, і, дзіўна, наша машына не стала дысанансам, а сама пакорліва падпарадкавалася старажытнай прыгажосці. А старая гаварыла, усплёскваючы рукамі, і, таксама як сама Гармонія, гучаў, пераліваўся, звінеў у яе вуснах пявучы палескі дыялект.

Быў дзень Пятра і Паўла. Стары, муж, па даўняй традыцыі ўчыніў ім патрэбнае ўзліванне (а паколькі святых было два, то няма чаму здзіўляцца, што ўзліванне было двайное) і, нягледзячы на гэта, пераапрануўся і пайшоў на кашару, дзе працаваў вартаўніком.

Яго хацелі затрымаць, прыводзілі рэзонныя доказы, што стаіць лета, а значыць, няма чаго палохацца ваўкоў, што не толькі злодзея, а і ўвогуле чалавека не знойдзеш з агнём на многія вёрсты, але стары занатурыўся.

І вось, нібы чула яе сэрца, устрывожылася, пайшла і ўбачыла, што ляжыць яе стары лясны казак — па казацкім звычаі — упоперак сцежкі і наадрэз не хоча ісці дахаты. Напетрапаўліўся-а. Каб не вы, галубочкі, невядома б, што і рабі-іць.

Я грэшным чынам падумаў, што старая за ўсё жыццё так і не раскусіла яго да канца, што не такі ён п'яны (дарэчы, ён трохі пасля і давёў гэта), а проста

не хацеў ні дадому, дзе ад адных баб кранешся, ні на кашару, дзе авечкі. Усё было прасцей.

Чаму не застацца тут? Цёплае паветра, цёплая зямля, родны лес вакол і чыстыя зоры над галавой. Добра ляжаць і марыць і нешта ціха спяваць самому сабе. Ніхто не праедзе, ніхто не пройдзе. Гэта ж табе не горад, дзе не дадуць добраму чалавеку нават паляжаць упоперак дарогі ў сваю ахвоту.

І мы прыехалі ў невялічкую вёску, усю аточаную лесам, усю патопленую садамі і шатамі вялізных дрэў, нібы апушчаную на дно зялёнага мора, нібы паглыбленую ў зялёны і трохі аранжавы ад заранкі паўзмрок.

Быў мяккі вечар. Даўно асеў пыл ад чарод (а можа, яго і не было? Можа, каровы і начавалі ў лесе?). Шэрыя хаты з таўшчэразных бярвенняў насунулі па самыя вушы цёплыя шапкі стрэх. Драмалі або марылі пад песні.

А песні гучалі паўсюль. На бярвеннях ля хат, на лавах, на прызбах, проста на паплаўцах. Паўсюль сядзелі жанчыны, дзяўчаты, старыя і дзеці, чыста ўсе апранутыя накшталт сустрэтай намі старой. Розныя ўборы, розныя колеры, фарбы і адценні, розныя густы, крышачку рознае ўмельства. Але вёска дзякуючы ім нагадвала букет або стракаты ад разліву чэрвеньскіх красак поплаў. Бо ўсе былі ў сваім, напэўна, у амаль такім самым, як пры Уладзіміру, як пры войнах з татарамі, як тады, калі бушавала ў гэтых мясцінах полымя паўстання, запаленага Крывашапкай.

Гэта не было старамодна і смешна (гэта былі людзі дваццатага стагоддзя, і яны шмат ведалі).

Гэта было велічна.

Гамер і лірныя песні не старэюць. Старэюць многія нядаўнія песні. Старэюць многія кінастужкі, падобныя на оперу ўдзень, пад чыстым небам. Старэюць і выклікаюць смех.

А Гэта было велічна.

У дваццатым веку, сярод гэтых людзей, смешныя былі мы ў нашай гарадской, ды яшчэ і патрапанай, рабочай вопратцы. Тут і новая выглядала б пачварна... Гармонія — гэта былі яны. Дасканаласць — гэта былі яны. А старамоднымі і непатрэбнымі тут былі мы. Мы былі дысанансам.

Сярод гэтых людзей Толькін прыяцель, рускі, са-

ромеўся сваёй кніжнай рускай мовы, а я саромеўся сваёй гарадской беларускай. Мы, аднак, пастараліся не даць ім зразумець гэтага. Той пераважна слухаў, а я адразу ўключыўся ў балбатню і жарты, стаў пераймаць іхнія інтанацыі, імітаваць непараўнальную музыку іхніх сказаў.

І — дзіўна!— у мяне пайшло.

Можа, яны проста зрабілі выгляд, што не заўважаюць гэтага, па прыроднай, адвечнай далікатнасці сваёй, але я не думаю.

Са мною аднойчы ўжо было так. Я слухаў, як грае на жалейцы вясковы пастух, прыгожы і чысты, як голуб, сівы дзед. І таксама быў вечар, і каровы жавалі жвачку і слухалі. Мне здалося, што я нібыта разумею ўсё. І дзед быццам зразумеў гэта, выцер жалейку аб прыпол сарочкі і працягнуў мне:

— На.

І я, нібы так і трэба было, узяў яе і... зайграў. Таму што я зразумеў: тут непатрэбна загадзя прыдуманая мелодыя, тут павінна гучаць душа. Гэта яна павінна выказваць сябе ў подыхах і рухах пальцаў, а астатняе прыйдзе само. Таму што музыка твая толькі акампанемент вечару.

— Добра,— сказаў дзед.— Дайшло.

Нешта падобнае было і тут. Мы сядзелі і гаварылі і ціха смяяліся, чакаючы нашага дзеда. Мы хацелі, каб нехта яшчэ сёння паказаў нам дуб. Заўтра мы паедзем здымаць яго, нікога не турбуючы. Вызваўся наш дзед. Мы далікатна (галоўным чынам дзеля старой) усумніліся ў ягоных магчымасцях. Што тут пачалося! Дзед намыліў нам галаву оптам і ў розніцу. Ён сказаў, што ніхто лепей за яго не ведае, дзе ён, гэты дуб, што ён ужо тысячу разоў хадзіў да яго за доўгае сваё жыццё, што ён бываў каля яго яшчэ дзіцем, што ніхто так добра не пакажа нам, дзе менавіта ўжо «тышчу гадоў» расце гэты дуб. І мы згадзіліся, і вось чакалі яго.

А жанчыны спявалі. А я глядзеў на іхнія прыгожыя твары, на іх ільняныя або чорныя як смоль (сярэдняга не было) косы, на іхнія ўборы і думаў, што гэта дзіва як добра.

Таму што гэтыя шнуроўкі і андаракі былі не ад оперных пейзан у лапціках, а было гэта заўсёды так. Аб гэтым сведчылі чорныя рабочыя рукі (праўдзі

такімі па чымсьці — сто разоў зачэпяцца), што зараз адпачывалі на дзіўнай прыгажосці андаракоў, вытканых імі. Рукі, якія насілі сена з балотаў і палян і ўмелі рабіць яшчэ тысячы спраў. Рукі, што цяжка здабывалі свой «штодзённы».

На д'ябла былі ім патрэбныя мы. Іхнія песні плылі над вёскай да залатой завесы захаду. Плылі над гэтай сумнай, вячэрняй, нібы закінутай зямлёй. І песні гэтыя былі — дзіва. І казалі яны пра каханне, пра варанога коніка і дальнюю дарогу, пра здраду і рэўнасць, пра гэтыя дубы — пра ўсё, што было і давеку будзе на зямлі.

Стары выйшаў з хаты, як адноўлены. Твар свежы, трохі нават урачысты. Белая сарочка з хатняй палатніны багата вышываная. Паважна сеў побач з шафёрам і — перад бабамі — уладна сказаў:

— Паняй!

І тут адна гожая чарнявая маладзіца са снежнымі зубамі сказала:

— Ну вось. А я тут і жыццё-о пражыла-а, а дуба таго не бачыла-а.

Вочы смяяліся. Я запрасіў яе сесці з намі, і яна нават устала. Але астатнія схапілі яе, пачалі валтузіцца і крычаць ёй, што «няма чаго адной», што хлопец той, відаць па ўсім, «адарвірог», а нам — каб мы хутчэй рушылі. Сілком пасадзілі на бярвенні, утрымалі. Машына наша рванула і пакаціла.

Так і давялося мне задаволіцца пачэснай мянушкай «адарвірога», сесці на месца ды глядзець вакол.

«Казёл» наш праехаў трохі па дарозе і звярнуў налева. Стары расказваў нешта аб тым, колькі гэтаму дубу, якіх людзей і якія падзеі ён бачыў. Фігуравалі там чамусьці шведы (і тут было зашмат шведаў!), царыца Кацярына, французы (зашмат французаў!) і ўласны дзедаў прадзед. Зрэдку ён перарываў свае цікавыя гістарычныя рэмінісцэнцыі, каб кінуць:

— Паняй-паняй!

...Гэта былі нізінныя месцы. Туман, як продкавы душы, слупамі стаяў над ямамі, поўнымі празрыстай вады. Удзень яна была, пэўна, колеру чырвонага дрэва. Цяпер — чорная як смоль. Траплялiся даўнія лесасекі, зарослыя дрэўцамі, малiннікам і кіпрэем. Белы туманец шматкамі поўз з нетраў. Было бязлюд-

дзе. І цішыня. Залаты і шафранны захад шырокай паласой дагараў за лясnымі волатамі.

І тут наш «газік» выглядаў дзіка, як машына часу.

— Паняй-паняй!

Як глуха! Якая закінутая журба! Быццам і не было ні кіеўскіх князёў, ні Ванькі Крывавага, ні Пятрухі-Мучыцеля. Нібы толькі што пад гэты халодны неба-схіл, пад першую крынічную зорку на ім, да залатога іканастаса захаду прыйшлі людзі — мы.

І зноў пушча. Зноў ствалы волатаў, а за імі гараць крылы соцень жар-птушак. Гараць і дымна згараюць у цішыні.

І раптам я ўбачыў: вышэй за ўсе дрэвы ўзносілася над светам не дужа густая, але магутная верхавіна і некалькі велізарных, як бярвенні, галін. Стройны, як калона, у мноства абхватаў ля зямлі, усё раўней і танчэй угору, дасканалы ў сваёй велічнай зграбнасці, стаяў сярод лесу, сярод сыноў сваіх, унукаў, праўнукаў, далёкіх нашчадкаў лясны волат. Здавалася, метраў на сорак — пяцьдзесят — бо яго ні з чым вакол нельга было параўнаць — вышэйшы за ўсё на зямлі. Роўны амаль да самай верхавіны, гладкі, амаль як мармур, карою (так уяўлялася ўпрыцемку), без адзінай шышкі на ёй, без адзінага наросту ці галінкі, ён толькі ля верхавіны шырыў недзе ў саміх нябёсах магутныя свае лапы.

Ён быў вечны і неўміручы. Ён, здавалася, павінен быў быць нязменны і канчатковы ў сваёй класічнай закончанасці. І, аднак, ён рос. Разумееце? Ён я ш ч э  р о с.

Ён нарадзіўся ад жолуда нейкага такога самага волата, ад якога даўно не засталося і слядоў. Бацька ягоны жыў у часы Цэзара і Спартака, Хрыста і Нерона, Атылы і Катула. І вось аднойчы ён задумаўся аб неўміручасці і вечнасці і неспадзявана скінуў жолуд. А з жолуда прадзёўбнуў зямлю пяшчотны ружавата-жоўты парастак велічынёй з палову мізінца. Яго чакалі тысячы бедаў. На яго мог наступіць чалавек або алень. Тысячы дубовых малят гінуць вось так.

Але вось ён стаіць і яшчэ расце. А перад ім у маўчанні стаім мы. Неўміручая мозгам і справамі мятуліца-аднадзёнка. А ён стаіць. Галава ягоная ў небе.

Падпірае крыштальную першую зорку. Расце.

Кіеў быў зусім малады. Полацк трохі старэйшы. Осла не было. Масквы не было. Ні Берліна, ні Нью-Йорка, ні Рыгі — нічога гэтага яшчэ не было. Не было Францыі, а была толькі Франкская дзяржава. А ён ужо рос.

І наўрад ці быў намнога меншы, калі чалавек з вачыма хітруна і аматара пагуляць, з сэрцам, у якім жыла, аднак, гарачая любоў да сваёй беларускай зямлі, Крывашапка, стаяў пад ім і клікаў на паўстанне беларускіх сялян, сваіх братоў. Палалі вогнішчы. Полымя іхняе адбівалася на лёзах кос, на вострых іглах вілаў, у глыбокіх вачах, чырванела на кары Вечнага Дрэва. Яно скакала недзе высока ўверсе на ягоных галінах. А сярод людзей, магчыма, быў продак у дванаццатым калене нашага дзеда.

Не ведаю, ці адпавядае дрэву імя «цар-дуб». Назва «дуб Крывашапкі» адпавядае больш, хаця і яна не з лепшых. Усякае імя будзе вартым жалю перад гэтай велічнай, перад гэтай мудрай вечнасцю.

Ён быў сведкам усёй пісанай нашай гісторыі. Сведкам канца радавога строю, сведкам з'яўлення князей і ўвядзення хрысціянства, сведкам разгрому беларусамі татарскай навалы, сведкам паўстанняў семнаццатага стагоддзя і сведкам апошняй вайны.

Крый божа стаць яму сведкам вайны атамнай, сведкам канца чалавецтва і сваёй смерці разам з ім. Гэтага не павінна быць. Гэтага не будзе. Залог гэтага — мудрыя чалавечыя вочы, чорныя рукі і апошні водсвет захаду на вяршыні Дрэва Вечнасці.

І калі гэта не будзе, год трыста ён яшчэ прастаіць, здаровы, поўны сіл стары. А да таго часу ягоныя суседзі (і, напэўна, дзеці), трохі маладзейшыя за яго, стануць такія самыя, а тады, значыцца, і падаць можна.

У гэтай дуброве не павінна стукаць сякера. Уся з шасцісот-сямісотгадовых дубоў, яна павінна зрабіцца запаведнікам велічы, сведчаннем таго, што можа даць наша зямля.

Мы вярнуліся ў дзедаву хату і вячэралі там. Чысцюткія беленыя сцены, музейныя па хараству і майстэрству ручнікі, дзівосныя па прыгажосці посцілкі на сценах і ложках, стракатыя налаўнікі. Бялюткая печка з мноствам ніш, выступаў і прыступак была як гожая архітэктурная спаруда. Страшна было спаць

пад гэтымі вясёлкавымі посцілкамі, на гэтых вышываных падушках, на беленькіх, хатняй палатніны, таксама расшытых па краях просцінах. Мы папрасіліся на сена, пасля ўпартай барацьбы атрымалі згоду і былі за сваю ўпартасць пакараныя.

У тую ноч, як казакоў і шляхту ў паходзе, нас моцна кусалі блохі. Я-то не адчуваў гэтага, але казалі сябры.

Уначы я прачнуўся, адчуваючы, што цалкам выспаўся пасля кароткага каменнага сну. Унізе шумна ўздыхала карова. Даносіўся сонны начны шум лесу. Рэдкімі ўздыхамі.

Я злез са стога, выйшаў на двор, сеў на пасечаную калоду і закурыў. Лес шумеў і шумеў. Мігцелі над галавою зоры. А думкі ўсё вярталіся да таго, што бачыў. Так, гэтай дубровы нельга пілаваць ні ў якім разе. Патрэбен закон. Ніякая выгада не заменіць тут вялікай духоўнай страты. Унікальныя дрэвы, якіх, пэўна, няма больш нідзе ў Еўропе. А ўжо ў такім масіве — напэўна няма. Іх трэба бараніць, прыводзіць сюды іншаземцаў, каб дзівіліся, прыводзіць сюды кожнае дзіця, каб бачыла і на ўсё жыццё пранікалася сыноўняй павагай да зямлі, якая дала жыццё яму і здолела нарадзіць гэткіх волатаў.

Пад раніцу я на хвіліну задрамаў. Здаецца, проста ўпала галава, а калі ўзняў яе — вось-вось павінна было ўзысці сонца, весела сінела неба, свежы подых паветра быў як каханы пацалунак.

Разбудзіў мяне нейкі строкат. Сарокі ўлетку пазбягаюць вёсак, але ж тут сама вёска была амаль лесам. І вось нада мною сакатала сарока, весела паглядаючы на мяне бісерным вочкам. Вельмі смешная, бясхвостая сарока, подобная з гэтай прычыны на апалонік без ручкі.

І я засмяяўся і ўстаў насустрач усходу.

Пасля мы зноў паехалі да дуба. Здымаць, на жаль, было цяжка. У густой цяністай дуброве і пры сонцы стаяў паўзмрок. Зямля развяла вакол сотні курыльніц. Туманны дым поўз да верхавіны, нібы гэта язычнікі прыносілі тут ахвяры.

Толька пашкадаваў, што нельга ўзлезці на вяршыню. Гэтае «нельга» сказаў ён, здатны здымаць на дарозе ў падаючага дрэва (незадоўга да гэтага, пад Шчорсамі, нас з ім ледзь не забіла такім чынам),

на вяроўцы над безданню, на крыле самалёта і, напэўна, нават у чэраве кітовым.

Нельга было ўзлезці на роўную калону, ды яшчэ ля самай верхавіны віўся ля адзінага маленькага дупла «дымок»: дзікі пчаліны свепет. Яго ніхто не мог дастаць. Дзед казаў, што свепет там быў яшчэ ў гады ягонага дзяцінства.

Не варта было б пра гэта пісаць, але не пісаць нельга. Пры дзённым святле мы ўбачылі, што кара на вышыню чалавечага росту пакрыта драбнюткімі выразанымі літарамі. Так бы мовіць,— пакінулі сляды на твары зямным і прылучыліся да вечнасці.

Хаця гэта і не па сэрцавіне, а па тоўстай, у 3—4 дзюймы кары, але ўсё адно рэжа па сэрцы гэты выгляд спісанага, спаласаванага дрэва. Ці ж не малпы? А пасля надпісы гэтыя счэсваюць, але яны з'яўляюцца зноў, паласуюць жывую плоць і могуць дайсці да жывога нутра.

Былі тут людзі адусюль, людзі з імёнамі і прафесіямі (а трэ было б па гэтых надпісах шукаць, прыводзіць у міліцыю ды даваць па лапах і кішэнях), але я не буду ўвекавечваць іх яшчэ і на паперы. Хопіць ім і кары. Аб адным, аднак, не сказаць нават неяк і нязручна. На кары распісаўся ва ўласнай дурасці нехта X «ад імя камсамольскай арганізацыі гомельскага педінстытута», так бы мовіць, ад імя будучых сейбітаў разумнага, добрага і вечнага.

Бедныя хлопцы! Як ім не пашанцавала! Разумныя ж, відаць, яны людзі збольшага, а выбралі, каб гаварыў ад іхняга імя, таварыша X.

І толькі вышэй, куды рукі розных там X не дасталі, быў першазданнай чысціні крэмавы ствол. Крэмавы, аж белы. Стаяць яму вякі, каб не малпы. Некалькі год назад Янка Брыль, Валодзя Калеснік і я наведалі старажытны дуб у Варончы, звязаны з імем Адама Міцкевіча. Дрэва-волат зеўрала страшэннай велічыні дуплом, у якім магло б стаць дзесяткі два чалавек. У гэтым дупле было і акенца на другі бок дрэва. Я ўлез і высунуў у акенца галаву, як таемны лясны дух. Відаць, калісьці ў гэтым дупле нейкі варвар расклаў агонь, але дрэва згасіла яго ўласнай крывёй і засталося стаяць. Патрэбна было б некалькі вазоў цэглы і пару мяхоў цэменту, каб запламбаваць дупло, і жалезны абруч, каб ахапіць ім галіны і не даць

дрэву раскалоцца, і яно прастаяла б яшчэ семсот год. Мы вырашылі напісаць пра гэта старшыні камітэта па ахове прыроды. Праз некаторы час Янка меў гонар атрымаць ад яго ліст, у якім было напісана, што сапраўды ля вёскі Варонча, што пад Навагрудкам, існуе шматвяковы дуб, звязаны з імем Міцкевіча, і ў гэтым дубе сапраўды ёсць дзірка. Такім чынам мы атрымалі магчымасць праверыць нашы асабістыя ўражанні.

Вялікае дзякуй!

То, можа б, хаця цяпер нехта засаромеецца, спахопіцца і зберажэ частку нашага народнага гонару? І можа, зробіць гэта хутчэй? Год назад дуб Міцкевіча ў Варончы яшчэ стаяў. Можа, яшчэ не позна?

...Пасля мы паехалі ад нашага дуба і на зваротнай дарозе, на лесасецы, убачылі двухногі дуб. Нідзе не было відаць, што зрасліся два дрэвы. Проста плялося, валаклося па высецы самотнае схіленае дрэва на дзвюх нагах, нібы хацела і не магло пайсці, уцячы са спустошанага людзьмі месца.

Пакуль хлопцы здымалі яго, я не вытрымаў і пеша вярнуўся да свайго волата. Белы, ён стаяў у змроку, думаў пра нешта, а зямля кадзіла яму.

У-у, якая вечная, якая жывая стаяла вакол яго цішыня! І я стаў і, няверуючы, пагаварыў з ім у думках, ціха памаліўся яму і папрасіў аб самым дарагім. А аб чым прасіў, аб чым маліўся — не скажу.

Пасля мы паехалі. Ізноў было бязлюддзе. Бачылі мы дуб, пашчапаны маланкай. Маланкі любяць дубы, часцей за ўсё змагаюцца менавіта з імі, бо гэта варты працаўнік, і амаль ніколі не чапаюць бярозу, такая яна плакучая, пакорлівая і ніцая. Літуй цябе лёс ад бліскавіц, Вечнае Дрэва!

Машына бегла. Вялізныя дрофы, падобныя на страусаў, часта глядзелі на нас з травы.

У адной лясной вёсцы мы заселі ў вялізнай лужыне. Пакуль хадзілі па трактар, мы скінулі кашулі і на вачах у мясцовых жыхароў загаралі, рабілі выгляд, што так і трэба.

Чорная як смоль, румяная, вельмі прыгожая маладзіца з вялізнымі вачыма весела крычала мне з садка:

— Гэй, каторы з голаю спіной! Хадзем пад яблыню, казку раскажу.

Яна была такая чарнавокая, такая ладная, што другім разам я насмяшыў бы ўвесь свет: узяў і застаўся. Мы ляжалі б пад яблыняй, і гаварылі, і смяяліся б, тым больш што, скажу вам па сакрэту, я таксама не зусім ужо благі казачнік. Але тут я аджартаваўся, і калі машына пакаціла далей — забыў пра гэта і ўспомніў толькі цяпер.

Таму што я быў перапоўнены іншай казкай, той, якая засталася за маёй спіной.

Бліжэй да вечара лінула раптоўна страшэнная залева. Стала цёмна. Вакол стаяла непранікальная, непраглядная, здавалася, над усім светам, сцяна дажджу. Серабрыста-шэры, ён амаль хаваў нават блізкія дрэвы, паласаваў, сек, плыў цэлымі патокамі па перапоўненай вадою зямлі.

Мы імчалі праз гадзіны і кіламетры, а ён ліў, не слабеючы. Мы ўехалі ў ноч, а ён яшчэ пасіліўся, хаця і здавалася, што гэта немагчыма.

Паветра было менш, чым вады. Бледныя бліскавіцы ўспыхвалі часам у чарнільным змроку. Над бясконцымі лясамі, над усім Палессем ішоў некуды і не праходзіў несамавіты лівень.

Машына ледзь прабівалася праз яго, ляцела ў залеву. Я сядзеў, і думкі цяклі ў галаве маёй. Думкі аб стагоддзях, якім я прычасціўся і якім цяпер быў прыналежны. Я быў звязаны цяпер з імі, з усёй гісторыяй свайго народа праз неразрыўнае, праз жывое звяно, праз тысячагадовае Дрэва Вечнасці. Звязаны з самым першым паэтам гэтай зямлі, які, магчыма, таксама датыкаўся далонню да белай кары.

Дождж паласаваў. І я ўвесь час уяўляў, што вось стаіць недзе ў глыбінях гэтых лясоў, у глухой пушчы, у чарнільным змроку, пад гэтым начным, глухім і вечным, як стагоддзі, жыватворным і безвыходным дажджом мой, наш дуб. Стаіць, адолеўшы маланкі, людскія сякеры і сам Час, і вось прыходзяць людзі і моляць яго, каб ён жыў дзеля іх, нявечных ягоных сыноў, каб вечнай была зямля мая, што нараджае волатаў.

Стаіць. Па нешматлікіх галінах, па пацямнелай ад вільгаці белай кары сплываюць алавяныя струмені дажджу. А вакол ноч. Пасля яе прыйдзе раніца, але зараз над ім ноч.

Мне было так, нібы недзе на месцы бою я пакінуў

адным друга, які не можа ісці са мною. Нават горш. Друга я цягнуў бы або застаўся з ім. Гэтага — нельга было. Ён бы памёр ад першага кроку... Я не мог застацца з ім... А ён не мог жыць там, дзе я, у цяснінах вуліц і ў шолаху шын, сярод нашых бясконцых размоў і, магчыма, хлусні, без жывушчага паветра, без гэтых простых людзей, без першароднай палескай мовы.

Будзь вечнай дзеля нас, зямля мая!

Ты не магло пайсці са мной, Вечнае Дрэва. Але і цяпер, калі мне бывае цяжка, я раптам, без усякага, здаецца, повада, успамінаю, што недзе стаіць, недзе шуміць або маўчыць спакоем самой гісторыі заліты веснім святлом, дажджом або засыпаны начным снегам, стаіць і чакае другога свайго тысячагоддзя сведка ўсёй нашай пісанай гісторыі, усіх учынкаў нашых і ўсіх беларускіх жыццяў, што прайшлі за нашу гісторыю па твары зямным.

Стаіць і расце вялікі Бацька-Дуб.

## ВОКА ТАЙФУНА

Бухта ляжала ў чорных безжыццёвых сопках, як ртутная цьмяная люстра. Спалі на гэтай люстры глухія і насцярожаныя цені караблёў. Злева, досыць далёка, дагарала сузор'е горада, самы край гэтага сузор'я, бо цэнтр ягоны хаваўся за мысам, там, дзе бухта рабіла калена. Справа, у горле заліва, размерана ліў святло маяк — і тады ад яго вострай зоркі цягнулася па вадзе проста да Сцяпана Дубаўца амаль нерухомая сцежка.

Ваду цяжка было назваць штылявою. Вада была проста мёртвая. Мёртвая, як гэтая сакавіцкая прыморская ноч. Як цемра.

Тое цямноцце толькі зрэдку ўспорвалі ўспышкі рацьера: караблі нібы скардзіліся адзін аднаму, што вось вакол ноч, золь і самота, што кілі іхнія дранцвеюць і дубеюць у ледзяной вадзе.

Ды яшчэ рухаліся ад карабля да карабля белыя агеньчыкі на шлюпках. Мігцелі, як зоркі.

«Камандзіры з нарады,— падумаў Дубавец.— Нічога сабе гамарня была. Да трох ночы... з вялікімі хвілінамі».

Ён прыкурыў ад недакурка новую папяросу і выпусціў недакурак. Пачуў, як коратка шыкнула ўнізе, нібы нехта сказаў «цс-с» — і ўсё вакол, сапраўды, заглухла цяжка і сонна: увесь сусвет заторкнуў вушы ватай.

Ціша стаяла першазданная. Толькі зрэдку над вадой спявуча стагналі, пераклікаліся карабельныя склянкі. Нібыта крыху надтрэснутымі ўдарамі. А пасля змаўкалі, і зняменне, яшчэ больш глыбокае, зноў павісала над вадой.

У гэтыя перадсвітальныя гадзіны мічман Сцяпан Дубавец усе апошнія месяцы адчуваў дзіўную, шчымлівую, у чымсьці нават прыемную тугу. Быццам на некалькі хвілін нечая жорсткая рука адпускала сэрца. Нібы нейкі цёплы дождж зрошваў на хвіліну ягоную закарэлую, счарсцвелую душу. І рабілася на імгненне лягчэй жыць, і нібы маячыў наперадзе цень нейкай надзеі, і здавалася, не ўсё да канца яшчэ пражыта і згублена ў душы.

Лёгкі туман на вяршынях сопак. У слабым свячэнні зор ён крыху адлівае жаўтаватым і залацістым. Нішто не шкодзіць думцы.

«У дзённай сумятні так рэдка ўдаецца думаць. А з гадамі жаданне думаць усё мацнейшае. І, напэўна, таму ўсё мацнейшае бяссонне».

Волкі пах марской сакавіцкай вады.

«Шкада, што нельга доўга стаяць... Вільгаць... Адразу пачынаюць стагнаць старыя рубцы, пераломы і шнары... «Мінёр памыляецца адзін раз...» Глупства якое!.. Дурдола нейкая выдумала прыказку, а сотні ёлупаў паўтараюць! Колькі разоў даводзілася яму бачыць жахлівае, смяротнае полымя, сляпучую ўспышку выбуху на больш ці менш блізкай адлегласці. Рассечаная шчака. Шнар перасек лоб. Зламаныя рука і ключыца ў такую золь кожны раз ныюць, і нібы адказваюць ім асколкі ў правым сцягне і левай назе — апошні падаруначак вайны, якая для іншых скончылася чорт ведае калі,— і многія нават не памятаюць пра яе, не ведаюць яе.

І гэта ўсяго ў трыццаць дзевяць год. Урэшце, чаму «ўсяго». Жэня не лічыла, што гэта «ўсяго». Зні-

кла. Дый што ёй было ў чалавеку, які ледзь не ўдвая старэйшы за яе. Непрыгожы, як грыбзон. Ну і з асветаю, як з мордай. Асвета сівеючага мічмана. А што можна было зрабіць? Спачатку эвакуацыя, пасля бездамоўе і швэнданні паўсюль, таму што бацькі памерлі, не вынеслі. Платформы з зялёным жытам. Назват у чужых гародах краў. Пасля так званы «сын карабля». А пасля знайшоў братоў. А братам гэтым без яго не вывучыцца было б, не ўстаць на ногі. Так вось і ажаніцца не надумаў. А калі прыйшло тое, два гады назад... А, што там!

...Так, не песціла жыццё. Да ўсяго саматугам, то што дзівіцца, што вырас бандураю. Ведаў, што многіх маладзейшых — і з матросаў, і з тых, што ў некаторых чынах,— ад яго верне. Верне ад сухасці службакі, ад маўклівасці, ад грубай рэзкасці, ад звычкі ягонай надаваць павялічанае значэнне дробязям. Ну і чорт з імі! Базікалам затое не быў, па бабах залішне не бегаў, па корчмах не бахусаваў».

У глыбіні душы ён ведаў, што для самапавагі гэтага мала. Ганебна мала. А ўжо для такіх дзяўчат, як Жэня — і пагатоў.

...У адмірала Ахотнікава была фенаменальная памяць на аблічча, імёны, факты з жыцця паднача-леных. У многіх і многіх соцень камандзіраў, старшынь, матросаў ён памятаў нават імёны па бацьку жонак, і колькі дзяцей, і калі праштрафіўся, і калі, наадварот, быў адзначаны. Дый хто ўрэшце не ведаў яго, Сцяпана Дубаўца, які са сваіх амаль сарака год дваццаць восем на караблях, з таго самага дня, як узялі яго, беспрытульнага, на тральшчык юнгам, «сынком». І вось ён аднойчы выпадкова пачуў, як Ахотнікаў у канфідэнцыяльнай бяседзе сказаў аб ім, Дубаўцы:

— Слу́жыць аж занадта старанна.

А што заставалася рабіць яму, Дубаўцу, калі, акрамя гэтага ды яшчэ нескладанай сталярскай работы ў доме «для душы», ён амаль нічога не ўмеў? Дый служы́ць «занадта старанна» нельга. Глупства гэта, хаця і адмірал сказаў.

А Ахотнікаў тады яшчэ прыбавіў:

— Не прывёў бы тады лёс на карабель — быць бы яму старшынёй нейкага калгаса. Такога сабе моцна і ўстойліва сярэдняга. Уся матчастка ў поўным

парадку. Людзі жывуць, нібы ў Хрыста ў запазусе. Начальства не ездзіць, давярае. Журналісты таксама, бо лаяць няма за што, а й хваліць дужа — таксама. І, вось глядзіце, мы суседзі, я сам бранскі воўк, а ні Балтыка, ні Поўнач, ні тутэйшыя мясціны з яго ніколі не вышыблі і не вышыбуць магілёўскага мужыка... Палова слоў, палова фраз — адтуль. А ён і жыў там без года тыдзень, дзесяць год, ды ў водпуск часам наязджаў. Гэта як зразумець, га?

Памаўчаў.

— Акцэнт незнішчальны... І вось што цікава, капітан, я такіх дактароў навук нават ведаў. Гэта ўжо ад натуры. Бываюць такія, што й тры універсітэты ім не дапамогуць. Ні французскі, ні рускі, ні нямецкі. Непрабівальныя мужыкі. У мяне знаёмы быў, таксама сусед, з-пад Барысава, з-пад Студзёнкі. Ну, той, дзе на Бярозе Напалеон армію пагубіў. Доктар навук, адзін з лепшых матэматыкаў у Саюзе, галава, тры гады ў Індыі выкладаў. Некалькі моў, у прыватнасці англійскую, як бог ведае. А «The» ў яго ўсё адно як «дзе» гучыць, а думае ўсё роўна па-барысаўску. Ведаеце, што ён адчудзіў, калі яго ў Парыж паслалі? Гуляў, убачыў калону Напалеона і з гэткім першабытным гумарком спытаў: «Што, падла, помніш Бярэзіну?»

Адмірал з капітанам засмяяліся і адышлі. Ды ён і без таго даведаўся зашмат. І хаця параўнанне з доктарам, які выкладаў у Індыі, палесціла Дубаўцу, у душы нешта ўсё ж варухнулася. Не зусім прыемнае. Што зробіш, калі галовы ва ўсіх розныя: у адмірала, капітана, доктара і ў яго? А значыцца, розны лёс. Той жа капітан Кулінчанка — Дубавец ведаў гэта — сказаў аб ім аднойчы так:

— Усё ў яго будзе ў ажуры. І тэхніку зберажэ, і людзей... да пэўнай мяжы. Наколькі гэта прадугледжана. Бадай што і не вышэй. Толькі наколькі самога хопіць. А людзі гэта чуюць.

Мічман у глыбіні душы адчуваў справядлівасць гэтых слоў. Усе так лічылі. А ўсе заўсёды маюць рацыю перад адным. Гэта ён чуў з самых малых год.

Ён зноў закурыў і, моршчачыся, пацёр ключыцу.

«І ўсё ж ён так і дажыве свой век на караблях, бо куды ж яшчэ? Карабель узяў яго тады, у вайну, калі

ён, Сцяпан, паміраў з голаду. Узяў «сурова», бо разумеў, што бэсціць дарэмна нельга. Абразіцца хлопец: вайна. Не дзіця ж. У свае дванаццаць бачыў, што й летняму хапіла б. Але й свавольства рознага, накшталт «прадзімання макаронаў на камбузе» або «прыносу вядра сухой пары з машыннага аддзялення», таксама не было. Нельга: «сынок».

І ён прывык лічыць карабель адзінай суцэльнай істотай. Ад бака да юта з усімі машынамі, людзьмі, тралам гэта быў нібыта суцэльны арганізм, у якім кожная частка «неўзаемазамяняльная».

Любоў да людзей ён пераносіў на ваенную службу ўвогуле, бо людзі былі часткай гэтай службы, магчыма, лепшай. Дый пра занадта гучнае слова «бацькаўшчына» ён таксама, як здавался яму, ніколі не думаў. Праўдзівей, думаў, але толькі як пра «службу бацькаўшчыне», дзе слова «служба» заўсёды стаяла на першым месцы, а другое слова было нібыта прыдаткам да яго.

Ну, так, ён, вядома ж, помніў цёмныя ад часу дошкі столі і сучкі ў іх, якія можна разглядаць гадзінамі, лежачы на печцы, помніў, як цягнуцца ўздоўж цвёрдай сцежкі беларукія бярозы і замшавыя асіны, як залацее за імі мора лубіну. Часам яго цягнула туды ў водпуск. Але што з таго? Цяпер над ім была снежная столь каюты, а заместа залатога мора — свінцова-сіняе, колеру «прускага блакіту», як не зусім дасціпна сказаў аднойчы «карабельны мастак» мінёр Анатоль Каня. Зямляк, «земеля», як тут казалі, толькі што не з Магілёўшчыны, а аднекуль ці то з-пад Слоніма, ці то з-пад Шчучына.

Ён не ведаў, што гэтая так званая «бацькаўшчына» сядзела ў ім, магчыма, мацней,чым ва ўсіх тут. Як дрэва не ведае, што яно з зямлёю — адно. Магчыма, многія яго й не разумелі менавіта таму, хаця ён ніколі не падвёў іншага ні перад суседам, ні перад начальствам. Адны ставіліся да яго абыякава, другія — з сухаватай насцярожанасцю, трэція — нават з лёгкай непрыязню.

— Службіст... Сухар... Гумару няма...

А гумар у яго быў. Змрачнаваты. Толькі гумар гэты мала хто разумеў, бо і ён, гумар, у яго быў спецыфічны, магілёўскі, амаль неперакладальны. І валодаў ён толькі ім.

Пра чалавека з невядомым мінулым і няпэўнымі паводзінамі ў сучасным, якому, аднак, даверылі важлівую справу, ён мог сказаць:

— Прыйшоў сюды з ка́тніх рук, а ты яму вер.

І мог сказаць, убачыўшы матросаў, што ідуць у лазню:

— Патопалі хлопцы на голы банкет.

Толькі аднойчы ён быў здзіўлены. Гэта тады, калі, падарваўшыся на міне, ляжаў у шпіталі. Столькі яму, здаралася, нацягвалі падарункаў. Ён, дужа стрыманы, быў крыху падазроны да праяў чужых пачуццяў.

Але пасля ён і для гэтага знайшоў палічку. Так, не дужа любяць, але, мабыць, крыху паважаюць, бо ніколі не быў з пароды «сачкоў», ніколі не перакладаў сваёй работы на чужыя плечы. Наадварот, браў частку яе з нязвыклых, слабых плячэй на свае. Без работы ў жыцці што ж? З нудоты апруцянееш.

Ну, і потым «на службе ведь пострадал», як жа не зайсці. ...Агаломшыў яго і выклікаў поўнае непаразуменне толькі адзін падарунак, бо ён не лез ні ў якія рамкі. Ён служыў тады на іншым тральшчыку, і вось ягоны мінёр Більдзюкевіч, таксама «зямеля», заўсёды расхрыстаны ва ўсім, акрамя работы, лабідуда і недалуга (за што й палучаў ад мічмана часта фіцілі)— гэты мінёр прынёс яму ў шпіталь падарунак: белую нейлонавую малпу.

У малпы быў неймаверна сумны і маркотны выгляд: рот да вушэй, вушы, падобныя на пельмені, і журботныя вочы.

Більдзюкевіч, відаць, зразумеў ашаломленасць мічмана па-свойму:

— Ды гэта нічога, таварыш мічман. Калі наконт таго, што сумняваецеся падарыць,— дык гэта глупства. Разумная не пакрыўдзіцца, а дурная — шайтан з ёю.

Дубавец так і зразумеў, што гэта не для яго, а для Жэні. Уся гавань вельмі недасціпна казала, што ён з ёю «круціць раман». І злёгку «агарчыўся» (агарчэннем у гавані называлі аднолькава і выхадку падначаленага, і фіціль ад начальства), бо лічыў, што ён дужа нядобры сабою: выкапаная малпа.

Гэта было не так. Толькі вечная пахмурная паглыбленасць мічмана ў сябе перашкаджала яму

заўважыць, што некаторыя — і нават даволі многія — жанчыны азіраюцца на яго на вуліцах горада.

Досыць высокі і шырокі ў касцях, велікароты, шыракавокі, брываcты, з магутнымі надброўнымі дугамі, крыху рудаваты, у пшаніцу.

Словам, па замячанню таго ж «мастака» Анатоля Кані:

— Дурніца, можа, і не прышвартуецца, а разумная... Шкада, што гэтых разумных малавата. Астатніх, мабыць, чорт выпалаў.

Каня быў адзін з нямногіх, хто мог прыадхіліць перад мічманам частку душы. Можа, цягнуўся як да земляка. Але Дубавец не йшоў яму насустрач амаль ніколі. Вайна і ўсё астатняе нялёгкае жыццё выхавалі яго ў тым перакананні, што нельга ўголас гаварыць пра свае думкі і пачуцці, нават калі ты «тонкі чалавек». І нават калі бачыш, што прыгожа (а ён інстынктыўна адчуваў прыгажосць), дык казаць пра гэта апошняя справа.

— Гэта што ж палучаецца. Ты, скажам, пусціш кагосьці ў душу, а ён, можа, зусім і не той, каго належыць пускаць.

Ён мала давяраў такім людзям і нават крыху недалюбліваў іх.

— Можа, таму гэта ўсё і скончылася. Нават ясна чаму. І асвета розная і ўзрост. Старэючы сухар, службіст, без гумару, без умення падтрымаць размову на высокія матэрыі. Цалкам ясна, што не для яе ён быў. Толькі які ж там быў «раман»? Яна не ведала аднаго, што нікога ён больш не жадаў са дня іхняга разрыву.

— Адналюбівы, як асёл,— сказаў пра яго неяк мічман суседняга тральшчыка, прыгажун Несцярэнка, і ён пачуў гэта без крыўды.

«Ну й няхай, як асёл... Усё лепей, чым ён, певень кахінхінскі».

Ён уклаў у гэтыя словы ўсю пагарду сваю да несцярэнкаўскай пароды мужчын.

...Яна тады з'ехала на метэастанцыю, на востраў Рагвольд. Блізка, а нібыта на край свету. За два гады дзве выпадковыя сустрэчы. Абодва разы ён зрабіў выгляд, што не заўважыў яе. Няма чаго таму богу кланяцца, які на нас не зважае. Таксама мне яшчэ... польская панна.

Ён быў сухар, але сухар горды і ўпарты.

І таму малпа ўвесь час сіратліва вісела ў яго ў каюце.

Калі Дубавец быў злосны на няўдалы выхад у мора або, як яму часам здавалася, на несправядлівыя разносы начальства — ён паварочваў яе журботнай мордаю ў кут.

Дарыць ён яе не хацеў. Падоранае нельга дарыць. Гэта было адно з тысяч ягоных цвёрдых правілаў. І ўсё ж дарэмна Більдзюкевіч дарыў яму малпу. Ні ёй яна не прыдасца, ні будучаму сыну.

І ўвогуле — дарма.

Цішыня над бухтаю ўжо не была такая глыбокая. Яе нягуста разрывалі блізкія і далёкія гукі. Даносіліся цені галасоў. Спявуча ныў, выбіраючы якар, шпіль. Лязгаў, бегучы ў ланцужную скрынку, якар-ланцуг. Вось з вухканнем вырваўся з вады і сам якар. На імгненне Дубавец пачуў, як з яго лье. Пасля пачуўся грукат, удары аб корпус карабля: якар замацоўвалі па-паходнаму.

Караблі рыхтаваліся да выхаду ў мора.

Мічман дастаў папяросу, пераканаўся, што ў пачку запалак няма, ляснуў сябе па кішэнях.

— Вазьміце, таварыш мічман.

За ціхім спевам дызеляў, што пачаўся хвіліну назад, Дубавец не пачуў крокаў мінёра Кані. «Карабельны мастак» працягваў яму запалкі.

— Дзякуй.

Пакурваючы, яны глядзелі, як агеньчыкі караблёў цягнуліся да выхаду з гавані.

— Вам, мабыць, яшчэ ў вайну даводзілася сто разоў такое бачыць?

— У вайну пры выхадзе ані агеньчыка. Ані гуку.

Нейкая насцярожанасць заўсёды непакоіла Дубаўца, калі побач быў мінёр Анатоль Каня. Занадта ўжо непадобныя яны былі між сабою. І параўнанне тое было нявыгаднае для мічмана, а таму ён увесь час думаў над гэтым непадабенствам.

Не дужа высокі, але да таго ладны, што глядзець весела. Сядзіць на ім усё зграбна, падагнана. У двухсотрублёвым гарнітуры іншы так не выглядае, як гэты ў звычайнай шапцы, целагрэйцы, ватовых штанах і ботах. Такога хаця ў дзяружку зашый — усё адно фацэт.

Нічога ён супраць яго не меў: служыць, працаўнік, сябра не заложыць, на чужой спіне ў рай не палезе, а ўсё ж... Мо таму, што мінёру ўсё на свеце ўдавалася ў сто разоў лягчэй, чым яму, мо таму, што ён са шчаслівай лёгкасцю, гуляючы, заваёўваў усё, што ён, мічман, браў цяжкай працай. Нават сябрамі людзі яму рабіліся пасля першага слова, а то й пасля першай усмешкі.

Усмешка і праўда добрая. Кепскія людзі такой не выцісну́ць. І вочы адчайдушна-вясёлыя, цёмныя, злёгку міндалевідныя. І чуб хвалісты. Крыху вылізаваты, але вакол рота ніжэй гэтых скул такая цвёрдая прыгожая гульня мускулаў што скул гэтых і не заўважаеш.

Адсюль, пэўна, і насцярожанасць. Адчуванне, што каб давялося сядзець за адной партай, танцаваць на адной пляцоўцы і ўсё такое — гэты гуляючы ўзяў бы верх. Ужо не кажучы пра тое ягонае маляванне. Шмат у якіх сяброў, дый у камандзіраў многіх напісаныя ім партрэты. Дужа жывыя, толькі што не гавораць, і — гэта мічману здавалася містыкай — падобныя з арыгіналам, як два кітайцы адзін на аднаго.

— Гляньце, агні цягнуцца да выхаду з бухты,— сказаў Каня.

— Ну.

— Вясёлкавы які арэол вакол кожнага агня! Ледзь прыкметны. А колерам... вось зімой такое кола вакол поўні бывае.

Мічману стала ніякавата і нават крыху сорамна.

— Агні як агні,— сказаў ён.— Бадай што пад вечар будзе вецер. Са снегам.

Тут жа ён не пахваліў сябе за сухі тон.

— Чаго ж гэта ты, Анатоль, не спіш?

— Не спіцца нешта.

Ён усміхнуўся так прасветлена і шчасліва, што Дубавец зразумеў: бяссонніца тут і не з'яўлялася. Матросу перашкаджала спаць нейкая вялізная радасць, нейкае лікаванне, што аж распірала яго. І радасць гэтая была з тых, якімі абавязкова неабходна падзяліцца, як бывае неабходна падзяліцца горам. Мічман разумеў гэтую патрэбу ў чужой зацікаўленасці, хаця сам ніколі на такое не пайшоў бы.

— Пра дзяўчыну задумаўся?— штучна ўдаўшы гэтую зацікаўленасць, спытаў Сцяпан.

Матрос толькі яшчэ шырэй усміхнуўся, непрыкметна схіліўшы галаву.

«Чаму гэта людзі, калі яны шчаслівыя, усміхаюцца заўсёды дурнавата,— падумаў мічман.— Вось і гэты. Хаця, што з яго ўзяць? Юнак яшчэ. Амаль дзіця. Я ў яго гады ўжо дзевяць год адплаваў».

Ён забыў, што ягонае «плаванне» пачалося, мякка кажучы, супрацiўна натуры і здароваму чалавечаму сэнсу.

— І добрая хаця дзяўчына?— ён задаваў пытанні толькі таму, што работы ўсё адно яшчэ не было.— Дзе пазнаёміліся хаця?

— Ды вы ж сведкам былі... Хаця не... Вы тады ў водпуску былі. Гэта падчас таго лістападаўскага выхаду, калі хворых з Рагвольда здымалі.

— Казалі мне нешта такое... Я тады на поўдні ўпершыню быў. У Сача́х... Ну...

Анатоль закурыў:

— Мы ўжо назад тады вярталіся. Радаваліся, вось-вось база, а там і горад. Драіліся, прасаваліся, усё такое. І раптам загад: ісці на востраў, зняць і даставіць хворых. Ведаеце, як пасыплюцца ўжо няшчасці — падстаўляй торбу. Усе злыя. Камандзір маўчыць. Галоўны мінёр чорта прыпамінае.

«Ясна чаму,— адзначыў мічман.— Раней ён, бывала, у выпадку чаго і матам мог. Я гэта до-обра памятаю. Завязаў, бо аднойчы ўпрыцемку не разабраў, дый пусціў да мамы не таго, каго трэба. Нічога добрага з гэтага для яго не атрымалася».

А ўголас сказаў:

— То што?

— Лаяўся больш так, прывычка... Таму што справы былі сур'ёзныя. Матарыста аднаго з кавасакі кінула хваляй — клетку грудную памяла. Ну і жанчына: цяжкі выпадак апендыцыту... Добра, пайшлі. А тут не мора — вадзяное пекла: ваду нясе, пену з валоў зрывае. Дыхаць амаль немагчыма, не паветра, а ледзяны перасолены суп.

«Бач ты, паэ́зію развёў,— з іроніяй падумаў Дубавец,— напэўна, цябе, пяюна, бабы слухаць любяць».

— Падыходзіць наш «Тайфун» да месца высадкі, і мы ўсе бачым: не толькі караблю — шлюпцы падысці да берага не ўдасца, такі накат. Валы б'юць, назад

са скал сплываюць. Зялёныя, каламутныя, шкляныя. А там чакаюць. Паміраюць, можа. Тады старлей вырашыў: няхай двох са шлюпак дабіраюцца да берага проста так.

— Ножкамі?— спытаў мічман.

— Гэ-э, ножкамі. Дзе ножкамі, а дзе й турманам. Таму што як нападдасць хваля, як адвесіць ляшча ў кармавы абвод, дык пасля хоць месяц задраты бегай. Ад трусоў і то балюча.

У абодвух былі іранічныя твары, ды і ў словах гучала іронія. Гаварыць аб такіх звычайных рэчах, калі небяспека мінула і забылася, было чамусьці сорамна.

— Пакуль да берага ракам далезлі — выгляд у нас быў, нібы нас праз земснарад прапусцілі. А назад яшчэ горш. Нясём іх на руках. Ну, ясна, кожны канцом абвязаўся, так што цягнуць. І то, пакуль дабраліся, насёрбаўся я салоных гуркоў па глотку і яшчэ вышэй. І, верыце, таварыш мічман, сіняк ад шыі да кіля цэлы месяц не сходзіў.

— Марна. Гэта ж не кожны дзень такое,— сказаў Сцяпан.— Запомні першы запавет падначаленага: с... не берасцень, не будуць біць кожны дзень.

Каня ўсміхнуўся і раптам сказаў, нібы прызнаваўся:

— Я ж амаль не магу, калі вада ледзяная. Іншы плыве, і нічога, а ў мяне адразу сутаргі. І такія, што ўзвыў бы, як шэры на калядах. І ногі, і рукі, і ўсё...

— А дзяўчына?

— Ну, даставілі мы іх на карабель. Я й не разгледзеў яе амаль. Веі толькі. Цень на палову шчакі. А потым яна мне ліст напісала з падзякай... Я адказаў.

— Сустракаліся?

— Ды разы тры.

— І як, цікава ёй з табою?

— Думаю — так. А пра мяне й казаць няма чаго. Асвета мая крыху падкачала — нічога, дацягну. Мне ж дваццаць два толькі.

«Усё яшчэ наперадзе,— падумаў мічман.— І тут табе, малец, сто ачкоў дадзена перад іншымі. Што ж, памагай бог».

— Харошая жанчынка. Засмяецца, дык і ў мяне ад смеху ўсё нутро хвалюецца. Я, таварыш мічман, каб убачыў, што нехта яе пакрыўдзіў, я б таму свіню-

ку за гэта такога чуба даў, што ён бы лысы з бальніцы выйшаў. І то — толькі праз месяц. Дужа добры чалавек. І ведае шмат, хаця тут чаго ж здзіўляцца... Метэаролаг... Станцыя іхняя на Рагвольдзе.

Невядома чаму, але Дубавец раптам адчуў сябе так, нібы нехта выліў яму за шкірку спачатку конаўку гарачай, а пасля конаўку ледзяной вады. Усёй падсвядомасцю ён быў ужо ўпэўнены ў адказе, нейкім невядомым інстынктам ведаў яго і ўсё ж спытаў, не мог не спытаць:

— Ну, а завуць як?

— Яўгенія... Жэня... Аўгіння па-нашаму... Антонаўна.

Нешта апусцілася ўнутры ў Дубаўца. Адчуваючы незямны, нечалавечы холад і пустату, але ўсё яшчэ без надзеі спадзеючыся на нешта, ён глуха сказаў:

— Метэаролаг з Рагвольда... Т-так... Прозвішча часам не Арсенцева?

— Угу. А вы што, ведаеце яе?

— Здаецца, не ведаю. Але чуў неяк... Так, здаецца, я пра яе калісьці нешта чуў.

Ён хацеў сказаць яшчэ штосьці, і ён баяўся сказаць, баяўся, што сарвецца, зарыкае ад ярасці і болю.

Выручылі яго званы гучнага бою. Яны крычалі нібы не над тральшчыкам, не над свінцовой бухтай, над якой бляднела перадсвітанне, не над рабрыстымі голымі сопкамі, а нібыта ў вушах, у грудзях, у галаве.

Час было брацца за справу. Уваходзіць у гэты тлумны, пахмурны, абрыдлівы і, аднак, будзённы, калі не лічыць болю, дзень. Самы для яго пракляты з усіх дзён, якія былі калі-небудзь і будуць.

Павольна цурчала за кармой тральшчыка густая, масляная вада. Скупавата свяціла праз тонкія, але частыя аблокі сонца, што яшчэ амаль не давала цеплыні. Хвалі ў яго слабым, рассеяным ззянні здаваліся зялёнымі.

З левага борта, вельмі далёка, можна было заўважыць яшчэ некалькі тральшчыкаў, якія скарадзілі мора. Там, калі глянуць дакладна ў напрамку на норд у моцны марскі бінокль, далёка за тральшчыкамі можна было заўважыць шэрую палоску: аблокі,

што ляжалі над высокімі сопкамі нябачнага адсюль берага.

Справа, з зюйдавага боку — караблі ішлі курсам «ост»,— быў відзён тральшчык-напарнік. Толькі ён ішоў марысцее «Тайфуна», быў далей за яго ад берага.

У той дзень работы было да д'ябла. Знішчылі чатыры міны. Мінёр «Тайфуна» старлей Андрэй Сцівен, той самы, што паслаў кудысь не таго, каго трэба, цадзіў праз зубы:

— Чартаўня нейкая. Не мора, а суп з клёцкамі. З д'яблавымі фрыкадэлькамі, тры чарты ім ніжэй хваста.

Высачэзны, бялявы, з вечна прыжмуранымі светлымі вачамі ён ад свайго дабрадушша і лаяўся проста так, дзеля парадку. І мічман думаў, што дарэмна яму тады нагарэла, дарэмна ён займае месца, на якім цудоўна справіўся б і лейтэнант.

Чатыры разы шлюпка адвальвала падрываць міны. На вёслах Анатоль Каня. З ім здаравенны, кубічны, старшына Іван Красоўскі. Чатыры разы ўставалі за кармой гейзеры шалёнай вады, узносіліся проста ў неба і ападалі, і нехта быццам біў магутнаю далонню па барабанных перапонках, і, каб часова не аглухнуць, даводзілася разяўляць рот.

І ўвесь гэты дзень мічман мімаволі сачыў за мінёрамі, а думаў аб ім. Вось ліхаманкава вяслуюць да карабля, вось узлятае за імі белы слуп вады, і, калі асядуць апошнія пырскі, Каня крычыць нешта здзекліва, весела выскаляючы белыя зубы.

Дзіўна, ён, Дубавец, ён жа быў амаль спакойны, пакуль ведаў, што побач з ёй нікога няма. Ён прымірыўся б нават з яе замужжам, што з ёю муж, калі б толькі не ведаць яго. Але вышэй усякага цярпення было думаць, што яе кахаюць і, магчыма, кахае яна, што гэты чалавек увесь час побач, што не ўцячэш ад яго, не схаваешся, што з ім трэба гаварыць, хай сабе толькі на службовыя тэмы.

«Ідзе на шлюпцы. Прыгожыя, эканомныя, дакладныя рухі рук. Чаму я быў амаль спакойны да гэтай раніцы? Спадзяваўся? Не, проста суцяшаўся — нічыя. Свінства!»

Дубавец ненавідзеў сябе за гэтае вартае жалю суцяшэнне, за ідыёцкую рэўнасць, за ўсё. І аднак не

мог думаць іначай, бо ніколі не думаў, што гэта так цяжка.

«Пісакі пісалі: «сэрца баліць». Брахня. Нічога такога ніколі не было на свеце ні ў яго, мічмана Дубаўца, і ні ў кога іншага. Пабрахенькі!»

І вось зараз ён адчуваў такі неадольны, фізічны боль у сэрцы, што яму здавалася: ён памірае.

...Калі ўзарвалі другую міну, аднекуль з глыбінь, з таго, што нават думкай не назавеш, усплыло цёмнае...

«Мабыць, не балела б так, мабыць, было б лягчэй, каб Каня схібіў».

Ён адразу ж, нават не асэнсаваўшы ясней, жахнуўся гэтаму, пачварнаму, што ў адну хвіліну пераакрэслівала і бездакорнасць ягонай працы, і жыццё. Да фізічнага болю недзе з левага боку грудзей прыбавілася яшчэ і пякучая пагарда да сябе. І гэты боль, гэтая пагарда нібы далі яму зразумець, што ён ненавідзіць мінёра так, як яшчэ ніколі і нікога ў жыцці.

«Чаму ж яго? Чаму менавіта яго? Чаму не кагосьці іншага, з якім яны не асуджаны быць на адным караблі?»

Ён думаў, што каб яна пакахала кагось сталага, мужнага, вопытнага, тады ўсё было б іначай. Ён не мог не думаць, што мінёр на год старэйшы за яе і гэта добра, але ён глушыў гэтую думку.

«Маладзён, шчанюк, салага зялёная. Што ў ім, халера яго забірай, можна было ўбачыць? Фарбамі мажа? Умее мянціць наконт ар-рэола вакол агнёў? Пэцкаль. Прыпёрлі б цябе, як нас у шхерах у сорак трэцім — тросся б, як сабачы хвост, бабзно!»

Ён знаходзіў для яго самыя жорсткія, грубыя, знішчальна-крыўдныя словы. І сам жа чырванеў, быццам гэта яму, Дубаўцу, кідалі іх у твар.

«Добра, няхай я малпа на твар. Ты паводзінамі — малпа».

А ў сэрца нібы рыўкамі ўваходзіла тонкая, вострая ігла.

Размыты, ці то шэры, ці то сонечны, нерэальны дагараў над морам дзень. Няпэўны, нібы зусім бясшкодны. І, адначасова, сама гэтая няпэўнасць нечым насцерагала, прымушала з трывогаю чакаць чагосьці ўстойлівага, каб ужо добра ці дрэнна, але нешта было.

Мічман меў рацыю ў сваім прадчуванні: вецер падвячоркам рэзка пасвяжэў, а пасля стаў «дужа свежым». Гэта яшчэ не быў шторм, але тое, што адбывалася вакол, было на грані яго. Хвалі кіпелі, вiравалі, узблісквалі пад зусім ужо нізкім, трывожным сонцам, усплёсквалі белымі грывамі. Грабяні іхнія, па меры таго як памiралі сонечныя праменні, бы нейкім злым чарадзействам ператвараліся ў цяжкое волава і свінец. Злавесныя валы каціліся з-за далягляду і былі цёмныя і нават на выгляд цяжкія, як базальт.

...Апошні, ледзь не праз ваду ўжо, пробліск сонца быў пранізліва-трагічны і журботны.

Амаль такое ж страшнае сонца мічман бачыў год восем назад, калі ўраганны вецер кінуў іх у самае «вока тайфуна», напаўжывых, закатаваных утрапёным шаленствам стыхii. Шмат гадзін з верхавіны ў бяздонне між тытанічных валоў. І ведаеш, што гэта вар'яцтва на многія дзесяткі міль вакол цябе, і раптам — роўнядзь вады, а вакол, па коле, бягуць шматтонныя вадзяныя волаты. І скачок у гэтую цішыню, і раптам поўная ціша, і вакол, як сцены, круцяцца непраглядныя смярчы, а над галавой, у маленькім, як пятачок, прасвеце, гнеўнае сонца. Студня, з якой ужо няма выхаду. «Вока тайфуна», сэрца яго. Быццам з дна чорнай прорвы глядзіш, быццам няма табе іншай дарогі, акрамя дарогі да неба.

Мічман здзівіўся, прыдумаўшы такія прыгожыя і хвалюючыя словы, але тут жа зразумеў, што нават калі б здолеў выказаць іх, то нікому не змог бы сказаць, і Жэні Арсенцевай таксама. Здолеў бы, як Каня, можа, усё было б іначай. І несправядлівасць гэтага зноў балюча ўдарыла яго па сэрцы.

«Вока тайфуна». Як яны вырваліся тады з яго — вядома было толькі богу, здзёртым іхнім пазногцям, пабітым на яблык целам, зламаным рэбрам дваіх матросаў і яго, згубленым шлюпкам і якару, памятым бартам карабля.

«Восемь год назад. Яны тады, адурэлыя і асляпленыя, напаўмёртвыя, напаўзвар'яцелыя, вырваўшыся са страшнага, як смерць, утрапення, не паверылі ласкаваму сонцу, спакою, цішыні. І ён не ведаў, што наперадзе была Жэня. І гэты дзень.

Восем... Тады гэты мандалiннік на ягоную, Дубаў-

ца, пагібель толькі рос недзе. Хадзіў у нейкі там шосты клас. Вучыў у геаграфіях пра тайфуны і ані д'ябла не ведаў аб тым, што тады адны толькі рыбалоўныя японскія судны гінулі дзесяткамі, што ў Брыстольскім заліве тайфун, як цацкі, перакуліў нашы сейнеры і ўратаваўся толькі адзін чалавек... Дый яна пра ўсё гэта ведала не лепей за яго.

Тое, што зараз, гэта не тайфун, але на душы горш чым, бадай, падчас тайфуна. Змыла б тады за борт — і ўся табе ютрань. І добра было б. Так і пражыў бы, не ведаючы ўсяго гэтага».

...Хмары ўжо заснавалі ўсё неба і цяжарам сваім як быццам прыціскалі караблі да вады. А вада імчала, уздымалася, абурвалася на іх, гарматна біла ў барты, кідала, раўлівымі плынямі імчала па палубах, абкатвала мосцік, з размаху біла людзей, спрабавала цяжка і ўладна цягнуць іх з сабой, не давала выбіраць апошнія тралы.

Палуба хілілася, нібы хацела дапамагчы вадзе, скінуць ёй людзей проста ў рэдкія белыя зубы.

— Працаўнікі мора,— бурчаў мічман.— Якога яшчэ... Пакутнікі мора, вось гэта будзе вярней.

Старлей Сцівен, трымаючыся за тралбалку сінімі лапішчамі (ён не прызнаваў пальчатак) і ненатуральна шырока расставіўшы ногі, чарціў і чарціў і вецер, і мора, і выбарку трала, і тых, хто выбіраў:

— Што вы чартаўню нейкую робіце. Антонаў, чорт, не бачыш, змывае!!!

Хвалі, перакачваючыся цераз борт, сапраўды змывалі незамацаваныя дэталі, буйкі, канцы.

— Гады! Падлюгі!— грымеў Сцівен.— Засмецілі з гэтай ус... вайной мора, а ты тут ары. Дав-вай, хлопчыкі! Давай наваліся.

Ніхто не звяртаў увагі на чартыханні старлея. Гэта быў неабходны акампанемент да работы, і большасць здзівілася б, каб ён раптам спыніўся.

«Брыда тое, што я падумаў у тое імгненне»,— сам сабе сказаў Дубавец.

Ён бачыў, як Каня (цёмная сасулька чуба падала з-пад мокрай шапкі на яго барвяны ад напругі лоб), увесь заглыбіўшыся ў тое, што рабіў, адным ударам кувалды выбіваў кліны разакоў так, што яны ляцелі на шкафут. Бездапаможна павіснуўшы на тралчастцы («карова на плоце» — дасціпнічаў Сцівен), разак, пе-

равярнуўшыся, сасклізваў па ёй. Яго хапалі рукі другога мінёра і кідалі са звонам у скрынку. За разакамі, здзёртыя на хаду, ляцелі буйкі. І ўсё гэта было як жудасная, адчайдушна-вясёлая, да надрыву пякельна цяжкая пад гэтымі валамі гульня. Слізгаючы па палубе, учапіўшыся ў вялікія буі і ланцугі, матросы цягнулі іх ад кармы, як чарада мурашак.

— Сідарэнка, ты што гэта мору кланяешся?!

— Гэта ён думае, што на катку.

— Куды цягнеш? У ёлупа й вочы не туды глядзяць.

— Сука ты, а не матрос.

— Моркву носам не капай, хлопцы!

Раздзёртыя ветрам галасы, потныя і мокрыя твары, надрыўны, гудлівы, як ліра, спеў лябёдкі, гмахі свінцова-цяжкай вады, ляск ланцугоў, што выцягвалі з клюза.

І мора нічога не магло зрабіць з імі.

Каня наводмаш біў кувадлай, крычаў нешта, выскаляючыся.

«Зубы прадае,— думаў Дубавец.— Цацкі яму. Не трэба, вядома, каб нешта з ім здарылася. Але хай бы ён пры ёй рэкнуў або зрабіў нешта такое, каб на дзверы паказала, каб ужо аніяк не выправіць».

Ён разумеў, што несправядлівы, і злаваўся таму яшчэ больш. І ўсё мацней і мацней тлела ў ім нянавісць.

...Тральшчык-напарнік пачаў разыходзіцца.

— Бэнц, хлопчыкі!— крыкнуў Сцівен.— Парадачак. Канец скора! Даматвай з гэтага чорта апошнія кішкі.

— Мо абрыў?— бадай што толькі з пачуцця супярэчання выказаў меркаванне Дубавец.

— А шут з ім,— сказаў старлей.— Да сябе выберам, і хай яго чарты. Выбарка не выбарка, а нібы гладдзю вышываем. Усё ў норме, нібы ў вышэйшай матэматыцы... Ну, як у цябе, Пятровіч, з тым візітам, што шэфы? Фіціль вялікі быў?

— А нічога,— буркнуў мічман.— Сяк-так адсекся ад начальства.

— Ну й добра,— сказаў Сцівен.— Вось яшчэ некалькі хвілін, і за кармой будзе чысценька.

Калі карабель застапарыў ход, мічман раптам адчуў на твары магільны, вільготна-льдзісты павеў.

Узняў вочы, і відовішча, якое адкрылася ім, прымусіла яго сцепануцца. З норду, ад берага, устаўшы між морам і небам, імкнулася на іх белая, плотная — нідзе ані прасвету,— уся нібыта суцэльная сцяна.

— Снег!— крыкнуў Дубавец і кінуўся адцягваць з кармы буі.— Наваліся, малойцы! Наваліся, як на боршч навальваецеся!

Караблі, што ішлі паўночней, танулі і знікалі ў сцяне на вачах, адзін за адным, быццам яна жарліва глытала іх. З ненатуральнай, пачварнай хітрасцю. Знікалі ў нічым... Нібы навекі... Другі... Пяты... Шосты.

Потым белая сцяна прагным рыўцом спаймала «Тайфун» і пачала нібыта сціскаць і абвалакваць яго. Нос, мосцік, труба, мачта — усё знікла ў белым шаленстве бурану. Свет ператварыўся ў першатворны хаос, нібы нічога не было да гэтага і нічога не будзе пасля. За нейкія дзесяць метраў ужо нічога нельга было заўважыць.

І тут з кармы разануў усіх па вушах адчайдушны крык Кані:

— Міна!!!

Грукат ног па палубе выбухнуў у адказ на гэты крык, але першага, нібы ветрам, перанесла да тралбалкі старлея. Дубавец убачыў ягоны малады прыгожы твар, які дзіка, жаласна і грэбліва перакрывіўся, калі Сцівен націснуў нагою на аварыйны педаль. Лябёдка, заскрыгатаўшы, стала.

Злосць, амаль адчай, гнеў былі на ягоным твары. А старлей усё ціснуў.

«Нібы нешта брыдкае нагой давіць,— недарэчна падумаў мічман.— А Каня аболтус. Стаіць, язык высалапіўшы, як, скажы, марскога змея ўбачыў».

...Амаль ля самай кармы скакаў на хвалях вялізны, чорнага колеру шар. Быццам ваду тараніў, быццам заігрываў, быццам заляцаўся да карабля: ірванецца бліжэй — і адстане, кінецца да яго — і адскочыць.

Шар густа аброс крышталічнымі калоніямі мідзій і яшчэ нейкай дрэнню. І, чакаючы ўдару, пагрозліва і здзекліва стырчалі на корпусе міны свінцовыя, вострыя на выгляд каўпакі.

— Як чорт з блізкага пекла рогі паказвае,— шапянуў Сцівен і, нават з некаторым непаразуменнем, быццам у гэтым была віна матросаў, спытаў:— Што

ж вы гэта, хлопцы, такое чартаўё мне прыцягнулі?
Зразумелая збянтэжанасць цягнулася, аднак, нядоўга. Сцівен збялеў, і ў цяжкай цішыні ягоны голас, які раптам сеў, выдушыў:
— Травіць? Давай ходу! За кармою — міна!
Не было ў гэтую хвіліну на палубе чалавека, які не падумаў бы, што нельга чакаць, пакуль дадуць ход, што хвалі кідаюць і карабель і ягоную смерць, што вось-вось адзіны ўдар і карабель — не, цяпер ужо караблік — нахіліцца, пачне рваць бортам хвалі і, як распоратая, іржавая бляшанка з-пад кансерваў, пойдзе на дно. І выбух выкіне гэтых людзей, толькі што жывых і вясёлых. Выкіне, як сардзін з бляшанкі, у ледзяную ваду, дзе ўжо ніхто не знойдзе іх у снежнай кашы. Бо нават SOS падаць не паспееш, бо ніхто не спахопіцца раней чым за гадзіну-дзве, а пасля нельга будзе адшукаць у буране. Бо нават той, хто затрымаецца, ухапіўшыся за нешта, проста замерзне.
Старлей скідваў рэглан, блытаўся ў ім і ніяк не мог пазбавіцца ад рукавоў.
— Адпорнік!— І ўсе не пазналі ягонага здзічэлага голасу.
І тут мічман са здзіўленнем пачуў ненавісны голас Кані:
— Дазвольце ў ваду?
Сцівен вагаўся. У ледзяной вадзе скакалі, збіваючыся ва ўсё большыя і большыя, зеленаватыя камякі снегу. Крутая хваля кацілася з белай імглы... Але ж людзі, але ж караблік!
Твар ягоны скрывіўся. Ён сам схапіў адпорны крук і пачаў асцярожна адводзіць ім міну ад борта.
— Дабро,— ён не глядзеў у вочы.— Дабро.
І адразу ж глуха чабарохнула ў ваду.
Мічман не пазнаваў старлея. Звычайна такое маладое і нястрымна легкаважнае аблічча зараз быццам падсохла і скамянела... Але ён не пазнаваў і Кані ў адчайдушным ягоным учынку, у гэтым кідку ў невядомае, магчыма, у смерць. На парозе такога шчасця. Халера яго пабірай.
«Жыцця б ты не ведаў, шчанюк паршывы...
...плакаць будзе...
...рамантыка ўс...
...а яна там як?.. што будзе рабіць?»

Ён, які ніколі не лаяўся ўголас, мацюкаўся зараз сам сабе наўдруз, але ногі ўжо самі неслі яго да кармы.

На хвіліну стала нават радасна. Усё вырашалася без яго, але ён павінен быў бачыць гэта сам, яшчэ й таму... Не, не таму, а таму, што адказваў за мінёра перад позіркам усіх людзей... І яшчэ перад адным, таму, што ён раптам успомніў словы Кані: «...у мяне адразу сутаргі», і словы іншых: «...на колькі яго хопіць», і ўсё, што ён заўсёды чуў пра сябе.

«Чаго ж яго панесла вадзяніку ў с... Забыў? Напэўна. Ну і прападай, галава дурная».

Мічман зараз ненавідзеў мінёра яшчэ й за гэты скачок і за тое, што павінны будуць з-за таго скачка рабіць іншыя. Зусім без ахвоты.

— Дубавец! Выратавальныя кругі!— Сцівен казаў гэта праз зубы, абы не закрычаць.— Дубавец, куды?!

Але Дубавец ужо не чуў. Ледзь прыкмеціўшы на грані імглы чорны «паплавок» галавы мінёра, ён, сам сабою, зусім не жадаючы гэтага, скокнуў з другога борта, скокнуў нехлямяжай, з-за цяжкай вопраткі, «ластаўкай».

Каля міны мільгалі ўжо цяпер два «паплаўкі», выратавальны круг і сталёвы канец, што цягнуўся з карабля.

А пасля ўсё гэта растанула, скрылася ў круткім белым хаосе. Загрукаталі машыны, і вада ад вінтоў адкінула міну і людзей, што кешкаліся ля яе.

«А раптам падрэжа міну,— у Сцівена сціснула глотку.— Дзе іх тады шукаць?» Ён ледзь выціснуў тэлефаністу, што трымаў сувязь з мосцікам:

— Застапарыць ход... Травіць адцяжку... Даць слабіну!— яму пакутна хацелася застрачыць мацерна, даць сабе волю.— Маць тваю... дабром успомню, даруйце, хлопчыкі... Чорт Дубавец, доўбня чортавая... Стоп травіць!

Бурун за кармой карабля, які рухаўся цяпер па інерцыі, знік. У мёртвай цішыні асабліва гучнымі здаваліся ўдары валоў і злавесны, звонкі спеў стальной адцяжкі, што адбягала за карму, адзінай ніці, што звязвала цяпер людзей за бартом з жыццём, а карабель — са смерцю.

— Сігнал падаюць,— шэптам сказаў кубічны старшыня Красоўскі, быццам занадта громкі голас

мог перарваць нітку жыцця.— Адцяжка торгаецца.

— Выбіраць,— таксама шэптам сказаў старлей.— Выбіраць, хлопчыкі. Выбіраць, чорцікі. Яны там замерзнуць могуць.

— Спыніцца сэрца — і ўсё,— пацвердзіў старшына.

Хапаючыся адной рукою за лееры, накідваючы другою адцяжку на плечы, спатыкаючыся, аслізваючыся, падаючы на палубу, якую ўвесь час абкатвала хваля, матросы беглі на шкафут... Нібы проста выбіралі буй.

Праходзілі гадзіны, суткі, гады...

Калі мінёр пагрузіўся ў ваду, яму здалося, што ва ўсю поласць ягонага жывата нехта плюхнуў расплаўленым свінцом. Апякло рукі, шыю, твар. Галаву сціскалі нейкія гіганцкія ціскі.

Пасля ён убачыў міну, што ляцела на яго на грабяні хвалі. Велізарны рагаты шар валіўся зверху, навальваўся, як пачварнае чорнае сонца. Анатоль нырнуў пад хвалю і, ліхаманкава працуючы нагамі і рукамі, ірвануўся ўбок.

Хваля прамчалася над ім з гарматным рыкам. Скакалі ў вадзе зеленаватыя хлапякі снегу. Злева ён убачыў карму, што навісала над ім, справа — міну, а побач з ёй — галаву мічмана. Учапіўшыся ў рым, мічман цягнуў стальны шар убок. Ён прырос да міны, як мідзія, і хвалі кідалі яго разам з ёй. Мічман быў без кіцеля, у адной сарочцы.

З таго часу як Каня скокнуў у ваду, прайшло хіба дзве хвіліны.

...Анатоля адносіла. Ён зрабіў некалькі шалёных рыўцоў і вынырнуў ля мічмана, але ў гэты момант запрацавалі машыны. Вада ад вінтоў перакуліла Каню і адкінула яго ад чорнага шара. Яна пенілася вакол, круціла, несла... На імгненне ён убачыў, як мічман стараўся завесці канец на міну... І тут мінёра зноў з грукатам накрыла хваля. Ён ледзь паспеў учапіцца за адцяжку, што бліскавічна бегла перад вачамі. У глотку рванулася ледзяная, да нудоты рэзка-салоная вада, і ён пачаў ірваць на сябе адцяжку, каб хутчэй глынуць паветра.

Жыватворнае, яно ўварвалася ў лёгкія, і, быццам

разам з ім, уварваўся ў напаўаглушаныя ад рыку вушы крык. Крычаў Дубавец:

— З рук вырвеш, чорт, канёк марскі! Мацаваць памагай! Ма-ца-ваць!

Ён крычаў гэта так настойліва і злосна, што Каня зразумеў, стаў мацаваць канец за рым. Мічман трымаў трос і міну, і іх, разам, нібы ў смяротных абдымках, кідала з грабяня ў правал.

Даўно ўжо нічога не было відаць. У свеце засталося толькі іх трох. Касая лятучая снежная імгла закрыла ўсё. Валы білі іх, неслі, напаўняючы громам вушы, адрывалі, грукаліся зверху шматтонным цяжарам на іхнія распластаныя целы.

Кожны такі ўдар мог адарваць іх ад міны, укрыць снегавой заслонай, і тады знайсці іх не магла б ужо ніводная сіла ў свеце. Што там парушынка тытуню, якая ўпала ў пыл? Чалавек у бурхлівым моры — вось хто загублены раз і назаўсёды.

І таму яны трымаліся за гэтую круглую смерць.

Можна было, вядома, кінуць яе і па адцяжцы дабрацца да карабля, да цяпла і святла, да людзей. Але міну магло падсячы. Яна магла, калі яе кінуць, пайсці ў імглу. Яна, смерць, магла месяцамі і гадамі маўкліва калыхацца, імчаць на шляхах караблёў, магла воляй выпадку выйсці на фарватар. Усё гэта за долі імгнення праляцела ў галаве мічмана.

...Белыя-белыя пасажырскія караблі. Смяюцца дзеці, старыя пакурваюць у шэзлонгах, лындае і дурэе на палубе моладзь. Ласкавае мора, сіняе-сіняе неба, чайкі пікіруюць за кінутымі кавалкамі хлеба... І раптам — удар!!! І раптам — да неба смяротны слуп вады. І ўсё разламана напалам... І праз некаторы час толькі заклякоча паверхня мора, калі схаваецца пад ёю нос карабля... Каўтаючы ўсё, усё... І не будзе каму ўжо ні заляцацца, ні смяяцца, ні пакурваць.

— Мацуй,— захлынаўся мічман.— Мацуй канец!

Адною рукою ён дапамагаў яму. Пальцы не згіналіся. І ўсё ж ім удалося завесці за міну трос.

«Каб трос падсекла і зараз,— Дубаўцова думка замірала,— заставалася б адно...

...Сіняе-сіняе мора... смяюцца дзеці... хвалі нясуць ім насустрач... плывучую... удар... кіпіць на гэтым месцы мора... над ёю... няма каму смяяцца...

...заставалася б адно... ударыць па адным з ражкоў... І тады плыве сабе і плыве белы параход... Жыццё куплена жыццём... а над імі ўстане слуп вады... І ўсё вырашыцца само сабою».

Мічман усім застылым целам адчуваў гэтае апошняе заспакаенне. А пасля ён глянуў на твар Кані і дзіка спалохаўся. Твар быў скажоны нейкім невядомым болем і пакутай.

— Толя... што?— захрыпеў мічман.— Што?

— Уаб-буа-уаб,— адказаў той, захлынаючыся.

Дубавец ледзь паспеў схапіць яго за абледзянелыя слізкія валасы — на ягонай галаве таксама была ледзяная шапка,— выцягнуць на паверхню і прывязаць рамянём за трос. І ўсё адно мінёр так знясіліўся, што то выплываў, то зноў хаваўся пад вадою.

І раптоўна мічман спалохаўся, смяротна спалохаўся, што ён не ўратуе гэтага чалавека. Толькі тут ён успомніў пра выратавальны круг, надзеты ў яго на нагу (паспеў-такі прыхапіць, то ж бо нешта так перашкаджала). Ён зняў яго, накінуў на матроса зверху, а пасля падняў Каню за каўнер і прасунуў круг яму пад рукі.

Мінёр бязвольна матляўся побач з Дубаўцом. Яго даводзілася трымаць адной рукой, каб не падламіліся плечы, каб цела не саслізнула ўнутр круга. На дно.

І раптам бязмерная, «ідыёцкая», як падумаў ён сам, пяшчота авалодала мічманам. Ён разумеў, што калі гэты... зараз... замерзне або пойдзе ўглыб, ён ніколі не даруе сабе. І тады лепей яму, мічману, таксама пайсці туды ж, услед за гэтым паршывым мінёрам, які раскалашмаціў яму... удрузг, чорт пабірай... якога менавіта таму трэба было...

Ён прыцягнуў да сябе абмяклае цела, адчуў слабую цеплыню і заторгаў трос (гэта й былі тыя рыўкі, што адчуў на караблі старшына), а пасля, абхапіўшы мінёра левай рукой, пачаў прасоўвацца па гэтым тросе, з усёй сілы працуючы нагамі.

Гэтая раптоўная пяшчота да суперніка была, як ён думаў, зусім не для яго, а для той... Усё адно як быццам гэта ён ратаваў яе... А ўвогуле ён і сапраўды дзеля яе... гэтага смаркача... і гатовы быў з лёгкім сэрцам заплаціць за гэта адзіным, што ў яго было.

Ён спрабаваў прывесці яго да прытомнасці, і гэта

яму ўдалося. Лепей бы не ўдавалася. Бо твар мінёра зноў не па-чалавечы перакасіўся.

— Толечка. Мілы. Толечка!.. Што?! Што, галубок?!

— Су... сутар... Зноў.— У мінёра падламіліся плечы.

Прыўзняўшы яго, мічман нагамі стаў здымаць, сцягваць з яго боты. Ён біўся над гэтым неймаверна доўга, але боты, у рэшце рэшт, усё ж такі пайшлі на дно. І тады мічман нырнуў, ледзь не знепрытомнеўшы ад ледзянога абруча, які сціскаў чэрап, адшукаў скручаную, цвёрдую, як дрэва, нагу Кані і моцна, мабыць, да крыві, укусіў яе. Нага тарганулася.

...Хутка яны ўжо цягнуліся да карабля. Мінёр, хаця й слаба, таксама боўтаў нагамі. А пасля трос нацягнуўся, ледзь не вырваўшыся з рук, і пацягнуў іх убок. Сцяпан зразумеў: іх цягнуць. Да карабля. Разам з замацаванай мінай.

Трос слізгацеў у задубелых руках, яны спаўзалі да яго канца і хутка зноў апынуліся побач з мінай. Дубавец упёрся ў яе нагамі, замкнуў рукі вакол пояса суперніка і так, страціўшы апошнія сілы, чапляючыся хутчэй таму, што ніякая моц не магла расціснуць іхнія зведзеныя, скручаныя пальцы, яны павіснулі на тросе, павольна набліжаючыся да далёкага, вельмі далёкага карабля.

Мічман адчуваў пад пахаю холад троса, замком рук — шырокія грудзі мінёра, нагамі — яго бязвольныя ногі. Валы раз-пораз накрывалі іх, але ён ведаў, што вочы ягоныя гараць не ад марской солі. Занадта цёпла было вачам.

Нікнучы галавою, ён адчуваў, што робіцца цяплей і ўнутры.

Перад вачамі зыбка ўставалі, увесь час чаргуючыся, майскія сопкі, рабізна пяску на перакатах маленькай беларускай рачулкі, печкуры, што пакусваюць за пальцы босых ног у цёплай вадзе, пяшчотныя жаночыя локці ў далонях... І зноў, нібы пасля ўдару, цяжар нерухомага цела ў замку рук, цела, якога нават коштам жыцця нельга было выпусціць у цёмнае прадонне горка-салонай купелі, якая неразрыўна звязала іх.

А цеплыня лілася і лілася па шчаках. І ўставалі перад вачамі мядовыя таполі, ружовы лотас на азёрах

вострава Пуцяціна, жанчына, што стаіць па плечы ў зялёнай крыштальнай вадзе... і цела яе хісткае, бо па вадзе змяіцца рабізна... І трэба сціскаць рукі, каб не адступіць, хаця ўсё незваротна скончана, скончана, скончана.

...Апошнія кроплі цеплыні стынулі на веях.

...Згасала прытомнасць. І апошняе, што ўбачыў чалавек, быў ледзяны хаос, успененыя грабяні валоў, пена, што рвецца з іх у неба, і снег, снег, снег... снег...

...У снежным буране нічога не было відаць за кармой.

— Колькі ўсё ж гэтыя чэрці паспелі стравіць?— сам сабе, дужа ціха сказаў Андрэй Сцівен.

— Апошняя,— таксама дужа ціха адказаў кубічны, нязмерны па ўсіх габарытах Красоўскі.

У белым свісцячым вэлюме праз нейкую хвіліну цьмяна паказаўся, заскакаў на хвалях чорны шар. Людзей не было відаць.

Толькі дужа напружыўшы вочы, Сцівен, здалося яму, заўважыў на чорным дзве галавы, якія быццам прыкіпелі да міны. Бліжэй падцягваць яе было падобна смерці. Старлей цяжка ўздыхнуў, убачыў камандзіра, што стаяў ля кармавога клюза і таксама сачыў за ходам выбаркі-адцяжкі, і сказаў:

— Дазвольце ў ваду?

— Дый я, бадай, з ім таксама,— хрыпата ад хвалявання сказаў боцман.— Трохі-трохі скупнёмся.

...Калі Дубаўца і Каню абвязалі прыплаўленым з карабля пяньковым канцом, Сцівен толькі з нечалавечым намаганнем адарваў ад троса іхнія зведзеныя, заледзянелыя пальцы. Лёд пакрываў іхнія галовы, лёд, які зліпся з мокрага снегу. Потым боцман стаў адцягваць міну далей, а Сцівен паплыў з двума нерухомымі да карабля. Падтрымліваючы над вадою іхнія галовы, хаця сам ужо нінавошта не спадзяваўся. Потым яны павіснулі на канцы за кармой. Потым дзесяткі рук падхапілі іх і выцягнулі на палубу.

І ўсе былі неймаверна здзіўлены, калі мічман на нейкае імгненне апрытомнеў і, спяшаючыся сказаць, пакуль зноў не накаціла бяспамяцтва,— магчыма, апошняе,— прахрыпеў:

— Каню... Каню ратуйце... Ка-ню.

...Каня наглытаўся вады, і фельчару ў лазарэце

давялося тры гадзіны вазіцца з ім, а мічман, калі яму ўлілі шклянку спірытусу, ачнуўся, але адразу ж зноў заснуў.

Ён не чуў, як за карму спусціліся на плоціку Красоўскі з мінёрам, не чуў, як іх усцягнулі на палубу, як карабель даў ход. Ён не чуў нават таго, як праз некалькі хвілін за кармой разрэзаў штармавую ноч тытанічна-магутны выбух. Выбух, які раздзёр нават гэты непраглядны снег. Ускінулася над базальтавымі валамі і да самага неба выцягнутае, калматае, падобнае на даурскую папаху воблака.

Ён не чуў гэтага. Ён спаў, і перад вачамі ягонымі плылі праявы, светлыя і незваротна страчаныя. Ён спаў і плакаў, плакаў, плакаў у сне.

Ачнуўся ён толькі наступным вечарам і некаторы час не мог прыпомніць, што адбылося. Дробна вібрываў корпус карабля — і ён зразумеў, што карабель. Слаба тхнула спірытусам — і ён зразумеў, што лазарэт.

Ва ўсёй істоце быў шчасны, вызвалены, адлучаны спакой. Як тады, калі яны ўрэшце вырваліся са страшнага вока тайфуна. Цішыня. Не трэба ні за чым ганяцца. І нічога не вернеш. І сам ты стаў іншы пасля вока тайфуна. Дый ці трэба нешта вяртаць?

«Дурнічка ты. Дурачка,— падумаў ён.— Ну, вось і на́ табе. Атрымай. Ці будзе ён трымаць так моцна, як... А, усё адно... Я ўсё ж адпомсціў табе. Н-на».

Ён расплюшчыў вочы і ўбачыў на суседняй койцы Каню. Той шырока, ласкава ўсміхаўся, паглядаючы на яго. І раптам адвёў вочы на ілюмінатар, які лізала зялёная хваля, і сцепануўся.

— Ты аб чым?— спытаў мічман.

— Во каб гэта зноў. Ды зноў такое купанне. Бр-р.

— Не каркай,— сказаў Дубавец, каб схаваць збянтэжанасць.— А то ведаеш, як было? Плыве чалавек у шлюпцы — крушэнне было. Два дні без вады, пяць без ежы. І ўзмаліўся богу: «Пашлі ты мне хаця які карабель, любы, на які твая, божая воля». І праўда — карабель. Той махаць. У апошні момант яго з лайнера заўважылі, паднялі. Той матросам: «Як назва лайнера, каб было мне за каго бога маліць?..» А яму адказваюць: «Тытанік».— Памаўчаў.— А наконт купання што? Загадаюць — і купацца палезеш.

— Не загадаюць.

— У тым і справа, што не загадаюць. Тады б яшчэ брыкацца можна было. Сказаць, што запаленне «всегдалишнего» нерва... Сам палезеш.

Зноў трэба было саромецца словаў і хавацца. Але ён, іншы цяпер, не мог забыць начной цеплыні на шчаках, з ім ніколі не было такога, і таму ён з залішняй разухабістасцю сказаў:

— Ты за мяне ні зараз, ні... ну, ніколі не перажывай, хлопец. Добра? Нічога такога не здарылася.

Каня не зразумеў, аб чым гэта ён. Аб начной купелі? Аб міне?

— І тое праўда,— з засаромленай усмешкай сказаў мінёр.— Калісьці і я... Калісьці і ты мне. Дый чаго там асабліва перажываць. Апошняя, ці што? Іх тут яшчэ навалам.

Мічман зразумеў, што Каня кажа не пра тое, але хіба гэта мела значэнне.

— Ты малпу ў маёй каюце ведаеш?— спытаў ён.— Ты забяры яе, падары каму захочаш... Ну, ясна, не кажы, што ў мяне вісела. Не паложана так, могуць пакрыўдзіцца... Вазьмі і падары. Абавязкова.

І, прыміраючыся з непазбежнасцю, заплюшчыў вочы.

## БАРВЯНЫ ШЧЫТ

*Янку Брылю*

Вясёлка, відаць, выпіла не адну азярыну, а яны ўсё яшчэ сядзелі на адхоне, пазіраючы на мокрыя зарэчныя паплавы, з якіх яна вырастала. Маўклівыя, нерухомыя, яны нібы не існавалі адзін для аднаго, хлопец гадоў дваццаці двух і дзяўчына, можа, на два леты маладзейшая за хлопца. Стаяла між імі нешта прыкрае, аб чым цяжка забыць і немагчыма не забыць — іначай хаця і не жыві.

Вясёлка з кожнай хвілінай налівалася колерамі такой першапачатковай яснасці і чысціні — як сама радасць, такой празрыстасці, што праз іх відаць былі — ніжэй лугі, вышэй — лілавата-блакітнае неба.

— Ну і смокча,— сказаў хлопец.

— Як ты з жыцця,— сказала яна.— Усё для колераў, усё для чорт ведае чаго.

— Для колераў, але ж не для сябе.

— Ну канечне... у цябе на ўсё ёсць адказ.

Хлопец не адказаў. Гэта былі першыя словы, якімі яны абмяняліся за тры гадзіны. І не варта было раскрываць рот, каб сказаць т а к і я словы.

Перад імі была Ака, праўдзівей, адзін з яе рукавоў, далей — паплавы, з якіх піла вясёлка, яшчэ далей — ліловае ад хмар галоўнае рэчышча.

Вясёлка разам з адбіткам у вадзе стварала ззяючае, радаснае кола, у якое ім не было і не магло быць дарогі.

Лявей, вельмі далёка, на беразе галоўнага рэчышча, узвышаліся валы з нейкай руінай — і гэта былі валы старой Разані, якая так і не ўваскрэсла пасля нападу татар.

А за іхнімі спінамі ўтульна ляжаў у садах маленькі гарадок Спаск. І гарадок гэты парыў кожным дахам, высыхаючы на сонцы, і зусім не думаў, чаму гэта ён завецца «Спаск». І не хацеў ведаць.

Было ж гэта таму, што сюды ратаваліся жыхары старой Разані, калі падступіў пад яе Батый. Тыя адзінкі, якім пашанцавала ўцячы з агню.

Гэтыя два ў Спаск не ўцякалі. Іх проста паслалі сюды на практыку з Масквы, дзе яны вучыліся. Абое былі журналісты, абое канчалі курс. Абаіх сябры сустракалі добразычліва-дураслівым:

— Бе-ла-русы, бхай, бхай!

Яны сябравалі. Як землякі. Як добрыя сябры.

...Пасля двух тыдняў працы ў Спаску ён паехаў па наваколлю. Па вельмі далёкаму наваколлю. Таму, што ён больш не мог быць з ёю. Таму, што ён, раней маўкліва закаханы ў гэтую дзяўчыну, цяпер не жадаў, не мог быць з ёю. Таму што ўсё ў ёй, раней такое роднае, стала цяпер чужым.

Ён задумаў напісаць серыю нарысаў аб мясцовай лугавой гаспадарцы, параўнаць яе з гаспадаркай свайго роднага Падруцця і зрабіць некаторыя вывады, найбольш не вельмі суцяшальныя.

Але на самай справе гэта былі ўцёкі. Ад сябе.

Ён ездзіў. Пабываў у наваколлі Разані, пераправіўся на чоўне праз Аку — наплаўны мост сарвала нечаканай летняй паводкай,— трэсся ў грузавіках, калаціўся ў брынклівых аўтобусах, плыў у чаўнах, выбіваў аб рог гасцініцы хмары пылу са змятага

пінжака, гаварыў з людзьмі на паромах, са старымі вартаўнікамі сенажацяў, з бабамі, якія гаманілі на спявучай мове Ясеніна.

Ён бачыў не толькі тое, што належала па справе. Ён быў надзіва прагны да жыцця, гэты чалавек з жоўтымі, як мёд, валасамі, сінімі, дабрэчымі або жорсткімі вачыма і не па гадах уладным прыкусам вуснаў.

Пабываў на радзіме Ясеніна, бачыў у заснаваных туманком лугах рыжых коней, якія званілі балабонамі. Бачыў у Салотчы новую гасцініцу і шэдэўр старога манастыра, які якраз рэстаўрыравалі. Гэта былі мясціны, у якіх жылі калісь людзі з самымі роднымі для яго імёнамі, выключаючы, вядома, два.

...Багдановіч... Купала...

Наведаў ён у Салотчы і дом гравёра Пажаласціна, які Паўстоўскі апісаў у «Тэлеграме» і ў «Мяшчорскай старане». Дом быў стары, з мезанінам, у якім пісьменнік уладкаваў «капітанскі мосцік» — свой кабінет, з садам, што раскошна ляжаў за ім. У доме жыў пісьменнік Фраерман, аўтар «Дзікага сабакі Дзінга». Ён прыняў хлопца з ахвотай, тым больш што сам быў магілёўскі, і паказаў яму дом, увесь завешаны гравюрамі. Гравюры былі выкананы ў забытай, нямоднай цяпер тэхніцы: на медзі... Карычневыя, неатынкаваныя бярвенні сцен дома былі пакрыты празрыстым лакам: ад шашаля.

Гаспадыня — гаспадару было цяжка хадзіць — паказала хлопцу сад, густы, цяністы, зарослы да таго, што трыпутнікі ад ценю былі вузкія, як лязо. У садзе былі дрыготкія лаўкі, якія ладзіў з дошчачак яшчэ Гайдар, чалавек, якога язык не павернецца назваць нябожчыкам.

Тут жылі калісь тры вясёлыя маладыя чалавекі. Пісалі таленавітыя кнігі, лавілі рыбу, разыгрывалі адзін аднаго. Паўстоўскі пісаў у лазні, а калі гулялі ў індзейцаў, абклейваў усё цела рознакаляровымі маркамі са старых канвертаў: накшталт татуіроўкі. Ён не хацеў змываць марак, надта ўжо прыгожымі разводамі яны ішлі. Гайдар аднойчы прыклеіў на варотах аб'яву «Скупка чарвякоў ад насельніцтва» (у Салотчы мала чарвякоў), і вясковыя дзеці, пацілаючы нагу нагой, прасілі, каб па чарвякі да іх выйшаў «самы галоўны», Гайдар. Яны лічылі яго «галоўным» па габарытах. Потым міліцыянер запатрабаваў

зняць аб'яву «як дыскрэдытуючую». Атрымаўся скандал.

Хлопец бачыў старое фота, на якім сусветна вядомы цяпер кот, той самы, апеты ў цудоўным апавяданні «Кот-зладзюга», жэр рыбу, а Паўстоўскі стаяў за рогам лазні «ў засадзе».

Гэта былі добрыя людзі, і хлопец ведаў: ён, сярэдні чалавек, блізкі ім па празе жыцця і весялосці, па запалу працы і любіць іх за ўсё гэта чалавечай адданай любоўю.

І ўвесь гэты час у яго сэрцы разам з радасцю нарастала туга, у якой ён не прызнаваўся, туга па ёй. Туга ад таго, што яна не бачыла мачтавых бароў Салотчы, не захаплялася разам з ім дзяўчынкай у аўтобусе, не хадзіла па ўздыхаючых маснічынах старога дома.

Не бачыла — і не хоча бачыць. Не захаплялася — і не будзе, не хоча захапляцца. Рэдка бачыў ён людзей, у якіх было б так мала каранёў, так мала сувязі з былым і нядаўнім мінулым. З курганамі на беразе Дняпра, з Камянецкай вежай, з рыжымі конямі на ясенінскіх паплавах і з трыма вясёлымі маладымі людзьмі, два з якіх жывуць і пішуць, хаця не сталі маладзейшыя, а адзін стаў мінулым, бо аддаў талент людзям, а жыццё — Радзіме.

А ён любіў гэтую повязь з усім і ўсімі. З усімі вякамі і з усімі людзьмі, што былі, ёсць і будуць на зямлі. Гэта рабіла яго вялікім, значна вышэйшым за сярэдняга, сябе. Гэта нараджала ў душы нейкі высокі сумны гонар, гордае і горкае пачуццё няяркай радасці за ўсіх і ціхай тугі па еднасці чалавечай. Тое пачуццё, што ярчэй за ўсё свеціць у «Тройцы» Рублёва.

Трасучыся на спадарожнай машыне назад, у Спаск, ён думаў, як жа гэта адбылося, што за два тыдні ён зведаў Ніку лепей, чым за ўсе папярэднія гады? І ўрэшце зразумеў, што раней яны проста ніколі не гаварылі з ёю аб гэтым. Ён лічыў, што ўсё гэта настолькі звычайнае ў кожным чалавеку, настолькі само сабой зразумелае, што аб ім не трэба гаварыць... Як аб тым, што кожны чалавек хоча кахаць і быць каханым, народжаны для кахання, шукае яго ўсё жыццё, моліцца яму і памірае з успамінам аб ім.

Выявілася, што гэта не так, што ёсць людзі, для

якіх існуе толькі тое, што ёсць, што вось тут, зараз, у гэты момант. І сярод іх — яна, якую — ён ведаў аб гэтым — ён кахаў тым каханнем, якое *заўсёды*, як яго радасць і туга за *ўсіх*.

Не ведаючы аб гэтай сувязі, яна абкрадала сябе, дурніца.

— Рамантыка,— сказала яна тады з вельмі пагардлівай, непрыемнай інтанацыяй.

Гэта было за тры дні перад ягонымі ўцёкамі, у лепшы, у самы страшны дзень яго жыцця.

Увесь той дзень яны ўдваіх ездзілі на райкомаўскім «казле» па прыокскіх паплавах. Травы біліся аб ветравое шкло машыны, ласкава хвасталі людзей па плячах. І ўсё гэта мора чырванела канюшынай, бялела дзятлінай, пахла медуніцай, ліпнула смолкай, вілося звяшкай, мякка гудзела пчоламі, дурманіла, круціла галаву. Дарожкі віліся ў гэтым шаленстве трыумфуючага жыцця такія вузкія, што праз некалькі гадзін дарогі ступакі абаіх, на дне «казла», былі засыпаны слоем ababітых бартамі кветак. Травы былі такія густыя, што, здаецца, ляж на іх і яны ўтрымаюць цябе над зямлёй.

— Івар,— сказала яна.

Імя ў яго было дзіўнае. Ён трохі нават ганарыўся ім і на пытанні, чаму такое, адказваў, што некаторыя прыдняпроўцы любяць варажскія імёны: у памяць аб Рагвалодзе і Рагнедзе.

— Івар,— сказала яна,— мілы. Што ж гэта?

Гэта яна ўпершыню так сказала. Ён ведаў, што не падабаецца ёй. Занадта ўжо быў сціплы ў параўнанні з іншымі, дасціпнымі, спрытнымі. Адно імя ў яго і было незвычайнае.

— Гэта радасць,— сказаў ён і нечакана дадаў:— Гэта ты.

Яна не здзівілася.

— Не,— сказала яна.— Гэта дзень. Бог мой, які дзень!

Дзень сапраўды быў найлепшы дзень жыцця. Івар спахмурнеў толькі аднойчы: убачыўшы пустыя лугавыя азёры, спушчаныя ў Аку. На дне была чорная, у трэшчынах, гразь. Гэта было недарэчна. Яны ўсё адно не зарастуць добрай травой. Вымачыць і ўвесну і ўвосень. А прыгажосці няма.

— Які дзень!— сказала яна.

Маячылі ў густой — утрымае, як ляжаш,— траве коннікі. І дзіўна было, што ног коней не відаць. І коннікі тыя былі калгасныя вартаўнікі, але, магчыма, і запарожцы ў стэпе ці скіфскія разведчыкі.

— Дзень які.

Дзень палымнеў. Сонцам — у вышыні, ярасным кілімам траў — унізе. Вартаўнік праскакаў паўз машыну. За канём беглі два сабакі, ля самых задніх капытоў.

— Што за сабакі?— спытала Ніка ў «скіфа».

— Ішчэйкі,— адказаў ён.

— Самі сабе хлеба ішчуць,— у тон яму сказаў Івар.

«Скіф» зарагатаў, хвастануў каня нагайкай, знік разам з сабакамі ў кветках, у чырвоным марыве.

...Некаторы час Івар вёў машыну моўчкі. Вакол гайдаліся, млелі, дурманілі, суха звінелі і вільготна шасталі паплавы.

— Ты сапраўды лічыш, што гэта — радасць?— спытала яна.— Што гэта — я?

— Даўно,— сказаў ён.

— Мілы,— нібы нечакана зразумеўшы, шапнула яна.

Цёплы, напоены водарам, звонам і гарачынёй ветрык плыў на іх.

Івар глянуў на яе. Яна сядзела з заплюшчанымі вачыма, з ценем нейкай радаснай пакуты ў краёчках вуснаў. Вялікія вочы змежаны, крылы праменькага носа ловяць духмянае паветра, п'юць яго.

— У мяне колы ў вачах ад сонца,— сказала яна.— Спыніся, Івар.

Травы былі такія густыя, што, здаецца, ляж на іх і яны ўтрымаюць цябе над зямлёй.

Гэта была няпраўда. Вакол іх, над імі, на іх каціўся, наступаў грозны, гарачы і вільготны травяны акіян.

Бялелі вялікія рамонкі, пазвоньвалі ліловыя званочкі, спявалі чмялі, упяўшыся ў малінавыя шары канюшыны, і рос, віўся, як хмель, аблытваючы рукі і ногі, бела-ружовы, прагны павой.

Але бачыў гэта, кветкі і зямлю, толькі ён. Яна бачыла гарачае марыва неба, у якім, трапечучы, застыў на хвіліну прагны сокал.

...Замест двух нумароў у гасцініцы яны знялі кутні пакойчык у невялічкім доміку над самай Акой. І ўдзень і ўначы з яго было відаць два небы. Толькі ўдзень гэтыя «небы» сінелі блакітам, а ўначы — густым кобальтам, які нехта папырскаў фасфарычным срэбрам. Не вельмі густа, бо стаялі месячныя ночы.

У пакоі, адасобленым ад пакояў гаспадыні калідорам, рыпелі маснічыны і звонка падалі з меднага рукамыйніка кроплі вады. Раз у чатыры секунды. Тут вісеў партрэт невядомага мужчыны ў крухмальным каўнерыку (даводзілася — з-за строгага позірку — паварочваць яго аблiччам да сцяны) і дзве алеаграфіі: «Востраў мёртвых» Бёкліна і «Сегодня нездоровится». На апошняй сядзеў белы сабачка, па-зайчынаму падвязаны чырвонай хустачкай у чорныя гарохі. Стаялі тут яшчэ пузатая камода і шырачэзны ложак.

— Лухта якая!— сказаў Івар, агледзеўшы гэта, калі яны засталіся адны.

— Нічога,— сказала яна,— затое водарам наносіць. З паплавоў.

І ён згадзіўся. Ён адчуваў сябе бессаромна, бязмежна шчаслівым. І толькі гэтае шчасце перашкодзіла яму заўважыць, што ўвесь наступны вечар яна была адчужанай.

На другую ноч ён прачнуўся ад дзіўных прыдушаных гукаў. Не зразумеў і, абняўшы яе, адчуў плячом нешта мокрае на яе шчацэ.

— Вялікі верабей, што з табою?— спытаў ён.

— Памятаеш сокала т а д ы?— спытала яна.

— Я не памятаю ніякага...— ён асекся.— Ну, вядома... Ну што ты, што?

— Ён пастаяў над галавою і кінуўся ўніз, у кветкі. Вядома, схапіў некага.

І дадала нечакана глухім голасам:

— Н е т а к гэта... было.

Ён маўчаў. І яна, уздыхнуўшы, пачала казаць далей.

— Ты ведаеш, ты першы, Івар. Прабач, калі ласка, але пакуль не позна... Я прачнулася ад думкі: нічога гэтага не было. Былі паплавы, кветкі, коннікі, смолкі, павой.

— Я кахаў цябе ўсе гэтыя гады.

— А на мяне звалілася, як насланнё. І цяпер мне страшна. Няўжо ўсё? Пачалося і скончылася. А побач — ты.

Ён абняў яе асцярожна, як хворую. Бо гэта ён быў вінаваты ва ўсім.

— Таму, што са мной — няма канца,— сказаў ён.

— Як размяняліся,— сказала яна.

Абураны, ён адсунуўся. Яе шчырасць выклікала і міжвольную вялікую павагу, і адначасова глыбокую крыўду. Яна гаварыла тое, на што могуць адважыцца далёка не ўсе жанчыны, але ёй не трэба было казаць гэтага.

— Кветкі. Сонца. Раптоўна такая хваля ўдзячнасці да ўсяго, замілавання да таго, хто дзеліць гэта з табою... І вось гляджу ў ноч.

Ноч была светлая. Касыя праменні месяца білі паўзверх фіранкі.

— Што навяло?— спытаў ён.— Я?

— Ты,— нячутна сказала яна.— Ты потым шумеў у кабінеце старшыні райсавета аб тых спушчаных азёрах. Ён казаў, што зрабілі тое да яго, што выправяць. І ён быў добры, а ты непрымірымы, рэзкі — нібы і не ты... І табе было ўсё адно, побач я ці не. Нібы галоўнае, што ты заўважыў,— азёры, а не тое... Як той... сокал... Чужы.

— Мне і азёры і ты,— сказаў ён.— Разумееш, у тое возера глядзеўся нейкі далёкі ад мяне чалавек... Маглі б глядзецца закаханыя, як мы, праз тысячу год. У ім гняздзіліся качкі і брохала рыба. І маглі б гняздзіцца і брохаць яшчэ тысячу год. А тут абкралі прыгажосць, аднялі частку нечага і ад цябе, ад майго захаплення табой.

Яна вышэй лягла на падушках:

— Нібы падзяліўся мною і з тым, што быў, і з тымі, што будуць. А для мяне адзін той дзень і існаваў.

Івар абняў яе, але яна адсунулася:

— І ведаеш, мне дзіўна і страшна, што ты са мною. Не трэба гэтага было. Толькі той падманшчыкдзень. А потым, пасля кветак, гэты пакой.

— Зменім,— нязграбна сказаў ён.

— Не. Я пайду адсюль... раніцай, як прыйшла ўчора...

І, нібы дакараючы сябе, сказала:

— Вось так жа... нечакана. У адзін дзень.

Ён сказаў спакойна, але гэта было, як адчайдушнае маленне:

— У мяне быў дзень і яшчэ тысяча да яго.

Яна маўчала, і тады ён адчуў, што сэрцу не хапае паветра. Хвіліну ён ляжаў у такім глыбокім адчаі, што цьмянела ў вачах, а потым зразумеў — не розумам, а ўсёй істотаю сваёй,— што гэта канец, што да яго ў рукі сапраўды ўпаў толькі адзін дзень, а за ім не будзе нічога. Што здарылася — ён не разумеў, але адчуваў, што гэта непапраўна. І таму, што ён не разумеў нічога і лічыў, што яна з-за капрызу адбірае ў яго жыццё, абраза і гнеў на гэтую недарэчнасць выціснулі прэч адчай.

— Як хочаш,— сціснуўшы зубы, сказаў ён.— А я лічыў, што гэты дзень — першы. Што ўва мне і ў табе раптам дзіўна сышлося ўсё, што было, што будзе.

Бачыў яе вочы, што суха блішчалі ў цемры. І раптам яна сказала:

— А можа, яно і лепей... Нават напэўна лепей. Так я хаця буду помніць гэта ўсё без расчаравання, з удзячнасцю, са шчасцем. Адзін дзень... Хіба мала?— абаперлася на локаць, уздыхнула.— Ну вось, дурная. Я ж усё гэта ведала. І заплакала толькі таму, што занадта добра ведала, і на хвіліну мне здалося, што гэта — страта, што чалавек нешта ў жыцці можа затрымаць.

— Слухай, ты што гаворыш?

— А што?— непаразумела спытала яна.— Ты ж ведаеш, я так і лічыла, што ўсё на адзін дзень... Мне толькі вось зараз на хвіліну стала сумна. Прабач... Нічога, зараз усё добра. Усё стала на ранейшыя месцы.

— І што,— спытаў ён,— гэта ўстойліва? Звыкла? Прыемна?

Толькі намаганнем волі ён прымушаў не дрыжаць свой голас.

— Але. Усе так жывуць,— сказала яна.— Сённяшнія звычаі, сённяшняя мода, сённяшнія кнігі...

— Гэта якія?

— Ты... «Братоў Стронгаў» чытаў?.. Ну вось... І іншыя з таго ж кола.

— Гэта аднадзёнкі,— сказаў ён.— Зразумей.

Размова пачынала цікавіць яго. Ён сапраўды

ўспомніў, што заўсёды бачыў у яе руках амаль толькі такія кнігі. Крыўда ўсё яшчэ жыла, расла ў ім; жанчына гаварыла спакойным, амаль радасным голасам, быццам вызвалілася ад наслання. Ён помніў, што раней ён не быў так ужо занадта патрэбен ёй.

Відаць, і сапраўды акіян кветак зрабіў сваю справу. Штурхнуў яе да таго, хто быў побач. Адчула на хвіліну цеплыню да яго, убачыла сокала ў небе, а потым вызвалілася сваім звычаем.

Ён быў першы ў яе. І таму яна, адчуваючы, што канец, што вяртаецца да звычайнага шэрага дзён, што прайшоў той, адзіны ў жыцці дзень, якога ўжо не будзе, трохі паплакала. А там і забудзе. І нічога не зробіш.

А ён не мог без яе. І толькі гонар стрымліваў яго, не дазваляў зрабіць нешта абразлівае для сябе. Але ён задыхаўся ад гора.

— Гм, аднадзёнкі,— сказала яна.— І што? Таму і добра. Іншых і чытаць не трэба, бо адказваюць на ўчарашні дзень.

— Заўтра іх забудуць,— сказаў ён.

— Будуць новыя.

Гнеў пачынаў сляпіць.

— Ты нядаўна чытала Дос Пасаса,— сказаў Івар.— Ён — гэта «ўчора».

— Я толькі што дастала,— усміхнулася яна.— Для мяне — «сёння».

— А каб ты Шэкспіра толькі што дастала?

Яна, відаць, адчувала сябе азадачанай.

— Лухта,— сказала яна ўрэшце.— Вы, мужчыны, абрыдліва лагічныя. А мы жывём гэтым днём.

— Вы?

— Ну, я. І дарэмна я так забылася, што дала гэтаму чужому адчаю авалодаць сабой. Уначы ўсё перабольшваеш.

Ён амаль ненавідзеў яе ў гэту хвіліну.

— І ты можаш так жыць?

— Я заўсёды жыла так. Такія, як ты,— захопнікі. А такія, як я... Як у вас завуць тых матылёў, што жывуць адзін дзень?

— Аўсянікамі.

— Непрыгожа... Эфемерыда — лепей. Я — эфемерыда. Мне страшна, калі я ўяўляю ўсе вякі, што былі, і ўсе, што будуць... А ты клічаш мяне туды...

А мне добра з маім таршэрам. Я не хачу, каб побач з ім...

— Што?

— Не хачу пампейскага свяцільніка і атамнай лямпы, якую калі-небудзь вынайдуць. Не хачу.

Ён сеў і закурыў.

— Што ж,— з сумнай усмешкай сказаў ён.— Сапраўды, нельга жыць ні ў якім дні, акрамя як у «сёння». Пра-а-вільна па форме. А па сутнасці гэта чорт ведае што. Здзек.

— Такія жанчыны.

— Мана! Мана! Як жа тады думаць аб дзецях?

— І яны будуць «сёння». І наогул, не хачу. Адразу, паслухайся цябе, папаўзуць бог ведае якія прывіды: «будучыя пакаленні», «святое мінулае», «праца для ўсяго гэтага», «вярніся да роднай зямлі». За гэта не плацяць! Нікому гэтага не трэба!

— Ясна,— сказаў Івар.— Я аднаго такога белетрыста ведаю. Ніжэй сярэдняй рукі. У яго таршэр... А паколькі... хто яго ведае, што ў сённяшнім мастацтве добра, а што дрэнна, які мастак выйдзе ў вялікія, а які не, то ў яго на сценах карціны Клевера... Пастаўшчыка двара яго імператарскай вялікасці... У кнігах ён, мабыць, не за імператара, а што на справе? Мяшчанота!

Спрэчка перайшла ў варожасць. Раніцаю Івара накіравалі ў Салотчу і далей. Ён ездзіў і ездзіў, імкнучыся забыць пра той прыкры выпадак. І не мог.

...І вось яны сядзелі на адхоне, а перад імі былі вільготныя паплавы, на якіх згасала вясёлка. Свяцілася толькі ля самай зямлі, як рознакаляровае вогнішча.

— Заўтра я еду,— сказаў ён другі сказ за ўсе гэтыя гадзіны.

— Куды? У заўтра?

«Лухта. Няўжо яна нарываецца на спрэчку?» Івар скоса зірнуў на яе. Ніка глядзела на яго быццам са здзіўленнем, бо бровы няроўна прыўзнятыя. А можа, гэта іронія?

— У заўтра. Што перадаць?

— У мяне сваё заўтра,— здрыгануліся яе вусны.— Без гасцінцаў роднай Беларусі, без фатоннай ракеты і без мастака з Галынічаў. Майму «заўтра» не будзе справы да гэтай фікцыі.

— Добра,— сказаў ён.— Давай тады на развітанне з'ездзім ва «ўчора».

— Вельмі мне тое прыемна,— сказала яна.

— У будучыню не магу,— падаў ён руку,— а ў былое давай... Уставай.

— Што ж, падзецца ўсё адно няма куды. Давай тады паедзем.

Берагамі, зарослымі купамі дрэў, яны ішлі нядоўга. Пачаўся звівісты спуск уніз, да рукава Акі. З кожнай паваароткай усё новыя і новыя, зялёныя, чароўныя краявіды ўставалі перад імі... А потым за адной паваароткай адкрыўся вачам зялёны домік з дошак. Над ім клубіліся, як мірныя выбухі, пышныя зялёныя дрэвы.

— Гарадская станцыя чаўноў,— з сухой усмешкай сказаў ён.

— Гэта тваё «ўчора»?

Івару здавалася дзіўным, што некаторыя людзі так любяць мучыць другіх, але што зробіш. Трэба трымацца, як індзеец падчас катаванняў: рабіць выгляд, што табе робяць манікюр.

— Калі меркаваць па яе лодачных маторах, дык гэта «дзесяць год назад».

...Хлопец у цяльняшцы звалок да металічнага чоўна пераносны матор, усталяваў яго і, ні пра што не пытаючыся, торгаў за ланцужок бітых дзесяць хвілін, намагаючыся завесці сваю «канструкцыю». У яго было суровае аблічча, бо ён адчуваў свой абавязак. А на беразе па костачку ў пяску стаяла басаногая маладая жанчына ў штапельнай сіненькай сукенцы, зграбненькая, жоўтагаловая, як лотаць, і казала свайму марачку:

— Ты там босы не хадзі. Там тыя падсобныя чэрці накідалі дроту.

— Не пайду,— хмурыў белыя бровы марачок.

Жанчыне было шкада, што вось едзе мужык супраць ночы.

— Ты і не пад'еў,— сказала яна.— Табе з тваім... са здароўем.

— Ды што ты, Маша,— саромеўся марачок.

І адначасова касіўся на пасажыраў, нібы запрашаў іх у сведкі: вось, маўляў, баба. І непрыемна гэта, канечне, але што зробіш, баба яна баба, і лепей не супярэчыць.

— І ў Шатры не хадзі, Толік. Ну яго, кума, да д'ябла.

— Ну яго,— згадзіўся Толік.

— І правільна.— Жанчына, здаецца, прымушала сябе верыць, што яе Толік не пойдзе ў нейкія там Шатры.— А то гэты кум — толькі б яму гарэлка.

Калі белыя шлейфы пены закіпелі за кармою чоўна і постаць жанчыны на беразе стала маленькай, Івар спытаў:

— Жонка?

— Але,— сказаў марачок.— Год як жанатыя. Як з флоту прыйшоў.

— Балтыец?

— Чорнае,— сказаў марачок.— Вось тут і ўладкаваўся... бліжэй да вады..

— Дрыжыць яна за цябе.

— Баба,— прыемна пачырванеў марачок.

— А сам спаскі?

— Спрадвеку.

— Што гэта яна аб тваім здароўі так?

— Я застуджаны. Шлюпку нашу перакуліла, у лютым. Мілю праплыць аднаму лухта, а ўдвух — цяжкавата.

— З кім жа ты ўдвух плыў?

— З шатроўскім кумам. Яму ключыцу перабіла.

Абое зірнулі на марачка з некаторым здзіўленнем. Але ён глядзеў на сонца, што сядала ў люстра Акі, і быў абыякавы.

— Што за Шатры?— спытала Ніка.

— Вёска такая ля Старой Разані. Там шатры стаялі... гэтага... ну...

— Батыя?— спытаў Івар.

— Во-во, Батыгі,— сказаў марачок, ужыўшы менавіта тое імя, якім звалі Батыя жыхары гэтага наваколля восемсот год таму.

Ніка, відаць, таксама ведала гэта, бо яе бровы трывожна ўскінуліся.

Івар пасадзіў Ніку далей ад носа, каб не накідвала пырскамі, скінуў з пляча спартыўную сумку і, дастаўшы з яе сваю куртку для дарогі, накінуў на вузкія плечы дзяўчыны.

— Сядзі,— сказаў ён.

Калі ён хацеў паставіць сумку ў нос — у ёй нешта звякнула. Паглядзеў — бутэлька гарэлкі, хлеб

і бляшанка салакі ў масле. Успомніў, што хацеў пасядзець з аб'ездчыкам у Князеве, але той хату замкнуў, а сам паехаў у Разань. І ён, Івар, паставіў «скарб» у сумку і забыўся.

— Нібы на пікнік едзем,— сказаў ён.

— Які пікнік без гарэлкі,— сказаў марачок і філасофскі дадаў:— Скажу я вам, і не трэба. Самая гэта атрута.

Ветрык абвяваў твары, таму што човен аж ляцеў па імкліваму шклу вады. Сонца ўжо села. Нехта разліў на цэлай палове неба журавінавы сок. І ад гэтага здавалася, што Ака поўная не вадою, а крывёй.

— Было,— уздыхнуў Толік, нібы ў адказ думкам Івара.

І зноў Івар убачыў трывожныя вочы Нікі.

Яны выйшлі на шырокі абшар Акі. З захаду насоўвалася ноч. Высокі бераг, да якога яны плылі, быў цьмяна-крывавы, але згасаў на вачах, нібы зямля ўсмоктвала чырвань. У ярах берага ляжалі ўжо грыфельна-блакітныя цені.

— Івар!— сказала Ніка.

— Што?

— Не, нічога.

Нешта цямнела пад ярам. Проста закінутая царква. Яе не было ў той час, як прыходзіў Батыга. Значна пазней узвялі яе людзі, і не на самым месцы спаленага горада, а за валам, нібы баяліся старога месца, прымхліва думалі, што яно праклятае на векі вечныя. І пабудавалі тут, і нічога добрага з гэтай выдумкі не атрымалася. Пабудова як быццам засохла ў засені крывавых валоў: асінка пад іржавай скалой.

А над руінай уздымалася нібы вялізнае плато, вышэй за ўсе астатнія адхоны і стромы. Яно ляжала такое змрочнае, што веі Нікі здрыгануліся, нібы яна ўбачыла здань.

Дзень ужо згас, калі яны падняліся на крутаяр, не заўважыўшы вышыні вала, бо ён быў тут проста прадаўжэннем берага. Глянулі з вышыні на залацістасінюю раку. Рака спакойна прымала ў свае віры ноч.

...Перад імі ляжала нешта вялізнае, увагнутае, блакітнае і пустое, недзе далёка па акаёму акрэсленае цёмнымі, невысокімі, здавалася, валамі.

Яны спусціліся ўніз і апынуліся раптам у такім глухім маўчанні, што стала ніякава.

Уся гэтая катлавіна з яе бязмежнасцю і цішынёй, з блакітнымі ценямі і бязлюдствам нагадвала месячны кратэр.

Акрамя каменных і таксама нядаўніх слупоў і абваленых арак на адхоне — як сягае вока — нічога: ані каменя, ані руіны, ані дрэва. Нічога.

Цьмянела. На ультрамарынавым небе заварушылася нованароджаная зорка. А людзі ішлі ўсё далей ад Акі, да процілеглага краю мёртвага кратэра.

Падала ранняя раса, халадзіла ногі. Паабапал сцежкі цягнуліся рады чагосьці блакітнага. А Івар ішоў наперад, перад чужым хлопцам і не менш чужой цяпер жанчынай, і нешта сумна і гаротна сціскала ягонае сэрца.

Быў вялікі горад. І вось аднойчы падступіла пад яго забрала арда чужых людзей, якія жылі разбоем, як вялікія рыжыя мурашкі, і якіх ніхто не чакаў. Імчалі намётам, і была іх такая процьма, што нават людзі на вежах з жахам і гідлівасцю пачулі чужы пах. Пахла потам нямытых ад нараджэння цел і бараловым лоем.

— Кху! Кху! Кху! — ляцеў з-пад частаколаў крык крумкача.

Яны знішчылі горад. Да апошняга бервяна. Апошнія абаронцы з малай дружыны Еўпація Калаўрата прыйшлі на папялішча і скамянелі ад гора. Колькі разоў потым даводзілася мужчынам славянскай зямлі стаяць на котлішчы і не ведаць, чый попел нясе унь той смерч?! Можа,попел збожжа, спаленага ў засеках, а можа,і попел сына?!

І Калаўрат гнаўся за Батыгай і сек ягоных нукераў так, што разжарваліся мячы... Разань манголы ўзялі толькі таму, што, перамогшы Кітай, узялі адтуль «парокі», сценабітныя машыны.

«Парокі» яны ўжылі і супраць маленькай раці жывых. І забілі.

І Батыга глядзеў на людзей, расціснутых пудовымі камяніскамі, з жахам і зайздрасцю:

«Былі б у мяне такія — трымаў бы іх супраць свайго сэрца».

Івар адчуваў, што ён быў бы бедны і слабы,— сляпое кацяня, забытае ў траве! — каб не жыў у ягоных жылах, разам з запалам сённяшняга змагання, дзень пагібелі Разані і, яшчэ больш, дзень Крута-

гор'я, у які яго, Івара, браты-беларусы ўратавалі ад татар славянскую і неславянскую поўнач.

І Цяпінскі, і Вячка, і Міхал Крычаўскі — усе яны былі ў ім. А ён быў — усе тыя людзі, што будуць. Усе.

Але што было да гэтага жанчыне, якая з неахвотай, толькі таму, што рабіць не было чаго, пайшла за ім на гэтую «экскурсію».

...Быў агонь... Быў потым жар... Цяпер нічога... Кратэр месяца.

Блакітныя радкі паабапал сцежкі — ён прыгнуўся, каб паглядзець,— аказаліся бульбай.

— Падсобныя гаспадаркі служачых,— сказаў Толік.— Нічыя зямля. Год як узаралі.

У бульбе сям-там нешта бялела, цьмяна і невыразна. Івар зрабіў некалькі крокаў па барознах і схіліўся.

— Што там? — спытала Ніка.

— Цэўка,— дзіўным (такога яна яшчэ не чула ў яго) голасам адказаў Івар.— Чалавечая.

Гэта была, сапраўды, галёначная косць. Івар асцярожна выйшаў да сцежкі... Ішлі доўгі час моўчкі.

— Чорт ведае што,— голас Івара сарваўся.— Што яны сабе думалі... служачыя?

Невымоўная пагарда прагучала ў яго тоне:

— Нельга такога... Не-льга... Першыя ж загінулі з усіх... Не ўваскрэслі... Горад лёг і не ўстаў... Бульба... Зямлі ім, падлам, мала, каб яны яе елі, зямлю тую, каб яны...

— Праўда,— сказаў Толік.— Непрыгожа. На могілках гарод развялі.

— Подла. Гэта ж суцэльныя могілкі. Тут невядома, дзе зямля, а дзе прах. Дык паважайце ж вы такую зямлю, гады. Не варушыце. Хай спяць...

Ён ніяк не мог супакоіцца і, нібы плуг жывых людзей, а не косці, вывальваў з зямлі, абурана кідаў словы.

— А каб яны бачылі, што гэты іхні мёртвы кратэр... не ўсё яшчэ на зямлі — помнік ім, няхай нават звычайны, з бетону... Тут — можна, бо яны ж бетону не бачылі.

— Дзяцей трэба сюды вадзіць,— змрочна і нібы засаромлена сказаў Толік.

Лапік бульбы скончыўся. Вакол стаяла блакітная нечапаная трава. Вышэй каленяў.

— Ты, хлопец, сакратара паведамі,— сказаў Толік.

— Пайду,— сказаў Івар.— Не паеду раніцай. Пайду.

— Абавязкова сходзі... Івар,— раптам вельмі ціха сказала яна.

На траве стала лягчэй дыхаць. Магчыма, таму, што дзірван надзейны хутаў тое, белае, шчодра рассыпанае ў бульбянішчы.

Івар некалькі хвілін ішоў моўчкі. Потым сэнс слоў дзяўчыны дайшоў да яго, і ён здзіўлена пакасіўся. Не, ідзе спакойна. «Таксама мне яшчэ дбайніца». Падышлі ўрэшце да ўнутранага ўхіла валоў.

— А невысокія,— сказала раптам Ніка.

Яны падняліся на вал і раптам застылі. Пад нагамі была бездань. Злізаны часам, сточаны, вал усё ж зрываўся ўніз такой страшнай, асабліва ўпрыцемку, прорвай, што халаднела ў нагах. І ў сінім сутонні направа і налева, да самага далягляду, ішоў усё той жа страшэнны, мёртвы, бязлюдны яр.

Толькі тут ахапіла іхнія сэрцы тое, што знікла. І яны ўсвядомілі душою магутнасць працы тых, што ўсе паляглі тут, і веліч горада, які загінуў бясследна, так і не адрадзіўшыся.

Яны сядзелі моўчкі доўга-доўга, а яр падаў з-пад ног, нібы хацеў агаліць сэрца зямное, ішоў у абодва бакі, нібы хацеў абняць зямлю.

У кратэры сям-там пачыналі ўставаць слупы цёплага туману. Варушыліся.

— Бачыце той, самы высокі,— сказаў Івар.— Недзе там, на княжай палове, стаяў церам. Калі малады князь паехаў паслом у арду і яго там зарэзалі — Еўпраксея, жонка ягоная, узышла на вышкі церама і з дзіцём кінулася адтуль. Ведала, не абароняць.

Слуп стаяў і чэзнуў паступова. Відаць, патокі паветра зганялі туманы.

— Дзіўнае месца,— сказала яна.— Такі нечаканы сум. Уладны. Дзе-небудзь ёсць яшчэ такое?

— У нас ёсць,— сказаў Івар.— Друцк.

— Цікава,— сказаў Толік.— Што, ўсё гэтае — можа быць, каб так і знікла? Каханне такое. Засталося ці не?

— Засталося,— сказаў Івар.— У людзях.

Нейкае няпэўнае святло зараджалася за ярам, за

пустым полем на другім баку. Яно было бязмежнае, тое поле. Бязмежнае і пустое і трывожнае сяйва паступова залівала яго, нібы там, за даляглядам, налівалася зарыва.

Ніка сцепанулася, можа,ад лёгкай жуды, можа,ад холаду.

І тады Івар дастаў свае «князеўскія» прыпасы.

— Вып'ем атруты? — сказаў ён.— Справім трызну, Толя?

— Самая атрута,— сказаў марак.— А і вып'ем. Такое ўбачыць, ды не выпіць.

— Вып'ем,— сказаў Івар.— За гэты народ, што там...

Марачок выпіў з крышкі тэрмаса і скарынкай падчапіў салакі.

— Бедны народ,— сказаў ён.— Збожжа сеялі — мякінку елі. Ездзіў на іх, відаць, хто хацеў. І шкада, што ездзілі. Бо вось ляжаць жа... Ён, народ гэты... у-у!..

Пакруціў галавою, бо слоў больш не было.

Сяйва яснела, ператвараючыся ў барву.

— За старога князя,— сказаў Івар.— Які ён ні быў, а лёг... І за Фёдара, што засяклі ў ардзе.

— І за ўнука, што... з маці,— шэптам сказала дзяўчына.

— Імя ж яго — не вем.

Івар выпіў. Трох чалавек маўчалі.

— Ведаеце што,— сказаў Толік.— Вы хвілін трыццаць можаце пачакаць?

— А што? — спытаў Івар.

— Я ў Шатры, да кума. Гэта дзесяць хвілін. Хачу на заўтра запрасіць.

І з гонарам дадаў:

— Сыну два месяцы.

— Добра,— сказаў Івар.— Канечне, трэба сказаць.

Толік пайшоў зрэзам вала, спусціўся ў катлавіну, знік з вачэй.

— Моцны,— сказала яна.— Расце сабе сярод гэтых руін, карэннямі камень ламае.

Ён змаўчаў. Не ягоная гэта была справа.

Яснела, гразнела зарыва. І скора стала зразумела, адкуль яно. Над бязмежным полем, адтуль, з-за яго абшару, выкаціўся вялізны, як шчыт, барвяны месяц.

Барвяны, як рана, трывожны, як невядомая пагроза, ён усплывае з татарскага боку і асвятляў поле, глядзеў няўмольна на вал, на людзей, на зямлю.

— «Лісіцы брэшуць на барвяныя шчыты»,— сказаў Івар.

— Гэта «ўчора»? — спытала яна.

— Не. Гэта і ўчора, і сёння, і заўтра. Гэта — заўсёды... Як той, чыя костка. І Толік. І яго сын. І заўтра гарэлкі нап'юцца, і кум прыйдзе... Ат, ды што там... І будуць успамінаць, як плылі...

Месяц наліваўся барвай, але здаваўся чамусьці менш пагрозлівым. Можа,таму, што ўсё было і ўсё будзе... Ух, як яны ляжалі калісьці, на полі: у купах, упяўшыся адзін аднаму ў глоткі... Дрэўкі дзід раслі з іхніх грудзей... А ў Толіка жоўтагаловая, як лотаць,жонка, і заўтра ён абавязкова вып'е. Усё добра, толькі ў яго, Івара, дзірка на дне жыцця... А інакшай і жыць не трэба. Гары яно, такое жыццё. Без добрых людзей, якія былі, ёсць і будуць, без іхняй праўды, чысціні, без бойкі за ўсё гэта. Бо так вось здохнеш.

— Ты дзе? — спытала Ніка.

— Там,— сказаў ён.

Над полем уставаў спакойны барвяны шчыт.

— Разумееш,— сказаў Івар,— я сярэдні просты чалавек. Ад мяне не застанецца памяці. Я не веру ў бога. І таму я не магу жыць інакшай, не адчуваючы сябе... часткай усяго, што было, ёсць і будзе. Інакшай я памру, знікну... без слядоў. Як для цябе тыя... у кратэры. А каб не яны, каб не нашы беларускія хлопцы ў Крычаве і пад Крутагор'ем — уся зямля стала б вось такой.

Ён хітнуў галавою ў бок папялішча, налітага чарнілам густой цемры.

— А я? — спытала яна.

— Я кахаю цябе,— сказаў ён.— Але што мне ў адным дні? Ты мне... назаўжды, як гэты свет, і паплавы, і валы, і... Беларусь.

І, памаўчаўшы, дадаў:

— Нават калі мяне не будзе... А ты думаеш інакшай... Таму — ідзі...

Выліўшы ўсё, што было на душы, ён неяк холадна і прасветлена паспакайнеў.

— Я пастараюся забыць,— сказаў ён.

Яна сядзела, схаваўшы пад сукенкай ногі і абхапіўшы іх рукамі. Сядзела, паклаўшы падбароддзе на калені. І ўсю яе, разам з курткай, накінутай на плечы, разам з удумнымі вялікімі вачыма і ссунутымі бровамі, заліваў зарывам барвяны шчыт, які ўставаў над зямлёй, вялізны крывавы шчыт.

— Налі,— ціха сказала яна.

— За што вып'ем? — спытаў ён.

— За княгіню з сынам,— сказала яна.

Яны выпілі тое, што заставалася. Потым Івар устаў, перахапіўшы бутэльку за рыльца, як гранату. Устаў і падышоў да краю яра, і яна ўбачыла на фоне барвянага шчыта яго вялізную постаць.

— Ты што? — спытала яна.

— У бок татар,— з нейкай адчайнай весялосцю адказаў ён.— Трымайце, д'яблы копчаныя!

І, выгнуўшыся, мятнуў... Асветленая зарывам, бутэлька праляцела над ярам, і палёт яе быў доўгі — здавалася, канца не будзе. Яна праляцела яр і працілеглы схіл ля яго і ўпала недзе далёка, вельмі далёка ад іх, у крывавым полі.

— Збірайся,— сказаў ён.— Дай руку.

Яна глядзела на яго знізу дапытлівымі, дзіўнымі, трохі нават страшнымі ў гэтым зарыве вачыма.

— Сядай,— сказала яна.

Голас быў такі, што ён сеў, хаця і ведаў: дарэмна.

— Яны прыйшлі, праўда ж? — спытала яна.

— Ну.

— І мы?.. І я прайду, і ўсё?.. Такое кароткае ўсё?.. Прайшлі — і косткі ў бульбе?

Ён маўчаў.

— Івар...

Ён маўчаў.

— Я яшчэ многага не разумею. І я... не магу без цябе ў гэты кароткі час... Што ёсць я без цябе?.. А ты... Я, разумееш... я слабая, відаць... А ты, я не ведаю, што такое ў табе?.. Але нешта трывалае, магутнае... Я не ведаю, што яно, але яно *пераджыве.*

Голас яе задрыжаў.

— Ты сказаў мне аб ім, а я не зразумела... Я, відаць, вельмі абразіла цябе... Ты павер мне: я зразумею, зразумею цябе. Ты для мяне... як першы крок да тваёй праўды. Мне страшна без яе...

Ён маўчаў. Ён не верыў пасля ўсяго, што было.

— Ты паехаў, і я зразумела... Калі ласка, не адмаўляй мне...

Івар працягнуў руку, яшчэ не разумеючы, што здарылася.

— Я раптам адчула: ні хвіліны не магу без цябе.

Рыданні аддаліся так раптоўна над гэтым ярам, над гэтым пустым кратэрам, над полем, паўзверх якога плыў расплаўлены і грозны барвяны шчыт. Яны аддаліся так раптоўна, што ён спалохана схапіў яе за плечы.

— Што з табою?

— Я была дурная... Я нічога не разумела... Калі можаш... даруй мне, Івар.

Барвяны шчыт плыў над імі.

## ЗАЛАТЫ БОГ

*(З цыкла «Казкі мора»)*

*Уладзіміру Калесніку*

У старой былі дзівосныя вочы. Нават цяпер, запалыя, яны былі вялікія, нібы ў маладой... На палову аблічча. Мудрыя, усё разумеючыя і адначасова па-дзіцячаму разгубленыя і здзіўленыя, яны ззялі маладой, гарачай сінню... Можа, ад мора, на якое яна неадрыўна глядзела...

— Дзень добры, сіняе мора,— сказала яна.— Вось я і ўбачыла цябе.— І, схіліўшыся ў зямным паклоне, дакранулася рукою да мокрай галькі.

Шыпучая цёплая вада дакацілася да чорнай, пабітай зморшчынамі і вечнымі мазалямі рукі і лізнула яе. І старая ўсміхнулася, такая цёплая і празрыстая была вада.

Сагнулася яна таксама надзіва лёгка. Як нявеста, калі яе вымушаюць збіраць рассыпаныя сваццяй на падлозе голкі: «Ці гнуткая ў стане?»

Яна стаяла, гледзячы на мора. Стаяла без стомы, прамая, уся ў чорным, з шалем, які звісаў з яе галавы, як вялізныя чорныя крылы. Стаяла пасля снядання, пасля абеду. Часам нават пасля вячэры.

Вусны яе няўлоўна ўсміхаліся, а мора шыпела і білася ля ног.

Быў канец верасня. Стаяла ласкавая цеплыня без спёкі. На курорце было мала народу. Будынкі стаялі ў засені парадзелых акацый напаўпустыя, сумнаватыя.

Начамі старая дрэнна спала. Патрэсквалі за акном сухія карычневыя струкі гледычый, уздыхала — недзе вельмі блізка — мора.

А ўдзень яна зноў ішла ад свайго двухпавярховага будынка да мора. Астатнія домікі курорта былі аднапавярховыя, хаваліся ў зарасцях і нагадвалі ёй вёску. Вось толькі кактусы, што дацвіталі між іх, ды мясістыя калючыя агавы ўраз разбівалі ўражанне.

«Альясы якія велічэзныя выраслі,— думала старая.— Вядома ж, не ў гаршку». А потым яна выходзіла на бераг, бачыла ў левым баку доўгі гарбаты мыс, то зеленаваты, то ліловы, то жоўты, бачыла направа вялікую цёмную гару, усю з дзікага каменю, а пасярэдзіне — сіняе мора, нібы крышталь чысцейшай вады, устаўлены ў іржавы, грубы пярсцёнак скал.

На дне ён, відаць, быў вельмі дакладна і нерухома падагнаны да аправы, гэты крышталь. Да самай маленькай трэшчынкі. А паверхняю ён гуляў, як той камень, што старая калісь бачыла ў пярсцёнку на руцэ настаўніцы: то ён табе як бэз, то як сліва, а то як ружовае сонейка.

— Тэкля Данілаўна,— падыходзіла да старой сястра-гаспадыня,— вы зараз на гадзінку якую прыселі б у шэзлонг... Гарачыня пачынаецца.

— Дзякуй, Ларысачка... Дзякуй, табе, донечка мая.

Ларыса з самай хвіліны прыезду ўпадабала старую. Увесь час сачыла за ёй: каб не перагрэлася, каб ела, як трэба ў яе ўзросце, каб не стамлялася. Спрабавала адгаварыць ад экскурсіі, але старая была трывалая і неяк па-харошаму цікаўная дабразычлівай і прыхільнай цікаўнасцю да свету, якой вызначаюцца тыя, хто мала пабачыў у жыцці, але шмат перажыў.

— Не клапаціся, галубка,— казала яна Ларысе.— Нічога.

І сядала на першую лаўку аўтобуса. «Каб шырэй бачыць».

— Не стамляйцеся, бабуля.

— Як малая ты ў мяне,— аблічча старой аж свяцілася.

Яны смяяліся. А суседзі потым пыталі:

— Колькі ж вам год, мацi?

— Семдзесят пяць,— адказвала яна.

— Ого!

— А што там «ого»! Жыць — жыла.

I, памаўчаўшы, дадала:

— Не нажылася... I не нажывуся...

На курорце было ўжо раскошна і пуставата. Зачыніліся на зіму амаль усе кіёскі. Толькі «віно», «кактэйлі» ды «чабурэкі» яшчэ гандлявалі. Выконвалі план.

Але мора дыхала па-ранейшаму цеплынёю, радасцю, шчасцем, летам. Толькі ў сініх ценях, што ляжалі на схілах вялікай гары, ды ў прыглушаных адценнях неба жыў, асенні ўжо, ласкавы сум.

Яна гадзінамі стаяла на беразе. І глядзела. І не магла наглядзецца.

У адзін з такіх дзён побач з ёю села маладая жанчына. Купальнік шчыльна абцягваў яе кволыя і пяшчотныя плечы, танюткую — пальцамі ахопіш — талію, моцныя і гнуткія клубы. На купальніку, якраз на высокіх маладых грудзях, дыхаў, плыў кудысь караблік пад блакітнымі ветразямі.

Жанчына закінула за спіну рукі, абаперлася імі, закінула назад галаву і апусціла залацістыя ногі ў ласкавую ваду. І вада, празрыстая, блакітназялёная, набягала на гэтыя ногі, рабіла іх бліскучымі, залатымі, усмоктвалася ў гальку і зноў наступала.

Аблічча было бясстраснае, з велікаватым ротам, роўным носам, вельмі доўгімі веямі. Нічога на ім не было, акрамя млявай насалоды ад цеплыні і салёных павеваў ветрыка.

Старая акінула яе позіркам і зноў стала глядзець удалячынь. Жанчына ёй не спадабалася. Было ў гэтай дзіўнай стаці нешта нядобрае, халаднаватае, занадта ўпэўненае ў сабе. «Царыца,— падумала старая,— Толькі царам тваім цяжкавата». Гэтая зусім дзіўная, цалкам падсвядомая і інстынктыўная непрыхільнасць была такой раптоўнай, што старая нават трохі разгубілася. Нібы яны сустракаліся недзе ў другім жыцці

і там гэта жанчына нанесла ёй нейкі вялікі боль, самы горшы, за які нельга даравацъ.

Яна зноў агледзела жанчыну і прызналася сабе, што побач з ёй сядзіць дзіва. Трэба было быць справядлівай: за такою мужчыны ідуць, куды яна хоча. І не тое, каб яна была прыгожая, а так... Кожны з іх адчувае, самым запаветным, што вось яно, тое, што даводзіць да забыцця самога сябе. Прыйдзі, працягні рукі — і нічога ўжо больш не трэба.

Старая заплюшчыла вочы, села пад тэнт і сядзела так, нерухома.

— Вам, бабулечка, не трэба было сюды ехаць,— пачула яна занадта мілагучны голас.— Спёка.

— Чаму гэта?

Яна ўбачыла шэрыя, халаднаватыя вочы суседкі, якія зараз былі... не, даволі добра ўдавалі прыхільную зацікаўленасць.

— Позна гэта вам,— адказала жанчына,— поўдзень.

Старая пакрыўдзілася:

— Лёгка ты гэта гаворыш, «позна». Я, любая, два гады толькі як рабіць скончыла, хай табе вядома будзе.

І дадала:

— Я ўсё жыццё марыла пра мора. Так што...

— Што, дзяцей няма? — шэрыя вочы глядзелі прыхільна і халаднавата.— Дапамагчы не было каму, што работалі?

— У мяне, любая, сын. Лепшы на свеце.

Іскрынку смеху ў вачах суседкі не заўважыў бы ніхто, акрамя яе.

— І грошай у мяне цяпер, магчыма, больш, чым у цябе.

Абрэзала:

— Ты, мабыць, гэтага не разумееш. Але зямля... зямлю кідаць нельга.

На гэтым размова скончылася. Старая пасля таго не завяла сабе знаёмых. Суседка не віталася з ёю, страціла цікавасць. Адна Ларыса ўвесь час займалася старой.

«Сакоча сабе і сакоча,— з пяшчотай думала старая.— Такая цацарачка, лялечка ты мая, дай табе бог шчасця, ды мужа добрага, ды дзетак».

...Народу было мала. Нейкія ваенныя, што з дня ў

дзень вудзілі — і не вывуджвалі — рыбу, некалькі пісьменнікаў, дзяўчаты, якім да старой не было справы.

Пасябраваў з ёю толькі паджылы таўстун, Петра Мадэставіч, сівы, з дабрадушнай, да вушэй, дзіцячай усмешкай. У яго былі спадзістыя плечы, тлустыя грудзі, што зараслі сівым воласам, і вялізны круглы жывот. Плаваў ён, як плавок, гадзінамі, а калі ставаў па грудзі ў вадзе і скрыжоўваў караценькія лапкі, то вельмі нагадваў «дзядулю-вадзяніка» з карціны Білібіна.

Спецыяльнасць у Петры Мадэставіча была рэдкая — скульптар. І не проста скульптар, а такі скульптар, які аднаўляе партрэты даўно памерлых людзей па іхняму чэрапу. Здавалася б, пры такім частым сутыкненні са стагоддзямі быць яму змрочным і разважаць аб тленнасці жывога, а ён быў рухавы, вясёлы, крыклівы, як канюка, і цікаўны да ўсяго.

— Цёцю! — гарлаў ён, вылазячы з вады.— Гэта ж скора вашы імяніны святкаваць будзем!

— Ты адкуль ведаеш? — усміхалася яна.

— А як жа,— рабіў Петра посную морду.— Дваццаць чацвёртага верасня... Святой першамучаніцы Тэклі.

Нельга было не засмяяцца, так не пасаваў посны выраз да яго круглай фізіяноміі.

— Ну,— казала яна.

— То, можа, разам адсвяткуем, цётачка?

— Як гэта?

— У мяне ж дваццаць трэцяга... Па-а-кут-ні-кі-і Андрэй, Іван і Петра... Ня-адзе-ля шаснаццатая па-а сё-му-се...

— Можна,— казала яна.— Ды ты забудзеш.

— Не можа гэтага быць,— казаў ён.— Выпіўку ды забыць.

— Будзеш ты на тым свеце смалу з дзёгцем піць.

— Прызвычаімся,— казаў ён.

— Пі, пляменнічак, колькі няшкодна,— пасля паўзы казала яна.— Гэта ўсё лухта. Няма таго пекла.

— Так і няма? — здзіўляўся скульптар.

— Няма.

— І тое праўда.

Яны пaглядалі на нешматлікіх суседзяў на пляжы.

Ляжалі на гальцы дзяўчаты, карычнева-чырвоныя, гарачыя ад сонца.

Хадзілі між іх заўсёднікі — маладыя людзі з ухмылачкай,— шнырылі вачыма,шукаючы, каго б пажэрці.

— Бобікі,— казаў таўстун.— Драпежнічкі з вышэйшай хатняй асветай.

— Кінь,— казала яна,— сам быў не лепшы.

Жанчына глядзела на мора, на сінія ўзгоркі, рэдка парослыя сумахам, і прыжмурвалася:

— А-ёй, гарачыні колькі. Во каб гэта нам... Што б расло!

Яна ўспамінала свае балоты, векавыя ліпы ў прысадах, палёт бяроз на гасцінцах і туман між медных ствалоў пушчы.

...Дні праз чатыры пасля таго як жанчына з'явілася ля мора, прыехала новая група, чалавек восем, усе ажыўленыя, але бледнатварыя — відавочна, з поўначы. Штосьці рабіла іх падобнымі адзін да аднаго, гэтых мужчын. Магчыма, іронія, магчыма — утрапёны агеньчык, які гарэў у іхніх вачах, калі яны, спрачаючыся, ішлі з аўтобуса да канцылярыі.

Вызначаліся сярод іх асабліва двое: стары з абліччам румянага фанатыка і малады чалавек год пад трыццаць.

Калі малады чалавек раздзеўся, кінуўшы вопратку на ляжак, і павольна пайшоў берагам, «драпежнічкі» глянулі на яго і засумавалі. А дзяўчаты, калі ён праходзіў, глядзелі наўздагон ва ўсе вочы, забыўшыся на сарамяжлівасць і стрыманасць, забыўшыся нават на спрадвечную жаночую ўнікліваець, якая бліжэй за ўсё да какецтва.

Ён быў дзівосны. Кісці рук і галава, відаць, трохі ўжо загарэлыя ў дарозе, залацістыя, а ўсё астатняе белае, як пена.

Шыракаватае аблічча, прыемныя цвёрдыя мускулы ля рота, сінія вочы ўразлёт, залацістыя валасы... А цела!.. Толькі на грэчаскіх статуях бывае часам такое. Ані грана лішняга не было ў ім, але не было і таго, што часам брыдзіць цела прафесіянальнага гімнаста, тых суцэльных вузлоў мускулаў, што, як звязкі змей, непрыгожа ходзяць пад скурай.

Яно было гладкае, цвёрдае, з шаўковай скурай.

І дзіўнымі здаваліся пры шырыні плячэй дзявочая талія і вузкія моцныя клубы.

Не звярнуў на яго ўвагу толькі мастак, які сядзеў з альбомам на лежаку, ліхаманкава замалёўваючы жанчыну ў чорным. Жанчына стаяла ля самай вады, гледзячы ўдалячынь. Мастак толькі што прыехаў, выйшаў на пляж і ахнуў: перад ім стаяў жывы прататып смуткуючай маці для ягонай карціны.

А ён шукаў яго доўга. Вось ужо, сапраўды, не ведаеш, дзе знойдзеш, а дзе страціш.

Малады чалавек падышоў да старой і, схіліўшыся, пацалаваў яе ў скронь.

— Дзень добры, матуля... Не засумавала тут без мяне?

Схаваўшыся ўся ў яго абдымках, яна знізу глядзела на яго і, нібы не ведаючы, што ёй рабіць, разгублена шаптала:

— Валерык... Сынок мой...

— Не сумна было?

— Што ты... Мора якое!.. І Лорачка... І Петра Мадэставіч... Валерык... Сыночак...

— Прабач, трошкі затрымаліся... Цяпер ужо — разам.

Мастак, гледзячы на іх, крэкнуў і падумаў, што ён — бяздар і што яму трэ было б пісаць зусім другую карціну... Проста — маці і сын. Проста — шчасце.

...Петра Мадэставіч з'явіўся на пляж, калі маці пайшла ўжо адпачыць перад абедам, і, убачыўшы Валерыя, таксама ахнуў: «Ляпіць». Але падышоў, пазнаёміўся, пагаварыў і... сумеўся.

«Галаву хіба толькі... Вучоныя з такім целам не бываюць... Не паверыць ніхто».

...За абедам у вялізнай прахалоднай сталовай ён сядзеў у сваім кутку і здалёк назіраў, як васьмёрка тых, што прыехалі, заняла два ссунутыя сталы, як старая сядзела побач з сынам, якога ён агойтаўся ляпіць, як усе пачціва дагаджалі ёй,— і толькі тут, параўнаўшы вочы, і бровы, і выраз аблічча, і тое агульнае ў рухах старой і маладога, здагадаўся, што перад ім маці і сын, і сам сабе свіснуў:

— Вось табе маеш... І паверыць нельга, што Тэкля свет Данілаўна нарадзіла такога.

А калегі Валерыя глядзелі толькі на яе, глядзелі ўлюбёнымі вачыма, бо, відаць, любілі яе сына.

Старая амаль не гаварыла з імі: напэўна, саромелася вясковай гаворкі. Але гонар усё больш поўніў яе сэрца, калі яна бачыла павагу ўсіх да сына. А сын часам усміхаўся ёй і звяртаўся да яе, таксама па-вясковаму, і тады сэрца старой аж аблівалася цеплынёю. Кожны раз.

Падышла сястра-гаспадыня.

— Вось,— ускінулася старая.— Вось гэта Ларысачка... А гэта, Ларысачка, мой сын.

Сястра паглядзела на яго і трохі пачырванела.

Валерый глядзеў на яе з добрай усмешкай. Нельга было не ўсміхнуцца з дабрынёй, зірнуўшы на такую. Ладненькая, маленькія ручкі, добрыя сінія вочы, пяшчотны румянец на твары. Наіўны маленькі рот, а ля яго хатнія, таксама наіўныя, ямачкі.

— Дзякуй вам за маці,— сказаў Валерый.

— Што вы,— пачырванела яна,— я вельмі яе...

І сумелася.

— Дзякуй,— яшчэ раз сказаў Валерый.

— А дзе Ярынька? — спытала старая.

— Гэта хто? — спытаў Валерый.

— Яраполк гэта,— сказала старая,— брацік яе. Яны, Валерачка, без усіх засталіся. Адны. Ларысачка яго гадуе. Такі добры хлопчык.

— Ды дзе яму быць,— сказала Ларыса.— Зноў, пэўна, сабак ганяе.

— Ты яму — гасцінчыка.— Старая падала сястры пакунак.— Гасцінчыка нашага... слонімскага. Там цукеркі такія, «бульба беларуская», і антонаўка. Бо ў гэтых тутэйшых яблыках ан-ніякай смакаты няма... Як вата... І скажы яму, хай купаецца лепей. Восень скора, хай набіраецца сонцам.

Ларыса ўсё чырванела, паглядаючы то на яе, то на Валерыя, які стаяў і глядзеў на яе, пільна, з усмешкай.

Калі яна пайшла, а Валерый сеў, старая, хаваючы вочы, сказала:

— Добрая якая... Ну проста дзіва... Што ёй у старой бабе?.. А яна...

І раптам — ні да чаго — сказала:

— І што дзецям у гэтых сабаках?

Сабакі гадаваліся ля сталоўкі. Было іх штук пяць, усе тлустыя, добрыя, кашлатыя, хоць ты іх на полюс холаду вязі, і ўсе дрэннай пароды. Яны ведалі людзей

і за Петрай Мадэставічам, напрыклад, кідаліся табуном.

— Прыхлябацелі,— бурчаў скульптар.— Дармаеды. Нахлебнікі. Выселіць вас.

Сабакі матлялі хвастамі.

— Працаваць трэба,— бурчаў ён.— Бог падасць.

І выкладаў на жвір косткі, недаедкі і што іншае.

...Сястра-гаспадыня, стоячы ля століка скульптара, усё яшчэ паглядала на новенькіх. Яе здзіўляла, што ўсе з асаблівай павагай глядзяць на гожага маладога чалавека, нават старыя, і ўсе слухаюць, калі ён гаворыць.

— Чаму гэта так? — спытала яна ў таўстуна.— Хто ён? Хто яны?

— Яны?

— Але.

— Магу сказаць,— буркнуў стары.— Ленінская прэмія за сепарыраванне плазмы... За працы над плазмай — Нобелеўская прэмія гэтага года.

— Галоўны, відаць, той, сівы.

— Сава Апанасавіч?.. Не, ён — пачынальнік. Так бы мовіць, шэф. Ён якраз на другім месцы ў гэтай кампаніі. Галоўны геній там унь той... бог.

Замармытаў:

— Недагеніі... Перагеніі... Эксгеніі... Супергеніі.

І раптам спытаў:

— Ведаеце ён хто? Валерый Палецкі.

Сястра паціснула плячыма.

— Неадукаванасць і недасведчанасць ёсць грозныя бічы чалавецтва,— сказаў стары.— Такая галава з'яўляецца раз у стагоддзе. Глядзіце, гаспадынька, можа, больш не давядзецца.

Ён быў трохі пакрыўджаны тым, што маці за ўвесь час абеду нават не глянула ў ягоны бок.

Але як толькі скульптар — раней за ўсіх — скончыў абедаць, Валерый заўважыў гэта і, устаўшы, пайшоў да яго.

— Прабачце,— сказаў ён,— я ўгледзеў, што вы ўсталі раней за ўсіх.

— Пілі б свой кампот,— сказаў таўстун.

— Крыўдуеце,— усміхнуўся «ўсімі беласнежнымі» Валерый.— Вы ж ведаеце. Маці. Яна столькі гаварыла пра вас... Калі ласка, калі хочаце, перахадзіце за наш стол. Вельмі гэта добра будзе.

— З прыемнасцю,— буркнуў стары.

...Ужо два дні яны елі разам, гулялі, купаліся разам. Скульптара ўзялі ў сваё кола так проста і лёгка, нібы век былі знаёмы.

Разам ездзілі ў горы. Падымаліся паўз кінутыя пустыя аўчарні і здзічэлыя міндальныя дрэвы на перавал. Глядзелі адтуль на бязмежнае мора, на бухты ўнізе, на дураломны Чортаў Палец, які стаяў над стромай і не падаў.

Старая сядзела, склаўшы на каленях сухія рукі, мружылася пад сонцам, усміхалася ўсім радасна і казала:

— Камяніскі якія! А мора! Ляцець хочацца. І зямля харошая.

І ўздыхала:

— Колькі зямлі прападае. Гэта б сюды нашу ваду.

А на пляжы, заўважаючы, як усе людзі глядзяць на яе сына, яна сама цяпер любіла ўсіх. Усе былі харошыя. Толькі той, што сядзела тады з нагамі ў вадзе, не было ўсе гэтыя дні. Можа, скончыўся срок, і яна з'ехала. А можа, паехала ў горад.

У сына былі, здаецца, закаханыя ўсе дзяўчаты. Нават Ларыса, якая дагэтуль глядзела на ўсіх хлопцаў проста і роўна, нібы на істот адной з ёю пароды, апускала доўгія веі, сустракаючыся з ім. Ім нельга было не любавацца, калі ён ішоў у мора.

Спачатку белы, ён праз два дні, калі спавіў цела залацісты крымскі загар, стаў увесь залаты, як выліты з золата.

— Гэта ўсё мора,— шчасна ўсміхалася старая.— Я дык назнарок нанач рукі не мыю. Пакладу далонь ля рота — салона. Пахне. Шкада — купацца мне ўжо нельга.

На трэці дзень, калі сядзелі за абедам і сын, толькі што нажартаваўшыся з Ларысай, глядзеў з усмешкай, як яна ідзе між столікамі, старая спіной адчула нешта няёмкае: нібы цень упаў на яе.

— Валерый,— пачула яна жаночы голас.— Ты якім чынам тут?

Сын узняў вочы, і старая спалохалася, яшчэ не ведаючы, у чым справа: з залатога ён стаў залацісты, нібы ўся кроў адхлынула ад аблічча.

— Дзень добры, Агата,— сказаў ён.— Рад бачыць.

Маці азірнулася. За яе спіною стаяла тая, з пляжа. У белай шаўкавістай сукенцы, таксама ўся залацістая. На дасканалых руках — белыя карункавыя пальчаткі. Рот усміхаецца. Шэрыя вочы глядзяць на Валерыя насцярожана і неяк нязвыкла.

— Даўно тут?

— Трэці дзень.

— А я ў Ялце была... Што ж, прыемна бачыць.

Толькі на хвіліну знік з яе вачэй гэты дзіўны спакой. Калі яна ўбачыла твар маці і пазнала яе, пракінулася нешта ў вачах і знікла.

— А мы знаёмыя,— прыхільна сказала яна.— Я і то думала, чаго гэта мяне цягне загаварыць?

— Але,— сказала маці.

— Буду рада паразмаўляць,— сказала Агата і пайшла.

Старая бачыла, як усе за столікам глядзяць ёй у спіну, і разумела, што глядзець варта, і разумела, што здарылася нейкая бяда.

— Хто такая? — шэптам спытала старая ў Валерыя.

— Гэта *я н а*, мама.

— Хто?

— *Я н а*,— паўтарыў ён.

Маці зрушылася была, але ногі сталі цяжкія, зазвінела ў вушах. Яна засталася сядзець. Яна ўспомніла ўсё. Яна ніколі не бачыла яе, але ведала, што яна — такая вось.

І яна цяпер ненавідзела яе ўсёй страшнай сілай мацярынскай нянавісці. Бо яна бачыла, што з ім было два гады таму. Тая не бачыла. Бачыла яна. Бачыла, як ён не еў, і не спаў, і худзеў на вачах, і гадзінамі ляжаў, пазіраючы некуды ў пустату. І як ён стагнаў у сне — тая таксама не чула. Чула яна.

«Добра. Не падабаецца — скажы адразу. Не мучай месяцамі, гадамі, не мучай чалавека. Не-е, занадта, відаць, радасная гульня. Бо ўсе азіраюцца, бо ніводнай няма, каб не зайздросціла, бо... якога ж ражна табе трэба, дзеўка, якога?! Разумны, пяшчотны, мужны, гожы... Як яна магла адмовіць яму? Не каму-небудзь, *я м у*. Вось такому... Вялікі, дужы, а сэрцам дзіця. Аддыны, верны, усё прымае, як скажуць. Верыць людзям».

...Калі яны выйшлі са сталовай, маці сказала яму:

— Т-так. Зноў, сыне, мукі табе.

— Лухта,— сказаў ён.

— Едзем адсюль,— сказала яна.

— Нашто? — бясклапотна спытаў ён.— Усе нашы — тут. Яшчэ застаецца месяц. І потым... усё ж прайшло, маці. Мінула ўсё.

На пляжы цяпер вакол маці заўсёды было поўна. Неяк проста так. Сядзелі, смяяліся і жартавалі дзяўчаты, ацiраліся каля іх хлопцы. Калегі сына гулялі з імі ў валейбол. Рогат стаяў на ўвесь пляж.

А Тэкля глядзела, як ён б'е па мячы, як кідаецца ў хвалі, як жартуе з дзяўчатамі. І трывога яе ўсё ўзрастала. Ніхто не бачыў, што ён сам не свой. Ніхто. Толькі яна.

Трывога нарастала два дні, глухая, цяжкая, як кашмар. Познім вечарам трэцяга дня старая не вытрымала і, апынуўшыся адна ў пакоі, павагалася хвіліну, а потым укленчыла на закрытым з усіх бакоў балконе. Укленчыла паміж плеценымі крэсламі і канапай.

...Яна і зараз глядзела на мора. Бо нават тут не магла адарваць ад яго вачэй. Такое яно было... вялікае.

Мора шумела, гнала месячныя хвалі. Зрэдку дрыжалі каля тэрасы гледычыі.

Старая не малілася, можа, дваццаць год. Яна сапраўды не верыла ў пекла, з таго дня, калі Янук і Антось стаялі пад сценкай, а каля іхніх ног лашчыўся і вішчаў Цюлік. Антось — яму было пятнаццаць — мякка піхнуў нагою пушыстага даўганогага шчанюка.

— Бяжы, Цюлічак, бяжы адсюль.

Шчанюк у дзікім захапленні пагнаўся за ўласным хвастом. Вішчаў, аж стагнаў, ад радасці. І круціўся... Ля самых іхніх ног...

А ў яе — паласою — пякло аблічча. Мітусіліся перад вачыма цені... І Янук усміхаўся ля сценкі. Хлопцы былі вельмі падобныя да малодшага. Былі б такія, як ён.

Цюлік лавіў свой хвост... ля самых іхніх ног. Яго чамусьці ніхто не гнаў.

— Хай жыве Беларусь! — нейкім дзіўным, зрывістым, чужым голасам крыкнуў Антось.

Яна не чула таго, што адбылося потым. Зусім не

чула. І толькі пазней убачыла сценку і траву, на якой, не адрываючы цела ад зямлі, круціўся і екатаў Цюлік.

...Яна тады выхадзіла яго.

Цюлік здох гэтай зімой. Сівы ад старасці сабака. Толькі тады яна дала згоду пераехаць да малодшага.

Што ўжо тут?!. Зямлі не было, бо не было рук. Не было сабакі. Не было і старэйшых. Дваццаць год кожны вечар яна хадзіла т у д ы, адчыняла рыплівую фортку і сядзела, а бузіна схілялася над ёю, бо ставала ўсё гусцейшая і гусцейшая.

Яна не малілася дваццаць год.

— Божа міласцівы,— нібы прыслухоўваючыся да ўласнага шэпту, сказала яна.— Узяў ты майго Максіма, узяў рукамі чужынскімі хату, сад, двух старэйшых... Збаў хаця гэтага ад пакут, ад змяюшкі той у вобразе чалавечым. Літуй яго, аднаго, адзіны мой свет у вачах... Апошняга.

Недзе далёка ракатала, цягнула гальку мора.

— Ён не вытрымае такога больш. Ты не ведаеш, а ён не вытрымае.

Думка ўразіла яе, і таму яна і думку выказала ў сваёй трывожнай споведзі.

Лягчэй не ставала.

— Кроў яна з яго высмакча, змяя.

Яна ўсё разумела. Яна ведала: не дапаможа.

— Сябе аддасць раз, а з яго за гэта — жыццё возьме.

У адказ гучаў толькі голас мора, якое драбіла бераг. І тады Тэкля ўстала, ведаючы, што ніхто не дапаможа, што спадзявацца можна толькі на сябе.

Маці не ведала, што Валерый якраз у гэтую хвіліну сядзіць на вялікім камені, які выдаецца ў мора, і слухае цішыню і сябе. Хвалі разбіваліся аб падножжа валуна, усплёсквалі, кідалі часам на гарачы лоб кроплю вады... Была ціша, і толькі здалёк, з танцавальнай пляцоўкі, далятаў сумны і страсны голас спевака: круцілі пласцінку.

Песня была не вельмі ўжо і хвацкая, але ў гэтыя дні ўсе нібы навар'яцелі з ёю, круцілі, можа, сто разоў, да адчаю. І хлопец раптам адчуў, што гэтыя немудрагелістыя гукі нейкім чынам адпавядаюць яго настрою.

Ты так печально целуешь меня,
Словно знаешь,

Что эта встреча
Будет последней,
Чувство тоски безнадежной
Сжимает мне сердце.
Может ли завтра
Прийти без тебя?

І Валерый раптам з нечаканай вастрынёй зразумеў: «заўтра» прыйсці «без яе» не можа. А калі прыйдзе, яму ў такім «заўтра» няма патрэбы.

Што яму, сапраўды, рабіць з гэтым «заўтра»? Выбівацца, як раней, працаваць, як вярблюду, як чорнаму валу, як гэта ён рабіў дагэтуль. Ну вось, яму трыццаць. Ён не дазволіў сабе дагэтуль ані хвіліны адпачынку. Ён ні разу не бачыў мора, гор, пустынь, вінаграднікаў. Усё гэта было «рана». Дванаццаць год затворніцтва, да якога ён сам прысудзіў сябе.

Ён быў славалюбівы і сам прызнаваўся сабе ў гэтым, лёгка, нават з гонарам. Быць лепшым, быць першым — іначай не варта было і нараджацца на свет.

Дабівацца гэтага ўсяго не інтрыгамі, не падкопамі, не дагаджэннем камусьці. Пасля такога не паважаеш сябе, а ён хацеў не страціць і кроплі гонару. Дабівацца не аслінай упартасцю, а тым, за што ніколі не асудзіць сябе чалавек: уласным талентам.

Але таленавітых шмат. Колькі ён бачыў тых, што так і не пайшлі далей ухвалы сяброў: «Здольны хлопец». Не, яму ўсяго было мала. Ён ведаў, што ён выключна абдараваны, і працаваў як вол, каб стаць незаменным, лепшым, самым прыкметным.

Ён не шукаў папулярнасці. Ён ведаў: яна прыйдзе сама. Ён працаваў. Усё было «рана». Ён не завёў сям'і, не хацеў ніякіх слабасцяў. У яго не было ніякіх «хобі». Усе, хто сутыкаўся з ім, здзіўляліся яго нечалавечай, немагчымай для многіх працаздольнасці.

Усе гэтыя гады ён спаў гадзін пяць у суткі. Сон і работа. І яшчэ фізічныя практыкаванні. Са слабым здароўем нельга было б зрабіць і сотай часткі той вялізнай працы, якую рабіў ён. Ён часам казаў, што можа замяніць адзін увесь аддзел. І сапраўды таго, што ён паспеў зрабіць, іншым хапіла б на ўсё жыццё.

Дні і ночы, ночы і дні. Гімнастыка, душ, снядана к... Не піць, акрамя свят, не курыць... Работа, гімнастыка, абед... Не дазваляць сабе ніякіх кафэ... Хваёвая ванна ўвечары...

Пры яго вялікіх здольнасцях і такой працаздольнасці ён рабіў усё, здавалася, з падазронай лёгкасцю... Яго не толькі ўсе паважалі. Яго пабойваліся, нібы лёс даў ім, звычайным людзям, магчымасць стаяць побач з чымсьці незразумелым, невытлумачальным, малаімаверным.

І пры гэтым ён ніколі не быў машынай. Жывы розум фантаста, багатае ўяўленне — штосьці ад паэта ў фізіцы, вясёлая, азартная праца. Яго любілі за скупую жартаўлівасць, чысціню, за арганічную няздатнасць не толькі да подласці, але і да звычайнага кампрамісу.

І так дванаццаць год... Не, адзінаццаць... Два гады назад было т о е. Іх вялікасць «Сам-Палецкі» зволілі «ўцюрыцца» (як, не вельмі дасціпна, казаў калега, блазнаваты паскакун Віцька Малімончык, лепшы спецыяліст па матэматычнаму аналізу). Суцэльным прыніжэннем быў той год. Каб не ён — яны скончылі б яшчэ год назад. А маці ж таксама было цяжка чакаць.

Ні хвіліны асабістага. Мозг, здавалася, ператварыўся ў пачвару, якая жарэ ўсё... Жанчыны самі падыходзілі, але, адчуваючы, што яны менш патрэбны яму, чым ён ім, адыходзілі.

Прага шчасця, адпачынку, музыкі? Лухта. Потым.

І вось яны «дасягнулі». Далей, здавалася нат, не было куды ісці. Цяпер можна было пачынаць жыць. Для пачатку яны выехалі сюды.

З непрывычкі да поўнага спакою і гультайства Валерый першыя ночы дрэнна спаў. Гэта было ненатуральна. Бо ён нават падчас замежнай паездкі здзіўляў усіх тым, як ён працаваў у самых непадыходзячых умовах.

Пайшлі кнігі, заплывы ў такую далячынь, што за два дні яго двойчы вярталі з катэрам, кіно, у якім ён не быў сто год. У Феадосіі ён цэлы дзень сядзеў ля малюнкаў Валошына, адчуваючы амаль сладастрасную насалоду ад звычайных квадрацікаў паперы з разнастайнымі фарбамі, якія былі — прыгажосць, свой погляд на свет.

Цяпер ён шкадаваў, успамінаючы самалёты, вуліцы чужых гарадоў, усплёскі «бліцаў», шумлівы натоўп. Піць гэта трэба было. Піць.

І раптам... Яна. Зноў тое самае. Зноў цяжкая, без

прасвятлення, з адным бязмерным болем, неўтаймоўная цяга.

Нічога добрага з гэтага не магло атрымацца. Нічога. Зноў патаемныя сустрэчы, зноў дабрыня і пакорлівасць, калі ён ішоў прэч у ярасці на яе і на лёс. Зноў абыякавасць, калі ён цягнуўся да яе.

...Наступнага дня ён ляжаў на пляжы, заплюшчыўшы вочы, і напалову драмаў. Мозг, пазбыўшыся за першыя ж дні свінцовай стомы, працаваў надзіва ярка, чыста, магчыма, нават хваробліва ясна. У напаўдрымоце ён камбінаваў розныя, часам узаемавыключныя з'явы, вобразы, словы, ствараючы з іх стракатую непрыемную мазаіку.

Цень упаў на яго аблічча. Думаючы, што гэта нехта са сваіх, ён сказаў:

— Адыдзі, не засці мне сонца.

І адразу пачуў яе голас:

— Дзень добры, Валерый.

Усё здрыганулася ў ім, але ён адказаў, не адкрываючы вачэй:

— Дзень добры. Што, хочаш пераступіць? Як калісь? Няма іншай дарогі?

— Грубасць ніколі не ўпрыгожвала мужчыну.

— А двудушнасць — жанчыну.

Яна засмяялася, села.

— Жанчына не можа не быць двудушнай, калі мужчына — табліца лагарыфмаў, хадзячы электронны мозг.

— Ты нашто падышла? Што хочаш запраграмаваць?

— Ці можна парушаць маральны кодэкс,— іранічна сказала яна.

— І адказ?

— «Заляцацца да чужых жонак з несур'ёзнымі намерамі — нельга. Можна толькі — з сур'ёзнымі. За іншае мала біць морду».

— Што ж, па-мойму, правільна.

— А калі «чужыя» зусім не думаюць, сур'ёзныя намеры ці не?

— Тады няхай чужыя ідуць да дзядоў з атрафіраваным сумленнем.

— Я і прыйшла,— сказала яна.— Ты ж некалі не ўспамінаў аб сумленні.

— Бо не хацеў... Не мог.

Яна дражніла яго, але ён праз заплюшчаныя павекі не мог бачыць гэтага і гаварыў больш-менш сур'ёзна. А яна сядзела над ягонай вялізнай постаццю і глядзела, схіліўшы галаву, хітравата, як лісіца ў глыбокі калодзеж.

— Штосьці ты і не падыходзіш да мяне?

— Не хачу.

— Дурны.— Яна сказала гэта раптам сур'ёзна, тым тонам, ад якога ў яго заўсёды падала сэрца.— Я ж бачу. Кінь ты мучыць самога сябе... У жыцці і так усё няпроста. Прыходзь... Ну?

Ён маўчаў, і тады яна ўстала. Пайшла. Праз няшчыльныя веі ён бачыў, як яна ішла па гальцы, падабраная, пластычная — уся як успамін і як пакута.

...Дзень імянін маці скульптар вырашыў святкаваць разам са сваімі і падбіў усіх, каб прынеслі шмат віна і «грукалі ў дзверы толькі нагамі». Сабраліся ўдзесяцёх: сябры, маці, Петра Мадэставіч, Ларыса.

Да апошняй заляцаліся напрапалую. Усе. І маці было дзіўна, што ўсё гэта, здаецца, зусім не закранала Валерыя. Сядзеў спакойны, пазіраў на дзяўчыну вачыма, якія бачылі і не бачылі.

На здзіўленне Петры Мадэставіча, усе госці накінуліся не на магазінныя віны, а на маладую тутэйшую маджарку, чырвоную, белую і бурштынова-ружовую. Маджарка стаяла ў вялікіх шкляных збанах, знесеных з усіх пакояў. Была яна трохі каламутная — нават вінаградныя скуркі часам траляліся,— кісла-саладкавата-даўкая і халодная як лёд.

Старой маджарка не спадабалася.

— Хіба гэта гарэлка? — усміхалася яна.

Але потым прыйшоў сум, прыемны і цёплы. Стала шкада жыцця, якое — што ні кажы — канчалася. І разам з тым было весела, нібы ўвесь шлях яшчэ ляжаў наперадзе.

«Вось у чым справа,— падумала яна.— Вось чаму п'юць тое кіслоцце». І яна глядзела на гожае аблічча сына і на хатнія ямачкі ля наіўнага рота Ларысы, і ёй рабілася трохі крыўдна. Гаспадарлівая, гожая, добрая. Усе ж мужыкі такія дзеці... Пакінь іх, хаця і ў сорак год,— наробяць глупстваў. Справа жанчыны апекаваць над імі, дапамагаць, кіраваць непрыкметна, каб, крый божа, не заўважылі, не ўсумніліся ў

сваім панаванні... «Чым бы дзіця ні цешылася...» І вось з'явілася т а я, нядобрая, страшная ў вечным сваім патрабаванні. Нічога не аддаваць. Толькі браць, браць, браць.

Яна не вінавациіла сына, яна нават дапускала, што іначай у яго не магло быць. Сваім прыродным розумам, сваім вялікім вопытам яна ведала, якую ўладу часам бяруць над сапраўднымі мужчынамі, высакароднымі і добрымі, тыя жанчыны, якія не абмяжоўваюць сябе ў сродках: самаўлюбёныя, пыхлівыя, ганарыстыя, хлуслівыя. Тыя, для якіх галоўнае — сцвердзіць сябе, міжвольна прынізіць сваіх сябровак і ўзысці вышэй за іх, няхай нават па трупах.

І таму яна шкадавала яго. А голас за акном, за садам, спяваў усё тое самае:

До завтра...
А вдруг оно меня обманет?
Я буду ждать — ты не вернешься,
Я буду звать — не отзовешься,
Уйдешь далеко.

Гучала ў ім туга і яшчэ радасць, што вось чалавек можа так тужыць, што яму радасна ад тугі, бо ён — жыве. І маці ўспамінала палі, каменную россып на іх, валы з камянёў на межах,— усё ўласнымі рукамі! — сінія лясы і крывавае зіхаценне каласоў у вачах.

— Не трэба,— раптам шапнула ёй Ларыса, і маці здзівілася, як гэта тая здагадалася аб усім.

Большая частка гасцей спрачалася, пішучы на клапціках паперы шэрагі нейкіх лічбаў і літар. Часам нехта рагатаў, нібы ў лічбе, якая вось зараз толькі з'явілася з-пад аўтаручкі, было нешта смешнае. І толькі сын адчужана глядзеў на іх, думаючы, відаць, пра нешта сваё, ды яны, жанчыны, удзвюх па-змоўніцку шапталіся на рагу стала.

— Не трэба, маці... У вас было добрае жыццё... Наўрад ці хто з нас пахваліцца такім пад старасць.

— Ведаю... Ты адсунься, доня. Сядзіш на рагу стала.

— Мне ўсё адно.

— Што думаеш рабіць?

— Здам апошнюю сесію. Буду працаваць. Яраполка вывучу. Буду жыць.

— Правільна,— з горкай сухасцю ў горле сказа-

ла маці.— Ёлупаў на свеце многа, але нашто яны?

— Мамцечка,—голасна звярнуўся да яе Петра Мадэставіч,—вы—краса і ўцеха. Скажыце нам нешта.

Маці ўбачыла вочы Валерыя і зразумела: зараз ён устане і пойдзе, бо ўсё ў ім нацягнута як струна, бо смутак валодае ім безвыходна, бо ўвесь ён ва ўладзе апошняй крайнасці. Нельга было дазволіць, каб усё гэта здарылася пры дзяўчыне.

— Ціха,— сказаў нехта.

— Я ведаю яго трыццаць адзін год,— сказала яна.

— Яму трыццаць,— недарэчы сказаў прафесар.

— Я яго трыццаць адзін год ведаю,— упарта паўтарыла яна.— А ён мне... не больш вядомы, чым ты, Сава Апанасавіч. І яшчэ: старая я... Так і не зведаю, відаць, хто ў яго будзе... Сын?.. Дачка?.. Не зведаю працягу сабе.

Яна гаварыла гэта такім тонам, што ўсім стала страшнавата. Але затое яна бачыла, як пацямнелі ад болю яго вочы. Напэўна, ён не пойдзе сёння туды, куды кліча яго памяць. А заўтра? Што ж, «заўтра» бог дасць. Можа, гэтая хвароба пройдзе за ноч.

— І яшчэ: загубіў ты сваё юнацтва, сыне.— Яна адразу пашкадавала аб гэтых словах, але змоўчаць позна было.— Самыя залатыя гады. Таму і трызняцца табе шамаханскія царыцы...

Устала:

— Вы тут гуляйце, родненькія, не зважайце на старую бабу. А табе, донечка, час спаць. Заўтра ўставаць ранютка, не тое што гэтым абібокам.

Сын апусціў вочы, і маці засталася задаволена сабой, бо ясна паказала, што яна ганіць і што ўхваляе.

— А ты, Мадэставіч, прайдзіся са мною. Пагуляем трохі. Потым вернешся.

— Абавязкова,— заспяшаўся скульптар.— Канечне.

Праводзіўшы Ларысу, яны павольна пайшлі берагам мора, падняліся па голаму, сіняму пад месяцам, адхону на старыя закінутыя магілкі.

Петра Мадэставіч, пакуль падымаліся, захакаўся і засопся. Але яна ішла ўсё той жа размеранай сялянскай хадой, прамая, як трысціна. Ішла, як хадзіла з вязанкай галля за плячыма або з ношкай снапоў, калі не было каня, а іх трэба было хутчэй убраць з поля.

Яны ішлі паўз могілкі, сухія, блакітныя, засыпаныя каляровай галькай, а ўнізе дыхала, білася аб скалы мора.

— Дзіўны выпадак,— сказаў скульптар абы гаварыць.— Аднаўляў я па чэрапу галовы розных людзей, часцей вялікіх. А аднойчы трапіўся проста бязведамны чэрап: маладога воіна з наддняпроўскага кургана. Магутны, ёмісты, правільны... Я працаваў, а сам думаў аб сваім. Я тады быў яшчэ малады... Закаханы... І раптам зразумеў: нічога ў мяне не атрымаецца з гэтай работы, калі ў бюста будзе суровы выраз. Вось чаго не хапала: усмешкі. І ледзь я зрабіў яе — свет стаў іншы.

— І што?

— Скончылася гэта ўсё сумна, як многае сапраўднае. Толькі я, як стане мне зусім нясцерпна, іду да гэтага юнака ў музей. Гляну на ўсмешку — і адразу падзенуцца кудысь і сухасць і боль. Быццам зноў жыву, кахаю, пакутую. А ён усміхаецца, нібы дзякуе мне за дабрыню, за тое, што паставіўся як да жывога, не даў у крыўду стагоддзям.

І дадаў даволі сумна:

— Я зрабіў шмат. Але часам думаю: адно зрабіў. Усмешку... Ды хіба гэта я?

Ішлі моўчкі.

— Твая праўда,— сказала маці.— Які там рай?! Трэба вось так, як ты, застацца. Глядзі, гола як. Каму ад гэтага ўсяго лёгка? Хіба што *п а д у м а е* тут чалавек. Дый тое, ці аб жывым? А ў нас замест каменняў мята, падтыннік, мокрая трава. Бузіна спіць. І салоўка спявае... У нас на Беларусі, у нашым наваколлі, сын, калі маці памрэ, мосцік робіць з дубовай плахі. Праз ручаіну. І імя часам на бакавіне плахі выража. Хтось пройдзе — прыпыніцца. «Вось,— падумае,— мосцік ляжыць. Памерла, значыць, нейкая жанчына». Нават хоць і дабром не ўспомніць, а ног не намочыць.

— Не трэба вам пра гэта.

— Трэба... Баюся я... Мне зараз што? Мне зараз толькі б унукаў, а там і — мосцік. Не помніка мне трэба, не слоў іхніх, не *т о й* жанчыны. Мне б простую дзеўку, каб спакойнай была. Не чужую, не нядобрую... Мосцік...

— Кінь, Тэкля,— упершыню на «ты» сказаў скульптар.— Іншыя яны людзі.

Вяртаючыся назад, яны ўбачылі яшчэ асветленыя вокны пакоя скульптара. Значыцца, госці не разышліся. А паварочваючы за рог дома, якраз туды, дзе сцежка бегла між сініх кактусаў і блакітных агаў, дзе мяшалася з ценямі месячнае сяйва, пачулі — зусім блізка — два галасы.

...Дарэмна цямнелі ад слоў маці яго вочы. Словы не дапамаглі. Словы, магчыма, нават штурхнулі.

— Чаго ж ты не пайшла са мною тады? — спытаў ён.

І голас Агаты адказаў:

— Я не магла...

Скульптар і маці застылі без змогі пайсці. Яны — адначасова — зразумелі, што выявіць сябе — позна. І таму яны адступалі, міжвольна падслухоўваючы, адступалі павольна-павольна, больш за ўсё баючыся, як бы не наступіць на галінку, на хрусткі панцыр мідзіі, на струк гледычыі.

— Я не магла... Але я кахала цябе.

— Няпраўда. Ёсць такія жанчыны... ці не задужа інтэлігентныя.— Сын гаварыў спакойным тонам, але з нейкім слабым клёкатам у глотцы.— Яны лічаць, што жыццё прапала, калі не было ў ім мужчыны-хлопчыка, бязмерна закаханага, пяшчотнага, здатнага на смерць за яе... Выходзяць замуж яны, канечне, не за такіх. Для гэтага ў іх душах... не, не табліца лагарыфмаў... звычайная лічыльная машына.

— Валерый...

— Ты слухай. Досыць ужо я слухаў цябе... Але над японскім сервізам плакаць не будзеш. Вось яны і шукаюць, як бы танней абярнуцца... Каб потым, у старасці, прыемна паплакаць над шкатулкай з лістамі: «Было, ды жыццё не звяло».

Ціха, літаральна дзюйм за дзюймам, яны адсоўваліся ад блакітных зараснікаў, а сын усё казаў, і гнеў, які гучаў у яго голасе, не мог падмануць маці.

— А ім начхаць на... Яны не яго любяць, а любяць свой сум, сваю гэтую гульню. «Ах, як мяне кахалі!.. Якое яно было!..»

— Яно сапраўды было,— непарушальна-спакойным тонам сказала яна.

— Было? Яны, такія, чулі, што чалавеку патрэбна мець і вялікае няшчаснае каханне. Яны не здатныя на

яго, але набываюць на ўсякі выпадак і такое... Для калекцыі.

І тут яна засмяялася. У маці пахаладзела ў грудзях. Яна магла сабе дазволіць смяяцца. Значыць, была ўпэўнена.

— Пагавары, любы,— сказала яна.— Пагавары. Я ж разумею цябе.

— Нічога ты не разумееш. Не разумееш, што такое «ў калекцыі» не варта і гразі, калі не кахаеш сам, калі сам не аддаў усяго.

У голасе яго гучала нешта гаротнае, безнадзейнае і страшнае. Ён казаў страшныя рэчы, але маці ведала: дарэмна.

— Дарэмна,— сказала Агата.— Ты ж ведаеш: табе лепей за ўсё са мною.

— І што?

— А мне — з табою,— проста сказала яна.— Ёсць ноч і дзень. І словы дня не прыдатныя для ночы. Памятаеш, як я «хавалася» за табою... Вось так... Кажы не кажы, а гэта было. І ты казаў, што валасы мае пахнуць дурманам, і падбіраў гэта слова на ўсіх мовах: «дурнап'ян», «лема»...

— Ах, як кранаюча,— сказаў ён.— Толькі досыць. Я табе не хлопчык. Даволі.

Маці адыходзіла далей і далей, але і галасы, відаць, мацнелі.

«Не,— думала яна.— Не... не досыць табе, сыне... Не».

— Ты ведаеш,— гаварыла Агата,— ты нікуды не пойдзеш. Мой, кажу я, і гэта значыць, мой... А я — твая... Бо мне хочацца плакаць, і калі ты мяне цалуеш... І з табою адзіным хочацца быць пакорлівай.

Маўчанне. Потым яе голас:

— Даруй... Я ж была з табою... І заўсёды буду... Як ты хочаш — так і будзе.

— Я ўжо хацеў. А ты прапанавала мне быць не жонкай, а... каханай. Вельмі мне гэта прыемна было.

— Ты занадта сур'ёзна глядзіш на такія рэчы... Скажы, было так, каб я не хацела быць з табоі?.. Я шукала цябе. Я кахаю цябе... Заўсёды...

І тут мужчына раптам выбухнуў стрыманай, але таму яшчэ больш знішчальнай ярасцю:

— Ты, па-мойму, больш хацела грошай, кватэры ў сталіцы, убораў, вернісажаў. Ты прабач ужо. Я не

мог даць гэтага. Я быў бедны. Але я быў малады. У гэтым было маё багацце.

Ярасць афарбавалася іроніяй:

— Цяпер я не такі, як іншыя, усе глядзяць мне ў рот, нібыта ў мяне адтуль... алені скачуць.

— Бедны мой,— з неймавернай шчырасцю сказала яна.— Я не хацела, не хачу цябе мучыць... Дурнятка маё.

— Каб ты толькі ведала, які я стары,— сказаў ён.— Усё, што я прыдбаў — нуль, бо няма мяне ранейшага. І тут я спатрэбіўся табе... горшы.

Галасы раптам абарваліся. Магчыма, іх заглушыла мора, магчыма, проста так.

«Як ён яе любіць,— думала маці.— Божа, як любіць».

Скульптар маўчаў-маўчаў і раптам злосна кінуў палку ў калючыя зарасці.

— Я не люблю яе... Такому хлопцу трэба танюткую, вялікавокую дзяўчыну. Падзвіжніцу. Добрую. Каб даравала ўсе ночы, што ён у лабараторыі, каб любіла. Каб ганарылася ім; шчаслівая была, калі прыйдзе, стане, галаву ёй на калені пакладзе і ёй адной скажа: «Ларыса, ратуй мяне». І ніхто больш ведаць не будзе... Адна яна.

— Чаму Ларыса?

— Не ведаю,— сказаў скульптар.— Так.

— А я ведаю... Запяклася ў цябе душа.

— Я — стары чалавек... Вельмі... Біты... Ламаны. У мяне першую жонку забілі, а другую... я за славу праспаў.

— А Ларыса?

— Гэта так. Апошняя фарба захаду.

...Сын нібы сарваўся з ланцуга. Усе наступныя дні пасля той злашчаснай ночы ён ні на хвіліну не з'яўляўся дадому. Ён на цэлы дзень уцякаў у сухія бугры «нюхаць палын», заплываў на вадзяным веласіпедзе ледзь не за вобрый далягляду, караскаўся па скалах, падаў з іх у глыбокія воды, плаваў ад ільвінай бухты да самага пляжа. І маці ведала: калі нехта стаіць над самым стромым урвішчам вялікай гары і, нахіліўшыся, парусіць крыламі плашча — гэта абавязкова ён. І калі на скале ў навальнічнай далечыні мора з'яўляецца чалавечая кропка — гэта зноў ён.

Калі не было яго — не было часцей за ўсё і яе.

Ён з'яўляўся на вячэру нейкі дзіўны, нібы здзічэлы, громкагалосы, прапахлы соллю, ёдам і палыном, з занадта бліскучымі вачыма, са скурай, спаленай сонцам, з выгаралымі на сонцы валасамі. І калі маці ён яшчэ аддаваў нейкую долю ўвагі, то сябры для яго амаль не існавалі... Прыгоды, небяспека, вецер з мора — гэта было галоўнае.

Нібы хацеў выплюхнуць усе гэтыя трыццаць год за лічаныя дні.

«Дарваўся»,— думала маці.

У яго былі цяпер зусім чужыя вочы: вузкія, абрэзаныя ад вечнай стомы, пільныя і... пуставатыя.

Аднойчы іх не было ўсю раніцу. Калі яны ўдваіх з рогатам, амаль непрыстойным, увайшлі на веранду перад вокнамі сталовай — маці зразумела: усё.

Толькі што прайшоў першы за ўсё лета дождджык, спырснуў зямлю. І зямля пахнула гваздзікай, ванілем, карыцай, перцам. Нібы шкатулка з усходнімі вострымі прыправамі.

Сукенка жанчыны і кашуля мужчыны былі вільготныя, але яны ні на што не звярталі ўвагі. Вочы Агаты глядзелі на сына з лёгкай усмешкай. А ён глядзеў на яе з дзіўным выразам нейкай пераможнай вінаватасці. А твар быў сухі, пірацкі, жарсткаваты. І ў вачах не было нічога, акрамя бадай што першабытнай прагі жыцця.

«Усё,— падумала маці.— Палонны... раб-уладар».

І, нечакана голасна, сказала:

—Ануча.

— Што? — спытаў скульптар.

— Нічога.

А сама думала:

«Панаваць, пэўна, толькі над харошымі ды добрымі і можна. А тут... Ды што ты, не бачыш, хто побач?.. Ды яна цябе ў кожнай бядзе кіне».

...Пасля абеду ўсе, хто жадаў, паехалі на чаўнах у Львіны грот. Маці не села з Валерыем. Яе ўзяліся апекаваць калегі сына. Іх было якраз на човен, і таму скульптар таксама аддзяліўся ад яе.

Яна амаль узрадавалася, калі Ларыса прывяла на бераг Яраполка.

— Ярынька,— сказала маці.— Хадзі сюды, дзетухна.

Светлавалосы падлетак, сінявокае, танюткае, даўганогае жарабя, глядзеў на маці, як верабей з кулака, са смешнай непрымірымай непрыязнасцю.

— Не,— сказаў ён.

Добры ягоны рот быў сціснуты як мага больш жорстка, а ля яго дрыжалі — зусім як у Ларысы — ямачкі.

— Ярка,— сказала сястра амаль гнеўна.— Ты што гэта?!

— Нічога,— сказаў Яраполк.— Што ты мяне?.. Я да... Петры Мадэставіча.

Ларыса вінавата зірнула на маці і пацiснула плячыма. Калі Ярка адышоў, яна сказала ёй ціха:

— Вы прабачце ўжо. Узрост пераходны. Так цяжка з ім.

Маці нічога не магла сказаць.

Падлетак уладкаваўся ля ног скульптара і глядзеў яму ў вочы з адданай, трохі вінаватай усмешкай дзіцяці, якое не помніць бацькі і сумуе па ім.

А скульптар — нават здалёк было відаць — стаў раптам такі бессаромна шчаслівы, так заўсміхаўся, што маці стала зайздросна... Ён расказваў нешта хлопцу, і той глядзеў на таўстуна ўлюбёна, і весела, і кранаюча.

Маці адвяла позірк і ўбачыла сына. Валерый стаяў у чаўне і глядзеў на гэтую сцэну пацямнелымі вачыма, на дне якіх стала асеў сум.

— Сядай,— сказала яму Агата.— Хіба хто стаіць у чаўне?

Ён стаяў і глядзеў.

— Сядай.

— А як апазналі шкілет Ярaслава? — спытаў хлопчык.

— Сядзь ты, калі ласка,— сказала Агата.

— «Яраслаў бысць хром»,— як даросламу, тлумачыў скульптар.— І яшчэ ў яго на чэрапе быў след ад удару мячом. Астатнія ў ягоным саркафагу былі маладыя... Відаць, зладзеі. Залезлі, а тут трывога. А можа, і проста крышка ўпала. Яна ж больш тоны важыць.

— Не засці ты мне,— сказала Агата.

— Адкасніся,— сказаў сын.

Яны адплылі ад берага. Скульптар усё яшчэ расказваў. А Валерый моўчкі і засяроджана весла-

ваў, не звяртаючы больш аніякай увагі на астатніх.

— Дарваўся да дзіцяці,— сказала Агата.

— А што табе? — сказаў сын.— Ты што, не любіш іх?

— Не ведаю. Не было. Дый палкага такога жадання няма, прызнаюся.

— Дзеці — харошы народ,— сказаў сын.

— Сумуеш? Пройдзе. Гэта ўзрост такі.

— Яны — хорошы народ.

Човен аддаляўся, і маці ўжо нічога не чула.

...Гадзінай пазней маці сядзела ў бухце, у лёгкім цяні скалы, а побач з ёю звісала з гары тонкая ніць вадаспада. Людзі паразыходзіліся. Чаўны спалі каля берага, як вялізныя снулыя рыбы. Непадалёку ад маці сядзела на беразе Агата, ды Валерый як апантаны хадзіў берагам, углядаючыся сабе пад ногі. У яго пачыналася «каменьчыкавая хвароба».

Вышэй, на выступе скалы, завіхаліся скульптар і Ярык. Таўстун падцягваў да ўрвішча вялізны камень: ладзіўся, відаць, скінуць яго са стромы на камні.

— Што там у вас? — крыкнуў Валерый.

— Агатавую бомбу выбіваем,— змрочна адказаў таўстун.

— Вялікая?

— З два кулакі.

Маці слухала спеў вады і глядзела з уступу проста ў глыбіню. Глыбіня была ўся чысцюткая, блакітна-зялёная, празрыстая, як неба. У глыбіні плавалі ліловыя і белыя медузы. Белых было много. А яшчэ глыбей, у расколінах падводных скал, раслі сінія дзівосныя кашлатыя сады. Зрэдку іх галіны варушыліся. Гэта праплывала рыбка.

«Як птушкі ў нашых садах»,— думала маці.

Валерый разграбаў нагою гальку амаль ля самых ног маці.

— Ну, што? — спытала яна.

— Нічога.

— Яна шчаслівая з табою?

— Пэўна,— змрочна сказаў ён.

— Шчаслівыя не гавораць так пра дзяцей. Што ж шчасце? Шчасце для сябе — гэта пачвара.

— То нашто ёй тады?..

— Ты цяпер на вяршыні, то ёй і добра... Я нічога

табе не кажу, але ты ўспомні, што яна табе тады казала?

Яны маўчалі. Дрымотна спявала вада. Танюткі струмень падаў у буйныя галышы і знікаў у іх, не маючы змогі пракласці сабе верхавы шлях у мора.

У гэтых распаленых каменняў была такая прага! Такая нясцерпная прага!

— Я... кахаю яе, мама.

Гаварыць больш не было аб чым. І маўчанне рабілася нясцерпным, і невядома было, што б яны сказалі яшчэ, каб не крык, які раптам аддаўся з уступа.

Нешта прамільгнула ў паветры. Потым узляцеў слуп вады. І адразу паўз маці мільганула магутная постаць сына. Ён ірвануўся з месца так, нібы ад гэтага залежала жыццё.

Жыццё сапраўды залежала. Таму што на ўступе стаяў адзін Петра Мадэставіч. Пазней выявілася, што падлетак адступіў, каб скульптару было ямчэй кідаць каменную брылу. Адступіў, не думаючы, што за ягонай спіной строма. Ад нечаканасці ён хапануў вады і, захлынуўшыся, ключом пайшоў на дно.

У наступны момант — Валерый яшчэ не паспеў дабегчы — Петра Мадэставіч кінуўся ў ваду галавой. Ягоная туша ўзняла фантан пырскаў і заглыбілася ў прадонне. Ён нібы падаў з вышыні і падаў значна хутчэй за вузенькі цень хлопчыка, які сутаргава варушыў рукамі і нагамі.

Апынуўшыся непадалёк, Петра Мадэставіч рэзка выгнуў спіну, каб прыгасіць сваё падзенне, але хуткасць яго была, відаць, яшчэ вельмі вялікая, бо яго нібы стукнула нешта ў спіну. Скульптар тарганууўся паясніцай, паспрабаваў схапіць падлетка, але тут яго панесла на паверхню, выкінула пад сонца.

А хлопец ішоў ніжэй і ніжэй і ўжо цьмянеў, рабіўся з блакітнага каламутна-сінім. Бо тут, пад скалой, і сапраўды была страшная глыбіня.

Маці ўбачыла ненатуральна шырокія плечы сына, яго залатую скуру і барвяныя плаўкі на вузкіх клубах. Потым ён увайшоў у ваду, як распаленая ігла ў масла: толькі бурбалкі серабрыста закіпелі вакол усяго цела.

Ён ішоў глыбей і глыбей, і таксама цямнеў. І вось ужо імпэт ягонага цела быў прыглушаны супрацiўленнем вады. Ён пачаў грэбціся рукамі, іх рыўкі ўсё больш запавольваліся...

...А потым яго панесла ўгору. Павольна-павольна. Момант, відаць, быў упушчаны, і цела Яраполка апусцілася занадта глыбока.

Сына выкінула на паверхню, як корак. Ён прагна хапаў ротам паветра.

— Стой! — крыкнуў скульптар.— Не дастанеш. Тут метраў дзесяць.

— Здаецца... глыбей,— сказаў Валерый.— Значна...

У прадонні плавалі медузы, яшчэ глыбей раслі падводныя сады. А ў іх ледзь бачны быў маленькі цёмны сілуэт чалавечка.

Не верылася, што ён ляжаў на такой глыбіні: занадта празрыстая была вада.

— Не трэба! — крыкнула Агата.— Вадалазаў трэба.

— Ідзі ты ў...— амаль непрытомна крыкнуў збялелы сын.

Маці разумела: па вадалазаў трэба веславаць, і яны не паспеюць. І яшчэ яна зразумела: сын лаяўся не на жанчыну. Яна ўпершыню чула ад яго грубае слова, і, значыць, ягоны стан быў сапраўды ўтрапёна-разгублены.

Валерый ускараскаўся на ўступ.

— Што ж рабіць? Што ж рабіць, дзядзька Петра? Глыбока. Не дайду. Выкіне.— Позірк ягоны ўпаў на злашчасную брылу. І ён абвёў вачыма трох людзей, якія стаялі побач, убачыў фігуркі іншых экскурсантаў, якія беглі берагам... А потым паглядзеў на маці і ўсміхнуўся ёй.

Потым ён ні на каго ўжо не звяртаў увагі. Двума-трыма глыбокімі ўздыхамі ён расправіў лёгкія і з напругаю ўзняў брылу, над якой за некалькі хвілін да таго дарэмна завіхаўся таўстун.

— Падтрымай,— сказаў ён Петры,— падтрымай, каб уздыхнуць. Як міргну — пускай.

Малінавы ад напругі, скульптар падтрымаў. Ноздры Валерыя раздзьмуліся. У наступны момант ён разам з каменем зрабіў крок з уступа, увайшоў у ваду амаль без пырскаў і пачаў паглыбляцца, цьмянець, рабіцца з блакітнага сінім так хутка, што маці спалохалася.

Вада была такая празрыстая!

Ля самага дна ён закруціў галавою. Яму, відаць,

пакутліва не хапала паветра. Але брылы не выпусціў. А потым з дна ўзнялася каламуць: ён моцна адштурхнуўся нагамі.

Маці бачыла, як ён усё хутчэй круціць галавою. Хутчэй і хутчэй.

Боўтнула нешта ў вадзе. Гэта скульптар кінуўся на дапамогу і там, пад вадою, падхапіў штосьці і штурхнуў цела Валерыя ўгору.

...Яны ляжалі на водмелі, як два трупы. Сын — ніцма, і плечы ў яго ўздрыгвалі зрэдку. Толькі па гэтым і можна было здагадацца, што ён жывы.

А Яраполк ляжаў на спіне і не падаваў ніякіх прыкмет жыцця. Яму рабілі штучнае дыханне — нічога не змянілася. Ляжаў бледны, мокрыя валасы пацямнелі, веі апушчаны.

Урэшце ўсе адступіліся і стаялі вакол разгублена і непаразумела.

...Сын са стогнам узняўся на руках, хапануў паветра.

— Качайце, качайце!!! — сказаў ён.

Людзі маўчалі.

— Ён мёртвы,— сказала Агата.

І тут у сына папаўзлі па абліччы чырвоныя плямы. Маці ніколі яшчэ не бачыла яго ў такім гневе, бяссільным, але жахлівым, вышэй за ўсё.

— Мёртвы... Ты гэта сястры скажы... Мёртвы... Адступіліся лёгка...

Ён, хістаючыся, зрабіў некалькі крокаў.

— Адыдзіце.

І, узяўшыся за шчыкалаткі тоненькіх і доўгіх, як у жарабяці, ног, падняў вузкае абвіслае цела ў паветра. Яго матляла, але ён трос, трос, трос.

Бялявыя валасы Яраполка то дакраналіся да галькі, то адрываліся ад яе.

— Ды што ж гэта? — крыкнуў нехта.— Кінься гэты здзек!

— Рукі прэч... пэцкаль,— рыкнуў сын.

Струменьчык крыві папоўз з краёчка ягонага рота. На падбароддзе, на грудзі. Цельца ў ягоных руках усё яшчэ было нерухомае, але ён трос, трос — ужо не ад надзеі, а толькі ад адчаю. І маці разумела яго.

Яму было трэба. Яму абавязкова трэба было.

...Разам з патокам вады, які лінуў з рота хлопчы-

ка, вырваўся пакутлівы, жаласны стогн... Яшчэ... Яшчэ...

І, калі ўсё скончылася, Валерый, хістаючыся, адышоў і сеў на гальку. Яго калаціла. Ён браў прыгаршчамі ваду, змываючы з грудзей кроў. Усе глядзелі на яго.

І раптам ён заплакаў. Заплакаў не ад палёгкі, а нібы ад бязмернай, безвыходнай правіны і невычэрпнай крыўды, якой не скупіць ніхто... Нічым...

За ўсе ягоныя трыццаць год маці ўпершыню бачыла, як ён лаецца, як гневаецца і як плача.

І яшчэ яна ўпершыню зразумела, на якія ўчынкі ён можа быць здатны. Таму, калі Ларыса на прычале кінулася да брата, маці не стала глядзець, як яна цалуе яго.

Яна глядзела, як Валерый адышоў, як прыклаў да рота хустку, паплямаваную бурым. І яна здзівілася: упершыню за ўсе гэтыя дні ранейшы чалавечы выраз з'явіўся ў ягоных вачах.

...Нічога не змянілася.

Як і раней, былі ў гэты вечар танцы. Як раней, уздыхала пад поўным месяцам мора. І маці, як раней, бачыла, як танцавалі два чалавекі. Бачыла шэрыя халаднаватыя вочы дзяўчыны, яе аблічча, бясстраснае і прывабнае ў промнях зеленавата-блакітнага святла.

«Царыца»,— зноў падумала маці.

І дзіўна, тое, што яна прызнала прыгажосць гэтай жанчыны, у соты раз прызнала, цяпер не ўзрушыла яе, не абурыла, не выклікала трывогі, а прынесла, хутчэй, дзіўнае заспакаенне. Нічога, маўляў, няхай.

Голас спяваў, дрыжучы ад страсці, усё тую самую мелодыю, на якой звар'яцелі ў гэтыя дні, здавалася, усе людзі.

И навеки угаснет
Моя улыбка и радость.

І маці бачыла яго аблічча, схіленае над ёю: сінія вочы ўразлёт, залацістыя валасы, цвёрдыя мускулы ля рота. Ён гаварыў штосьці, а вусны яго ледзь не трапяталі ад узрушэння, а на дне вачэй, за доўгімі веямі жыў такі сум...

...Нібы гэты чалавек павінен быў развітацца. Нібы вышэйшая бязлітасная сіла адрывала яго ад

кахання, ад былога. І нічога ўжо не заставалася на зямлі. Нічога. Толькі маліць аб апошняй літасці.

Было яшчэ аблічча Ларысы. Яна глядзела на адчай аднаго і цягу другой, і, нягледзячы на ўсё гэта, вочы яе свяціліся сумнай, але добрай усмешкай, якая ўсё даравала.

...Тэкля глядзела на мора, калі хтосьці ўспёрся побач на балюстраду пляцоўкі. Яна пачула голас, у якім быў водгук незразумелай трывогі.

— Маці, растлумачце яму, што нельга... Нельга так.

Старая ўбачыла амаль спалоханыя вочы Агаты.

— Я табе не маці. Чаго ты хочаш?

— Я амаль спалохана.

— А чаго ты хацела? Чаго ты трывожышся?

— Ён... не такі, як заўсёды, маці.

— Я не маці,— сказала старая.— За забітага сына не благаслаўляюць.

Мора каціла на бераг золата, ціха ўздыхала. На яго можна было глядзець вечна.

— Як вы смелі не пайсці з ім тады, калі ён паміраў? — спытала маці.

— Я кахаю яго... Буду з ім. Ён мне патрэбен.

— Не веру,— суха сказала Тэкля.— Не былі ў бязведамнасці — не будзеце і ў шчасці... Што з вамі? Чаму трывога? Вы ж бярэце яго?

Пасля паўзы Агата сказала:

— Я ўбачыла... ваш спакой.

— Гэта лухта,— сказала стрымана маці.— Я проста ўбачыла ягоную сілу.

Уздых пашырыў грудзі дзяўчыны.

— Ён пойдзе, з кім захоча,— разлічана сказала яна, і ўсмешка кранула яе вусны.

— І тут твая праўда,— сказала маці.— З кім захоча.

— А наконт яго сілы... не трэба цешыцца занадта вялікай надзеяй... Багам таксама патрэбна ціхая прыстань... Адна...

Яна ссунула бровы.

— Ад-на,— падкрэсліла яна.— І няма больш слабых мужчын, чым моцныя.

— Правільна,— сказала маці, устаючы.— Я табе, дзетухна, яшчэ адну праўду скажу, у пару да тваёй.

— Але.

— Няма жанчын больш нешчаслівых і няўдачлівых, чым халодна-разважлівыя ды з розумам.

І яна спакойна пайшла між танцуючых. Вельмі спакойна, хаця ведала: сражэнне за сына прайграна.

...Гадзінай пазней Валерый і Агата сядзелі наводдаль ад курортнага пляжа, на беразе маленькай бухты. Улева ад іх цягнуліся берагам развешаныя рыбацкія сеці, нібы крылы кажана. Направа, над вялікай гарой, стаяў срэбны месяц.

І гэты месяц працягнуў да іх па вадзе срэбны доўгі кілім, набягаў золатам на іхнія босыя ногі. Наплываў і вяртаўся, наплываў і вяртаўся.

Агата сядзела, абхапіўшы далонямі падэшвы ног, уся напружаная. Галава яе ляжала шчакой на каленях, і вочы глядзелі на субяседніка насцярожана, наўскос. А ён ляжаў, абапёршыся на локці, неймаверна шырокі ў плячах і вузкі ў клубах і яшчэ вузейшы ў нагах. Нібы сцякаў у мора.

— Што з табой? — спытала яна.

— А што?

— Ты нібы развітацца хацеў. Нібы адразу. Навек.

— Не ведаю,— сказаў ён.— Такое пачуццё... Дзіўнае пачуццё,— сказаў ён.— Страшэнны боль, нібы губляеш жыццё. І адначасова палёгка...

— Як?

— Ну... нібы за Бетховена пятую сімфонію хацеў напісаць, а потым зразумеў: не трэба. Хопіць з цябе і «Шчаўкунчыка». Не трэба пакутаваць. Жыві. Унь мора. Месяц. Сумах з восенню робіцца крывавы... Не дасягнеш ты нічога — толькі змардуешся. І адначасова гэта азначае: скончана жыццё. Бетховен у табе плача... А табе — лягчэй.

— Велікапышна ты гаворыш. Гэта ты аб чым? Аб працы? Славе? Жанчынах?

— Не ведаю,— сказаў ён.— Я гнаўся за адной жанчынай. За славай. І што, лягчэй ад гэтага астатнім? Маці? Яна ўжо не можа зайсці ў мора. Не заходзіла ніколі і не зойдзе.

Яна прыўзняла галаву і з нейкай вышэйшай чуйнасцю сказала:

— Ты не аб тым.

— Не,— сказаў ён.— Наконт сябе можаш быць спакойнай. Позна... Хаця мы з табой ніколі не будзем шчаслівыя.

— Чаму?

— Таксама позна.

Ён сеў:

— Ты нават не ведаеш, што было тады, два гады таму назад... Табе гэта было... як цень вялікага кахання на сцяне ўтульнай гасцінай... Каб лепей адчуваць яе прытульнасць, не адчуваць пустэчы ва ўласным доме... Так, лішняе палена, падкладзенае ў хатні камін.

— І што, табе ад гэтага было менш цёпла?

— Мы былі разам,— сказаў ён.— Памятаеш, ты сказала, што часам багі ствараюць дасканалых людзей, каб яны мелі права патрабаваць ад багоў усё, што ім належыць. Ад багоў і ад другіх, такіх самых дасканалых.

— Н-не помню.

— Індыйская, здаецца, легенда.

— Не, не помню.

— А я помню. Я помню ўсё, і ў гэтым уся розніца паміж намі. Таму што ты тады ўвайшла нават у мае сны, нат туды, дзе яшчэ і свядомасці няма. Ты не помніш, але ў той час, калі я не асмельваўся ўзняць на цябе, чужую, нават вачэй — ты сама раскрыла мне іх.

— Па-мойму, гэта быў не самы горшы мой учынак,— усміхнулася яна.

— Напэўна... Для цябе... Я ведаю, табе было пуста. Але я, пакутуючы, як ніхто, бо мы сапраўды, відаць, створаны былі адзін для аднаго, усё ж быў у неразуменні, за што я цябе кахаю.

— Нашто пытаць? Кахаеш, то нашто пытанні?

— Маеш рацыю. У цябе была цяга да мяне, але я не перашкодзіў табе быць з іншым, была дасціпнасць — каб падманваць са мною ўвесь свет, была думка і быў розум, які не даў табе ані хвіліны разумення таго, як я пакутую, як я хачу ўвесь час быць з табою... І была прыгажосць... І толькі не было галоўнага: цярпення, дабрыні, шчаслівай увагі.

— А ты спрабаваў?..

— Паглядзець на рэчы тваімі вачыма?

— Ты дзіўна заўсёды здагадваешся аб усім.

— Спрабаваў. І не здолеў апраўдаць... Рэчы не маюць душы. Калі даводзіцца выбіраць між чалаве-

кам, які памірае ад кахання да цябе, і рэчамі — не варта многа думаць.

— Мне не падабалася твая слабасць перада мной... Ты ж ведаеш, мы толькі гаворым, што любім закаханых у нас. На самой справе мы любім тых, каго можам кахаць.

— Ты не ведаеш, што слабасць мужчыны — адзнака самага моцнага кахання. Ты ж бачыла, як я ламаў жыццё, як са мною біліся за праўду сябры. Ты бачыла, што я не шчанюк, не хлюпік.

— І ўсё ж...

— І ўсё ж я не мог быць бязлітасна грубым, размаўляць з табою, як уладар. Гэта лухта, гэта рабскае гаворыць у душах некаторых жанчын. Я не скот, я роўны з табою чалавек, які больш за ўсё хацеў, каб табе было светла і лёгка. Я ведаў: сапраўдныя жанчыны лепшыя за мужчын. Яны — квецень. І яшчэ я ведаў: ім цяжка, усё яшчэ цяжка. Я хацеў, наколькі гэта ад мяне залежала, зрабіць так, каб няхай сабе адной было лёгка і радасна жыць... Што ж, відаць, у адносінах да гэтай адной я памыліўся.

Яна ўсміхнулася, і зубы яе ў святле месяца былі блакітныя, а вочы патаемныя.

— Ты лічыш, што ў адносінах да гэтай адной патрэбен быў кій?

— Не... абыякавасць.

— Ты надзіва рыцарсцвенны.

— Не. У мяне не хапае для гэтага шчырай адкрытасці. Маё насланнё робіцца ўсё больш моцным. Мне часам немагчыма дыхаць, такое яно.

— Гэта табе і шкодзіла.

Ён кінуў каменьчык у ваду. Мускулы ля ягонага рота закамянелі.

— Петра Мадэставіч меў рацыю. Нашто мне ідал? Мне патрэбна падзвіжніца. А тут за ўсе маленні я атрымаў адзін толькі боль. Насланнё мацнее... Але мне сумна. Сёння на танцах мяне працяў такі несамавіты адчай, што мне стала страшна. Я зразумеў: нішто не вечнае ў чалавеку. І тое, што са мной нібы трапеча на апошнім дыханні... Розум не можа вечна быць рабом пачуцця... нават самага вялікага ў жыцці. Дарэмна я маліў аб здароўі і сіле і свабодзе.

Хлопец сказаў гэта з такой шчырасцю, што бровы жанчыны здрыгануліся. Яна пасунулася бліжэй і, па-

клаўшы галаву на ягоныя калені, абхапіла яго за шыю гнуткімі і пяшчотнымі рукамі.

— Прабач, родны,— сказала яна.

Далоні, якія ён падсунуў пад яе плечы, злёгку дрыжалі.

— І мне лёгка і страшна,— сказаў ён.

Адвечная прывычка ўладарыць выявілася і тут. Гонар патрабаваў, нясцерпна было бачыць, як паўстае самы адданы і верны, як ён патрабуе,— і жанчына, не стрымаўшыся, сказала:

— Нашто ты патрабаваў так да канца? Я ж не казала табе, што заўсёды буду толькі тваёй. Нашто ты патрабаваў так многа?

— Нашто я жыву? Нашто дванаццаць год я забіваў сябе на рабоце, дабіваўся славы? І нашто ты патрабавала так мала? Чаму цяпер хочаш большага?

— Я кахаю цябе,— сказала яна.

Але мужчыну, здаецца, уразіла нейкая думка. Вялікія яго вочы пашырыліся. Ён уздыхнуў і адчужана выпраміўся.

Тонкі стан і шырокія плечы. Знізу яны здаваліся ёй трохвугольнікам, пастаўленым на востры кут. Скура пад месяцам адлівала золатам і блакітам. Раўнамерна ўздрыгвала скура пад левым саском, і гэта было адзінай адзнакай хвалявання, якое па-ранейшаму перапаўняла яго.

— Цяпер ты хочаш быць толькі са мною. Чаму?

— Чалавек мяняецца,— шапнула яна.— Праз год, месяц, дзень — ён другі. Я кахаю толькі цябе.

— Так мала? Я ведаю, што́ табе было да ўсяго, што я адчуваў. Ты лічыла — перад табою сусвет... І вось цяпер у табе прайшло многа, засталося мала... І ты шукаеш мяне. Цяпер я патрэбны табе.

Яна цягнула рукі вышэй і вышэй. Ніжэй і ніжэй схілялася да яе вуснаў галава хлопца. Аж пакуль ён са стогнам не адвярнуўся.

— Мой гонар паранены,— глуха сказаў ён.

— Позна ж ты ўспомніў пра гэта.

— І я ў сутаргах кідаюся ля цябе. У апошніх, бо не хачу згадзіцца, што каханне памерла. Яно ў кожнага адно.

— Позна,— усміхнулася яна.— Ты быў мой. І ніхто не адбярэ ў тваёй памяці ўсяго, што было. Не

адбярэ ні шчасця, ні гэтых... прыніжэнняў...— І пасля паўзы дадала:

— Так што маўчы. Пацалуй мяне.

Прагна, як да струменьчыка вады, што падаў у распаленую, чырвоную ад сонца бухту, яна прыпала да яго вуснаў. Нібы вакол была смяротная спёка і адзін гэты струмень нёс у сабе жыццё.

— Так будзе заўсёды,— сказала яна.

Ён гладзіў яе валасы.

— Заўсёды,— паўтарыла яна.

— Заўсёды? — спытаў ён.

— Але.

— Ты пойдзеш са мной паўсюль?

— Магчыма.

Яна цяпер ведала: нішто не прайшло, няма чаго баяцца. Таму што гэты залаты бог усё яшчэ належаў ёй і толькі ёй. Яна бачыла гэта па сухому, ліхаманкаваму бляску бязмежна адданых вялікіх вачэй.

— Я буду з табою, як толькі ты працягнеш руку.

Гэта была памылка. Яна адразу зразумела гэта.

— Я стаміўся трапятаць над урвішчам,— сказаў ён.

— Калі стаміўся?

— Сёння. Калі трымаў на руках хлопчыка... Магчыма, раней. Калі ён за здраду пайшоў да таўстуна... А потым ён усміхнуўся мне. За што? За такую драбніцу? Плаціў дабром. Тое, чаго ніколі не рабіла ты.

— Кветкі жыцця,— ужо гневаючыся, сказала яна.

— Мне не да жартаў,— сказаў ён.— Я напалову загубіў жыццё. Для чаго? Для таго, за што мне ніхто не скажа «дзякуй». Загубіць і другую палову?

— Табе з кім-небудзь будзе лепей, чым са мной?

— Не,— сказаў ён.

— Дык вось,— сказала яна, сядаючы.— У гэтым уся розніца. Я для цябе ўсё. І я адчуваю гэта. І спускаюся да цябе, бо ты самы гожы, разумны, добры чалавек на свеце... Бо мне хораша з табою. Мне хораша, і я з табою, ледзь ты працягнеш руку. Але для мяне, як для кошкі, галоўнае не дом, а сад...

— Або суседні дом,— з'едліва сказаў ён.— Ты хочаш затрымаць мяне на ўсё жыццё, нічым не рызыкуючы, нічога не аддаўшы. Так не бывае.

Ён мякка адвёў са сваёй шыі яе рукі.

— Табе засталося менш — і ты шукаеш мяне. Табе засталося менш, а ты хочаш панаваць над маім пачуццём, жыццём, шчасцем. Нібы я джын. Патры лямпу — і адразу з'явіцца. А да гэтага смірна чакае недзе ў бутэльцы.

Устаў на ногі, заліты сяйвам месяца. Сеў далей.

— Так не атрымаецца. Роўнасць, калі хочаш.

— А памяць?

І тут Валерый ціха засмяяўся.

— Калі застанецца зусім мала — ты не будзеш плакаць над маімі лістамі з думкаю, што ўсё залежала толькі ад цябе... Ты будзеш смяротна, запознена тужыць.

Ён амаль трыумфаваў, нібы зразумеў нешта.

А пасля ён сказаў:

— Тужыць, што вось была ты маладой і чыстай і быў я. І ты магла мець мяне з усімі думамі, хвілінамі слабасці і гадамі сілы, з вачыма, валасамі, рукамі, з абдымкамі і стомай... усяго, да апошняй клетачкі. Усё магло стаць тваім. Цэлы свет... Магло.

Яна глядзела на яго пільна і неспакойна.

— Яно будзе маім,— сказала яна.

— Пэўна, будзе,— сказаў ён.— Але папярэджваю, гульні не будзе.

Ён раптам страпянуўся.

— Куды ты глядзіш? — спытала яна.

— Чакай.

На ўступе недалёкай нізкай скалы з'явіліся дзве постаці: дзявочая і хлапечая. Абедзве вузкія, тоненькія, блакітныя ў праменнях месяца.

— Сядзі тут,— прагучаў здалёк голас Ларысы.

— І не падумаю. Буду ратаваць цябе,— сказаў хлопчык.

— Ты ў мяне ўжо мужчына.

— Ты рада, што я твой брат?

— Рада.

— І таму ты такая вясёлая? Толькі таму?

— Толькі таму,— сказала яна.— Мне, відаць, трэба навучыць цябе вельмі добра плаваць і ныраць.

— Чаму?

— Калі-небудзь ты нырнеш і дастанеш для мяне з самага дна скіфскую карону.

— Фу, лухта якая,— уздыхнуў ён.

— То не дастанеш?

— Дастану,— уздыхнуў ён.— Дастану, калі яна ёсць.

Дзяўчына выпрамілася на скале, выгнула плечы трохі назад і працягнула да месяца тонкія, кранаюча тонкія, амаль яшчэ дзіцячыя рукі.

— Месяц які,— сказала яна.— Мора. Бачыш, карона на дне?

— Гэта адбітак,— сказаў Яраполк.

— Не, карона.

Залітая сяйвам, Ларыса стаяла, ускінуўшы рукі.

— Я цябе вельмі люблю,— сарамяжліва сказаў падлетак.— Нават калі ты замуж выйдзеш, я цябе буду любіць.

— Дурненькі,— сказала яна.

Блакітныя, тоненькія, яны стаялі на ўступе над уздыхаючым морам. Дзяўчына з дзіцём. Нібы маленькая рахманая ланка з аляняткам.

— І я цябе люблю,— сказала яна.— Я такая шчаслівая, што ты ёсць у мяне.

І, схіліўшыся над ім, пацёрлася шчакою аб яго валасы. Нібы ланка правяла мордачкай па кучараваму лобіку аляняці.

— На табе карону,— сказаў хлопчык і нырнуў.

Дзяўчына войкнула, але блакітны сілуэт плыў пад вадою да залатога дрыготкага кола. І тады яна, выгнуўшыся, кінулася за ім. Яны плылі, а вакол фасфарасцыравала мора.

Яны вынырнулі недзе далёка, якраз на залатым шляху, і засмяяліся, а потым паплылі далей і зніклі з вачэй.

З незвычайнай, вострай і пакорлівай пяшчотай Агата абняла шыю мужчыны.

— Яно будзе маім,— паўтарыла яна.

Ён маўчаў. Ён жменямі, са свістам, кідаў каменьчыкі ў ваду. Нібы сеяў.

...Сонца ўстала ў той дзень ласкава-мяккае. І спёка была таксама прыемная і мяккая. Мора прамянілася аж да дна, празрыстае, такое сіняе, што балюча і шчасна было глядзець на яго.

Валерый зайшоў у будку лодачніка, узяў там вёслы і, выйшаўшы да маці, пакрочыў з ёю да шлюпак. Адна са змен паехала, новай ужо не магло быць, і таму на пляжы было пуставата.

У маці амаль усю ноч балела галава, але раніцай

неяк ухадзілася, і цяпер, як след болю, свет здаваўся трохі незразумелым і кранаюча добрым.

— Куды гэта вы? — спытаў Петра Мадэставіч, які, мокры яшчэ, ляжаў на гальцы і курыў.

— Ды вось,— сказала маці,— хоча мяне пакатаць.

— Даўно час,— сказаў скульптар.— Даўно... Ну як?

— Добра, Мадэставіч.

— І сумна трохі?

— І сумна,— пакорліва сказала яна.

— Наша справа такая,— сказаў ён.— Нічога.

— Нічога.

— То да вечара,— сказаў скульптар.— Пойдзеш у кіно?

— Да вечара,— сказала яна.— Да вечара, даражэнькі мой.

«Прымірылася»,— падумаў Петра Мадэставіч, сумнавата, са спагадай пазіраючы, як яны ішлі да чаўноў.

Ён ішоў, магутны, загарэлы, горды ў паставе, такі гожы, што дзяўчаты азіраліся на яго. А побач ішла яна, прамая яшчэ, але нібы падсохлая, уся ў чорным. Ён пасадзіў яе на карму, сам раскрыў парасон.

— Ларысачка,— сказала раптам маці.

Ён ускінуў веі. Далёка ішла пляжам постаць. І Валерый здзівіўся, чаму маці ўбачыла раней яе, а не Агату, якая была ўжо амаль ля чоўна.

— Добры дзень,— сказала Агата, сядаючы на самай мяжы пены і галькі.— Куды гэта вы?

— У скалы,— сказаў сын і дадаў: — Да вечара вернемся.

— То добра,— сказала яна і раптам устала, пайшла ў ваду.

Яна была ўся ў пене і сонцы. І яна была халаднаватая, як пена. А на яе высокіх грудзях плыў парусьнік пад блакітнымі ветразямі.

Паплыла.

— Дзень добры,— сказаў голас Ларысы.

Сястра-гаспадыня стаяла ля чоўна просценькая, у сваім звычайным белым халаце.

— Не баіцеся? — спытала яна ў маці.

— З ім? — усміхнулася Тэкля.

Нібы нічога не было, такая мяккая добразычлівасць ззяла ў вачах Ларысы. Ды яно й сапраўды нічо-

га не было. Усё было лухтою ў параўнанні з учарашнім.

— Яшчэ раз дзякуй вам, Валерый Максімавіч,— сказала сястра.— Не ведаю, што было б, каб не вы.

— Не трэба,— сказаў ён.— Я жыў трыццаць год. Гэта першае сапраўды вартае, што я зрабіў.

— Не ведаю, што было б,— паўтарыла яна.

Ён сумна ўсміхнуўся. І гэта была ранейшая, чалавечая ўсмешка.

— Я ведаю, што н е б ы л о б,— сказаў ён.

— Чаго?

— Кароны. Скіфскай кароны на дне.

— О-ох... Вы?..

— Лухта,— сказаў ён.— Гэта вам дзякуй.

Вочы дзяўчыны, нібы яна ўсё разумела, змяніліся, засвяціліся нейкай няўпэўненай, трохі шкадоблівай пяшчотай.

— Бывайце,— сказала яна маці.— Да вечара.

Сын моцным рыўком адштурхнуў човен, уладкаваўся з вёсламі. Шлюпка павольна адыходзіла ад берага.

— Ё-луп,— сказала маці.

Яны былі ўжо далёка. Мора іскрылася, але ў яго прыгашаных адценнях быў нейкі сум. А можа, гэта маці толькі здавалася. На беразе гучала музыка, усё тая самая, страсная, поўная чакання, на якой павар'яцелі ўсе, хто адпачываў тут.

Музыка, напэўна, абяцала ім нешта перад наступленнем доўгай паўночнай зімы.

Постаць Ларысы на беразе стала ўжо зусім маленькай. Меншай за суглоб мезенца. Дзяўчына нясмела прыўзняла руку і павольна махнула кісцю ў бок маці. Раз ці два. А голас скардзіўся, амаль рыдаў у сваёй страсці, пяшчоце, чаканні...

До завтра...
І, что бы с намі ни случилось,
Я расстаюсь с тобой, как с солнцем,
Как с солнцем...
До за-а-а-а-автра!!!

Постаць стала зусім маленькай. Але, як апошняе прывітанне, ляцеў наўздагон чоўну голас.

Знікла постаць. Знік бераг за адрогам вялікай гары. Адрог спускаўся ў мора, нібы піў яго.

Твар маці быў заценены парасонам, але вакол усё

чырванела, ззяла, звінела апошнімі цыкадамі і шаптала ўсплёскамі хваль аб скалы.

І дзіўна, маленькімі частымі плямамі барвавеў на недасяжных сініх скалах сумак.

«Нібы крывёй пацеюць,— падумала маці.— А што, гэта ж цяжка, каменна-цяжка — быць скалой... Нежывая... Бясплодная... Вось і плача крывавымі слязьмі».

Мяняліся бухты, мяняліся скалы. А яна сядзела, склаўшы на каленях зведзеныя працай рукі, і амаль малітоўна глядзела на берагі.

Аблічча сына хісталася перад ёю, залацістае, сінявокае, цвёрдае. Не, гэта не быў толькі яе, матчын, гонар. Хлопец быў сапраўды самым прыгожым з тых, каго ёй даводзілася бачыць.

— Ты што глядзіш? — спытаў ён.

— Цябе павінны яшчэ многа кахаць,— сказала яна.— Але ўсе будуць любіць цябе не за тое, што я... Не за тое, што я... Не за тое, што ты — гэта ты. Так цябе палюбіць яшчэ толькі адна. Не за твае гэтыя... прэміі. Проста за дабрыню, за радасць быць разам... Але і яна будзе — лепей, але не тое... Я ж цябе люблю яшчэ і таму, што ў тры гады ледзь не памёр, што ў сем уначы пайшоў на могілкі... За многае.

Ён спыніў шлюпку ў невялікай лазурна-сіняй і празрыстай бухце. Уся прасвечаная да дна, чыстая, як сіні алмаз, яна спакойна грэлася між скал, а пасярэдзіне яе строма абрывалася з усіх бакоў у ваду скала, падобная на ветразь.

— Прыгожа,— сказаў сын.

— Але,— сказала яна.— Ты памятаеш, як пахне хлебная дзяжа?

— Нашто спытала?

У чысцейшай вады сінім прадонні, як кветкі, варушыліся бэзавыя і белыя медузы. Як дзівосныя вялізныя кветкі. Яны грэліся на сонцы. І маці раптам амаль фізічна, як зімою ля агню, адчула, як цячэ па яе жылах пахучая, сухая, добрая спёка. Яна поўніла ўсё: рукі, плечы, калені.

— Ты не забывай,— сказала яна,— ні хаты, ні дзяжы, ніводнага слова. Інакш цябе стопчуць...

— Чаму ты раптам?

— Хачу, каб ты быў шчаслівы, вольны, здаровы. Усім бы заплаціла за гэта. Усім.

— Лухта,— ніякава сказаў ён.

— Канечне. Нічога не зробіш. Толькі мей вочы, будзь добры, не крыўдзі сапраўдных, не вер горшым.

Ён апусціў галаву.

— Я... буду добрым, мама.

Над морам, заліваючы бухту і яго залацістыя плечы, ззяла сонца. Ззяла, як вечнае свята жыцця.

...На беразе ён назбіраў шмат бела-ружовых халцэдонаў і дымных агатаў, высыпаў усё гэта ў прыпол маці і зноў адштурхнуў човен ад берага.

— Так лепей? — спытаў ён.

— Канечне. Блакіт вакол... Дзякуй табе за сіняе мора.

У прадонні, як кветкі, грэліся пад сонцам медузы. А пад імі варушыліся сінія сады.

— Буду,— паўтарыў ён.

І ўстаў, раздзьмуўшы шырокія грудзі. Глядзеў на «ветразь» з дзіўнай, нібы вызваленай, усмешкай.

— Я зараз скокну адтуль. Я не разаб'юся.

— Я ведаю,— спакойна сказала яна.

Ён хітнуў човен, апісаў вялізную дугу ў сярэдзіне сіняга крышталю, між медуз. Ён плыў, але маці здавалася — ён ляцеў у вольным палёце над сінімі нетрамі падводных садоў. Узмыў, з'явіўшыся на паверхні, паплыў да «ветразя» рухавы і моцны, як малады дэльфін. Ухапіўся за наздраватую паверхню падножжа ўцёса.

«Ветразь» стаяў над ім, як волат. Але чалавек упарта і спрытна палез па ягоных непрыступных баках.

Вось адолеў калені, стан, вось ужо на ўзроўні грудзей.

Часам ён нібы прыліпаў да скалы, імкнучыся зліцца з ёю, часам адрываў ад яе тулава.

Ад спёкі расцвілі пад вадою кветкі медузы. Ціха шоргала аб бераг мора. А можа, гэта каменьчыкі сыпаліся з каленяў?

І яна адчувала, што вісіць нібы над сіняй безданню. Празрыстай да самага дна, як сіні алмаз.

— Ма-ма-а-а!!!

Яна ўзняла цяжкія павекі. Ён стаяў на верхавіне ўцёса, раскінуўшы рукі.

Ускінутая галава, шырокія грудзі, гожая лінія жывата, дасканалыя ногі з гладкай скурай.

На верхавіне ўзнесенага ў неба ўцёса — і сам у небе — стаяў, раскрыліўшы рукі, залаты бог.

«Не,— падумала маці,— не. Гэты не прападзе. На хвіліну задурманены, раскуты пасля гэтага непатрэбнага пустэльніцтва... Ён справіцца».

Залацісты крымскі загар. Ускінутыя рукі. Адзіная залатая пляма ў празрыстым сінім небе, у якім — між небам і зямлёй, над падводнымі садамі — вісела яна.

Ён выцягнуўся, прыўзняўся на дыбачкі і высока падскочыў у сіняе паветра, лёгка перавярнуўшыся ў ім.

«Не,— млява падумала яна,— гэта пройдзе. Гэта — старое, нязжытае да канца. Яно пройдзе».

Прыйшло заспакаенне... Вось сады пад вадою. Медузы цвітуць у сярэдзіне сіняга алмаза. Шалясціць, шапоча мора. Сыплюцца з каленяў каменьчыкі.

Узняўшы ўгору вочы, яна глядзела туды, дзе, раскрыліўшы рукі, у нязмернай вышыні ляцеў да яе залаты бог.

Спёка. Яраснае сонца. Шум... шум... шум мора...

— Мама... Мама!.. Што ж ты?!. Мама!!!

## БЫЛІ Ў МЯНЕ МЯДЗВЕДЗІ

Бацька мой быў ляснічы. І дзед быў ляснічы і прадзед. І ўсе мае дзядзькі з бацькавага боку былі ляснічыя, лесаводы або яшчэ нейкім чынам былі звязаны з лесам і з навукай аб лесе. Стварылася вялізная лясная дынастыя, і нават мой малы пляменнік толькі і трызніць, што аб дзедавай прафесіі.

З гэтай дынастыі адзін я, на гаротнае засмучэнне бацькі і дзеда, выявіўся вырадкам. Стаў мастакоманімалістам. Тым, хто малюе звяроў.

Тата прымірыўся з гэтай здрадай толькі пасля таго, як, па доўгім роздуме, пераканаў сябе, што звяры — гэта таксама лес, што я аддаю перавагу замалёўкам у лесе, а не ў звярынцы. Ну, і яшчэ пасля таго — гэта, урэшце, справы не датычыцца,— калі работы мае да нябёс расхваліў славуты анімаліст Васіль Аляксеевіч Ватагін.

Але справа не ўва мне і не ў маёй працы. Яна сама гаворыць за сябе на выстаўках і ў музеях. Гаворыць менавіта столькі — ні болей ні меней,— сколькі мне ўдалося ў яе ўкласці. І настолькі, наколькі дазволілі мае здольнасці.

Справа ў тым, што з-за спецыфікі гэтай справы дом мой вечна быў поўны рознымі жывёлінамі. Пад ложкам мелі кватэру вожыкі, чарапахі, марскія свінкі. На ўсіх падаконнях акварыумы з рыбкамі розных парод (за імі, досыць беспаспяхова, спрабаваў палязаць мой сіямскі кот Васіліск). У доме — а ён у мяне на ўскраіне — заўсёды было некалькі сабак рознай пароды. У розныя часы жылі ў мяне ваўчаняты, малыя лісы, фенек, шчанюк чыты або гепарда. Дый ці мала яшчэ чаго! Не было толькі таго няшчасця, якое здарылася з нямецкім пісьменнікам Бёлем: у маёй ваннай ніколі не жыў бегемоцік. А так усякай жыўнасці хапала. І так, наколькі я памятаю, было з першай хвіліны, у якую я пачаў усведамляць сябе.

Успамінаю стары-стары, з дубовых брусоў складзены дом лясніцтва наводдаль ад нашага, і як восенню ён бываў укрыты звонкім і спявучым чырвоным лісцем, і як пазней, у зазімкі, пяшчотна серабрыўся яго шчапяны дах. І гэтае срэбра дымела і выпаралася на сонцы, і рэдкія кроплі падалі на ўспацелыя халодным потам гарбузы ў падстрэшку.

З нашага мезаніна былі відаць двухпавярховыя, з галерэямі, пуні, жораў студні, велічэзная сонна-кашлатая адрына. І яшчэ ўзятая ў зруб крынічка пасярэдзіне паплаўца. І — з правых вокнаў — стары мяшаны гай за домам лясніцтва, а вышэй, на градзе, медзянастволы мачтавы Зафееўскі бор, што цягнуўся на многія дзесяткі кіламетраў і вечна шумеў, памахваў небу.

А за вокнамі быў паплямаваны купамі дрэў поплаў, які спускаўся да старыка, а за старыком зноў ішлі паплавы і старыкі. Старыкі і паплавы, на якіх сям-там высіліся векавыя, сінія ад далечыні дубы. Недзе там, за апошнімі дубамі, дужа далёка, быў Дняпро і на другім беразе, калі праплысці чаўном кіламетры два, гарадок, у які ездзілі купляць неабходнае і, часамі, у госці.

Там мінула маё дзяцінства, і я ніколі не езджу туды. Бо ведаю, якой тугой сустрэне мяне гэты куток,

у якім я ўжо нічога не пазнаю, калі нават і зліта-ваўся з яго агонь вайны. Але нават калі і зліта-ваўся — там набудавалі, перарабілі, высеклі і насадзілі, а я хачу, каб ён заставаўся такі, які ён стаіць у маіх вачах: самы найлепшы для мяне куток Беларусі, якая для мяне зноў-такі найпрыгажэйшая ў свеце зямля.

Я паеду туды, хіба што адчуўшы набліжэнне канца, калі чалавек адчувае неадольную цягу аб'ездзіць усе мясціны, дзе калісьці жыў, тое, што прымушае шпака перад адлётам, з якога можна не вярнуцца, наведаць родную шпакоўню; тое, што прымушае мядзведзя абысці ў апошні раз свае ўладанні; тое, што яднае нас з усімі птушкамі і звярамі ў адзіным коле існага. І тады я зноў убачу бацьку на кані і палясоўшчыкаў, што рагочуць з ягоных грубаватых жартаў. І старога Марку, які вучыў мяне вабіць цяцерак, проста так, каб убачыць іх, і вучыў нацягваць на след і стойку сабаку, і браў з сабою на старыкі лавіць велічэзных бронзавых ліноў. І матку ўбачу, як спрытна яна кіруе таратайкай, запрагае каня, доіць карову або зімовай ноччу — было раз такое — страляе з ганка па ваўчынай гайні, якая хацела сцягнуць сабаку або ўдзерціся ў Маркаву аўчарню.

А пакуль што я не хачу ехаць туды. Больш за ўсё, шчыра кажучы, таму, што мне ўвесь час здаецца: вось прыеду, і выйдзе мне насустрач з лесу Бурык, Бурчынька, і засапе, і зарохкае, і будзе цягнуць таўшчэзную лапэту, кленчачы цукерку.

Глупства, вядома. Мінула з таго часу трыццаць год, і мой звер, вядома ж, даўным-даўно мірна заснуў у нетрах (мядзведзі моцныя і таму маюць на гэта права), калі толькі яго не забіла вайна.

Яго прынеслі мне ўзімку саракавога года. Прынёс палясоўшчык з Румеля, мужык з чырвонымі шчокамі, кучаравымі вялізнымі вусамі і саладзейшымі вочкамі колеру турэцкага тытуню. Палясоўшчыкі ўспаролі мядзведзіцу — тады яшчэ паляванне на мядзведзяў не было забаронена,— забілі яе, двух медзведзянят пабралі сабе, а трэцяга занеслі бацьку.

Той паставіўся да ўсяго гэтага страшэнна няўхвальна. Ён цярпець не мог непатрэбнага «ляснога разбою», хаця б ён і не быў забаронены дзяржавай.

— Матку страляць. Падурэлі мужыкі.

— Дык... яно... чорт яе ведае, хто яно там сядзеў.

А выскачыла, то было ўжо позна. Тут ужо ратуйся. Абуджаны мядзведзь усё адно прападзе.

— А я вось Піліповічу за гэта ўзгрэў дам. Не ведаць, дзе і які звер на ягоным участку.

— Дык малое ж усё адно шкада,— без усякай логікі сказаў румельскі палясоўшчык.— Не выкінеш жа на мароз.

— А які вы гэтаму маламу лёс прысудзілі? — спытаў бацька.— Дзікі — хай бы сабе й жыў дзікі сабе на радасць. А так будзе ні хатні, ні дзікі. Будзе цягнуцца да людзей, палохаць іх. Скуль жа ім ведаць, што ён мухі не пакрыўдзіць? Ну і нарвецца на кулю. Ці самім давядзецца застрэліць, ці ў звярынец здаць — таксама не цукар без свабоды.

На хвіліну навісла маўчанне.

— Ат,— сказаў Румельскі,— абы ваша галава не балела. Я ведаю спосаб, як зрабіць, каб у лес пайшоў. Толькі ўжо як возьмеце, то годзік трэба патрымаць, пакуль у сілу не ўваб'ецца. На правах, значыцца, пестуна. Не таго, вядома, Пестуна, што старызнікам у гарадку працуе, а звярынага, што маці дапамагае новы вымет выхоўваць. Сяголетніх. А то малое кожны пакрыўдзіць.

— Добра ўжо,— згадзіўся бацька.— А Піліповічу скажы, што як яшчэ такое з маткаю зробіць — я яму...

Румельскі, папіўшы чаю, пайшоў, а бацька сказаў Марку прыказку, той безнадзейны беларускі варыянт прыслоўя, што «будзе і на нашай вуліцы свята», якім суцяшае сябе наш чалавек, калі нічога, да пары, не можа зрабіць з моцным ворагам.

— Хрысціць хіба ў таго Піліповіча не пайду? Не ведаў ён. Закону ж няма, то што я яму магу зрабіць? Хіба сказаць, што вось «будзе і на нашай вуліцы мядзведзь...— не пушчу глядзець».

— Відовішча і сапраўды... цікавае,— пакпіў дзед Марка.— Вось бы народу збеглася. Дзіва! А Піліповіча турнуць. Прасіўся б, плакаў: «Пусціце зірнуць».

— То ж бо,— безнадзейна сказаў бацька.

Я чуў апошнія іхнія сказы, адшвэндаўшыся гадзіны тры па лесе і летучы на лыжах з узгорка да ганка нашае хаты.

— Сяргею Антонавічу прывітанне,— сказаў Марка з заўсёднай сваёй іроніяй.

— Хадзі, Сярожа, сюды,— сказаў бацька.

Ён трымаў у руках аблезлую заўчыную шапку і паказваў мне нешта жывое, што ляжала ў ёй.

— Шчанюк! — ахнуў я.

Шчанюк быў велічынёю з рукавічку, маленькі-маленькі, светлы. І вочкі былі ці то сінія, ці то проста з блакітнай каламуццю, як то бывае ў шчанюкоў. А дурныя ж, дурныя!

— Якой пароды? — спытаў я.

— Мядзведжай пароды,— адказаў бацька.— Гэта медзведзянятка.

— Такі малы? Смяешся, так?

Я шмат разоў бачыў мядзведзяў і не паверыў яму.

— Э-ех, Сяргейка, розуму ў цябе,— сказаў Марка.— А яшчэ лесавік. Мядзведзі ж узімку не ядуць. Вось мядзведзіха такіх і нараджае. Малака ім з напарстак трэба, і яны ўсю зіму амаль не растуць. Інačай высмакталі б ушчэнт. Здохла б матка з голаду. Затое ўжо вясной, як выйдуць на лясны хлеб, пачынаюць як на дражджах перці. Гэта ж не людзі прыдумалі, а натура. Тыя б неадменна прыдумалі нейкае глупства, дый яшчэ горшае, чым у Маркавічах, бо маркавічане хаця са сваёй дурнасцю за вёску не лезуць. А яна му-удрая!

Тады я яшчэ не ведаў анекдотаў пра нібыта фенаменальную дурасць жыхароў вёскі Маркавічы, беларускага Пашахоння, але першы ўрок аб мудрасці прыроды завучыў цвёрда і назаўсёды.

Мядзведзіка занеслі ў хату, і там маці, узяўшы яго на рукі, пачала мачаць палец у цёплае малако і даваць яму злізваць. Язычок у таго быў шэры і толькі ледзь-ледзь у ружовае. А пасля Марка вярнуўся з гарадка, з пакупак, і прывёз аранжавую, як апельсін, спрынцоўку, і тады справа ўвогуле пайшла на лад.

Мабыць, з той прычыны, што было ўдосталь пакарму, мядзведзік не стаў чакаць вясны, каб пачаць расці. Распірала яго, сапраўды, як на дражджах. Хутка мы пачалі даваць яму ўжо і крышаныя яйкі, і мёд, разбоўтаны ў вадзе. У гэтых выпадках ён асабліва чыста вылізваў сподак.

Спаў ён у маім мезанінным закутку на старым кажусе, пасцеленым ля грубкі, але часамі ўначы пачынаў так жаласна енчыць і квіліць, сумуючы па чымсьці, што я браў яго да сябе ў ложак, пад коўдру, хаця рабіць гэта мне забаранялі. Трапіўшы туды, ён

адразу супакойваўся і пачынаў цмокаць языком усё саладзей і саладзей, аж пакуль не засынаў, а тады ўжо толькі соп. А я баяўся толькі прыспаць яго, ненарокам наваліўшыся ў сне. Занадта ўжо ён быў малы.

Раніцаю бацька, каб не лезці па сходах, грукаў кіем у столь, і я хутка адносіў медзведзяня на месца... Часцей за ўсё ён і не прачынаўся пры гэтым.

А я, пасля ўсіх гэтых ненавісных умыванняў і парэчкавых чаёў, ставаў на лыжы і ішоў пяць кіламетраў у свой трэці клас. І заўсёды шкадаваў, што мядзведзь застаецца дома адзін. Узяць яго з сабой я, аднак, не наважваўся, інстынктыўна адчуваючы, што прысутнасць мядзведзя ў класе асаблівага захаплення ў настаўнікаў не выкліча.

Бурык рос, і ў маім пакоі зніклі аконныя занавескі, бо ён меў звычай караскацца на іх і гайдацца. І знікла сурвэтка са стала, бо ён двойчы сцягваў яе разам з чарніліцай і сшыткамі. Сшыткі ён акуратна дзёр на часткі, седзячы, як чалавек, на падлозе, беручы карэньчык у рот, а астатняе давяршаючы лапамі. І мне давялося хаваць сшыткі, і чарніліцу, і кнігі, і туфлі, што, між іншым, мела вялікае выхаваўчае значэнне. За год ён так прывучыў мяне не раскідваць рэчы, што жонкі і дагэтуль ставяць у прыклад мужам, маім сябрам, маю акуратнасць. У гэтым выпадку праклёны сяброў, па-мойму, павінны падаць не на маю галаву, а на галаву бедалагі Бурыка.

А той раскашаваў у вялізным доме. Аднойчы забраўся ў камору, перакуліў на сябе банку з мёдам, а пасля высыпаў на сябе мяшэчак з мукой. Калі яго заспелі на гарачым, ён з дзелавітым буркатаннем аблізваў з сябе мярзотную бела-аранжавую кашу. Аблізваў плечы. Здымаў гэтую кашу з дзіцячага, амаль голага, круглага пуза. Перакульваўся на спіну і стараўся злізаць гэта яшчэ і з тоўстых голых пятак.

Матка ахнула, схапіла яго за вуха і павалакла на кухню мыць у балеі. Я дужа баяўся, што бацька возьмецца за шпандыр, хаця ні мяне, ні сабакі, ні каня, нікога ён ніколі не біў. Так, матляне карбачом над крыжам каня, і той слухмяна пераходзіць у намёт.

— Ты не бі яго,— сказаў я.

— А чаго яго біць,— спакойна сказаў бацька і нібы растлумачыў: — Мядзведзь. Узялі, то цярпець

маем. Мёд — гэта ўжо вышэй за яго і за дысцыпліну. Гадзіць прывучылі за дзвярамі, а ўжо да гэтага, Сярожа, яго не прывучыш. Усё адно як дзённікі не дзерці. Праўда ж?

Я пачырванеў, бо і сапраўды аднойчы, грэшным чынам, назнарок пакінуў дзённік на стале. У дзённіку было першае маё «пасрэдна», адзнака, што адпавядае сучаснай тройцы. Карысці мне гэта не прынесла. Паршывец Бурык, як назнарок, падзёр у дробныя шматкі ўсе старонкі дзённіка, акрамя той, на якой была злашчасная адзнака.

Я быў досыць праўдзівы хлопец, бо мяне ніколі не каралі звыш меры і патрабавалі «толькі не хлусіць».

І тата ведаў, што я раскайваюся, а таму і пераввёў размову на іншае:

— Таму і імя яму — мядзведзь. Мёд ведае. Ведае, дзе мёд. Або мёдам ведае, як, скажам, Сялюк ведае райфа, я — лесам, Мурашэвіч — сельэлектрам, а Падута, скажам, дэпутат — Вярхоўным Саветам. Кожнаму свая пасада.

— Дык гэта ж пасада, абавязкі,— сказаў я,— мядзведзь. А імя яму як?

Бацька паглядзеў на мяне з цікавасцю.

— Глядзі ты, кеміць пачынаеш. Кораня шукаць. Гэта добра. Без гэтага, хлопец, толькі дурні жывуць... Хаця, магчыма, ім жыць і лягчэй. Толькі... мала ў гэтым гонару для чалавека.

Памаўчаў.

— Чуў, як Маркава бабця гаворыць? Ніколі не скажа «вадзянік», а заўсёды «зялёны» або «мокры падол», бо ў таго, хоць ён чалавекам прыкінься, заўсёды з падолу капае. І не «чорт», а «рагаты», і не «воўк», а «шэры пан». І калі сабакі зімой небяспечныя бываюць, то «паны, што на саломе спяць і зубамі ішчуцца».

— Гэта чаго? Чаму гэта?

— Забабонная. Верыць, што «пра ваўка размова, а воўк у хатку». А калісь так усе людзі баяліся. Вось і назвалі звера, «той, хто мёд ведае», мядзведзь.

— А сапраўднае імя забылі?

— Забылі. Мянушку за сапраўднае палічылі. Унь Маркава нават кліча яго «дзядзька», або «таўстапяты». Хіба толькі ўскосна можна адзначыць перша-

родную беларускую назву. Як называецца месца, дзе ляжыць?

— Барлог.

— «Бар-лог», «бара логава». Можа, і сапраўды зваўся ён калісьці, як у немцаў «Bär»? Агульнае было слова. Тым больш што і «барлог» у нас і ў іх падобна гучыць «Bärenloch», мядзведжы склеп. У нас жа таксама кажуць і «склеп» і «лёх». І, хутчэй за ўсё, менавіта немцы ў нас гэтае слова запазычылі.

— Не хачу, як у немцаў,— сказаў я.— Фашысты яны.

Бацька зноў зірнуў на мяне. Занадта ўважліва:

— Гэх, Сярожа-Сярожа. Далёка не ўсе яны і фашысты.

— То чаго ж тады?..— абурыўся я.

— Я вось усё думаю. Нарадзіўся б ты, скажам, там.

— Яшчэ чаго,— ускіпеў я.— Як гэта магло быць? Я — тут.

— Ну так, ты беларус. І гэта, павер, зайздросная бацькаўшчына. Ну, а раптам... Або проста нарадзіўся б там такі самы някепскі хлопец. І пачалі б яму талдычыць, што Гімлер — цаца, што Гітлер — бог. Не давалі б ні адпачынку, ні часу. Казалі б, што адзін ты такі на зямлі, што трэба вось другіх хлопцаў, бо ім не адкрытая праўда фюрэра, забіць. Дзяўблі б і дзяўблі. І ўдзяўблі б. Галава ў цябе доўгая, валасы і вочы светлыя. Будзеш высокі і стрункі. І глядзеў бы ты з пагардай і нянавісцю і на Маркава ўнука, бо ён паляшук чарнявы, і на Пінева Хоню і на Мамедава Асана з Татарскага Канца. А людзям, як і мядзведзям, усім патрэбна павага.

Памаўчаў.

— Многае, брат, можна ўбіць у галаву чалавеку. Часам — усё. Ну, ладна, нясвоечасовая гэта размова. Падрасцеш — пагаворым яшчэ.

І змоўкнуў. І наступная наша размова адбылася падчас вайны, калі я, заўчасна пасталеўшы, зведаўшы і небяспеку, і цану жыцця, сапраўды шмат зразумеў. Харошы быў чалавек мой бацька. І правільна, да канца правільна глядзеў на свет.

...Але пра гэта пасля. Вернемся да нашых мядзведзяў.

У тое лета я, ідучы з Маркам у лес, пачаў усё

часцей і часцей браць з сабою Бурыка. Спачатку той баяўся лесу, ціснуўся да ног, але з часам пачаў прывыкаць. Нават мог знікнуць, але як толькі крыкнеш, з усіх ног валюхаў да цябе, смешна матляючы віслым задам.

Марка спецыяльна, на вачах у яго, адкідаў і перакульваў камяні і калоды, браў чарвякоў, што спяшаліся ў зямлю, ды лічынак і харчыў імі Бурыка. Той аж чамкаў. З месяц нічога ў нас не атрымлівалася. І якая ж была радасць, калі ён упершыню паспрабаваў адцягнуць калоду. Невялікую. Ён быў гладзенькі, і сыты, і ўжо досыць моцны.

— Пакрыўдзілі мы яго,— сказаў Марка,— то трэба выправіць, як здолеем. Каб не збыткаваўся з яго лес, як выпусцім.

Аднойчы я заспеў яго, калі Бурык знайшоў цецеручынае гняздо. Узяў адзін прыемны круглы прадмет у пашчу — хутчэй як цацку — і выпадкова раздушыў. Выраз ягонай морды ў гэты момант немагчыма апісаць. Спярша нязмернае здзіўленне,— а куды тая цацка падзелася? — а пасля нечаканае ўразуменне, што гэта ежа, і смачная ежа.

— Дураў,— сказаў пра Марку тата.— Гагенбек. Цырк Чынізелі.

Той сапраўды паказваў дзівосы цярпення. Аднойчы, напрыклад, выкупаў мядзведзя ў Водры, а пасля падвабіў яго цукрам да бліжэйшага мурашніка. Паклаў цукар на ягоную макушку. Бурык палез па яго спачатку лапай, пасля мордай. Пасля пачаў адступаць і церці морду лапамі, і лізаць іх, і сліна, змешаная з цукровым сокам, цякла па лапах і жываце. І ён злізваў яе разам з мурашкамі. Марка зрабіў гэта некалькі разоў, і вось у адзін са днёў, калі Бурык раптам прыціхнуў у гушчары, дзед асцярожна паклікаў мяне.

Мядзведзік сядзеў ля мурашніка, слініў лапу і разграбаў гліцавую піраміду. Трымаў там лапу і пасля аблізваў яе. Без усякага цукру.

— Глядзі ты, сук-кін сын, як саабражае,— здзівіўся Марка.— Нездарма ж кажуць, што мядзведзі — гэта людзі, якія ў лес уцяклі, каб на чужога дзядзьку не працаваць... Каб прыганятага над імі не было. Цівуна... Ну, а ты чаго ж, Сярожка? Няўжо цябе даўжэй за мядзведзя вучыць трэба?

— Як?

— А так,— дзед зламаў дзве арэхавыя віцы і абабраў, абдзёр з іх кару.— Вось толькі горкага дрэва не бяры. Вольхі, скажам, асіны. А цяпер пасліні сваю,— ён паслініў белую віцу і, прысеўшы да мурашніка насупраць мядзведзя, паклаў віцу на паверхню конуса.— Кладзі і ты.

Мурашкі абляпілі хлюдзінку. Марка пачакаў хвілінку, страхнуў з дубчыка насякомых і чыстае лясное смецце і пачаў абсмоктваць яго, нібы на флейце граў.

Я зрабіў тое самае. Кісленькі, неймаверна прыемны смак адразу выгнаў сліну. Некуды знікла смага, што ўжо даўно мучыла мяне.

— Што, Сярожка? Смачнае мурашынае піва?

У Бурыка аж на зубах храбусцела. І так мы сядзелі трох ля мурашніка і раскашавалі, ласаваліся. Два чалавекі і мядзведзь.

...Да маліны яго і прывучаць не трэба было. Ён дужа цікава еў яе: абшморгвай разам з лісцямі, соваў у рот, чамкаў, аж заплюшчываючы вочы ад асалоды, а пажмаканае лісце пасля выплёўваў.

Так мы пражылі лета. А за ім прыйшла восень з яе жалудамі і брусніцамі. І зноў засерабрыўся дах пуні, а Бурык стаў вялы і сонны і не хацеў гуляць са мной.

Адразу за нашай хатай ужо з год ляжала яліна-вываРацень. Ніяк не даходзілі рукі распілаваць яе. А пасля бацька забараніў. Таму што ў яму пад карамі нанесла шмат сухой лістоты, і аднойчы ён убачыў, як Бурык залез у гэтую яму і топчацца, і топчацца там. Бацька загадаў мне кожны дзень, як прыйду са школы, награбаць граблямі два мяхі сухой лістоты і высыпаць туды.

Пасля лістота стала мокрая, пасля змерзлая, жорсткая, як шкляная, аж звінела, а Бурык пачаў часцей і часцей знікаць. Спачатку на дзень, пасля на дзень і ноч. Бацька сказаў, што гэта ён шукае траву і карэні, а можа, і змерзлыя мухаморы, каб выгнаць паразітаў, калі яны ў яго ёсць, інакш яны яго з'ядуць. І што гэта называецца інстынкт, памяць продкаў, бо ніхто Бурыка гэтаму не вучыў.

Пасля ён залез на дзень у свой барлог, але вылез, бо зноў стала цяплей. Пасля аж на тры дні. А аднойчы я з'явіўся са школы,— якраз выпаў першы сухі сня-

жок — і не ўбачыў яго, а тата сказаў, што ўначы той канчаткова лёг і што непакоіць яго ані ў якім разе не трэба.

Паваліў, паваліў снег, засыпаў нашу сядзібу, пуні, яліны ў лесе, стагі і ядлоўцавыя хмызы. Уставалі і клаліся пры газавых лямпах. Вечарамі стралялі грубкі, і зменлівы, бягучы водбліск бегаў па старонках кнігі. І мне было шкада, што за сцяной, не так ўжо і далёка, спіць у снезе мой звер. Хаця я ведаў, што ён добра ўпасвены, а ўкормленаму лёгка пераяжыць зіму.

Зрэдку я браў татаў бінокль і глядзеў на снежную гару вываратня, на цёмную адтуліну ў ёй і на лёгкі, амаль нябачны парок, што ў моцныя маразы віўся над дзіркай. Ён быў як міраж, і тата сказаў, што гэты міраж каштаваў жыцця не аднаму паляўнічаму, бо калі мядзведзь выскачыць з барлога, то ў гэтакай пары ён здаецца нібы вышэй, і таму стрэл заўсёды трэба крыху заніжаць, іначай справа можа скончыцца кепска.

— А ўрэшце, няма чаго табе думаць пра гэтую гадасць.

Я падзяляў ягоныя думкі.

...Бурык устаў, калі снегу было ўжо куды менш, чым зямлі. Увесь нейкі нібы аблезлы, з праваленымі бакамі, з вострай, нібы ў беспароднай свінні, мордай. Я не бачыў, як ён устаў. Толькі разрыты лаз — пуста глядзеў. На ўсход, як заўсёды ў мядзведзяў. Бацька супакоіў, што ён не ўцячэ, што гэта ён проста пайшоў пагрызці крушынавай кары ці яшчэ чагосьці, што яму трэба выгнаць корак, бо мядзведзі ўзімку не толькі не ядуць.

І сапраўды, на трэці дзень ён з'явіўся, крыху больш здзічэлы, але ўсё яшчэ свой. Мы далі яму хлеба, уціснуўшы ў бохан драбкі цукру, і ён захрабусцеў, як раней.

Цяпер ён часам знікаў на дзень, а то й на два, але заўсёды прыходзіў і канючыў ежу, бо ў лесе яе было яшчэ мала. Але паступова ўсё больш прыгравала сонца, сонечна закалыхалася між дрэў мора заечай капусты, выпаўзлі мурашкі, пярэстымі, як у фіялкі, падкоўкамі лісцяў рассыпаліся над ярамі падалешнікі. Ежы стала болей, і ён еў і ў лесе, і ў нас.

Сярод усіх людзей ён, па-ранейшаму, адзначаў

мяне. Нават узяў прывычку праводзіць мяне ў школу. Да ўзлесся. Страшэнна падрос. Калі ставаў на заднія лапы, быў ужо вышэйшы за мяне, і мне забаранілі дужацца з ім, бо ён у запале можа не суразмерыць сілы. Але ўсё адно мне было прыемна хадзіць з ім, ведучы яго за вуха, або паваліць і ўсперціся на яго. З таго часу заўсёды, калі я гляджу на ілюстрацыі да «Кнігі джунгляў», дзе Маўглі размаўляе з Балу, я заўсёды ўспамінаю яго і той час.

Пэўна, не адзін чалавек шчыкаў тады сябе за руку, убачыўшы, як купаюцца ў Водры або разам выходзяць на адхон хлопчык і мядзведзь, якога хлопчык вядзе за вуха.

Аднойчы ён да паўсмерці спалохаў нейкіх баб, што збіралі для аптэкі познія смаржкі і розныя зёлкі. І тады, каб не цягаўся за мной, вырашылі садзіць яго на ланцуг на тую гадзіну, што патрабавалася мне, каб дайсці да школы.

Тут і я зразумеў, што азначае ланцуг, калі выходзіў з лясніцтва, і неасцярожна азірнуўся, і ўбачыў ягоныя вочы і тое, як ён стаіць дыбкі і перамінаецца, і пераліваецца яго сытае, святлейшае колерам, пуза. І як ён цягне тоўстыя лапы. Не дай вам бог бачыць гэта, калі вы любіце звяроў і людзей! Гэта кажу вам я, даўно ўжо дарослы чалавек, які па глотку сыты сцэнамі смерці і тых, і другіх.

І тут здарылася тое, што прыскорыла нашу з ім разлуку. Калі праз дваццаць год я расказаў гэта знаёмаму натуралісту, ён сказаў, што недзе чытаў нешта падобнае. Мо ў Брэма, мо ў папулярызатара М. Хана, аўтара «Нарысаў з жыцця малпаў» і «Жывёлы нашых лясоў», а мо ў нейкім часопісе.

У Брэма гэтага не было. Хана я пасля гэтай размовы прачытаў і таксама не знайшоў нічога падобнага, акрамя баек пра тое, што мядзведзі могуць красці жанчын, і разважанняў, што «разве верность и преданность теряет свое высокое значение в человеке вследствие того, что и собака обладает этими благородными качествами», ды яшчэ сказамі накшталт таго, што «все существа... созданы и поддерживаются... согласно вековым... законам, установленным непостижимым для нас Творцом», што ў прынцыпе, наконт адзінства жывога, правільна, ды таго, што «не стыдится же никто из ученых или поэтов, стяжавших

громкую славу, что родился тем же путем, как и грубый невежа».

Але я нідзе не чытаў падобнага. А калі нешта такое і было — што ж, гэта азначае толькі, што жывёлы адной пароды ў схожых абставінах робяць схожыя ўчынкі.

Калі я адыходзіў, Бурык звычайна ляжаў, безнадзейна паклаўшы галаву на лапы. Я аглядаўся, бачыў яго, наш двор, пасыпаны жвірам, бэльку, што падпірала сцяну лядаштай пуні, і матку, якая стаяла на ганку, сыпала з рэшата зерне і клікала:

— Пылі-пылі-пылі-пылі!

Курэй у нас было шмат. І вось куры пачалі знікаць. Спачатку думалі: ліса. І толькі потым смурод выявіў за сабачай будкай цэлыя курыныя могілкі. А пасля ўдалося падсачыць, як гэты паскуднік Бурык зграбае жвір, устае на заднія лапы і паволі высыпае яго з пярэдніх. Няма птушкі, дурнейшай за курыцу. Тыя падыходзілі, і тут мядзведзь, цвёрда ведаючы, наколькі дазволіць яму гэта ланцуг, рабіў кідок і жыва скручваў курыцы вязы. А пасля закопваў за будкай. Ён у нас не быў прывучаны да мяса. Ды мядзведзі й ядуць яго свежым толькі вельмі галодныя, аддаючы перавагу тухляціне. Спецыяльна закопваюць мяса, каб пратухла.

І гэта рабіў ён, сыты, як ні адзіны звер ва ўсім Зафееўскім бары.

— Звярэе,— сказаў бацька.— Ну, Сяргей, хочаш не хочаш, а час развітвацца. Іначай будзе паскудна. Можа быць бяда.

...Вырашылі адвезці яго ў пятніцу, а ў чацвер здарылася тое, што старыя назвалі б «промыслам божым», а бацька сказаў, збялеўшы: «Ну, пашанцавала».

Я пайшоў у школу, а хвілін праз дваццаць Бурыку ўдалося сцягнуць з сябе нашыйнік. Ці то зацягнулі не на тую дзірку, ці яшчэ што, але ён круціў-круціў галавою дый вызваліўся. А вызваліўшыся, кінуўся даганяць мяне. Як адчуваў, што гэта апошні паход. А можа, і нешта іншае адчуваў.

Узлессе толькі-толькі засвяціла наперадзе, сонцам праз дрэвы, як я, азірнуўшыся, убачыў белы ажарэлак з клінам наперадзе, і механаты зад, які матляўся

з боку ў бок, і лапы, якія ён нязграбна выкідаў наперад.

Дагнаў і захукаў, засоп, забурчаў. І я вырашыў, што дазволю яму апошні раз давесці мяне да ўзгорка. Паклаў руку яму на загорбак і так, злёгку абапіраючыся, пайшоў далей. Так мы адышлі далёка ад лесу, калі я ўбачыў...

...Я не ведаў, што ў той дзень удалося вызваліцца не толькі аднаму Бурыку, што ў той дзень выкруціў з ноздраў кальцо яшчэ й саўгасны бугай Гром. Проста выпаў віінт, яно распалася на два паўмесяцы ў выглядзе лацінскага «S», і Гром датуль цёр пысай аб траву, пакуль не пазбавіўся ад адзінай рэчы, якой можна ўтаймаваць бугая, кальца, трымаючыся за якое нават сямігадовае дзіця можа весці жывёлу куды захоча.

Мой траюрадны брат Алік, сын дырэктара школы, і яшчэ два хлопцы пагналіся за ашалелай жывёлінай. Да таго часу Гром паспеў перакінуць на рагах цераз высокі хмыз пастуха, зламаўшы яму пяць рэбраў. Ад смерці таго ўратавала толькі тое, што бык, дзякуючы хмызу, згубіў чалавека з вачэй... І вось тры коннікі, сцёбаючы пугамі, дзве гадзіны ганялі быка, пакуль не загналі ў пустое гумно. Ім удалося зачыніць усе трое варот. Брат забраўся на бэльку, завязаў на ёй тоўстую вяроўку і пачаў спускаць другі яе канец, з бягучай пятлёй, туды, дзе соп, рыкаў і пароў паветра страшнымі рагамі бугай.

Яму пашанцавала закінуць пятлю на гэтыя рогі і зацягнуць яе, але тут звер, адчуўшы няволю, таргануўся, кінуўся наперад, і таўшчэзная вяроўка толькі дзынкнула, як перацягнутая струна. Брат, які ўсё яшчэ трымаўся за яе, ад рыўца не ўтрымаўся і лясянуўся з бэлькі проста пад капыты пачвары. На шчасце, бугай не зразумеў, што да чаго , і, не звярнуўшы на яго ўвагі, рынуўся наперад, высадзіў рагамі даўно не рапараваныя вароты і кінуўся бегчы. Пакуль сябры паднялі брата, пакуль той здолеў дыхнуць, пакуль лавілі коней і сядалі на іх — таго і след прастынуў.

— Страляць яго! — крычаў дырэктар.— Усё адно кроў пачуў.

— Не,— сказаў брат,— занадта гэта дарагая штука, чыстапароднае мяса.

— А заб'е каго? Ты адказваць будзеш? Ты яму кальцо ўвернеш?

— Зловім,— сказаў брат.

Прынеслі новыя вяроўкі, і тройца прыпусціла ў пагоню...

...Калі я ўбачыў, як наперадзе паўстала воблака пылу, і, матляючы галавой, каб скінуць з рогаў пятлю, падскокваючы на ўсіх чатырох і дугою выгнуўшы над зямлёй хвост, імчыць на мяне вялізная, як зубр, чырвоная пачвара швейцарскай пароды, зразумеў: уцякаць не было куды. Ад лесу я адышоў далёка, і вакол хаця б кусцік, хаця б яміна.

Я не спалохаўся тады. Проста ўсё ўва мне нібы скамянела. Бугай спыніўся: заўважыў. Налітыя крывёй вочы глядзелі на мяне, пена валіла з пысы. Ён рыў капытамі зямлю і напружваўся. І ўсё ніжэй апускаліся вострыя і бліскучыя, нібы паліраваныя, канцы рогаў.

Кінуўся з дзікім рыкам.

Я паспеў адскочыць. І яшчэ раз адскочыць. І яшчэ. Доўга такая гульня цягнуцца не магла. Ногі ў мяне пачалі павольна млець. І тут, калі Гром у чацвёрты раз кінуўся на мяне, з нечаканай хуткасцю мятнуўся на яго збоку, здавалася б, такі нязграбны, буры цень.

Бурык адвесіў цяжкай лапай удар па загорбку пачвары і раздзёр яго. Але нават не рана прывяла Грома ў прытомнасць. Ён урэшце заўважыў мядзведзя, зразумеў, з кім мае справу, адчуўшы ненавісны і страшны, дзікі, звярыны, лясны пах.

...Калі ўрэшце падскакалі коннікі, Гром адступаў, дрыжучы ад нянавісці і жаху, задкаваў, усё яшчэ капыцячы зямлю, але ўжо не асмельваючыся рынуцца наперад. Нізка рыкаў і адступаў перад зверам, які на задніх лапах наступаў на яго. Бугаю накінулі на рогі і на заднюю нагу распетлі і павялі. Бурык ішоў ззаду, як канваір, і давёў усю гэтую мілую кампанію да кузні, дзе Грому зноў укруцілі кальцо.

...Маці дазволіла адвесці мядзведзя толькі ў нядзелю, усе тры дні адкармлівала яго, як кабана, і калі мы вялі Бурыка ў машыну — дырэктар, у падзяку за бугая, даў дзеля гэтага старэнькую саўгасаўскую палутарку,— цалавала яго ў морду і плакала.

Звера завялі па сходцах у кузаў. Бацька і я селі побач. Марка — у кабіне з шафёрам. Мядзведзь

устрывожыўся было, калі затурчаў матор, але хутка супакоіўся. Глядзеў маленькімі вочкамі, як плылі назад лясы, і бліскучая, нібы цыратавая, цюпка яго-нага носа рухалася: чытаў баравыя пахі. Мне было да болю шкада расставацца, але я разумеў, што ён увесь час аддаляецца, што хутка пачнуцца мядзведжыя гульні, што мядзведзя майго цягне да сабе падобных і яму там будзе лепей, чым сярод нас. Усё ж ён быў народжаны для свабоды.

Мы адвезлі яго за пяцьдзесят кіламетраў, у самы глухі кут, дзе найчасцей сустракалі мядзведзяў, выпусцілі, агладзілі яго і пайшлі да машыны. Некалькі разоў ён імкнуўся быў за намі, але пахі першабытнага лесу перамагалі, і ён усё аддаляўся. Бацька і Марка ўбачылі, як ён праводзіць нас позіркам, і далі ў паветра некалькі стрэлаў. Тады ён пабег трушком і знік сярод дрэў. Марка схадзіў і праверыў: гною не было. Значыць, спалохаўся, але не да хваробы.

Машына аддалялася. І я марыў, што вось будуць суніцы і чарніцы, будуць маліны і слімакі, а там жалуды. І ён жа ведае, як зімаваць. І жонка ў яго будзе, і дзеці. Усё яго чакае, а галоўнае — свабода.

...Праз некалькі тыдняў немцы бамбілі гарадок. Першыя бомбы трапілі ў пошту, універмаг, тэатр. Палясоўшчыкі казалі, што звяры скопам перакачоўваюць ад шуму і ад дарог у нетры лясоў. І адзіным слабым суцяшэннем сярод усеагульнага гора мне было тое, што звер, якога я любіў і які ўратаваў мне жыццё, цяпер напэўна не пойдзе да дарог, на якіх выбухаюць бомбы і гудуць танкі, над якімі праносяцца на брыючым самалёты.

На другім тыдні вайны мы ўсе пайшлі ў лес.

Не буду расказваць, як стварыўся ў нашым раёне адзін з першых атрадаў, якія памылкі па нявопытнасці былі дапушчаны, як гэта скончылася ледзь не поўным разгромам, як рассеяныя рэшткі атрада, перасседзеўшы небяспечны час, зноў пачалі збірацца ў адно. Не буду казаць і пра тое, як я быў сувязным. Для мяне, дванаццацігадовага падлетка, гэта было — у параўнанні з сувязнымі дарослымі — лічы што бяспечна. Калі, вядома, не спаймаюць на гарачым. Што расказваць? Пра гэта ўжо столькі пісалі. Дадам толькі яшчэ некалькі слоў.

...Восенню сорак другога года мы з дзедам Маркам

прабіраліся лясамі на сувязь. Абодва ў кужалі і шарачку, абодва з торбамі. Марка, што адпусціў сівую бараду, сапраўды быў падобны на старца, а я быў у яго павадыром.

У нас і «легенда» была някепская. Бацька з маці «загінулі ад бомбы, а Марка, шкадуючы, падабраў мяне». Прыдрацца не было да чаго.

Лес быў увесь засыпаны звонкай сухой лістотай, залатой, іржавай, чырвонай, вішнёвай. Яна шастала пад нагамі і аж звінела, калі праносіўся подых ветру: мільёны лімонных і вінных матылёў узляталі ў паветра і мільгалі між дрэў.

І вось калі мы падыходзілі да яра ў вярхоўях Воды (з яра якраз выбівалася крынічка, што ўпадала ў яе), Марка раптам паклаў мне на плячо руку і спыніў.

Яр быў ледзь не па самы верх засыпаны лістотай. Зрабі крок — і ўтонеш. І дрэвы ўсё дабаўлялі і дабаўлялі ў яго золата і чырвані. І, мабыць, гэты шолах даў нам магчымасць падысці непачутымі так блізка.

На тым беразе адвальваў тоўстую, зялёную ад моху калоду магутны буры мядзведзь. Віслы зад, страшныя крываватыя пярэднія лапы, куды таўсцейшыя за заднія. І нават адсюль было відаць, як пераліваюцца мускулы на вялізным падвойным загорбку.

Калі ён адваліў калоду, сеў і пачаў выбіраць з-пад яе нешта і чамкаць, я ўбачыў белы ажаролак, і радасць гарачай хваляй абліла маё сэрца: «Няўжо ён? Ой, не ён. Ой, вядома ж, ён!»

— Бурык! Бурчынька! — шэптам паклікаў я.

Марка паклаў мне далонь на вусны. А мядзведзь насцеражыўся, і сеў, і стаў паводзіць сваёй цюпкай, і зыркаць ва ўсе бакі. Але паветра веяла ад яго на нас, а заўважыць нас ён не мог (мядзведзі кепскавата бачаць). І я маўчаў. Тады ён вытаргнуў, як мне здалося, амаль прызыўнае кректанне. Ласкавае, жаласнае, падобнае на мурканне. Ці, можа, я хацеў у гэта верыць?

Мы маўчалі, і паступова ён супакоіўся, даеў тое, пад калодай, і павольна, пераравальваючыся, завалюхаў у нетры. Павеў ветру ўзняў між ім і намі чырвоназалатую сець. Пасля лістота пасыпалася з урвішча на дно яра. Мяккім хвалістым вадаспадам. І лісце нібы празвінела наўздагон яму. А пасля стала ціха.

Мінула вайна. Я даўно скончыў мастацкі інстытут, і даўно працаваў, і дабіўся вядомасці. Калі часам да-

водзілася ўспамінаць пра тыя дні, я пераконваў сябе, што звер мой стаў мацёрым магутным мядзведзем, «дзедам» і «прадзедам», патрыярхам вялікай мядзведжай сям'і, і мірна заснуў ад старасці недзе на сонечным, укрытым кветкамі схіле.

Так цягнулася да таго часу, аж пакуль мяне не запрасілі мастаком на фільм пад назваю «Гісторыя аднаго мядзведзя». Рэжысёру «в порядке бреда», кажучы словамі ідыёцкага кіношнага выразу, здалося, што цікава будзе ўвесці ў гісторыю мастака-анімаліста (нехта расказаў яму пра маю кватэру якраз, калі творцы марна імкнуліся выціснуць нешта з галоў), да якога трапляе мядзведзік Туп. Я не бачыў прычыны, каб адмаўляцца і не дапамагчы майму сябру-аператару, які дужа прасіў мяне. Акрамя таго, у фільме мне трэба было рабіць амаль тое, што і ў жыцці: маляваць, карміць звяроў, гаварыць з імі. А я навучыўся гэтаму за дваццаць пяць гадоў практыкі.

Там я і пазнаёміўся з Тупам і з ягонай сястрой, дублёршай Тапай. Здымаліся яны цераз дзень. У сястры быў злосны і сварлівы характар, і таму, калі здымкі падыходзілі да канца, яе завезлі ў запаветны лес і выпусцілі, прычым яна нават не азірнулася на людзей, урачыстай хадой аддаляючыся ў пушчу.

А Туп быў поўнай процілегласцю і таму быў агульны ўлюбёнец.

Яму дазвалялі лізаць мёд, забірацца ў гарачыя дні ў рэфрыжэратар і храбусцець там лёдам. Нават свавольствы яму дараваліся за яго рахманы і пяшчотны характар. Акрамя таго, ён меў прывычку, калі яго возьмуць на шворку, учыняць бег на месцы, у якасці доказу свабоды сваёй волі. Ён увогуле любіў свабоду.

Калі здымкі скончыліся, яго аддалі на станцыю юных натуралістаў, і я ўзрадаваўся, што не ў звярынец. Прасторныя пакоі, вялікі парк, дзеці, якіх ён любіў і, падобна разумным сабакам, ніколі не крыўдзіў.

І вось праз пару месяцаў я прыйшоў на студыю і, ідучы вялізным няўтульным здымачным павільёнам, дзе выбухалі галасы, ляскала жалеза, грукаталі малаткі ў руках рабочых, рухаўся кран і ўсё было заліта мёртвым, бязлітасным святлом дзігаў, я ўбачыў у куце, сярод хламу, вузкую і вельмі нізкую клетку, у якой, на тоўстым пласце гною, ляжаў сціснуты з усіх бакоў, страшэнна брудны Туп.

— Гэта яшчэ што? Чаму ён тут?

— А,— сказаў аператар,— сволачы. Ён жа да пяшчоты прывык. А тут знайшліся раздураныя вырадкі, пачалі дражніць, цягаць. Я яго ведаю, ён да канца цярпеў. Ну, а пасля цапнуў нейкага. Так проста, узяў у пашчу, нават следу не было. Напалохаць хацеў. Я ж ведаю, значыцца, зусім сілаў не стала трываць.— Друг аж кулакі сціснуў.— Ну, тут манька ў кулонах — адзадак, як ступа, а мазгоў і напарстку няма. Як жа, рабёнка пакрыўдзілі. Ну, тыя і вярнулі.

— То чаму ў запаведнік не аддалі?

— Грошай, кажуць, няма. Ну, мы кажам: не трэба, вазьміце так. А яны: звініце, але трэба дакументы, адчотнасць. Гэта імушчаства... Вось і цягнецца гэтая «справа аб імушчастве» месяц. І папомні, яшчэ два месяцы будзе цягнуцца. А звер мучайся.

Туп пазнаў мяне. А вочы ягоныя глядзелі з такой смяротнай, не звярынай, а амаль чалавечай тугой, што мне раптам сціснула сэрца. Нібы гэта не малы чатырохногі артыст пакутаваў тут, а той, даўні, што ўратаваў мне жыццё. Такі горды і вольны звер быў кінуты зараз у клетку, у гной, у подлае і ганебнае рабства.

— Давай шворку,— сказаў я, адчыняючы клетку.

— Ты што?

— Давай, трасца іхняй праклятай матары. Не патрэбен стаў — забылі. Як чалавека. А ён з намі і пад дажджом, і па снезе. Гэтак многіх... спісаць можна. Ён жа здохне тут, пакуль яны... з «імушчаствам...».

Я вывалак яго з клеткі, і ён, узрадаваны, стаў дыбкі і «абняў» мяне, запэцкаўшы зялёным гноем мой блакітны світэр. Мыкаў і лізаў-лізаў мне аблічча. Здорава падрос, быў ростам з мяне амаль, а я вымахаў не на хлопчыка з мізінчык. І галава была вялікая, з вялікай пашчай.

Я вывеў яго на двор, пакачаў па снезе, каб хаця крыху ачысціць — снег у тым месцы стаў амаль чорны, нібы на ім выбівалі дыван, і павёў дваром да прахадной. Вахцёр паспрабаваў быў затрымаць мяне, але не дужа заўзята, бо Туп у калідорчыку стаў дыбкі і забурчаў, нібы разумеючы, што гэты заслон пахне зноў клеткай. Службіст, нібы сам сабою, адско-

чыў з дарогі і толькі прабрахаў мне наўздагон нешта здзеклівае.

— Слухайце,— сказаў я,— мне нічога не каштуе зняць шворку. На такіх турэмшчыкаў, як вы тут, трэба по закону спускаць мядзведзяў. Вось пачакайце, унясу законапраект.

Ён закрыўся знутры. Мы з сябрам зарагаталі, і я павёў Тупа да прыпынку таксі. Я павінен быў зрабіць дзеля яго тое, што хацеў зрабіць. Хаця б у памяць Бурыка і ў знак таго, што людзі вінаватыя ва ўсіх смяротных грахах перад звяр'ём.

— Я патрымаю яго ў сябе, пакуль не дамовяцца з запаведнікам.

— Угм,— сказаў сябар.

Ля віннага магазіна прыяднаціся да нас яшчэ два дружкі: гукаапаратар і асістэнт апаратара. І так упяцёх мы падышлі да стаянкі таксі з самотнай «Волгай» на ёй.

— Чацвёра,— сказаў я таксісту.— Законная колькасць. Парушэння правілаў няма.

У таксіста палезлі на лоб вочы, калі ён убачыў Тупа:

— А г-гэта?

— Мале-енькі сабачка,— нявінна сказаў апаратар.— Малю-юсенькая бясшкодная істотка.

Таксіст збіраўся газануць, але перамагла цікаўнасць.

— Шчыры друг чалавека,— сказаў я.— Ніхто не асмеліцца абразіць яго, выказаць хаця б цень сумлення ў тым, што ён бязвінны, як верабейчык.

Я ведаў, як мядзведзі любяць смактаць лапу, не сваю, дык чужую, і часта вытвараў такое — як з Бурыкам, так і з Тупам. Закасаў рукаў світэра і працягнуў локаць Тупу.

Да самага локця, ну, ва ўсякім разе, дзюймы на тры вышэй кісці, змясцілася ў ягонай пашчы мая рука. І ён пачаў смактаць яе, стогнучы ад асалоды.

— М-мну... м-му... М-м-мну-м.

Ніякай небяспекі тут не было. Я ведаў, што калі ён забудзецца ад шчасця, не суразмерыць сілы і пачне сціскаць сківіцы — досыць злёгку ляснуць яго далонню другой рукі па мордзе, каб ён апамятаўся і, пяшчотна-вінаваты, адпусціў. Але ж шафёр гэтага не ведаў. Ён бачыў схаваную ў пашчы руку і трохкутныя

белыя зубы, сантыметра на чатыры даўжынёй, бачыў, як зубы труць, нібы перапілоўваючы.

— Пане мой божа, на ўсё святая воля твая! Вы з цырка? Выньце, выньце, калі ласка!

— Н-не выну, пакуль не павязеце. Бясшкодная, маленькая тварынка. Мініяцюрны калматы сабачка. Скочтэр'ер, не, нават балонка. Ціхенька ляжа ў нагах на радасць міліцыянеру, які надумае правяраць. Улічыце, небяспекі ніякай. Падумае, што звар'яцеў. Тры рублі за дастаўку сабачкі на вуліцу рэвалюцыйнага дэмакрата Міхайлава.

— А чорт бы з вашымі грашамі,— ускіпеў таксіст.— Цягніце яго хутчэй на задняе сядзенне, пакуль не бачаць.

Я вызваліў руку, укрытую густой зялёнай слінай, і выцер яе снегам. Мы паклалі Тупа ў праход між пярэднім і заднім сядзеннямі і, не без выгоды, размясцілі на ім свае ногі.

— Хай яго, можа, вы і сапраўды дасцё яму зноў сваю затычку,— сказаў таксіст.— Хаця не. А раптам падкіне на яміне. Трымайце толькі за галаву. Дасць бог, можа, усё і абыдзецца.

Шафёр гнаў, уцягнуўшы галаву ў плечы, але зрэдку хмыкаў, відаць, задаволены і заінтрыгаваны. Добра, што мы пад'ехалі да майго дома ў прысмерку і ў двары не было цікаўных. Шафёр, калі мы выцягнулі Тупа, настолькі акрыяў духам, што гулліва спытаў:

— А шчанючка б?

— На жаль, фізіялагічна немагчыма. Кабялёк. Вось павяжам, можа, тады.

Таксіст загыгыкаў і рвануў з месца.

...Жыў я тады ў кватэры на пятым паверсе. Мы ўсцягнулі звера туды і перш за ўсё накармілі. Я схарчыў яму бохан хлеба, паліты паловай банкі згушчонага малака, а пасля спаіў два пакеты малака звычайнага. За гэты час наплыла ванна, і мы, распрануўшыся да трусоў, агульнымі сіламі перавалілі яго туды. Ён ведаў толькі летняе купанне ў рэчцы і таму спачатку ўзвыў ад гарачаватай вады, як грэшная душа ў пекле. Але паступова пачалі адыходзіць лапы — мядзведзі ж не прыстасаваныя бадзяцца па снезе, бо ў іх голыя пяткі,— і ён супакоіўся.

Чатыры разы давялося яго мыліць, пакуль чацвёр-

тая вада не стала празрыстая, а мыльная пена белая. А пасля я расшчодрыўся і закаціў яму пятую ваду з «Бадусанам», і ён блажэнна ляжаў у пене, цяпер ужо зялёнай і пахнучай лесам, і сніў пра верасовыя паляны ў векавых соснах.

А пасля мы насуха выцерлі яго, узвалілі на тахту, укрылі посцілкай, так, што стырчала адна галава — так нам здалося больш смешна,— і ён засоп, салодка, як немаўля. А мы селі да яго спінамі і распілі дзве бутэлькі каньяку за Тупа, за яго шлюб з Вялікай Мядзведзіцай і за хуткае з'яўленне Малой. Словам, за ўсё, за што п'юць мужыкі, калі яны адчуваюць, што непасрэднай прычыны для выпіўкі няма, а што яны проста харошы народ.

...Другі мой мядзведзь пражыў у мяне два с палової месяцы, і, слова гонару, гэтыя месяцы былі адныі з лепшых месяцаў у маім жыцці. Слаўна нам жылося. Ён пасыцеў, поўсць стала льснянай і чыстай. Любіў качацца ў снезе і купацца. Спаў ля батарэі, але часам клаўся да мяне ў ногі і ўпарта не хацеў злазіць з тахты. Я ведаў, што ён ніколі не зачэпіць мяне, ніколі не азвярэе, што гэтыя сталёвыя простыя кіпці, толькі злёгку сагнутыя на канцы, ніколі не ўдараць: звяры ўмеюць помніць дабрыню. Але што я мог зрабіць? Улетку я заўсёды ад'язджаў на некалькі месяцаў маляваць, і на каго я мог пакінуць яго ў горадзе? А ўзяць і вазіць з сабой?..

Мне заставалася суцяшэнне, што я даў яму пару месяцаў харошага жыцця, якое нічым не было азмрочана. Хіба што спачатку, дні тры, маёй маўрскай мартышкай па мянушцы Лявонька, а калі паважліва, то Леанідам Юльевічам, таму што прынеслі мне яго ў ліпені.

Сусед мой па пляцоўцы, аднак, зваў Лявоньку часцей за ўсё лацінскай відавой назвай cercopithecus fuliginosus, рыпучай у першай частцы і намякаючай — у другой. Ён быў вучоны чалавек, сусед.

— Фулігінозус ты.

І прыбаўляў:

— Экая преподлая обезьяна!

Малпа была, сапраўды, падлючая... Варта было засмяяцца з Лявонькі, і ён у адказ круціў пальцам ля лба. Пакрыўдзіць нехта — і ён, калі прыйду я,

скакаў да мяне і лапатаў на вуха нешта ярагнае. «Наводзіл ябеду» — па словах таго ж суседа.

Паспрабаваў Лявонька даводзіць сваімі подласцямі і Тупа, але той урэшце страціў цярпенне і так рыкнуў на яго, што бедалага ўзляцеў на шафу і, дрыжучы, сядзеў там з гадзіну. А назаўтра я застаў ідылічную сцэнку: Леанід Юльевіч сядзеў на мядзведзі і з самым падхалімскім выглядам перабіраў ягоную поўсць, хаця нічога там не было і быць не магло.

Заўсёды так з гэтымі нахабамі. Гаркнеш — і стануць лізаць. Так што і тут усё абышлося як найлепей. І я рад быў, што звер уратаваны, што яму добра.

А на пачатку мая выйшла нарэшце згода наконт «маёмасці», і я завёз Тупа ў запаведнік і пакінуў там. Жыць на волі і для волі.

Недзе праз год з'явіўся да мяне чалавек, які пабываў «непадалёк ад запаведніка». Адзін з тых някепскіх увогуле людзей, якія, аднак, больш за ўсё любяць перадаваць вам жа непрыемныя для вас чуткі і плёткі пра вас.

Ён і перадаў мне, што Тупа застрэлілі. Спачатку нібыта ён выйшаў проста на дзевяцігадовага хлопчыка і пяцігадовую дзяўчынку, якія збіралі маліну. Хлопчык павёў сябе па-геройску: уцёк, кінуўшы сястру. А калі прыбег з дарослымі — мядзведзь і дзяўчынка гулялі. І ён нават хацеў пайсці, але яна чаплялася за яго і смяялася. І хаця ён вырваўся б і ад дзесяцёх дарослых — ён цярпеў.

Тупа занадта добра ведалі і на гэты раз нібыта «даравалі». Але хутка здарыўся канфлікт «міжнародны». Яго панесла на нейкую замежную дэлегацыю, і там ён задумаў пагуляць ужо не з дзіцем, а з дарослай сцервай, якую вызвалілі ад яго ў стадыі моцнага шоку.

Я прыкладна ўявіў сабе, як магло адбыцца такое «вызваленне». Мядзведзі пачасту паміраюць, як людзі, стогнучы і прыціскаючы лапу да раны. І грызучы зямлю. І ў ціхім непаразуменні адыходзячы на ёй. Каму ўжо і ведаць гэта лепей за мяне, паляўнічага, сына і ўнука паляўнічых? І менавіта таму я з'еў бы жыўцом усе гэтыя паляўнічыя заказнікі, запаведна-паляўнічыя гаспадаркі на качыных азёрах,

дзе звер адзін супраць многіх узброеных, і ўсё такое іншае. Паляванне толькі тады паляванне, калі яно адзінаборства. То што ўжо казаць пра звяроў, якіх мы кідаем у рабства, прывучаем любоўю, а тады забіваем толькі за тое, што яны любяць нас і шукаюць нас.

Было гэта так, як быццам я сам адвёў сябра ў камеру смяротнікаў.

Чаму я не меў магчымасці прывучыць яго, як таго, першага? А дзе я мог яго прывучыць? У каменнай клетцы, куды яго сілаю ўзялі з вольных лясоў? Чаму той, падчас вайны, калі людзі звярэлі, гатовы быў пазнаць мяне, калі б я паказаўся? Толькі таму, што на яго не шкадавалі цеплыні. І дзе яна была ў гэтых, з «імушчаствам»? Куды яна падзелася?

Пасля, праўда, мне расказалі зусім іншае. Той самы апаратар, з якім мы купалі Тупа. Я расказаў яму пра чутку, і ён сказаў, што гэта лухта, што мой звер ходзіць і зараз. Але я баюся гэтаму паверыць. Ён ведаў мае адносіны да мядзведзя і як чалавек душэўны і тактычны мог схлусіць.

Часам я ўсё ж сню, як малады мядзведзь ідзе лесам, выварочваючы калоды. І сыплецца на яго віна-чырвонае і залатое лісце. І выходзіць яму насустрач сівы патрыярх, той, першы мой мядзведзь. Яны сядаюць ля мурашніка, і побач з імі сядаюць бацька, дзед Марка і я, ці то яшчэ падлетак, ці ў сённяшнім веку. У іх лапы, у нас дубчыкі ў руках. І мы, усе жывыя, сядзім за адным сталом, і ападае-ападае на нас лістота.

Так, былі ў мяне мядзведзі.

І менавіта таму мне ўсё цяжэй і цяжэй робіцца адбіраць у жывёл свабоду — адзінае, дзеля чаго існуе ўсё чыста жывое на зямлі.

## КРАІНА ЦЫГАНІЯ

Параходзік звярнуў з Прыпяці ў Стрынь і прайшоў яе звілістым рэчышчам аж дзесяць вёрст спецыяльна, каб высадзіць мяне ў Завід-Гарадку. Прайшоў — пад

мат рулявога — дзеля аднаго мяне, а рака была як змяя, што звіваецца, круціцца і штохвілінна спрабуе сама сябе ўкусіць за хвост.

Такі «спецрэйс» не быў такой ужо рэдкасцю для гэтых спрадвечных глухіх мясцін Палесся. Тут зямля не давала абвіць сябе дарогамі, дый тыя, што былі, заліло летняй повенню: у Карпатах і на Валыні гулі дзікія злівы, і беларускае Палессе захлыналася. Заставаліся нялётнае ўжо тры дні неба і першабытны вадзяны шлях.

...Сорак вёрст давялося б мне тупаць сюды да бліжэйшай прыстані, Уласт-Гарадка. А ў мяне быў рукзак з рэчамі і акрамя яго бліц, штатыў, экспанометры, безліч плёнкі. А яшчэ апараты: «Зеніт-Е», «Салют» з усёй оптыкай, з усімі гэтымі тэлевікамі і шырокавугольнікамі (а важыць гэтая бандура з прындаламі восем кіло) — ды яшчэ цудоўны нямецкі «Лінгоф» і ўлюбёнка мая, непараўнаная японская «Мамея».

Капітан — добры хлопец — проста пашкадаваў мяне, дай бог яму здароўя.

...Туманным чэрвеньскім ранкам я сышоў па сходнях на бераг, проста пад сівыя, карказломныя валы старажытнага гарадзішча, на якіх варушылася трава і вісеў вэлюм туману.

Гасцініцу атрымаў лёгка. Гарадок не толькі не быў ужо «Трэцяй сталіцай» магутнага княства, а і раёнам перастаў быць. Таму я сюды і трапіў, прашвэндаўшыся пяць год па цэнтральнай і заходняй Беларусі, а пасля па Палессі: шукаў, чаго тут яшчэ не затапталі.

Я адвык ад дому, але не скардзіўся. Гэта быў мой хлеб, і ён быў смачны мне. Я нібыта ратаваў старое Палессе, ягоныя хаты і драўляныя цэрквы, уборы, касцёлы, каб не патанула ўсё гэта на дне рэк сваіх і азёр.

...У чайнай сядзелі звычайныя палескія бабы з «крэндалем» на галаве, балбатлівыя маладзіцы ў белых фартухах паўзверх расшытых сукняў, сівавусыя дзядзькі. Пілі дрэннае піва. А сярод іх я заўважыў некалькі цыганскіх сем'яў: дзяцей у кожнай было, як снапкоў, і мяса яны бралі з місак мурзатымі лапкамі... Ну і што?.. І толькі выйшаўшы на вуліцу, я нязмерна дзівіўся: плошча перад чайной, чэзлы скверык — усё гэта рдзела, як майскі букет. Сінь, зе-

лень, залацістасць шаўкоў, срэбнасць намістаў, дымная чырвань шырокіх сукняў, медзь твараў.

Цыганоў было куды больш, чым мясцовых, што з-за дамоў з ласкавай, іранічнай палескай цікавасцю глядзелі на ўсё гэта.

Я ішоў здымаць драўляную царкву XVII стагоддзя, адзінае, што мне трэба было зняць, ды назаўтра і ад'ехаць. На вулках быў тлум і не тое каб ціша — цыганы і ціша! — а прыглушанасць шуму. Толькі дзеці абступілі мяне, як камары:

— Дзядзька, паздымай! Дзядзька, паздымай! — і, калі зняў:

— А кеды́ фо́ткі?! А кеды фоткі?!

Цікаўныя палескія цёткі ішлі «ў адну дарогу» са мной:

— А што, і вы цыган?

— Нешта накшталт таго. Ды што ў вас тут робіцца?

— Цыганы гадавую спраўляюць. Год назад тут іхні адзін утапіўся. Кажуць, самы вярхоўны іхні цыганскі суддзя. Аркестра будзе. Сабраліся з усёй чыста зямлі. Бацюшко дазволіў ім на могілках трызну правіць. Адных курэй дзвесці штук насмажылі, трох кабаноў купілі. Гарэлкі — мора. Нічога, не сваволяць.

Я ледзь адвязаўся ад іх. Пайшоў пад вязамі і ліпамі паўз хаты — на франтонах іхніх быў палескі сімвал сонца,— паўз пратокі і каналы — проста на могілкі да Юраўскай царквы. Трохзрубная, з трыма шатрамі даху, яна аж танула ў бэзе і вішняку пад каравымі векавымі хвоямі.

Паздымаць мне, аднак, так і не ўдалося. Грымнуў жалобны марш. За агароджаю рухаўся на новыя могілкі цыганскі натоўп. Я хацеў быў зняць яго — калі яшчэ такое ўбачыш — і баяўся: яшчэ ў кішэнь накладуць. Пабойванні былі, аднак, дарэмныя. Да мяне падышоў змрочны дзядзька з касымі вачамі, у якіх жыла, здавалася, уся журба свету, і папрасіў:

— Здымі, друг. Харошы быў чалавек. Здымай.

І пачалося маё звычайнае: на дрэва — на агароджу — зноў на дрэва — ледзь не пад аскаленыя, пенныя конскія морды.

Сівы Мафусаіл наперадзе нёс ікону, абвітую ручніком, за ім сталыя цыганы, змаршчакаватыя бабці,

шалёна прыгожыя дзеўкі. Пазвяквалі намісты, хваляваліся, як мора, сукенкі — вішнёвыя, гранатавыя, язмінныя, сінія, як бэз. І ўсё гэта было жыццё, хаця і крочыла ў месца смерці. Ехалі на вазах зусім расслабленыя і старажытныя, трымаючы на руках немаўлят. Вялі пад цуглі варанога цмока-каня, які страшна скаліўся, выкатваў вочы і, здавалася, не дакранаўся капытамі зямлі.

— З канём! З канём сфатаграфуй! Яго конь! А-а-ай і конь-конь!!!

Блішчалі бляхі збруі. І сумная, апошняя была песня колаў на апошнім шляху.

Яшчэ з дрэва я заўважыў у натоўпе, што скідаўся на медны, залаты і чырвоны жар, адзіную белую пляму, а калі ўшчаміўся ў натоўп — убачыў, што гэта дзяўчына або маладзіца. Убор яе не ўвесь быў белы. Сукенка ў дробныя складкі — напалову палеская, напалову цыганская — была яркая, аж вачам балюча. І толькі вышэй яе была вельмі шырокая кофта з белых карункаў. З намістаў-мірыкляў, як сцябліна дзівоснай кветкі, вырастала шыя, валасы былі цяжкія, цёмна-каштанавыя, амаль чорныя. Рот дзівоснай свежасці, паўнаваты і белазубы. Нос смелай формы, з нервовымі ноздрамі. І цёмныя вочы — ні ў кога на зямлі я яшчэ не бачыў такіх выразных вачэй. І такой ганарлівай, такой усходняй, такой каралеўскай хады. Нібыта шар зямны, без ніякай натугі, нясе на галаве. І ясна, што не табарная, а з аседлых. Не змучанае, не змарнелае, не спечанае ўшчэнт сонцам, здаровае, чыстае, уходжанае цела.

Сумна ўсміхнулася аб'ектыву, адразу ж іншай стала пастава і хада. І гэты рух, і гэты боскі выгін клуба.

Я пайшоў у натоўпе непадалёк ад яе.

На могілках сонца не магло прабіцца праз шаты шматвяковых дрэў, як на дно вільготна-халоднага зялёнага возера. Сям-там толькі прарываўся салатавы прамень, і ў адным з такіх прамянёў блішчала жалобная рыза папа і плыў шызы дым ладану. Убаку, там, дзе не было яшчэ магіл, з латаў, што ляжалі на галінах дрэў, звіслі палотнішчы, утвараючы даўжэзны шацёр, апошні шацёр нябожчыка, з якога адпраўляцца цыгану ў апошнюю яго краіну. Пад ім стаялі сталы з трызнаю. Убаку брудна бялеў другі шацёр,

меншы. Там бразгалі талеркі, на якія накладалі стравы жанчыны.

— Глядзі, цыганскі фатограф!

— І фатографа свайго прывезлі!.. А колькі ж яны табе заплацілі, хлопец?

Тлум, спеў хору і выгукі папа, убаку, проста на траве, купкі людзей. І кожную купку — хоць у оперу. Вось старая курыць люльку. Вось дзяўчынка вязе каляску з брацікам і з гартаннай дзікасцю крычыць:

— Чавэло!

Ах, Цыганія-Цыганія! Ах, і мая ж цыганская кроў! Індзейская ярасць у вачах, калі унь тая, з крыху адутлаватым тварам крычыць нешта.

Я зноў сфатаграфаваў «белую». Іначай не мог. Такая была грацыя ў кожным руху! Тэатр! Балет! Чорт ведае што!

І дзіўна было побач з гэтым святам жыцця, увасобленым у гэтай дзяўчыне, бачыць пліту і надпіс на ёй:

Рапановіч Гарась Іванавіч. 1928—1968

— Быў наш вярхоўны суддзя,— гаварыла яна чыста па-беларуску.

— Як гэта з ім?

— Вашу дзяўчынку ратаваў. Беларускую дзяўчынку. Наш, цыган. Не ўратаваў.

Што́ мне было яшчэ рабіць тут, побач з гэтай ганарліва-гожай дзяўчынай.

— Фота куды даслаць?

— Часцей за ўсё мы сядзім у вёсцы Горск. Дасылайце Яні Быгоцкай.

У беларускіх цыганоў амаль ва ўсіх беларускія імёны і прозвішчы.

— Ну, а як нагадаць, калі забудзецеся? — У вачах і ў голасе яе бездань іроніі і разумення.

Я сказаў імя і адрас.

— Раман,— паўтарыла яна імя.— Ну вось, а «ром» — значыць цыган, муж. Бацька мой каваль у Горску. Астатнія на цукровым працуюць. Там толькі восенню ды зімой работа... Вунь мой бацька!..

Адправа скончылася. Пажылы цыган, дасканалы, як медная статуя, усаджваў людзей за сталы пад шатрамі. Доўга, дужа доўга і ўважна глядзеў на мяне, праўдзівей, нібы аглядаў і ацэньваў. Твар быў змроч-

ны. Пасля ледзь таргануўся ражок рота пад чорным вусам.

...Музыканты выпілі па шклянцы і пайшлі. Была ўзнята маўклівая, змрочная першая чарка. Пад незнаёмыя мне словы. Я пайшоў зноў на старыя могілкі і са здзіўленнем убачыў, што яна стаіць у засені ліп, узлокціўшыся на плот, загадкавая, егіпецкая ўсмешка застыла на яе вуснах і прыплюшчаных павеках.

— Не хачу так,— ціха сказала яна.— Не люблю смерці. Не хачу сядзець у асобным шатры.

Увесь час, пакуль я здымаў царкву, яна сядзела ў траве, у сонцы і сакатанні палескіх цыкад і сачыла за мной. Уважна, дапытліва і цяжка.

— Цёмны,— сказала, калі падышоў,— у нас таксама не ўсе чорныя. І рухавы.

У канале шалахцела, уздымаючыся, вада.

— Рухавы, як вада. Бегчы ёй далё-ока. Кажуць, заліло б горад, каб жыхары не нанялі бульдозер ды не зрабілі дамбу, дзе яна з цясніны на абшар вырываецца. А мне шкада вады. Вада павінна бегчы. Я зайздрошчу вадзе. Ты шмат водаў бачыў?.. Ану, дай руку... Бачыў шмат водаў. Зморшчына цыганская унь якая!

— Беларускія воды ўсе бачыў. Ну, і некалькі мораў. Два акіяны.

— Шчаслівы. А я вось сяджу.

Я ўзняў каменны крыж, што ляжаў ніцма. Паставіў. Аблічча распятага было страшнае. Паганскае, асірыйскае, перакрыўленае, з жудаснай, як кашмар, грымасай болю. Ступакі ног вялізныя, нібы ў палескага злодзея, далоні рук, як шчыты.

— А я вось блукаю ўсё жыццё. І ўсё адно якую б ваду я ні бачыў — няма нічога лепей за гэтую раз'ятраную Стрынь, каналы, зарасці глогу над цёмнай вадой і ў гэтых зарасцях каменныя крыжы, на якіх што ні распяты, то — Твар.

Я сапраўды так думаў. І мяне разумелі гэтыя каменныя твары з пермскімі, вавілонскімі, этрускімі — чорт ведае якімі — а праўдзівей, з першароднымі палескімі рысамі.

— Абодва робім не тое, што хочам, сокал ты мой,— задумліва і ўпершыню на «ты» сказала яна.

— Робім, як здарылася,— сказаў я.— Як распарадзілася жыццё. У кожнага свой шлях.

— Праўда. І вось я сяджу, а ты і хацеў бы сесці, і любіў бы сядзець, а носяць цябе ногі пад воўчым сонцам. Ты ж не мог бы кавалём тут?

— Так, любіў бы. Так, ногі носяць. А кавалём — куды ўжо мне?

— Цыган, значыцца, ты. А я — так сабе. Вось муж мой памёр, здавалася б, вольная, а сяджу на месцы. Ты хаця мне пра шляхі раскажы.

І я расказваў. Спачатку на гэтых могілках у спакойным ззянні заходу, што заліваў аранжавай пяшчотай Юроўскую царкву, у гэтым адыходзячым спакоі старога. Пасля ў «чыстым» пакоі чайной, дзе глядзелі на нас дзесяткі непаразумелых вачэй. Расказваў як ніколі.

— Вечарам падыдзі да месца трызны,— хрыпавата сказала яна, адыходзячы.— Можа, і яшчэ нешта ўбачыш. Дый я на цябе пагляджу.

Дзіўна, калі яна адышла, я, здаровы дурань трыццаці год, чалавек, не здатны да сантыментаў, адчуў дзіўны неспакой, нібы яна, ідучы гэтай ганарлівай паходкай, забрала з сабой задаволенасць, раўнавагу, душэўную цішыню. Нешта некуды клікала, нешта смактала, нешта рабіла дыханне перарывістым, як пасля слёз.

Вада ўсё бурліла. Жыхары маліліся, каб не заліло кветкавых плантацый, бо людзі жылі тым, што прадавалі насенне кветак ледзь не да самай Камчаткі. І страшна было думаць, што гэтыя снежныя шары півоняў, ліловыя стрэлы касачоў і хмары духмянага гарошку апынуцца пад бурай звар'яцелай вадой. Разам з вадою і на душу находзіла незразумелае і страшнае.

Каб не засесці тут, я знайшоў механіка з сельгастэхнікі — ён нядаўна саматугам змайстраваў сабе аўтамабільчык-амфібію — і папрасіў яго заўтра ранiцай даставіць мяне на той бераг цераз два паплавы і пратоку. Адтуль было недалёка да прыпынку аўтобусаў.

Я разумеў, што мне не трэба тут быць, што насоўваецца нешта пагрознае, цяжкае і гаротнае. Прадчуваў гэта, як сабака пажар у доме.

...І ўсё ж прыцемкам я пайшоў да могілак. Вогнішча асвятляла шатры, бронзавыя твары людзей, плавілася ў мамістах і бутэльках на сталах, цемрай

і барвай бегала на вопратках. Вочы коней ля плота гарэлі трывожным агнём.

Яна была тут жа, ля мяжы святла. І — здалося мне або не, што бацька яе, адвярнуўшыся ад падпітай трызны, доўга глядзеў нам услед.

Былі каналы, і човен, і вёслы ў маіх руках, і яна на карме, задуменная, ледзь асветленая апошнім, няпэўным промнем захаду. А калі стрынская Венецыя і сама Стрынь засталіся ззаду, была пойма з таямнічымі ў тумане вялізнымі дубамі.

— Запалі вогнішча,— гартанна сказала яна.

Тое вогнішча, два малыя вогнішчы ў бліскучых яе вачах. І індзейская суровасць аблічча, і гэты тонкі нос, і строгія вусны — я ведаў, на што я іду. Ведаў, але не разумеў, як апошняе ўбоіска.

— Вось бачыш,— сказала яна,— ты разумееш і маўчыш. Ты сапраўдны цыган. У цябе і ў вачах гэта... Чаго не знішчыш.

Я паклаў галаву ёй на калені, як быццам вечнасць ведаў, як быццам так і трэба было. Дурны я быў побач з ёю, зусім нікудышны. Мне было тысячу год, ёй — тры тысячы.

— А мы аселі ўжо на гэтай зямлі. Часам толькі па сэрцы рэжа. І вецер. Некаторыя толькі восень і зіму на цукры, а там зноў — зноў на колы. Але мы аселі. Зайздрошчу табе. Але ты з сабой не бяры. Скончаны наш шлях. І як жа шырока табе.

Я ўзяў яе за цяжкія валасы і нахіліў да сябе.

— А можа, і я... Ну, быў муж. Усё адно што не было. А род наш павінен цягнуцца.

Цямнела ў мяне ў вачах, але яна паклала далонь між маіх і сваіх вуснаў.

— Ты мне абяцай, што я табе душу аддам, а ты панясеш паўсюль.

— Так,— аднымі вуснамі сказаў я.

— Ты здалёк. І каб не гаварылі, не калолі вочы, ястраб ты мой. Не хачу, каб ведалі хто. Цыганоў нарадзіў вецер. Ты як вецер паўсюль. Вось. Але я не таму, што адна, без цяжару на руках.

Адрэзаны вогнішчам ад усяго, акрамя яе, я маўчаў.

— Я хачу цябе. Я з першага міргу ўбачыла цябе.

Цалуючы яе, адчуваючы непаўторны, дымны пах яе валасоў, я чуў, нібы праз непрытомнасць, як яна,

нібы адным горлам, заспявала суровую песню, падобную на малітву і заклінанне... Гэта была дзікая ярасць, і страсць, і нібы водпуск на ўсё, і такая цёмная, жудасная даўніна, якой немагчыма ўявіць...

— Ну вось,— шэптам сказала яна,— цяпер ужо можна.

— Пачакай, ты ў белым.

— Не-не,— яна схапіла мяне і з неўтаймаваным імкненнем прыцягнула да сябе.

Не стала ўсплёскаў прыбываючай ракі, ночы, агню — толькі ягонае зарыва на яе пакутна сціснутых вуснах і пагрозных вачах...

— Ястраб мой... Я твая перапёлка... Хадзі сюды, Ром.

І зноў зарыва, і зноў глыбіня, і зноў Прарадзіма, і боль. І зноў, і зноў, і зноў смерць.

...Раніцаю ў тумане мы пераплылі раку. Датлявалі над могілкамі вогнішчы, спалі ля іх людзі. І я зноў памёр, не ў змозе адарвацца ад усяго гэтага.

Пасля, праводзячы мяне да залітага ракой прычала, яна сказала:

— А вяртацца не трэба. Сёння скончыўся год, і праз месяц жонка суддзі выйдзе замуж... Мой год — месяцы праз два. Такі закон... Не, я не пайду зараз з табой. Нічога добрага не будзе, ястраб. Ну, як ужо смерць табе, то знойдзеш на шырокім Палессі. Падумай, паміраючы,— пачую, сама прылячу. А тут ляці зараз. Ляці, пералётны бусел. Можа, і ўбачыш, як перапёлка і сокал разам палятуць. Пранясі там і маю душу. Гарась — суддзя мо ўжо там. Можа, толькі наперадзе — Цыганія.

Цалуючы яе, чуючы яе гартанны ад любві голас, я як скамянеў. Не адчуваў, што гэта назаўсёды, і не перажываў асабліва. Быў хутчэй тупы і неўразумелы. Толькі ўвесь час помніў рухі яе ног, абдоймы, дзіўныя словы на незнаёмай мове. Гэтыя ўспаміны разбухалі на вачах, як Стрынь, што залівала ўжо да паловы аксамітна-зялёныя ад вільгаці плыты і па ўсіх незлічоных каналах біла аб іх шэрагі чаўноў з загнутымі, як у індзейскіх пірог, насамі.

...Калі механік высадзіў мяне на мысе і сплыў у бок Прыпяці, я ўбачыў здалёк на беразе, ад якога цягнуліся чэзлыя слупы дыму, постаць, якая махала мне

рукой. І толькі тут зразумеў, што я амаль на тым, начным, месцы, што яна зараз ад'едзе і што я, чорт пабірай, не магу без гэтага голасу, рук, вачэй, пажадлівых ног, што я проста быў не пры поўнай памяці ад жадання, што яна душу, памяць у мяне ўзяла, а ці дала сваю?.. І я літаральна абалдзеў ад раптоўнай, як касой па горле — тугі... Я рушыў проста ў ваду, не бачачы, што ўсё ўжо не так, што Стрынь несла дошкі і бярвенні знесеных, відаць, пад Сернай мастоў, цэлыя дрэвы, вымытыя з коранем. Я першакласны плывец, але тут рака штурхнула і збіла мяне з ног.

Белая ад ярасці, яна ўскіпала з дна, на вачах залівала берагі, несла бярвенні і, у кроку ад мяне, труп авечкі. Толькі потым я зразумеў, што гэта пад Волінам прарвала шлюз і змыла бярвенні, падрыхтаваныя для сплаву.

Выкінуты валамі на бераг, я літаральна выў, б'ючыся галавой аб зямлю, сочачы за кропкамі, за станіцаю цыганскіх вазоў, якія пацягнуліся ад месца начлегу за далягляд. Выў, як пакінуты сваімі цыган, трасучыся ад адчаю і непапраўнасці.

А можа, яна і сапраўды аддала мне сваю душу?

Цэлы дзень прасядзеў я над вірлівай, страшнай і цяпер шырачэзнай Стрыннню і не мог куды-небудзь ісці, што-небудзь рабіць, аб нечым думаць.

...І потым, трасучыся ў брынклівым аўтобусе сярод клункаў і соннага мармытання баб, думаў аб тых, што адыходзяць пад шатром, пад злівамі і зорамі ў далёкі шлях, па якім вечна рыпець колам, у нязнаную, у страчаную мной Цыганію. І толькі плакаў аб ёй, пакінутай, аб ёй, не знойдзенай, аб цыганскіх маіх шляхах.

Дзе ты, мая Цыганія? Вось ноч, і зноў аўтобус, але, здаецца, рыпяць колы, і падаюць знічкі ў забыты дым вогнішчаў, і ты ўся, уся была побач, а зараз я качу ў свой апошні, у бясконцы, у цыганскі мой шлях пад вечныя зоры, пад начное воўчае сонца.

Так. А ўсё ж такі, што мне рабіць? Што рабіць?

# КАЛЯДНАЯ РАПСОДЫЯ

У бэзавым прыцемку, які пачаў асядаць на зямлю, зноў таргануліся колы. Павольна паплыў перон. Цягнік, нервова здрыгануўшыся на першым стыку, сказаў: «Так». І паплыў, паплыў назад ужо не перон, а ўвесь Пінск з ціхімі вулачкамі, заінелымі вербамі, з прадаўнімі дзікімі вежамі званіц, што з чыгуннай суровасцю перакрэслівалі акаём.

Вячэрняя зара разлілася на паўнеба, стылая дзіка-чырвоная, пагрозлівая.

«Будзе люты мароз»,— падумаў мужчына год трыццаці. Ён паклаў на столік старую кнігу, закінуў чамадан на паліцу і зноў глянуў у акно.

Чырвань была такая сцюдзёная, што ён сцепануўся, нібы гэта яго ўжо зараз марозіла. Наліў на дно шклянкі каньяку, выхіліў, але зноў адчуў, што мурашкі бягуць па скуры, хаця ў купэ было хутчэй горача.

«Божа мой, які страшны, які бязлітасна-мерзлы захад! Як, ты скажы, космас на зямлю прарваўся!»

У чалавека было харошае, крыху нервовае абліччa. Калісьці, відаць, дужа простае, палеска-сялянскае, цяпер — адзначанае заўсёднай, у кожную хвіліну, магчыма, нават у сне — думай.

Вельмі густыя бялявыя валасы. Сінія, дужа добрыя і стомленыя вочы рэзка кантраставалі з прыгожымі вуснамі. Псаваў аблічча хіба што няправільны нос, крыху занадта задзёрты ўгору. Ды не, не псаваў. *Пасаваў*. Быў дарэчы на гэтым абліччы: замяні грэчаскім, а пасля плюнь.

Нервовыя, моцныя пальцы рук. Словам, наўрад ці знайшлася б дзяўчына, якая на яго запрашэнне не пайшла б з ім на танцы.

Толькі зараз гэтых дзяўчат не было. Мужчына ехаў адзін не толькі ў купэ, але ці не ва ўсім вагоне.

Было Палессе. Былі каляды.

«Божа мой, гэта ж якраз заўтра каляды!.. І вакол Палессе. *Маё* Палессе. Не Брэстчына, не лясістыя, лістоўныя ўзгоркі Мазыршчыны. Маё. А я ж сто год не быў на радзіме. І вось ужо хутка мой паўстанак. Палову хвіліны стаянкі. Потым ударыць у пазелянелы медны звон, і цягнік кіне мяне на рэйках.

А там яшчэ дваццаць вёрст — і вось мае малень-

кія Ласевічы, загубленыя сярод бясконцых лясоў, дрэмлючыя ў снягах пад начную пераклічку ваўкоў у палях і сабак у сяле...

...А я наштосьці еду на сто вёрст далей. Да жанчыны, пра якую не ведаю нават, кахаю яе альбо не».

Балаты, азёры пад ільдом, лясы, мора снягоў. А ўлетку мора вады.

«Усё нібы змяшалася ў гэтых успамінах. Не толькі поры года, але і прыцемак з днём і ноччу. Заплюшчыш вочы, і вось усё паплыло, паплыло перад вачамі».

Вось сітнягі, што ўмерзлі ў голы сіняваты лёд. Суха пяюць пад калючым ветрам. Выцягнеш з пелькі кошык з сенам і вытрасаеш з яго на лёд гнуткіх, як змейкі, жвавых уюноў. Пальцы ад вільгаці і марозу чырвоныя і кепска гнуцца.

За акном вагона рэдкія аазісы вёсак і першыя агні ў хатах.

«А я еду да той, пра якую нават не ведаю, кахаю яе альбо не».

Цёплая хваля коціцца па сэрцы толькі пры думцы аб прытульнасці яе гнязда. Увойдзеш, кінеш чамадан, і яна выбежыць насустрач табе, у халаціку, заспаная, цёплая са сну, чарнявая дужа мяккімі густымі валасамі, вельмі белая абліччам, абаўе цёплыя рукі яму вакол шыі, павісне.

Потым яны лягуць. І яна, муркаючы, будзе тычыцца носам яму ў плячук, уладкоўвацца, як зручней.

Раніцаю будуць сядзець адно супраць другога ў крэслах, паклаўшы ногі ў крэсла таго, хто сядзіць насупраць, прыхлёбтваць віно, слухаць музыку, чытаць, і зрэдку ён будзе браць яе ладныя моцныя ногі і грэць іх у сябе на каленях. І за ўсе гэтыя дні аж да вечара ён ані на хвіліну не выйдзе з цёплай хаты на люты мароз. А можа, і вечарамі не заўсёды выйдзе.

...Пазнаёміліся на вакзале, калі гэта можна было назваць знаёмствам. Ён тады ўпершыню прыехаў у яе горад. Здарылася буйная непрыемнасць: пажар на электрастанцыі. Галоўнаму інжынеру пагражаў суд. Добраму, страшэнна сумленнаму ў працы чалавеку, спецыялісту, якіх пашукаць. Усе ведалі гэта і шкадавалі. І таму паслалі тэхнічным экспертам менавіта яго, Міколу Ласевіча; ведалі таксама і пра добрыя яго адносіны да інжынера, і пра поўную ягоную бесстароннасць, і пра тое, што ў аўтаматыцы ён разбі-

раецца, як ніхто: большасць аўтаматаў упраўлення на электрастанцыях рэспублікі ставіў і наладжваў або ён, або ягоныя людзі.

Выйшаў тады на ранішні замглёны перон, убачыў, што з цягніка злезла хіба што з дзесятак людзей і сярод іх ідзе дзяўчына з дужа цяжкой валізкай. Злосная, відаць, з гэтай прычыны. І яшчэ таму, што недаспала. Дагнаў, узяўся за ручку:

— Мілая дзяўчына, якім гэта манерам даехаць на вуліцу Міцкевіча?

Тая тарганула чамадан на сябе. Зрэнкі пашырыліся ад раптоўнай ярасці.

— На таксі!

— На гэткія пытанні дакладна так адказваюць ерэванскія міліцыянеры.

— Слухайце, адкасніцеся ад мяне,— у яе неяк дзіўна, нібы праз стрыманыя слёзы, заблішчалі вочы.

— Здарылася нешта? — са шчырым спачуваннем спытаў ён.

Але яна не адчула ў глыбокім ягоным голасе гэтай шчырасці.

— Адыдзіце,— праз сціснутыя зубы, з непрыхаванай нянавісцю сказала яна.— Ведаем мы вашу спагаду, добранькія вашы вачаняты... Ну!

Паціснуўшы плячамі, ён пусціў ручку.

...Справа ягоная і сапраўды не вартая была выедзенага яйка. Ніхто не быў вінаваты. Проста супала адразу некалькі прычын, якія, па тэорыі верагоднасці, маглі супасці — ну, раз у тысячу год. І здарылася аварыя. Затое цяпер інжынеры ўсёй Зямлі тысячу год маглі спаць спакойна.

Ён хацеў у той жа вечар ехаць дадому, але сутыкнуўся на вуліцы з сябрам — архітэктарам, і той, не слухаючы ніякіх пярэчанняў, увогуле нічога не жадаючы слухаць, пацягнуў яго да сябе «на каляды». Адзіным довадам у яго было тое, што «нельга ж правесці ка-ля-ды ў дарозе».

Гэта былі гарадскія каляды. Як ва ўсіх такіх сем'ях, што (асабліва ў апошнія гады), раптам спахапіўшыся, пачынаюць вешаць на сценкі сялянскія посцілкі і вярэнькі для хлеба, ставіць на паліцах, пафарбаваных «пад старое дрэва» фарбай «Ван Дзік», побач з мадэрновымі вазамі вясковыя карцы і каўшы або нават — яшчэ горш — шыць сабе з неа-

цэнных палескіх ручнікоў, па-варварску перакройваючы і рэжучы іх, сукенкі.

Кактэйлі каля самаробнага хатняга бара, міксеры, здабытыя чорт ведае дзе, досыць смелыя, хаця й прыстойныя дэкальтэ, размовы: спачатку пра высокія матэрыі, а пасля...

І толькі распісная міска з куццёй, на якую ніхто не звяртае ўвагі (З рысу. Куцця з рысу — цьху!), ды жмутак сена, падкладзены пад ражок абруса (пад увесь нельга: келішкі будуць стаяць няроўна, паб'ецца крышталь), сяк-так нагадваюць у першыя хвіліны, што гэта не проста «міжсабойчык». Потым абавязкова знойдзецца госць, які прыкінецца п'яным да быдлячага стану і пачне тое сена жаваць, чым і выкліча ўхвальны смех і воплескі.

І вось у гэтым тлуме — гаспадара затрымалі ў бюро, і госці былі амаль усе ў зборы — Мікола амаль адразу ўбачыў тую, з чамаданам. Сябар, не слухаючы нараканняў жонкі, цягнуў Міколу знаёміць. І вось наблізіліся. Стаіць з келіхам у руцэ, глядзіць адчужана і няўхвальна.

— Марыначка, лапачка, вось табе наш інжынер, заапякуйся.

— Мікола Ласевіч.

Пазнала. Але хаця б цень нейкай збянтэжанасці, нейкай няёмкасці ў вачах. Той жа суровы, пахмурны позірк.

— Марына Леантовіч!

— Го-го-го-го! — выбухнуў сябар.— Вось гэта дык удала. Нават манагра́м на насавіках мяняць не давядзецца, як сказалі б старарэжымныя божыя абдуванчыкі.

Яна глянула на яго так, што ён, як кажуць, «зашыўся». Прамармытаў нешта і адышоў.

— Пагаварылі,— усміхнуўся Ласевіч.

— А інакш, відаць, і гаварыць не варта,— суха сказала яна.— Ні з кім. Менш будзе асечак, расчараванняў, непатрэбных думак.

За сталом іх пасадзілі побач: зноў нехта пастараўся. Хаця Міколу зусім не даспадобы былі яе рэзкія, калючыя манеры і словы — ён не любіў вечна ўсім на свеце незадаволеных людзей,— дык яна, відаць па ўсім, была незадаволена гэтым суседствам. Сядзіць простая, нібы тычку з'ела, вусны падціснутыя,

вочы пагардлівыя. Анічога з таго, што ён так цаніў і любіў у жанчынах: мяккасць, іранічнае какецтва, вясёлая зменлівасць, дасціпнасць і гнуткі, такі адменны жаночы розум.

Сумесь воблы, ваўчаняці і лютай тыгры. Шчыра кажучы, ён куды з большай ахвотай знаходзіўся б зараз у кожным іншым месцы, абы не тут.

— Вы інжынер? — Бо трэба ж падтрымліваць хоць нейкую размову.— Цікава.

«Нічога ёй гэта не цікава».

— І любіце сваю працу?

— Я не люблю сваёй працы.

Ён сапраўды не любіў яе. Паступіў калісьці на энергетычны толькі таму, што гэта хаця й нялюбае, але, прынамсі, «сур'ёзнае», і яшчэ таму, што страшэнна не хацелася вучыцца на трактарыста ці яшчэ на кагосьці такога.

Граў на баяне ў студэнцкім аркестры, вывучыў самастойна ноты да таго, што самае складанае мог бегла чытаць з ліста, пачаў учашчаць на канцэрты. І раптам зразумеў: тое, што ён з самага дзяцінства мармытаў сабе пад нос,— гэта таксама музыка. І не проста музыка. *Ягоная* музыка. Яна і зараз спявала ў ягонай душы, і ён параўноўваў яе з тым, што чуў, і казаў сам сабе, што ў яго часам — не горш. Можа, нават лепш.

Дзень, калі ён усведаміў сабе гэта, быў самы благі, самы паршывы дзень у ягоным жыцці. Гэтае ўсведамленне няшчасця, усведамленне таго, што ўсё існаванне ягонае, усё, дзеля чаго ён быў, магчыма, пушчаны лёсам у свет, было адабрана ў яго толькі таму, што да бліжэйшага піяніна было дваццаць вёрст, а да бліжэйшай музычнай школы — каля трыццаці. І жыццё ягонае было прынесена ў ахвяру нялюбай справе толькі таму, што яму недзе было зразумець і зведаць музыку, недзе было нават зразумець, што ён яе любіць, што гэта і толькі гэта — ягоны шлях.

Заставалася, праўда, і магла б яшчэ тады дапамагчы яму ўсвядоміць сваю любоў палеская песня, якую ён патаемна любіў, але нікому не прызнаваўся ў гэтым, бо дзяўчаты і хлопцы, па дурасці, песні гэтай саромеліся, а замест яе спявалі розную модную гарадскую лухту, якая хутка прыходзіла і гэтак жа хутка знікала ў нябыт. Саромеліся аж да таго, што калі ба-

бы, бывала, завядуць у застоллі старую песню, нехта з маладых абавязкова кіне:

— Ну-у, завялі! Старошче гэтае.

Цяпер ён са спозненым болем успамінаў самы нязначны паварот гэтых мелодый... Нібы абразіў маці, якая даўно памерла.

Ён быў мужны чалавек і таму, разумеючы, што *позна*, вырашыў зрабіць хаця б нешта з таго, дзеля чаго ён быў створаны. І гэтаму нязначнаму «нешта» ён аддаў з таго дня ўвесь свой вольны час і ўсю без астачы сваю душу. Пешшу, на спадарожных машынах, на прыпяцкіх параходах, набітых стракатай гурмой, хатулямі, дыхтавымі валізкамі і спявучай гаворкай — ён абхадзіў, аб'ездзіў, скалясіў Піншчыну, Століншчыну, Пружаншчыну, Мазыршчыну, Слонімшчыну. Ад запісаў сшыткі рабіліся пульхныя. Многія дзесяткі сшыткаў.

Вынікам усяго гэтага, усіх гэтых бясконцых, утомных і блаславёных вандраванняў былі том народных песень, кніжачка песень дзіцячых і дзесяткі паўтара песень сваіх. На большае — ён з болем адчуваў гэта — яго не ставала. Песні — і толькі.

Песні спявалі, песні ягоныя хвалілі нават «мэтры» ад музыкі — не без ценю паблажлівасці,— і адзін ён ведаў, колькі такіх вось песень, напетых ім недзе ў кампаніі, за келіхам віна, рабілася потым у тых жа «мэтраў» скразной тэмай сімфоніі, арыяй, часткай грымучай араторыі на адцягненую, чужую тэму, тым, за што аўтараў пасля хвалілі: «глядзіце вы, сапраўды народна і як жа арыгінальна!» А песня была сапсутая надуманай, ненатуральнай і непатрэбнай апрацоўкай.

«Самадзейны кампазітар». Што ж, бывае і горай. Што ж, няхай ён паслужыць беларускаму люду і песні беларускай хаця б у такім спосабе.

...Нешта падобнае ён і сказаў тады суседцы за сталом.

— Ну, а чаго б вы хацелі?

— Кінуць працу. Я някепскі інжынер, мяне, думаю, паважаюць. Але я хацеў бы кінуць гэта і ўвесь век хадзіць, запісваць, пісаць свае песні, калі ўжо на іншае ў мяне слабая кішка.

Сябар, відаць, чуў іхнюю размову, таму што засмяяўся.

— Ну, браце, гэта ты кінь. На тое, чым ты марыш заняцца, не пражывеш.

— Ведаю,— сказаў ён.

Пасля паўзы Марына ціха спытала:

— І вывад які?

— Жыццё не задалося,— проста сказаў ён.

Толькі тут яна зірнула на яго з нейкай глыбокай пільнай уважлівасцю, цікаўнасцю, магчыма, нават з доляй спачування і разумення.

І хаця яны былі на падпітку, усё ж яны былі цверазейшыя за астатніх, бо кожны думаў аб нечым сваім, незагаданым, што не споўнілася. Таму, калі нехта з гасцей, па загадзя зададзенай праграме, пачаў жаваць сена, яны пераглянуліся і непрыкметна выслізнулі з хаты на вуліцу. Яму былі непрыемныя яе настойлівая рэзкасць, сварлівасць, вечнае жаданне адказаць уколам у адказ на працягнутую руку, але ўсё адно лепей было быць з ёю, чым у гэтай кампаніі. Таму лепей, што ў пэўнае імгненне яна глянула на яго спагадліва.

Акрамя таго, ён яшчэ не адышоў ад пакутных падзей, якія здарыліся з ім за год да таго. Яму было дужа цяжка...

...Ляціць цягнік. Прысмерак і бязлюддзе. Выходзіць на ганак старога, калісьці, відаць, фальварковага — бо з драўлянымі калонамі — дома, моцна заняпалага, стары ў «бурцы» з таўсценнага, у палец, чорнага сукна.

«Не, не, не трэба думаць. Не трэба думаць аб тым, чаму было цяжка. Трэба думаць аб той, да каго едзе».

Ён разгарнуў кнігу:

«Вообще вся сия местность замечательна по первобытности жителей и по дикости природы».

Прырода за акном сапраўды была дзікая. Лес і лес. І раптам выбухнулі ў паветра, пачалі бегчы, з громам, па дузе, хілячыся лявей і лявей, удалячынь, сталёвыя мачты.

Пацягнулася, папаўзла некуды таўшчэзная змяя нафтапровада.

Было тады дужа цяжка... Не, не трэба ўспамінаць... І ўсё ж, як яно тады было з Аленай?

Які быў дзікі лес вакол Ласевічаў. Дзікі і іскрысты, белы-белы і аж блакітны ў сінія цені, хрусткі. А крыху раней — барвяны, бо ўзыходзіла ненатуральна вялікае марознае сонца.

Было якраз перад калядамі. На вяселлі малодшай Любоўчыцавай, Надзеі. І ўзыходзіла, як ужо тысячы разоў над гэтай зямлёй, марознае каляднае сонца. Асвятляла вёску, нерухомыя слупы дымоў над комінамі, заглядвала ў вокны хат і тут адразу рабілася цёплым, жывым і прытульным. Ён сек дровы, каб Любоўчыцам хапіла паліва на ўсё вяселле. Сек, з асалодай адчуваючы мароз, сваю гарачую ад марозу і працы кроў і тое, як са звонам развальваюцца сасновыя калоды. Роўна-роўна. З акуратнымі падоўжнымі жылачкамі-баразёнкамі на расколіне. Пагабляваць крышку, і хоць ты скрыпку рабі.

Ён насек цэлую гару і заскочыў у хату пакласці сякеру. У хаце бабы і дзеўкі ладзілі вясельны каравай, вялізны, з кола ад воза, белы і аж чырвоны зверху, дзе падпякло. Прыкрашалі яго кветкамі, стужкамі, залатой каніцеллю і васковымі «слёзкамі маці божай». Каравай атрымаўся — дзіва прыгажосці. Ялінка, а не каравай. Бабы і двое дзяўчат былі ў клятчастых, з разрэзам, андараках, у вышываных сарочках, на якіх белага было менш, чым чырвонага, сіняга, зялёнага, жоўтага. А за спінамі жанчын быў ложак з бялюткай шытай покрыўкай, горы расшытых падушак, стракатая, як вясёлка, посцілка на сцяне.

Адны рукі ўпрыгожвалі, другія абкладалі каравай яйкамі, маслам і сырам. А галасы вялі:

І свеціць месяц
На дварэ,
Каравай месяць
На стале.
Каравай цвіцець
На стале.
Прыступі, божа, з раю,
І прыступі, божа, з раю,
К нашаму караваю.
І, ой, у садзе ды веце вісіць,
Сам бог каравай месіць,
І ангелы прыступаюць,
Караваю памагаюць.

Яму паднеслі пагрэцца. Ён выпіў халодную, з сенцаў, гарэлку і закусіў, з храбусценнем, ледзяным крамяным агурком, з асалодай адчуваючы сваё зда-

роўе, і мароз, і тое, як гэты мароз з яго выходзіць і як пахне агурок часнаком і кропам.

Ён, відаць, быў нават на выгляд вельмі здаровы і шчаслівы, таму што адна з каравайшчыц, здаравенная, грудастая, прыгожая маладзіца, пры адным позірку на якую чамусьці прыходзіла на розум гумно, белыя ногі на саломе, а пасля дзесяць дзяцей і хата, што аж рыпіць ад чысціні, скосу, хітравата паглядзела на Міколу гожымі, як у каровы, вачамі і завяла, ні з пушчы ні з поля, песню, што спяваюць, калі месяць каравай:

Ой, упала я ў дзела,
Цела маё запацела,
Дый цела маё запацела,
Гарэліцы захацела.
Э-гей, гарэлачкі зап'янюсенькай.
Дый для мяне маладзюсенькай.

Ён прыняў выклік, узяў за шыю запацелую бутэльку і рушыў да маладзіцы. Наліў, працягнуў стопку:

Ой-гей, ды ты, гарэлачка, зап'янюсенька,
Завязала свет маладзюсенькай.

І тут убачыў, што за спінамі баб сядзіць на зэдліку і вяжа кветкі ў гожыя пучкі-букеты нешта такое, чаго ён ніколі не бачыў і што адразу ўразіла і ашаламіла яго, як раптойны ўдар. Нешта ў сіняй сукенцы і карункавай белай кофце, нешта залатавалосае, сінявокае, нешта найбольш як васемнаццаці год.

Божа мой, што гэта за нешта было! Глядзела на яго сінё і празрыста і ўсміхалася ружовым прыпухлым роцікам. З відавочным падкусам, але адначасова і з адценнем заахвочвання. А стан! А ногі!

— Выпі і ты,— сказаў ён.

— Не хачу, каб завязала свет маладзюсенькай,— усміхнулася яна.

Бачыла, да канца разумела, што ён як раптоўна аглушаны, што яго зараз, тут жа, у першую хвіліну, можна браць за руку і весці хоць у апраметную, гэтага гожага бамбізу, і гэта падабалася ёй; нечаканая, за імгненне непрадбачаная ўлада над ім.

— Ты хто? — голасам, які сеў, спытаў ён.— Адкуль?

— А ты хто? А ты адкуль?

— Я з гэтай вёскі.

— І я з гэтай вёскі.

— Я не бачыў цябе. Ніколі.
— І я не бачыла цябе. Ніколі.
— Інжынер ён,— умяшалася маладзіца.— З мінулай зімы не быў. Нібы тут працы мала, а хлопцаў — па дзіркі ў носе.
— Глядзі ты... інжынер... А цягне, як прахвесар.
— Выпі,— спрабаваў ён падвысіць голас, бо прывык да таго, што дзяўчаты яго слухаюцца, што яму лёгка вядзецца з імі.
— А ты што за падмаршалак такі?
Страшэнным, гаротным успамінам уставала пазней у яго вушах гэтае слова «падмаршалак». Нібы ўсё адразу і яшчэ загадзя было кімсьці бязлітасна наканавана. Бязлітасна і назаўсёды.
— Ты, падмаршалак, што, сур'ёзна думаеш, што як загадаеш, каб у мяне хвост вырас, то й вырасце?
— А і вырасце,— сказала маладзіца.— А не вырасце, то ён сам табе замест хваста будзе.
Сказана было занадта рэзка. Усе сціхнулі. Не звяртаючы ўвагі на жарт, Мікола сказаў, ужо спакойна:
— Выпі. Вусны памачы, ну.
— Ды выпі, выпі,— загулі бабы.— Бач, хлопец дабром просіць. Што ты, дзеўка, натурышся? Клейнот які, цаны яму няма.
Дзяўчына ўзяла чарку, сапраўды, памачыла вусны, зрабіўшы мале-енечкі глыток. Ён узяў стопку і перахіліў яе з таго самага месца, дзе кранался вуснамі краёчка яна. Гэта было зроблена такімі дакладнымі рухамі, так па-заліхвацку, з такім падкрэсленым значэннем, што бабы ахнулі:
— Бач, зух, бач, хват!
А ён адышоў да дзвярэй і спытаў у Петры, брата Надзеі:
— Хто такая?
— Алена... Наваграй прозвішча.
— Не з тых Навагранаў, што з Дуброўнага канца?
— Дык Грыцука ж сваякі. Яшчэ перад вайной на Гродзеншчыну з'ехалі. А цяпер, на старасць гледзячы, вярнуліся вось на радзіму мінулай вясной. Хата Грыцукова ўпусце буцвець пачала, то перасыпалі ды занялі.
«Дык вось адкуль такі не тутэйшы, дзіўны акцэнт»,— падумаў ён, і яшчэ раз агледзеў усю кампа-

нію кабет, каравай, цёмны кут, дзе сядзела яна, вырваную святлом з паўцемры залатую галаву, смуглява-аранжавую ад таго ж святла скуру аблічча, і з раптоўным вясёлым адчаем сказаў сабе: «Божа ты мой, прапаў!»

І, каб хаця крыху абмысліць гэты новы, амаль страшны і нічым не падобны на ранейшыя яго прыгоды стан, выйшаў у сенцы. А наўздагон яму ляцела:

Ой, красная каліна над рэчкай,
А красней таго На́дзейка ў мамкі.

Стаяў у халодных сенцах не ў змозе сабраць думкі. А з хаты гучала прыглушана:

А ў сені ўвайшла — сені заззялі,
А ў хату ўвайшла — паны ўставалі,
Паны ўставалі — шапкі здымалі.

Ой, цару нябесны, гэтыя песні! Так і гучаць, і гучаць у вушах, настырна, як у ціхай хаце пасля вяселля, калі на падпітку не можаш заснуць. І як холадна гаворыць пра гэта старая кніга: «Музыкальность составляет выдающуюся черту в характере полешука». Гэта пра песні, якімі ён так пякельна, пакутліва шчаслівы.

Як самай каханай жанчынай у хвіліну блізкасці. Як Аленай калісь.

«Гэх, саскочыць бы зараз ды паехаць. Плюнуць на ўсё. Зваліцца ў санкі, на сена і... Каляды... Сонцаварот... Сонца на лета — зіма на мароз. І хутка будзе абуджэнне, і сонца будзе вышэй, а на сэрцы цяплей, і аджывуць нівы і душа, якая ўжо столькі часу нібы спіць... Паехаць. І прападзі яно ўсё пропадам разам з той, што й на печы ніколі не сядзела».

Дарога праз зімовы лес. У небе вясёлкавыя па краях, рэдкія хмаркі. Залатая поўня то нырае ў іх, то зноў вызвалена вырываецца на волю, плаўна плыве ў глыбокай сіні начнога неба. І ад яе пушча то змрочна пахмурнее і цішыцца, а то ўспыхвае іскрыстым блакітам, і заснежаныя яліны робяцца аж празрыстыя. Нібыта ў блакітных шатрах разгараюцца, мігацяць сінія агні.

Заснежаныя бярозкі дугамі над дарогай: дзесяткі сіне-срэбных арак. Ударыш пугаўём, і пасыплецца,

пасыплецца сухі, як порах, снег, і дрэўца, хістаючыся ўсё болей і болей, неахвотна ўстане на ногі, усё яшчэ крыху хіляючыся на шлях.

І вось прыемна, пасля марозу, прыпякае праз посцілку добры чарэнь печкі. Водбліскі агню скачуць па вязках цыбулі на сцяне, па вокнах, і ўжо клякоча на патэльні свяжына, а на печ, каб грэўся далей, падаюць чарку.

...Жанчыны ля кроснаў спяваюць: апошняя кросенная песня гэтага года, бо потым аж тыдзень ткаць будзе нельга. Ах, як добра ляжаць, выцягнуўшы ногі, і ведаць, што цяпер з месяц зусім мала працы, што наперадзе аж цэлыя тры куцці. І сёмага студзеня, і трынаццатага, пад стары Новы год, і ў ноч на дзевятнаццатае. Дваццаць тры стравы, а то й болей. Адной рыбы адзінаццаць гатункаў. Тут табе і ліны, і ўюны, і смажаны ў смятане карась... А квас, які так смачна паруе грыбамі. Як успамінак аб леце. Аж да кашы з мёдам.

Язык каўтнеш.

«Сена на стале пад абрусам. Паказаць бы гэта ў натуры на экране. Стол ломіцца. Ядуць так, што ўсе гледачы сарваліся б з месцаў і пабеглі б з кіназалы ў буфет...»

...Усё цямнее і цямнее. Снягі з бэзавых сталі сінія. Вагон калоціць на стыках.

Нябожчык бацька ставіць на стол сноп, сядае і, з-за яго, пытае ў маці:

— А ці бачыш ты мяне, ці бачыш?

— Сконд жа? Не бачу.

— Ну, то каб жа аж ты два месяцы свету не бачыла за морквай чырвонай, за бобам зялёным, за крамянымі гуркамі, за пузатымі гарбузамі.

— А ты мяне ці бачыш?

— Не-а.

— Ну, то й ты каб не бачыў свету ва ўвесь канец лета за стагамі духмянымі, за копамі цяжкімі, за снапамі — не абняць, за вазамі, што аж крэкчуць ды рыпяць.

А тады, калі яны ўцяклі з гэтых ідыёцкіх гарадскіх каляд, як жа ўспаміналіся яму тыя, вясковыя! Успаміналіся з радасным заміраннем сэрца і адначасова з сухой нянавісцю, бо ўсё было скончана, бо яму адрэзалі вяртанне да ўсяго гэтага, бо ў сэрцы была

пустэча. Бо і сена пад абрусам, і сноп на стале — усё гэта было ўжо яна: абраза, рэўнасць, нянавісць, абыякавасць.

А побач была жанчына, якая, прынамсі, не прыкідвалася добрай, ласкавай і прынаднай. І ён ішоў з ёю заснежаным бульварам, глядзеў на выразны профіль, на заінелую пасмачку валасоў, што выбілася з-пад футравай шапкі, а потым з палёгкаю пераводзіў вочы на вокны дамоў, дзе рознакаляровымі агеньчыкамі таямніча свяціліся ёлкі, дзе мільгалі вясёлкавыя цені людзей.

Кампанія ідзе насустрач. Рагоча. Злёгку «на парах». Спяваюць песні. У Ласевічах гэтая кампанія «вадзіла б казу». Прыгожа. Але абрад «казы» гэта таксама Алена, гожая, як ніхто, ненавідная і незабыўная.

...Снягі занеслі ўсё. Няярка свеціць чырвонае марознае сонца. Валіць сярэдзінай вуліцы гурма, ды не, цэлая працэсія. Наперадзе «каза» ў вывернутым кажусе. Драўляная морда ляпае ніжняй сківіцай, рогі з саломы, барада з мачалы, хвост з трапанага лёну.

Го-го-го, каза, го-го-го, шэрая!

«Воўк» у вывернутым кажусе кідаецца на «казу», і яго б'юць снежкамі. Усе даўно забылі, што каза — дух нівы і пладнасці, як і ў старажытных грэкаў.

Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом, там жыта кустом,
Дзе каза рогам, там жыта стогам.

Але вось усё ж бароняць яе, качаюць ваўка, і хмараю ўзлятае ў паветра сыпкі іскрысты снег.

«Сонцаварот. Павярнула, здаецца, не туды. Не на сонца, а на мароз... Як жа гэта я яе ўпершыню абняў. Напаўжартам. Здаецца, там, на задварках, калі яны ішлі да каляднікаў. У сіняй цемры рухалася наводдаль чырвоная кропля зоркі. Слаба, але віскліва далятаді адтуль галасы:

Калядка хадзіла пяшком-пяшком,
Каўбасу насіла мяшком-мяшком.

«Шчасце маё — шчасце п'янага на кірмашы».

...Ячная куцця. Куцця «свентага козліка». Калі

ён, малы, спытаў тады, чаму гэта так, яму адказала ягоная стогадовая бабуля:

— Бо ён рожкамі, рожкамі кідаў на малога ў яслях сена, каб дзіцятка не змерзла.

Якія ў яе былі страшныя, амаль нерухомыя рукі! Твар, як з сасновай кары. І якія ясныя, усё яшчэ сінія, але ўжо далёкія ад усяго вакол вочы, што глядзелі ўжо нават не ва ўспаміны, а ў тое, што скора мелася адбыцца з ёй, а некалі і з усімі, каго бачыла яна на вяку.

Няўжо і з Марынай... І з ім... І з Аленай?

...А тады ж, калі ён абняў яе і раптам адчуў тугую пад кажушком спіну, блiскучыя ў цемры вочы, цёмныя ў змроку кветкі хусты, калі адчуў усё яе моцнае цела, як жа моцна яго пранізала, працяла адчуванне яе і сваёй вечнасці!

Можа, гэта і было — праўда?

Яна тады адштурхнула яго. Са смехам:

— Ты што, падмаршалачак, рукі распусціў? Глядзі, адсохнуць.

— Затое не змерзнуць. На гарачым.

— Ой, глядзі. Спаймае цябе Астап Васілеўчык на гарачым. Будзе табе горача.

— Дамо і яму рады. Гарачай. Што я, горшы за яго?

— Ды не горшы. Толькі Астап спачатку многа практыкаваўся. Дрэвы ды пні абдымаў.

...Так, Астап. Супернік, ён ужо чуў пра гэта. Рудаваты здаравень з грубаватым вясёлым абліччам. Скалячы гожыя зубы, кожную дзеўку зачэпіць, закруціць ваўчком нават не ў клубе, а на вуліцы. Былі сябрамі, і вось — на́ табе».

Яна тады вырвалася і пабегла на рухомую чырвоную зорку, топчучы нагамі густа-сіні снег. Ён глядзеў ёй наўздагон. І раптам засмяяўся ад шчасця.

«Вось спускаецца на Палессе ноч. Мільгаюць на залатым чорныя сілуэты ялін і дзіўныя, расторганыя ў розныя бакі сілуэты хвояў: як ведзьмы на тычках».

Цягнік ляцеў, і гэтыя ведзьмы круціліся ў шалёным кругавароце.

Гонкі! Бог ты мой, гонкі! У снежных віхурах, у звоне бразготак, што аж захлынаюцца ад захаплення.

Як быў я конь у ліхога пана,
Настаяўся я пад сметнічкам,

Наеўся я саломкі,
Напіўся я балотнай вады.

Побач скачуць вярхі ў масках і вывернутых кажухах. І лятуць у калматых снежкі.

Задзёртыя конскія храпы з ашалелымі вачамі. Ногі шырока мераюць снегавую парчу. Сонца, рыжыя кажухі, чорныя хусткі з чырвонымі і сінімі кветкамі, перавітымі зялёнай лістотай.

Ён стаіць у санях, гагоча і страляе пугай. А побач пад хусцінай румянае, белазубае, сінявокае аблічча. Таксама смяецца. І такая яна зараз... такая!

...Ён валіў яе ў гурбу, і сам вываліўся за ёю. Яны ўпалі і праваліліся ў пульхнае, нібы ў пярыну. Як патанулі.

Усё далей і далей грымела і звінела рознакаляровая, стракатая, як поплаў, кавалькада.

Засталася мёртвая цішыня. Белае вакол іх. Сонечна-сіняе высока над галавою.

Ляжаў, абдымаючы яе за плечы, моцна прыціскаючы да сябе.

І раптам яна змоўкнула. І ён убачыў, як раптам стаў спынены і суровы яе позірк.

Нібы мерала, нібы пранікала яго да самага апошняга дна. Цішыня. Гэты няўмольны позірк. Белае вакол. Сіняе ўверсе.

...Потым яна сказала яму, што варажыла з першым блінам у руцэ, што наваражыла добрае, і пад акном у суседзяў слухаючы, і на раздарожжы, і ў лазні, але калі ён спытаў, якое ж будзе імя *таго,* апусціла, нібы вінаватая, вочы. Ласевіч засмяяўся.

...У купэ цьмянае святло. Пагойдвае. Усё змрачней і змрачней пейзаж за акном: дзікая, ветхая нейкая беспрытульнасць.

«Та... та... та... та»,— зноў замільгалі, крыжуючыся, бэлькі моста, і прагляну на лёдзе апошні сіні водблеск паміраючага дня.

...З Марынаю было куды прасцей, і ён спачатку не ведаў, не здагадваўся чаму. Ішлі заснежаным горадам, насустрач крочылі вясёлыя гаманлівыя пары: штурхаліся ў снег, абсыпаліся ім, прабягалі міма, і яна праводзіла іх нейкім дзіўным пасуравелым позіркам.

— Што вы так? — спытаў Ласевіч.

— Бабуля адна калісь глянула ў калыску і пра-

шамкала: «Дзіця глядзіць і чагосьці жджэ ад жыцця».

— Няўжо вы такая бабуля? — засмяяўся ён.

— Легкаважны вы. Сапраўды, мне ва ўнукі здаліся б.

Ён зразумеў тады: з гэтым чалавекам нешта здарылася. Нешта вельмі нядобрае і крыўднае. Яму стала шкада яе. Дый каго яшчэ яму было цяпер шкадаваць? Тое сяло, у якім усё адрынула, падманула, надоўга растаптала яго? Тое клятае сяло!

...Вячэрняе сяло. Пад месяцам рухаецца перад натоўпам чырвоная зорка. Снег ззяе, нібы нехта густа засыпаў усё цукрам.

Палае вялізны корч, абкладзены лаўжамі: грэюць неба каб прыйшоў сонцаварот. Палаць яму суткі, пакуль не будзе бойкі між світаю зімы і світаю лета, пакуль не перамогуць, пакуль не спаляць чучала зімы.

...Грукат колаў цягніка.

...Яны з Аленай Навагр댋й ідуць побач у натоўпе калядніkаў. Мікола часам паварочвае галаву, бачыць яе ўсмешлівыя, незразумелыя вочы і вусны, якія таксама ці то ўсміхаюцца, ці проста іхні краёчак прыўзняты ўгору.

— Невыносны. Ты не на мяне вочы вытрэшчвай. Ты — унь туды.

«Туды» — гэта наперадзе. Там прыскоквае каза, паважна — да часу — выступае «дзед» з ільняной расчасанай барадою, «цыганка», з аблiччам, пафарбаваным бураком ледзь не да колеру слівы, а сама ў неймаверных рызманах, механоша, калматыя «воўк» і «мядзведзь», што паказвае і як дзеці гарох крадуць, і які агранам бывае злосны на падпітку. Тут жа і «чорт» з ляскаўкай. Яму пазней, калі накалядуюць, круціцца і старацца ўхапіць каўбасу з торбы.

Цымбалы, і скрыпка, і бубен.

Мікола ідзе і часам сціскае ёй локцік, і такая гарачая хваля пракотваецца па ім ад гэтага дотыку, што ён замірае.

І равуць, равуць над усім беларускія палескія трубы з вярбовай кары. У восем — дзесяць чвэрцяў даўжынёй: два з паловаю метры.

І яму, калі ён дакранаецца да яе, такой цёплай — ён адчувае — пад гэтым рудым кажушком, здаецца,

што гэта ім равуць трубы, што ўсё гэтае шэсце дзеля іх, што гэта іх вядуць на вечнае каханне, на гора і радасць. Зірнуў — здаецца, і яна адчувае.

«Пэўна, і труб такіх ужо даўно няма. Іхняя вёска заўсёды лічылася глухой».

Гудуць трубы. Як архангелы ў дзень судны, як трубы Ерыхона, як на страшнага ворага. І як жа не гармануе — і гармануе з імі — пяшчотная песня каляднікаў:

Чорны валішча — той дроў прывязе,
А памялішча — той печ замяце.
А ты, бабачка, стара галачка,
На печцы сядзі, чырвонцы лічы.

Увайшлі ў хату, запоўнілі двор.

— Святы вечар.

— А, сёння ў нас усе вечары — грэшныя,— не па правілах адказвае гаспадар.

«Як мне гэта забыць?!»

— Ану,— гэта дзед,— паскачы; каза, павесялі гаспадара. «Што ж гэта за насланнё?!»

— Ды пакланіся гаспадару, гаспадыні, каб нашу казу дый падарылі: рашато аўса, а наверх каўбаса, рашато грэчкі на варэнічкі.

Сала, ружовае на зрэз, стылае кельца каўбасы, хлеб яшчэ цёплы.

Зноў з гоманам, песнямі, гікам валіць проста праз гурбы натоўп каляднікаў... А зоры ўверсе былі спакойныя, амаль не дрыжалі. У снегавых пульхных падушках гарэлі агеньчыкі ў вокнах. І паўсюль гучалі, здалёк гучалі песні калядпікаў. У адным канцы сяла. У другім.

— Аленка, даражэнькая ты, добра як!

Яны адарваліся ад усіх, бягуць проста па гурбах у завулак і далей, у закінутую дрывотню, над якой пустой перагорнутай шапкай — буслянка.

— І добра, яшчэ лепей, што ўцяклі,— сказаў ён.

Дзяўчына ўпершыню не вырвалася. Стаяла, прыціснуўшыся да яго, і зрэдку ўздрыгвала. Ён скарыстаўся з гэтага.

— Не бойся. Ніхто не зойдзе. Усе там.

— Я не таму,— глуха сказала яна.— Ты застацца не мог бы?

— Я і застануся. Ля цябе. Усё адно дзе.

— Тут... Бо што ж я ў горадзе. Я там з нудоты памру.

— Не памрэш. Звыкнеш.

— Не звыкну. Была двойчы. Смурод, дым. А ў нас у полі вецер — такі празрысты. Дый смяяцца там будуць, што гавару не так. Застанься. Ну, добра?

«Не, досыць пра гэта».

Марына ніколі і нічога ад яго не патрабавала. Нават у той, першы, вечар.

Яны, урэшце, дайшлі да яе пад'езда. Стаялі, не дужа ведаючы, што і гаварыць, як і сказаць гэтыя апошнія словы. І раптам ён адчуў...

— Бывайце, Марына,— усё ж сарвалася ў яго з языка.

...І раптам ён адчуў, што яна не будзе супраць, калі ён зойдзе. І яшчэ адчуў сябе такім самотным у гэтым горадзе і ўвогуле ў гэтым свеце, што яму стала холадна... Але як? Усяго некалькі слоў, якімі яны абмяняліся, нязначных, пустых. Што яны маглі выразіць?!

А можа, гэтая сухасць, гэта яе нянавісць — можа, гэта яны? Калі гэта ўсё так, то гэта не болей чым пагарда да яго. І, магчыма, жаданне адпомсціць за нейкую вялікую, нясцерпную крыўду. Тады гэта яшчэ горай.

Дзяўчына, відаць, да канца зразумела.

— Зойдзем,— проста сказала яна.

Толькі тут, пры нізкім святле таршэра, ён паглядзеў на дзяўчыну больш уважліва, і раптам яго як стукнула: бог мой, да чаго ж прыгожая! Валасы чорныя-чорныя, мяккія нават на выгляд, мяккі авал твару, у чорных веях сінія вочы. Грацыя рухаў, калі прыносіла сеё-тое на столік, такая, якая бывае толькі ў жанчын з дасканалай фігурай. Чаму не заўважыў раней?

Вельмі проста. Знік з аблічча злы выраз. Цяпер на ім толькі лёгкая грэблівасць і стома.

— Ну вось, сядайце. Будзем павольна піць віно і маўчаць.

— Чаму маўчаць?

— А аб чым гаварыць? Аб холадзе?

— Ну, не так ужо і халодна.

— Ды я не аб тым холадзе.

— І я не аб тым.

Маўчанне.

— Слухайце,— сказаў ён.— Што з вамі, ну што? Вы крыху адышлі толькі тут.

— Тут мая крэпасць. А ўвогуле што ж, мы дарослыя людзі. Бываюць на зямлі такія крыўды, за якія няма даравання.

«Помсціцца. На мне».

Але дзіўна, гэтая думка, тое, што ён здагадаўся правільна, на гэты раз аніяк не абурыла яго.

— Вось бачыце, а вы накінуліся на мяне на пероне, як дзікая звярына,— іранічна сказаў ён.— У бібліі гэта называецца: свая сваіх не пазнаша.

— Я ведаю, таму вы й зайшлі сюды. Я за вечар зразумела тое, што з вамі. У мяне, па некаторых прычынах, за апошні час нюх на такое.

«Значыць, думае, што і я хачу помсціць. Не, гэта даўно, некалькі месяцаў, як перагарэла. Толькі пустэча. Проста пустэча, і ўсё».

І яна зноў зразумела гэта без слоў. Ён сеў ля яе ног на падлогу.

— Гэта вы кіньце,— сказаў ён.— Нічога добрага з гэтага на атрымаецца. Для вас.

— А я не думаю зараз ні аб сабе і ні аб кім. Самоты людзей, крыўды людзей — каго яны абыходзяць?

— Не заўсёды ж самота.

— А потым зноў пустка.

— Ну, бываюць жа, згадзіцеся, хаця дні без усяго гэтага.

— Так.

— Ну вось і разумныя. Сядзіце ціха, мілая, ачуньвайце.

Яны маўчалі. Ён сядзеў ля яе ног і ўспамінаў, як гэта было тады.

...Адрына. Чорная цёплая пашча варот, з якой патыхала летам. Ішлі нацянькі, задваркамі, да яе хаты і выпадкова натрапілі на яе. А можа, і невыпадкова. Можа, вяло нешта вышэйшае.

Патрэсквалі сцяблiны. Нешта шамацела, можа, мыш. Дужа здалёк, ад хат, ляцела ледзь чутнае:

Жаль на зязюлю,
Жаль на рабую.
Што рана закавала.
А-а-а жаль на матулю
Жаль на радную,
Што мала я пагуляла.

Абняўшы яе, ён зразумеў, што гэта ўсё, канец. А яна дрыжала ў ягоных руках. Не ад холаду, бо ў сене было хутчэй горача.

«Досыць, досыць пра гэта!»

Таму што далей пайшла нейкая лухта. Нейкае дзікае, неверагоднае непаразуменне.

Ласевіч паехаў, абяцаючы праз паўтара месяца вярнуцца і ўзяць яе з сабой: здалася-такі.

Матляючыся ўсе гэтыя дні і тыдні ад станцыі да станцыі, недаядаючы і недасыпаючы, бо не было калі, начуючы ў дрэнных гасцільнях і на ліпучых кантор-скіх канапах з цыраты,— ён здзіўляўся, што яшчэ бываюць такія,— Мікола ўвесь час успамінаў чырвоную пляму зоркі, душны ад сена і свежы ад вонкавага марозу пах адрыны, Аленчыны рукі, што нечакана моцна сціскаюць ягоныя рамёны, цёмны рот, і цёмныя вочы, і няўлоўны водар яе валасоў.

Два лісты — і няма адказу. Крыху абражаны, ён даслаў паштоўку — нічога. І тады ён, упершыню ў жыцці, сяк-так скінуўшы з плячэй справы, узяў на некалькі дзён водпуск і памчаў у Ласевічы: ратаваць тое, што засталося, і ўсё, што толькі магчыма.

Нічога не засталося.

Вось такой жа ноччу ехаў ён, і так жа калаціла цягнік, і такія ж прывіды ўставалі за вокнамі. І ён кляўся сабе, што калі толькі ўсё добра, ён ніколі ні на імгненне не выпусціць яе з рук. А потым была вёска, незвычайна ціхая, у параўнанні з калядамі, яшчэ больш заснежаная і заінелая, з блакітнымі пацёкамі лёду ля студняў, з умытым ружовым усходам.

І сустрэча была. Спяшаўся да хаты Наваграяў і, твар у твар, сутыкнуўся на вузюткай, нерастаптанай яшчэ сцежцы. Ішла ў гэтым сваім рудым, расшытым па баках і кішэнях кажушку, у той жа хусціне.

Толькі твар быў не той. Не той, які смяяўся тады на санках, такі ззяючы і румяны. І не той цьмяны і загадкавы, як тады ў адрыне. Гэта быў твар жанчыны, якой давялося-такі сербануць ліха, падсохлы, жарсткаваты, з падціснутымі вуснамі.

— Алена.

Ён спалохаўся, убачыўшы, як пацямнелі яе вочы.

— Што з табой?

— Дай прайсці.

— Дык вось жа я. Прыехаў.

— Бачу, што прыехаў. Свайго недзе не знайшоў, то прыехаў.

Прыгожыя дыялогі бываюць толькі ў раманах. У жыцці яны, часцей за ўсё, грубыя, кароткія і невыразныя. Але каб вы толькі бачылі, колькі болю, пагарды і нянавісці было ў гэтых вачах.

— Саступі.

— Ты раней растлумач, што здарылася? Чаму не адказала на тры мае лісты?

— Тры? У каго ты вочы пазычыў? Хоць бы слова за ўвесь гэты час!

— Хлусня.

— Гэта ў цябе хлусня. Ва ўсіх вас хлусня. Каляды забыў. Адрыну забыў. *Такое* забыў. Шэлег табе цана, ты — тхор.

— Алена, гэта памылка нейкая. Немагчыма, Алена.

Гаворачы нешта бязладнае, ён паспрабаваў узяць яе за рамёны, расказаць, растлумачыць нешта. Але яна раптам з усёй сілы саштурхнула яго са сцежкі. Ён не быў зломкам, але штуршок быў зусім нечаканы, і ад яго Мікола сеў у снег.

І ўсё гэта бачылі людзі, а яна прайшла, не, праплыла міма, выяўляючы спінаю такую неймаверную пагарду, што Ласевічу стала холадна пад сэрцам.

У ранейшыя часы ён у адказ надаваў бы ёй ляшчоў, і ўсё, магчыма, высветлілася б, але цяпер ён быў для гэтага ўжо занадта цывілізаваным чалавекам. Кепская ўсё ж, часам рэч — цывілізацыя.

Таму ён толькі выбраўся на сцежку і, абабіваючы снег, сказаў ёй услед глухім голасам:

— Ты аб гэтым, Алена, пашкадуеш. Ні каляд і нічога я не забыў. І лісты дасылаў. Дзе — не ведаю. Спытай у свайго сумлення. Можа, адказваць не хацела, то й прыкінулася. Няхай. Шкадаваць не буду. Але лісты — былі, хай так мая хата гарыць і сам я здохну.

Павярнуўся і пайшоў прэч. Аблічча было такое, што твары ўсіх, хто бачыў, пасур'ёзнелі.

Ён прамінуў хат каля пяці, калі яму здалося, што нехта ззаду паклікаў яго па імю. Ён не азірнуўся, з яго было досыць гэтай несправядлівай абразы на вачах вуліцы, ледзь не на вачах усяго роднага сяла.

І зноў нібы нехта паклікаў. Няголасна. Ці, можа, яму толькі хацелася ў гэта верыць? Ясна, што толькі хацелася. Напаўголаса ніхто не кліча, ні на дапамогу, ні тады, калі бурыцца свет.

А свет бурыўся. Мікола ішоў, амаль не бачачы дарогі, сутаргава хапаючы ротам паветра, і ўсё ўнутры ледзь не рвалася ад абразы, кахання і ўспамінаў.

...Праз месяц, у камандзіроўцы ў Пінску — Міколу часта даводзілася ездзіць сюды — ён, скарачаючы дарогу, ішоў рынкам. Быў сакавік, і неба ўжо было празрыстае і сіняе, але ўсё яшчэ марозіла, у баб былі шызыя ад марозу шчокі, мужыкі ў вайлаках пераступалі з нагі на нагу, а ўюны ляжалі на прылаўках, змёршыся ў вялікія срэбна-карычневыя купы, і іх даводзілася раздзіраць нажом на брылы, каб адважыць колькі ўжо там кілаграмаў.

«Смачная рэч уюны. Адтаяць, нацерці соллю, каб не слізгалі ў руках, калі патрашыш. Дый якое там патрашэнне...»

І тут Ласевіч нечакана сутыкнуўся з Петрам Любоўчыцам, у хаце якога прыбіралі каравай. Стаяў здаравенны, чырвоны ад марозу і ад таго, што, відаць, хільнуў чарчыну, усміхаўся.

Пайшлі ў сталоўку непадалёк, хаця Міколу й не хацелася. Ён увогуле амаль нічога не еў увесь апошні месяц; не хацелася жыць. Але пацягнуў Петра, гарлаючы аб тым, што ў яго такі лешч, якога Ласевічу ніколі ў жыцці не даводзілася бачыць, а ў сталоўцы ёсць піва.

Лешч, сапраўды, быў такі, якога не бывае. Сантыметраў на сорак. Яны абдзіралі з яго скуру, і агалялася карычнева-чырвоная плоць, якая аж сачылася, аж спадала кроплямі тлушчу. Два заўсёднікі за суседнім сталом пазіралі на іхнюю оргію з зайздрасцю. Петра і ім адхапіў па кавалку. Ён быў добры чалавек, Петра. А Мікола засумняваўся толькі, ці павезлі б яны, едучы да Петры, скрынку піва.

Яны гаварылі аб сім-тым, папіваючы гаркаватае смачнае піва. Тытунёвы дым сцяліўся пад столлю (курыць у сталоўцы было катэгарычна забаронена), і толькі пад канец Петра спытаў:

— Ну, і калі да нас?

— Мабыць, ніколі.

— ?!

— Лепей ты да мяне прыязджай. А я матку ў горад днямі забіраю.
— А хата?
— Хату хай Наваграі сабе бяруць. Ім, мабыць, скора дзяльба спатрэбіцца.
— Дык ты што? Праз Аленку? Што гэта ў вас там?.. А, не мая справа! Але ж і ты свінтухайла! Столькі не пісаць! Звёў дзяўчыну і ...
— Пісаў я гэтыя лісты!
— Не брашы,— ён відавочна не верыў.— Ясна — не.
Міколу раптам стала горка. І гэты не верыць.
— Няўжо ты думаеш, што праз уласную ляноту я захацеў бы страціць яе? Калі так, то глупства ты думаеш. Яна мне была...
Голас быў такі шорхлы і адчайдушны адначасова, што ў Петры раптам аж вусны задрыжалі. Паверыў.
— Дзе ж яны дзеліся? Дзе, да трох д'яблаў?
— Хацеў бы я й сам гэта ведаць.
— Дзядзька Астапа Васілеўчыка дырэктарам пошты ў Лоўні працуе,— уголас разважаў Петра.— Ды не, гэты на злачынства не пайшоў бы.
— На службовае злачынства,— з крывой усмешкай сказаў Ласевіч.
Рукі ягоныя дрыжалі.
Петра думаў. Потым раптам зрабіў здаровы лык піва, нібы ў яго ў глотцы перасохла.
— Ведаю. Ідыёт. Ёлуп. Здаецца, разумею, чаму так. Паштальён тады захварэў, і дзядзька Астапаў... Пошту цэлы месяц Іван Ступа насіў.
Мікола ўнутрана сціснуўся. Яму стала горача. «Сябар Астапаў. Шырокая, вясёлая і бессаромная морда. Вечныя паскудствы. На вачах у іншых такія мілыя, з такой ладнай прыдумкай, што ўсе яму даравалі. За вочы, калі нават падазраваць не ўсе будуць, такія, за якія б'юць морду. Напрыклад, у спёку кінуць суседу некалькі пачак дражджэй у прыбіральню, каб разлілося на ўвесь двор... Ясна, зрабіў сябру паслугу. Хутчэй за ўсё, без ягонага ведама. Астап харошы, сумленны хлопец. Божа, хутчэй трэба ратаваць становішча. Растлумачыць. Сказаць».
— Петра, ты сёння ж назад? З машынай? Бяры мяне з сабой,— заспяшаўся Ласевіч.

Петра глядзеў на яго са спачуваннем і скрухай, як на цяжкахворага.

— Узяць-та я цябе вазьму,— з уздыхам сказаў ён.— Але як ты з гэтай прычыны хочаш ехаць, то лепей не трэба, Міколка. Не вернеш нічога. Толькі душу наддзярэш.

— Што?

— Выйшла яна замуж тыдзень таму. Не піша, не вяртаецца, то са злосці хоць за Астапа, сказала, пайду.

Сцены сталоўкі закруціліся перад Міколавымі вачамі. Каб не ўпасці, ён учапіўся за сталешніцу. Апошнім праблескам прытомнасці ўбачыў белыя з перапуду Петравы вочы, а потым цяжка ўпаў галавою на стол.

Павольна вярталася прытомнасць. Яго тармасіла за плячо буфетчыца:

— Надрызгаюцца тут, пасля на падлогу бляваць пачынаюць.

— Не на стойку ж яму бляваць,— груба сказаў Петра.— І ўвогуле, ведаеш што. Валі ты адсюль. Ты што, бутэлькі гарэлкі ад фунта ліха адрозніць не можаш. Гора ў чалавека.

Буфетчыца глянула на Міколаў твар і спалохалася:

— А бра-атачка. Ды што ж гэта з табою? Ды не бядуй, не бядуй ты так, даражэнькі.

...Пасля ён крыху прыйшоў да прытомнасці ўжо на вуліцы. Цьмяна памятаў, як праводзіў Петру і як той сказаў:

— Ну, я цяпер Ступе! З морды квашаніну зраблю, падле. Дый тым мала не будзе.

— Не трэба.

На горад спускаўся прыцемак. Ласевіч ішоў, а сэрца нібы стаяла ў яго ў глотцы.

Ён спыніўся ля касцёла францысканаў. Змрочныя гмахі ўзносіліся ў нізкае неба. Брудна-шэрыя муры былі нібы пасыпаныя цукарнай пудрай, а вакол стаялі заснежаныя дрэвы. Невядома нашто ён зайшоў на цвінтар і сеў у нішу мура.

Калі нехта адчыняў дзверы, адкрывалася ўнутранасць касцёла, раскалена-чырвоная, як вусце печкі, і з гэтага агню далятаць трубныя гукі: мякка рыкаў арган.

І раптам чалавек заплакаў. Без слёз, адной глоткай, што аж разрывалася, калоцячыся ўсім целам, як усе людзі, якія не ўмеюць плакаць.

У нумары ён паставіў на стол бутэльку гарэлкі і стаў жлукціць поўнымі шклянкамі, як на апошнюю літасць, спадзеючыся на тое, што памрэ.

Доўжыць гэта, нясцерпнае, не было ні сілы, ні жадання. Ён ляжаў, а ў вушах ягоных гучала, і гучала, і гучала, зноў, і зноў, і зноў, як сапсутая пласцінка:

Купіла я сукню
Белага шоўку,
Дый тую не знасіла.
Толькі я ў ёй красавалася,
Як я ў ёй вянчалася.
Гарэлі свечы
Дый яснюсенька,
Борздзенька пажахалі,
А мне, дзевіцы
Маладзюсенькай,
Ды ўжо свет
Завязалі.

Ён не памёр. На жаль. Спачатку хацеў быў напісаць ёй, але раздумаў. Нашто разбіваць ім шчасце. Дый морду біць нікому не хацелася. Позна было нешта рабіць. Астап, ясна ж, нічога не ведаў. Не пайшоў бы на такое. Усё ж былы друг.

Пару месяцаў ён кожную хвіліну хацеў, каб на яго наляцела машына, упала з даху брыла лёду, абы толькі не тое, што адбывалася з ім. Потым стаў пакрысе адыходзіць, цяжка, павольна, пасля занатурыўся: ну, і чорт з імі!

...Цягнік, ірвучыся праз ноч і лясы, працягла заспяваў, загаласіў, скардзячыся на нешта. І чамусьці гэта нагадала Ласевічу гукі тых даўжэзных труб на калядах. Пэўна, яны гучалі і на вяселлі.

...Хата аж гарыць святлом, сталы, знесеныя адусюль, аж ломяцца: студзіна, вялізныя пякучыя кавалкі свежыны, зялёныя бутэлькі, горы смажанай рыбы.

Яна сядзіць у вышыванай сарочцы. Вянок з кветак і васковых «божых слёзак» аблямоўвае яе залатыя валасы. А пад ім аблічча, крыху сумнае, але ўсё ж здаволенае сваёй пачэснаю роллю на гэтым свяце жыцця. Сінявокае, з празрыстым румянцам,

з вішнёвымі вуснамі, што ўсміхаюцца сумнавата і адначасова расчулена.

— Горка!

Той схіляецца да яе, здаровы, чубаты, вясёлы, гаспадар. Вочы смяюцца. І вусны Аленчыны раскрываюцца насустрач ягоным прагным вуснам, як кветка. А вакол гудзе і гудзе:

Ды сядзіць зайка
Да пад ліпкаю,
Вочкі трэ,
Да прыйшоў к яму
Падмаршалачак,
Зайка́ б'е.
«А за што ж мяне,
Падмаршалачак,
Да ты б'еш?
Да ці ж я твае
Вараны коні
Напужаў?
Да ці ж я тваю
Красну дзевіцу
Адбіваў?
І... ды напужалі
Вараны коні
Вераб'і,
І... ды адбівалі
Красну дзевіцу
Малайцы».

«Божа, куды мне ўцячы ад усяго гэтага?»

...Таму праз некалькі там месяцаў ён і сядзеў ля ног іншай.

— Кіньце,— пасля доўгага маўчання сказаў ён.— Яшчэ некалькі месяцаў назад і я думаў, што свет абурыўся. Даходзіў да такога вар'яцтва, да такога свінства, да такой нізасці, што, каб вярнуць былое, згадзіўся б, каб увесь свет ляснуў, а засталіся толькі яна і я. І вось — нічога. Нічога. Можна жыць. Можна і трэба жыць.

— Дзеля чаго трэба?

— Хаця б дзеля таго, што чалавек зрэдку вось так, як зараз, патрабуе другога.

— Калі вы гэта вырашылі?

— Тады, калі сказаў сабе: не, з гэтым глупствам, з гэтай мукай трэба канчаць.

Яна паклала далонь яму на галаву, пагладзіла валасы.

— Ламанула вас, небараку.

І тады ён абняў яе доўгія моцныя ногі і прынік абліччам да яе каленяў.

— Ну што, што?

— Нічога, проста мне ўпершыню за апошнія месяцы амаль зусім добра.

Маўчалі. Цікаў гадзіннік, і яна адчувала, як, амаль у такт яму, няўхільна адмяраючы час, калоціцца ягонае сэрца. Незваротны, хуткаплынны, няўмольны час яе і яго жыцця.

Яна схілілася і прыпала галавою да ягонай галавы:

— Пусціце мяне, калі ласка, мілы вы мой.

— Ды не пушчу,— з уздыхам сказаў ён.

І яна раптам сама адчула, што яе сэрца, спячае, нібы замарожанае, безжыццёвае, пачало калаціцца ў тым жа рытме, што й ягонае.

— Вы што ж, усю ноч так і праседзіце тут?

— Калі спатрэбіцца, то і ўсю ноч.

— Гэтага не трэба,— з цяжкім уздыхам, нібы скідаючы нешта, сказала яна.

І ўстала. Ён, нібы зразумеўшы нешта, бязважка гладзіў яе ногі.

— Устаньце ж,— грудным голасам сказала яна.

У гэтым голасе гучала нешта такое рашучае, што ён падпарадкаваўся. Яна прыцягнула яго да сябе і халодна прыклала вусны да яго лба.

— Ну вось. Нікуды я вас не пушчу. Транспарт ужо не ходзіць. Вось ваша тахта. Кладзіцеся. Я зараз.

...Ён ляжаў і абыякава глядзеў у столь. Караблі, так бы мовіць, былі спаленыя. Чуў нейкія рухі ў кухні. Пасля далятаў голас:

— Згасіце святло.

Ён працягнуў руку, націснуў выключальнік, і адразу пасвятлела чорнае дагэтуль акно. На яго фоне рухаўся сілуэт.

— Хадзіце сюды,— ціха сказаў ён.

— Я і іду.

Пачуўся электрычны нейлонавы трэск. Пасля нейкі лёгкі прывід слізнуў у цемры і крануўся яго.

Ляжала, уся сціснуўшыся, са зведзенымі плячамі, нібы кожны момант чакала ўдару аднекуль з цемры: жывое ўвасабленне краху і адчаю. І ён, прынікшы да яе, пачаў укрываць мяккімі бязважкімі пацалун-

камі яе плечы. Нібы суцяшаў. Ды так яно і было.

Ляжала з моцна заплюшчанымі вачамі, не адказвала ні на яго пяшчоту, ні на ласкавыя рухі ягоных рук, і вусны былі сціснутымі так горка і так неймаверна моцна, нібы яе катавалі.

— Бедная мая, што з табою ўчынілі... бедная мая... харошая мая... Ну, прачніся, адтань, не трэба... вось бачыш... Усё яшчэ можа быць добра.

Паступова, вельмі паступова яна адтавала; правяла рукою па яго валасах, уздыхнула, абняла яго, пачала прыціскаць мацней і мацней:

— Пашкадуйце мяне, слаўны мой, пашкадуйце мяне... Мне кепска, цяжка, вельмі нядобра... Халодна... Мне цяпер няма куды... няма... няма.

У яго і сапраўды было толькі шкадаванне, шчымлівае, нязноснае, страшнае шкадаванне, у чымсьці падобнае на любоў. Але яна, не ведаючы гэтага, не жадаючы ведаць, цалавала яму рукі:

— Мне страшна... Мне ўсе гэтыя дні было страшна, што я не вытрымаю.

І раптам заплакала. Спачатку з такім нясцерпным адчаем, што мужчына спалохаўся. Потым усё больш ціха і жаласна, як пакрыўджанае дзіця. Ён гладзіў яе па валасах, і яна ўжо толькі ўсхліпвала. І раптам, прыхліпваючы, сказала яму:

— Дзякуй табе. О, дзякуй табе! Я сёння не магла б адна. Ноч, песні. А тут халодны пакой, і думы, і нясцерпная абраза. І *таму* ўсё як з гуся вада ў гэтую ноч і ва ўсе ночы. Я не была з ім, але ён мне, але я яго...

— Кінь пра яго,— жорстка сказаў мужчына.

— Не буду болей. Не варта. Ты мяне навучыў гэтаму. Дзякуй табе, што ты не пакінуў мяне адну. Нават калі ніколі болей — дзякуй. За тое, што трапіў на шляху — дзякуй, што суцешыў і даў сілы — дзякуй, за тое, што ты ёсць — дзякуй.

— Дзякуй і табе. За ўсё.

Яна заснула, прыпаўшы галавою да яго пляча. Зрэдку сутаргава ўздрыгвала ў сне. А ён ляжаў бяссонна і думаў.

І зразумеў, што гэта ўварвалася ў яго жыццё не проста дарожная прыгода, і шкадаванне, і жаданне цішыні на адзін вечар, жаданне паратунку, да якога

ён прыпаў, як атручаны да проціяддзя, а нешта куды большае, цяжкае, няўмольнае, але тое, ад чаго нікуды не пойдзеш, дый не трэба ісці.

...Крык цягніка, што ляціць у ноч.

«Так з ёю ніколі і потым не было таго, салодкага, магутнага, пагрозлівага, як смяротная часіна ў навальніцу... Каханая болей за ўсіх, а болей няма і не будзе... Ніколі не было таго, што прынеслі тады яму каляды... Але затое з ёю было іншае... Але затое тут была бязмежная адданасць, цеплыня, пяшчота і давер да яго.

І вяртання ўжо не магло быць. Якімі пасля гэтага сабачымі вачамі ён паглядзіць у гэтыя адданыя вочы, якія жывуць толькі дзеля яго, яшчэ раз жорстка, да смяротнай абразы, а можа, і да смерці падмануць яе, добрую, мілую, якая спачатку проста хацела адпомсціць, а пасля зразумела, што з гэтага атрымалася нешта зусім не тое, і прыпала да яго, як да апошняга мура, і даверылася яму».

«Усё скончана».

А можа, паспрабаваць яшчэ раз. Прыйсці, уладна ўзяць за руку, вярнуць тое, чаго не было, няма і не будзе.

Вось ён ідзе па начной вуліцы. І каляднікі падыходзяць пад яе хату, і звініць песняй пад самае зорнае неба стракатая юрма.

Ходзіць-паходзіць месяц па небе,
Кліча-пакліча зоры з сабою.

Ускінутыя да зор абліччы, урачыстыя вочы.

Ой вы, зараньні, сястрычкі мае,
Да хадзем жа мы пана шукаці,
Краснага пана, пана Астапа.

І вось ён і яна кідаюць у мяшок каляднікам сала. Яе рукі, такія белыя, так плаўна і мякка загнутыя на локціках, з ямачкамі ля гэтых локцікаў, кладуць у мех каўбасу.

Ён скрыгнуў зубамі ад пакутлівай рэўнасці.

Не, сысці, узяць за руку, павесці за агністай чырвонай зоркай пад урачыстыя гукі доўгіх труб.

...Але ж, магчыма, нічога гэтага няма, няма.

Ёсць! Ёсць! Яны топчуць снег, і яе рука ў ягонай руцэ, моцная, цёплая, рука каханай болей за ўсіх,

а болей няма і не будзе. І весела, радасна скачуць вакол воўк, мядзведзь і каза.

...А Марына ляжыць на тахце, утаропіўшыся ў цемру пустымі вачамі, з якіх знік назаўсёды ён, з якіх знікла назаўсёды ўсё.

Цягнік запавольваў ходу. Радзей і радзей стукалі колы. Праплыў адзін агеньчык... другі.

Мікола схапіў чамадан і кінуўся ў тамбур.

Паўстанак. Будыначак, што дзівам збярогся ў вайну. Слабае святло з акон. Таўшчэзныя таполі ў кветніку.

«Як я мог без гэтага?»

Пазелянелы звон. За будынкам, пад скупым ліхтаром, сялянскія сані. Рыпіць пад нагамі ў людзей снег! І яна! Яна!

Брэнкнуў звон. Цягнік паволі рушыў у ноч.

Кінуць чамадан, каб усё, каб так ці інакш скочыць...

«Так... так... так...»,— адбівалі колы.

Ён прымерыўся.

«Не так... не так... не так...»,— змяніў рытм цягнік.

Праплыло дзесяць агнёў... два... адзін... Потым цемра. І толькі дужа-дужа слабыя агні хутароў рэдка-рэдка міргаюць у снягах.

...Ён стаяў у тамбуры, прыціснуўшы лоб да ледзяногa шкла, і даўкі яблык паступова таяў, таяў, таяў.

«Я ўсё ж страшэнна шкадую, вельмі кахаю яе».

Ён курыў, а ў вушах чамусьці стаялі радкі з нейкага польскага верша. Чые, ён забыў:

Отвужце, отвужце окна в гломб кшычонцэго огроду,
Топельцем в песнь поплынэн, кіпелён похлоненты
Лець, укоханы доме, зэрвій сен з земі окрентем!
О, жоно! О, пшыяцеле! Допрaвды: нема повроту.

Цягнік набіраў ходу, вырываючыся ў палі, у якіх рэдка-рэдка трапляліся агні і па якіх слаба гуляла дуйка. Пасля зноў пагружаўся ў лес, у нетры, і тады квадраты акон імкліва вырывалі з цемры заснежаныя яліны, каб разбудзіць іх на хвіліну, а пасля зноў пакінуць зімовым снам.

Чалавек стаяў, курыў і глядзеў у начныя снягі.

# КАЗКІ



## ЛЕБЯДЗІНЫ СКІТ

Даўным-даўно дзень аднойчы ўзышоў не ў сонечным святле, а ў зараве пажараў і чорная копаць паняслася на захад. Гэта рознапляменныя орды ўладара Батыя пайшлі навалай на рускую зямлю. Ішлі, грымя зброяй, кумыцкія сотні, ехалі ў чорных даспехах цёмнікі перад радамі татарскіх палкоў, ехалі на вярблюдах белатварыя жыхары Харэзма, а ззаду іх валакліся вялізныя хурманкі з нарабаваным дабром і белавалосымі паланянкамі. Усё шло як трэба: вучні жрацоў авалодвалі чарамі ў час малпы, іржалі коні, брахалі сабакі ля прапахшых дымам кібітак, гушкалі жанчыны мурзатых дзяцей, якія сачылі касымі вачыма за адбіткам пажару на крывых мячах сваіх бацькоў. Наперадзе яны сустракалі зялёныя палі, хаты ў садах і стракатыя гарады, а ззаду пакідалі толькі чорную пустэчу, па якой як жадаў хадзіў вецер, узнімаючы сталбы попелу. І болей нічога не заставалася на калісьці зялёнай зямлі.

Хмарамі нясліся стрэлы, пыл гарадоў дасягаў неба, жадныя рукі хапалі каляровыя рантухі[1], табін[2], саф'янныя кабці[3], вопратку з каразеі[4] і фалендыша[5],

---

[1] Шаль.
[2] Гатунак едвабу.
[3] Абутак.
[4] Тонкае сукно.
[5] Гатунак тонкага сукна.

буркацелавыя[1] рызы папоў і глядзелі на вагонь з затоенай ухмылкай касыя вочы іх уладара. І была абдзёрта зямля балотнай Русі ўшчэнт. Тысячы палонных валакліся на валасяных арканах за іх канямі, і няма каму было плакаць над руінамі, бо ўся пустая стаяла зямля. І калі яны павярталіся назад — каням іхнім не хапала корму, і шмат якія падалі, і хан разаслаў у розныя бакі сваіх нукераў, каб пашукалі яны пашы для жывёл. Трое не знайшлі нічога, а чацвёрты сказаў, што ён бачыў на поўдзень возера і лясы вакол яго і зялёныя лугі. І толькі стаўшы там, пабачылі на беразе возера скіт, змётаны з шэрых бярвенняў, ля якога завіхаўся нейкі старац.

Хан сам пажадаў паглядзець на рускага дэрвіша, а той, калі пабачыў яго, не затрымцеў ад жаху, а спакойна сказаў:

— Мусіць, гэта свету канец прыходзіць, што такі твар бачу я.

— Так,— адказаў хан, у якога бровы былі падобны ляжачай сабаке, а вочы ззялі, быццам іржавая сталь,— я, хан Бату, нясу на зямлю смерць, і хіба вам, лягушатнікам, змагацца са мною. Калі хто паспрабуе — я знішчу яго. Калі хто не гнецца перада мною — я раблю яму хрыбет мяккім, падзяліўшы яго на дзве паловы. Літасціва гэта?

І паэты яго пачалі славіць, толькі п'яненькі паэта Юсуфі сказаў, качаючыся ў сядле:

— Калі ўспыхнуў — згарыш, калі нарадзіўся — памрэш. Куды падзенуцца тагды, хан, твае скарбы. Што ты возьмеш з сабою і што пакінеш на зямлі, акрамя гары чарапоў.

— А што пакінеш ты, слімак?— весела спытаў хан.

— Песню,— адказаў п'яны Юсуфі.— Далібог, гэта лепшая спадчына — сумленная песня. Зараз яны пяюць хвалу табе, заўтра — іншаму, а яшчэ праз пяцьсот год, а можа, і раней, люд будзе клясці цябе за тое, што ты вёў яго гэтым шляхам, поўным крыві і стогнаў. Што скажаш тагды ты, які заваяваў палову зямлі, не пасадзіўшы на сваёй нават рэпы і задаволіўшыся той часткай яе, якая пасыпецца табе ў твой мёртвы рот.

[1] Парча.

Хан зарагатаў:

— Пакуль што я прымушаю другіх есці зямлю, бо што такое народ. Народ — гэта статак, у якім кожная жывёла думае толькі аб тым, каб есці другіх і не быць з'едзеным. Глядзі, гэтых людзей мы пабралі ў палон, і яны хутка забудуць мову сваю і сваю зямлю. Яны памерлі ўжо.

— Не,— сказаў Юсуфі,— яны шчэ не нарадзіліся.

— І не народзяцца ніколі,— сказаў Бату,— бо мы павалачэм іх у свой стэп, як павук муху, і дзеці іх памруць рабамі.

П'яны Юсуфі глянуў на яго са смехам:

— Хан, ты не ўласны гэтага зрабіць. Хіба ты забыў старую прыказку: «Дзіцёнак раджаецца ад матары, а памірае за народ». Калі адно толькі калена застанецца ад народа — дык і ад яго пойдзе ён жыць.

І адказаў хан:

— У гэткага люду? Саромся. Іхнія «каназы» цураюцца сваёй мовы, іх папы — брахлівыя сабакі, у людзей яго, як у птушкі, адно жаданне — набіць свой валляк.

— Э, ды што гаварыць з вар'ятам,— сказаў п'яны Юсуфі,— птушкі любяць волю.

— Паспрабуем?— спытаў хан.— Вось стаіць чалавек, які не прарок і не цудатворац. Спытаемся ў яго, што яму болей даспадобы: развешаць вантробы свае па гэтых ялінах і выратаваць сваіх людзей альбо наадварот.

Юсуфі плюнуў і змоўк, а хан звярнуўся да старыка з тым жа пытаннем. Той сказаў панура:

— Калі ты сапраўды пусціш гэтых людзей — я гатовы да смерці.

— Чаму «сапраўды»? Хіба я зусім не маю чэсці?

— А хіба мае яе воўк, які забраўся ў статак. Ты не маеш чэсці, бо не верыш ва ўласную сілу.

— Добра,— сказаў хан, пачарнеўшы ад злосці.— Чаму ты згаджаешся на смерць?

— Я ўсё жыццё рабіў не тое,што трэба,і хачу хоць смерцю саслужыць на карысць сваёй зямлі. Я моцна жадаю гэтага, а калі моцна жадаеш — усё будзе па-твойму.

Хан пасміхнуўся, і ўсім здалося, што дзве чырвоныя змяі пачалі рухацца ў яго пад рэдкімі вусамі:

— Колькі людзей ты жадаеш палучыць за сваю скуру?

— Адпусці ўсіх.

— Ого, а ці не занадта гэта будзе дорага за дзіравую скураную торбу, якая зморшчылася ад год, як печаны яблык. Я дам табе дванаццаць душ.

Юсуфі разрагатаўся:

— О вялікая мерка ханскай шчодрасці. Можа, таму і адбываецца выхад хана на нараду ў час мышы, што ў яго мозак і душа мышы. Сорам!

А старац стаяў і думаў напружана, а потым адказаў:

— Хіба хто прадае, не патаргаваўшыся нат за шэлег, а тут жа справа йдзе не пра бэркавец мёду і не пра лашт збажыны, а пра жыццё людзей.

І сказаў хан Бату:

— Добра! Але я не гандляр на самаркандскім базары і слова маё — ёсць апошняе слова. Хочаш, я падарую жыццё і волю столькім тваім землякам, сколькі іх памесціцца ў гэты твой «скіт». Гэта апошняе слова. ...У скіт без прытвора.

— Дваццаць чалавек,— сказаў Юсуфі і спахмурнеў.— Праўду кажуць, што совесць хана не варта гнілога гарбуза.

— Трыццаць пяць,— сказаў адзін цёмнік.

— Пяцьдзесят,— прыбавіў на вока нейкі нукер.

Але болей ніхто не даў, бо ўсе бачылі, што нават паўсотні людзей скіт размясціць не здолее.

Хан нагадаў, каб нукеры адвялі старыка ў прытвор і паставілі над ім варту, але Юсуфі сказаў, пачырванеўшы:

— Я саромлюся за свой народ, хан, перад гэтымі балотнымі жыхарамі. Той, хто не давярае чэсці людзей — сам не мае яе.

— Маўчы, п'янюга,— раззлаваўся хан, але адазваў нукераў.

Падняўся стогн і плач: матары выштурхоўвалі наперад дзяцей, жаніхі імкнуліся выратаваць мілых нявест сваіх, дзеці — старых сваіх бацькоў. Гэтак цягнулася да тых пор, пакуль нукеры ўдарамі сваіх карбачоў не сагналі іх усіх у адну чаргу.

Маса людская тронулася і папаўзла наперад пад ляскание бізуноў адной вялізнай змяёй. Стомленыя

людзі спатыкаліся і падалі, іх паднімалі і цягнулі з сабою.

І здарылася цуда: памыліліся, прыкідваючы на вока, і Юсуфі, і нукер, і цёмнік. Вось ужо паўсотні палонных зайшло ў скіт, вось сто чалавек знікла ў халоднай цемры яго, а людзі ўсё ішлі, а з-пад скіта пачаў выбівацца да возера цёпкі струменьчык вады. Адзін татарын чарпануў вады шаломам і пачаў пляваццa.

— Голая соль,— сказаў ён.

Хан пачынаў гневацца, а паток людскі ўсё плыў да плыў у расчыненыя дзверы скіта, і няма, здавалася, яму ані канца ані краю.

Вось прабрылі полацкія людзі, людзі з Крычава, аршанскія паланянкі і паланянкі з берагоў Адрова, вось пацягнуліся палонныя з Менеска і Ноўгарадка і з Задзівінскай зямлі, нёманскія рыбары і пінскія лучнікі і ваўкавыскія бортнікі, якіх скруцілі іхнімі ўласнымі «лезівамі». Юсуфі пасміхаўся блажэннаю ўхмалкаю і мармытаў:

— Так, калі чалавек моцна захоча — ён зробіць нават немагчымае. Так і гэты дзед, хай пашле яму алах лёгкую смерць.

Калі скрылася ў скіту палова палонных — раз'юшаны хан грымнуў:

— Трымайце, ён ашуквае нас. Астатнія пайдуць з намі!

Але пачалі нешта мармытаць нукеры і пасмейвацца цёмнікі, а паэта Юсуфі рагатаў не тоячысь, бо не баяўся нічаго, акрамя знікнення свайго дара.

— Трымай, трымай слова, хан. Для зайца самае каштоўнае камыш, а для мужчыны — чэсць, ці не так?

Рука хана сціснула аброць, але ён прамаўчаў, што б ён мог зрабіць? А людзі цягнуліся ў расчыненыя дзверы скіта і знікалі там, а на небе праяснялася і знікалі хмары, і праз палы пачала прабівацца зялёная маладая трава, а дрэвы зашумелі новым лісцём.

— Хан, там унутры амаль пуста,— сказаў нейкі з яго асяроддзя.

— А дзе старац?

— Ён стаіць на каленях і плача.

— Добра,— сказаў упаўшым голасам хан,— хай заходзяць далей.

Здзіўленыя стаялі захопнікі, і зброя выпала з іх рук, а у сэрцах людзей, няшчасных і закатаваных,

нарадзілася надзея. Ляцелі над азёрамі дзікія лебедзі, і сумная загадачная зямля адказвала іх крыку ціхім звонам сітнягу.

Вось і апошнія людзі зніклі, і адна варта асталася знадворку. Шалёна ўляцелі яны ў прытвор, падбеглі, схапілі за рукі ляжачую постаць.

— Сабака,— прарычэў Бату-хан,— ты памрэш ганебнай смерцю.

— Дарма,— адказаў з пагардаю старац,— што мне зараз забіццё і акрутнае на смерць змардаванне. Большай пакуты і большага шчасця, чым зараз,— не будзе.

— Што ты зрабіў з імі,— спытаў нейкі воін.

— Паглядзіце.

І яны пабачылі апошніх юнака з дзяўчынай, якія глядзелі адзін аднаму ў вочы, а потым раптам ператварыліся ў белых лебядзей і вылецелі ў акно скіта. Белай істужкай цягнуліся лебяжыя стаі над багнамі, на якіх нудзьгаваў чарот, над балеснымі лясамі, над сінімі азёрамі, над лугамі, якія жаўцелі кураслепам, над усёй мілай зямлёй сваёй, дзяліліся, ляцелі ў розныя бакі.

Дамоў, дамоў, да разораных гнёздаў!

З трубным гукам паляцела ім услед і апошняя пара, а старац, якога выцягнулі на бераг возера, сачыў за ёй цёплымі вачыма.

— Рыхтуйся да страты.

— Яны паляцелі на родныя гняздоўя. Ці спужаюся страты, калі слёзы і гора цэлай зямлі не спудзіўся я прыняць на свой карак. Яны цякуць да родных хат, будзе жыва родная зямля. Карайце.

— Як ты зрабіў гэта?— мякка спытаў Юсуфі.

— Верыў і любіў. Калі хоць адзін чалавекastaўся на роднай зямлі — яна не загіне. І зямля паслухалася мяне — яна не дала згінуць дзеткам сваім. На родных гняздоўях зноў у людзей ператварацца яны.

— Разбураны іх гняздоўя — з сумам сказаў паэта.

Нукеры хана схапілі старыка, а ён казаў улятаўшым птушкам, быццам яны маглі чуць яго:

— Ляціце, белыя лебедзі, ляці, птаства. Падымуцца вашыя хаты, і кветкі пакрыюць пажар. Не шкадуйце аба мне, бо слёзы вашыя ў камень абярнулі мяне, у камень, які плача.

Нукер гастрыў меч, а Юсуфі іранізаваў:

— Працуй, працуй, твой твар, як і твар тваііго хана з'яўляецца ступнёю, якая не мае сораму. Імёны вышыя хай не апаскудзяць слуху патомкаў, бо на вачах вашых забіваюць багатура, наваліўшыся цэлым войскам, а калі гурба нападае са зброяй на аднаго — заўсёды вінна гурба.

А старац стаяў на каленях і маліўся.

— Шчасця дай, маці-зямля, дзеткам сваім, поўных закрамоў — хатам і крычашчых калысак — бабам. Дай ім улетку цёплых дажджоў, увосень — сонца, утульнага снегу зімою і кахання і працы вясной. Літасцівай будзь да яе воінаў, зрабі светлымі хаты і жыццё іх. Скамянеўшаму ад гора, дай мне камянём скончыць свой век.

— Уладар!— крыкнуў нукер хану.— Меч не бярэ яго шыі. Гэта святы.

І тут усе пабачылі, што твар дзеда становіцца шэрым, маршчыны застыгаюць на ім, камянеюць рукі.

Праз паўгадзіны на месцы старыка ўжо стаяў камень, з-пад якога тачыліся слёзы, збягаліся ў ручаёк, струменьчыкам беглі да возера. Камень плакаў.

— Так,— сказаў узрушаны Юсуфі,— той, хто памірае за свой люд — заўсёды святы. Памяць маці сваёй і героя ніхто не рашыўся зняважыць.

І раптам хан хвастануў карбачом каня і шалёна паскакаў прэч. Варта і палкі кінуліся за ім. Юсуфі дагнаў хана.

— Едзем з гэтай страшнай зямлі, дзе плачуць нават камні і змагаюцца нават слабыя,— мармытнуў хан.

І заўсёды п'яны Юсуфі дабавіў:

— Едзем з гэтай добрай зямлі, хай светлае сонца ззяе над ёю.

Калі на бугры яны павярнуліся назад — камень ляжаў нерухомы, точачы бясконцыя слёзы, а над каменем, над возерам, над пушчаю безупынку кружлялі белыя лебедзі.

Хан спытаў злосна:

— Чаму гэты старац не баяўся майго гневу.

Мудры Юсуфі адказаў:

— Што там ты! Самы моцны гнеў хана слабейшы за самую ціхую ўдзячнасць народа. Хіба калі ён узнімаецца — не дрыжыць твая кібітка.

I хан прагаварыў ціха:

— Юсуфі! Калі-небудзь я зламаю табе хрыбет за праўду. I чакаць гэтага засталося нядоўга.

— Ну што ж. Такі, відаць, лёс паэты. А да таго часу я буду гаварыць яе, праўду. Што ты зробіш з ёю? Мо тое, што з тым старцам?

Яны пакідалі балотную зямлю, а за імі быццам вішні асыпалі лугі белым пухам сваіх кветак. Прызыўна трубілі лебедзі, кружлялі, падалі на ваду, і ў крыках іх гучала радасць.

Камень тачыў слёзы.

Кажуць, з таго часу Белая Русь і прызываецца «белай». Ад лебядзінага апярэння стала белай вопратка ў яе людзей.

А кажуць і другое: быццам таму яна «белая», што пад татарамі не пабыла. Можа, й так — няважліва ўсё гэта. А калі мне веры не даеце — адшукайце самі ля галошаўскага возера мясцовасць «лебядзіны скіт». Мо тагды самі ўпэўніцеся, як калісьці мой дзед, з слоў якога я й апавядаю вам гэта. Трубяць лебедзі на балотах.

## ЧОРТАЎ СКАРБ

У нейкім прыгожым краі, трошкі бліжэй Сонца і трошкі далей ад Месяца, у краі, багатым залатымі нівамі, празрыстымі рэкамі, сінімі азёрамі ды цёмнымі пушчамі... Словам, у тым краі, дзе мы з табою жывём, стаяла, а можа, і цяпер стаіць, адна хата.

А жыў у гэтай хаце селянін па імені Янка. Здаровы, як зубр, добры і не дужа мудры. Было ў яго пяцьдзесят сыноў, сорак валоў і кошка. Ну, можа, не пяцьдзесят сыноў, а тры, не сорак валоў, а два. Але кошка была, гэта ўжо можаце мне паверыць. Пярэстая. З чатырма лапамі. З адным хвастом.

Араў Янка зямлю, пасвіў каровы і хмары. I жыў бы зусім добра, каб не звалілася на яго бяда.

Было гэта даўно. Так даўно, што на Беларусі тады яшчэ вадзіліся чэрці. I ў кожнага з тых чарцей было сваё месца працы.

Адзін жыў у вадзе, пасвіў шчупакоў, лінёў ды аку-

нёў. Быў зялёны і калматы, вельмі падобны на купу твані. Звалі яго Вадзянік.

Другі жыў у лесе, пасвіў аленяў і быў падобны на аброслы мохам пень. Калі сустрэнеш, то і не адрозніш. Звалі яго Лесавік.

Але быў і трэці, што жыў па хатах і пасвіў цвыркуноў. Гэты быў самы шкодны. Рожкі ў яго былі, як у козкі, зубкі, як часначок, хвосцік, як памялцо.

І аблюбаваў гэты чорт Янкаву хату. І не тое каб са злосці шкодзіў, а проста быў свавольнік. Толькі ад тых свавольстваў Янку аж плакаць хацелася. Дзіва што! Ты ж таксама не ад злосці сваволіш? Ну вось, а бацькі часам плачуць. Кепска!

Не стала ў хаце ад чорта спакою. Пазаплятае коням грывы так, што пасля не расчэшаш, а думаюць на сыноў. Вяршкі з малака зліжа, а думаюць на бедную кошку. Часам узімку так завые ў коміне, што ў людзей мароз па скуры і страшна на двор выходзіць. Ці забярэцца ў комін, з'едзе па ім і насыпле ў капусту сажы.

А то раніцай вынуць з печы пірог і дзівяцца: на пірагу невялічкі адбітак. Гэта чорт на гарачае цеста адпачываць садзіўся. Грэўся з марозу.

Зусім не стала жыцця. Янка ішоў начаваць, нават у холад, на сена ў адрыну. Ледзь бедных дзяцей не памарозіў. І вырашыў урэшце, праз гэтыя чортавы выбрыкі, забіць хату дошкамі і падавацца з дзецьмі, коньмі, валамі і кошкай некуды за свет. Кінуўшы сваю радзіму, цёмныя пушчы, светлыя рэкі ды чыстыя воды. І стала б на Беларусі меней яшчэ адной сялянскай хатай, каб не пачуліся аднойчы вечарам на дарозе цяжкія крокі.

Тупу-тупу-тупу,
Нясе Мішка ступу.
Ў ступе ўперамешку
Цукар і арэшкі,
Разынкі й цукеркі
Ў залатой паперцы.
Па шляхах, палетках
Нясе Мішка дзеткам
Салодкую ступу.
Тупу-тупу-тупу...

Ішоў павадыр з мядзведзем. Хадзілі яны ад сяла да сяла.

Павадыр песні спяваў і граў на цымбалах. А мядз-

ведзь паказваў, як бабы ваду носяць ды як дзеці гарох крадуць. І гэтым яны з мядзведзем карміліся.

— Здароў, Янка. Ці не пусціш нас з Мішкам пераначаваць? — спытаў павадыр.

— Мне што? Начуйце,— адказаў Янка.— Толькі ж я сам на сене сплю.

— А што такое?

— Ды чорт у мяне ў хаце завёўся. Так сваволіць, што ратунку няма. Верыш, на пірагах адпачывае. У коміне вые. І часам, у цёмныя ночы, нешта ў падпеччы, як жар, гарыць. Страшна.

— Гэ-э,— сказаў павадыр.— Не ўсе ж такія неразумныя, як твайго бацькі дзеці. Каб гэта павадыр, ды яшчэ з мядзведзем, нейкага там чорта спалохаўся?! Не бывала яшчэ такога на свеце.

— То ідзі. Капусты пад'еш. Там яшчэ гаршчок з паранай рэпай ёсць, дык, калі нічога за ноч не здарыцца, то раніцай падсілкуешся. А я на сена. Як сцямнее, я ў хату ісці баюся.

Ну вось, пасёрбаў павадыр капусты, пакарміў Мішку ды заваліўся дрыхнуць на лаве. А мядзведзь прымасціўся ля печы і таксама засоп на ўсе насавыя загорткі.

Гэта было так даўно, што тады яшчэ на Беларусі нават бульбы не вадзілася. Сказаць каму — не павераць. Замест бульбы парылі рэпу ці бручку. І вось спіць павадыр і сніць, як ён заўтра смачна будзе рэпай снедаць.

Толькі глухая ноч запала — чорт тут як тут. Скаціўся комінам, узняўшы цэлую хмару сажы, і пачаў у печы, злодзей такі, шнарыць і мацаць. Як кажуць, ты за парог, а ён за пірог. Узняў накрыўку. Павеяла сытым духам.

«Ага, рэпа. Вось гэта якраз тое, што мне трэба. Я люблю рэпу».

Але ж у печы цёмна, як... у печы. То чорт адсунуў засланку, вывалак гаршчок на прыпечак, сеў, звесіўшы ногі, і пачаў ласавацца салодкай паранай рэпай, а лушпайкі ўніз кідаць.

«Нічога, гаспадыня заўтра падмяце. Трэба ж, каб і ёй работа была».

Упала адна лушпіна мядзведзю на нос, і той прачнуўся. Злізнуў з носа — салодка. І пачаў Мішка ў цемры нюхаць, знаходзіць лушпінне ды чмякаць.

Чорт пачуў, што нехта ўнізе чмякае ды ліжа. А ён жа ведаў, што ў хаце нікога, акрамя кошкі, няма. І вось нейкая там кошка чмякае ды сапе і не дае яму, чорту, чужой рэпы спакойна пад'есці.

Развярнуўся ён ды і піхнуў кошку нагой.

— Апсік! Апсік, гадасць такая!

Ну вось. А мядзведзь гэта табе не кошка. І я табе даваць мядзведзю выспятка ніколі не раю.

Пакрыўдзіўся Мішка. Згроб чорта ў ахапак, сцягнуў з прыпечка і давай яго мяць, давай яго прасаваць, давай яго лапамі валтузіць ды калашмаціць, давай абходжваць, лупцаваць, малаціць ды дубасіць, давай яго за рогі круціць як сідараву казу ды дзерці смяротным боем.

Ледзь вырваўся чорт з мядзведжых абдымкаў. Узляцеў на прыпечак. Сяк-так выкараскаўся праз комін. Скаціўся са страхі ды і чкурнуў далей ад хаты. У пушчу, як ашалелы.

А мядзведзь, задаўшы чорту чосу, зноў заснуў як пшаніцу прадаўшы.

Раніцаю ўсе ўсталі і падумалі, што гэта мядзведзь рэпу еў. Здзівіліся, што не пабаяўся лезці ў гарачую печ, і ўзрадаваліся, што з'еў зусім мала. Што ж, мядзведзь не першы і не апошні ў свеце адказваў за чужыя грахі.

Пасля ўсе даелі тое, што заставалася ў гаршку. Мядзведзь нават яшчэ паскакаў дзецям. І пайшлі яны з павадыром зноў, ад мястэчка да мястэчка, ад сяла да сяла. Пад сонцам і дажджом.

Тупу-тупу-тупу,
Нясе Мішка ступу...

Але з таго часу чортава гарэзаванне як нажом адрэзала. Коні здаровыя, сажы ў капусце няма, на пірагах ніхто не адпачывае. У коміне, праўда, нехта часам вые і з падпечка часта нешта свеціць, але гэта ўжо цярпець можна. Раздумаў Янка кідаць сваю хату.

Толькі на гэтым гісторыя не скончылася, не думайце. Неяк пад восень араў Янка свой клін пад азіміну. Мокры, касы дождж, нізкія чорныя хмары. Аж бачыць, з-пад хмар, з самага акаёму нехта ідзе да яго па раллі. Прыглядзеўся — ага, стары знаёмы, чорт.

Ідзе ўвесь мокры, як цуцык пад злевай. На кожным

капыце па пуду гліны наліпла. Пад носам ад прастуды вісіць вялізная кропля. А насоўкі ж ён не мае. Як ты часам, калі дома забудзеш. А капытом не дужа высмаркаешся. Ідзе такі няшчасны, такі жаласны і ўбогі, што нават Янка яго пашкадаваў:

— Ты куды гэта?

— А так,— сказаў чорт.— У свет.

Памаўчалі. Пасля чорт пытае:

— А скажы ты мне, ці ўсё яшчэ ў цябе тая кошка?

Янка быў чалавек не дужа мудры ды і не ведаў, пра якую кошку размова:

— Анягож,— кажа.— Ясна, што ў мяне. Ды яшчэ і шасцёра кацянят прынесла.

— І ўсе ў матку?

— Ага. Усе пярэстыя, з чатырма лапамі, з адным хвастом.

— З лапамі, з лапамі,— сказаў чорт.— Даліся мне тыя лапы.

— Дальбог, аж шасцёра!

— Ну, то я, мабыць, ніколі да цябе не прыйду,— уздыхнуў чорт.— А трэба было б. Дужа трэба.

— Гэта чаму?

— Ат! Закапаў я ў цябе ў падпеччы казан з золатам. Скарб. І трэба было б выкапаць, але як тваю кошку ўспомню — бр-р-р! — ну яго. Хай прападае.

— Ты, як зусім змерзнеш, прыходзь. Глядзіш, рэпу зварыш, дзяцей пакалышаш.

— Н-не. Кошкі баюся. А рэпы гэтай я цяпер да самай смерці ў вочы бачыць не магу.

Ды і пайшоў сабе полем, пад дождж, ледзь цягнучы пудовыя ногі. Такі гаротны небарака.

А Янка даараў клін і пайшоў дахаты. І толькі там успомніў, што нештачка ў падпечку свяціла, і чорт пра нейкі скарб казаў.

Пачалі капаць у падпеччы і — на табе — выкапалі вялізны закураны казан з золатам і чырвонцамі. Нібы жар, разлілося святло па хаце.

Так ўжо свяціла, так паліла, так пякло, што ўсе аж распранацца пачалі.

Чорт пасля таго ў моцныя маразы ўсё ж прыходзіў. Толькі прасіў кошку ў камору выкідаць. Капусту Янку варыў і дзяцей калыхаў. З таго часу і пайшла прыказка, што «шчасліваму і чорт дзяцей калыша».

А на той чортаў скарб паставіў Янка сабе і ўсяму

наваколлю новыя хаты, свірны, адрыны, новыя стайні. Сады пасадзіў, млын паставіў.

Ва ўсіх сялян па сорак сыноў ды дачок, па сорак коней ды валоў. І ўсе хаты як звон. І ў кожнай хаце на акне, на сонейку кошык. А ў кожным кошыку кошка. І ў кожнай кошкі па шасцёра кацянят. Во шчасце дык шчасце!

І таму, калі ты жывеш шчасна і радасна, ніколі не дражні мядзведзя ў звярынцы і не кідай у кошку не тое што камянём, а нават мяккай грудкай зямлі. Бо гэта ж яны зрабілі калісьці так, што табе добра. Ды і наогул ні ў кога нічым не кідай і нікога не дражні.

Тады ўсім будзе хараша на гэтай прыгожай зямлі, што ляжыць крышку бліжэй Сонца і крышку далей ад Месяца. Людзі будуць працаваць, кошкі будуць вуркатаць, а мядзведзі насіць табе і ўсім іншым дзецям салодкія ступы...

...Тупу-тупу-тупу.

## ВЕРАБЕЙ, САВА І ПТУШЫНЫ СУД

Ну вось, давай мы з табой сядзем ды паслухаем, што было калісь. Гэта расказаў мне дзед. А маўму дзеду — ягоны дзед. А таму дзеду — яшчэ ягоны дзед. А дзеду нашага дзеда расказалі іншыя разумныя людзі. Так што ўсё гэта праўда.

У тыя даўнія часы птушкі жылі такой самай дзяржавай, як і людзі. Ад дзяржавы той засталася толькі памяць, бо нішто не вечнае на свеце. Але некалі яна была. Былі там свае птушыныя аркестры, свае школы, свае птушыныя суды. А цяпер, сёння, усё птаства толькі слаба-слаба помніць пра тыя часы.

І жыў у той дзяржаве такі сабе шэры верабей. Як і цяпер, шукаў зернейкі, цвыркаў летам і мерзнуў зімою. І быў такі самы нахабны, як зараз. Толькі што ў тыя часы ён не скакаў адразу абедзвюма ножкамі, а хадзіў, як людзі. Адной лапкай — другой лапкай. Левай — правай. Левай — правай. Раз — два. Раз — два.

Хадзіў сабе і спяваў:

Я — вясёлы верабей,
Я — арол-верабей,
Вельмі смелы верабей,
Верабей,
Верабей,
Вера-
Вера-
бей!

Вельмі добры верабей!

І трэба ж было так здарыцца, што гэты верабей правініўся. І правіна тая была — глупства. Але і зараз некаторыя птушкі за яе плоцяцца.

Проста была вясна. Цёпла. Зелена. Паветра салодкае. І вырашыў верабей не ляцець дадому на крылах, як ашалелы, а прайсціся, пагуляць. І нанесла тут на яго слаўную сямейку. Сітавак. Тых, што хвастамі трасуць. Ідуць перад ім па алеі і хвастамі махаюць. Ну, тата і мама-сітаўкі не так махалі. Затое маладая сітаўка трэсла хвастом за траіх. А які прыстойны верабей гэта вытрымае?! Спытайце ў кожнага вераб'я. Ніякі.

Вось і наш верабей не вытрымаў. Размахнуўся крыльцам і ляпнуў сітаўку па хвасце. Пагарачыўся.

Сітаўкі шкодныя былі. Ім падставіць другому ножку было, як табе яблык з'есці. Пайшла скарга арлу. Слова за слова — сабраўся птушыны суд. Вадзяны бугай — суддзя, удод — пракурор, шчыгол — адвакат, чыжык і чачотка — прысяжныя. Кепскі быў выбар, бо чыжык хацеў з чачоткаю ажаніцца і думаў таму пра ўсё, як яна.

Шчыгол яму раду радзіў,
Нелукаву, просту:
«Бяры сабе чачотачку.
Яна твайго росту».

А чачотка была ўсёй душой за сітаўку, бо і тая і другая былі аднаго поля ягады.

І вырашыў птушыны суд, што трэба злавіць вераб'я і за гэткае ягонае свавольства прыкладна пакараць.

Спалохаўся верабей і ўцёк. А ўсё птаства — за ім. Як хмараю, неба закрылі.

Бачыць верабей, што не ўцячэш. Угледзеў дупло і шмыгнуў у яго. Сядзіць, нібы ў крэпасці.

Пачалі птушкі ў дупло лезці.

Але верабей быў хітры. Выбраў такое дупло, што

дзверы былі якраз на яго зроблены. Ні большыя, ні меншыя. Малая птушка палезе, то ён з ёю лёгка справіцца і выкіне. А большая аніяк не пралезе. Хіба што адну дзюбу прасуне.

Валтузіліся-валтузіліся птушкі. Бачаць, сілаю вераб'я ў ягоным замку не возьмеш. Значыць, трэба браць крэпасць зморам.

Паселі вакол і чакаюць. Захоча верабей есці і піць — сам вылезе.

Чакалі-чакалі. Аж тут пачала падаць на зямлю ноч. Захад гасне. У лесе ўсё шэрае робіцца. Пасля цямнее. А птушкам уначы належыць спаць. У цёплым гняздзе, як табе ў цёплым ложку. Галаву пад крыло, як ты ў падушку. Ды і свішчы сабе дзюбаіі, як ты носам.

Вочы ў птушак зліпаюцца. Пазяхаюць птушкі. Але як пойдзеш спаць, то верабей уцячэ.

— Трэба вартавога паставіць,— дадумаўся ўрэшце коршак.

— Каго? — працывікала сінічка.

— Хто ўначы не спіць. Хто ўначы не спіць,— заліўся шчыгол.

— Ляляка. Ляляка. Казадоя. Казадоя,— зашчабяталі ўсе.

— Н-ну-у, н-ну-у,— прагудзеў вадзяны бугай.— Ма-лы, малы! Са-ву! Са-ву!

І тут усе вырашылі, што лепей за саву нікога не знойдзеш. Уначы не спіць — раз. Ноччу лепей, чым днём, бачыць — два.

А сава ў той час была зусім без пер'яў. Голая, як абскубеная курка. Жоўтая. Худая. Выгляд сараматны і гнюсны. Кепска ёй было жыць. Удзень горача, а ўначы холадна.

І таму сава абурылася.

— Не буду я вартаваць,— сказала сава.— Мала што я ўначы не сплю і добра бачу. Усе птушкі ў пер'ях, ды яшчэ ў цёплым спаць будуць. А я, сірата, адна сярод усіх, голая, як палец, ды яшчэ і вартуй. Холадна. Не буду.

— Ну паслужы адзін раз грамадзе,— сказаў удод.

— Не буду я дбаць пра грамаду,— забубніла сава.— Яна пра мяне не дбае.

— Дык што ж рабіць? — спытаў коршак.

— А вось што,— сказала сава.— Калі хочаце, каб

я ў вартаўніках хадзіла, то пашыйце мне кажух.

— Як? — спытаў шчыгол.— Што ж нам, авечак ісці лупіць?

— Птушыны кажух. Скіньцеся кожны па перку і аддайце мне.

Узрадаваліся птушкі. Адно перка — глупства. З аднаго перка не абядннееш і не ўзбагацееш. Аддай яго ды ідзі спаць.

Скінуліся па адным пяры і зрабілі саве дзівоснае футра. А паколькі ў кожнай птушкі свой колер, то і апярэнне ў савы з таго часу рознакаляровае. Ёсць пер'і жоўтыя, ёсць бурыя, ёсць рыжыя і шэрыя, белыя і чорныя.

Разляцелася птаства спаць. Села сава перад дуплом. Вартуе. Не спіць. Глядзіць на ўсе вочы. А ў лесе хораша. Месяц вялізны. Усё, нібы ўдзень, відаць.

Выгляне верабей з дупла — сядзіць сава, брыдагэткая. Гараць савіныя вочы, яе дзве залатыя поўні. Яму ўжо і есці хочацца, вераб'ю. Высуне галаву — пільнуе сава, гнюснасць такая. Аж плача верабей.

Тым часам днець пачало. А совы ўдзень нічога не бачаць, спяць. Пачала сава кляваць дзюбай. Пачалі ў яе вочы зліпацца, нібы хто іх мёдам намазаў.

А птушкі заспалі. Такая ў лесе раса халодная. Так цёпла ў гняздзе. Ну, яшчэ хвіліну паспім. Ну, яшчэ другую.

Выглянуў верабей — спіць сава. Дзень на дварэ, ды яшчэ з непрывычкі размарыла яе ў цёплым кажусе. Верабей чакаць не стаў. Выбраўся з дупла і давай лататы.

Толькі праз гадзіну дабудзіліся птушкі савы. Глянулі ў дупло, а вераб'ём там даўно і не пахне.

— Ах ён, нахаба! Ах ён, бусурман, бессаромныя вочы! Ну і ты, сава, добрая! Не падпільнавала, так? А нашто ж тады мы па перку скідаліся?!

— А вы чаго праспалі? — спытала сава.

— Добра, яшчэ пагаворым,— закрычалі птушкі.— У пагоню! Хапаць вераб'я!

Ганяліся яны за вераб'ём цэлы год і неяк усё ж злавілі. Хацелі спачатку пакараць яго тым, што звязаць яму крылы. Але потым раздумалі. Прападзе

верабей. І калі чалавечы суд павінен трымацца за чалавечнасць, то птушыны павінен трымацца за птушынасць. Таму звязалі вераб'ю не крылы, а ногі.

І стаў з таго часу верабей скакаць адразу дзвюма ножкамі.

А саве ўсе птушкі і да гэтага часу аніяк не могуць дараваць, што яна праспала. Надта ўжо сваіх пер'яў шкада.

І вось варта саве раніцай не дабрацца да дупла і заснуць недзе пад ялінай ці кустом,— тут усе птушкі навальваюцца на яе цэлай хмарай, скубуць ды крычаць:

— Аддай маё пер'е! Ад-дай маё пер-р-р'е!

Не верыш — спытай у старых людзей, у паляўнічых, якія гэта на свае вочы шмат разоў бачылі.

І хаця сава і суцяшае сябе, што арол ды сокал яе не чапаюць, а скубуць яе, бязвінную, адны вароны, сарокі ды пахучыя ўдоды — дрэннае гэта, па-мойму, суцяшэнне.

Дробязь тая — самае гэта нікуды не вартае на свеце. Лепей ужо з арлом схапіцца, абы толькі розная жамяра ды малеча цябе не шчыкалі і не скублі.

...Адзін толькі верабей, нават і цяпер, жыве сабе і не шманае. Ну, ногі скруцілі. Падумаеш, бяда вялікая. Скача сабе на абедзвюх адразу ды залівaецца:

Я — вясёлы верабей,
Я — арол-верабей,
Вельмі смелы верабей.
Верабей,
Верабей,
Вера-
Вера-
бей!

# СКРЫПКА ДРЫГВЫ Й ВЕРАСОВЫХ ПУСТЭЧАЎ

Вось струнаў спеў,
І смыка напеў,
І — пад ветрам — верасу звон.
І ўсё гэта — мы:
Наша радасць і гнеў,
Наш спрадвечны, халодны агонь.
Ён — спеў вады,
І аблокаў дым,
І скрыпкі ціхі набат
Над верасам тым,
Над каменнем сівым,
Над стрэхамі нашых хат.

Кніг тады не было, мой сынок і мая дачухна. Кнігі былі забароненыя, укінутыя пад запор, спаленыя. А вольнасці — не было. Замест кнігі вольная была толькі песня, якую не так лёгка пасадзіць у папяровую клетку. (А калі і пасадзіш — застаюцца толькі літары, бяссільны водгук магутных гукаў.) Так што самай сільнай зброі ўсемагутныя магнаты не маглі нас пазбавіць, сынок. І як цяпер харошую кнігу рвуць з рук у рукі, так тады рвалі з зубоў у зубы і з глоткі ў глотку песню. А пясняр быў самай паважанай асобай.

Але самым паважаным з паважаных быў Бан-Жвірба. Алесь Бан-Жвірба. Што гэта быў за чалавек? У латанай світцы, з торбай за плячыма і скрыпкай ён быў сярод сваіх ужо амаль не чалавек — і ўсё-ткі найлепшы чалавек на свеце з усіх, якія тапталі бедную гэту зямлю.

Са скрыпкай, залапанай рукамі і прыпаленай ля шматлікіх вогнішчаў, ён быў сярод сваіх ужо амаль не пясняр — і ўсё ж найлепшы пясняр у свеце сярод тых, чыя скрыпка калі-небудзь адказвала сітнягам.

Усё было ў спеве той скрыпкі. Падобна спявала толькі скрыпка Міpака Гульніка. Але ўсё ж гэта было не тое, усё адно як пошчак маладога бусла не параўнаць з пошчакам бусла старога. А ў напеве Бана-Жвірбы чуўся начны прыбой ліп на раздарожжы, спеў верасу пад капытамі баявых коней, песня кахання ў заранцы, шолах азёрных хваль, крык вадзянога бугая ў дрыгве і посвіст ветру ў байніцах разбураных вежаў — усё тое, што ёсць наш край.

І абыякавых не было. І нават ваўкі — ад пешага

мора да Прыпяці, ад Буга да вытокаў Дняпра — плакалі і лізалі яго сляды.

Скнара аддаваў апошняе, ворагі кляліся ў вечнай дружбе, здраднік каяўся і рыдаў і гінуў за родны край.

Калі ты не складзеш такой песні ў гонар Радзімы і волі, вайны і любові,— шэлег табе цана. І лепей тады ніколі табе не быць паэтам. Такіх хопіць тады й без цябе.

І ён хадзіў па зямлі, ніколі не заходзячы ў замкі і палацы, хаця мог бы купацца ў золаце. І ніколі не мінаў ніводнай халупы, нават калі там не маглі яму падаць і скарынкі, але дужа прасілі, каб зайшоў. І гэта другі табе запавет, калі ты заспяваў.

...Быў замак. І побач з ім была халупа. А магнат з таго замка быў чорны, як кажан, і жорсткі, як вампір. Аблытаў усё наваколле. І ўсё наваколле баялася яго.

І была халупа з торфу, напалову зямлянка, крытая дзірваном, на якім раней за ўсё вясною зелянела трава. Бо людзі грэлі яе дыханнем, жывыя людзі з-пад зямлі.

Доўга пуставала халупа. Але аднойчы, восенню, у адзіным яе акенцы загарэлася святло. Чэзлае святло лучніка, што вось-вось згасне.

Але тыя, што пасяліліся, нават хацелі гэтага. Іхні агонь быў мацней за ўсе паходні ў свеце і больш вечны, чым зоры і сонца. Бо імя гэтаму агню было — Каханне. А імя маладым было простае: Марта і Янук. Не думайце, што ім лёгка далося пажаніцца. Магнат доўга дабіваўся кахання Марты. Нават, у крайнім выпадку, згаджаўся ўзяць яе ў жонкі, хаця ў самога былі ўжо дарослыя дзеці. І заставалася б тады Марце толькі прапускаць, як пясок, золата між пальцаў, лічыць свае чароды і нешчаслівыя дні. А Марта была не з тых. Плюнула яна на ўсё і пайшла за Янука Прынаду, у якога нічога не было, акрамя няновых портак ды старой стрэльбы. А і сама яна выскачыла за яго толькі ў андараку, кофце, ды хусцінцы.

Але затое абое былі вясёлыя і не баяліся працы. А Янук быў яшчэ й найлепшы паляўнічы, і магнацкі сын яго хацеў у лоўчыя ўзяць ды ажаніць з нейкай там сваёю знаёмай, у якой двор, і зямля, і рэчы дарагія, і, словам, ляжы ды плюй у столь.

— Нявартыя гэтыя чароды разам з ёю... гэтай... і

аднаго дня волі,— толькі й сказаў Янук.— Няварты і адной усмешкі Марты.

Прывалок у пустую халупу вялізны ахапак саломы — тут табе і стол, і крэсла, тут і ложак, тут і печ. Ніхто да іх не прыйшоў, збаяўшыся магната, а ім і лепей, ім і весялей.

Вогнішча развялі. Глядзяць у агонь. Радуюцца, што разам.

— Заўтра пайду,— кажа Янук,— падстралю нешта. Будзе ў нас і абед і вячэра.

— А мне ўсё адно,— кажа Марта,— я не піла, не ела б, на цябе глядзела б.

Не ведаюць, што пазней, калі вёска засне і ніхто не ўбачыць,— прыйдуць па іх з замка. Удзень брацъ збаяліся: людзі вакол, а ў замку начуе камісар караля, ледзь не адзіны з такіх, хто стараўся стаяць за адносную справядлівасць.

Сядзяць, глядзяць у агонь і смяюцца, як дзеці. Вось і ўсё вяселле. Тут цёпла, а за дзвярыма вецер, і яны трох: Янук, Марта і Каханне.

Раптам бачаць — не, яны чатырох. Невядома адкуль узяўшыся — ну, вядома, такога глупства, як стук клямкі або рыпенне дзвярэй — яго закаханыя могуць і не пачуць,— стаіць сівы, згорблены крыху чалавек.

— Добры вечар у хату,— сказаў сівы.

— Ну, калі гэта можна назваць хатай, то добры вечар, добры чалавек,— сказаў Янук.

Ясна, не хацелася ім, каб з імі быў нехта чацвёрты, але ж чалавек просіцца, і такі халодны вецер знадворку!

— Сядай бліжэй да агню,— і Янук пасунуў большую груду саломы бліжэй да вогнішча.— Тут табе і цяплей будзе і сушэй. Шкада, што гэта адзінае, чым можам цябе пачаставаць.

— Галодныя, а смеяцёся. Дзірка ў галаве, а ён рагоча.

— А што, каб плакалі, было б лягчэй?

— Ды што гэта ў вас тут? — спытаў сівы ды вусаты.

— Вяселле, бацька.

— Што ж гэта яно ў вас такое?

— Ды так вось і так,— расказаў Янук.

— І магната не спалохаліся?

— І магната.
— І гайдукоў?
— Вось старая фузея-дубальтоўка. Калі што якое, то два набоі выпалю, а пакуль дзверы высадзяць — ну, чатырох яшчэ паспею пачаставаць свінцовым бобам. Яму я не веру, але ён маім пачастункам м у с і ц ь паверыць. Нічога іншага яму не застанецца.
— А суседзі?
— Збаяліся прыйсці.
— І таму ў вас на вячэру нічога, акрамя пацалункаў?
— Так,— сказала Марта,— і ўсім іншым мы ахвотна падзяліліся б. Не толькі з вамі. З кожным. Гэтым — не можам. Адзінае, што ў нас ёсць.
— І да канца,— сказаў Янук.
Сівы звесіў гарбаты нос і доўга думаў. І раптам...
— Го-го-го-го! — зарагатаў сівы.— Значыцца, нацягнулі вы найяснейшаму носа. І акрузе таксама. Ну, добра! Ну, гэта люблю! То ж бо мяне сэрца як цягнула сюды. Кажу: «Адчапіся, дай спаць!» — «Не, ідзі, пасля выспішся». І праўда, высплюся. Го-го-го-го-го! Ну і малайцы! І на золата плюнулі?
— І на яго. Вось у мяне маё золата,— сказаў Янук на Марту.
— І на ежу?
— Здабудзем,— сказала Марта.— Адна скарынка — абы з ім.
— Добра,— сказаў стары,— добра, дзеці. Нездарма клікала мяне сюды сэрца. Я знайшоў тут, у гэтай халупе, самае вялікае, што ёсць на свеце... Там, пабач, гэта гумно?
— Ага,— сказаў Янук,— пустое. Хацелі было там размясціцца — абшару замнога. Холадна.
— Для нас прыдасца. Гаворыць вам што-небудзь імя Алесь Бан-Жвірба?
Тыя аслупянелі. Яшчэ б ім яно чагосьці не казала, калі грымела яно ад Буга і да Дняпра і паўсюль далей.
— Ясна,— выдыхнуў Янук.— Толькі ж зямля наша вялікая, не мог ён пабываць у кожнай вёсцы, на кожным хутары. Жыцця не хопіць.
— Так... жыцця не хопіць... А цяпер ідзіце па суседзях, клічце іх у гумно. І хай грукаюць у вароты нагамі, калі хочуць пачуць песню Жвірбы. А ён сёння будзе іграць для вас лепей нават, чым на спрэчцы

з Міракам Гульнікам, дзе той быў — другі. Што там? Дурная спрэчка песняроў. А тут адзінае, перад чым варта схіліцца.

Як паходню кінулі ў бочку з порахам. Выбух быў на ўсё наваколле і да нябёс. Адусюль беглі дзесяткі людзей. Хто з іх бачыў Жвірбу? Адзінкі. То пляваць на магнацкую пагрозу, абы пачуць.

Першай прыплялася бабка Любаха, якая жыла далей за ўсіх, і прынесла тры сувоі свайго палатна (а ўсяго ў канцы вечара налічылі сорак). Пасля прыцягнуўся бязногі шавец Мар'ян, які таксама жыў не блізка, і прынёс шмат скуры на абутак. Адась Барамбуліна прывёз і зваліў цэлы воз капусты, бульбы, морквы і іншага такога. Бо ён быў гароднік. Алешка з Амосам прыгналі пяць авечак з бараном, а скупеча Андрусь прыгнаў карову, немаладую, але яшчэ цалкам прыдатную. Цыган Гарась прыскакаў на кані, якога тут і кінуў (а што, ён не дужа і разбіраўся, дзе кідае, дзе бярэ).

Расла гара ручнікоў і прахалодных прасцін, хлябоў і мукі і вэнджаных сыроў. Заўзяты браканьер Ясь прывалок дзікоў азадак, а Генусь, пад якога вада не плыве, бочку саланіны і шынку.

А Санчук Паўловіч, патаемна ад жонкі, прынёс у запазусе кавал сала амаль сажань на сажань (меў дзе хаваць на такім пузе). Лайдак Мікола прывалок мех рыбы: і свежай, і салонай, і вэнджанай.

Усё ішло ў ход. Нехта прыкаціў бочку з півам. Пасля пайшлі другая, трэцяя, дзесятая. Бочкі з салонымі гуркамі і капустай, кашы з яблыкамі.

Астап Цянюка прыпёр аднекуль тры гарцы мёду.

І ўжо варылася бульба і стаялі на падораных посцілках падораныя місы з падораным кіслым малаком і вогнядышнай кашай з баранінай.

І ўжо крычалі наперагон, хвалячыся: «Лес на хату!», «Рала!», «Дзесяціну зямлі!», «Другую».

І, ясна ж, прынеслі і да ўсяго гэтага, так што ежа, пітво і дарункі выжывалі людзей з гумна, калі сівы, Алесь Бан-Жвірба ўстаў і прыціснуў скрыпку барадой да пляча.

Калі тваё ў небяспецы каханне,
Гонар, свабода, песня твая,—
Скрыпка заплача ў асеннім тумане,
Скрыпка надзеі, скрыпка світання,
Вятру, шыпшыны і салаўя.

І гэта было запрашэнне да стала, да вясельнай гулянкі, самай сытай, самай вясёлай, самай спявучай, якая калі-небудзь адбывалася між нашых пушчаў, на верасовых нашых пустэчах, над чыстай слязою нашых вод.

А каму Жвірба дзякаваў за дар, той ледзь не скакаў ад шчасця, а з каго ён жартаваў, той ледзь не паміраў ад смеху разам з суседзямі. А каму ён спяваў куплет, той ведаў, што яго паўтораць дзеці і ўнукі і прапраўнукі, і нават я, недастойны, буду ганарыцца тым, што мой прашчур слухаў спевы Жвірбавай скрынкі.

О, як ён граў тады! Як бегаў ягоны смык! То па першых струнах, то па басах. І ўсё было ў напеве: верас пад ураганам, шум далёкага-далёкага мора і азёрных хваль, плач асенніх хмар і пяшчота неадольнага нічым нашага кахання.

Ляснулі вароты, і з'явіўся пан з прыплечнікамі. А насустрач яму плескануўся гнеў, і любоў, якую бароніць гэты гнеў, і тупат баявых коней, і спеў трубы. Нібы не адна скрыпка ўстала з адпорам, а сусвет.

Пан стаў як мёртвы. Можа, ён і не бачыў ні людзей, ні Жвірбы. Рука адпусціла эфес мяча і кінула на стол залаты.

— Яшчэ,— сказаў магнат і паклаў другі.— Яшчэ.

Шалахцелі вербы, і словы гучалі ў іх, начное срэбра бегла па вадзе, гучала калыханка, агульная для ўсіх, калі яны былі добрыя і чыстыя.

— Яшчэ,— рука бязгучна паклала некалькі манет.

Жніво гучала, і гучаў пакос, гучала лясное «Аэй!», і чуўся ломат мячоў, і звон кайданоў, і хрыпенне ярасці, і трубны кліч перамогі, і радасць міру.

— Яшчэ...

І варушылася бузіна на могілках, дзе спачываюць продкі, і сосны шумелі, і чуўся голас:

«Ты чалавек. Ты такі і слабы і смяротны. Шабельны лепшы ўдар песні найгоршай не варты».

«Засні — гэта лепшае, што ты зробіш... Вось цвіце арабіна... Дай гэтым людзям жыць... Ты дзіця ліхалецця, дзіця адлічаных дзён».

І пан высыпаў усё золата, махнуў рукою ўзброеным і, згорбіўшыся, рушыў вонкі.

А скрыпка спявала. Гэта ўся наша радзіма выпле-

сквалася ў ёй. Душа яе, вечная, як дуб, жылаватая, як карэнні ядлоўцу, гнуткая і нязломная.

... Урэшце ўсе пайшлі, а стол быў завалены золатам, срэбрам і меддзю, а гаспадары былі з многімі падзякамі абцалаваныя гасцямі да апошняга.

— Ну вось,— сказаў Бан.— Хай блаславіць вас родная зямля, дзеці. За вашу бескарыслівасць, за любоў да яе і адзін да аднаго.

Тут Марта і Янук падзяліліся з ім тым, чым не збіраліся ні з кім дзяліцца.

— Ну, я пайшоў,— сказаў сівы і знік у цемры.

— А грошы! Грошы!!!

— Хто гэта тут крычыць пра грошы? — спытаў, уваходзячы, Мірак Гульнік, другі пасля Жвірбы, музыка і спявак.— У каго гэта іх так многа?!

— Гэта не нашы! Гэта — Жвірбовы! — крыкнула Марта.— Ён граў нашаму вяселлю цэлую ноч. І забыў.

Мірак сеў ля агня, паглядзеў на дары, на маладых, падумаў, а пасля пакруціў пальцам каля лоба.

— Ну-н-ну,— сказаў ён.— Цік-кава. Цікава, хто тут з розуму з'ехаў, вы ці я?

— Ты не мог не сустрэць яго. Ён граў нам і наваколлю. Мы ледзь не паміраем ад шчасця, такая гэта была музыка.

— Досыць, ёлупы,— сказаў Мірак.— Я хаця і маладзей за яго, а смяяцца з мяне, пажылога, шчанюкі гэткія, таксама грэх.

— Жвірба! Жвірба! Ён граў!

— Ён нікому не мог граць. Месяц таму назад, пад Браславам, на гары, проста ў яго ўдарыў Пярун! І давеку ўзяў яго з сабою. Мы тады ж пахавалі яго, праўдзівей, тое, што ад яго засталося, на ўзгорку на беразе возера.

Казаў ён гэта так, што ясна было, не хлусіць. Маладыя стаялі, нібы скамянелыя.

— А як жа мы... мы?.. Як жа мы без яго?! І ён граў, нам, граў... граў найлепшае, што чула зямля... Як быць нам?!

— Значыць, ён пашкадаваў ваша каханне... нават адтуль, дзе нічога не чуюць. Божа, ці станецца калісьці на такое мяне?! Ясна...

І тады тыя заплакалі. Такое на вяселлях бывае. Пачынаецца смехам, канчаецца слязьмі.

— Ясна,— сказаў Мірак.— Ясна, чаму ён быў першы. Заўсёды — першы.

— Пярун бярэ тых, каго ён любіць,— усё яшчэ ў слязах, сказаў Янук.— Але цяпер першы — ты. Нясі гэтую ношу.

— Першы... Так... Я першы... Божа! Божа мой! Я першы!.. Якое няшчасце!.. Якое вялікае гора! Я першы! Божа, якое няшчасце!

І ён заплакаў і стаў біцца галавою аб стол:

— Божа, вечна ваяваць... Без жонкі... без дзяцей... без радзімы, што пракляла... Божа! Быць першым!..

— Першым,— сказаў Янук.—Самым слабым і самым магутным на свеце.

— Самым няшчасным,— сказала Марта,— і самым укаханым.

— Самым жабрацкім,— сказаў Мірак.— І багацей за ўсіх у свеце.

— Самым рахманым і самым мужным,— сказалі ўсе.

І яны глядзелі ў ноч, куды клікала іх (і ніколі не перастане клікаць) ягоная песня, даўно пакладзеная з ім у дол.

Ды хіба можна пакласці ў дол чырвоныя арабіны, і тупат коней, і курганы, і спеў верасу на пустках, і сэрцы нашых людзей, і наш край?! Які б ты на ім драны-падзерты не быў?!

А калі цяжка?

Выручыць, прыйдзе да вас на сустрэчу,
Ў зачараваны пакліча бор —
Скрыпка разлукі й спаткання вечнага,
Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў,
Пушчаў спрадвечных і светлых азёр.

## КАЦЁЛ З КАМЕНЬЧЫКАМІ

Давай з табой сядзем і пагаворым. Ты што, спаць збіраешся ці хворы? Тады заставайся ў цёплым ложку. А калі ты здаровы і ты здаровая, то давайце сядзем на пашчапаныя бярвенні, ля прызбы, на лаўкі, а каму зручна — той і проста на падлозе.

І ўявім мы, што памчалі мы на нашым дыване-

самалёце ў вясёлкавы наш з табою край, у сівую нашу з табой даўніну.

Ці бачылі вы паўночныя нашы ўзгоркі? Яны не дужа высокія, але ўсё ж верас на іх на некалькі дзён раней робіцца сівы. Ад падмарозкаў.

І сівыя робяцца старадаўнія валуны, камяніскі, камні, каменьчыкі. А пасля пачынаюць пакрывацца шкляным, ружовым на ўсходзе лядком — заберагам, шматлікія нашы з табой азёры. А выкапаную бульбу даўно ўжо звезлі ў хаты і свірны, звалілі ў капцы.

Дык вось было гэта даўно, вельмі даўно, так даўно, што ў нашай з табой краіне яшчэ не было тады бульбы.

Стаялі тады на беразе маленькага чыстага возера — існае вочка зямлі — дзве хаты. У адной, багатай ды ганарлівай, жыў мужык Ігнат. Нядобры ён быў чалавек, жонку замарыў работай, дзеці ад хатняга рабства ў свет пайшлі. А гаспадар усё не ўтаймоўваецца, усё пад сябе грабе. Усё наваколле прыдушыў, глытай.

— Забыўся, што ў труны кішэняў няма,— горка пажартавала добрая Мар'я, бліжэйшая суседка. Бо яе хата бліжэй за ўсіх стаяла. Хата яшчэ з дзядоў, моцная, але зусім недагледжаная. Бо гаспадара ўзялі на вайну і засталася жанчына адна з маленькімі дзецьмі. Аж пяцёра, і кожнае на пстрычку ніжэй за другое. І кожнае ўвесь час галоднае.

Пакуль бацька быў, сяк-так перабіваліся, а тут...

Словам, запанаваў на нашай зямлі самы страшны, самы подлы грэх, імя якому Несправядлівасць. Гэта калі адзін не можа заснуць, бо аб'еўся, а другі — бо галодны. А дзеці — дык тыя нават плачуць з голаду. Кепска. Ніколі не дапамагай Несправядлівасці. За іншае, можа, і даруюць. За гэтае — не.

...Позняя, халодная была вясна. Такое самае лета. А восень яшчэ горай. Завылі вятры, уздзьмуліся рэкі, пашалелі азёры. Сатлелі травы на паплавах. Ад бацькі чуткі няма. Прыйшла чарга Мар'і ісці па дапамогу да суседа. А той сядзіць, далоні пад азадак паклаў ды пыхкае, як вожык. Нажэрся свіння свіннёю.

— Ну што?

— Пазыч мне, суседзе, меру ячменю ды меру фасолі. Я табе за гэта вясной адраблю.

— Адро-обе. Вясно-ою. Вясной усё наваколле адрабляць прыйдзе. А ты да таго часу ледзь ногі цягаць

будзеш, а шчанюкі твае, можа, і не пацягнуць зусім. А можа, ты і ўдава цяпер. То й ён не адробіць. Не дам.

Рабіць няма чаго. Прыйшла бедная жанчына ў сваю халупу і, не запаліўшы нават лучынкі, упала на ўслон.

Цёмна. Цёмна за акном. Цёмна. Нізкія чорныя хмары і выхаду няма.

Да іншых суседзяў бегчы? Памаглі б, але і там тое самае. А дзецям што? Дзеці не ведаюць, як дарослым хлеб дастаецца. Цяжкай працай, часам — прыніжэннем. Калі зразумеюць — пашкадуюць. А тут плачуць толькі на розныя галасы: «Сільна і слёзна», як у старых кнігах пісалі:

— Матухна!

— Зязюленька!

— Пакармі нас!

— Хлебца дай!

— Аклаец!

Што рабіць беднай Мар'і. Вырашыла яна дзяцей падмануць.

— Вы ляжыце зараз. Засніце. А я пайду бабоў назбіраю. Навару ды буду вас карміць.

Дзеці не засынаюць. Тады пайшла кабета, назбірала на полі дробных каменьчыкаў (а іх было сапраўды як бобу), высыпала ў кацёл і паставіла на агонь. Настолькі бедная была хата, што і печкі няма.

Варацца каменьчыкі. Паснулі дзеці. Супакоіліся. Разбудзіць матка — наядуцца. Варацца каменьчыкі — да канца свету ім варыцца. Да канца свету плакаць матцы.

Ажно ўваходзіць у хату нейкі чалавек. Сам доўгі, кашчавы, з кіем, з торбай, адкуль нейкія травы тырчаць. І вочы пранізлівыя:

— Добры вечар у хату. Пусціце абагрэцца.

— Грэйся, добры чалавек. Толькі пачаставаць цябе няма чым.

— А што ж у катле варыш?

— Гэта, добры чалавек, каб дзяцей прысыпіць да заўтра,— і прыўзняла крышку катла.

— Гэт-та што такое?

— Камні. Муж у войску — можа, й забілі. Прасіла ў суседа чагосьці — не даў. Толькі й засталося на гэтай зямлі беднаму чалавеку каменьчыкі есці.

— Што ж ён?! Дзецям не даў?! Проста дзецям?!

— Не даў.

— Д-добра,— сказаў незнаёмы.— Бяры кацёл. Пайшлі.

Прыйшлі на надзел. Незнаёмы паставіў кацёл, азірнуўся: ля хаты Ігнат стаіць. Цікуе. А што гэта яны там робяць? Чаго кацёл прынеслі?

А незнаёмы той быў Вялікі Чараўнік. Толькі чараваць яму ў жыцці дадзена было тысячу разоў і засталіся лічаныя разы. І нічога ён тым сваім чараўніцтвам не дабіўся. Як дагэтуль ішло, так і пасля.

«Але тут,— думае,— здужаю».

Узяў ён з катла жменю каменьчыкаў і са свістам, як з сявенькі, сыпануў па раллі. І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ.

— Што ж ты,— паскардзілася Мар'я.— Так загон благі, а ты яшчэ й каменьчыкамі, што сабрала, падсяваеш.

— Маўчы,— сказаў той.— Глядзі, што будзе.

— Так ёй,— сказаў Ігнат.— Таксама мне, дзеці. Ва ўсіх дзеці. Муж на вайне. Гм, таксама мне, страшная штука вайна.

А незнаёмы сыпе і сыпе. Увесь загон каменьчыкамі засеяў. Россып. Дзецца няма дзе.

Мар'я плача. Ігнат смяецца. Балаган на кірмашы, і толькі.

— Глядзі, жанчына,— сказаў незнаёмы.

Тая зірнула — і вачам не паверыла: растуць каменьчыкі. Вунь ужо камяні сталі. Памерам з два кулакі.

— Збяры частку, пакладзі ў кацёл,— сказаў незнаёмы.— Пастаў варыць дзецям.

У Ігната вочы на лоб палезлі. А жанчына панесла кацёл з каменнямі ў хату. Прыйшла — камяні яшчэ падраслі.

— Глядзі, жанчына, за адзін дзень я табе ўсё пакажу. Заўтра будзеш капаць. А ва ўсе наступныя разы будзе гэта цягнуцца цэлае лета. Глядзі.

І тут камяні пачалі зарывацца ў зямлю. Як ружовыя, жоўтыя і белыя парсючкі. Ігнат аж счумеў. Вачыма толькі водзіць, нібы ў чужы гарох залез, а яго, злодзея, заспелі.

Пачакалі яны крыху — з'явіліся з зямлі парасткі, гусцець пачалі.

— Прынясі, кабета, матыку,— сказаў незнаёмы.

Тая прынесла. Расточкі ўжо ў кусцікі ператварыліся.

— Пацяпай вось так. Загарні ім ножкі ў кажушок... І яшчэ раз загарні.

А кусцікі ўжо амаль кусты.

І вось на кустах заззяла мора кветак. Белыя, ружовыя, лілаватыя, ружова-белыя зорачкі. І ўсе з жоўтым сэрцайкам.

— Вось цяпер можаш яе памацаць на выбар,— сказаў незнаёмы.— Гэта як дзеці галодныя.

І выняў два камяні з-пад куста.

Пасля засумавалі кусты, паблякла іх лакіраванашурпатая, зялёная зверху і матавая спадыспаду паверхня, пасохла гікаўё.

— Ну вось, заўтра будзеш капаць. На ўсю зіму хопіць,— сказаў незнаёмы.— І з суседзямі падзяліся.

— Ясна,— сказала Мар'я, бо ўжо далятаў з хаты сыты, некаменны дух.— З суседзямі найперш.

— Мне! Мне! — кінуўся Ігнат.— Мне перш за ўсё! Я іх кармлю-паю!

— І на работу наймаеш? — спытаў незнаёмы. Выняў адзін камень, і той закурэў у ягоных руках, а чалавек разламаў яго, пасаліў і стаў есці.— І не адмовіў ім у ежы, калі галадалі?

— Мне! Мне! Наймаю, кармлю.

— Добра,— сказаў незнаёмы.— Набяры мне кацёл каменьчыкаў са свайго поля. Ды хутчэй.

Ігнат чуйдух прыляцеў з катлом. Самых буйных, з кулак, камянёў нацягаў.

— Во! Во! У мяне ж і каменьчыкі. Во ў мяне, дык камні з кулак. А гэтыя ж лайдакі, хіба ў іх камні. Слёзы, а не камні.

— Слёзы,— сказаў незнаёмы.— Дык хочаш, каб у цябе яшчэ больш стала. Усё ж ёсць. Што даў — такі і плод.

— Мне! Мне! У мяне і камні.

— Глядзі-і,— сказаў незнаёмы і сыпануў камяні па Ігнатавым полі. І яшчэ. І яшчэ. Засеяў усё поле.

— Ну вось. Даў сёння хлеба яе дзецям?

— А што? Галадранцы. Самога з'ядуць, як мяккі будзеш.

Незнаёмы махнуў рукой.

Камні пачалі расці. Усе трох стаялі і глядзелі, як

яны растуць: каменьчыкі — камні — камяні — камяніскі. Усё поле закрылі — Ігнат аж падскокваў.

— Ну чакайце, за такімі вы яшчэ й да мяне ўсе прыбяжыце. Прыйдзеце, любенькія, як прыпрэ.

Паглядзеў на яго незнаёмы, плюнуў.

— Ну вось, маеш,— сказаў.

— А чаму яны не зарываюцца?

— А таму, што вечна ім заставацца на вачах у людзей, як кожнаму скнарству, як кожнай жорсткасці, як кожнай нелюбові да людзей, як кожнай Несправядлівасці.

І пайшоў з жанчынай да яе хаты.

Кінуўся шчаслівы гаспадар да поля — не поле, а суцэльная каменная крушня. Валуны велічынёю з хату. На тысячу год наперад з зямлі вылезлі.

Пакуль дзеці, незнаёмы і жанчына елі ў хаце «камяні» — усё наваколле чула з-за каменнага мура дзікі віск і выццё. Выў і рыкаў Ігнат.

А пасля незнаёмы ўстаў.

— Пайду,— сказаў ён, закінуўшы за плечы торбу.

— Чым мне табе аддзячыць?

— Нічым. Дабрынёю да людзей. Ды гэтага дабра ў цябе заўжды хапала.

— Пайду пагляджу, як сусед. Звар'яцеў, пэўна.

— Нічога. Я ж кажу... дабра ў нас хапала. Залішне.

І пайшоў у свет, абапіраючыся на кій. Пад касыя асеннія хмары. Насустрач пералётам, што, калючыя, каціліся яму пад ногі. Ужо зводдаль азірнуўся — Мар'я і дзеці глядзелі яму ўслед, маленькія на чорнай раллі.

— Гэй! А імя ёй будзе — Бульба! — крыкнуў ім незнаёмы.

І так з'явілася на Беларусі Бульба.

## НЯМОГЛЫ БАЦЬКА

Быў калісьці — так даўно, што Месяц толькі-толькі яшчэ з'явіўся на нашым Небе,— у людзей на зямлі такі паганы звычай: не карміць старых бацькоў.

Дзікія былі людзі. Дзікія-найдзікія. Аж цяпер со-

рамна ўспамінаць пра іх, такія дзікія. Як убачаць, што маці або бацька больш ахвотна на сонейку грэецца, чым косіць ці жне, дык адразу завозяць іх на калёсах або на санях у глухі лес, пакідаюць трохі ежы і едуць дахаты. А калі тыя хлеб з'ядуць, то або памруць з голаду, або застынуць, або дзікая зверына іх разарве.

Такі быў Закон. І хто Закона трымаўся, таго хвалілі. А хто не трымаўся, таго маглі выгнаць у дзікую пушчу.

Ты пачакай іх да канца вінаваціць. Страшэнна цяжка, у голадзе і холадзе, жылі тыя дзікія людзі. Частыя былі неўраджаі, таму запасаў аніякіх не было і быць не магло. А ўродзіць некалькі гадоў запар — з'явяцца ворагі. І ўжо або аддай ім, або ляж у сечы. Таму кожныя рукі лічыліся: ці могуць яны яшчэ трымаць касу або меч? А калі ўжо не могуць, калі толькі кавалак да рота нясуць — нашто яны?

Адвозіў чалавек у лес старога бацьку і ведаў: яго-ныя дзеці тое самае з ім зробяць. Як ты віншуеш, так і табе дзякуюць. Бо жылі гэтыя людзі па адзіным законе — законе карысці.

Дык вось, жыў сярод тых людзей у адной лясной вёсцы малады чалавек. А імя яму было Пятро.

— Глядзі,— аднойчы сказаў Пятру сусед Гнат,— бацька твой ужо вось-вось пачне кароткай касою ў місцы касіць. Рыхтуйся.

— Да чаго? — нібы не зразумеў Пятро.

— Ваўкоў гадаваць.

А Гнат быў адзіны такі на вёску. І было ў таго Гната багата (таксама бедна, але болей, чым у суседзяў, і таму, як воўк за падлу, болей іншых трымаўся ён за Закон), і быў той Гнат самы большы гад. І голас меў у грамадзе.

Зірнуў Пятро на бацьку — сапраўды, у таго рукі-ногі саслабелі, за сахой не пройдуць, лука не нацягнуць. Зусім нямоглы чалавек.

І стала тут Пятру неяк непамысна. Ну нібы выпадкова муху праглынуў. Не ведае, што з ім такое. Проста кепска. А бацька глядзіць на яго і нічога не кажа.

Пятро забыўся на тую размову з суседам, ды надышла восень, і паклікалі яго пад вясковы супольны дуб. Прыйшоў ён, а там ужо грамада шуміць, віруе.

І больш за ўсіх каламуціць ваду ў тым віры Гнат. Крычыць, рукамі махае, як малы.

— Чаго марудзіш, Пятро?! — гарлае, аж у вачах туман.— Гані ў лесваўчыны недаедак.

— Ты чаго гудзіш, як свіння? — раз'ятрыўся на яго Пятро.— Чаго так пільна хочаш? Крыві чужой?

— Згінуў твой стары грыб. А калі згінуў, трэба яго рваць з коранем. А то ад яго і на здаровыя зараза пойдзе.

Грамада сумуе, але хто галасней крычыць, таго і слухаюць.

— Ты гэта, Пятро... таго...— сказаў урэшце другі сусед, Максім.— Ты, значыцца... гэна.

Нічога не зробіш. Пайшоў Пятро дахаты. Бацька паглядзеў на яго ўважліва і зняў з калка торбу.

— Кладзі лусту хлеба. Ды меней, меней...

— Дык нашто тады ўвогуле?

— Падумаю яшчэ нейкую ноч. Але ж з пустым жыватом думаць сумна... Сала не кладзі. У хаце прыдасца. Малому... Так, Пятро, так. Закон такі. Ідзі запрагай каня.

Выйшаў бацька з хаты. Цяжкавата яму лезці на калёсы.

— Ты чаго так многа саломы паклаў? Ды мяккай, аўсянай?

— Дык назад жа прывязу.

Едуць вёскаю ў лес. Рэдкія сустрэчныя вочы хаваюць. А некаторыя і падбадзёрваюць старога:

— Нічога, хутка і мы за табою.

І толькі Гнат ля весніц на ўвесь свет гарладзёрыць:

— Правільна, Пятро! Няма чаго ў рот валачы, калі барану валачыць не можаш.

Пятро праехаў моўчкі.

Прыняў іх разам з калёсамі мокры і чорны лістападаўскі лес. Часцей і часцей пачалі трапляцца між дрэў аленевыя, а можа, і чалавечыя косці.

Прыехалі. Зрабіў Пятро з яловага лапніку будан, паклаў у салому торбу. Нацягаў сушняку, насек яго дробна. Развёў цяпельца. Дастаў з торбы хлеб, сала, біклажку з віном.

— Гэта нашто? — спытаў бацька.— Бяры ўсё. І салому бяры.

— Татка,— глуха сказаў Пятро,— няўжо ты думаеш, што я цябе тут пакіну?

— І пакінеш. Бо закон. Заб'юць цябе,— сказаў бацька.

— Не бойся за мяне,— адказаў Пятро і паехаў. Заміргаў у гушчары за спіною агеньчык. Знік.

Ноч у лесе, сутонне ў вёсцы. Гнат ля хаты зіркае на воз.

— Салому ўсё ж пакінуў?

— А што? Чысцей будзе!

Усю ноч праварочаўся ў хаце Пятро. А наступнай ноччу, пакінуўшы ў стайні каня, пайшоў крадком у пушчу. Доўга блукаў. Няма агню і няма. Усё, значыцца, ясна. Замарыў бацька агонь, каб лішне не мардавацца. Не паверыў. Дый праўда, не было такога яшчэ на свеце.

...Аж раптам... «Ёсць ён! Ёсць агонь! Ёсць!»

Бяжыць ён на агонь. Галіны яму вочы высцёбваюць. А агонь зусім згасае. І нібы згасае ля яго скручаная постаць.

— Татка! Татка! — крычыць ён і спяшаецца. То бацьку абдымае, то косці аленевыя збірае і кідае ў будан. Памерці захацеў. Не паверыў.

Ускінуў бацьку — лёгкага — на гаршкі і нясе. А агонь за імі згасае-згасае. Згас. І чуе Пятро — мокрая ў яго патыліца.

— Ты што, плачаш?

— Плачу. За цябе. Цяпер можна расказваць. Ведаеш, чаму такіх дужа старых на вёсцы адзін я?

— Ведаю. Бітва была дзесяць гадоў назад.

— Так. Напалі. І мы ўсе, хто на парозе,— перад дарогаю ў лес — вырашылі патаемна: лепей ужо там легчы, чым ад сваіх... Усе палеглі, адзін я застаўся.

Прынёс Пятро бацьку ў хату, адгарадзіў частку каморы і зрабіў там пралазы на гару ды ў падпамосце. Адтуль — на панадворак. І там бацька стаў жыць. Глухой ноччу — у хаце, удзень — у падпамосці і на гары. А ноччу цёмнай і па двары патупае. Як ваўкі жылі, ад усіх хаваючыся. Але жылі.

У той год пала на людзей нібыта нейкая кара. Ураджай быў — на каціную долю, ледзь зіму перажыць.

«Нічога,— думалі людзі,— неяк дажывём да шчаўя. Адсеяцца — ёсць жыта ў ссыпных ямах. А там яно, можа, і ўродзіць».

Аж не. Напалі якраз перад вясной суседзі (у іх

яшчэ горш было), пачалі людзі з імі біцца. Гарэлі свірны, усё насенне ў ямах папяклося — ні гаспадарам, ні суседзям, якіх адбілі. Людзі спачатку раўлі пад супольным дубам, а пасля і рукі апусцілі: жывымі ў зямлю трэба класціся.

Прыйшоў Пятро дахаты дый кажа бацьку: так вось і так, усе паміраць будзем.

— Кара. Закон пераступіў,— кажа бацька.— Не шкадуеш?

— Не. Зіму разам. І цяпер — усе разам. Такі Закон — мой.

— Нашто ўсе разам? Хадзі, нешта скажу.

... І вось з'явіўся Пятро зноў пад дуб, дзе прыбітая маўчала ўся грамада.

— Усё,— толькі й сказаў сусед Максім,— цяпер дзяцей заб'ю, а пасля і сам. Ані зерня пасеяць... Ну, Пятро?

— Не трэба забіваць,— голасна сказаў Пятро.— Здыміце салому са стрэх. Ад застрэхі-капяжа і да сярэдзіны пакрыцця.

— І што? — скрывіўся Гнат.

— Абмалаціце. І падмяціце дошкі, што знізу падстрэшка.

І праўда, крылі ж страху, беручы неабмалочаныя снапы. Кінуліся людзі на стрэхі. Абмалацілі салому. Змялі разам з пылам зярняткі (столькі іх нападала на падстэшкавыя дошкі). Набралі насення, каб хоць сяктак засеяць ніўкі.

— І падзяліцеся сакрэтам з суседзямі,— сказаў Пятро.

— Чаго-о? — узвіўся Гнат.— Ды мы іх...

— Падзяліцеся. Іначай кепска будзе.

На радасцях падзяліліся. І — нібы ад палёгкі, нібы ад падзякі — жыта ва ўсіх пайшло густое, кашлатае, як мядзведзь.

— Чаму не да канца стрэхі загадаў агаліць? — спытаў Максім.

— А вось каб вымерзлі ўсходы — тады б аж да казлоў усе кроквы і латы агалілі, але знайшлі б што другі раз у зямлю кінуць.

— Вой, не на дабро такі розум,— сказаў Гнат.— Быцці бядзе.

І як накаркаў. Пачало ўжо красаваць, пачало весяліцца жыта, калі аднойчы з'явілася над гаем вялікая

галава. Ішоў Велікан. Не з добрых волатаў, а з тых, што народу ў шкоду. Нагой ступіць — вада ў след набягае і робіцца стаў.

— Жыта якое! — загрымеў, як сто перуноў.— Тут і пасялюся.

Наламаў бярвенняў, зрабіў на самай гіганцкай асіне падмосце, а на падмосці з валуноў пабудаваў сабе замак.

— Тут буду сядзець. Збожжа збераце — з'ем. З-пад казлоў збераце, засеяце — і тое з'ем. А пасля вас саміх з'ем.

Паспрабавалі стрэлы ў яго кідаць — не далятаюць стрэлы да замка. Велікан стральцоў злавіў і з'еў, каб астатнім непавадна было. Смяротна затужылі людзі. Прыйшоў Пятро ў хату.

— Усё, татка. Цяпер прападаць будзем.

— Не шкадуеш?

— І ў соты раз я такі б Закон пераступіў. Цяпер — разам.

— Нашто? — спытаў нямоглы бацька.— Хадзі сюды...

І зноў сказаў Пятро людзям, што сабраліся пад супольным дубам:

— Нічога мы з ім, Веліканам, не зробім сілаю.

— А нашто сілаю? — высунуўся Гнат.— Я яму падарункі нашу. Хвалю.

— Ён цябе пазней за ўсіх з'есць... Не, людзі, не хваліць яго трэба, а сабраць дзяцей, асабліва сірот тых, з'едзеных, і хай кожны дзень пад тую асіну яны ходзяць ды плачуць, ды моляць.

— А што з таго? — здзекліва спытаў Гнат.

— Нічога. Толькі сіроцкая сляза мацнейшая за ўсё. А вам, дзеці, я нешта шапну на вуха, хадзіце сюды.

Тыя слухалі без слёз. Бераглі іх для дрэва і замка на ім.

Што раніца, то глухла наваколле ад плачу дзяцей пад волатам асінай. Ляжаць ніцма адзін да аднаго, плачуць, моляць Велікана. А той толькі з неахайнай барады чырвоныя дзёсны ды белыя зубы паказвае. Так ідуць хвіліны, дні, тыдні. Скора жніво.

— Ну і выплакаў нешта? — спытаў Гнат у Пятра.

А Велікан рагоча на дрэве, як жарабец, і не бачыць, што пад падмосцем зжоўкла лістота.

Гнат зноў баламуціць. І людзі ўжо з рукамі да Пятра падступіліся. А той стаіць спакойна і паверх галоў глядзіць на дрэва:

— А вы цярпенне майце.

...І вось падступіла ўначы дзікая хмара, пачалі з яе лупіць бліскавіцы, заварочаўся дзікай каменнай крушняй пярун, наляцеў ураган. Хр-аснула, ляснула аб зямлю ў хмарах смярдзючай парахні дрэва, з ракатаннем і грукатам пасыпаліся з яго каменныя брылы, пахавалі пад сабой Велікана.

І ўстала над гэтай бясслаўнай магілай вясёлка.

Засыпалі багатае збожжа ў сусекі і ямы. Велікана пазбавіліся. З суседзямі мір. Дык не, зноў чмуціць, падбухторвае людзей Гнат. Злуецца на іх і на ўвесь свет. І вось аднаго рання падступілі ўсе з доўбнямі ды з камянямі да парога Пятровай хаты.

— Не сваім гэта ён розумам,— насаджваецца Гнат.— Гэта ён у Чорнай Сілы розум пазычыў.

— Праўда,— сказаў Максім.— Ты просты розумам. Як мы.

— Так, не сваім,— адказаў Пятро.— Бацькавым.

— Дык ты ж яго ў пушчу звёз!

— А ноччу назад прывёз.

— Не верце,— раве Ігнат.— Конь і калёсы ў двары былі.

— А я на спіне. Як ён мяне малога.

— Глядзеў я,— залямантаваў Гнат,— косці ў будане.

— Аленевыя косці.

Пайшоў Пятро ў хату і вывеў адтуль бацьку:

— Жылі сілай, а розум забівалі. Жылі сённяшняй карысцю. Знішчалі «ўчора» і таму не мелі права на «заўтра».

— Гнаць іх у лес! — гарлае Гнат.— Закон пераступілі! Што ён такое дзецям сказаў, што дрэва з Веліканам ляснулася?!

— Забыў ты,— сказаў бацька,— што «сіроцкія слёзы дарма не мінаюць, пападуць на белы камень — камень прабіваюць».

Кінуў Гнат камень у Пятра — дзверы ў трэскі разнёс.

— Вось што,— сказаў тады Максім,— правільна ён зрабіў, пераступіўшы такі закон. Болей таго не

будзе. Шануйце дабрыню, хай і слабую. Шануйце мудрасць, хай сабе нямоглую. Насіце на руках бацькоў... Кланяйцеся гэтым двум да долу, людзі!

І тыя пакланіліся.

— Ну а ты? — спытаў у Гната Максім.

— А я пры сваім,— сказаў той.— Я свайго, як час прыйдзе, завязу-такі ў пушчу.

— А мы не дамо,— сказаў Максім.— Наш ён цяпер, а не твой. А калі ўжо гнаць кагосьці ў пушчу, дык гэта цябе. Ідзі, вый там на ветах, воўк.

І тут натоўп зароў. Уся ярасць на Закон, увесь адчай і ўся палёгка вылілся ў рыку.

— Хай ідзе!

Той пачаў аддаляцца. Тады Максім спытаў у бацькі:

— Дык няўжо толькі слёзы бязбацькавічаў дрэва ссушылі?

— Ну, не толькі,— усміхнуўся той.— І яшчэ нешта.

— А што ж тады?

— А гэтага ні я, ні дзеці вам пакуль не скажам,— адказаў Пятро.— На той выпадак, калі з'явіцца сярод вас хаця адзін на дзесяць тысяч такі вось Гнат. І вось калі пачне ён бацьку крыўдзіць, а тут наступіць яму на хрыбет бязлітасны Велікан — вось тады толькі хай бацька адплоціць яму дабрынёю за зло. Добрай мудрасцю за злосную дурасць. А мы пакуль памаўчым.

І людзі зарагаталі. А Гнат аддаляўся ў пушчу, як камяк былой нянавісці.

І так памёр Закон стары.

І так стаў новы Закон.

## ВЯСНА ЎВОСЕНЬ

Маленькі Янка цяжка захварэў. Ляжыць увесь чырвоны, нічога не бачыць і не чуе. Нават Аленкі не пазнае. І не ведае яна, чаго дактары ў доме. Чаго мама плача, калі думае, што ніхто не бачыць яе?

А Янку здаецца: шуміць цёмнае мора пад хмарамі. Ад берага адплываюць чорныя караблі, і завозяць яны некуды ў свет усе ягоныя цацкі. Вось салдаці-

каў павезлі. Ну хай салдацікаў. А нашто яны Мішку забіраюць? Заўтра дзень нараджэння, а Янка з ім нават не пагуляў.

Апошняга павезлі мардастага шчанюка. Той вішчыць — цёмна ў моры.

— Можа, ты хочаш чаго, сынок? — спытала мама.

— Сонейка,— сказаў Янка. Нават вачэй не расплюшчыў.

Якое там сонейка! Восень. Льюць шэрыя дажджы. На клёнах дурное лісце. Дурное, бо даўно яму трэба ўпасці.

Ніхто не глядзіць на Аленку. Узяла яна плашчык ды выйшла з хаты ў сад. Сонейка шукаць, брацікa ратаваць.

У двары вецер моршчыць лужыны. Усе птушкі, усе мушкі, усе звяркі пахаваліся. Хто дрыжыць, хто дзесьці сон бачыць.

— Сонейка-Сонейка, выйдзі,— папрасіла Аленка.— Цябе брацік кліча.

— Сплю,— сказала Сонейка з-за хмар.— Мяне кожны ранак птушкі будзяць. А цяпер іх няма. Хто на поўдзень паляцеў, хто ў дупло схаваўся. Нікога я ўжо да вясны не сагрэю.

— Птушкі, звяркі, мушкі, разбудзіце Сонейка!

— Спім. Холадна,— адказалі жабкі з дна рачнога, грыбы — з-пад зямлі, вавёркі — з дуплаў.

— Разбудзіце Сонейка,— папрасіла Аленка.— Брацік Сонейка хоча.

— І я хачу,— сказаў з хмызоў Вожык.— Ды што я магу зрабіць?

— Брацікаў шчанюк плача,— сказала дзяўчынка.

— І я плачу,— сказаў мокры Верабей на галінцы.— Мне холадна. А тут яшчэ вунь Чорны кот да мяне падбіраецца.

— Голасу няма, каб Сонейка будзіць,— сказаў Шчыгол.

— Памажыце брацiку,— заплакала Аленка.— Ён вас ніколі не крыўдзіў.

— Не кры-ыўдзіў...— грэбліва сказаў Чорны Кот.— Ён мяне аднойчы за хвост таргануў.

І тут абурыўся Верабей:

— А хто мяне за хвост скубануў? Не ты?.. Падумаеш, бяда, за хвост яго аднойчы хлопчык таргануў.

— Ён, мабыць, болей не будзе,— сказаў Вожык.

— І праўда, ніколі ён нас не крыўдзіў,— сказаў Шчыгол.

— Ён і мне ўзімку сала за акно вешаў,— ціўкнула Сінічка — салатная грудка.

— А нам семак сыпаў,— адгукнуліся шчыглы. Вядома, дзе адзін шчыгол, там і дзесяць.

— Не будзем часу марнаваць,— сказаў Заяц з лесу.— Як нам ні холадна, а трэба памагчы чалавеку.

Упаў на зямлю адзін сонечны прамень. Гэта Сонейка зацікавілася: што там за вясенні канцэрт?

І пайшло. Вылезлі з твані і выплылі з вады вясёлыя жабяняткі. Нясмела крумкнулі. Сонейка і на іх зірнула.

— Сонейка-Сонейка,— папрасіла Аленка,— глянь на брацiка ў акенца.

Сонейку што, яно і туды зірнула. Заблішчалі шыбы.

Апенькі вылезлі з пня — зірнуць. Слімак высунуў з хаткі рагатую галаву. А Сонейка заззяла ўжо ў лужыне. І апошнія чапля і бусел, перад тым як ляцець у Афрыку, лавілі на дне лужыны чырвонае Сонейка.

І пайшло да дому шэсце. Вожык нёс на іголках залатое кляновае лісце. Снегіры неслі ў дзюбах пукі празрыстай чырвонай каліны. Грыбы на палянцы высыпалі ў кола. Гулялі ў пацягушкі-разрывушкі. Чорны Кот стаў танцаваць на задніх лапах. Ён быў на гэта вялікі мастак, бо быў вучоны.

А на ўсё гэта глядзеў з хмызоў алень. А ў яго на рагах сядзелі птушкі і таксама глядзелі.

Разгаралася Сонейка. І спяшаліся з падарункамі да Янкі госці. Хто прынёс моркву? Заяц. Хто вясёлыя бурбалкі? Рыбкі. Прынесла вавёрка арэхаў горку. А клюшню прынёс рак... Вось так.

І сталі ўсе яны разам з Сонейкам глядзець у акно.

— Жыў-жыў! — крыкнуў узрадаваны Верабей.

І тады Аленка пакланілася ім. Заплакала. З радасці.

Сказалі зайцы: мы вас бегаць навучым. Рыбы: плаваць навучым. Бабры: ныраць навучым. Грыбы: расці навучым... Вось так.

І ўсе, разам з Сонейкам, сказалі: разумнымі быць навучым. За дабрыню да ўсіх.

Зайшла Аленка ў хату.

— Не грукай дзвярамі,— сказала мама.— Янка заснуў. І Сонейка, бачыш, выглянула. Цяпер ўсё-ўсё будзе добра.

Аленка сама ведала, што ўсё цяпер будзе добра. І няхай зноў зойдзе Сонейка, зноў змоўкнуць птушкі, зацярушаць дажджы, затрашчаць маразы. Няхай. Да самай вясны яна не дасць прапасці тым, хто дапамог браціку.

А Янка-брацік спаў. І плылі да яго пад Сонейкам, вярталіся светлыя караблі. Везлі назад цацкі. Везлі вясёлага Мішку, з якім ён будзе гуляць у дзень нараджэння. І ведалі ўсе, што яшчэ сто дзён нараджэння будзе ў хлопчыка ў жыцці. І радасна вішчаў мардасценькі шчанюк, якога спусцілі з карабля. Пусцілі ў пакой.

І Аленка ведала, што нікому ніколі, нават калі будзе сівой бабуляй, яна не раскажа, хто ў той асенні дзень вярнуў на хвіліну Вясну і Сонейка.

## ЖАБКІ І ЧАРАПАХА

На беразе маленькага ляснога возера-балотца разгарлаліся, разышліся і наладзілі канцэрт жабы. Церушыў на іхнія галоўкі цёплы дожджык, свяціла праз яго сонца. Весела было жабкам — вось яны і спявалі.

І тут прыплыла пратокай з такога самага суседняга балотца-возера вялікая балотная Чарапаха. Жыла яна адна, пачула вясёлыя спевы і вось прыплыла, вынырнула, напалову вылезла на бераг і ўся аж зморшчылася ад асалоды. Надта добра спявалі жабкі.

— Жабкі, жабкі, дзень добры.

— А ты што за цуда-юда? — спыталі жабкі.

— Я Чарапаха.

— Бачыць такое не бачылі, чуць гэткае не чулі. Значыць, не можа цябе быць.

— Ды ёсць жа я,— сумна сказала Чарапаха.— І як жа вы добра спяваеце! Паўтарыце, калі ласка. Проста салаўі.

— Можам,— сказалі ўлешчаныя жабкі.

Ку-ма, кума
Бор-рщчык вар-рыла.

— Выдатна,— сказала Чарапаха.— Выключна. Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

— А ты спяваць умееш?

— Не. Я слухаць люблю.

— Дык слухай. Здалёк. Ці прывядзі сястру, якая ўмее.

— І яна не ўмее,— сумна сказала Чарапаха.— Мы, чарапахі, не ўмеем спяваць. Голасу нам не дадзена.

— Дык нашто ты нам тады? — спыталі жабкі.

— А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

— Нас і так усе чуюць. І ўсе хваляць.

— Ну і я ціхенька сядзела б ды хваліла,— сказала добрая і разумная Чарапаха.

— Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш? — спытала Галоўная Жаба ў хоры, якая аж дзьмулася ад важнасці.

— Плаваць умею. Ныраць.

— Гэта й мы ўмеем. А скакаць умееш?

— Не,— уздыхнула Чарапаха.

— Нічога ты не ўмееш... А мы яшчэ нясём ікру. Жабурынне.

— Я замест яе яйкі нясу,— сказала Чарапаха.— Вялікія.

— Ф-фу,— сказала Галоўная,— яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць.

І Чарапаха зарыпела:

Свеціць месячык з гары
На глыбокія віры.
На шчытах у чарапах
Сіняе святло гарыць.

— Словы нішто сабе,— сказалі жабы,— але ж голас? Бр-р-р!

— Дык я б вам — словы, а вы б — спявалі.

— Словы ў нас не горшыя. Самі прыдумалі:

Што вар-рыла, кум-ма, кум-ма?
Борш, бор-рщч, бур-ракі.

— Добрыя словы,— сказала Чарапаха,— але галасы ў вас лепшыя.

— І што гэта за «шчыты ў чарапах»? — спытала Галоўная Жаба.

— А вось тое, што на мне.

— Гэта карычневае? — усхваляваліся жабы.— Гэта брыдкае? Ну не. Мы вось такія прыгожыя. Зялёныя. Бліскучыя. Як лакіраваныя.

— Жывыя,— сказала Чарапаха,— усе прыгожыя.

— А чаму гэта брыда завецца шчытом? — спытала Маладзенькая Жабка.

— Яна цвёрдая.

— Няўжо-о? Во-ой! Быць не можа.

Самая смелая з жабак падплыла асцярожна і дакранулася да панцыра лапкай.

— Вой! Яна ж як жалезная!

— Ну і што? — сказала Чарапаха.

— Цвёрдая!.. Голасу не мае!

— Усё роўна вы мне падабаецеся. Спяваеце прыгожа. Мне адной сумна.

Але жабы ўжо разышліся:

— Жалезная жаба,— зарагатала самая насмешлівая.

— А мы мяккія жабкі. Зялёныя.

— Жалезная! Гы-гы-гы!

Чарапаха пачала крыўдаваць:

— Кожная жывёла — розная. А я — карысная.

— І мы кар-рысныя... А ў цябе голасу няма... Кар-рычневая...

— Жаба ў танку,— пажартавала насмешніца.

Пакрыўдзілася бедная Чарапаха, нырнула і паплыла ў пратоку, а пасля ў сваю азярынку. А жабы, гледзячы на яе бурбалкі, зноў завялі сваю валынку з катрынкай:

Бур-ракоў не было —
Бр-ручкі навар-рыла...

...Ну і што? І ці добра гэта атрымалася? Тут сабе жабкі весела спяваюць дурныя словы добрымі галасамі. А там Чарапаха, што не мае голасу, але ведае добрыя словы, ляжыць сабе пад вадой, пад святлом месяца, пакрыўджаная і адна-адзінюсенькая.

І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на дзвюх нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе.

Дрэнна вы зрабілі, жабы. Ану, марш адразу ж у Чарапахі прабачэння прасіць, перапрашаць яе!

# КАМЕНТАРЫІ

## АПОВЕСЦІ

*Сівая легенда* (с. 5)

Упершыню — Полымя, 1961, № 4, пад назвай «Раман Ракута».

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых. Мн.: Маст. літ., 1975.

Перакладзена на рускую мову.

*Цыганскі кароль* (с. 73)

Упершыню — у кн.: Блакіт і золата дня.— Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых. Мн.: Маст. літ., 1975.

Перакладзена на рускую мову.

*Ладдзя Роспачы* (с. 130)

Упершыню — Неман, 1968, № 2.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых. Мн.: Маст. літ., 1975.

## АПАВЯДАННІ

*Паляшук* (с. 170)

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа, ф. 110, с. 113—129. (1952—1954 гг.).

*Як звяргаюцца ідалы* (с. 177)

Упершыню — Подъём, 1960, № 3, пад назвай «Пылесос». Першая публікацыя на беларускай мове — у кн.: Блакіт і золата дня.— Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Акрамя рускай, перакладалася на ўкраінскую і польскую мовы.

*У шалашы* (с. 180)

Упершыню — Маладосць, 1960, № 5.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Блакіт і золата дня. Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Перакладзена на рускую, украінскую, польскую мовы.

*Блакіт і золата дня* (с. 196)

Упершыню — Полымя, 1961, № 1, пад назвай «Каўчэг».

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Блакіт і золата дня. Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Перакладзена на рускую, польскую, латышскую , украінскую, нямецкую, англійскую мовы.

*Карней — мышыная смерць* (с. 209)

Упершыню — у кн.: Блакіт і золата дня.— Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладзена на ўкраінскую і польскую мовы.

*Лятучы Галандзец* (с. 219)

Упершыню — у кн.: Блакіт і золата дня.— Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1961.

Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладзена на польскую мову.

*Ідылія ў духу Вато* (с. 245)

Упершыню — у кн.: Блакіт і золата дня.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1961. Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладзена на рускую, украінскую, польскую мовы.

*Кніганошы* (с. 260)

Упершыню — Полымя, 1962, № 12.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на латышскую, польскую, балгарскую мовы.

*Сіняя-сіняя...* (с. 276)

Упершыню — Беларусь, 1964, № 9.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых. Мн.: Маст. літ., 1975.

Перакладзена на латышскую, балгарскую мовы.

*Дрэва вечнасці* (с. 297)

Упершыню — Маладосць, 1968, № 12, пад назвай «Дуб Крывашапкі».

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на польскую і балгарскую мовы.

*Вока тайфуна* (с. 314)

Упершыню — Маладосць, 1970, № 9.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на рускую, польскую і балгарскую мовы.

*Барвяны шчыт* (с. 340)

Упершыню — у кн.: Чазенія.— Мн.: Беларусь, 1970.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на рускую, польскую і балгарскую мовы.

*Залаты бог* (с. 360)

Упершыню — у кн.: Чазенія.— Мн.: Беларусь, 1970.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на польскую і балгарскую мовы.

*Былі ў мяне мядзведзі* (с. 402)

Упершыню — Полымя, 1971, № 4.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на польскую і балгарскую мовы.

*Краіна Цыганія* (с. 425)

Упершыню — у кн.: Вока тайфуна.— Мн.: Маст. літ., 1974.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на балгарскую мову.

*Калядная рапсодыя* (с. 435)

Упершыню — у кн.: Вока тайфуна.— Мн.: Маст. літ., 1974.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на балгарскую мову.

## КАЗКІ

*Лебядзіны скіт* (с. 465)

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа, ф. 110, с. 2—18 (1952—1954 гг.).

*Чортаў скарб* (с. 472)

Упершыню — у кн.: Казкі.— Мн.: Маст. літ., 1975.

Друкуецца па кн.: Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.: Вышэйш. школа, 1984.

*Верабей, сава і птушыны суд* (с. 477)

Упершыню — у кн.: Казкі.— Мн.: Маст. літ., 1975.

Друкуецца па тым жа выданні.

*Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў* (с. 482)

Упершыню — Бярозка, 1978.

Друкуецца па кн.: Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладзена на літоўскую мову.

*Кацёл з каменьчыкамі* (с. 489)

Упершыню — Бярозка, 1978, № 7.

Друкуецца па кн.: Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Мн.: Вышэйш. школа, 1984.

*Нямоглы бацька* (с. 494)

Упершыню — Бярозка, 1980, № 11.

Друкуецца па тым жа выданні.

*Вясна ўвосень* (с. 501)

Упершыню — Вясёлка, 1980, № 11.

Друкуецца па кн.: Вясёлка. Мн.: Юнацтва, 1981.

*Жабкі і Чарапаха* (с. 504)

Упершыню — Вясёлка, 1981, № 8.

Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладзена на ўкраінскую мову.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## АПАВЯДАННІ



## КАЗКІ

**Караткевіч У.**

К 21 **Збор твораў: У 8 т. Т. 2. Аповесці, апавяданні, казкі.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 511 с., 4 л. іл.**

ISBN 5-340-00402-3

Аповесці Уладзіміра Караткевіча — гэта старонкі гісторыі беларускага народа, старонкі дзеянняў нашых продкаў, іх мужнасці ў барацьбе супраць прыгнятальнікаў, іх веры ў святую свабоду, іх высакароднасці і духоўнае прыгажосці.

У другі том увайшлі таксама апавяданні і казкі пісьменніка, напісаныя ім на працягу розных гадоў.

К $\frac{4702120200-025}{М\,302(03)-88}$ 98—87 **ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание*

КОРОТКЕВИЧ
Владимир Семенович

*Собрание сочинений в восьми томах*

ТОМ 2

*Повести, рассказы, сказки*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар С. Р. Прыгодзіч*
*Мастак М. Р. Казлоў*
*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар І. М. Паланейчык*

ІБ № 2699

Здадзена ў набор 28.05.87. Падп. да друку 14.12.87. АТ 07279. Фармат 84×108[1]/[32]. Папера кн.-часоп. Гарнітура кудрашоўская. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 26,88+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 28,04. Ул.-выд. арк. 27,40. Тыраж 60 000 экз. Зак. 463. Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.